УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
К14

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў*
*«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 57.*
*Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Казько, В.**
К14 Час збіраць косці : аповесці / Віктар Казько. — Мінск : Кнігазбор, 2014. — 340 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 57).
ISBN 978-985-7119-07-3.

У новую кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа Віктара Казько ўвайшлі аповесці «Час збіраць косці», «Прахожы», «І нікога, хто ўбачыць мой страх». Аўтар запрашае чытачоў далучыцца да падарожжа пакручастымі сцежкамі чалавечае памяці, дзе будзённасць перагукаецца з трывожным сном, поўным прарочых і сімвалічных праяваў, заклікае прыслухацца да глыбокіх філасофскіх, месцамі містычных, а ў выніку заўсёды аптымістычных і жыццесцвярджальных думак і развагаў.

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7119-07-3**

# І НІКОГА, ХТО ЎБАЧЫЦЬ МОЙ СТРАХ

*Аповесць*

*Памяці Віктара Турава*

## I

Ашыр адыходзіў. Ён адчуў гэты свой адыход амаль яшчэ месяц назад. Пасля той непатрэбнай яму мітуслівай паездкі ў Крым. Увогуле ён павінен быў ехаць зусім у іншае месца, у Парыж. Але сталася, што яму было наканавана менавіта ў Крым, хоць ён так спадзяваўся, што паходзіць па Парыжы, а калі не паходзіць, то пасядзіць. На Манмартры, на набярэжнай еўрапейскай папялушкі Сены. Сустрэнецца з сябрамі, возьме з імі чарку якога-небудзь незвычайнага, экзатычнага пітва. Але галоўнае — сябры.

Жывых іх заставалася ў свеце пяцьдзясят. А было ўсяго сто. Сто лепшых з лепшых у свеце за сто апошніх гадоў. Пяцьдзясят ужо адышлі. Пяцьдзесят стаялі ў чарзе на адыход. ЮНЕСКА вырашыла сабраць іх разам, паглядзець на іх і паказаць іншым. І яму асабіста, аднаму з усёй краіны, прыйшло запрашэнне ад ЮНЕСКА прыехаць у Парыж. Харчаванне, пражыццё за кошт ЮНЕСКА. Адно толькі дарога за дзяржаўны ці свой кошт.

А сваіх грошай у Ашыра кот наплакаў. І кот плакаў у яго хаце горкімі слязьмі: мышы ў халадзільніку павесіліся. Не заўсёды выпадала нават купіць «крамлёўскай» каўбасы-крывянкі. І калі заставаўся адзін, плакаў разам з катом яго гаспадар, дзівячыся, да чаго ж жывучы, важкі, нягледзячы на паўгалоднае існаванне, яго кот. Як цяжка тупае ён па пакоі. Калі пачынае дурэць, рассоўвае нават дываны. А ў апошні час кот дурэў усё часцей.

Скакаў на ложак у ногі гаспадару, імкліва прабягаў па яго целе, лёгенька, сарамліва пакусваў аголеную руку, зазіраў у вочы і саскокваў на падлогу. Прысядаў насупраць твару і не зводзіў з яго сваіх круглых бліскучых вачэй. Цяжар ката Ашыр адчуваў тады, калі кот ступаў па ім, мімаволі здзіўляўся: такі маленькі і такі важкі, адкуль толькі што бярэцца — жывы, жывы. Жывое, жыццё не з лёгкіх.

Адчуванне кацінага цяжару не праходзіла доўга, пакуль кот не развітваўся з надзеяй, што гаспадар падымецца і дасць яму што-небудзь на зуб. Гаспадар жа ці стоена маўчаў, ці абнадзейваў ката:

— Пацярпі, пацярпі ўжо трохі. Вось скора палучка. Атрымаю грошы, пойдзем у магазін і купім. Купім крывянкі і ліверкі, малака і хлеба, і, дзе наша ні прападала, пачак кіці-кэта. І, калі любіць, дык каралеву, а красці, дык мільён. Мільён не грошы, і паўлітру возьмем.

Ён не прыбядняўся і не маніў кату, мо толькі трошкі, дзеля гумару і падняцця настрою. Чалавек ён быў завадны, гумарны, натура шырокая, шмат шырэй за кішэню з грашыма. А атрымліваў ён штомесяц за сваю працу дзяржаўную міласціну — трыццаць-сорак даляраў. Мала, канечне, а што паробіш, ён жа не з АМАПа, дзе нават у сяржанта пад паўтары-дзве сотні даляраў. Ён з зусім іншай песні. Ён просты, як кажуць, здабытак народа. І што бабінаму ўнуку, што ўжо народу, тое і яму. Раней хоць тое-сёе набягала за ўсякія званні, адзнакі, але год назад пазбавілі і гэтага. І адзін з яго пароды, таксама песеннік і здабытак народа, калі пачуў тую навіну, атрымаў інфаркт і сканаў на месцы. Якраз наладзіўся да касы атрымаць грошы за тое, што ён яшчэ рухомы народны здабытак, а радыё яго папярэдзіла, сказала, каб не ішоў, бо яго чакае дуля. А наяўных грошай у здабытку было толькі на пачак запалак на месяц — па дзве запалкі ў дзень.

Калі Ашыр атрымаў тэлеграму ад ЮНЕСКА прыехаць у Парыж, у яго кішэні грошай было значна больш — аж на цэлы бохан хлеба. Па колішнім, дзіцячым яшчэ яго вымярэнні — заможнасць. У фашысцкім канцлагеры ён і не марыў аб тым, каб мець адразу цэлы бохан хлеба. Уга, дай яму тады

бохан хлеба, то сёння ён бы быў асілкам, палкоўнікам, а мо нават і генералам АМАПа. А так толькі Ашыр. У сваёй краіне пад чужым прозвішчам — зваротам да паважанага чалавека ў Сярэдняй Азіі. А ён татарын, нязваны госць у сваёй краіне.

У свой час ён паехаў у тую Сярэднюю Азію як майстра, зноў жа таму, што быў у ліку сотні лепшых майстроў свету. Адзін з лепшых у сваёй краіне, праўда, тады яшчэ не пазначаны ЮНЕСКА, таму і не вельмі прызнаны афіцыйна на Радзіме, хаця ў сваім коле яго паважалі. Нездарма празвалі Майстрам. А ў Сярэдняй Азіі такіх, як ён, велічалі Ашырамі. І яго неаднойчы называлі там Ашырам. Свае ж хлопцы паслухалі і панеслі. І на Радзіму ён вярнуўся ўжо Ашырам. І для такога прозвішча меліся ўсе падставы. Было ў ім нешта такое, што дазваляла, а мо і вымушала падладжвацца пад таго, з кім вадзіў хаўрус, пад усе расы і народы, быць прызнаным за свайго кожным, з кім ён браў чарку, сябраваў. І таму яго не раз абзывалі і жыдам пархатым, і чучмекам, і туркам.

З Сярэдняй Азіі ён прывёз роўны і прыгожы загар. Сонца чамусьці таксама адзначыла яго, не апякала і не лушчыла скуру, ашчадна, як геніяльны скульптар, адшуквала і паказвала свету ўсё толькі лепшае, што закладзена ў чалавечай прыродзе — татарскія ці кіргізскія шырокія скулы, нос невялічкім месячыкам з мусульманскага мінарэта. Светлыя валасы і сінія-сінія беларускія, магілёўскія вочы. Бо ён раз і назаўсёды быў усё ж беларусам, магілёўцам.

І свет прагнуў бачыць беларуса, магілёўца ў Парыжы. І Ашыр, Майстра, прагнуў паказацца свету. Бо лічыў, штоварты гэтага. За крыху няпоўных яшчэ шэсцьдзясят гадоў жыцця і працы штодзённай, штохвіліннай, калі кожная хвіліна — паміранне і нараджэнне, ён заслужыў тое. Цану сабе ён ведаў. Мо нават не столькі сабе, колькі сваёй краіне. Беларусі, роднаму Магілёву. Беларусі, у якой адабрана права народам звацца, адабрана процьма яе славутых сыноў. Бог ведае іх імя. Усе яны Ашыры, майстры на чужыне. І ніводнага прарока ў сваёй роднай хаце. Пустэча, пустэча, пустэча.

І ў кішэні пустэча. Раней хоць капейкамі, медзякамі можна было пазвінець — пазвінець дый наскрэбці на кухаль піва, а сёння тысячы рублёў — падцірайся імі. Адно званне, як і яго шматлікія званні, — шолах паперы на ветры. Горад перапоўнены грашыма. З будынка ашчаднай касы яшчэ са старых часоў свеціцца капейка: капейка рубель беражэ. А ніхто не нагнецца і за пяцёркай, пяцідзясяткай. Гэтыя купюры ўжо выведзены з ужытку. Але дзе-нідзе трапляюцца на тратуарах, на ўзбочынах дарогі і сотні-двухсоткі. Толькі і перад імі ніхто не кланяецца. Дзвесце рублёў — пачак запалак. Танней за паперу, шматкамі якой забіты пад'езды жылых дамоў: некага некуды выбіраюць, хтосьці рэферэндзіцца — напоўніцу працуюць друкарні і смеццезборачныя машыны. Час смеціць і збіраць смецце. Дзяржаўнае дрэва страсае з сябе непатрэбную лістоту. У дворнікаў процьма работы.

Мо і яму перакваліфікавацца ў дворнікі? Узяцца за венік ды намесці некалькі кучаў грошай, мільярд ці колькі, каб хапіла дапнуцца да Парыжа. Але нешта ён не ведае дворнікаў, якія шпацыравалі б па Парыжах.

Ашыр адчуваў на сённяшні дзень усю крамольнасць нават думкі: паехаць у Парыж, куды яго выклікаюць, запрашаюць, дзе чакаюць. Але ў той жа час гонар не даваў яму спакою. Звычайны чалавечы гонар, які дазволіў яму стаць Ашырам і Майстрам, не адступаць нават перад уласным, здаецца, відавочным вар'яцтвам. Калі яно ахоплівае, падступае да цябе, не кідацца наўцёкі, а ісці яму насустрач. Першы і галоўны закон кожнага сапраўднага майстра і мастацтва: аддацца і зазірнуць у вочы свайму вар'яцтву. Паверыць яму. І вас будзе ўжо двое. Апроч гэтай дваістасці ў вас жа яшчэ і пара рук, дзве пары, дзве галавы. Праўда, абедзьве яны могуць закончыць свой век у вар'яцкім доме. Але Бог і любіць бажавільных. Тут трэба толькі ведаць, захоўваць мяжу, ісці, набліжацца, але не хапаць Бога за бараду.

І тут хто яго ведае, хто з пэўнасцю сёння можа гэта сказаць. Мо ў сваёй загнанасці, абражанасці і прыгнечанасці Ашыр крыху перабраў, бо даўно і ўсім вядома: «уничижение паче гордости». І гэта «паче», здаецца, згуляла з ім сваю жа-

хлівую гульню. У сваім блюзнерстве, падпарадкоўваючыся першаму і галоўнаму закону — забыўся на закон другі: ніколі і нічога не прасіць у «сильных мира сего» — самі дадуць.

На наступны дзень пасля атрымання запрашэння ЮНЕСКА ён прачнуўся надзвычай рана, хоць пачуваў сябе не вельмі. Балела галава. Учора ўсё ж добра перабраў. Спачатку трохі з сябрамі, потым з французскім паслом, які, дарэчы, сам давёз яму запрашэнне ЮНЕСКА, вырашыў пазнаёміцца з сусветнай славутасцю, потым, канечне, зноў з сябрамі. Была ж нагода, не да кожнага і не кожны дзень прыязджаюць французскія паслы, не кожны дзень і не абыкаго ўмольна просяць наведаць сталіцу свету.

Урэзалі добра. Увогуле, трэба сказаць, на колішнія рублікі і медзякі-капейкі раней не пілі так, як пачалі піць сёння на тысячы і мільёны. Адно толькі звычай, завядзёнка засталіся старыя: як раней, так і сёння не хапіла на закусь. Хаця гэта ён ужо нагаворвае, раней закусі было мора — бляшанка кількі пад бутэльку знаходзілася заўсёды. Сёння ж толькі скарыначка хлеба і літаральна рукаў сарочкі ці пінжака. Але, трэба адзначыць асобна, у мінулы дзень была парушана і гэта завядзёнка: закусі было багата, як і гарэлкі. Гарэлку выпілі ўсю, а закусь яшчэ і засталася. І таму ў Ашыра было што ўзяць самому зранку на зуб і даць кату. Вось толькі курыва скончылася. А без глытка дыму Ашыр дзень не пачынаў.

У попельніцы ляжалі адны недакуркі. Два з іх і ладныя, адзін лепшы за другі. Выбар быў нялёгкі: напалову толькі выкураная французскім паслом сапраўдная гаванская цыгара і прыпаленая ды адразу прытушаная некім сваім амаль цэлая «Астра». Ашыр вагаўся нядоўга, перамагло піжонства:

— Баляваць дык баляваць. І калі пачынаць, то зранку, — мовіў ён. І ў тую ж хвіліну, як толькі пусціў першы дым, быў пакараны і вымушаны да новых каментарыяў: — Что русскому здорово, то немцу смерть. — Ён курыў заморскую пахкую цыгару, як айчынную гродзенскую «Астру» — на поўны зацяг і ўвесь дым у сябе. У лёгкія. І таму ледзь не самлеў, хапіўшы на дармаўшчыну нашча салодкай замежнай атруты. Хацеў затушыць, выкінуць яе, але і ў такой дробязі

застаўся верным сабе, сваёй натуры: пакутаваць, дык ужо да канца. Мужна, уяўляючы сябе недзе на Манмартры, пацягваў заморскую штучку, пакуль не прыпякло ў пальцы: не, нічога, пасаліўшы, і такое можна есці. І сытна ж — накурыўся, ачамярэў на цэлы дзень. Але, не зважаючы на галавакружнае адурэнне, борздзенька падхапіўся і па сценцы патэпаў у ванную. Адтуль выйшаў свежы і бадзёры, паголены і ўмыты. Дастаў з шафы лепшы свой выхадны касцюм. На пінжаку яшчэ з учарашняга вечара віселі ўсе яго рэгаліі — медзь, бронза, срэбра, мо і золата. Па п'янцы начапіў, калі ўсе ўжо разышліся. Медаль «За трудовую доблесть», ардэнок «Веселые ребята» — «Знак почета», шматлікія лаўрэацкія значкі. Нічога сабе быў іканастас і пазвоньваў весела: раздайся, гразь, г... плыве. Нічога, нічога... Але толькі немаведама якой краіны, як і немаведама да якой краіны належыць і ён сам. Ад бляску медалёў — выліты Ашыр, татарын.

Майстра хапатліва, бы нехта падглядваў за ім і прыспешваў, пачаў здымаць узнагароды. Садраў з шыі і гальштук. «Во табе, — паказаў люстэрку дулю. — Не насіў і насіць не буду, бацькаву дачку пазнаеце і ў андарачку». А начапіў ён усе гэтыя гіры таму, што сёння меўся сустрэцца з міністрам. Дамоўлена было задоўга да атрымання запрашэння, дні тры назад. Трэба было неяк прыстройваць, уладкоўваць вучняў. Іх, як на бяду, у Майстра было багата, і ўсе, лічы, па сённяшнім часе беспрытульнікі. Тое, што яны ўмелі, здолелі рабіць, было ўсім без патрэбы. І Майстра спадзяваўся выбіць у міністэрстве ім нейкую падачку. А заадно, калі ўжо так сышлося, і самому папрасіць, каб аплацілі дарогу да Парыжа і назад, далі мо нейкую камандзіроўку.

Прасіць за сябе было ганебна, і Майстра яшчэ на падыходах да міністэрства быў ужо добра заведзены, распалены, і таму не хацеў, але адчыніў дзверы кабінета міністра нагой. Пашкадаваў, што рана пачынае выплёхвацца, толькі было позна ўжо. А міністр як і не прыкмеціў яго дэмаршу. І гэта была дрэнная прыкмета. За свой век Майстра нагледзеўся і добра зведаў самых розных міністраў, і не толькі міністраў.

І ведаў, калі чыноўнік з першых хвілін сустрэчы вельмі ўгодлівы, дабра не чакай. Угодлівасць заўсёды папярэднічае адмове. І Майстра яшчэ на парозе міністэрскага кабінета вырашыў, што будзе працягваць хаміць, каб хоць такім чынам ды абараніцца, доўга не насіць у сабе прыкрасць.

Да ўсяго ж, міністр гэты перад ім быў — хлопчык. І колькі іх, хлопчыкаў, змянілася ў гэтым кабінеце. Былі хлопчыкі саноўныя, вяльможныя, былі інтэлігентныя, тактоўныя, з адчуваннем уласнай вартасці і годнасці. А гэты, апошні, быў вельмі ўгодлівы, як, дарэчы, і сама тая трохкапейкавая справа, якой ён служыў, якой служыў сам Майстра: некалі тры капейкі з рубля, што меліся на рахунку краіны, а цяпер і таго менш, добра, калі цэлая капейка. Адпаведна на гэту капейку ці палову яе і гонару: «По одежке протягивай ножки». Але Майстра добра ведаў пра міністра і іншае, яго знешняя ліслівасць — толькі маска. Як, скажам, і ягоная мянушка — Ашыр. Міністр на пасаду прыйшоў з органаў. Ён сам неяк сказаў пра гэта Ашыру ў час іх яшчэ першай сустрэчы:

— А мы сустракаліся з вамі і раней.

— Дзе ж гэта мы маглі бачыцца раней?

— У школе КДБ дзесяць гадоў назад, калі вы выступалі там.

Майстра адчуў сябе ніякавата, але ён схаваў гэтую ніякаватасць за думкамі, што мо гэта і лепш, калі чалавек прыйшоў на такую пасаду з органаў, мо больш будзе парадку і ў культуры. Чамусьці насуперак усяму ён апошнім часам, наглядаючы ўсеагульную разруху і бязладдзе, пачаў верыць у органы, мо хоць там што-небудзь больш-менш прыстойнае захавалася. Спадзяванкі-цацанкі.

Міністр выставіў непачатую бутэльку «Белавежскай», гукнуў сакратарцы, каб прынесла кавы і пячэння.

— Чаму вы ўсе, чыноўнікі, так любіце гэту фарбаваную мярзоту, — скрывіўся Ашыр. — Хоць трошкі, ды чырвонымі жадаеце застацца?

— Ды не, — міністр, здаецца, нікольки не пакрыўдзіўся. — Гэта больш для маскоўскіх гасцей. Тыя канаюць па «Белавежскай» фірмовай.

— Дурні, — сказаў Ашыр. — Беленькая лепш.

— І я так лічу. Ёсць і беленькая, мая ўласная, але толькі пачатая.

— Давайце пачатую беленькую, — амаль загадаў Ашыр.

Пад беленькую, уласнасць гаспадара кабінета, і пачалася іх гаворка. Добрая гаворка занятых справай мужчын. Міністр абяцаў Майстру што-небудзь прыдумаць, наскрэбці яго вучням, знайсці нейкі заказ ці ўладкаваць іх у якую-небудзь дзяржаўную багадзельню, дзе яны будуць атрымліваць такую-сякую капейку, каб не памерці з голаду, найперш, канечне, таленавітыя.

Натхнёны беленькай і лагоднасцю міністра Майстра палічыў, што прыспеў і яго час. Дастаў з кішэні і паклаў перад міністрам запрашэнне ЮНЕСКА.

— Прелесть, прелесть, — перайшоў на рускую мову міністр, прачытаўшы паперчыну, што Майстра палічыў нядобрым знакам. Міністр загаварыў на сваёй роднай мове. А на роднай мове чалавек часцей гаворыць, калі ён разгублены і шчыры ў сваіх пачуццях. Майстра не памыліўся, хаця міністр быў хоць да раны яго прыкладвай — і вельмі красамоўны, і гаваркі.

— Гонар, гонар усім нам. Амерыка даведалася пра Беларусь, дзякуючы Вользе Корбут, спорту, гімнастыцы. І наша вялікае і прыгожае мастацтва адчыніць нам дзверы ў свет...

— Згодны, дайце пацiснуць вам руку, — перапыніў міністра Ашыр і порстка выкінуў руку, так порстка, што міністр аж адхіснуўся ад нечаканасці і рукі не падаў, нават схаваў яе за спіну. Ашыр засмяяўся.

— Невялікія грошы, — сказаў ён. — Колькі там, тры ці чатыры сотні даляраў да Парыжа і столькі ж назад.

Міністр моўчкі напоўніў Майстру і сабе чаркі рэштай беленькай. І выпілі яны моўчкі. І толькі пасля гэтага міністр загаварыў:

— Рэферэндум, маць яго... — брыдка вылаяўся ён. — А тут яшчэ да ўсяго конкурс спевакоў «Залаты шлягер» у Віцебску, «Славянскі базар»... І праз месяц у цябе ж юбілей...

— Вось давайце тыя грошы, што на юбілей, патрацім на дарогу ў Парыж.

— Не магу, — амаль застагнаў міністр. Застагнаў так шчыра, што Майстра не сумняваўся: сапраўды, чалавек не можа. Час быў падымацца і развітвацца. Але Майстра тую хвіліну ўпусціў, паддаўся на шчырасць міністра і думаў аб тым, як яго супакоіць.

— Слухай, слухай,— нечакана азваўся зноў міністр. — Ну што табе той Парыж? Давай я лепш у Канатоп пашлю цябе.

— Куды? — здзівіўся Майстра.

— Кінь, гэта я так жартую, — замахаў на яго рукамі міністр. — Канечне, не ў Канатоп жа. Фарміруецца брыгада ў Крым, у Ялту, нейкія пасядзелкі там. Я магу ўключыць цябе ў спіс. Дамовіліся? Лады. Паходзіш па Ялце, наведаеш магілу Максіма Багдановіча. Пап'еш сухога віна, херасу. Пакупаешся ў Чорным моры — і на Радзіму. У Беларусь, на свой уласны юбілей, прама за стол. Лады? Дамовіліся?

— Лады, дамовіліся, — хаваючы вочы, думаючы аб нечым сваім, сказаў Майстра.

Вось так ён апынуўся напярэдадні свайго шасцідзесяцігоддзя замест Парыжа ў Канатопе — у Ялце — і адразу па прыездзе туды наладзіўся ісці да магілы Багдановіча. Якраз пра гэту магілу ён і думаў, калі развітваўся з міністрам: на самай справе, шэсцьдзясят гадоў, свет пабачыў, да чужых магіл пахадзіў, а да свайго, блізкага, роднага, так і не трапіў, хоць і бываў, і не раз, у Крыме, у Ялце. Усё неяк не выпадала і не хапала часу, хоць было яго процьма, ды ён працякаў між пальцаў, як пясок крымскага пляжа.

Вось там, пэўна, у Крыме, на марскім і горным скразняку, каля магілы Максіма Багдановіча, і пачаўся яго адыход, нейкае ціхае і непрыкметнае знікненне, растварэнне ў часе і прасторы. Але ў той час Майстра не ведаў і не думаў, што гэта папраўдзе яго адыход, што менавіта так чалавек знікае, пакідае белы свет. Прыйшло толькі нейкае вялікае супакаенне і замілаванасць усім, што ён рабіў, што бачылі яго вочы. А рабіць асабліва нічога не даводзілася. Было шмат сухога віна,

таго ж самага херасу. Наліваўся ім зранку, захоўваючы ясную галаву і лёгкасць у целе. Напаўняў херасам прыхопленую з дому біклажку. Усе, з кім ён прыехаў сюды, беглі на нейкія пасяджэнні, нарады, секцыі, а ён тупаў у горы, падымаўся да магілы Максіма Багдановіча, цяжка дыхаючы, вымаўляў:

— Здароў быў, Максіме. — Даставаў біклажку, крапіў херасам магілку: — Усё кветкі ды кветкі, а вінца ніхто і не здагадаецца. Вінцо, праўда, дрэнь. Херас, адным словам. Але ты белы анёл, ты не піў. Толькі я ў гэта не веру. Табе не херасу б зараз, а карчоўкі нашай, з дымком ядлоўцу яшчэ, з-пад прырэчнай вольхі ці ракіты і ракітавы, лазовы лісцік на закусь, а не гэты абрыдлы вінаград. Ды ты ўжо прабач, карчоўкі няма, херас, херас...

І Майстра рабіў тры добрыя глыткі са сваёй біклажкі, так што кропля-другая не паспявала ў горла, кацілася па падбародку да кадыка. Ён хапатліва, пальцам правай рукі спыняў яе, заганяў у рот. Грэбліва прыглядаўся да гронкі вінаграду і адшчыкваў тумановую шызую ягадку. Чужое віно, заморскі хмель не бралі яго.

— Херас, херас, — зноў паўтараў ён і надоўга заміраў над магілай, як стары арол на вяршыні суседняй гары. У паўсне ён чуў таго арла на восеньскім, але яшчэ ўгрэўным крымскім сонцы. Разам з арлом сыціўся сонцам і, здаецца, чуў — слухаў далёкі падзямельны голас:

Вы, панове, пазіраеце далёка
Ў блеску сонца з велізарных плеч народных.
Але святло крые шмат чаго ад вока —
Днём не бачыце Вы зорак пуцяводных.
Загляніце жа, будзь ласка, Вы у студню:
Ўжо даўно яна счарнела і згнівае,
Але дно яе і ў ночы і ў палудню
У вадзе люстранай зоры адбівае...

## II

З магілы Багдановіча на развітанне Майстра прыхапіў немаведама навошта маленькі чорны каменьчык, хоць да гэтага часу не ўпадаў па сувенірах, цураўся танных сантыментаў. Памяць — гэта тое, што ў табе, ты сам. А тут не ўтрымаўся і слязу не ўтрымаў. Пацёгся рукой спачатку за прыгожым каменем, так званай крымскай «курачкай», а мо і «пеўнікам», з дзіркай пасярэдзіне. Адшліфаваныя чарнаморскай хваляй камяні з дзіркай, згодна паданням, прыносілі шчасце. Іх было шмат на магіле Багдановіча, і Майстра мімаволі ўхапіўся за шчаслівы каменьчык. Але ў апошнюю хвіліну апамятаўся: што ж гэта ён робіць, рабуе магілу, крадзе шчасце ў нябожчыка.

Ён збянтэжана азірнуўся, але нікога побач не было. Адзіны толькі арол на вяршыні скалы, з якім ён ужо звыкся. Да той скалы было далекавата, арол, мяркуючы па ўсім, быў стары і не ўсё мог ужо ўбачыць. Але Майстра на ўсякі выпадак супакоіў яго:

— Не, не, — сказаў ён. — Ты прыгледзься, што я бяру. Звычайны чорны каменьчык. Іх тут багата.

Ён патрымаў каменьчык на далоні, нібы ўзважваючы яго. Звычайны, звычайны, ды толькі і цяжкі ж. Цяжкі, браце, цяжкі. Майстра расшпіліў з левага боку сарочкі накладную невялічкую кішэньку і апусціў туды каменьчык. І адразу адчуў, што зрабіў нешта не тое, што не варта было гэта рабіць. Адчуў, як затахкала, пратэстуючы, сэрца, і млосна, млосна нешта зрабілася, нібыта ён паклаў у кішэню каля сэрца не маленькі непрыкметны каменьчык, а ўсклаў на грудзі сабе вялізны камень, лёс свой усклаў. І каменьчык той Майстра ўвесь час адчуваў у самалёце, ён муляў яму і апякаў сэрца холадам, нібы не ўзяты з санцапёку, а дастаны з глыбіні раскапанай магілы, з заўсёднага змроку і лёду.

Гэта адчуванне змроку і лёду ахапіла Майстра, як толькі ён вярнуўся ў родны горад. Горад быў чужы яму, нейкі асуджальна, а мо і асуджана пахмурны. Лагодны і ветлівы раней, ён за нейкі тыдзень непазнавальна і брыдка пераваяр-

нуўся, перакруціўся. Не горад, а пярэварацень. Ваўкалак. За адзіны толькі тыдзень, што не бачыў яго Майстра, горад непрыемна агаліўся, бессаромна, як старая баба, якой ужо нечага сарамаціцца.

Ад'язджаў — горад меў цікаўны дзіцячы тварык, маладыя вочкі якога з дапытлівасцю прыглядаліся да ўсяго, што на іх трапляла, ён яшчэ не быў і не ўяўляў сябе сапраўдным сталым горадам, але абяцаў быць ім. Цяпер жа гэта было нешта скасавуранае і змрочнае, не п'янае, але з яўным пахмельным сіндромам і, відавочна, зусім не ад гарэлкі, а ад застарэлага галаўнога болю, ад паўсядзённага пакутнага пытання: ці развіднее заўтра? Гэта быў змарнелы твар напаўінтэлігентнага галаснага бамжа ці крыклівай, увесь час нечым незадаволенай жонкі. Дрэвы скінулі ўсю сваю лістоту і голлем пазіралі ў лужыны вакол іх ствалоў. Адзіна захавала лістоту толькі жалобная ніцая вярба. Яна магільна цягнулася рознакаляровым перыстым веццем пажухлай травы і сумна кідала лісцік-другі пад ногі салдатам.

Горад быў перапоўнены войскам у пачварна балотна-стракатай уніформе, накшталт вужынай скуры, калі той рыхтуецца скінуць яе. Вужыным цёкам яны займалі ўсе пад'езды і пераходы каля Дома ўрада, усе падыходы да плошчы Незалежнасці, бежкі паўзлі да выйсцяў з метро і застывалі там, як прыкіпалі ці прыклейваліся да мокрага чорнага асфальту. Толькі няспынна, як у барабаны ці тамтамы, білі гумавымі дубінкамі ў чорныя шчыты, што трымалі перад сабой, і былі вельмі падобны на застаялых жарабцоў перад злучкай. Уражанне гэта ўзмацнялі гумавыя чорныя дубінкі, што як у раз'юшанага жарабца пад узмакрэлым ільсняным ад жадання чэравам увесь час падымаліся і пагойдваліся, узляталі і апускаліся на чорныя металёвыя ці пластмасавыя шчыты.

Горад, паркі, плошчы, скверы былі перапоўнены падманутымі людзьмі, больш падобнымі на нежыць, нелюдзь, чым на жывых людзей, такія пакутныя і адначасова злосныя і абыякавыя былі яны на выгляд і з твару. Хоць увесь час

няспынна рухаліся, раіліся, над кожным з іх панавалі пакута, пакора і безнадзейнасць.

Напачатку Майстра прыняў іх за нейкіх мітынгоўшчыкаў ці сектантаў. Але калі прыбіўся да іх бліжэй, зразумеў, што гэта новая парода людзей, выведзеная па ўсёй тэрыторыі садружнасці незалежных дзяржаў. Як некалі была так званая «общность» — савецкі народ, цяпер пайшла парода падманутых укладчыкаў. І проста падманутых у сваіх надзеях на жыццё і будучыню людзей. І гэтыя людзі яшчэ пачалавечы тоўпіліся, перабіралі нагамі, сноўдалі сюды-туды, разяўлялі раты, але без жыцця, без слоў і надзей.

Такая ж падманутасць, безнадзейнасць і безвыходнасць адчуваліся не толькі ў людзей, але і ва ўсім наваколлі, у небе і на зямлі. Неба было ў перыстых хмарах, як у вайсковай уніформе, злоснае і гнойна набрынялае. І ўвесь час з яго нешта сачылася, капала, як з каровінага вока, прыпаленага цяжкай немаччу. Хваравітасць неба перадалася зямлі і ўсяму на ёй. Патухлі ўсе фарбы, апроч ірдзяных струпаў каляровай рэкламы. Гэтая рэклама ў апошнія гады замяняла, пераможна выціскала з вуліц гібельнага жабрацкага горада былыя савецкія партыйныя заклікі і цяпер панавала паўсюдна болей на чужой, ангельскай ці нямецкай мовах. На кожным кроку гукалі, клікалі, запрашалі, невядома толькі куды: ці то ў пекла, ці то ў рай. Пэўна, адначасова ў пекла і ў рай, каму што па густу і па кішэні, дзялілі чалавекаў на чыстых і нячыстых.

Майстра адчуў, што гэта дзяленне прайшло і па ім. Адчуў, як яго цела, набрынялае чалавечай, нябеснай і зямной безвыходнасцю, безнадзейнасцю, заходзіцца, аплывае ад тупа разлітага у ім болю, душа драбніцца, раствараецца сярод непагадзі, натоўпу падманутых яўна і тайна людзей з чырвонымі і бел-чырвона-белымі сцягамі, натоўпу людзей без усякіх сцягоў, захлынаецца душа ад плачу: па салдацікахкентаўрах, па тых, хто падняўся і ажыў з праху сярэднявечча, паганства і ператварыў іх у кентаўраў, у пачварную прывіднасць і адметнасць сённяшніх дзён. І гэта яго душа, а не мокры жоўклы ліст жалобнай плакучай вярбы адлятае і

кладзецца пад ногі салдацікам, прыліпае да іх чорных шчытоў, да іх душ, таго, што прагнуць зрабіць з іхнімі душамі.

Разам з гэтым маленькім і вузенькім лістом жалобнай вярбы, адарваным восеньскім немачным ветрам, здаецца, адарвалася, пайшла лунаць і душа самога Майстра, знікла адчуванне ўласнага цела. Яно як расцяклося, распляскалася і легла на брудны асфальт пад шоргат падэшваў тых, хто па ім ішоў. І сам Майстра ішоў разам з імі. Крочыў па ўласным целе і душы, якая ўжо адышла. Адышла невядома куды, мо прыпала да той жа вярбы і сумавала, і плакала цяпер разам з ёй. Але цела яго яшчэ жыло. Напрамілы Бог прасілася жыць, хоць і сыходзіла зямной і нябеснай сукравіцай, раздзіралася на шматкі пад нагамі тысяч і тысяч людзей.

І як гэта ні неверагодна, але ў гэтым была своеасаблівая асалода. Асалода пакутніка і злачынцы, прыгаворанага, асуджанага самім сабой і нейкім невытлумачальным вышэйшым судом да смерці. Асалода ахвярнасці: па ім ідуць, і ён ідзе. Асалода зліцця імгнення і вечнасці, еднасці і гармоніі гэтага зліцця. І ні кроплі шкадавання да сябе, бо ўсё ж ён быў сапраўдным Майстрам, хоць мо і не заўсёды і не ва ўсім. Але вялікія хвіліны былі яму дараваны Богам ці д'яблам. А хутчэй за ўсё — і Богам, і д'яблам.

І цяпер, здаецца, і той, і другі клікалі, забіралі яго да сябе, таму што час, вельмі падобна на тое, адрыгнуў яго пад ногі сабе. Сама гісторыя ступіла і пайшла па ім пад чырвоным і бел-чырвона-белым сцягамі. Гісторыя — гэта і ёсць той самы кліент, пад якім не варта мітусіцца нікому. Трэба прымаць, якая яна ні ёсць, бо іншай усё роўна не будзе. І гэта заўсёды разлік і плата за мінулае. Жывыя сплочваюць за мёртвых. Ты сам плоціш за сябе, за пражытае. Дык трэба ўмець плаціць, разлічвацца за грахі свае вольныя і міжвольныя. Самому ўсё за сябе сплочваць, каб не давялося рабіць гэтага тваім нашчадкам, дзецям тваім, у якіх, можа так стацца, не будзе ні грошай, ні сілы тваёй, бо ты ўсё патраціў толькі на сябе і для сябе.

Гэтыя думкі, такая разважлівасць былі ў навіну самому Майстру. Раней ён лічыў, што, сапраўды, трэба жыць — як

набяжыць, што азначае — не азіраючыся, віхурна і непакорліва. А тут раптам як насланнё нейкае, такая пакора, ціхмянасць і спакой, нібы ён зараз ужо не на віры жыцця, а на тым свеце. І гэта так абурыла яго, што ён выпрастаўся, развёў плечы, ускінуў галаву, памкнуўся нават некуды бегчы. Ужо рвануўся наперад. Рвануўся і асеў.

Рвануўся і асеў.

А куды, уласна кажучы, бегчы, кінуцца куды, да каго ці да чаго прыбіцца, прыгарнуцца? Наперадзе натоўп, натоўп. Адны толькі плечы ды патыліцы. Сумныя панурыя плечы, сівыя, панылыя патыліцы старых людзей. А вочы іх, вочы яшчэ больш жахлівыя, чым патыліцы, як у малпаў у няволі — за кратамі, у звярынцы. А з абодвух бакоў — кентаўры з чорнымі гумавымі дубінкамі.

Вось на гэтыя гумавыя дубінкі і рвануўся Майстра. Рвануўся і асеў. Не таму, што спалохаўся, мыш, як кажуць, капы не баіцца. Голас пачуў. Енк і плач.

Трапіў пад нагу і разляцеўся на друзачкі пераспелы, успоены буйным летнім сонцам конскі каштан. Раструшчыўся, расцёкся жоўтым брудам па мокрым асфальце. І Майстра, як зачараваны, прыпыніўся каля яго. Ён адчуваў, як нешта хруснула, парвалася і ў ім.

Яшчэ ў дзяцінстве ён з зачараваннем і здзіўленнем прыглядаўся да гэтых конскіх каштанаў. Было, на яго думку, нешта ў іх ад плоду і жывёлы. Такія прыгожыя, такія прыгожыя, і ніякай карысці ад іх прыгажосці. Есці нельга, нясмачныя, коні імі грэбуюць. Чытаў, чуў, што іх усё ж недзе ядуць, у той жа Францыі. Смажаць і ядуць. І ён у свой час паспрабаваў іх смажыць. Цэлую патэльню. І праўда: «паскудства, брат, і не пытайся». Маці амаль тыдзень шмыгала носам: нешта ад патэльні не тым, ці не мышамі патыхае. А ён маўчаў, як мыш пад венікам. І здзіўлення, і думкі сваёй аб конскіх каштанах не перамяніў. Была, была ў іх усё ж нейкая таямніца і загадкавасць. І сіла нейкая ў іх была, пругкасць, цвёрдасць. І памкненне да нейкага іншага жыцця, мо нават не зямнога.

Яны ўмелі страляць. Страляла, выбухала ў маі квецень іх, недзе, пэўна, уначы ці пад самы ранак. Колькі ён ні сачыў, ні цікаваў за тым, калі гэта адбываецца, а прасачыць, уцікавацьтак і не здолеў. Прачынаўся і апякаўся вачыма аб іх бела-ружовы агонь.

І неба, і сонца таксама здзіўлены і апечаны тым жа агнём, свечкамі квету конскага каштана. Конскі каштан страляў і потым, напрыканцы лета, на пачатку восені. Страляў плодам. Бурыў, дзёр сваю хату-шкарлупіну, з усіх бакоў у барадаўках і рожках, што смоўж ці слімак на асфальце. Вылузваўся і скідваў, як жаба-царэўна, сваю брыдкую, зямную абалонку-скуру і яўляў сябе свету добрым малайцом. Падскокваў ад радасці на зямлі ці асфальце, шчасліва ўскрыкваў і каціўся, шыўся ад вока і ног людскіх у траву. І там заміраў. Восенню яго яшчэ можна было знайсці. Але з зімы ён не выходзіў, як скрозь зямлю правальваўся, некуды ўцякаў.

Куды — гэта пытанне таксама вярэдзіла галаву Майстру. Ці мо знаходзіліся і нябачна прыходзілі нейкія незвычайныя незямныя коні, збіралі іх і некуды адвозілі. Бо ніводзін каштан там, дзе ён лёг па восені, не прарастаў, не ўзыходзіў. І ад яго не заставалася нават знаку. Такі патаемны і дзіўны быў гэты плод.

З цягам часу Майстра забыўся на сваё дзіцячае здзіўленне перад ім. І вось конскі каштан зноў напомніў яму аб сабе. Абудзіў яго былую дзіцячую душу, такую чыстую некалі, што, як, квецень таго ж каштана, як яго ўзнятая ў неба свечачка, была здольна трызніць і прыходзіць у захапленне ад самага звычайнага, парушынкі пад нагамі ці перад вокам, у нерухомым адчуваць рух, у мёртвым знаходзіць жыццё.

А цяпер, і не толькі цяпер, а даўно ўжо, ён, не азіраючыся і не зважаючы, ступаў, ішоў па гэтым жывым, трушчыў і забіваў яго.

У сваёй хадзе ён прыспаў і здрадзіў сваёй былой дзіцячай памяці, як прыспалі яе ўсе шматлікія іншыя, з кім ён выправіўся ў свой зямны шлях. Такое адбылося і з тымі, хто прайшоў наперадзе іх, такое ж, пэўна, будзе адбывацца і з тымі, хто толькі рыхтуецца выправіцца ў дарогу. Людзі

толькі падманваюць сябе, супакойваюць, калі кажуць, што вечны сон — гэта там, на тым свеце. Тут ён, на зямлі, сон, здрада і падман сябе. У гэтым каштане пад яго нагамі таілася нешта жывое, што магло і павінна было адрадзіцца жывым, асвяціцца, азарыцца, выбухнуць у маі свечкай. Цяпер ужо не адродзіцца, не азорыцца. Ён патушыў тую свечку, неўпрыкмет забіў жывое, наступіў і раздушыў. Ён жа добра чуў, як нешта хруснула і парвалася так, як ірвецца чалавечая плоць. Вось так нешта хруснула і парвалася і ў ім. І здалёку набег і ахапіў яго журботны голас. І голас той набіраў моцы.

Спачатку далёкія і ціхія, як у Хатыні, званы. Але тыя яго званы ўвушшу тут з кожным імгненнем набліжаліся. І вось ужо бэзавы звон і колер заглушылі і абклалі і зацяглі ўсё навокал. Нічога нідзе не чутно і не відно. Толькі бэзавы звон, толькі бэзавы пошум. Пагойдванне і пошчак гумавых колаў кентаўраў. На ўсё астатняе заклала вушы і засляпіла вочы. Секс-шоп, падумаў па-замежнаму Майстра, а па-руску кажучы, бардак.

Майстра зразумеў, што гэта з ім зараз адбываецца, і нічога не адчуў. Ні абурэння, ні страху, ні трывогі. Адбывалася самае звычайнае, самае будзённае. Тое, што раней ці пазней павінна адбыцца з кожным на гэтым свеце. Толькі ці не занадта рана гэта са мной, падумаў ён, яшчэ ж шасцідзесяці няма, наперадзе ж юбілей. І немагчыма, каб той юбілей справілі без мяне. Гэта ж вельмі няправільны юбілей без юбіляра...

У гэтым ён выразна і з болем адчуў сапраўды нешта вельмі ўжо няправільнае і неверагоднае: якое ж гэта свята, калі яго на ім ужо не будзе. Яго не будзе на ўласным юбілеі. Як жа гэта так, ён жа заўсёды быў, прысутнічаў на сваім дні нараджэння. А цяпер дзень гэты як згубіцца, растворыцца, што драбок цукру ў кубку кавы. І ніхто нічога не ўзгадае, не ўспомніць. Каву вып'юць, пракаўтнуць, як каўтаюць звычайную ваду. Кубак спаласнуць і моўчкі пастаўяць на паліцу. І, не азіраючыся, пакрочаць, пабягуць у дзень наступны. У дзень, у якім ад яго не будзе ўжо ні паху, ні знаку. Ён нават не пакурыць у той дзень.

Вось гэта больш ўсё і абурыла Майстра. Не сам адыход, а яго будзённасць: будзённая няспыннасць адліку часу. Нават тады, калі ў жыцці чалавека адбываецца другая па значнасці пасля яго нараджэння падзея. Сонечнае зацьменне назірае амаль ўсё чалавецтва. Дзівіцца, жахаецца, смуткуе. А тут сонца тухне назаўсёды — і ўсім да лямпачкі. Ты нават сам з таго свету няздольны прыйсці і паглядзець, дасведчыцца, што незваротнае ўжо здзейснілася. І без тваёго ведама і ўдзелу. І здзяйсненне гэта не запарушыла нават табе вока. І ўсе вакол глядзяць на белы свет чыста і светла, нібыта нічога не адбылося, нібыта такіх, як ты, хоць гаць гаці.

І абурэнне Майстра было таксама светлым і чыстым, хоць і з прысмакам вялікай жальбы і журбы. Да свайго юбілею ён адносіўся даволі спакойна, больш як да воцату, чым да чагонебудзь салодкага і смачнага. Воцат той у чыстым выглядзе ніхто з людзей не прымае. Але і без яго амаль што ўсякая страва прэсная. І Майстра ніколі не думаў, што дажыве да свайго юбілейнага часу. Да тае пары, калі час гэты пойдзе з адмоўным знакам. Са знакам блізкага ўжо адыходу, з адценнем і прысмакам алею.

Больш таго, недзе падсвядома ён адмаўляўся ад гэтага часу. Вось ужо некалькі апошніх гадоў адчувалася стомленасць. Час адбіўся і праявіўся ў ім амаль што поўнай стратай жадання жыць. Раней ён жыў так: прачнуўся — на вуліцы ідзе дождж, мяце снег, добра, а свеціць сонейка, то і вельмі добра. Выдатна — вясна, лета, зіма, восень, горад і вёска, ноч і дзень. Усё выдатна. Цяпер жа амаль што ўсё раздражняла, злавала, выводзіла з сябе. Усё было не так, не па нораву, не па густу і не даспадобы. І гэта было не старэчае буркаценне, не сцервознасць натуры. Стомленасць, бацылы якой, здаецца, былі распаўсюджаны ў самім часе. Бо вельмі ж багата раптоўна выявілася стомленых людзей і вакол яго. Людзей, якія не жылі на свеце, а адбывалі свой век, нават не елі, а «употребляли пищу». Як яго маці казала яму некалі ў дзяцінстве: ці то ты ясі, ці то ежа есць цябе. Жыццё з'ядала іх, абгрызала да костачак ці пушыла да памераў дубовай калоды, пазбаўленай стрыжня. Толькі балонь, абалонка чалавека без

усякай існасці. Так адбывалася і з ім, хоць існасць заставалася, тлела недзе прыхаванай у падсвядомасці іскрынкай.

Так іскрынка зусім патухала, калі ён пачынаў думаць аб тым, што будзе далей, што там, наперадзе, аб тым, што завецца сэнсам жыцця. Тухла зусім, калі аб гэтым сэнсе заводзілі гаворку, пачыналі спрачацца. Яму рабілася вельмі сумна, нават роспачна. Жыццё не мела сэнсу, нават маленькага, прывіднага. Усё «суета сует», мышыная мітусня і валтузня. Як ты ні жыўся, хоць са скуры лезь, а ўсё роўна адчуванне часовасці і няпэўнасці ўсяго. Сваёй уласнай часовасці. Няпэўнасці свету і тваёй падняволенасці на гэтым свеце.

Падняволенасці, што адбівала рукі, аглавушвала, адбірала розум.

Адзіным выйсцем з такога стану была чарка, гарэлка — запой. Брыдкі, працяглы і вельмі цяжкі. І такое ж цяжкае і брыдкае працяглае адмаканне пасля запою. Бясконцае амёбнае ляжанне ў ложку, без думак, без напружання, з адным толькі жаданнем: не .падымацца ўжо ніколі, не творачы граху, ціха адысці туды, дзе вечны спакой. Ляжаць і вінавацiцца ў паўдрымоце, што ахапіла, здаецца, не толькі цябе, а прыйшла, скруціла і ўладарыць, пануе паўсюдна, на ўсёй зямлі, пазбавіла стваральнай сілы ўсё жывое на свеце.

Ён адчуваў, што нікому не патрэбны ў гэтым свеце — ні сабе, ні людзям. І смерць адмаўлялася прыбіраць яго ў такім развінчаным, разабраным стане. На тым свеце, пэўна, таксама жадалі мець людзей здаровенькіх, з нармальнай псіхікай. Вар'яцтва, па ўсім, заразнае і пранікальнае нават на той свет. І людзі там ашчаджалі сябе, мо нават больш, чым тут, клапаціліся аб сабе і сваім будучым лёсе. А зямля, відавочна, вар'яцела па-дурному, бяздарна і бессэнсоўна, пазбаўленая пракаветных ахоўных інстынктаў, як у летаргічным скразным сне.

Ва ўсёпераможным разбуральным сне знаходзіўся цяпер большую частку свайго жыцця і ён, Майстра. Ён спаў на працы, робячы выгляд, што вельмі дзейсна і стваральна працуе. Спаў у аўтобусе і метро сярод такіх жа сонных людзей. Спаў у сваёй хаце на ложку і на крэсле перад уключаным

тэлевізарам. Спаў і сам у сябе пытаўся, калі ж той, хто спіць, прачнецца, хто яго абудзіць і ці магчыма абуджэнне. Ці адолее ён, а разам з ім і чалавецтва гэты сон. Ці не станецца так, што гэты сон неўпрыкметку пяройдзе ў вечны.

Абуджэнне прыходзіла нечакана, на самай вяршыні, на піку сну, калі здавалася, што ўсё ўжо на вякі замглёна туманам небыцця. І тут успыхвала тая самая іскрынка падсвядомасці. Разгаралася полымем, калі знаходзілася сапраўдная справа, калі ён пачынаў працаваць, выракаўся паўсядзённасці, пакідаў гэты свет з яго абавязковымі і дробязнымі клопатамі. І ўяўны, няісны свет быў куды больш гожы і прывабны за гэты, існуючы, снулы. Ён быў рэальны, жывы і вельмі патрабавальны. Патрабавальны да праўды, якая пачала зводзіцца і ці не звялася ўжо з зямлі. Праўды не на кожны дзень, абыходкавай, а вышэйшай, абсалютнай, дзе б, здавалася, самая неверагодная, непрымальная лухта, хлусня і брыдота на самай справе і былі той найвялікшай і адзінай праўдай, за якую варта і трэба было ісці на агонь, на самаспаленне. І ён, Майстра, босаю душой ішоў і ўсходзіў на гэты агонь, паліў і спапяляў сябе бясконцым трызненнем, пэўнасцю і няпэўнасцю, у чужых пакутах, журбе і смутку. Вогнішча было дай Бог; дроў хапала, і качагары меліся добрыя, ворагу не пажадаеш.

І Майстра, калі адыходзіў ад працы, страсаў яе з душы, адчуваючы зноў набліжэнне новай вялікай абыякавасці і напаўдрымоты, часам думаў, што гэта ўсё ад таго спапяляльнага агню, сусветнага вогнішча, на якое ён сам сябе прыгаварыў. Ён сапраўды спаліў сябе, адсюль стомленасць і нежаданне жыць. Ва ўсіх жа астатніх, нармальных людзей зусім інакш — нармальна. Але, як гэта выпадкова высветлілася, і з нармальнымі людзьмі адбывалася тое ж самае.

Аднойчы, якраз пасля завяршэння чарговай сваёй вялікай работы, сядзеў ён з сябрамі, браў чарку. Настрой быў пераходна-мінорны. І пад той настрой ён шчыра мовіў:

— А ведаеце, калі б прыйшлося мне сёння памерці — памёр бы з радасцю.

— І я б таксама памёр, — адразу ж азваўся адзін з яго сяброў, токар на заводзе, рабочы.

Другі, бізнесмен, трошкі памуляўся, быў ён разважлівы і да нудоты ўдумлівы. Але і ён сказаў:

— І я таксама згодны памерці...

І надоўга ўсталявалася нейкая вельмі добрая, усёдаравальная цішыня. Нібыта сама кашчавая нябачна наведала іх сумнае застолле. Наліла і паднесла ім сваю пазбаўляльную чару. І налілі сабе яшчэ самі. Моўчкі ўскінулі ўгару кілішкі і без чокання выпілі, як п'юць па нябожчыку. Трое яшчэ даволі маладых мужыкоў, як кажуць, у самым саку. Рабочаму — гадоў пад сорак. Бацька траіх дзяцей. Бізнесмен — дык зусім яшчэ хлопчык, добра, калі споўнілася трыццаць. Майстра абодвум ім мог быць бацькам. І іхняе, хоць мо і вымушанае, але шчырае прызнанне, было для яго вельмі неспадзяваным і нечаканым. Ён лічыў сябе на тую хвіліну самым няшчасным сярод іх. Завод, на якім рабіў токар, быў не з апошніх у горадзе, працаваў на поўную моц. Грошы, і не маленькія, плацілі акуратна. Бізнесмен жа наогул быў не просты, на пабягушках, хлопчык, а прэзідэнт нейкага банка.

Усе трое па сённяшнім часе заможныя людзі. І на табе. Усе трое пры ўсёй іх заможнасці, дабрабыце — трухлякі без стрыжня, без галоўнага — жадання жыць. Дык на чым жа тады трымаецца ўвесь астатні свет, калі ў ім знікла жаданне? Дзе, калі і чым ён так перасыціўся, аб'еўся, атруціўся? Які агонь спапяліў іх, які ж гэта павінен быць агонь, каб так нішчыць чалавечую пароду, зводзіць яе на карані? Зводзіць тых, хто яшчэ ўдосталь не пацешыўся жаданнем, не паспытаў ні салодкага, ні горкага.

Тады ў Майстра яшчэ не было адказу ні на адно з гэтых пытанняў, і яму заставалася адно: валачы гэты воз і марнець, гібець пад яго цяжарам, як гібелі яны ўсе трое над рэшткамі гарэлкі ў застоллі. Гарэлка раптам зрабілася зусім нясмачнаю. У іх не было слова ні пад яе, ні за сваё сяброўства. Слова знікла, нібы ў кожнага адняло мову. Самае галоўнае яны ўжо выказалі, а цяпер спахапіліся і саромеліся адзін аднаго. Саромеліся нечаканай шчырасці, якая звяла на ні-

што ўвесь іх баль, пазбавіла яго ўсякага сэнсу. Папраўдзе ж, навошта піць гарэлку, калі нішто на свеце цябе ўжо не хмеліць. Навошта любіць, вымагаць кахання, калі ў цябе на гэта не адгукаецца ніводная жылка.

Але заставаўся яшчэ сорам. За аголенасць і бездапаможнасць душы. За тое, што яны нечакана для сябе так прылюдна скаламуцілі, згвалцілі свае душы. Пад гарэліцу дазволілі гэтым сваім душам, якой запознена, а якой заўчасна, распусціцца, расцвісці. А квецень атрымалася нечакана недатыкальна брыдкай, якую нельга паказваць людзям; не паказваць яе нікому і на панюх, бо брыдота распаўзецца, як чарнобыльская радыяцыя паўзе па зямлі разам з жывёльным і чалавечым гноем і брудам. Адна толькі думка аб гэтым ужо сама па сабе — атрутная. І самае жахлівае, што гэта думка сёння перадаецца ўжо і малым дзецям. І трое дарослых мужыкоў саромеліся той думкі. Услых яны больш не мовілі адзін аднаму ні слоўца, нібыта ўступілі ў змову маўчаць аб тым, што адбылося за іх сталом, да канца сваіх дзён.

І гэта абнадзейвала. Калі жывы яшчэ сорам, то застаецца і надзея перахварэць і вылечыцца, загаіць безнадзейнасць. Недарэмна ж на вёсцы спрадвеку і па сённяшні дзень ніхто са старых і разумных людзей не пачне жаліцца на сваю ці сваіх дзяцей сур'ёзную хваробу. Будзе больш распавядаць, дзе ломіць і як страляе. Але аб тым, як баліць на самай справе, прамаўчыць.

Бо сорамна ж казаць, што ў цябе ці твайго дзіцяці нешта не так, як у іншых. Па-першае, гэта аднаму толькі Богу вядома: так ці не так. А па-другое, можна і сурочыць, наклікаць бяду і хваробу: не называй чорта ўслых, і ён цябе не зачэпіць. А па-трэцяе, зноў жа — сорамна. Сорамна — і ўсё.

А вось хто ніколі не меў сораму і нічога не ведаў аб ім — гэта сённяшняя ўлада і дзеці. Яны ў апошні час як памяняліся ролямі і месцамі. Улада, здаецца, здзяцінела, была бессаромна хлуслівай, а дзеці, як заўчасна састарэлі і зрабіліся такімі ж неспатыкальна праўдзівымі. Толькі праўда іх была жахлівай да жудасці.

Улада клялася, што кажа праўду свайму народу на кожным кроку і кожны дзень, пачынаючы зранку, і пад вечар ужо выракалася той праўды, з нязменнай шчырасцю пазіраючы ў вочы таму, хто паспеў паверыць і дажыць да вечара, уключыць зноў тэлевізар. Той тэлевізар — хатні хлус — лепш было не ўключаць, не глядзець і не слухаць. Што Майстра і рабіў — не хапала нерваў. Гэта ж за каго яго толькі лічылі, за каго прымалі, з быдлам так абыходзіцца, і то вельмі грэшна. Быдла ўсё ж больш трымаецца пастаянства, бо без гэтага ў яго ўвесь час будуць гарэць засцерагальнікі да страты інстынкту і поўнага адмаўлення вучэння Паўлава. Пашчасціла ўсё ж быдлу — яно нічога не ведае аб гэтым вучэнні. А як быць чалавеку? Чалавеку адмаўлялі ў розуме, у яго здольнасці думаць. Адбываўся нейкі спірытычны сеанс з пасамі заклінальніка гадаў. З таго свету і навідавоку ўсяго свету выклікалі тых гадаў-нябожчыкаў і адразу ж хавалі іх зноў і запэўнівалі: не-не, не было гэтага, бо гэтага не магло быць ніколі. І адначасова адной рукой нешта давалі, абяцалі, а другой — адразу ж выхоплівалі ўжо з адкрытага твайго рота, адбіралі і гумавай дубінкай білі па галаве да страты прытомнасці, да набыцця веры ў тое, што так і толькі так і трэба. Даводзілі да роспачы і вар'яцтва, страты сэнсу жыць далей.

Нішчымніцу, а часам і голад і холад яшчэ можна было трываць, у час вайны трывалі і перанеслі і не такое. Зводзілі і забівалі пагарда і абраза, не хапала ні сілы, ні часу ўцірацца ад пляўкоў у твар, у вочы. Раней, здаецца, апошні злодзей і жабрак былі ў большым гонары і большай пашане, у іх усё ж бачылі чалавека. Цяпер жа, мяркуючы па ўсім, надыходзіў час, калі бачачы перад сабой чалавека, трэба было адразу пачынаць лаяцца і мацюгацца, пакуль ён не зарохкае ці не адмовіцца ад самога сябе.

І, падобна, гэтую непавагу да чалавека і чалавечага, хоць мо і падсвядома, але вельмі выразна адчулі і зразумелі першнаперш дзеці. Таму, як ні горка аб гэтым гаварыць, яны пачалі адмаўляцца ад жыцця. Пагарда і абраза да іх бацькоў адбіліся і на іх. Падымалася, прарастала атручанае, ачмуранае часам пакаленне, ці не прыгаворанае ўжо на пачатку жыц-

ця да свайго зыходу, жадаючы, як і Майстра, і тыя двое, з кім ён выпіваў, — токар, прадпрымальнік — хутчэй памерці.

Праз некалькі дзён пасля той іх застольнай сумнай гаворкі да Майстра завітала жонка токара, што рабіла настаўніцай у школе.

— П’яце, — сказала яна. — Усё п’яце. Хопіць, дапіліся. Дзеці гінуць... Дзеці гінуць...

— Дзе, дзе яны гінуць? — азірнуўся Майстра, спрабуючы спыніць яе, перавесці гаворку на жарт. — Нешта не відно нябожчыкаў.

— У тым мо і жах, што не відно. Калі чалавек не бачыць перад сабой нябожчыка, то ён ужо сам на тым свеце.

— Шчаслівы чалавек, — амаль шчыра сказаў Майстра.

— Не жартуйце, тут вам не жартачкі, — абсекла і гэтую яго шчырасць настаўніца. — Калі свінню смаляць, ёй не да парасят. А тут якраз той выпадак, што і свінні, і парасятам прыпякае...

Высветлілася, што ў школе трэцякласнікі пісалі нешта накшталт сачынення «Ваша запаветная мара». І амаль кожны пяты з дзяцей напісаў: памерці. У тым ліку і дачка вось гэтай жанчыны. Сачыненне дачкі ёй паказала сяброўка.

— Я не ведаю, як і падступіцца да яе, — сказала жанчына. — Мы ж усё для яе... Можа, вы б з ёй пагаварылі.

Майстра абяцаў. І неўзабаве адбылася сустрэча і гаворка з юнай самазабойцай. Ён абставіў усё так, каб гэта здарылася як мага больш натуральна. Папрасіў дзяўчынку прагуляць свайго ката і прынесці яго назад. Дзяўчынка была ў кватэры Майстра першы раз і асвяціла яе здзіўленнем: як багата ў яго кніжак. З кніжак і пачалася іх размова.

— А на англійскай мове ў вас кніжкі ёсць? — запыталася ў яго дзяўчынка, калі крыху асвойталася. Тут ужо здзівіўся Майстра:

— А на рускай і беларускай мове ты ўжо ўсе кніжкі прачытала?

— А што іх чытаць, рускія, тым больш беларускія?

— Не падабаюцца мовы?

— Пры чым тут — падабаюцца, не падабаюцца. Гэта ж як хлеб, і чорны да таго ж, яго багата не з'ясі. Я вучуся ў школе з англійскім ухілам.

— Ясна, ясненька, — сказаў Майстра, трохі падладжваючыся пад гаворку дзяўчынкі і ўжо недзе саромеючыся яе: такое малое, а ўжо спікае: — Маладое пакаленне выбірае снікерс.

Дзяўчынка пырснула смехам і з прыязнасцю паглядзела ў вочы Майстру. І той зразумеў, што адносіны паміж імі наладжаны. А тут яшчэ і кот дапамог, лашчыўся і вуркацеў ад задавальнення пад яе цёплымі далонямі.

— Я люблю гаварыць сама з сабой, — сказала дзяўчынка. — І каб ніхто не падслухаў, не ўлез.

— Ага, так, — падтакнуў Майстра. — Ты як тая кошка, што гуляе сама па сабе.

— Па стрэхах і ў дождж....

— Чаму — па стрэхах і ў дождж? Па сонцы і зямлі, траве мо ж лепей?

— Не, вы не разумееце. Вышыня ўсё ж. Трохі страшна і нікога, хто б падгледзеў твой страх і пасмяяўся.

— А з цябе што, смяюцца?

— Яшчэ як, — уздыхнула дзяўчынка. — І ў школе, і нават дома...

— Чаму ж яны смяюцца? — Дзяўчынка ўсё больш падабалася Майстру. Ён адчуў яе шчырасць, адзіноту, непадобнасць да ўсіх астатніх. Але хацеў яшчэ паслухаць. — Чаму ж яны смяюцца з цябе?

— Смяюцца... — горка мовіла дзяўчынка. — Не ведаю сама, чаму. А вы не будзеце з мяне смяяцца?

— З чаго ж тут смяяцца? Ты разумная, разважлівая... І кім жа ты будзеш, калі вырасцеш?

Дзяўчынка выпрабавальна паглядзела на яго, і пэўна, вагаючыся, запытала:

— А маме не скажаце?

— Ніколі. Во табе крыж, — перахрысціўся Майстра. Дзяўчынка, здаецца, паверыла яму:

— А прастытуткай, — сур'ёзна адказала яна і сціпла апусціла сінія вочкі, абцягнула сукенку і схавала каленкі. — А мне вельмі падабаецца ваш коцік...

Майстра збянтэжана аслупянеў, толькі выгляду не падаў.

Хаця ў гэтым не было нічога новага яму. Ён чуў аб гэтай з'яве — жаданні дзяцей ісці ў прастытуткі і рэкет — шмат ад каго. Але адна справа чуць гэта ад некага, у пераказе і зусім іншая — на свае вушы. Чуць і бачыць маленькую будучую прастытутку перад сабой. І хай у гэтым яшчэ шмат неасэнсаванага, хай гэта толькі гульня, пераймальнасць дарослага жыцця, але ўсё ж — жыцця.

— Нішцяк, — сказаў ён. — Другая старажытная прафесія на свеце...

— Во як? — здзівілася дзяўчынка. — А я і не ведала... А першая, першая якая?

— Пляткар і хлус, — адказаў Майстра. — Нехта ці нешта падобнае на мяне.

— Як цікава, як цікава, — ажно ў далоні запляскала дзяўчынка. — А ўсе навокал: прастытутка ды прастытутка, путана і б... Абражаюць так...

— Ты сур'ёзна хочаш стаць прастытуткай?

— Валютнай, — удакладніла дзяўчынка. — Таму і англійскую мову вучу. А потым буду яшчэ і французскую. І яшчэ якую-небудзь...

Майстру даўно ўжо было непамысна. Але ён вымушаны быў працягваць гаворку. Вельмі супярэчлівыя і, трэба прызнацца, зусім не настаўніцкія, педагагічныя думкі ахоплівалі яго. І яму было хоць і жудасна, але і цікава: няўжо наскочыў на Лаліту, няўжо тая Лаліта не была прыдумкай, не трызненнем, не гульнёй мастацкага ўяўлення. Ніколі б не падумаў, не сасніў нават у вар'яцкім сне, што Лаліта — параджэнне часу, параджэнне яго айчыны, сціплай — і заўсёды сарамлівай Беларусі... Дзеці страшных гадоў Беларусі...

А што, мо ў гэтым ёсць і здаровы сэнс. Мо ёсць у гэтым усё ж рацыя. Калі гэтай дзяўчынцы сёння не дадзена іншай, лепшай долі, хай будзе прастытуткай. Прафесійнай. Харошая, разумная і адукаваная будзе прастытутка. І прыго-

жая, сінявокая і русакосая. Майстра падумаў так і застагнаў ад абурэння. Вось да чаго можа дадумацца чалавек. Ці ёсць, ці існуе на свеце мяжа і дно чалавечага падзення?..

— А ты хоць разумееш, што такое прастытутка на самой справе?

— А што тут разумець? Секс — і ўсё.

— А што такое секс?

— Тое, чым жывуць усе людзі. Тэлевізар апоўначы, — не задумваючыся адказала дзяўчынка.

— А што, што гэта, што гэты тэлевізар апоўначы? — Майстра адчуваў, што ступае ў забароненую і небяспечную раку. І з той ракі можна не выплыць яму. А дзяўчынка, па ўсім, плавала ў ёй, як маленькая залатая рыбка ў хатнім акварыуме.

— Другое жыццё. Прыгожае і сапраўднае. А не гэтае: што дзе і па чым сёння, а ты зноў напіўся, а ты зноў не слухаешся, звар'яцець можна. Такі дзень, а як надыдзе ноч, прыгожа. Пакоі, мэбля, людзі — усё прыгожае. Яна ў ложку, і на жываце яе вішня ці клубніцы, ён ліе на яе шампанскае...

— Хопіць, хопіць, ты мяне пераканала, — амаль шчыра мовіў Майстра — Нармалёк. «Сладкая парочка...»

— «Поляроид, живи настоящим, дядя», — падхапіла дзяўчынка. — «Сникерс сьел — и порядок».

— Н-да, — толькі і знайшоўся што адказаць Майстра. — А як бацькі твае адносяцца да гэтага?

— Да чаго гэтага? — перапытала дзяўчынка. — Яны мне ў носе не дазваляюць калупацца, а самі...

— Зразумела, зразумела, — спыніў дзяўчынку Майстра, па-сапраўднаму ўжо баючыся яе шчырасці. — І таму твая запаветная мара — памерці?

— А вы адкуль ведаеце?

— Работа такая. Першая старажытная прафесія на свеце.

— Яно і відно. — Дзяўчынка незразумела чаму заплакала.— У кожнага дарослага такая работа. Усе вы аднолькавыя. Настаўніца абяцала: ніхто не даведаецца. Пішыце толькі праўду.. А сама... Ненавіджу, ненавіджу. Усіх вас ненавіджу...

Дзяўчынка адштурхнула ад сябе ката, скінула яго на падлогу, злосна выцяла нагой і зайшлася, забілася ў сапраўднай істэрыцы. Майстра ледзь вывеў яе з гэтай па-даросламу глыбокай істэрыкі. Адцягнуў увагу на таго ж ката, якому, гаварыў ён, балюча. Вельмі балюча і крыўдна, таму што ў яго няма рук і ён няздольны нікога ўдарыць, абараніцца. І толькі што яна песціла і лашчыла яго, каток даверыўся ёй.

А яна мо яшчэ горшая за настаўніцу. Цяпер кот таксама плача пад канапай. І няма каму пашкадаваць яго. Дзяўчынка паступова адыходзіла, пачала прыслухоўвацца да яго слоў. І неўзабаве апынулася пад канапай. Яшчэ трохі паплакала ўжо разам з катом. І пачала гуляць з ім. Так яны і цешылі адно аднаго некаторы час. Ласкавы хатні каток і сінявокая гуллівая дзяўчынка. А Майстра працягваў з ёй нейкую дзіўную і не зусім зразумелую гаворку, таму што, здаецца, гэта ён перад дзяўчынкай быў маленькі-маленькі і не цямны, а яна дарослы, сталы чалавек. І ён задаваў ёй дзіцячыя пракаветныя пытанні, а яна крыху паблажліва па-даросламу адказвала на іх.

— Дык чаму ж ты ўсё ж хочаш памерці, не хочаш жыць?

— А што такое жыццё?

Майстра маўчаў. Не, ён, канечне, ведаў, што такое жыццё. І, здаецца, добра ведаў. Толькі ўсяго яго ведання цяпер не хапала, каб проста і дакладна сказаць, растлумачыць гэтай дзяўчынцы. Атрымлівалася як у тым старым анекдоце пра перабудову: як чалавек я не магу адказаць з пэўнасцю, але як член партыі адкажу... Божа, амаль роспачна і з нейкай насцярогай і жахам думаў Майстра, а што такое сапраўды жыццё: з'яўленне ці знікненне. Рост і змена зубоў у роце ці поўнае іх выпаданне, каб нічога і нікога немагчыма было ўжо ўкусіць. І разгубленасць, разгубленасць, калі ў канцы цябе спасцігае тое, што было напачатку, калі сыходзяцца канцы з пачаткамі, і тады ўсё знікае, ці толькі зноў пачынаецца? Ён не ведаў, нічога не ведаў, і вымушаны быў звярнуцца за дапамогай да дзяўчынкі, да немаўляці, лічы:

— А ты, як ты думаеш, што такое жыццё?

— Жыве вецер, жывуць зоркі, сонца, туманы... — адказала яна і замоўкла.

А ён чакаў, нібы толькі што пачуў упершыню чалавечы голас, як з неба ўпаў.

— Ну і што? — прыспешыў Майстра дзяўчынку.

— Яны жывуць. Жывуць і ўсё. Ветру рознага на свеце, як і людзей, і зорак... І яны жывуць, і іх ніхто не прымушае да таго, чаго яны не хочуць. Ходзяць сабе вольна па зямлі і небе. А тут...

— Што. Што тут?

— Чаго вы да мяне прычапіліся. А тут, а тут. Вось вы таксама і з тым жа самым, што і ўсе. У ката лепш свайго спытайце... Ну, не хачу я так, як усе. Я як вецер хачу, як зоркі, туман. Я думаю, што так вольна людзі і павінны жыць. Жывуць, толькі ўжо на тым свеце. Мо яны — гэта і ёсць вецер, зоркі. Таму людзі паміраюць, уцякаюць туды. І ніхто з іх не вяртаецца назад. Я так сваю бабулю прасіла вярнуцца. Яна абяцала і не вярнулася. Ніхто не вяртаецца. Няма чаго вяртацца. Яны толькі стогнуць, міргаюць і плачуць па нас. І я пайду і не вярнуся...

— Як жа гэта так, — запытаў Майстра ў дзяўчынкі. — Калі ты пойдзеш, ты ж не станеш ужо нават прастытуткай. Нікім не станеш. Гэта ж ужо зусім-зусім канчаткова...

Дзяўчынка пакінула ката і задумалася. У яго атрымалася. Майстра прымусіў яе думаць.

— Я падумаю. Я падумаю, — запэўніла яна Майстра на развітанне. — Я прыйду яшчэ да вас.

Але дзяўчынка больш да яго не прыйшла. І ён часам нават сумняваўся, ці на самай справе была тая сустрэча з ёй, ці гэта ён прыдумаў яе, сасніў. Але, як бы там ні было, ён быў удзячны і сну, і яве. Прывідны жахлівы сон і страшная ява як абудзілі яго на нейкі час. Ён адчуў, што знаходзіцца ў так званым стане напаўраспаду, як і ўсе, пэўна, хто быў з ім побач. У стане напаўраспаду, напаўразбурэння — дзеці і старыя. Ён мо і заўчасна стары, сагнуты ў крук жыццём: толькі пад ногі сабе і пад ногі. І няма калі распраміцца, зі-

рнуць у неба, адчуць вецер, убачыць зоркі. А дзеці ў зорках і ў ветры бачаць смерць.

І Майстра недзе ў душы быў рады, што дзяўчынка да яго больш не прыйшла. Хапала крывавых хлопчыкаў у вачах. Наогул, у жыцці ён цураўся і пазбягаў усяго новага і незнаёмага. Яго незнаёмае і новае было не ў паўсядзённасці. Майстра часам папікаў сябе за гэта, але перайначыцца быў няздольны. Ён, канечне, зразумеў і шкадаваў дзяўчынку, але больш спалохаўся. Нешта вельмі сугучнае, што адбывалася з гэтым дзяўчом, адбывалася і з ім. Дзеці, застаючыся дзецьмі, вельмі рана і жорстка пасталелі і састарыліся. Раней гэта называлася проста акселерацыяй. А цяпер, цяпер... Яны рана і перакручана спазналі, завяршылі тое, што адпушчана чалавеку на ўсё яго жыццё. Расчараванне і стома іх бацькоў спасцiглі іх яшчэ ў дзяцінстве. Наперадзе ў іх змрок і непрагляднасць. Цемра і змрок іх бацькоў — пакаранне не бацькам, а дзецям. Расплата, што непазбежна рана ці позна спасцігае кожнага за кожнае яго слова і крок.

І вось цяпер на вуліцах роднага восеньскага горада Майстра ўбачыў, што адбываецца самае страшнае, самае жахлівае з таго, што можа адбыцца. Горад, а разам з ім і народ, уся яго краіна страціла надзею быць, жыць. А разам з надзеяй у адначассе пазбавіліся і сораму. Адзін з самых патаемных і самых сарамлівых народаў у свеце пазбавіўся сваёй глыбіннай сутнасці: агаліўся фігуральна-літаральна і фізічна. Тыя, што сарамліва і моўчкі неслі з веку ў век крыўду, боль і кроў на сваіх руках і нагах, цяпер неслі іх як на выставу, з лямантам і крыкам. Усе вакол і адразу ўраўняліся ў жабрацтве, галечы і нішчымніцы. Усе сталі роўныя, і можна было не саромецца.

Бессаромна і безнадзейна каналі, адыходзілі век, эпоха і падманутыя імі людзі. Людзі без сораму і жаданняў. Сорам і жаданне — гэта спапялялася, выпальвалася ў іх амаль што ўсё апошняе стагоддзе. І толькі больш чуйныя з іх разумелі гэта. Яшчэ на пачатку стагоддзя яны былі асуджаныя да памірання. Асуджаныя памерці, застаючыся жыць. Смерць

не зводзіла іх у магілу, яна наракла ім зведаць усё гэта пры жыцці, на гэтым свеце. Яны яшчэ, але ўжо...

Самае жахлівае, нарачонае ў прадказаннях продкаў спраўдзілася. Мёртвыя плачуць па жывых, нябожчыкі шкадуюць жывых. І не ўлада, не банкі, не хцівыя і хіжыя банкіры падманулі іх. Яны падманутыя па сваёй волі і ахвоце, і, як гэта ні дзіўна, па сваім жаданні, прывідам, што колькі ўжо стагоддзяў сноўдаў па Еўропе. Сноўдаў і дапяў да яго, Майстра, краіны. Замарочыў, ачмурыў, прымусіў усіх дурманна забыцца, заснуць. А ацверазелі, прачнуліся яны ўсе голымі. Усе да адзінага каралі — і ўсе голыя. Іх абтрэслі, як восень абтрасае з дрэў лістоту. А цяпер час, эпоха, зямля атрасаецца ад іх.

Ні адзін з іх не патрэбны надыходзячаму тысячагоддзю. Зямля выракаецца іх. Зямля выракаецца і яго, Майстра, бо ён таксама адзін з гэтых падманутых эпохай людзей. Мо нават больш падмануты, чым усе яны, разам узятыя. Каму ж гэта з іх цюкне хадзіць па кабінетах, міністэрствах, прасіць грошай, каб трапіць у нейкі Парыж. Грошы трэба зарабляць ці красці, а не прасіць. Не спадзявацца, што нейкі дабрадзей уважыць цябе, зробіць ласку і падасць міласціну.

А ён прывык да гэтай міласціны з панскіх рук. Панскія рукі прыручылі яго, як і ўсіх астатніх, хто ў гэты час знаходзіцца на вуліцы, галосіць і лямантуе — таксама патрабуе міласціны. І новыя паны па старой звычцы спадзяюцца, што ў іх хопіць на кожнага той міласціны. Малыя паны з працягнутай рукой таксама бягуць да вялікіх паноў, вялікія — яшчэ да большых, і атрымліваецца заганная вечная кругаверць вечных жабракоў. А век гэты ўжо канае сам, бо яму ў часу няма чаго прасіць, ды там і не падаюць. Час не зважае і не прызнае жабрацтва, як і таго, якога колеру ты трымаеш у руках сцяг, якому Богу ты молішся. Час не разумее і не ведае «халявы», і пад ім не варта мітусіцца, мазалі толькі на каленках ці яшчэ на якім месцы наб’еш. А ён, Майстра, мітусіцца.

І Майстру зрабілася брыдка за сябе, за сваю непазбытную, чалядную халуйскую сутнасць. Сутнасць, якую ён ад-

маўляў, але ўсё ж увесь час кіраваўся, хай падсвядома, ды ўсё ж падманваў сябе. Мо таму сёння і ён, хоць яшчэ жывы, толькі ўжо без жадання, без жадання. Прымусова жывы яшчэ, але ці надоўга.

І гэта адчуванне прымусовасці жыцця і недаўгачаснасці, як ні дзіўна, абудзіла жаданне ўсё ж працягнуць яго. І назло ўсяму справіць юбілей. Справіць якраз назло. «У мяне ж і касцюм ужо, сапраўдны смокінг на юбілей заказаны, падумаў ён не без жалю і журбы. Навошта ж прападаць дабру».

Гэта ўжо было адступленнем і здачай перад тым, што толькі хвіліну назад думаў і гаварыў сабе Майстра, але, узгадаўшы пра смокінг, ён па-сапраўднаму і абурыўся, і разгубіўся. Што ж гэта такое, як гэта так атрымліваецца: яго ўжо не будзе, а смокінг застанецца. Зусім новы, ніводнага разу нават не апрануты. Дурнота нейкая, ні больш, ні менш. Што яны там, наверсе ці ўнізе, усе з глузду з'ехалі? Яны ж павінны там ведаць, як яму, Майстру, хочацца апрануць той смокінг, чорны, як крыло вароны. І чырвоная «бабачка» на белай сарочцы. Вось гэта і ёсць сапраўдны Майстра. Маэстра. Такім ён павінен быць. Анёл і д'ябал. Мо нават больш д'ябал, чорт. Бо без нячысціка ў сабе сапраўдны Майстра не існуе. Без чорта — гэта проста нудная падробка.

Майстра марыў пра смокінг усё жыццё. Нават сам не помніць, з якога часу. Ці не з таго маленства, калі не было яшчэ і памяці, і жаданняў, нешта ўсё ж запала, запарушыла вока, і парушынка тая засталася на ўсё жыццё. Шчаслівая парушынка мірнага часу і пры бацьках. А мо і няшчасная, хутчэй нават няшчасная. Бо дзе і на кім у даваенны час на ўскраіне Магілёва ён мог убачыць той смокінг. Хутчэй за ўсё гэта здарылася ў Нямеччыне. Адбылося на яве ці прымроілася ў тыфозным бараку канцлагера. Мо тады і якраз там ён сасніў сваю будучыню, тое, што яму наканавана ў будучыні. І гэта выратавала яго, выхапіла з-пад касы кашчавай.

З марай аб гэтай чорнай, як сажа, і белай, як вэлюм нявесты, апратцы ён пачаў сваё ўжо асэнсаванае жыццё. У такім адзенні ён падчас бачыў сваіх настаўнікаў, прафесараў, акадэмікаў і гаварыў сабе, што нічога, прыйдзе час, і ён, маючы

на гэта ўсе падставы, апранецца не горш, чым яны сёння. І Майстра, тады яшчэ нікому невядомы, сарамяжы хлопец з чыгуначнай ускраіны Магілёва, добра ўяўляў, як на плячах яго будзе хрумсцець крухмал сарочкі, заільсняцца пад крышталём люстраў лацканы. Гэта не перашкаджала яму насміхацца і кпіць з самога сябе: і крошачкі сабраў — швейцар у рэстаране. Але ж мара заставалася марай усе шэсцьдзясят гадоў жыцця, напачатку вяснова картовага, потым — балоневага, а ў апошні час — багемна-інтэлігентна-джынсовага.

І ў гэтай змушана прадпісанай апратцы, як у чортавай скуры, у той жа апошні час ён ужо забыўся пра сваю наіўную дзіцяча-юнацкую мару. Узгадаў аб ёй толькі тады, калі атрымаў запрашэнне ў Парыж. Узгадаў і ўявіў сябе ў Парыжы ў смокінгу і з бабачкай. І доўга добра і шчыра рагатаў: Халімон ходзіць па фае і смаліць самакрутку... Але смех гэты, хоць і шчыры, быў горкім. І неўзабаве, перад самым ад'ездам у «Канатоп» — у Крым, ён прымусіў сябе пайсці ў атэльe і заказаць смокінг, нягледзячы на тое, што гэты смокінг быў хоць і па плячы яму, але зусім не па кішэні. Патраціў на яго амаль усе свае камандзіровачныя, занёс у букіністычны магазін і тое-сёе з бібліятэкі, што збіраў усё жыццё, як абакраў сябе. Але ад гэтага крадзяжу прыкра было толькі тыдзень. Не больш. Пакуль вока не звыклася з пустотамі на кніжных паліцах. А потым на душы зрабілася нават хораша. Як жа добра само па сабе атрымалася: ён пазбавіўся ад атруты, наркоты. Занёс у букіністычны магазін амаль усе дэтэктывы, глянцавы абярэмак жаночых цыцак і голых поп, кніжак-робатаў, што канвеерам апошнія гады гнаў сюды Захад. Тут яны таксама адразу запускаліся на канвеер, бо большага ўжо нярварты былі. Увесь іх змест, як на далоні, адразу ж на вокладцы. І адну вокладку можна было тыражыраваць на ўсе кніжкі, таму што голая попа — гэта ж не твар, і як ты яе ні круці і ні ўпрыгожвай, хоць гальштук павяжы і адэкалонам папырскай, попа застанецца попай.

А ўвогуле дэтэктывы Майстра любіў. Любіў іх чытаць, калі не працавалася, быў у прастоі, маўчалі душа і розум. Дэтэктывы супакойвалі, давалі гультайству адчапнога:

глядзі, можна і з курынымі мазгамі добра пачувацца. Але калі ён засаджваў сябе за работу, дэтэктывы знікалі. Ён амаль фізічна пакутаваў ад іх, бо ўспрыманне прачытанага, не толькі прачытанага, але і бачанага, чутага адбывалася напрамую. Ён як пазбаўляўся скуры, цела крывавіла. І вось на гэту голую рану ўсё накладвалася і рабілася вельмі балюча ад чужога фальшу, дубовай мовы, а праўдзівей, ад бязмоўя, немачы пустапарожняга баўлення часу. Нічога не зробіш, які век, такое і мастацтва. Другое тысячагоддзе пнулася, курчылася ў родах, каб даць, аб'явіць новаму, трэцяму тысячагоддзю нешта прыстойнае, вартае дваццаці стагоддзяў існавання розуму і думкі, і пакуль што сыходзіла на брудныя воды, пену і смецце. А мо гэта было ўжо прадбачанне і прадвесце нараджэння сатаны. Ад бруду, гною, крыві, усё гэта неяк не па-сапраўднаму, неяк незнарок. Бруд, кроў, гной не мелі паху, былі цывілізавана вытанчаны, да брыдоты парфумаваныя — пад Фрэйда і Босха, Чыкаціла і Чэхава, Дастаеўскага і Аль Капонэ з дамарошчаным сентэкзюперызмам.

Вось тады Майстра далёка закідваў дэтэктывы, браўся за класіку, хоць ужо і чытаную, вывучаную на памяць. І кожны раз атрымлівалася, што памяць яго і класікі не супадалі. Пасля збаўлення ад дэтэктываў ён тайна радаваўся злой непрыгожай радасцю: нейкі бэйбус іх купіць і, прыціскаючы да грудзей, панясе дамоў. Не адзіны ж ён, Майстра, дурань на свеце. Толькі ён зусім не дурань. У яго будзе, ужо амаль што ёсць, смокінг.

І Майстра ўяўляў сябе ў сваім смокінгу, як ён будзе ў ім, чорны, што сажа ў коміне, і белы, як першы малады снег. Ад гэтага снегу і сажы — яго галава, даўбешка ўсмешлівая, адлітая з мармуру і срэбра, — смокінг будзе сядзець на ім як уліты. Зусім не так, як на іншых, на кім ён бачыў той смокінг, прафесарах, акадэміках, маэстрах — нібы на вешалцы анучы ці як цесны хамут на шыі сівога мерына. Ён жа, Майстра, і нарадзіўся пад смокінг. Толькі вось жыццё, час яго быў картовы, балоневы ды джынсовы. Ноу смокінг — новы, новы. Ес смокінг? — ёсць, ёсць. Якія блізкія, якія падобныя — ан-

глійская і беларуская мовы. На якой ні скажы, а ўсё гэта будзе значыць, што нарэшце ў яго ёсць новы смокінг. Можна і паміраць. Можна і паміраць...

Нібыта сам сурочыў сябе. Праўду людзі кажуць: ніякае нахабства не застаецца без пакарання, «жадность фраера сгубила».

Кожны з людзей, а тым больш з майстроў, павінен у сваім лёсе зрабіць выбар: ці то доўгае жыццё, ці прыгожы, кідкі смокінг на адно кароткае імгненне — на свята. Гэта і ёсць лёс чалавека: імгненне, адзіны дзень, але мой, бліскучы і яркі, у смокінгу, ці непрыкметнае гібенне ў дзіцячых картовых штоніках. І з тых штонікаў — далей, далей, мо нават і ад бацькоўскай хаты, ад радзімы далей, як Максім Багдановіч. Але далей сёння гэта зусім не тое, што і заўтра будзе далёка. Час разбурае прастору і адлегласць, рушыць межы. Зноў жа гіра гэта можна меркаваць па тым жа самым Багдановічу. Ён адначасова далёка і блізка. Далёка, там, дзе і належыць быць Багдановічу, каб не паляпвалі па плячы. А побач — у кожным і з кожным, у тым ліку і з ім, Майстрам. Каменьчык з той магілы ў кішэні яго сарочкі, камень на грудзях яго. Толькі вось ён сам схібіў, паддаўся імгненню. Абраў імгненне, пакваліўся на смокінг, ноу смокінг, ес смокінг, што ў перакладзе ўсё ж значыць: курыце і не курыце. Яму закарцела пакурыць. І каб над ім і перад ім пакурылі, напусцілі куродыму, фіміяму.

Вось таму і абудзіліся, забілі ў ім званы. Бэзавы звон ў галаве і перад вачыма, бэзавы пошум уваччу і чорны пошчак чорных гумавых дубінак кентаўраў. Кентаўры ідуць, кентаўры акружаюць, кентаўры наступаюць. А яму трэба адступаць, час адыходзіць. Час збірацца ў дальнюю дарогу. Пайсці па ёй і прайсці яе так, каб потым не давялося прасіць прабачэння. Бо не будзе ў каго прасіць і самому не будзе калі. Трэба ісці. Трэба ісці. Вось яна перад ім, яго дарога, прамая, як дошка. Гэта і ёсць дошка, масток — кладачка цераз ручай. Кладачка ад аднаго да другога берага. Трэба яе перайсці. І Майстра пайшоў.

## III

Ах, як ён прыгожа ішоў, каб хто толькі гэта ды бачыў. Так ходзяць адзіны раз у жыцці і ў зорны час. Гэта і быў яго зорны час, хоць свяціла сонца, адначасова разам з месяцам на небе. І снег быў як памыты, улежаны, лёгкі — ходкі. Дрэвы, кусты, хмызы, што трапляліся на трасе, здаецца, не раслі тут заўсёды, а сышлі, збеглі з аконнага шкла, дзе іх толькі пад раніцу намаляваў дзед Мароз, злавіў напаўвыдыху. Такім і пакінуў на паўдыханні, спыніў, паклаў на палатно зямлі, абрамленае чысцінёй снягоў і бязмежным блакітам неба.

І хвоі, і елкі ў паравым снежным куржаку, бярозы і вольхі ў лёгкім вэлюме свайго ж застылага ў марозным ранку дыхання былі падобны да дзяўчат ці маладзіц у святочных уборах на зімовым вяселлі зямлі і неба. Свет быў такі каляровы.

Каляровыя, адцення маладой салаты, лыжы, каляровыя, бел-чырвона-белыя спартыўныя куртка і штаны. І вязаная з каляровых нітак, з распушчаных маткай фабрычных адыходаў, матузоў, што прызначаліся дэпоўскім мазутнікам для выцірання рук, шапка. І нават гуз на яго лобе, і той быў каляровы.

Добры гузак ірдзеў, расцвітаў на лобе, ці то свежы, сённяшні, ці то заўтрашні, будучы пазначаўся ўжо тады на яго лобе. Усё пераблыталася. І дакладна, якога часу, якой пары той гузак, ён не мог сёння ўспомніць. Даволі і таго, што ён усведамляў, бачыў сябе ў хадзе, ён ішоў. А што да гузакоў, то іх было столькі, што кожны трымаць у памяці — галавы не хопіць. Не хопіць лобу і галавы, каб памясціць іх усе разам і ў адзін час.

Ёсць гузак сёння, напрыканцы дарогі. Дамогся ўсё ж свайго. Нешта амаль беспрытомнага яго кінула да кентаўраў. І так закарцела, так закарцела раптам патрымаць у руках гумавую дубінку, дасведчыцца, гумавая яна ці ўсё ж жывая, як яму прыбачылася, адчулася. Проста сверб нейкі смертны, як дзіцяці драбка цукру ці цукерку хочацца. Вось і дасведчыўся, паспытаў ён дэмакратызатара. І цяпер, як неабвяргальнае сведчанне сапраўднай дэмакратыі ў яго сярод лоба вырас

рог. Адзін рог тады, другі цяпер — буйная рагатая жывёла, што значыць — дэмас.

І атрымаў ён сваё, як павінен атрымліваць дэмас ад свайго патрона, калі вельмі ўжо нахабна пачынае нешта патрабаваць ці прасіць у яго, крычаць: аддай маё. Ён, праўда, не крычаў і нічога не думаў патрабаваць, а проста не вытрымаў і высунуўся. Узняў галаву і высунуўся. Усеагульны народны гнеў замгліў вочы, і кроў ці мача ўдарылі, прылілі да галавы, што ўвогуле і павінна было здарыцца і здараецца з чалавекам, калі ён апынаецца сярод натоўпу, губляе, страчвае сябе і падпарадкоўваецца волі і памкненням натоўпу, пачынае жыць і паводзіць сябе па яго няпісаных, але няўкосна выконваемых законах.

Натоўп кіруецца не розумам, ён увогуле адмаўляе яго. Розум згарае ва ўсхліпах і хвалях святога калектыўнага гневу і абурэння. І ў каго хутчэй ён згарае, у каго менш таго розуму, той і завадатар, верхавод у натоўпе. Таму, пэўна, часцей за ўсё людской зграяй правіць пасрэднасць з непазбытымі ў сабе яшчэ інстынктамі жывёлы, звера. Яна грае на жывых струнах уласнага інстынкту, а натоўп, зграя падыгрываюць ёй. Падыгрываюць, бо шмат людзей, а хутчэй за ўсё ніхто з нас не адбегся яшчэ далёка ад дрэва, дзе хвастом уніз да сённяшняга дня вісіць і пагойдваецца наша родная маці.

Вось гэтая маці-малпа абудзілася, раптам прачнулася і ў душы Майстра, калі ля выхада з метро ўсчалася валтузня. Ён пачуў аглушальны голас-кліч магілёўскай шпаны, магілёўскай ускраіны: «Нашых б’юць!» І было вялікай ганьбай застацца ўбаку, не адгукнуцца на гэты голас, не схапіць які-небудзь шворан і не кінуцца насустрач яму. А ўбачыўшы чужую ўжо кроў, адчуць, што гэта кроў зусім не чужая. Твая яна, цалкам твая. Кроў таго адзінага цела, што складаў натоўп, твайго цела.

Каля ўвахода ці выйсця з метро схапіліся АМАП з маладымі хлопцамі, хутчэй за ўсё студэнтамі з бел-чырвона-белымі сцягамі ў руках. Сутычка была вельмі кароткай, але жорсткай, бязлітаснай, як ёй і належыць быць, калі абодва бакі кіруюцца ўсёпаглынальным, безразважным інстынк-

там. На сцяганосцаў пэўна, вельмі ўжо націснулі ззаду, мо некага з іх і штурхнулі на АМАПаўцаў. А іх гумовыя кіі былі ўжо напагатове. Яны ўзняліся і ўвайшлі ў чалавечую плоць. І пацякла кроў. Нехта з тых, што стаялі побач, кінуўся на дапамогу збітым, хутчэй, падобна, каб адцягнуць іх. Кіі АМАПа былі сляпыя і не разважалі. Яны толькі ўвайшлі ў смак, адчулі захапленне. На гэта іх азвярэлае захапленне натоўп выціснуў наперад і Майстра.

Гумавай дубінкай яму дасталося мімаходзь, яна адно толькі слізганула па яго шапцы, але добра апякла лоб. Каб гэта ды так па лобе, то мог бы і не падняцца. А так зляцела шапка і ўздуўся гузак. І ўсё ў ім набрыняла ад адчаю і абразы. За што гэта яго б’юць, сівога і ўвогуле законапаслухмянага: ні разу і нідзе ў родным горадзе вуліцы нават не перайшоў на чырвоны святлафор. Але пры ўсім гэтым адчаі і роспачы ён бы саўладаў з імі, уцёрся б і адышоў: супраць лому няма прыёму, апрача яшчэ аднаго лому. Але тут да АМАПа падышла падмога. Падскочылі чорныя «Маруські» ці «варанкі». Увогуле не чорныя — стракатыя, але з тым жа самым прызначэннем: хапаць, грузіць і везці.

І пачалі хапаць усіх без разбору, хто быў наперадзе, паблізу і нават тых, хто выходзіў з падземнага перахода метро. А з таго перахода акурат на тую хвіліну, калі Майстра яшчэ абураўся, але ўжо і выціраўся, выхапіўся гарэзлівы падлетак, хлопчык з бутэлькай кефіру і батонам у празрыстым поліэтыленавым пакеце. Па ўсім, хлопчык быў далёкі ад таго, што адбывалася тут. Засяроджаны на нечым сваім, ён светла і весела нават пасміхаўся. Але да яго падскочылі адразу трое ці чацвёра АМАПаўцаў. Бутэлька з кефірам бразнула на асфальт і разбілася, выпаў і ўліп у гразь батон. Хлопчыка таксама паваліла на зямлю, далі носцакам па рэбрах, заламалі назад рукі. А ён усё яшчэ працягваў усміхацца скасавураным, праўда, ад болю крывавым ротам. І спрабаваў гэтым крывавым ротам нешта вымавіць, сказаць. Толькі зразумелых і выразных слоў не было. Так, нейкае няпэўнае балбатанне і віск.

Майстра адразу адчуў, што адбываецца нешта вельмі брыдкае і куды больш абразлівае за тое, што сатварылі з ім. Не разважаючы, ён кінуўся бараніць хлопчыка, так і не паспеўшы нацягнуць на сівую галаву заляпаную граззю шапку. Кінуўся з такой порсткасцю, што вокамгненна і ацверазеў. Не, нездарма маці яшчэ яго вучыла: на гарачых конях ваду возяць. Бо коні тыя гарачыя нікчэмныя і пустыя, не вясковай, сялянскай пароды, а цыганскія. Так, скура на іх гарыць, дрыжыць і грае кожная жылка. А ў пракаветнай і мудрай сялянскай працы няма і большага дурня, чымсьці гарачы цыганскі конь. Ён увесь час у напружанасці, напагатове, у чаканні нейкай каверзы, ашуканства, і кожная муха выдае яму за слана. У яго адно памкненне — апярэдзіць усіх, даць першаму самаму ў хамут. І кожную хвіліну ён гатовы скочыць і панесці, закусіць цуглі, парваць пастромкі, ушчэнт разбіць воз і забіць гаспадара, кожнага, хто апынецца на яго шляху. Такога каня ніводзін памяркоўны мужык у плуг, у разору не паставіць. Адно на ім добра: вазіць ваду па набітай дарозе.

І Майстра адчуў, што ў гэтую хвіліну ён вельмі падобны да гарачага каня, на якім возяць ваду. І на ім будуць вазіць тую ваду, калі ён не пераадолее гарачую сваю натуру, не паразумнее. АМАПаўцы ужо запіхвалі ў чорны варанок усмешлівага хлопца і разварочваліся, каб выбраць новую ахвяру. І гэтая новая ахвяра стаяла перад іх камандзірам, маёрам незразумелых войск, і рука маёра ўжо ўздымалася, каб паказаць ім чарговую здабычу, ужо разагнуўся і выпрастаўся скураны чорны палец, каб уперціся ў грудзі Майстру. Але штосьці прымусіла адвесці гэты яго палец і адвесці руку. Майстра, выпрастаны, што цвік ці слуп сярод асфальту, усё такі ж простаўвалосы пад восеньскім дробным дождджыкам, змешаным з мокрым снегам, дамогся таго, каб маёр паглядзеў яму ў вочы. Злачынца заўсёды ловіць позірк сваёй ахвяры, каб вызначыць, што гэта за штука перад ім. Звер, воўк ці мядзведзь пазбягаюць чалавечага вока. Баяцца, чужы розум раздражняе іх. І са злачынцам і са зверам небяспечна

сашчэпліваецца вачыма. Мо таму сёння мала хто з людзей у горадзе глядзяць адно аднаму ў вочы. Людзі баяцца людзей, звярынага і чалавечага ў сабе і іншых. А Майстра прагнуў сысціся позіркам з маёрам, бо той увесь час старанна хаваў свае вочы, хаця, здаецца, яму баяцца не было чаго, сіла на яго баку. Ён увішна рабіў сваю справу, рупіўся казённым вінцікам, вайсковым аўтаматам, прызначаў і выбіраў ахвяры, няўлоўным рухам галавы, рукі аддаваў загады. А вочы ўвесь час долу, а калі не долу, то ў нейкую неймаверную далячынь.

У гэтым нешта было. І Майстра добра ведаў што, бо не раз сам знаходзіўся ў такім стане, калі не хочаш, але мусіш быць падонкам. І як гэта ні дзіўна, толькі без гэтага мо і яго, Майстра, не было б і не магло быць, без надсаду, здзеку і рабавання сваёй душы. Тое самае, пэўна, рабіў зараз над сабой і маёр. І Майстра не памыліўся, хоць быў ужо гатовы, што вось-вось і яго пакоцяць, дадуць па рэбрах ботам і, як дровы, укінуць у машыну. Але гэтага не адбылося. Маёр сустрэўся з ім вачыма, перасмыкнуўся, як ад галаўнога болю: хуценька не адвёў нават, а схаваў вочы, зашторыў іх хваравітай і бляклай далеччу, у якой не было і не павінна было быць людзей.

Вочы адвёў, зашторыў, але загад аддаў:

— Грузіце!..

Майстра сцепануў плячамі, скідваючы працягнутыя да яго рукі АМАПаўцаў, угнуўся і запоўз у чорны «варанок». У аддзяленні міліцыі, куды яго даставілі разам з іншымі, усё ішло па добра наладжаным і адпрацаваным канвееры. Пісарчук у лейтэнанцкіх пагонах карпеў над паперамі, складаў пратаколы. Маёр дыктаваў яму, што пісаць, хоць гэтага можна было і не рабіць. Хапіла б на кожнага аднаго пратакола пад капірку:

— Нарушал общественный порядок, выражающийся в непристойных криках и нецензурной брани. Призывал к нарушению общественного порядка, выражающегося в призывах свергнуть демократически избранную власть и лично президента...

Замінка атрымалася тады, калі справа дайшла да хлопчыка, якога Майстра імкнуўся абараніць, з-за якога і трапіў сюды. Той ніяк не мог уцяміць, што ад яго патрабуюць.

— Фамилия, имя, отчество, место работы, учебы? — надрываўся лейтэнант.

Хлопчык у адказ толькі лыпаў вачыма і мычэў.

— Обыщите его, — сказаў маёр. — Найдите документы.

Дакументы ў хлопчыка знайшліся, ён быў навучэнцам нейкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча. І лейтэнант падвёў вынікі:

— Все ясно. Заношу: выражался нецензурной бранью, призывал к свержению демократически избранной власти и президента...

— Вы што, ужо зусім тут... Вы што, звар'яцелі?.. — не вытрымаў Майстра.

— Попрошу не выражаться и не нарушать, — усміхнуўся лейтэнант. — Не забывайтесь, где вы находитесь... Вы не пьяны ли?

— П'яны, — сказаў Майстра. — Я п'яны, але працверазею, а дурань — ніколі.

— А вот за это ответите в полной мере и на всю катушку. Продолжим, гражданин, оскорблять, чтобы уже на полную завязку или достаточно, интеллигент сраный?.. Документы!

— Не надо документов, — спыніў лейтэнанта маёр, пэўна, пазнаў. Але Майстра ўжо выцягнуў з кішэні пасведчанне і кінуў яго лейтэнанту. Той, не разгортваючы, уталопіўся на вокладку, здзіўлена выгукнуў, і на добрай беларускай мове:

— Народны! Глядзі ты на яго. Народных яшчэ не бралі.

— Не падышла чарга? — спытаў Майстра. — Няма яшчэ разнарадкі?

— Мо і так, — пагадзіўся лейтэнант. — Чарга яшчэ не падышла, але самых нецярплівых мы бяром без чаргі.

— Не юродствуй, Якименко, — зноў паспрабаваў спыніць яго маёр. Але лейтэнанта ужо, відаць, панесла:

— А почему, зачем прятаться? Я не в бирюльки тут играю, а при исполнении. Один народный и пацифист, Адамович, уже сидит. Вот и компания будет.

— Это не тот Адамович сидит, — стомлена сказаў маёр. — Не пацифист, а который «Убить президента» стихи написал. А тот умер.

— Как умер? — здзівіўся лейтэнант. — Вот сука, сбежал... Подождите, что-то я не пойму. Кто умер? Кто написал? И как написал, когда умер? С этими интеллигентами одно безобразие и сплошная путаница...

— Вот и вносите ясность, продолжайте оформлять задержанного, — маёр забраў з рук лейтэнанта пасведчанне і працягнуў яго Майстру. Потым пачаў зноў дыктаваць лейтэнанту: — Выражался нецензурной бранью, призывал...

— Хлопцы, — сказаў Майстра. — Хлопцы, што вы творыце? Як жа гэта лаяўся і заклікаў, калі ён нямы, нямко?

— Во гэта фокус, — мовіў лейтэнант і зарагатаў шчыра, галасна.

Маёр спахмурнеў, перасмыкнуўся тварам, як і тады ля выхада з метро, калі Майстра сустрэўся з ім позіркам. Яны і цяпер зірнулі адзін аднаму ў вочы. Але не коратка, як гэта было раней. Сашчапіліся позіркамі, як прыцэліліся стрэльбамі. Сышліся вачыма, як сыходзяцца два бязмежныя адчаі, два стрэчныя полымі, якім наканавана спыніць і знішчыць адно аднаго, толькі ў маёра тое полымя ў вачах было машыннае, ён лепей і больш быў забяспечаны палівам, бо за ім сапраўды стаяла машына. Яна, па ўсім, ужо спаліла ці на гэту хвіліну дапальвала яго. Выядала з вачэй апошняе, чалавечае, што ў іх яшчэ заставалася, пакідаючы мёртвы сіні лёд і распаленую чырвоную сталь.

Майстра ведаў, што з такім лёдам і сталлю ў вачах з чалавекам і аб чалавечым гаварыць немагчыма. Як немагчыма было гаварыць і крыху раней. Бо гаворка тая пагражала спыніцца раз і назаўсёды кароткай і класічнай фразай: як чалавек, але як член партыі... Перад гэтай фразай нямелі, гублялі мову нават паліглоты. Таму, пэўна, і сёння ў яго краіне такое мноства глуханямых людзей. Глуханямых заклікаў і такой жа лаянкі.

І не гэты няшчасны хлопчык, навучэнец прафесійна-тэхнічнага вучылішча, што выпадкова апынуўся перад міліцэй-

скай дзяржаўнай машынай, нямко. Нямком быў і застаецца ён сам, Майстра, і што больш ўсё балюча і прыкра, ён жа сам і вінаваты ў гэтай сваёй глухаце і немасці. Бог даў яму голас і слова, адметныя слых і мову. Даў тое, чаго мо і ў самога мелася няшмат, што ён даваў мо аднаму толькі на мільён ці нават на некалькі мільёнаў. А ён так бязглузда, бяздарна распарадзіўся гэтым вышэйшым дарам. Прадаў гэты дар, прадаў сябе. І нават невядома, каму прадаў.

Фаўст хоць заклаў душу чорту, мярзотніку, але ўсё ж інтэлекту і сіле. А ён саступіў тую ж душу звычайнаму прывіду, хай жорсткай, бязлітаснай, але ўвогуле дубаватай машыне. Машыне ў пагонах і без, якая так-сяк вывучылася пісаць, складаць пратаколы, весці дасье, брахаць на дзень светлы і на гарэлы пень, хапаць, цягнуць, саджаць. І хоча ён прызнаваць ці не, але ён таксама хапаў, цягнуў, садзіў, дапамагаў, чысціў дарогу той машыне, бо яна набыла, купіла яго. І вельмі танна. Дзярмо ніколі не было ў цане.

Трыццаць срэбранікаў пры ўсякім курсе застаюцца трыццаццю срэбранікамі. Пры кожнай уладзе і кожным часе. Гэта мы толькі падманваем сябе, што вось адзіны раз схібім, паступімся, а потым выправімся, апраўдаемся. Вытрываем здзек, гвалтаванне, атрымаем лаўрэацкі значок, званне народнага і набудзем голас. Узвысімся і загаворым на ўсю моц. Але голас той ужо хрыпаты. А табе адразу і арданок, каб ты больш гучна соп у свае дзве дзіркі. А тут яшчэ і кватэра трэба, і не абы-якая. І дзеці, дзеці ў цябе падымаюцца, падрастаюць. Ім жа таксама трэба жыць. Жонка на глотку наступае.

Вось так і перацінае табе глотку. Вось так цябе і прыручаюць. Купляў, здаецца, волю і спакой, а дамогся, дабіўся камфартабельнай камеры, турэмных кратаў і засавак. У адначассе пазбавіўся і голасу, і слыху. Аглух, анямеў і нават аслеп. І таму такі не ўдавана прывідна, а папраўдзе далучаны да таго натоўпу, што і зараз яшчэ галосіць і доўга будзе нема галасіць па скверах, парках і праспектах глуханямой айчыны. І на гэты глуханямы народ міліцэйскія лейтэнанты з дапамогай адукаваных, але з выпаленай душой маёраў будуць складаць пратаколы: лаецца і заклікае...

— Так что будем делать? — нарагатаўся нарэшце, пазабавіўся лейтэнант. — Может, все же заговорит, — кінуў у бок хлопчыка.

— Идиот, — ціха прабурчэў маёр.

Але лейтэнант пачуў і пакрыўдзіўся:

— Ну вот, чуть что, так сразу и обзываться. Кто виноват — Якименко виноват. А я дело предлагаю. Будет дело — и не только глухонемой, но и мертвый заговорит. А народный пойдет свидетелем.

Майстра аслупянеў. І на тую хвіліну папраўдзе адчуў сябе глуханямым. Больш глуханямым, чым той, усё яшчэ нічога не цямячы навучэнец прафесійна-тэхнічнага вучылішча.

— Кофе, кофе, — нечакана загадаў некаму маёр, прыадчыніўшы дзверы ў калідор.

Каву прынеслі адразу, пэўна, добра ведалі жаданні і звычкі маёра. Чайнік кіпню, бляшанку растваральнай кавы, цукар і некалькі кубкаў.

— Вам сладкий, горячий, крепкий? — спытаўся маёр у Майстра.

— Вельмі моцную, — адказаў Майстра. — Зусім не салодкую і вельмі халодную, з лёдам...

— Со льдом? Это нечто новое, — здзіўлена лыпнуў на яго маёр.

— Нічога новага, — сказаў Майстра. — Ведаеце, у мяне ў інстытуце быў выкладчык. І ён кожны раз пасля прыёму ў нас экзаменаў заходзіў у кафэ і заказваў дваццаць порцый марожанага. І адразу, запар усе дваццаць з’ядаў.

— Дасціпна растлумачылі, — нечакана загаварыў па-беларуску і маёр. — Мне гэта таксама вядома...

Лёд у міліцыі знайшоўся. Праўда, нейкі брудны, з пацёкамі, ці то сукравіцы з мяса, ці то нечага іншага. Але перабіраць не даводзілася, пайшоў і такі. Майстра выпіў пяць кубкаў халоднай моцнай кавы з лёдам. Выкурыў тры цыгарэты. За гэты час яны з маёрам не мовілі ні слова. Маўчаў і лейтэнант.

— Все, — сказаў маёр. — Вы свободны. Честь имею.

— Я таксама гонар маю, — сказаў Майстра. — Пайду адсюль толькі з гэтым хлопчыкам. — Паказаў галавой у бок нямко.

— Вон отсюда, — не ўздымаючы голасу, ціха і нейк вельмі абыякава загадаў маёр.

— Што? Вы каму? — не паверыў сваім вушам Майстра.

— Вон! — цяпер яшчэ карацей, але з той жа абыякавасцю і перакананаўчасцю мовіў маёр.

Майстра пачаў азірацца, усё яшчэ не даючы веры сваім вушам.

— Вам, вам. Вон, — запэўніў яго маёр.

Лейтэнант спачатку ціха, а потым усё больш гучна пачаў рагатаць. Майстра падхапіўся з крэсла, наблізіўся да нямка, паклаў яму руку на плячо.

— Лейтенант Якименко, — выгукнуў маёр. — Дежурные!

Лейтэнант падскочыў да Майстра, з калідора набеглі дзяжурныя міліцыянеры. Майстра адарвалі ад хлопчыка. Пацягнулі з кабінета па калідоры. Адчынілі дзверы на вуліцу і пад зад каленам выпхнулі на двор.

— Интеллигент сраный, — пачуў ён услед голас маёра, пакуль зачыняліся за ім дзверы. І дзверы не проста зачынілі, іх замкнулі за ім ці ўзялі на завалу. І дарэмна ён торкаўся і біў па дзвярах кулакамі. Уваходу не было. Дзверы ў міліцыі былі трывалыя.

І ён пайшоў адтуль прэч, хоць і нехаця, але падпарадкоўваючыся загаду маёра. Міліцэйская моцная кава ўзбудзіла яго. Амаль што адняла прытомнасць і ногі. Але ішоў ён жвава і спора, як толькі ў маладосці некалі хадзіў. Як поўны моцы і запалу ішоў па лыжні сваёй ганьбы і славы на пачатку жыцця ў Магілёве. І зноў жа, як тады, ірдзеў, набракаў на яго лобе ладны рог, першая адзнака юнацкага кахання.

Праўда, тады ў яго рог быў меншы, бо не было яшчэ сапраўднай дэмакратыі. Шмат чаго не было. Не было прэзідэнта, які ўжо калі б'е дык б'е, што па нагах, што пад дых, што ў лоб — з капытоў далоў. Быў лепшы сябра. Два не разлі вадой хлопцы з чыгуначнай ускраіны горада Магілёва. А паміж імі яна, з той жа ўскраіны. Сяброўка таго і другога. Прыспеў час біцца сябрам за яе. Занадта ж вузенькая сцяжынка, двум не разысціся, вяла да яе хаты. А саступіць ні той, ні другі не хацелі, не ўмелі яны тады яшчэ саступаць.

І ў аднаго з іх нос сышоў на два румбы з прамога курсу, а ў другога вырас прыгожы каляровы рог...

Майстра цішком пасміхаўся ў падушку, узгадваючы той свой першы рог кахання. Боль адышоў, і ён сышоў, саслізнуў з лыжні. Ён больш не ішоў, ляжаў на ложку ў бальнічным пакоі. І яму было чамусьці смешна, нягледзячы на тое, што хвіліну назад ён канаў ад болю, а зараз яго разбіраў смех. Ён ведаў яго прыроду, гэта была дрэнная прыкмета. Некалі ён сказаў: чорта хто ўбачыць у мяне на вачах слёзы, цяжка будзе, буду рагатаць, смерць прыйдзе — буду рагатаць. І ён рагатаў.

І гэта быў зусім не вымушаны смех, непадробны. Было папраўдзе смешна, што вось прыспеў час і яму паміраць. Дагэтуль жа Майстра думаў, што ён вечны. У маленстве так думаў. Калі яго ўяўленне прасторы і часу ніколькі не супадала з уяўленнем дарослых. Прастора была абмежавана тым, дзе ён у тую хвіліну знаходзіўся. А час быў бязмежны, бо ў ім не было месца смерці. Увогуле то яна была. Але толькі ўвогуле, для іншых. А яго смерці не існавала. Яна яшчэ не нарадзілася. Яна не існавала ў яго жыццёвай прасторы.

Хаця там, у дзяцінстве, кожная хвіліна, кожны яго крок быў пад смерцю і да смерці. У канцлагеры людзі, дарослыя і дзеці, мерлі, як мухі. Засыналі і не прачыналіся. Гэта так ім і ўспрымалася — сон, звычайны сон. Смерць жа нешта іншае, жудаснае і пакутнае. Значна пазней, будучы ўжо далёка ад свайго ціхагаканання ў сне, ён адчуў, што ў смерці няма нічога жудаснага і пакутнага: калі ты ўжо нарадзіўся — то маеш прывілею і смерці. Але гэта зноў вельмі і вельмі далёка ад яго, у глыбокім недзе космасе.

А потым, калі ўвабраўся ў сілу, пачаў працаваць, на яго абрынулася столькі смерцяў, з аднаго боку ўяўных, прыдуманых ім. А з другога — самых што ні на ёсць сапраўдных, бо ён кожны раз паміраў з тымі, каго прыгаворваў да смерці і сам. Паміраў і адраджаўся. І гэта паміранне і адраджэнне захаплівалі яго гульнёй уяўлення, адсутнасцю мяжы паміж явай і прыдумкай, крохкасцю і трываласцю ўсяго існага на

свеце. Непарыўнасцю існага. Гэта была таямніца, якую ён усё жыццё імкнуўся, прагнуў разгадаць, спазнаць.

Так прагнуў, што з нейкай нават радасцю сустрэў прыгавор сам сабе. Прыгавор, які вынеслі дактары яму недзе чатыры гады назад: неаперабельная пухліна. Ён зразумеў, што гэта значыць. Да таго часу Майстра быў ужо стомлены жыццём, ушчэнт з'езджаны працай. І прыняў прысуд сабе як наканаванне і нават нейкае выйсце. Ён не чапляўся за жыццё. Нажыўся, хопіць. Што ж гэта за жыццё, калі падымаешся ранкам толькі па прымусу, па завядзёнцы, як салдат у казарме па загаду старшыны. Хацелася волі, свабоды, адпачынку. І тады, чатыры гады назад, Майстра ўжо спісалі ўсе, хто яго ведаў, сябры, ворагі. Пэўна, яны ж яго і вярнулі з незваротнасці. Майстра не прывык, каб яго шкадавалі. Шкадаваць іншых, сяброў і ворагаў, — было яго прызначэннем. Яго прызначэннем было і зведаць усё да апошняй кропкі на гэтым свеце, у тым ліку і сваю ўласную смерць. Зведаць горкае і салодкае, усю брыдоту гэтага свету і яго прыгажосць. І не проста зведаць, адчуць самому, але і пераказаць, перадаць іншым, абудзіць іх ад той сярэдзіны, якая ніколі, нідзе і нікому не прайграе.

І тут з уласным паміраннем яму было вельмі цікава, як жа гэта яно будзе праходзіць. Гэта цікаўнасць абудзіла яго. Нанава, як у маладога, прачнуліся ўсе пачуцці. Ён адчуў, якое пахкае ў маі зранку, апоўдні і вечарам сонца. Сонца мела пах. І гэта было так няправільна і так дзіўна, што з ім, з гэтым сонцам, трэба было разабрацца. Варта было яшчэ крыху пажыць.

Майстра ўчапіўся за працягнуты яму сонцам з неба сонечны прамень, па тым промні выцягнуў сябе сам з таго свету. Выракся, адрынуў непазбежнае, наканаванае. Настояў на аперацыі. І яму была цікавай тая аперацыя, у яго нешта выражуць. Толькі перад аперацыяй загадаў самому сабе абавязкова ачомацца. Выйсці з-пад наркозу.

І з тае далёкай пары яму здавалася, што лепш было б не выходзіць з-пад таго наркозу. Заснуць назаўсёды, неўпрыкметку, як засынаюць мухі на восеньскім холадзе. Боль быў

невыносны, суцэльны, непраходны. Але, як ні дзіўна, да гэтага можна было прызвычаіцца, калі заставалася падсвядомая іскрынка таго, што гэта часова. Праз боль ён адчуваў сябе жывым. Далучаным да жыцця. Ведаў, што не памрэ. Богам ці чортам яму даравана жыццё і далей, толькі трэба разлічыцца за мінулае, за тое, што ён натварыў у мінулым, разлічыцца за шматлікія мастацкія яго смерці і набыць цяпер безумоўнае права тварыць іх далей, тварыць смерць і нараджэнне. І калі на свеце існуе такі смяротны боль, то застаецца, захоўваецца і жыццё. Жыццё — гэта той жа боль, толькі размеркаваны ў прасторы і часе. І якое жыццё — такі і боль.

У яго гэта быў боль звярынай нечалавечай надзеі і ўпэўненасці ў тым, што будзе яшчэ нешта і наперадзе, потым, трэба толькі ўвесь час сачыць за сабой, каб не паддацца і не аддацца думцы: гары яно гарам усё, хай будзе што будзе, — бачыць увесь час дрыготкае полымя свечачкі наперадзе. Бачыць і не дазволіць свайму ж уласнаму дыханню патушыць тую свечачку, не даць болю замгліць, зацьміць святло.

І цяпер боль быў той жа самы. Толькі без пробліску. Безнадзейны, чорны, безвыходны. Само сабой неяк адрынулася, пакінула яго звярынае, засталося толькі адзінае, чалавечае асэнсаванне, што з такім болем, калі нідзе: ні ў сэрцы, ні ў галаве ні агеньчыка, ні іскрынкі — жыць не варта. Усё патухла і выгарала ад болю ў ім. Выгарала, пайшло прахам. І прах той быў яго. Вецер насіў той прах па зямлі, касмічны халодны вецер забыцця і прагі супакаення. Не бачылася, не было веры, як у такім буравеі што-небудзь можа застацца, ацалець, выжыць. Зоркі на небе і ў свядомасці і тыя патухлі. Ачахла сэрца, яму некага было больш любіць на гэтым свеце, не было з кім варагаваць. Пляваць яму было на ўсё гэта, на мастацтва і нават на усё чалавецтва. Пляваць, калі яно дазваляе загнаць сябе ў такі неймаверна безвыходны тунель, у такую чорную закаркаваную болем безнадзейнасці касмічную дзірку, з якой ён нават не здольны не бачыць, не ведае, каму і як можа перадаць, пераказаць свой боль.

І не варта было нікому перадаваць і пераказваць. Гэта ж некаму толькі пакуты, вечныя пакуты. Не трэба, каб чалавек зведаў усё гэта. З такога болю чалавек не здольны выйсці, застацца чалавекам, і ён, Майстра, па сваёй ахвоце сёння апускае ці падымае рукі, здаецца. Падымае ці апускае, але ўсё ж крыху спадзяецца на літасць пачварнага, перамогшага яго часу. У гэтым жыцці ў яго засталася яшчэ адна няспраўленая работа. І ён будзе не ён, калі не споўніць яе.

Гэта Майстра ўспомніў пра смокінг. Яго пашылі ўжо і прынеслі яму ў бальніцу. Бліскучы і чорны ён вісеў перад ім на крэсле каля ложка. Мо гэты смокінг і зводзіў яго ў чарнату, але ён жа і вяртаў з нябыту, бо Майстру ўвесь час так карцела ўстаць з ложка і апрануць яго. І легчы зноў у ложак, застыць, знерухомець у ім назаўсёды. Але так проста сатварыць гэта апошняе дзеянне ў сваім жыцці: апрануць, легчы, знерухомець — гэта было зусім не ў яго натуры. І ён маніў сабе, калі казаў, што ўсё ў ім выгарала, патухла і пайшло прахам. Ён столькі прытвараўся і іграў у жыцці, што падсвядома ўжо недзе прагнуў адрэжысіраваць, паставіць на агляд усім і сваю ўласную смерць, і яго натура, ідавочна, была мацней за яго смерць. І на бальнічным ложку, канаючы, ён не адыходзіў, а працягваў тварыць апошняе дзеянне сваёй уласнай жыццёвай драмы. Смяротнай драмы, дзе ўсё ж рэжысёрам застаецца не смерць, а ён сам, Майстра, бо што разумее гэта смерць у мастацтве. Набіць руку на вырабе табурэтак, на аднастайнасці рамізніцтва — гэта зусім не значыць стаць Майстрам, Ашырам нават не станеш у сваёй айчыне. Чаго-чаго, а ашыраў у ёй хапае. Кожны другі наверсе і ўнізе — Ашыр, татарын ці цыган у сваёй айчыне, з заемным словам, з падробнай гаворкай і непадробным нахабствам самаўпэўненай пасрэднасці. А непадробных, сапраўдных — толькі адзінкі на мільёны. І ім нельга марнаваць час нават тады, калі ля ног іх стаіць кашчавая са сваёй саржавелай касой. Пачакае, пакуль Майстра справіць сваю работу, і прыме яго.

А зараз у Майстра рэпетыцыя. Боль адпусціў яго, пэўна, як адпускае, падманліва адыходзіць ад чалавека ў яго

апошнюю хвіліну, дарue яму хвіліну на роздум і вечнае ўжо супакаенне. Толькі Майстра вырашыў патраціць яе на зусім іншае. Да яго якраз прыйшоў наведвальнік, сябра і памочнік, якому ён мог даверыцца. Увогуле трэба сказаць, наведвальнікі, адведнікі ішлі да яго бясконцай плынню. Сябры — паглядзець на яго апошні раз і нешта прачулае і добрае мовіць яму на развітанне, ворагі — каб на свае вочы дасведчыцца, убачыць, што яго ўжо не існуе, ён даў дуба. І зноў жа, трэба адзначыць, ворагі рабіліся яму сябрамі. Майстра рад быў іх бачыць, бо яны былі шчырымі, сябры ж траплялiся ўсякія.

Людзі ішлі, неслі курыва, ежу, прысмакі, а часам і гарэліцу. І з тым-сім ён браў па кроплі, сабе — для прыліку, сардэчнаму чалавеку — шклянку напоўніцу. Не шкадаваў ні пітва, ні закусі. І ніколі пры жыцці ён не раскашаваў так, не меў столькі адразу пітва і закусі. Аказваецца, паміраць не так ужо і блага, весялей, лепей, чымсьці жыць. Весялей, лепей, чым там, на волі. Вось толькі непярэліўкі, не здолеў ён ужо піць і есці. Маленькай лыжачкі маннай кашы хапала яму на цэлы дзень, і тую маленькую лыжачку даводзілася запіхваць у сябе. Толькі курыў ён па-ранейшаму, цыгарэтай, дымам жыў. І агеньчык прыпаленай цыгарэты сведчыў, што ён яшчэ жывы. З цыгарэтай яму не так маркотна было сустракаць і праводзіць адведнікаў, сяброў і ворагаў.

Зараз да яго прыйшоў сябра і паплечнік. Як ведаў, патрапіў у гадзіну прасвятлення.

— Адвярніся і стой, — ледзь не на парозе загадаў яму Майстра. — Заплюшчы вочы.

Порстка ўсхапіўся з ложка і, пакуль сябра ў недаўменні стаяў плячыма да яго, хуценька пачаў апранаць смокінг. Майстра ўсё ж пераацаніў свае сілы. Смокінг ніяк не хацеў налазіць. Цела азызла, аплыло, набрынялае перадсмяротнай ужо вадой, жывот уздуўся гарбузом. З вады чалавек прыходзіць, з вадой і адыходзіць, ужо трохі роспачна думаў ён. Яго цела, яго рукі не падпарадкаваліся яму, але ўсё ж ён справіўся з новым, нязвыклым яму адзеннем.

— Паварочвайся, можна, глядзі, — зноў гукнуў Майстра сябру ў парозе.

Той адплюшчыў вочы, павярнуўся і з простае душы шчыра войкнуў:

— Ну, чысты вярблюд, Ашыр.

— А ты быў бегемотам і застаўся ім... Ашыр...

Сябра ўцяміў, што ляпнуў нешта не тое, не падумаўшы, пачаў апраўдвацца:

— Да твару, да твару, да твару... Так далёка ад Парыжа, а ўмеюць жа шыць людзі. Нідзе не цісне?

— Па плячы, — сказаў Майстра. — Ты што, сумняваешся?

— Што па плячы — у гэтым сумнення няма. А вось як па целе?

— Калі па плячы, дык і па целе, хоць смокінг, хоць андарак, хоць шатландская спаднічка. І немцу, і беларусу, калі ён ад нараджэння не голы.

— Гэта ўжо так, тут анатомія адна... Ну, Ашыр, ну, кароль. Скажу табе прама і ўсю праўду: ну, і прыгожы ж ты, кароль, таварыш, спадар і містэр. Уразіў, забіў.

Майстра задаволена заўсміхаўся:

— Праз тры дні юбілей, не забыўся? Каб быў як штык. У меру п'яны, няголены і галодны, як сабака.

— Які юбілей, пра што ты гаворыш?..

Сябра пачаў нешта мармытаць, панёс такую лухту, што вушы вялі. Накшталт таго, што ён, Майстра, вельмі і вельмі хворы, а юбілей — такое напружанне, не кожны здаровы чалавек здольны яго вытрымаць. Вось калі ачуняе, паправіцца, тады можна і пачынаць гулянку на тыдзень ці два запар. І ў такім сэнсе сябра гаварыў доўга, хоць і не вельмі перакanaўча. Майстра бачыў усе белыя ніткі, чуў недагаворанае, але не хацеў гэтага ні чуць, ні бачыць. Ён ведаў усё. Ён ужо не паправіцца больш і не выйдзе з бальніцы сваімі нагамі. Адсюль яго панясуць нагамі наперад. Дзіўны, вельмі дзіўны звычай — нагамі наперад. Дзіцячая гульня, жыццёвая мана і пасля смерці. Калектыўны, традыцыйна асвячоны падман — рабіць выгляд, што і мёртвы нябожчык ходзіць сам, сам ідзе да сваёй магілы. Да чаго ж хлуслівая істота сама чалавечая існасць. І гэты хлусіць, як піша ці малюе, працягвае хлус-

ню. І ён сам, Майстра, падтаквае яму, згаджаецца з хлуснёй. Ён працягвае хлусіць і на смяротным ложы і будзе хлусіць нават у труне.

— Хопіць, хопіць, — сказаў Майстра. — Ты заслужоны і я заслужоны, ты народны, і я народны. Дык няўжо мы не заслужылі ў свайго народа раз у жыцці сказаць хаця б самім сабе праўду.

— А ты думаеш, народ хоча праўды?

— А чаго ж ён хоча?

— Зрелищ и хлеба. Ты добра ведаеш, чаго хоча народ, бо сам таго ж хочаш. Хочаш жыць. Дык і жыві па сваёй праўдзе, толькі ў сабе, усярэдзіне. А вокладка павінна быць падманнаю, зазыўнаю. Гэта мо і ёсць жыццё. Прывіднае, каляровае, як буквар для першакласнікаў. Інакш, з голай праўдай, як і з вечна голай бабай, ніхто не пажадаў бы жыць. Дасціпней і прасцей з букваром, чым з Гегелем і Гогалем. Гэта добра ведае кожны ўсенародна абраны на ўсёй тэрыторыі СНД... Месіі...

— Грышкі Распуціны. Канакрады і хлысты?

— Гэта для нас з табой зразумела — Грышкі Распуціны, канакрады і хлысты. А для некага і шмат, скажу табе, для каго — Месіі. З букваром пад пахаю і «Кратким курсом истории» ў сэрцы так зручна і лёгка крочыць, нікуды не збочваючы, у светлую будучыню. Куды цяжэй з глыбінь стагоддзяў несці крывавую праўду і памяць Пагоні.

— Пераканаў, — сказаў Майстра. — Пераканаў. Идущие на смерть приветствуют тебя, Цезарь. Толькі юбілей усё роўна будзе. Папраўдзе. Будзем жа з усмешкай развітвацца са сваім мінулым, як рабілі гэта разумныя грэкі, як робяць гэта разумныя дзеці матухны Зямлі.

— А ты з’ехаў з глузду... — хацеў яшчэ нешта дадаць сябра, але Майстра не дазволіў:

— Хопіць, увайшоў у глузд, увабраўся ў розум. З юбілеем ці маімі хаўтурамі, як хочаш, так і лічы, усё вырашана. Каб праз тры дні быў як штык. А цяпер прэч, бяры прас і гладзь білеты на аўтобус.

— Гладзь білеты, — пакрыўдзіўся сябра. — Пакуль ты тут ляжыш і канаеш, свет рухаецца наперад.

— І далёка ўжо дапяў? — спытаў Майстра. — Яшчэ людзі нешта ядуць на гэтым свеце ці ўжо, як цыганскія коні, адвыклі? Па чым новы опіум для народа — буханка хлеба?

— Расце, вечарам даражэй, чым зранку, — адказаў сябра. — Хутка адвыкнем і ад хлеба, будзем сыціцца ім упрыглядку. Толькі і мы не такія дурні. Не стаім на месцы. Я ўдасканаліў працэс і метады бясплатнага праезду ў гарадскім транспарце.

Сябра замоўк, пэўна, чакаў, як адгукнецца на гэтыя яго словы Майстра. Але той маўчаў. І сябра працягваў:

— Ты ведаеш, білеты сёння мала гладзіць прасам. Кантралёры пайшлі — што гады балотныя, празорлівыя. Але калі білецік перад тым, як гладзіць, яшчэ і падкрухмаліць, ніводная зараза не адрозніць ад новенькага.

— Во як, — Майстра быў сапраўды здзіўлены. — Во гэта ўжо штукары дык штукары. Перад такой вынаходлівасцю мне з маімі здольнасцямі сапраўды толькі застаецца: здацца, легчы і памерці. Але... пачакай, пачакай, каб другі раз выкарыстаць білет, трэба ўсё ж набыць яго і выкарыстаць першы раз.

— У яблычка, — пагадзіўся з ім сябра. — Тут таксама свая тэхналогія і метода. Адзін купляе, выкарыстаў — выкідвае. А другі ходзіць па аўтобусных прыпынках і збірае. Толькі канкурэнцыя вялікая. Але нічога не паробіш — рынак, рынак і адпаведна рыначныя адносіны. Могуць і морду набіць. Хочаш жыць — умей круціцца, будзь прадпрымальным.

— І багата ў горадзе сёння такіх новых беларусаў — бізнесменаў, прадпрымальнікаў?

— Лічы сам. Я дык мяркую, палавіна. Палова едзе ў новае жыццё па білетах, а другая палова, мо і большая, — безбілетнікі, зайцы.

— Я адмаўляюся, — сказаў Майстра. — Адмаўляюся.

Сябра ў запале яшчэ хацеў запярэчыць яму, але зірнуў на Майстра і ўбачыў, што ён сказаў гэта зусім не ў працяг іх мо трохі пуставатай гаворкі. Майстра стаяў плячыма да яго на фоне бальнічнага акна, набрынялага чырванню заходзячага сонца. Выразна сілуэтны ў чорным смокінгу з белым шлякам сарочкі пад ім, сярод белі бальнічнай бялізны і такіх жа беззачэпных воку бальнічных сцен. У чырвоную

шыбіну шкраблася голая галінка таполі, нібыта гладзіла і супакойвала тую распаленую крывавую шыбіну. А ў тым жа самым месцы, але з другога боку, з сярэдзіны, пагладжваў шкло мяккім дотыкам пальцаў і Майстра. Сябра зразумеў, што ён павінен пакінуць яго. Але адчуванне, што гэта хвіліна, калі яны разам, мо апошняя, развітальная, вымушала марудзіць, шукаць нейкіх адпаведных слоў. А слоў тых не было, усе толькі звычайныя, абыходкавыя. Абыходкавыя як напачатку, так і ў канцы. Подлае, беднае на словы і шчырасць жыццё...

І тут Майстра нечакана, нібы апёкшыся аб шыбіну, адхапіў ад яе руку, крута і рэзка павярнуўся тварам да сябра.

— Пра ўсё з табой пагаварылі, — сказаў ён, — а пра самае галоўнае забыліся...

І сябра, здаецца, быў згодны з ім, кіўнуў галавой і змрочна мовіў:

— Забыліся... Так заўжды бывае...

— Дык як ён там? — запытаў Майстра. — Адчувае, шануе новага гаспадара?

— Сумуе і плача, — сказаў сябра. — Заб'ецца пад ложак на цэлы дзень і не паказваецца. А ўначы вылезе і плача. І ў рот нічога не бярэ...

— Глядзі ты, — з пяшчотай і сумам у голасе сказаў Майстра. — Ёсць на свеце істота, якая плача і па мне...

Яны гаварылі пра ката, якога Майстра аддаў сябру перад тым, як легчы ў бальніцу, папрасіў дагледзець і не крыўдзіць, бо толькі гэтага чалавека яго кот і прызнаваў, усіх астатніх дзічыўся і пазбягаў. І пра ката Майстра ўзгадаў адразу, як толькі ўбачыў сябра. Але гаворку аб ім адкладваў і адкладваў мо, пэўна, і таму, што гэта гаворка, здавалася яму, будзе цікавай і прыемнай. А яна нечакана атрымалася горкай. І сябра, пэўна, таму ж не завёў яе першы, ашчаджаў яго, далікатнічаў.

— Ну вось што, — сказаў Майстра. — Так ужо і быць. Даручаю табе ката. Хай ён застанецца пры табе...

Дагаварыць Майстра не паспеў. Сябра, як стаяў сярод бальнічнай палаты, так і абваліўся на калені, працягнуў да яго сашчэпленыя далонь у далонь рукі:

— Не прымушай, не прымушай браць грэх і на без таго грэшную душу...

— Які грэх? — ашаломлена спытаў Майстра. — Які грэх?

— Вялікі, — адказаў яму сябра. — У мяне не было бацькі, а быў айчым. І я ведаю, што гэта будзе найвялікшы грэх на маёй душы...

Майстра ўсё яшчэ нічога не цяміў:

— Не бачу сувязі.... Ды падыміся ты з каленяў...

— Не магу, не магу. Таму загадзя прашу ў цябе прабачэння. Не пракармлю, не пракармлю я твайго ката. — І сябра заплакаў і на каленях папоўз да Майстра. Майстра, забыўшыся на сябе, на свой боль і знямогу, кінуўся да сябра. Ён зразумеў, адчуў, што боль і пакуты сябра куды больш жахлівыя і страшныя за яго. Такія прызнанні чалавеку лёгка не даюцца. Вось дзе яна, сяброўская шчырасць і чалавечая безвыходнасць і бездапаможнасць. Чалавек, хоць і таленавіты, разумны, дужы, а дайшоў ужо, як кажуць, да ручкі: ката, ката не здольны пракарміць. І гэта ўжо прыгавор. І перш-наперш прыгавор яму, Майстру. Бо ў гэтым прызнаюцца толькі тады, калі гэта далей не пойдзе ўжо, і таму, хто стаіць на краі магілы.

Да гэтага часу ён, Майстра, хоць і ўсведамляў, што больш не ачуняе, але не-не дый спадзяваўся, абнадзейваў сябе. Цяпер жа надзеі ўжо не было. Жыццё і бездапаможная шчырасць сябра пазбавілі яго ўсякай надзеі. Такі жорсткі і бязлітасны надыходзіў век. Век, калі сусед перад суседам замыкаў, браў на зашчэпку дзверы. Калі лепшы сябра ўмольна прасіў у душы свайго ж сябра, каб той, напрамілы Бог, абмінуў яго хату, не завітаў да яго ў госці, каб пазбавіцца вялікай ганьбы і няславы: пуста, пуста ў хаце, няма ж анічога і на стол паставіць госцю. Кату няма чаго даць. Дажыліся, дажыліся браткі-беларусы.

— Прабач мне, прабач, — прытуліўся да яго пляча і плакаў, ужо не хаваючы слёз, сябра. — Ты ж сам ведаеш, які надта ўжо ў цябе далікатны кот. Ты ж сам з ім мучыўся...

Аб гэтым Майстру можна было і не гаварыць. Пра свайго ката ён ведаў больш, чым пра сябе. Гэта была так званая

нарвежская чаротавая кошка, ды яшчэ з нейкім мусульманскім ці яўрэйскім ухілам, вывіхам. Сала ці што-небудзь з пахам свініны кот адмаўляўся есці наадрэз, як адмаўляўся і шмат ад чаго іншага: якіх бы там ні было костак, кураціны, бульбы, хлеба, малака. Мышэй лавіў спраўна і па-кацінаму спрытна. Але есці іх не еў, доўга і смачна гуляў з напаўзадушанымі. Здавальняўся гульнёй з імі дзе-небудзь сярод грады на дачы ці ў пакоі там жа — цягнуў мышку і клаў у ложак гаспадару. І цікаваў за ім з якога-небудзь патаемнага кута: з'есць ці не, ці даспадобы прыйдзецца тая мышка гаспадару. З удзячнасцю прыпадаў да ўсякіх замежных кіцікэтаў і айчынных вантробаў гавяды. Але дзе на гэтыя кіцікэты набярэшся грошай. А што да танных вантробаў, то на іх апошнім часам налегла ўся Беларусь, як некалі Савецкі Саюз на камбалу — так налёг, што яна зрабілася пляскатай.

Некаторы час адзіным паратункам была каўбаса-крывянка. Але, пэўна, і яна прыелася, надакучыла ўжо кату. Ён толькі нюхаў яе і адразу адварочваў мысу, адыходзіў. І Майстра папікаў яго, угаворваў і пагражаў нават:

— Жары, зараза замежная, жары, буржуй чортаў. Во, глядзі, я, наскрозь усюды заслужаны, аблаўрэачаны, народны здабытак, — ем, аж за вушамі трашчыць, а ты...

Такія ўшчуванні дапамагалі не вельмі. І тады Майстра заціскаў ката між ног, адной рукой, каб не драпаўся, трымаў яму лапы, а другой — запіхваў крывянку кату ў пашчу. Карміў, як нейкага дысідэнта, вязня, прымусова. Кот енчыў, плакаў натуральнымі слязьмі, хрыпеў, фурчэў, а ўсё ж вымушаны быў, каб не задушыцца, каўтаць тое, што яму запіхваў у рот гаспадар. Але, здаралася, потым і помсціў гаспадару. Як апараны кіпнем выхопліваўся з рук гаспадара. Хвост трубой — і некалькі хуткіх прабежак па хаце. А потым падыходзіў да гаспадара, хвост зноў жа трубой і тулава гарбом, і кожная валасінка, што ў вожыка, паасобку, і голас брыдкі-брыдкі — гэта так ён лаяўся па-беларуску і на беларусаў. А аднойчы дык не вытрываў, так абурыўся, што знайшоў тое, што больш за ўсё патыхала гаспадаром — чаравікі яго. І напрудзіў у кожны. Адпомсціў амаль што па-чалавечы.

— Свіння ты, — толькі і сказаў на гэта Майстра. — Нічога горшага прыдумаць не мог. Лепш бы ў штаны мне, а яшчэ лепш сабе. У чалавека ж апошнія чаравікі.

І кот, пэўна, зразумеў яго. Зразумеў, што такое апошнія чаравікі сёння ў чалавека, зашыўся пад канапу, цэлы дзень не паказваўся. Толькі лыпаў адтуль вінаватымі зялёнымі вачыма. І больш не помсціў так гаспадару, хоць той час ад часу і працягваў карміць яго прымусова, жорстка і бязлітасна, як вязня, дысідэнта ў турме. І абодва яны пры гэтым горка плакалі. Майстра моўчкі ў душы абліваўся слязьмі, а кот уголас, хоць і ціхенька, умольна.

Але ж тыя слёзы, бачныя і нябачныя, былі і ачышчальнымі, выратавальнымі. Кацінaя бездапаможнасць і пакуты надавалі Майстру дужасці, моцы трымацца за жыццё і працягваць яго, змагацца за яго. Не столькі для сябе, колькі для таго ж ката знаходзіць і выбіваць нейкую капейчыну. І радавацца, радавацца, калі ў кацінім жыцці выпадала свята і той мог паласавацца ці то рыбінай, ці кіці-кэтам. Кот, клопаты аб ім былі для Майстра паратункам, той саломінкай, цыбулінкай, што вымушала яго рупіцца, пазбаўляцца прывіднага сну, у якім апошнім часам знаходзіліся амаль усе, каго ён ведаў.

У тым вяжучым сэрцы і галаву сне знаходзіўся і сябра Майстра. Гэтага чалавека трэба было ратаваць, ратаваць ад яго ж самога, бо ён ужо змірыўся са сваёй снуласцю. Ён здаўся. Мо заснуў канчаткова і таму абыякавы да жывой істоты, да таго ж ката, клопату аб ім, клопату аб чужым жыцці, што рвецца на яго ж вачах. Ён ужо не дбае, не думае і аб сабе. І толькі клопат аб чужым жыцці, аб некім больш няшчасным, чымсьці ён сам, здольны, пэўна, яшчэ абудзіць яго. Такое, хоць і жывёльнае, на мяжы інстынкту існаванне яшчэ здольна ўсё ж абудзіць чалавека.

— Прабач мне і глядзі, слухай, — даводзіў Майстру сябра. — Наперадзе зіма, каб гэта ды на вясну, лета, то нічога страшнага. Чорт бы яго не ўзяў. Дзе б казюрку якую знайшоў, лісток, траўку пасмактаў, прызвычаіўся б мышэй есці. А зіма ж наперадзе. Не толькі кату, а людзям зіма. Крывянка

ў Мінску знікла, ці такія чэргі... Пра ліверку ўжо і не кажу, самому паласавацца не выпадае. І калі перавесці толькі на крывянку — гэта, лічы, мінімальная наша беларуская зарплата...

— Хопіць, — сказаў Майстра, — хопіць... Зіма наперадзе, зіма. Што ж рабіць нам з гэтым няшчасным катом?

— Не ведаю, братка, галавы не прыкладу, чалавеча.

— Хопіць сілы аднесці ў ветлячэбніцу і ўсыпіць?

— Ты што? — адхіснуўся сябра ад Майстра. — Грэх жа.

— Вось і я з такім грэхам не магу. І сілы, дужасці не маю падняцца. Ты разумееш?

— Як я цябе, братка, разумею...

— Разумець мала. Трэба браць на сябе і адказнасць.

— Якую адказнасць: забіць?

— Не, братка, не. Ты прасіў у мяне прабачэння. І я табе кажу, прабач мне, прабач: адказнасць, мне здаецца, застацца чалавекам хаця б у вачах ката. Бо большай адказнасці мы сёння на сябе ўскласці няздольны, мо залічыцца, братка, мо якраз гэта і залічыцца... Цягні да вясны. Ты разумееш мяне?

— Разумею, разумею, але...

Майстру заблажэла, ён пачаў хапатліва распранацца, ківаючы пры гэтым рукой, маўляў, ідзі, ідзі, я не хачу, каб ты бачыў мяне і запомніў у пакутах, — і ўпаў на ложак, як толькі за сябрам зачыніліся дзверы, так да канца і не распрануўшыся, у смокінгу і з чырвонай, як застыглая кропля крыві, бабачкай на шыі, з іранічнай усмешкай на вуснах ад усведамлення таго, што вось нарэшце ён дамогся, збылася мара, ён у смокінгу. Можа, застацца ў ім назаўсёды, пайсці ў ім далёка-далёка, дзе ніхто не здолее пакпіць з яго, распрануць яго. Толькі сам ён нікуды не пойдзе і не дасца, каб панеслі без яго, Майстра, на тое згоды. Хай носяць на руках іншых нябожчыкаў, згаворлівых і памяркоўных. Згаворлівых і памяркоўных, вунь колькі іх развялося, што мышэй у свірне, усе на ўгрэўных кормных крэслах. А ён быў, ёсць і застанецца самім сабой.

І з юбілеем усё было вырашана. Вырашана даўно, загадзя. Перад бальніцай яшчэ. Адзінае, што ўмела яго дзяржава, на

што была здольная — гэта праводзіць паказальныя юбілеі і такія ж паказальныя пахаванні. Па рангу, па рэгламенту: добрых юбіляраў і нябожчыкаў — у добрыя труны, паганых — у паганыя. І каб, не дай Бог, хто-небудзь ды не заняў чужую, не па яго чыну магілку.

І што самае жахлівае, самае мярзотнае — гэтае раздзяленне па рангу і чыну нябожчыкаў ні ў кога не выклікала ніякіх нараканняў. Мёртвы клаўся ў сваю магілу, згодна яго прыжыццёвага статусу, а жывы, які не дарос да яго вышыні, ведаў, што ён ляжа ў больш сціплае і далёкае ад роднага чалавека месцейка. Так назаўсёды ўжо разлучаліся бацька з маткай, муж з жонкай, брат з братам. І на гэтым перш-наперш, пэўна, і трымалася сістэма. Не на закрытых размеркавальніках пры жыцці, як гэта заведзена гаварыць, а на прывілеях, асвячоных і прадпісаных уладамі, калі прыходзіла смерць, як сведчанне і перасцярога: не, не ўсе роўныя і перад смерцю.

Так усталявалася і запанавала нейкае пазасветнае, нават пазамагільнае жыццё на гэтым, існуючым яшчэ, жывым белым свеце. Усталявалася, каб працягваць такое ж развядзенне і дзяленне сярод нябожчыкаў. Нябожчыкі, пазбаўленыя голасу і жадання, дыктавалі жывым, як іх прыбіраць, у якія труны класці, як і на якія могілкі везці. Жывыя спаўнялі заключанае з імі пагадненне, развозілі нябожчыкаў адразу каго ў пекла, каго ў рай. Партыйны, чыноўны рай і беспартыйнае, беспасаднае пекла. Нябожчыкі больш правілі з таго свету, чымсьці жывыя. І была паміж імі маўклівая згода і змова не перамешваць паміж сабой чыстых і нячыстых.

Але ніколі не драмаў жывы ці мёртвы нячысцік, хаця, падобна, таксама куплены і задобраны некім на тым ці на гэтым свеце. Толькі, пэўна, куплены не да канца, бо час ад часу пачынаў выкідваць чорцікаў. І тады пачыналі тасаваць: нябожчыкаў адушаўляць і амярцвяць жывых. І жывыя пачыналі прагнуць нябожчыкаў, нябожчыкі зажадалі жывых. І тады ж пачынаўся вялікі жудасны рогат і вялікае жахлівае галашэнне на тым і на гэтым свеце.

І ўставалі, і падымаліся з магіл нябожчыкі, клаліся ў магілы жывыя. Мо якраз і сёння прыспеў такі час. Угнявіліся на тым і гэтым свеце, няправільна і няpraведна разлучоныя і падзеленыя, абражаныя і пакрыўджаныя. Сышліся разам крыўдзіцелі і пакрыўджаныя, гвалтаўнікі і згвалтаваныя, паміж імі ўсчалася апошняя і самая жорсткая бойка. Нябачная і бяскроўная, і таму жахлівая, бязлітасная, каб і праху ўжо чалавечага на зямлі не засталося.

Мо гэта з ім адбываецца тое ж самае, б'ецца ён з некім з таго свету і з кожным на гэтым свеце. І недзе, адбегшыся ўбок, цікуе за ім і падбухторвае нячысцік. Яго ўласны нячысцік, бо ён сам і з'яўляецца нячысцікам. Ён жа таксама, пратэстуючы ў душы, разлучаў, падзяляў людзей. Ёсць, ляжыць на яго душы такі смяротны грэх. Хоць і сыходзячы, падпарадкоўваючыся службовым абавязкам, ён таксама хаваў усіх сваіх сяброў і паплечнікаў, кіруючыся іх чынам і рангам. Вялікі пан, высокі чын, не зважаючы, добры ён чалавек ці не — у вялікую залу і шыкоўную труну, на прэстыжныя могілкі. Раскашуй, пануй, як раскашаваў і панаваў пры жыцці. Няма пашаны — у маленькую залу і танную труну і на занядбаныя могілкі. Ляжы, небарака, і не рыпайся. Ёсць на яго душы такі грэх. Але, здаецца, яму нейкае, хоць і маленькае, апраўданне ёсць. Хаця мо гэта і не апраўданне, а новы грэх. Хай судзяць яго, як хочуць, толькі ён пра сябе ведае: калі ён ішоў на гэты грэх, ішоў свядома, бунтоўна і насуперак чужым меркаванням, быў упэўнены, што так і трэба рабіць па ўсіх чалавечых і боскіх законах. А калі гэта грэшна, то ён адкажа за гэта перад Богам і людзьмі. Гэта ж не толькі яго грэх, але і крыж.

Майстра заварочаўся ў ложку, намацваючы галавой гэты свой крыж-грэх. Ён быў на месцы. І Майстра супакоена мовіў сам сабе:

— Мулка, мулка, хоць і ў смокінгу...

І падумаў яшчэ пра сябе, што хутка, хутка не будзе ўжо мулка. І адчуў, што зноў грашыць у думках і памерах. І няздольны пазбавіцца грахоўнасці нават у апошнюю чыстую хвіліну. Нават у апошнюю хвіліну ён застаецца цалкам

падпарадкаваным таму, што пярэчыць сумленню. У марнай мітусні адбыў свой век на гэтым свеце і з такімі ж марнымі памкненнямі адыходзіць. Не дадзена, не стрэсці яму з ног і рук свой час і сваю эпоху. Жыў — увесь час да некага прыпадаў, на некага спадзяваўся, тое ж робіць і цяпер. Канае па жаданні правесці юбілей, каб не сам, а нехта яго правёў. Канае, каб пахавалі яго ўсё ж па рангу. І гэта раззлавала яго, вымусіла шукаць апраўдання душэўнаму свайму бязладдзю.

Дзяржава не здольна аплочваць яго працу, каб забяспечыць прыстойнае жыццё яму і яго кату. Але мае і дае вялікія грошы, каб напышліва і з вялікай помпай адсвяткаваць яго юбілей. І з такой жа вялікай помпай пахаваць яго, адсвяткаваць хаўтуры. Бо такім чынам бацькаўшчына і ўлада, якой здавалася, што яна атаясамлівае гэтую бацькаўшчыну, хавалі канцы. Што не маглі і не здольны былі даць пры жыцці, выдавалі пры канчатковым разліку — па ўрачыстасцях юбілею і журбе хаўтур. І тым самым захоўвалі свой твар. І не толькі захоўвалі, але і паказвалі яго ўсяму народу: глядзіце, маўляў, усе — ды не туды, на юбіляра ці нябожчыка. На нас глядзіце, як мы зычым ім, як мы дбаем пра іх. Як мы зычым і дбаем пра айчынную культуру. У нас яшчэ захавалася і слязінка па ёй, а трыццаць срэбранікаў мёртваму нам зусім не шкода. Ён сваёй смерцю заслужыў іх і адробіць. Мёртвыя — адробяць. Гэта з жывымі заслужанымі і народнымі цяжка — жывыя, яны няўрымслівыя і непакорныя. А мёртвы Майстра ў труне — паслухмяны і памяркоўны, як і належыць быць сапраўднаму беларусу. Мы яшчэ і сцяг яму дадзім і наперад яго, наперад, хай нясе. І няпраўда, што мёртвыя сцягоў не носяць. Носяць, у нас панясуць. І як яшчэ борздзенька. Нашы нябожчыкі лепшыя ў свеце. Ніводзін з іх яшчэ не падвёў нас. О, каб гэта ды ўсе жывыя такімі былі, мы б ім такія хаўтуры наладзілі! І з дапамогай мёртвых яшчэ наладзім, наладзім. Так што ў чаргу, майстры і дзеячы, у чаргу ўсе. Згодны ці не згодны з намі, пад якімі сцягамі вы зараз ходзіце — нам пляваць. Мы ведаем добра, пад якімі пойдзеце потым, потым. Даць кожнаму з вас па

сцягу — гэта наша задача, бо толькі мы ведаем, якіх сцягоў хоча народ, за якімі сцягамі пойдзе, пабяжыць.

Майстра і пры жыцці ні пад якімі сцягамі не хадзіў, хаця без сцяга жыць у яго краіне было амаль немагчыма. Асцяжвалі кожнага, хто хоць трошкі ды высоўваўся з шэрых шэрагаў нудотнай бяздарнасці. Толькі ён не пайшоў у сцяганосцы, неяк атрымалася вылузнуцца, прыкінуцца прыдуркам. А пасля некалькіх захадаў ад яго адчапіліся, маўляў, «не от мира сего», бажавільны, што з яго возьмеш. Але нам патрэбны і такія. Хай свет бачыць, што мы нікога не заціскаем, даём жыць і існаваць усім. Правінцыя, да якой ён належаў, правінцыяльная ўлада пакінула яго ў спакоі. А Масква нават і вылучала, адзначала косткай з панскага стала, адзначала замежжа. Так ён і жыў, прызнаны ў свеце і нікому амаль невядомы ў сябе дома.

Калі пачаўся ператрус улад, мітрэнга са зменай шыльд і накірункаў, пайшло стварэнне мноства партый — кожная з іх лічыла за гонар далучыць яго да сябе і галасна абвяшчала, што Майстра з імі і толькі з імі. Ён нічога не абвяргаў, называйце, запісвайце хоць у чыгуны, толькі ў печ не стаўце. А ён быў і застанецца медным кацялком. Ён далучаны, запісаны ўжо ў адну партыю і застанецца ў ёй пажыццёва, лепшай партыі за ўсю шматвяковую гісторыю чалавецтва не здолела стварыць. І не створыць, бо ў яе трапляюць толькі два-тры чалавекі са стагоддзя. І якраз тыя, што пры жыцці цураюцца, адмаўляюць усялякія сцягі.

Майстру імкнуліся даць сцяг, зрабіць яго сцягам і ў самы апошні час, калі ён ляжаў у бальніцы. У бальніцу да яго прыйшоў сам міністр. Той самы жартаўнік, які выпраўляў яго ў Канатоп замест Парыжа. Гарэла зямля пад нагамі новай улады. Прыпёрла. Майстра зрабіў выгляд, што і яму прыпёрла няўсцерп. Прыкра прыкідвацца, але іншага выйсця не было. Дый не вельмі ён прыкідваўся. Апошнія некалькі дзён Майстра няздольны быў сам схадзіць у прыбіральню, хоць нічога амаль ужо не еў, так спяклося, закарэла ўсё ўсярэдзіне. Там, усярэдзіне, ён паціху выгараў. Ад цела заставалася толькі вонкавая абалонка. І Майстра трохі папраўдзе, а трохі

прыкідваўся, што яму край трэба, як гавораць сёння новыя беларускія, факс пайшоў. І міністр толькі паспеў выцягнуць з папкі белую прасціну паперы, спярэшчанай шматлікімі подпісамі, толькі пачаў:

— Дэмакратыя ў небяспецы, і ўсе сумленныя людзі, хто за законнасць і сапраўдную канстытуцыю...

Майстра адразу ўцяміў, што яго загналі, заганяюць у кут. І выйсця ў яго ніякага няма, няма ніякага паратунку, толькі... толькі прыадчыненыя дзверы прыбіральні. У прыбіральню ён і рынуўся з крыкам:

— Пачакай, пачакай, факс пайшоў...

Міністр не адразу зразумеў яго манеўр і праз зачыненыя ўжо дзверы прыбіральні доўга даводзіў Майстру, што такое сапраўдная дэмакратыя і канстытуцыя, што краіне патрэбна цвёрдая ўлада і моцная рука. А Майстра, тужачыся, жаліўся яму на свае цяжкасці, пра ненармальны стул, штодзённыя клізмы. Жаліўся, спачатку пасміхаючыся, бо думаў пра тое, што не шкодзіла б паставіць добрую клізму і міністру і ўсяму ўраду, мо б паразумнелі.

— Ты ведаеш, — казаў ён, — раней не хадзіў на двор, бо не было з чаго. І не думаў, якая гэта адказная, сур'ёзная справа.

— Вельмі адказная і сур'ёзная,— нібы падтакваў яму міністр, — вырашаецца лёс краіны і народа.

— Ну, пра краіну і народ я не ведаю. А мой лёс на гэтым стульчаку сапраўды вырашаецца...

— Лёс кожнага, у тым ліку твой...

— Так, так, — падтакваў яму Майстра. Тут ён быў згодны з міністрам. Зараз лёс яго сапраўды вырашаўся, і адразу з двух бакоў: ці не падпіша ён тую паперчыну і захавае свой твар і ці апрастаецца ён нарэшце, вызваліцца ад спапяляльнага агню ўнутры, ад тых нажоў, кінжалаў, відэльцаў і бітага шкла, што, напханыя, сядзяць у яго ўсярэдзіне, рэжуць пажывому, дратуюць змучанае цела.

— Сумленная інтэлігенцыя, сумленныя майстры мастацтва...

— С... я на іх хацеў, — няздольны ўжо стрымліваць сябе, грымнуў міністру з прыбіральні. — Кліч сястру з клізмай.

— Што? З клізмай?.. — пэўна, толькі ўваходзячы ў раж, разгубіўся міністр.

Майстра адказаў яму дзікім вар'яцкім рогатам і скрыгатам зубоў.

І скрыгат, і рогат былі непадробнымі. Адначасова было і смешна, і балюча, прыкра і весела. Прыгадаўся анекдот пра новых рускіх ці беларусаў, што вось таксама сядзелі на ўнітазах і высвятлялі, якую працу яны спраўляюць — фізічную ці разумовую, і ўрэшце пагадзіліся, што разумовую, бо калі б гэта была фізічная — яны б каго-небудзь нанялі. Чорны гумар — мастацтва пераходнага перыяду — кіч, папса і нейкі новы пост-...нізм. Вялікі пост культуры і яго трагедыя.

А ўвогуле ніякай трагедыі не было, хутчэй разыгрывалася вельмі старая, вечная драма ў новым прачытанні і з новымі варыяцыямі. Разыгрывалася не на сцэне тэатра, а на прасцягах некалі адзінай, вялікай і магутнай краіны. Аўтары і рэжысёры даўно ўжо сканалі, адышлі ў нябыт. А справа іх жыла. І з таго свету, з маўзалеяў, крамлёўскіх сцен яны кіравалі спектаклем, іншым разам і самі бралі ўдзел. Часцей за ўсё ўдзельнічалі і самі, калі дзея адбывалася на плошчы. Каменныя, гранітныя і бронзавыя камандоры пад гвалт і воплескі натоўпу пакідалі, сыходзілі са сваіх п'едэсталаў і станавіліся ў шэрагі пад сцягі сваіх прыхільнікаў. А калі там, на плошчах, былі зусім іншыя, не мелася іх сцягоў і прыхільнікаў, яны маскіраваліся, апраналіся па апошняй і самай распаўсюджанай модзе новага дэмакратычнага часу — у вужыную форму АМАПа і, стоячы за плячыма таго ж АМАПа, увайшоўшы ў душу кожнага з іх, тварылі тое, што і пры жыцці, на чым набілі руку на гэтым свеце. Трашчалі рэбры і чарапы, цякла кроў.Усё паўтаралася, усё паўтаралася так, што і рыхцікі сыходзіліся. Мізансцэна, якую разыгрываў зараз ён перад міністрам, адзін раз у жыцці Майстра была ўжо адыграна амаль з тым жа рэквізітам, пры тых жа дэкарацыях, што і цяпер. І нават дзеючыя асобы былі адны і тыя ж.

У той увогуле чыстай і белай краіне, у якой пашэнціла і наканавана было жыць Майстру, у вялікай пашане была чорная магія. І таму быў вялікі перабор чарцей. Чэрці, як

ім і прызначана, згодна іх статуса, час ад часу наладжвалі прарэджванне ў сваім асяродку, таму што ў іх ад прыроды мелася схільнасць да палявання. Ну, любілі яны паляванне, і ўсё тут.

Напачатку яны вынішчылі, абклалі, забілі некалькі мільёнаў з тых, хто быў абцяжараны белай магіяй. І калі такіх звялі, — няма чаго рабіць — пачалі прыглядацца адзін да аднаго: адстрэльваць тых, у каго была хоць нейкая мецінка. Адстрэл быў зацяты і доўгі. Гэта ж таксама вялікая асалода — цішком нагадзіць у каструлю не каму-небудзь, а свайму паплечніку і лепшаму сябру. І зрабіць гэта першым, пакуль сябра цябе не апярэдзіў. Увогуле гэта, на жаль, любімы занятак не толькі чарцей. Адсюль і наша прымаўка: бі сваіх, каб чужыя баяліся.

Але пакуль білі сваіх — чужыя пладзіліся. І самі, умытыя кроўю, чорныя магіянцы бялелі. Неадмыўна чорная зграя зноў вярталася на свае зыходныя пазіцыі, пачынала вышукваць і адстрэльваць тых, хто хоць трошкі пабялеў. Вось так і вялося, мелася, маглося і жылося. Такі быў вечны кругазварот, як змена пары года ў прыродзе: снег падаў — стралялі чорных, снег раставаў — белых.

Тае пары снег якраз раставаў. І набірала моцы хваля народнага гневу і абурэння: метэаролагі абяцалі неўраджайнае лета. І трэба было знайсці таго, хто наклікаў тое неўраджайнае лета, каб з поўным правам прагаласіць на ўвесь свет: прыйшла зіма, надыходзіць лета — дзякуй партыі за гэта. Вінаваты знайшоўся хутка і адразу. І, канечне ж, белая варона сярод варон чорных, бо на сваю бяду каркала не так і не туды.

Па завядзёнцы першым прыкмеціў гэта нейкі пільны рабочы нейкага завода ў глыбінцы. Прасігналіў у газеце «Труд». Сялянства было не менш пільным, што і засведчыла даярка ў «Сельской газете». Не засталася ўбаку і працоўная інтэлігенцыя разам са студэнцтвам. Чарга была за творчай інтэлігенцыяй. Майстра адчуў гэта, прачытаўшы «Правду» і «Известия», і наладзіў лыжы з хаты і горада наогул. Яго знайшлі ў маленькім занядбаным гарадку ў глыбіні Палесся.

Да гасцініцы зранку яшчэ, ён не паспеў толкам і прачнуцца, пралысіць вока, падскочыла чорная «Волга». Яго прывезлі ў гаркам партыі, правялі пад рукі ў кабінет першага сакратара. Той спытаўся, ці чытаў ён апошнюю прэсу. Майстра з лёгкай душы схлусіў, што не чытаў. І гэта не было сапраўднай хлуснёй, ён ведаў, да чаго зводзіцца пытанне, але апошняй прэсы папраўдзе не чытаў.

Першы сакратар параіў яму пачытаць і падаў нават, пэўна ж,загадзя падрыхтаваны тоўсты скрутак сталічных газет ці не фельд'егерскай поштай дастаўлены сюды, бо ў горадзе меўся адзіны кіёск «Саюздруку» і той быў забіты дошкамі, у ім жылі каты і гадзілі наведвальнікі другога кіёска, што месціўся насупраць яго, — «Піва». Майстра не паспеў падзякаваць першаму сакратару за такі дарагі падарунак, як на стале ў сакратара працяглымі і доўгімі званкамі міжгароднняй сувязі выбухнуў тэлефон.

— На дроце Масква, — пачуў Майстра з трубкі, якую сакратар не паднёс нават да вуха, а падняў у паветра і трымаў як сцяг і, нічога не слухаючы больш, адразу перадаў Майстру.

Сакратар не памыліўся, Масква выклікала менавіта яго, Майстра. Не памыліўся і Майстра, надышла чарга і творчай інтэлігенцыі мовіць абуральнае слова ў адрас белай вароны. Званіў сам галоўны рэдактар газеты творчай інтэлігенцыі. Рыхтавалася ў друк выкрывальнае і асуджальнае пісьмо, збіраліся подпісы. Майстра закруціўся, што вюн, якога жыўцом прысыпалі соллю, каб ён пазбавіўся балотнага паху і колеру.

— Прэсу вам перадалі? — спытаўся галоўны рэдактар.

— Перадалі, але...

— Знаёмцеся пакуль. Мы вам пераззвонім.

— Добра, але... Алё, алё...— Тэлефон маўчаў, Масква паклала трубку.

— Алюшкі ў хлеў, — сказаў Майстра і таксама паклаў трубку.

У гасцініцы ён адчуў, што яго пасвяць. У змрочнай пярэдняй на адзіным у ёй кульгавым крэсле сядзеў малады дзяцюк у пінжаку і пры гальштуку і старанна вывучаў нейкую газету на замежнай мове, ці не «Москаў ньюс». Майстра хацеў

пакпіць з яго, прапанаваць перасесці да акна ці ўключыць святло. Але своечасова апамятаўся. Жартачкі маглі вылезці бокам. Справа закручвалася, па ўсім, вельмі крутая.

Ён сабраўся ў сваім нумары, сцікаваў праз напаўзачыненыя дзверы, калі «чытач» некуды адлучыўся, і выслізнуў на вуліцу.

А праз некаторы час Майстра сядзеў адзін у купэ, а мо і адзіны на ўвесь вагон пасажырскага цягніка і ехаў невядома куды, дзе няма ні гаркамаў, ні тэлефонаў. Толькі дапяць да такой невядомасці і глушы яму не далі. Праз нейкую гадзінудругую ў яго з'явіліся ўжо спадарожнікі, чацвёра мажных маладых мужчын. Па-гаспадарску агледзеліся, абышлі ўвесь вагон, размясціліся ў суседнім з ім купэ. А неўзабаве завіталі і ў госці. Спачатку зазірнуў адзін, папрасіў дазволу зайсці. Далікатны, ветлівы, таварыскі.

Пры другіх абставінах і ў іншым месцы Майстра б ніколі не падумаў, што ён адтуль і з тых. А ў тым, што ўсе яны з тых і адтуль, Майстра ніколькі не сумняваўся, бо ўбачыў сярод іх хлопца з гасцініцы, аматара «Москаў ньюс». Гэты ж, што завітаў да яго ў купэ, быў поўнай процілегласцю ўсім тром. Старэйшы па ўзросце і без усякага знаку, мецінь, паху той установы, да якой быў прыпісаны. Усмешлівы, кароценькі, хоць і залішне поўны, але па-здароваму поўны, што наліты сонцам свежы, толькі-толькі акруглены агурочак з грады. Хутчэй з пароды падначаленых, дробных служачых, чыіхсьці ахоўнікаў і даглядальнікаў, бухгалтараў сярэдняй рукі, інжынераў. Да гэтай удаванай і вельмі распаўсюджанай у той час пароды ён адразу далучыў і Майстра, змеціўшы, што той уважліва чытае «Литературную газету». «Литературка» была тады нязменным і мо адзіным атрыбутам сярэдняй інтэлігенцыі, сведчаннем і сцягам вальнадумства.

— Якую там раку зноў асушылі ці павярнулі, якое глупства сатварылі? — спытаў «гурочак»-бухгалтар у Майстра.

— Здаецца, яшчэ ніякага... Ды ў нас і не можа быць глупства...

— Можа, можа, і ўсякае, — паціраючы рукі, мовіў «гурочак». — Вы толькі паглядзіце, што з літаратурай, што з яе

майстрамі вытвараюць. На Захадзе ўжо даўно рэалізм без берагоў, а мы як прыбіліся да сацыялістычнага рэалізму. Экзістэнцыялізм нам...

— Прабачце, — сказаў Майстра, — я ў гэтым тупы, што сібірскі валёнак. Чукча не чытач, чукча пісьменнік, мастак. І ў мяне зусім іншая хеўра...

Майстра адчуў, што яго распрацоўваюць па ўсіх правілах дазнавальнага ахоўнага жанру. Занятак, на яго думку, марны і пусты. Усё, што адбудзецца тут зараз, мо праз нейкую хвіліну, было зразумела і гэтаму «гурочку», як толькі ён убачыў Майстра. Чаго ж марудзіць, цягнуць ката за хвост.

А «гурочак» цягнуў. І, відавочна, яму было цікава цягнуць. І цікавасць тая, па ўсім, была не толькі службовай. Чалавек, відно, сапраўды адукаваны, ён прагнуў і чыстай вады з чыстай крыніцы, калі толькі за гэтым у паводзінах «гурочка» не было прыхавана і нешта іншае. Рафініраваная вытанчанасць прафесіянала вышэйшага класа, найбольшая асалода якому пагуляць са сваёй ахвярай у кошкі-мышкі. І яны таўклі інтэлігенцкую ваду ў ступе, пакуль да іх у купэ не зазірнуў знаўца англійскай мовы. Па-англійску ён і загаварыў з «гурочкам». Майстра зразумеў, але той адразу пераклаў:

— Ёсць канкрэтная прапанова на мясцовасці, як вы?

«Ну вось і пачынаецца, — падумаў Майстра, — надыходзіць сапраўднае вяртанне да свайго барана. І ён гатовы быў стаць бараном, ягнём на пагібель. Толькі на дзіва яму, прапанова была адразу і падмацавана дзвюма бутэлькамі адборнага пяцізорачнага армянскага каньяку. І адпаведная яму закусь знайшлася — лімончык, сыр. Майстра палічыў, што дабро не павінна прападаць, не было і пэўнасці: ці давядзецца яму калі-небудзь яшчэ выпіць на халяву з дзяржстрахам. Было нешта ў гэтым, было. Не ўсё ж «гурочку» хлыздзіць. Пад кілішак-другі адборнага каньяку ён нават прыпаў да вуха «гурочка» і шэптам спытаў:

— У якім вы званні?

«Гурочак» лагодна ўсміхнуўся і таксама на вуха яму адказаў:

— Пакуль што маёр. Але адчуваю, што скора атрымаю падпалкоўніка, ёсць падставы.

— Дай вам Бог, — шчыра пажадаў яму Майстра. І тут Майстру падпёрла, не так ужо моцна, каб зусім няўсцерп. Але прыродная грэблівасць і звярыная сялянская прага да чысціні падказалі яму, што перад тым, што тут адбудзецца, трэба апрастацца. Яму ж невядома, як, да якой ступені загадана ім паўшчуваць яго. І будзе вельмі брыдка, непрыстойна, калі тое, аб чым ён падумаў, здарыцца з ім на іх вачах. Па ўсім, яшчэ меўся і час наведаць прыбіральню і падрыхтавацца, аблегчыцца. Другая бутэлька каньяку апусцела толькі напалову. А хлопцы, відно, грунтоўныя, яны не стануць псаваць ні сабе, ні яму абед. Дап'юць, даядуць, што ёсць на стале, і тады толькі пачнуць. Тут ён памыліўся, але высветлілася гэта ўжо крыху пазней.

Майстра зноў схіліўся да вуха «гурочка» і шэптам папрасіў дазволу схадзіць у прыбіральню. Той нават абурыўся:

— Якая можа быць гаворка! Трэба дык трэба...

Але ён не прыкмеціў, як пры гэтых словах «гурочак» падміргнуў сваім сутаварышам. Не паспеў падняцца, як адзін з іх ужо выйшаў з купэ, другі ўстаў за яго плячыма. Так яны і пакрочылі па калідоры. Адзін наперадзе, другі ззаду, а пасярэдзіне Майстра. Той, што быў наперадзе, праверыў прыбіральню, яна была пустая.

— Толькі без глупства, — папярэдзіў ён.

— Намеры самыя сур'ёзныя, — сумна пажартаваў Майстра. Ён справіў сваю малую патрэбу, уздыхнуў з палёгкаю і ўжо зашпільваўся, калі ў прыбіральню зайшлі двое яго суправаджатых. Трэці, Майстра бачыў гэта, застаўся за дзвярыма. Начальніка не відно было, пэўна, пільнаваў дзверы з другога канца вагона. Працэс, па ўсім, быў адладжаны добра.

— Канчай перакур, пачынаем прысяданні, — мовіў знаўца англійскай мовы.

І Майстра адразу падпарадкаваўся і прысеў, склаўся ўдвая. Удар быў нанесены дакладна і з веданнем справы. У сонечнае спляценне. Майстра яшчэ не паспеў здзівіцца таму, што так прыцэльна і коратка можна біць у цеснай, удвух

не разысціся, прыбіральні, як атрымаў яшчэ адзін такі ж спрытны і дакладны ўдар, рубам далані па схіленай шыі. Майстра апынуўся на коленцах, але быў яшчэ ў прытомнасці, калі яму наладзілі дадатак да гэтых падарункаў каленам напаўсагнутай нагі ў падбароддзе. «Класічна б'юць, сукіны дзеці», — яшчэ паспеў падумаць ён і страціў прытомнасць.

Яго працягвалі мясіць ужо нагамі, калі ён упаў на падлогу, на шчасце, не вельмі брудная прыбіральні. Скурчыўся паміж унітазам і пафарбаванай у брыдкі, казённы, буры колер сцяной вагона, падсвядома прыкрываў рукамі, хаваў твар і галаву. Але па твары і па галаве яго не білі, цалялі па нырках, пячонцы і сэрцы. «Каб не засталося слядоў», — сцяўшы зубы, то правальваючыся ў нейкае крывавае месіва, то вяртаючыся да сябе, думаў ён. А калі адчуў, што яшчэ адзін удар, нават дотык да яго цела, і звароту больш не будзе, і загадаў сабе падняцца, у прыбіральні нікога ўжо не было. І ў вагоне, у яго купэ, таксама было пуста. Толькі скразняк віхурыў па вагоне, задзіраў фіранкі на вокнах. А на століку ў купэ стаяў кілішак, напоўнены каньяком, прыкрыты зверху кавалачкам лімона.

Ні на здзіўленне, ні на абурэнне, як і на ўдзячнасць, не было сілы. Як не было яе і цяпер, калі Майстра, як і тады, ляжаў на парозе прыбіральні і ціха, а іншым разам і гучна скуголіў і выў ад болю. І тады, і цяпер быў адзін і той жа глум і здзек, хоць прайшло столькі часу, а нічога не змянілася. Тады быў «гурочак», «гурочак» быў і цяпер. «Гурочкі» былі наверсе раней, наверсе, пры ўладзе яны засталіся і сёння. Хаця, на першы погляд, усё памянялася карэнным чынам.

Адны чэрці адышлі ў нябыт, на змену ім прыйшлі новыя. Старое паляванне працягвалася, замыкалася, акальцоўвалася ў часе. Лаўцы чалавечых душ нязводныя. Менавіта па яго душу з'явіліся яны цяпер, бо цела, плоці ў ім ужо не засталося. Але да гэтага ім не было ніякай справы, як не было і душы. Як не было душы ў самім новым часе. Яна выгарала датла яшчэ на падыходах да гэтага часу, даўно ўжо была мёртвай. А мёртвыя, як кажуць, сораму не маюць. Набрыдзь нябожчыкаў паядналася, увайшла ў змову з адкідамі, на-

брыддзю жывых. І гэта быў іх зорны час. Новы век, новае тысячагоддзе стаялі на парозе чалавечай хаты і стукаліся ў дзверы. Набрыдзі варта было спяшацца, каб ухапіць сваё. Вось яна і спяшалася. Бессаромная, не грэбавала стукацца ў дзверы нават прыбіральні, уступала ў змову са смерцю. І прасіла дапамогі ў самой смерці. І за гэта абяцала добрую пажыву ёй у будучыні. У той самай будучыні, якой, магчыма, ужо і не існавала.

Толькі Майстра і на сваім смяротным ложы хацеў верыць і верыў, што будучыня існуе. Будзе існаваць, калі ён адыдзе на той свет без граху, не маючы нічога на гэтым свеце, захавае, зберажэ душу і сорам. І бессаромна пакутуючы ў прыбіральні, куды заперлі яго час, хвароба і боль, сашчапіўшы зубы, утрымліваў у сабе гэты свой сорам і сваю душу.

— Што ж ты там заціх, — азваўся міністр пасля працяглага маўчання. Пэўна, асэнсоўваючы, што хацеў сказаць Майстра іншасказальна, як гэта заведзена ў такіх, як ён, прыдуркаў, балбоча ці звар'яцеў, з'ехаў з глузду на ўнітазе. — Ты яшчэ жывы там? Мо табе дапамагчы? — Майстра зноў адказаў яму дзікім вар'яцкім рогатам і тагасветным скрыгатам зубоў.

— Не разумею, — сказаў міністр, — хоць ты забі мяне, нічога не разумею.

І Майстра зноў адказаў яму тым жа рогатам, скрыгатам зубоў і ваўчыным ровам. А пасля гэтага рову, як набыў чалавечы голас, доўга і брыдка лаяўся, прыгадаў усе мацюгі, якія толькі засталіся ў памяці яшчэ з дзяцінства. Памяць, па ўсім, была добрая, як і школа — магілёўская чыгуначная ўскраіна.

— Во цяпер усё ясна, цяпер ўсё зразумеў, — выгукнуў міністр за дзвярыма прыбіральні, адначасова прымусовай і добраахвотнай турмы Майстра.

Выгукнуў і хуценька рэціраваўся, похапкам схаваўшы ў папку скамечаную прасціну з подпісамі дзеячаў культуры ў абарону дэмакратыі і канстытуцыі. Але на развітанне заверыў амаль беспрытомнага Майстра, што юбілей адбудзецца ў прызначаны тэрмін, хай ён не перажывае, усё будзе вельмі прыгожа. Майстра па юбілеі і не перажываў. Ён быў

упэўнены, што юбілей адбудзецца, і вельмі прыгожа. Таму ж міністру яшчэ трэба было і апраўдацца перад ім, Майстрам, падсаладзіць пілюлю. Напярэдадні, перад тым, як Майстру легчы ў бальніцу, яго канчаткова ўжо спісалі, скарацілі пасаду, якую да гэтага ён займаў, і, лічы, выраклі на галодную смерць, адправілі жыць на трыццацідоларавую ганаровую пенсію. Гэта была апошняя пошасць наваспечаных улад, сродак законным шляхам пазбаўляцца ад няўгодных ім людзей: ад'юбілеіць іх і выкінуць на сметнік.

Хай жа юбілеяць, хай святкуюць перамогу. Але свята гэта будзе ўсё ж яго. І Майстра спадзяваўся, што свята гэта будзе сапраўды прыгожым і велічным. І ў той жа час задзірлівым. З яго боку задзірлівым. Ён ім пакажа, як памірае культура і адыходзяць на той свет Майстры. На развітанне так ляпне дзвярыма, што чэрці ў пекле скалануцца, і заскрыгочуць зубамі ўсе чэрці на гэтым свеце. Мышы прагнуць яго смерці, адукаваныя пайшлі мышы, навучыліся распісвацца, ставіць свае подпісы пад дзяржаўнае карыта. На яго магіле яны канаюць ад жадання звіць сабе ўтульнае гняздо, гняздо з таго бруду і смецця, што пішчом прэ наверх. І ім мёртвы Майстра — гэта амаль жа адно, што і яны. Гэта прыручаны, ахатнены ўжо Майстра. Майстра сцяганосец. Мышы зачакаліся ўжо яго смерці. І ён, вядома, памрэ, толькі і мёртвага яны голымі рукамі яго не возьмуць.

Гэта ж толькі ён здольны трымаць і насіць жар голымі рукамі. І не апякацца, бо такі ж агонь і жар у ім.

І не толькі помслівасць, крыўда і боль вымушалі яго адзначыць, правесці юбілей, дажыць да юбілею, стоячы ўжо не адной, а дзвюма нагамі ў магіле, але зноў жа вельмі дзіцячае, вар'яцкае спадзяванне, што ўсё гэта яшчэ не пасапраўднаму, што яго толькі выпрабоўваюць, палохаюць. А ён не спалохаецца, калі і па-сапраўднаму. У жыцці ў кожнага страху існуе нейкі парожак, трэба толькі не спыняцца перад ім. Не здолееш пераступіць — пераскоч. І ты ўжо на прыступках нейкага новага існавання. Так і яму варта толькі перайсці нейкі нябачны рубеж, пераскочыць парожак, і ён будзе ўжо недасягальны смерці. Яна застанецца з носам, а

ён пакрочыць далей і не азірнецца. Адыдзе боль, адступіць хвароба. Ён адновіцца для новай працы, і нічога дзіўнага, неверагоднага ў гэтым няма. Саламандра, птушка-фенікс толькі тым і займаюцца, што адраджаюцца і без пашкоджанняў выходзяць з агню і полымя.

Невыносны агонь і жар апякалі і спапялялі яго. І попел той ужо развейваўся па прасторы і часе, калі прыбегла сястра і зрабіла абязбольваючы ўкол. Раней яго калолі праз чатыры гадзіны, цяпер цераз дзве. Але ён не заўсёды мог вытрываць і дзве гадзіны жыцця, ад уколу да ўколу. Не вытрываў і зараз. Пачаў адыходзіць. Пайшоў ужо.

Але і ў гэтым адыходзе Майстра быў яшчэ здольны падсвядома кантраляваць сябе. І галоўнае ў тым кантролі было не даць захлынуцца, зайсціся ад радасці збаўлення ад болю і пакут. Не пусціць, не даць сабе апынуцца на лыжні, на якую нехта вельмі, пэўна, літасцівы ўвесь час скіроўваў яго. Варта было толькі стаць на тую лыжню, зрабіць крок, і вяртання назад ужо не будзе, дарога ў адзін канец, бо тая лыжня была вельмі шчаслівая і прыгожая. Па ёй ходзяць адзіны раз у жыцці. І такі адзіны раз ужо быў у яго жыцці. Але ён яшчэ вернецца на тую лыжню ў сваю самую апошнюю хвіліну, каб адысці ўжо канчаткова, па-маладому весела і пругка.

А цяпер... Цяпер пра што-небудзь надзённае, крыху сумнае і жаласнае, што вымагае сабрацца. Пра нязробленае ці недаробленае ім, што здольны зрабіць ён і толькі ён, што наканавана зверху зрабіць яму. Што і пачаў ён ужо рабіць, выбудаваў у галаве, думках і сэрцы. І толькі хвароба перашкодзіла здзейсніць гэта.

Майстра ўжо цалкам быў паглынуты чорным тунелем болю. Паглынуты і закаркаваны з абодвух бакоў падвешаны ў бязважкасці чорнага туману. І раптам у тым тунэлі, сярод спрадвечнай халоднай цемры, у якую і сярод якой, здавалася б, немагчыма ні прарвацца, ні нарадзіцца ніякаму гуку, Майстра пачуў спачатку гукі гармоніка, а потым і песню. Яна была яшчэ далёка, але ўсё набліжалася да яго, пакуль Майстра не загайдаўся ў яе хвалях, не патануў у ёй цалкам.

Зорка Венера ўзышла над зямлёю,
Светлыя згадкі з сабой прывяла...
Помніш, калі я спаткаўся з табою,
Зорка Венера ўзышла...

Пазбаўлены свядомасці, але недзе ўсё ж захоўваючы рэшткі ці то памяці, ці то розуму, і не яго, не зямнога ўжо розуму і памяці, ён пачаў абмацваць, шукаць нешта ў сябе на грудзях. Лапаў і лапаў рукою па грудзях, але нічога не знаходзіў. Не знаходзіў тое, што яму трэба было. А трэба было яму знайсці маленькі чорны каменьчык, прыхоплены з магілы Максіма Багдановіча ў Ялце. Ён нібыта сустрэўся ўжо з нябожчыкам і цяпер прагнуў паказаць яму той каменьчык, пабачыць яго і сам, на свае вочы, адчуць яго цяжар на сваіх грудзях, зварухнуць, пазбавіцца яго. Але каменьчыка ў кішэні не было. Ён не намацаў і самой кішэні, бо яе таксама не было. Майстра быў апрануты не ў сарочку, а ў спартыўны касцюм без кішэняў.

Ён ніяк не мог уцяміць гэтага, але ад таго, што каменьчык не знайшоўся, Майстра адчуў палёгку, пазбавіўся цяжару на грудзях. Толькі ніяк не мог пазбавіцца болю. Зорка Венера ўздымалася, узыходзіла з яго грудзей. Дзёрла, дратавала грудзі, распірала і ламала рабрыны. І ўзносілася над ім, распускалася, расцвітала яркай і прыгожай кветкай. У той зоркі-кветкі быў гожы дзявочы твар. Яна і спявала, спавівала яго цеплынёй і пяшчотай.

Спявала яго, Майстра, зямлячка. Сляпая спявачка Жанна. Спявала ў падземным пераходзе метро «Плошча Якуба Коласа». І, здаецца, сам дзядзька Якуб завітаў паслухаць песню. Ён нябачна і цяжка прысеў на прыступак падземнай лесвіцы, задумёна падпёр рукой падбародак, як сядзеў адрачоны ад усяго, каменны там, наверсе, на плошчы, так сядзеў і тут у мураваным змрочным скляпенні. А з усіх бакоў неабдымнай і бясконцай плынню ў двух накірунках цёк, бег, шмаргацеў тысяччу і тысяччу падэшваў чалавечы натоўп. Спяшаўся наверх, на Камароўскі рынак: купіць-прадаць, знайсці-згубіць, абдурыць некага ці самому абдурыцца.

І песня сляпой спявачкі мала каго збівала з нагі. І сам нябачны Якуб Колас быў няздольны каго-небудзь перапыніць, прымусіць азірнуцца і агледзецца. Мастацтва пераходнага перыяду эпохі развітой дэмакратыі. Так называў гэта Майстра. Такіх спевакоў цяпер можна было сустрэць у кожным падземным пераходзе метро. Мастацтва пайшло пад зямлю і там зарабляла сабе хлеб надзённы.

Каля ног Жанны з яе музыкам ляжала кардонная скрынка з-пад нейкіх заморскіх снікерсаў ці бананаў. І той-сёй на хаду, на бягу кідаў у тую скрынку скамечаную сотнюдругую, кідаў нават не трацячы сябе на тое, каб нахіліцца, пастаяць нейкае імгненне, паслухаць.

І Майстру было жахліва, ніякавата і вельмі балюча. Ён углядаўся ў твар спявачкі — у свой боль. У сляды даўніх апёкаў на яе твары каля вачэй і адчуваў, як робіцца яму зусім непамысна. І сваю віну перад ёю адчуваў.

Чысты і прыгожы голас, апаленае і апечанае сэрца, невідушчыя вочы таго сэрца былі кінуты пад ногі натоўпу. Яму было не менш горка і балюча і за гэты натоўп. Людзі не вінаватыя, што іх прымушаюць хадзіць па сэрцах і скалечаных вачах таленту. Па болю таленту растаптанага, уплюшчанага ў брудны і гідкі мармур падземнага перахода да Камароўскага рынку.

І гэта ён сам, Майстра, ляжаў пад нагамі хапатлівага натоўпу. Ляжаў, але і крочыў, таптаў сам сябе. Час і жыццё прымусілі яго не зважаць ні на свой, ні на чужы боль. Трэба было жыць, выжыць, купіць-прадаць трохі нешта з апраткі, трохі з сумлення, трохі з сэрца і розуму, каб не заціснулі, не зацерлі ў гэтым падземным пераходзе, на жабрацкай выстаўцы галечы і пакут мастацтва пераходнага перыяду, дазволілі прарвацца туды, дзе праглядвала святло з тунэля, відзён быў дзень і крыху сонца. Бо інакш застацца ў тым чорным тунэлі, закаркаваным уласнымі пачуццямі назаўсёды. Інакш не вытрываць гэтай слязінкі на невідушчых вачах сляпой спявачкі Жанны. Гэта ж табе зусім не вясёлы і распусны шлягерчык «Стюардесса по имени Жанна». У гэтай Жанны з падзямелля стаптаныя чаравікі і спрацаваныя, без манікю-

ру рукі, сумны, але адначасова і натхнёны твар, таму што зараз яна, хоць і невідушчымі вачыма, углядаецца ў начное неба, вечна начное ёй, і шукае там сваю зорку Венеру, і па той зорцы плача, плача разам з ёй і яе песняй Якуб Колас. Без слёз да гэтага немагчыма дакрануцца. Немагчыма дакрануцца і не заплакаць. Немагчыма вытрываць, хоць ты і каменны, хоць ты сам ужо беспрытомны.

І Майстра не вытрываў, быў амаль што знішчаны ціхім каханнем і вялікай журбою. Дарэмна толькі гвалтаваў, прымушаў сябе застацца, уабраць і панесці ўсім яе даравальную сціплую ўсмешку, яе слязінку на пустых вачніцах (дарэчы, слязінкі там не было, гэта сам ён і каменны Колас плакалі). Ён адчуў, што ў яго можа не хапіць сіл і таленту, каб абвясціць гэта ўсяму свету. І тужліва збег, забыўшыся пра свой боль, свае пакуты. Збег з турэмнага заключэння і катавання ў чорным падземным тунэлі-пераходзе. З цемры выхапіўся на яркае бліскучае святло.

І з адной турмы трапіў у другую, дзе ўсе былі вельмі шчаслівыя і радасныя, хаця ніхто не спяваў і не чулася гукаў гармоніка. Але там гучала і разлягалася іншая песня і іншая музыка. Песня і музыка нябёс. Само сонца падскоквала ўгары, пагойдваліся рэдкія і лёгкія хмарынкі. Хрыпата і цяжка рагатаў стары і сівы дзядзька Васіль, падзёўбваў носікам ялавых богаў зямлю і курчыўся ад радасці. Смяялася ў кулачок яго ўнучка Алёнка, дэбільная ад нараджэння. Алёнка сіротка — бо яе п’яныя бацькі выракліся сваёй дачкі, як яна толькі нарадзілася. Гаварыць яна не ўмела, адно гугнявіла сабе нешта пад нос. Зразумець яе быў здольны толькі дзед Васіль. Чалавечымі, свядомымі былі ў яе адны слёзы ды смех, часцей слёзы, чымсьці смех. Цяпер яна смяялася. І было чаму смяяцца, і не толькі ёй. Разам з ёй усміхалася ці смяялася шмат іншых дзяўчынак і хлопчыкаў, што стаялі на беразе вялікай, з бетаніраваным берагам, сажалкі. Не ў прыклад Алёне, тварыкі і вочкі іх былі разумныя, асэнсаваныя, толькі і ва ўсмешцы чамусьці змучаныя і сумныя, плечыкі кволыя і худыя. Бо на іх дзіцячыя плечы, на іх вочы і тварыкі чорнай хмарай абрынуўся, лёг Чарнобыль. Чорная быль і

чорны боль Беларусі. Гэта былі выхаванцы школы-інтэрната для дзяцей Чарнобыля. Адкіды, выгнаннікі і ахвяры эпохі яшчэ развітога сацыялізму і нейкай вар'яцкай перабудовы, ад якой з'ехалі з глузду не толькі людзі, але і мірны атам. Мірны атам з'ехаў з глузду і зайшоў у кожную хату. І ў хатах, якія ён наведаў, зрабілася пуста. Затое з'явіліся і пайшлі хворыя дзеці, сіроцкія школы-інтэрнаты, гучна названыя санаторыямі-прафілакторыямі. І гэтыя дзеці на беразе сажалкі былі з такой школы — санаторыя-прафілакторыя.

І быў у іх белы лебедзь. Таксама скалечаная птушка-падлетак. Скалечаная і падманутая мроямі людзей, іх уяўленнем прыгожага і вечнага, спрадвечным імкненнем тых, што жылі тут, то да Масквы, то да Варшавы. Вось ад Масквы і да Варшавы яны пракінулі асфальтавую і бетанаваную раку: Масква — Варшава, па-мясцоваму Варшаўку, ці Маскоўку, гледзячы, каму і да чаго бліжэй. Хуткасную Варшаўку — Маскоўку з двухбаковым рухам, шырокую і велічную, як нешта створанае самой прыродай.

А два белыя лебедзі гнездавалі на Беларусі непадалёку ад шашы на возеры Белае. Возера тое было лясным, зацішным і кормным вясной і ўлетку і да глыбокай восені, першых маразоў, пакуль яго адведвалі людзі, навакольныя рыбакі. Але калі надыходзіла зіма, жыццё тут глухла. Прыберагі і мелкаводдзе скоўваў лёд. І толькі на самай сярэдзіне, дзе было даволі глыбока, заставалася маленькая плямка вады. І тая кожную хвіліну магла ўхапіцца лёдам. А пара белых лебедзяў і зімавала тут, на Беларусі. І калі яны адчулі, што вось-вось ім будзе недзе і паплаваць, злавіць нейкую рыбіну на сняданне ці вячэру, лебедзі ўспомнілі, што зусім недалёка адсюль ёсць яшчэ адно вялікае вадасховішча, дзе працякала хуткая рака і вада ў ёй не замярзае ніколі. Вось да гэтай хуткай ракі і падаліся лебедзь з лябёдкай. Падаліся, пакуль яшчэ можна было разагнацца ім і ўзляцець з возера Белага, што для лебедзяў не вельмі проста — падняцца ў неба і сесці на зямлю, на ваду, амаль тое ж самае, што лодку падняць і апусціць, ці запусціць і пасадзіць касмічны карабель.

Лебедзі і былі белымі касмічнымі караблямі мінуўшчыны і будучыні на Беларусі.

І ўзняліся з Белага возера два белыя лебедзі і паляцелі ў свет шукаць сабе лепшую долю, хуткую ваду, ваду, якую не можа скаваць ніякі мароз. І шлях іх пралёг над рукатворнай ракой, над шашой Маскоўка — Варшаўка. І прынялі два белыя лебедзі тую Маскоўку — Варшаўку за сапраўдную раку. Зверху ім так падалося. Асфальт сярод белых снягоў і зімовага лесу выдаваў за раку.

Зрабілі лебедзі круг над тым асфальтам і пайшлі на пасадку. І ўплішчыліся на брудны, загаджаны бензінам і мазутам асфальт. Абламалі крылы, ногі, скруцілі шыі. Але і скалечаных іх не пакінула жаданне жыць. А мо было і іншае апошняе жаданне: не застацца тут, не сканаць сярод смуроднай і гідкай чалавечай ракі. Сплываючы кроўю, папаўзлі яны з асфальту на абочыну, у бялюткі, як некалі іх апярэнне, снег ва ўтульнасць елак і хвой. І, акрапляючы той снег сваёй крывёю, лебедзь адразу і сканаў пад елкай, бел-чырвона-белы на белым снезе.

А лябёдцы пашанцавала. Пракінуўся на той час на бязлюднай Маскоўцы — Варшаўцы добры чалавек. Былы калгасны конюх, стары Васіль са сваёй хворай унучкай, дэбільнай Алёнкай. Алёнка і прыкмеціла лябёдку, пачула, хоць тая і не падала голасу. Залапатала нешта сваё, птушынае ці звярынае, незразумелае. Але дзед яе зразумеў. Ён наогул, жывучы з без'языкай, пакрыўджанай Богам унучкай, добра пазнаў мову птушак і звяроў, на якой толькі і гаварыла Алёнка. І ў яго хаце меліся скалечаная, падстрэленая паляўнічымі качка, гаваркая, выхапленая з кіпцюроў кошкі чорная галка і сляпы на адно вока немаведама з чаго вожык — сябры Алёнкі. Да гэтай жыўнасці яны далучылі і белую лябёдку. Калгас выдзеліў на пракорм новай жывой душы чатыры мяшкі ячменю. Даведаліся пра белую лябёдку і гаротнікі чарнобыльскай бяды з санаторыя-прафілакторыя, панеслі ёй свае санаторныя пайкі хлеба. Уратавалі ад смерці, выхадзілі, вылечылі.

І вось цяпер белую лябёдку са скалечанымі крыламі, але дужую, здаровую, пускалі на ваду стары калгасны конюх дзядзька Васіль, яго дэбільная ўнучка Алёнка і выхаванцы чарнобыльскай школы-інтэрната. І ўсім, у тым ліку і самой белай лябёдцы, было вельмі весела, хоць лябёдка, апёкшыся на малацэ, дзьмула цяпер на ваду, пабойвалася яе. Але інстынкт перамог. Яна глынула на спробу крынічнай вады з сажалкі і завеслaвала чырвонымі лапамі, паплыла.

— Плыве, — першы раз па-чалавечы, выразна мовіла Алёнка і замахала рукамі, нібы спрабуючы ўзляцець. І лябёдка ў адказ ёй таксама распасцёрла над вадой белыя крылы. І ўсе дзеці, што стаялі на беразе сажалкі, таксама выгукнулі:

— Плыве, плыве! — і замахалі сваімі кволымі крылцамі-рукамі. І пачалі дурэць, шалець, пайшлі ў скокі. Разам з імі скакала і Алёнка, высалапіўшы сонцу язык. Толькі дзядзька Васіль застаўся ў нерухомасці, адно дзёўб носікам ялавага бота зямлю. І нябачны Майстра, мо з таго ўжо свету цікаваў за імі, і плакала яго душа нябачнымі гэтаму свету слязьмі, бо ўсё гэта бачылася яму, не прыдуманае, не створанае хваравітым уяўленнем, а так, як гэта было ў жыцці, на самой справе. Але што значыць — было на самой справе. Было не было. Прайшло, развеялася. Забылася. Імгненне, кропля ў моры. Імгненне ператвараецца ў сапраўднасць, калі яно выхаплена з вечнасці, тады і кропля робіцца морам. Гэта тая ж самая спрасаванасць часу і матэрыі, што і ў карлікавых планетах. На чалавечы погляд, здаецца, мізэрнасць, кропля, а ў ёй мільёны і мільярды тон вагі.

Вось гэтай цяжкасці, невымяральнасці цяжару, здавалася Майстру, і не хапае ў яго прывідзе, у яго перадсмяротным трызненні. І ён быў нязгодны паміраць, не мог памерці, не адчуўшы, чаго ж гэта тут не хапае. І пільна, ужо без слязы, халодным і жорсткім вокам прыглядаўся да белай лябёдкі ў сажалцы, да сумнага спакою старога і вяселля дзяцей на беразе, да рамонкаў пад іх нагамі і журботных плакучых вербаў над іх галовамі. Ад былой жаласлівасці ў ім ужо не засталося і знаку, здавалася нават — дай яму цяпер нож, і ён без ваганняў пачне крэмзаць і рэзаць усё жывое, каб

толькі спазнаць тое, што яму трэба. Развітаецца без тых жа ваганняў і са сваім жыццём, закладзе, аддасць душу першаму стрэчнаму чорту.

Але ні чорта, ні Бога ні ў чорным тунэлі, ні на баляванні ўбогіх і асірацелых ён не сустрэў, хаця прагнуў іх сустрэць, мовіць аднаму і другому дасціпнае беларускае слоўца. Але, пэўна, ні Бог, ні чорт па-беларуску не «шпрэхалі», як і самі беларусы. І прывідная карціна вяселля, балю, піру ў час чумы пачала адыходзіць ад яго, размывацца. Апошняя не створаная, не зробленая праца, і таму неймаверна дарагая... Гэта ж ён сам быў і скалечанай белай лябёдкай, і гаротным чарнобыльскім хлопчыкам ці і дзяўчынкай, дэбільнай унучкай старога Васіля і самім Васілём, разумным і дурным, дужым і бездапаможным. Гэта ён — дэбіл лёсу, пакаранне яго народа, белы лебедзь — падмануўся, уплішчыўся ў брудны, загаджаны асфальт Маскоўкі–Варшаўкі, бел-чырвона-белы застаўся ляжаць на бел-чырвона-белым снезе на абочыне вялікага гасцінца. І ўжо ніколі не падымецца з той абочыны. Не падымецца, але паведае аб гэтым свету, свайму ж роднаму люду...

Не паведае. Не паведае. Таму што ён зноў закаркаваны ў чорным мураваным тунэлі. Ён зноў выхапіўся з яркага бліскучага святла ў той самы чорны тунэль, з якога немагчыма і здароваму да каго-небудзь дакрычацца, каго-небудзь дазвацца. Люд — купі-прадай, з базару і на базар, каб толькі дзень перабыць ды ноч вытрываць — зусім не прагне яго праўды. Ён выракаецца і Чарнобыля, і сляпой спявачкі Жанны, і сваёй белай лябёдкі. Сваіх дойлідаў і Майстроў. Як выраклася іх ужо ўлада. Бо сённяшнія майстры на паверку аказаліся зусім не лебедзямі белымі. Атрымалася як у тым анекдоце, дзе бацька-цыган, паглядзеўшы на сваіх замурзаных нашчадкаў, сказаў: «Не падабаюцца. Новых наробім...»

Бязмежна дарагое ўяўленне, апошняя мроя Майстра, сэнс і бачанне сённяшняга і ўсяго яго жыцця пачалі атухаць, адзін за другім знікалі інтэрнацкія хлопчыкі і дзяўчынкі, узяўся туманам і ўблытаўся, расплытаўся ў лістоце жалобнай вярбы дзядзька Васіль. Толькі цьмянай плямай свяціліся яшчэ

дэбільная дзяўчынка Алёна і белая лябёдка з перабітым, апушчаным крылом. І тыя, здавалася, вось-вось паглынуцца бясконцай і бязмежнай цемрай.

— Пачакайце, хвілінку хоць пратрымайцеся, — пачаў угаворваць іх Майстра. Але дарэмна. Яны ўжо браліся, плылі туманам. І просьба Майстра змянілася на пагрозу. Ён выйшаў з падпарадкавання лёсу, бо быў, адчуў сябе над лёсам, жыццём і смерцю.

— Падла, — выгукнуў ён невядома каму, але ён, здаецца, ведаў, каму, таму, хто быў над ім, хто ў асляпляльным святым невуцтве лічыў сябе над ім, Майстрам. — Калі сам ні літасці, ні розуму не маеш, дазволь жа таму, хто мае, перад смерцю пацешыць вока.

У адказ Майстра пачуў барабаны кентаўраў.

— Яшчэ не час. Не забівай... Дай...

— Ай-ай-ай, — разляглося па бальнічным пакоі гулкае рэха.

Калі Майстра ачомаўся, над ім стаяла сястра з працэдурнага кабінета:

— Дамо, дамо, мой міленькі. Дамо, мой галубчык, боль адступіць, усё адрынецца. А ты крычы, крычы, праз крык і боль суцішыцца. З юбілеем вас, мой міленькі, з днём нараджэння, з юбілеем, галубок...

## IV

Ноч ён выстаяў, перамог. Трэба было пражыць неяк яшчэ дзень. Юбілей быў прызначаны а сёмай гадзіне вечара ў лепшым і самым вялікім кінатэатры сталіцы: ці то «Масква», ці то «Кастрычнік». Усё ўжо блыталася ў галаве Майстра. Але такім дробязям можна было і не надаваць увагі: якая розніца — шклом па камені ці каменем па шкле, усё адно, па-руску кажучы, «что в лоб, что по лбу». Яго ніколькі не хвалявала, як гэта было раней, што вялікая зала кінатэатра будзе напаўпустой. Колькі чалавек прыйдзе, столькі і трэба. Хай будзе нават адзін чалавек — ён схіліць перад ім галаву. Ён жа не з пароды папсы, не зорка эстрады, не фут-

баліст і не хакеіст. Коннай міліцыі і АМАПа, каб наводзіць парадак, не спатрэбіцца. Ціха панеслі Пімена Панчанку, незаўважна выхапілі з горада і павезлі на радзіму Максіма Танка. Майстры як жылі, так і паміраюць у адзіноце. Ім не ствараюць у цэнтры горада хаўтурных сцен, на бетоне якіх уночы пішуць клятвы, заклёны і прысвечаныя ім вершы. Іх сцяна значна вышэй: напаўвар'яцкаму фанатычнаму статку ўсё роўна ніколі не дацягнуцца да сусвету, дзе пачынаецца верш, дзе пакутуюць і адпачываюць Майстры ў чаканні другога свайго прышэсця і светлых дзён для Беларусі.

І ён не прагне далучыцца да іх. Яго месца значна ніжэй, недзе на прыступках. Але яно ёсць, гэта сціплае месцейка, і яно — яго. Сваё, пэўнае, вызначанае толькі яму месца павінен ведаць і сабака. А ён добра пабрахаў у сваім жыцці. Так пабрахаў, што, каб апраўдацца, павінен знайсці сілы і мужнасць прыстойна памерці. Каб ніхто не бачыў на яго твары пячаткі жаху смерці, не пачуў перадсмяротнага палахлівага крыку і енку. Ён нічога не прасіў задарма, проста так у жыцця. У свой апошні час нічога не будзе прасіць і ў смерці. Толькі б у развітальную хвіліну Бог не адабраў розуму і свядомасці. І гэтыя некалькі гадзін ад світання да змяркання адпушчаны яму, каб настроіцца і канчаткова ўжо супакоіцца: і сказана ж ім, каб яны супакоіліся. Вось на гэта супакаенне сябе ён і патраціць свой апошні дзень: суцішыць, прыдушыць боль. Скорыць гонар і, не азіраючыся на мінулае, не зазіраючы ў будучае, выйдзе на вочы людскія, і мо таго-сяго таксама прымусіць спыніцца і падумаць.

Майстра адчуваў, ведаў, што, калі ён апынецца сярод людзей, іх вочы, іх твары, варожасць і добразычлівасць пратрымаюць яго на гэтым свеце столькі часу, колькі гэта патрэбна, колькі патрэбна, колькі неабходна, каб не сапсаваць свята, спраўдзіць усе іх надзеі. Бо ён добра ведаў меру. Меру ўсяму — жыццю і смерці, святу і журбе. І яшчэ, і гэта мо было галоўным, пакуль на табе ляжыць чыёсьці жывое цікаўнае вока — жывы і ты сам. Працягваеш жыць нават на могілках, на тым свеце. Гэта непахісны загад і закон для кожнага чалавека, а тым больш для Майстра.

Трэба толькі пратрымацца ў гэтых чатырох мураваных сценах бальнічнага белага пакоя да схону дня, да заходу сонца. Сонечнага святла, яснага дня нараджэння Майстра ўжо баяўся. Але ён склаўся для яго надзіва лёгка і спакойна. Мо ад уколаў праз кожныя дзве гадзіны, мо ад бясконцых клопатаў, нарачоных імяніннiку, а мо... але пра гэта Майстра забараніў сабе думаць, сёння яму было не так балюча, як учора, ён не губляў прытомнасці, не ўпадаў у чорныя тунэлі і не канаў на беразе сажалкі.

Перш-наперш наладзіўся ў ванную і добра, без дапамогі сястры, памыўся. Цела канала ад жадання вады і мыла. Прагла змыць з сябе не столькі назапашаны потам бруд, колькі ачысціцца ад прыкрасці і адчаю зведанага ім болю. Боль той быў ужо не жывога — магільнага паху, паху затхлай зямлі і праніклівага, з нейкага часу непрыемнага яму мужчынскага дэзадаранту. Майстра старанна саскроб з сябе гэта брыдкае пазасветнае ўжо напластаванне. Пагаліўся перад люстэркам у прыбіральні, здзіўлены, што шчэцце пёрла, як пустазелле на добра ўгноеным дзікім полі, расло, не зважаючы на хваробу. Будзе працягваць расці і там, мімаволі падумаў яшчэ, але адразу ж прагнаў гэту думку.

Больш за ўсё Майстра здзівілі яго ж уласныя вочы. Яны не належалі ўжо яму. Пайшлі ўглыб і з недасягальнай глыбіні адрачона, без журбы і суму глядзелі на яго, як на нейкага незнаёмага чалавека. Зрабіліся маленькімі-маленькімі, з адзінай амаль няўлоўнай іскрынкай у зрэнках. Вочы здаліся яму настолькі чужымі, што ён вымушаны быў паздароўкацца з імі, а заадно ўжо і з самім сабой, каб прызнаць і сябе, пачуць свой голас:

— Здароў, татарын, дабрыдзень, Ашыр.

Але той, у люстэрку, прамаўчаў. Ні гуку не мовіў у адказ.

— Ну і чорт цябе бяры, — сказаў Майстра. — Заплачаш жа, я ведаю, заплачаш.

— Не, не, толькі не гэта. Не! — хто крычаў гэтае «не», ён не ведаў. Але яму хацелася крычаць і нават буяніць, паламаць, разбіць што-небудзь. І ён не ўтаймоўваў сябе, праўда, не крычаў. Наліў паўшклянкі гарэлкі, смачна выпіў перад

люстэркам. І грымнуў пустой шклянкай па сваім адлюстраванні ў маўклівым і халодным шкле.

Яно яшчэ звінела, ссыпаючыся на падлогу і ў ракавіну, а ён выйшаў ужо і асцярожна зачыніў за сабою дзверы. Пасля ванны, галення і гарэлкі яму раптам захацелася чаго-небудзь з'есці. І гэта было не менш дзіўна. Есці ён не хацеў ужо даўно, не цягнула да ежы. А тут як смоўж нейкі ажыў усярэдзіне. Смактаў, загадваў, патрабаваў. Але і цяпер ён пайшоў насуперак сабе, не паддаўся смаўжу ўсярэдзіне.

Вярнуўся зноў у прыбіральню. Падняў з падлогі аскабалак шкла, паклаў на даланю і зацiснуў яго ў руцэ. Вялікага болю не было, але кроў паказалася. Вось і крыві ўжо няма, адзіны толькі алкаголь, падумаў ён. Выкінуў акрываўленае шкло ў сметніцу, зняў з батарэі ручнік, завесіў ім разбітае люстэрка і развітаўся з прыбіральняй.

Жаданне штосьці з'есці не праходзіла. І не так каб нешта пэўнае, а ўсё запар, што патрапіць у рукі і на зуб. Майстра адчыніў халадзільнік, той быў забіты прадуктамі, садавінай, гароднінай, напоямі і кілбасамі.

— Сволачы, сволачы, — сказаў ён. — Спакушаеце. Усё жыццё спакушалі. І сёння таксама... А дзе ж вы ўчора былі, пазаўчора, месяц яшчэ назад...

Яму закарцела ўсё гэта з'есці за адзін раз, адным захадам. Але Майстра адчуў, што перад такой процьмай ежы ён робіцца пераборлівым. І сапраўды, з'есці запар усе толькі яблыкі чэрава не хопіць, нават калі толькі надкусіць кожны. І яму стала шкада, што ўсё гэта застанецца, застанецца, а посуд патрабуе ж чысціні.

Так вучылі яго, настаўлялі на самым пачатку жыцця. А цяпер ён стары конь, псуе разору.

Трэба было выбіраць нешта адно. Нечага аднаго прасіла і душа, але ён доўга не мог успомніць, чаго ж яна просіць. Перабраў увесь халадзільнік, і ўсё было не тое, і ўжо зачыняючы яго, па маленькай, прыліплай да бакоў крошцы ён адчуў, чаго просіць, па чым канае душа. Яна прасіла сала з кменам і часнаком, што яму на дух забаранялася есці. Гэтага якраз і не было ў халадзільніку. Вось так заўсёды, з абурэ-

ннем падумаў ён, і напачатку, і напрыканцы — какосы ёсць, бананы ёсць, а...

Майстра хуценька адчыніў і зачыніў халадзільнік і плюнуў на яго і на тое, што ў ім мелася. І сказаў сам сабе: пачакай, душа, вечара, спатолю, пад'ясі і сала. Але да вечара не вытрываў. Магло ж стацца і так, што вечарам сала не будзе. Разумнікі ад культуры прыдбаюць ікры асятрынай да кабачковай, а пра сала і не ўспомняць. А калі і ўспомняць, то яшчэ вялікае пытанне, ці захочацца вечарам яму таго сала. Трэба было карыстацца момантам і ў апошнюю хоць хвіліну не здраджваць сабе і сваім жаданням. Не ўсё ж толькі народу і для народа, некалі трэба пацешыць і сябе. І калі паміраць, то ўсё ж лепей з салам і ад сала, чымсьці з заморскім какосам. Які ж Ашыр не любіць сала?

І Майстра наладзіўся да сясцёр. Тыя не вельмі здзівіліся яго з'яўленню і жаданню. Майстра гэта адчуваў, сцераглі, прасочвалі кожны яго крок, яны яго любілі і шкадавалі, наколькі гэта магчыма бескарысна аднаму чалавеку шкадаваць і любіць другога. Адна з іх толькі памкнулася нешта сказаць, мо запярэчыць, але тры астатнія так паглядзелі ў яе бок, што яна сумелася і замкнула рот на замок. Сама кінулася на пошукі сала. Сёстры ўсе былі маладзенькія і мініяцюрныя, і сала тое яшчэ ці ўжывалі. «Разумніцы, — з замілаваннем і смуткам падумаў пра іх Майстра, — якая доля ваша будзе». Гэтым, крыху позным ужо ранкам ён любіў іх, усіх на свеце любіў.

Сястрычка знайшла сала недзе ў суседняй палаце, і ладны шмат. І было яно акурат такое, як уяўляў сабе Майстра. Ружовае на зрэзе, з праслойкай мяса, з часнаком і кменам, трошкі спатнелае пасля халадзільніка. І Майстра, як убачыў яго, таксама крыху спатнеў ад радасці і спакушэння. Сёстры хацелі зварыць яму чаю ці кавы. Майстра наадрэз адмовіўся, ён не здольны быў ужо чакаць. Борздзенька кінуўся да сябе ў палату. Дастаў з тумбачкі, адрэзаў чорнага хлеба. Першы кус праглынуў з прагнасцю. Не прыкмеціў і як, хвіліну-другую сядзеў з адкрытым ротам, удыхаючы і выдыхаючы пах

кмену і часнаку і яшчэ нечага, вельмі знаёмага і роднага, што пакідала яго і што пакідаў ён.

Есці ўжо амаль не хацелася, як пасля вялікай і стамляльнай працы, доўгай, доўгай дарогі, на пяску і скрыжаваннях якой далёка ззаду засталіся і апетыт, і смага, і ўсе іншыя чалавечыя надзённыя жаданні. І ў галаве і на сэрцы толькі светлы смутак і пачуццё радасці: не збочыў, не саступіў, перамог сябе, стому і нядужасць, а часам і ляноту — зрабіў, прыйшоў і цяпер вольны заслужана адчуць сябе шчаслівым, што называецца, сыты святым духам. Духам пераадолення, суладдзя і замірэння сваіх пачуццяў з усім іншым у свеце — дзіўны і не раз спазнаны Майстрам стан душы. Адчуванне ўзлёту і выбуху пяшчоты і спагады да ўсіх і ўсяго. І толькі праца і адна праца можа так асвятліць і асвяціць чалавека. Адна яна здольна выявіць у чалавеку яго душу і дух, выявіць і давесці гэта да самога чалавека.

І тут не мае значэння, што гэта за праца, чорная, брудная ці светлая, узнёслая. Толькі б не прыядалася жаданне рабіць. Кожная праца — гэта ўтварэнне свету, а чалавек па сваёй прыродзе, сутнасці — пераўтваральнік, стваральнік вечнасці і прыгажосці. І калі ў тваёй хаце і навокал яе прыгожа і, дзякуючы тваім намаганням, руплівасці, з кожным днём робіцца ўсё прыгажэй і прыгажэй, гэта не можа не натхняць цябе жыць і тварыць, не шкадуючы ні поту, ні крыві сваёй, ні сэрца, ні розуму, праўда, з адной умовай, калі гэта ўсё тваё, ты гаспадар, не ўладальнік, а гаспадар. Багацею-ўладальніку яго ўласнасць хутка надакучвае, яго з'ядаюць хцівасць і ў рэшце рэшт усведамленне, што ўсім светам, як ні выжывайся, усё роўна не завалодаеш і нічога на той свет з сабой не забярэш. Голы прыйшоў — голы і пойдзеш. Вось чаму жабраку так прыемна неба над яго галавой, зрэбная торба з чэрствай скарынкай хлеба, кій у руках і яго дарога. Гэта ўсё яго. Яго дарогу, яго нябёсы ніхто не здольны адабраць ці дадаць да іх яшчэ што-небудзь. І сапраўдны майстра той жа самы жабрак: торба цераз плячо ды кій у руках, сонца над галавой і гасцінец пад нагамі. І ззаду і наперадзе — аб-

рыў, прорва. Ніхто няздольны ні адабраць у яго, ні дадаць да таго, чым ён валодае.

І Майстра адчуў вялікае жаданне штосьці неадкладна пачаць рабіць, рабіць і ў бальніцы, у бальнічным ложку. І як бы пачуўшы працу ці і грунтоўна рыхтуючыся да яе, ён зноў узяўся за хлеб і сала. Зноў абудзіліся апетыт і прага да ежы, хоць еў ён цяпер, не вельмі адчуваючы смак, таму што быў ужо ў рабоце. І работа была не сказаць, каб эпахальная. Самая звычайная, просценькая. Майстра рабіў шпакоўню. Габляваў, рэзаў дошкі, пракручваў свярдзёлкамі, выразаў шпаку акенца-дзверы, сек з дроту цвікі і заганяў іх у дрэва. Гэта была першая работа, якую спазнаў ў сваім жыцці, зрабіў уласнымі рукамі яшчэ ў маленстве Майстра. І яна выклікала ў яго такую ж вясновую радасць, як і потым, кожны год, калі ён майстраваў гэтыя шпакоўні і развешваў у сябе на панадворку ў квецені груш, яблынь і проста дрэў — таполяў і клёнаў і нават на балконе. Яшчэ адна хата птушкам. Яшчэ адно жытло.

Сала было з’едзена, шпакоўня — зроблена. Ён крыху нудзіўся, які б гэта яшчэ прыдумаць сабе занятак да вечара. Але нудзіцца яму не далі. Чарадой пацягнуліся віншавальнікі. І ў хуткім часе яго палата нагадвала магілу. Гэта ён сам так адпаведна моманту пра яе падумаў. Тумбачка, падаконнікі, крэслы — усё было застаўлена кветкамі. Здаецца, столькі іх не мелася і на Камароўцы, ва ўсім горадзе. Майстра і раней не вельмі ўпадаў па іх: кветкі добра жанчыне, а не мужыку. Ён адносіўся да іх абыякава, хаця і цаніў форму і дасканаласць. Цяпер жа ён проста разгубіўся: багата, вельмі багата хаваюць майстроў і нават усю культуру. Ці падымецца, ачомаецца яна з-пад такіх букетаў. Іх бы хапіла на ўсіх майстроў і на ўсю культуру сёння.

Кветкі былі запозненыя, восеньскія, прывазныя і парніковыя і не вельмі пахкія. Але ў такім мностве на такой малой прасторы чамярылі галаву, адбіралі паветра. Майстра не вытрываў і пачаў прасіцца:

— Пакіньце на вечар, на юбілей. І... яшчэ на што-небудзь пакіньце, мо заўтра яны вам спатрэбяцца больш.

Яго не слухалі, а тым больш не разумелі, ці не хацелі разумець. Майстра змогся і кінуў пярэчыць. Усенародную любоў, як і дурасць, не забароніш. Народ упадае і пакланяецца юродзівым. І чым больш бажавільны народ, чым больш бажавільны той, каму ён пакланяецца, тым больш і ўвішней ён зычыць і рупіць яму. Адчувае, бачыць, што той, перад кім яны так разбіваюць ілбы, з іх пароды, такі ж самы, як і яны ўсе: убогі і няшчасны. І ад свайго перападзе што-небудзь і ім. Залічыцца нешта і перад Богам.

Толькі Майстра не лічыў сябе няшчасным і ўбогім. Ён быў шчаслівы. Ён толькі што пад'еў сала з хлебам, зрабіў апошнюю шпакоўню. Яшчэ не атрос рук ад габлюшак. У ім яшчэ моцны пах лясной смалы жывіцы і сялянскага кмену з часнаком, чорнага жытняга хлеба. Што мае быць лепш за гэта сёння на белым свеце? Яшчэ ж не вечар, яшчэ ж далёка не вечар. Наперадзе яшчэ час юбілею. Хвіліна ў хвіліну, дзень у дзень — шэсцьдзесят гадоў. Дык ці ж можна быць няшчасным, калі сам яшчэ здольны сустрэць і правесці сябе, адсвяткаваць і адпець. Мала хто з тых, што жылі на гэтым свеце, дамагаліся такога.

За акном ужо шарэла. Дзень дагараў, адыходзіў. Неба на захадзе пракінулася чырванню. Сонца было хоць і на сконе, але чыстае, ружовае, на небе ніводнай аблачынкі. І трохі прыцененыя гмахі шматпавярховікаў пад ім, купкі дрэў каля іх з голым ужо веццем глядзеліся як чаканеныя з медзі і чорнага срэбра. «Заўтра будзе добрае надвор'е, — падумаў Майстра. — Заўтра будзе прыгожы ясны дзень. Заўтра будзе...»

Прыспеў час апранацца, збірацца ў далёкую дарогу. Апранацца старанна, таму што Майстра ведаў: распранацца яму больш не давядзецца. Ён чуў ужо святочныя і жалобныя, зямныя і нябесныя гукі фанфар. Пажадаў зірнуць на тое, што бачылі з акна яго вочы, зверху, з нябёс. Зірнуць на гмахі шматпавярховак, хаты і хаткі, на агаленыя дрэвы каля іх, шпакоўні на тых дрэвах, на тое, як хаваецца за даляглядам сонца, і пачуў гукі трубы. Гарніў сівы стары трубач. Такі стары, сівы і худы, што не давалася веры ў тое, што гэты

нягеглы, з'едзены, зношаны чалавек здольны дзьмуць у трубу і знаходзіць у ёй нейкія гукі. І труба ў яго была старая, з аблезлай палудай. Труба мо з часоў яшчэ грамадзянскай вайны, з часоў Першай коннай Будзённага. І сам ён быў з тых часоў. Вось гэты стары, як архангел Гаўрыла ці Міхаіл, ляцеў па небе і граў яму на сваёй трубе. І Майстра не здзівіўся гэтаму. Ён добра ведаў таго архангела, апошняга з магікан, лепшага з трубачоў, якіх давялося яму чуць у сваім жыцці.

Ён звычайна не лётаў. Гэта быў яшчэ адзін з прадстаўнікоў мастацтва пераходнага перыяду. І стаяў ён больш у падземным пераходзе метро каля выйсця на Камароўскі рынак і прыпынкі трамваяў, дзе і сляпая спявачка Жанна. А яшчэ ўпадабаў і падземны пераход станцыі метро «Плошча Перамогі». Мо гэта назва нагадвала яму нешта. Маладосць і тую ж Першую конную Будзённага, сталасць і рукапашныя баі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, як ён сваёй кроўю бараніў Айчыну, а цяпер вось у гонар яе жабраваць пад зямлёй.

Граў ён самазабыўна і адрачона ад усяго. Нібы на свеце існавалі адно толькі ён і яго труба, як сівы воўк у піліпаўку на могілках нема вые, ускінуўшы ў неба і трубу, і галаву, і вочы. Людзей яму як не існавала. Ён не зважаў на іх, нібы не адчуваў іх побач. Не зважаў на тое, што яны збіваюцца з нагі ў падземным пераходзе, прыпыняюць крок, прыціскаюцца плячыма да гранітных і мармуровых сцен, похапкам, рукавом пінжака ці сарочкі выціраюць вочы, а пад іх нагамі валтузяцца шэрыя птушкі міру, збіраюць зерне проса і сланечніка птушкі міру — галубы. Каля ног сівога старога трубача ляжаў яго ж зношаны капялюш. І амаль ніхто не праходзіў міма, каб хапатліва не кінуць тысячу-другую рублёў. Людзі, здаецца, саромеліся падаваць яму. А ён саромеўся браць і таму ніколі нікому не дзякаваў. Адтрубіў сваё, збіраўся, зачыняў у чорны футарал трубу, з нейкім выклікам і агідай падымаў капялюш, рассоўваў грошы па кішэнях, рабіўся маленькім-маленькім, адным з тых, каму ён толькі што граў, — знікаў, раствараўся ў натоўпе.

Вось гэтага трубача з сівой грывай, распасцёртай па небе, перакрыжаваўшага сваёй трубой сонца, і бачыў перад сабой якраз Майстра. Бачыў і чуў, што з яго вачэй выкацілася і апякла шчаку слязінка, ён сарамліва праглынуў яе, але выціраццa не стаў. Яго ніколькі не здзівіла, што ён бачыць трубача ў небе, хоча чалавек, можа і лятае. Хаця іншыя паспрабуюць і здзівяцца, чаму ў іх гэтага не атрымліваецца. А месца старога гарніста было заўсёды там, у небе. Да таго ж цяпер на двары глыбокая восень, час журбы і смутку, птушкам, усім, хто мае крылы, час адлятаць у вырай, бо на радзіме ім не вытрываць халоднай зімы і маразоў. Лебедзь з лябёдкай паспрабавалі перазімаваць у роднай хаце і падмануліся, абламалі крылы, бел-чырвона-белыя ляглі на абочыне шашы Маскоўка — Варшаўка.

Час і яму, Майстру, Ашыру-татарыну на Беларусі, апранаць белую сарочку, улазіць у чорны смокінг і павязваць чырвоную «бабачку». Збірацца ў свой вырай. Майстра прагнаў усіх адведнікаў з палаты. Застаўся адзін сярод нашэсця кветак і белых бальнічных сцен. Майстру даводзілі, што яму аднаму аніяк не ўправіцца, яшчэ парве што-небудзь ці не так усцягне. Але ён быў няўмольны і жорсткі: яшчэ чаго не хапала, каб гэта ды чужыя рукі дакраналіся да яго. Быў час — апранала маці. А цяпер ён не маленькі, каб сабраць сябе ў якую б то ні было дарогу. Праўду людзі кажуць: голаму апрануцца — толькі падперазацца.

Але адно сказаць гэта, зусім іншае зрабіць. Як і раней, Майстра пачуваў сябе адносна добра. Сала не бунтавала ў страўніку. Дый чаго яму бунтаваць. Усе бунтуюць, калі няма таго сала. Але ён ніяк не мог наважыцца прымусіць сябе наблізіцца да смокінга. Той смокінг пудзілам ляжаў на ложку. І Майстру здавалася, што гэта сам ён ляжыць, выпетраны хваробай і часам.

Некалькі разоў Майстра падыходзіў, датыкаўся да яго рукамі і апякаўся, адскокваў. Нарэшце ён яшчэ раз гукнуў у дзверы, каб ніхто не адчыняў іх, распрануўся дагала, агледзеў і абмацаў сваё цела. Былой пругкасці і нават простага цяпла ў ім ужо не было, скура пад пахамі зжоўкла і абвісла.

Але ж яшчэ нешта і жывое, здатнае да працы заставалася, і ў галаве было праяснена чыста, вось толькі нешта тужліва сціскала яе. Але нічога, з гэтым мірыцца можна было. Варыла галава нейкае сваё касмічнае варыва. А калі галава варыць, то і ўсё астатняе добра. Толькі ж дзве рэчы патрэбны яму для працы, каб з яе быў нейкі плён. Галава і... Мо больш гэта «і». Недарэмна ж старыя людзі кажуць: галава не с... — пабаліць і перастане. З апошняй было горш і раней, і сёння. Яна была менш трывалай за галаву. «Когда б вы знали, из какого сора», — прадэкламаваў Майстра і засмяяўся. Ахматава праніклівая баба, але ўсё ж пасаромелася сказаць праўду. А яму ўжо даравальна сказаць яе, хаця б самому сабе.

Майстра нацягнуў майку і ўзяў у рукі смокінг. І адразу ж галаву адпусціла, наогул адпусціла. Ён надзьмуўся, што індык на чырвонае, на бель і чарноту сваёй святочнай апраткі. Але дух той прыйшлося і выпусціць, жывот хоць сёння і паменеў, але ўсё ж адыходзячы ад люстэрка, мармытаў нешта хоць і выразнае, але няпэўнае: заставаўся велікаватым, трэба было ўціскацца. Уціснуўся і подбегам кінуўся да люстэрка. Не таго, у прыбіральні, разбітага, а да цэлага яшчэ, у палаце. З сарамлівай і трохі ніякаватай усмешкай пачаў углядацца ў сябе. Невядома, спадабаўся ён сабе ці не, таму што, адыходзячы ад люстэрка, мармытаў нешта хоць і выразнае, але няпэўнае:

— Бываюць у жыцці памылкі, сказаў вожык, спаўзаючы са шчоткі, — і трошкі пазней дадаў: — Прыдурак, прыдурак.

І ў гэтым «прыдурку» было ўжо больш пэўнасці і задаволенасці, і ўсмешка на вуснах яго не выдавала напружанай. Ён дастаў з кішэні старой сарочкі маленькі чорны каменьчык з магілы Багдановіча, пераклаў яго ў кішэню белай сарочкі, што была на ім.

Паклаў каменьчык у кішэню і адчуў, як ён слізгануў, боўтнуў, апускаючыся на самае донейка, сцяўся, стаіўся, прыціскаючыся да яго грудзей. І сам стаіўся, сцяўся ў нагах свайго ложка, нязводна і вельмі пільна, сухім і строгім позіркам углядаючыся ва ўзгалоўе. Наблізіўся да ўзгалоўя, адкінуў убок падушку, выцягнуў з-пад яе невялічкую, але ж,

пэўна, вельмі цяжкую цынкавую скрынку. Цяжкую, бо рукі яго дрыжэлі, хадзілі ходырам, і вочы, як ад напругі, пачырванелі і набрынялі вільгаццю. Узняў і паднёс скрынку да грудзей, пацалаваў і прыціснуў да сэрца, каля якога стаіўся і чорны маўклівы каменьчык. Каменьчык азваўся болем у яго грудзях.

Майстра адарваў ад сябе скрынку, нейкі час патрымаў аберуч, як у абдымках. Паставіў пасярэдзіне ложка і сам стаў насупраць. Наструнiўся, што салдат у страі, расправіў плечы, увабраў жывот, паляпаў па тулаве, абцягнуў смокінг.

— Ну, як я табе падабаюся? Не прагоніш, прымеш такога прыдурка?.. Не пярэч, прыдурак, ведаю... Гожы, гожы, і ты ў мяне прыгажуня. Але мы абое з табой прыдуркі. Шчаслівыя прыдуркі... Талент і майстэрства тут ні пры чым. Тут талент і майстэрства жыць. І гэта ты, і толькі ты. А ўсё астатняе каню пад хвост... Не, не чаўпу, ведаю, што кажу. Праўду кажу. Ты ніколі не хлусіла мне, не хлушу і я табе ў свой апошні час. Толькі не думай, што гэта было лёгка, пражыць з габой жыццё і ні разу не схлусіць. Уга, я ж хлус, хлус па натуры і прызванні. Але ты прымусіла мяне пераадолець сябе. Адсюль святло і шчасце сёння перад апошняй і далёкай дарогай і блізкім ужо спатканнем з табой... Як мне тут жылося? Гэта я ўжо раскажу табе пры сустрэчы..

Ведаю, разумею, зачакалася. І я занудзіўся. Так, чатыры гады, чатыры гады...

Майстра гаварыў з жонкай. Прайшло чатыры гады, як яна памерла, якраз падчас яго цяжкай аперацыі, памерла, лічы, па сваёй ахвоце. І Майстра цяпер выказваў ёй за гэта:

— Крыўдую, крыху крыўдую. А калі шчыра, то моцна крыўдую. Не паверыла мне. Адзіны раз не паверыла і сабе, і мне, нарабіла такога клопату. Я ж табе тады казаў, што гэта яшчэ не мой час, што я выграбуся з таго свету... Урачы? Што тыя ўрачы пра чалавека ведаюць? Толькі сам чалавек ведае пра сябе ўсю праўду і толькі калі яшчэ не зняверыўся, не збыў сябе ў хлусні і падмане. А з табой і каля цябе я быў чысты. А ты не паверыла мне... паверыла ўрачам.

Урачы тады, чатыры гады назад, яго ўжо спісалі. І, пэўна, напрамую сказалі аб гэтым жонцы. Ён быў у непрытомнасці, гарачкава трызніў пасля аперацыі. У такім жа гарачкавым трызненні, пэўна, была і яна, калі Майстра гаварыў і бачыў яе ў апошні раз.

— Не магу, не хачу і не застануся без цябе на гэтым свеце, — апошняе, што пачуў ён ад яе.

І, здаецца, адказаў, што адна яна не застанецца. Яны памруць разам у адзін і той жа дзень. І разам у адной магіле іх і пахаваюць. Яна не паверыла яму. І з тым няверам адышла. А Майстра застаўся. Мо якраз яна з таго свету выцягнула яго, некаму замовіла слоўца. І на чатыры гады падоўжыла яго жыццё.

Майстра не дазволіў яе хаваць. Загадаў крэміраваць. А пасля таго ўжо, як выйшаў з бальніцы, атрымаў урну з яе прахам. І зноў жа не згадзіўся на калумбарый, адмовіўся яе ўмураваць ў сцяну, як гэта рабілася. Ніколі не хлусіў ёй пры жыцці, не хацеў хлусіць і пасля смерці: трэба было трымаць абяцанае ёй апошняе сваё слова. Калі сказаў, што пахаваюць іх разам у адной магіле і ў адзін дзень, то так яно і павінна ўжо было адбыцца.

На гэта меліся яшчэ і асобныя падставы. Яны былі неразлучныя пры жыцці, праз хвіліну каналі ўжо і шукалі адно аднаго. А смерць магла іх разлучыць, развесці па розных могілках, адкуль яны і ў бінокль не здолеюць пабачыцца. А яго і яе бацькі спакон веку клаліся ў магілы, ляжалі на могілках, лічы, у абдымку. Як і жылі на гэтым свеце. І мо таму ніхто і ніколі з іх не баяўся смерці. Яны проста выпраўляліся ў дарогу, калі прыспяваў час тае дарогі. Выпраўляліся нават светла і ўрачыста, як на поле ці ў лес, сяўбу ці жніво. Бо была ўпэўненасць у працягу жыцця. Працягу іх следу на зямлі. І яшчэ — непарушная ўпэўненасць, што іх выправяць у тую апошнюю дарогу, як і яны ў свой час выпраўлялі сваіх бацькоў. Іх абмыюць, і ўбяруць, і пахаваюць па-людску. Не кінуць, як сабаку пад плотам і праводзяць як заведзена, на трэці дзень. І будзе дзень дзявяты, і будзе дзень саракавы. Яны сустрэнуцца і пагамоняць, папросяць адно ў аднаго

прабачэння. А здарылася нешта непрадбачанае, то і парады, дапамогі.

Бог і яго прыбіральшчыца вызвалілі іх, загадалі адпачыць і супакоіцца, але гэта не значыць, што адлучылі ад людзей, развялі назаўсёды па розных светах. Проста адны ўжо стаміліся і прылеглі адпачыць, а другія рупяцца пад іх наглядам. І месцейка ім адведзена адпаведнае, у прахалодзе, цяньку і сярод спеваў хвой і дубоў, самае высокае ва ўсім наваколлі, каб праглядвалася дарога, каб відно было, як ідзе дым з комінаў. Ім відно і іх відно. Мёртвыя не забываюць жывых, яны як дазорныя, вартаўнікі і прадаўжальнікі жыцця з таго свету. І жывыя не цураюцца, шануюць сваіх нябожчыкаў, бо сорам перад імі маюць. Сорам і гонар за сябе і свой радавод. І ў той жа час не змешваюцца, не сутыкаюцца, існуюць паасобку. Не тое, што сёння, цяпер, зараз: у кожнага пад ложкам свой нябожчык.

Меўся свой нябожчык пад ложкам і ў Майстра. Ён забраў з крэматорыя урну з прахам жонкі, прывёз і пасяліў яе зноў у сваёй хаце. Свядома, на сваёй ахвоце вырак сябе на неймаверныя пакуты. Бо адчуваў за гэтым і вялікі грэх, мо самы вялікі перад тварам вечнасці і Бога. Разам парушыў Боскае і чалавечае наканаванне. Пазбавіў сваю жонку прадпісанага ёй з нябёс спакою і спачынку. Злавіў і заключыў яе душу, як птушку, у клетку і трымаў у няволі.

Адно суцяшала — гэта зняволенне было ўзаемным. Хоць яго нябожчык пад ложкам — а менавіта туды памясціў урну з прахам жонкі Майстра, спачатку пад матрац у ўзгалоўе, а потым пад ложак — дык вось, хоць яго нябожчык быў спакойны, але час ад часу паўставаў і выходзіў з падпарадкавання, асабліва на змену квадры — пад маладзік і поўню і ў сатанінскія дні так званых магнітных бур. Ці яе спакушаў нехта, ці яна спакушала яго, прасіла выпусціць яе душу на волю, аддаць зямлі. І ў такія дні Майстру не было спакою. Прах нябожчыцы, попел яе, заключаны ў змрок наглуха запаянай цынкавай скрынкі, як узняты буравеем, пачынаў кружыцца і шапацець. Пэўна, дух яе, душа скрэблася аб металёвыя бакі скрыні і, здаецца, нешта спрабавала мовіць.

А Майстра быў глухі да той яе тагасветнай мовы, падхопліваўся з ложка і пачынаў курыць без перапынку, прыпальваючы адну цыгарэту ад другой. І ў пакоі набіралася столькі сінечы, дыму, што губляліся ўсе рэчы, нават абрысы іх. І з таго сіняга дыму, абрысаў знаёмых рэчаў выплывала, вымаўлёўвалася чорт ведае што. З'яўлялася сама жонка, толькі не пяшчотная і ласкавая, як пры жыцці, а злосная і раз'юшаная. Садзілася побач з ім, закідвала нагу за нагу. У руках яе, немаведама як, аказвалася прыпаленая цыгарэта. Яна курыла, курыла прагна, хапатліва і наравіла пусціць дым яму ў твар, у вочы.

Майстра трываў да пары, да часу. А калі не хапала цярплівасці, абуджаліся пратэст і непакора, ён падымаўся і ішоў на кухню, каб папіць вады ці адчыніць фрамугу. Тады тварылася нешта ўжо зусім неверагоднае. Так, аднойчы, калі ён у чарговы раз сярод ночы збег на кухню і, хаваючыся там ад змроку і баронячыся тым змрокам, стаяў каля акна, запальваў і адразу ж тушыў пальцамі свечку, што заставалася ў хаце пасля смерці жонкі, запальваў і тушыў, прыляцела немаведама адкуль нейкая незвычайная, нябачаная ім раней птушка, ні то варона, ні то голуб. Села на падаконнік, стукнула дзюбай па шыбіне, аж ляскат пайшоў. Узнялася крыху ўгору, распасцерла над непатушанай на гэты раз свечкай крылы. І білася крыламі ў шкло, нібыта прасілася ўвайсці ці намагалася патушыць полымя свечкі.

Майстра не верыў у забабоны, але тут яго ахапіла жудасць і жах, і холадна, холадна так адразу зрабілася, што ён скалануўся і хуценька патушыў сам свечку. Прымроілася, падумаў ён. Мо так бы і засталося гэта мрояй, каб на другі дзень ён не знайшоў на падаконніку балкона каля кухні невялічкае птушынае пяро. Нават хутчэй не ён знайшоў, а само пяро яго знайшло. Пяро ўзляцела над падваконнем, як толькі Майстра наблізіўся да яго. Яно гналася за ім, калі Майстра пакідаў балкон, наравіла заляцець у пакой. Толькі Майстра не пусціў яго. Але такі дзіўны выпадак быў усяго адзін раз, хаця рэдкая ноч перад поўняй ці маладзіком абыходзілася без якога-небудзь здарэння. Толькі тыя здарэнні

былі дробязныя і нязначныя ў параўнанні са з'яўленнем птушкі. Перад поўняй невядома чаму ўвесь час біўся посуд. На маладзіку нехта перасоўваў мэблю. У так званыя сатанінскія дні магнітных бур віхура касмічных і, пэўна, тагасветных вятроў урывалася, праходзіла праз яго кватэру і яго душу. Далёкі космас спатыкаўся на парозе яго хаты, сустракаючыся з пылам і прахам сусвету, з Майстрам і яго нябожчыцай пад ложкам.

Жыць Майстру з нябожчыцай пад ложкам было невыносна цяжка, нягледзячы на тое, што гэта нябожчыца была родная, блізкая яму, была яго каханай. І ў той жа час трэба прызнаць, што яму ніколі так лёгка не працавалася. Ён як набыў другое дыханне. На чатыры гады яму была даравана другая маладосць. Душа яго як набыла відушчасць, так упэўнена і без марных ваганняў вяла яна руку, скіроўвала зрок і слых, асцюжвала, ці, наадварот, сагравала розум, што яму заставалася толькі адно — не пярэчыць сабе, не наступаць на глотку сваёй песні і не пярэчыць душы.

І той жа час у ім выспела перакананне, што не толькі ён адзін такі пакутнік на зямлі. На ёй сёння, падобна яму, гібеюць амаль усе. У самога дабрабыту схаваны пад ложкам свой нябожчык. У кожнага ва ўзгалоўі ці ў нагах свой прывід, анёл-выратавальнік ці д'ябал-спакушальнік. І хутчэй апошні, бо ён бліжэй чалавечай натуры. Чалавек пакланяецца Богу, моліцца яму і азіраецца праз плячо, узгадвае пра д'ябла.

І ўсё гэта ў тваёй кватэры, у тваёй жыццёвай прасторы, вялікая яна ці маленькая, у тваім часе, твой крыж і прывід. І знікаюць яны толькі разам з табой, з тваім часам, эпохай і прасторай. А калі намерышся пярэчыць гэтаму знікненню, узводзіш свой крыж і прывід да становішча ідала, тады бурыцца прастора іншых. Мо вось так і таму сёння разбураюцца ўсе п'едэсталы, падаюць і разбіваюцца ў друз ідалы.

Свайго нябожчыка пад ложкам займеў не толькі ён, Майстра, але і дзяржава, у якой ён жыў. І ў адначассе дзяржава тая знікла, як карова яе языком злізала. Толькі па ўсім тым і гэтым свеце разбегліся хвалі баламуцтва, збянтэжанасці і бессаромнасці. Бо бясконца трымаць пад ложкам свайго,

няхай і дзяржаўнага, нябожчыка, немагчыма. І вельмі небяспечна. Рана ці позна кожнага, хто наважыўся на такое, спасцігае пакаранне. Рана ці позна зняволены нябожчык, нават самы рахманы і спакойны, выходзіць з падначалення і пачынае жыць, абвяргаючы людскія і Боскія законы,ператвараецца ў крывасмока, вампіра. А калі ж ён ды паспытае хоць раз чалавечай крыві, паратунку ад яго ўжо не будзе нідзе і нікому. Той, хто паспытаў чалавечыны, ніколі ўжо не будзе, не згодзіцца пасвіцца хай і на рамонкавым лузе, абыходзіцца мурагом.

Будучы ўвесь час блізкім да ўлады, Майстра вельмі добра гэта ведаў. І апошнім часам нудзіўся ад такой блізкасці. Нудзіўся і пакутаваў удвая, што не можа пазбавіцца яе. Больш таго, ён, як і кожная ўлада, мае свайго нябожчыка пад ложкам. Нябожчыцу, хоць і сваю родную жонку. І настолькі ўжо зліўся, звыкся з гэтым, так упадабаў свае ад таго пакуты, што гатовы цяпер пакутаваць і далей, ужо без прымусу, па сваёй ахвоце. І цяпер ужо невядома, хто з іх нябожчык. «Сумасшествие — род недуга», вось да чаго не проста трызненнем была цяпер яго гаворка з жонкай. Гаворка жывога з цынкавай скрынкай і прахам, які знаходзіўся ў скрынцы. У тую хвіліну ён ужо быў на роўных з ёй, хоць розум яшчэ і захоўваў прабліскі свядомасці і ў нечым кантраляваў яе. Толькі кантроль той, як і сама свядомасць, былі ўжо вар'яцкія, пазасветныя.

— Сустрэліся. Нарэшце сустрэліся, — шаптаў Майстра. — Табе не холадна?

Гэта ён прыгадваў, успамінаў першую сустрэчу з ёй. І дзве гэтыя сустрэчы, колішняя і сённяшняя, перасекліся, сышліся ў часе, бо самога часу ў звыклым вымярэнні для яго ўжо не існавала.

Тады, перад першай сустрэчай з ёй, Майстра пакутаваў ад бяссоння. З галавой улез у працу і страціў, як скруціў сабе, галаву. Бессань вымотвала яго да беспрытомнасці. Але было гэта яшчэ ў сярэдзіне жыцця, апоўдні яго. І мелася сіла, закладзеная, дараваная яму шматлікімі продкамі і бацькамі. І сам ён быў трывушчы, што калгасны сівы конь.

Быў здольны не падымацца, не вылазіць з-за стала суткі і болей. Бесперапынная, цяжкая праца толькі надавала яму моцы. Самаспаленне зачароўвала. Выгарала ўсё пабочнае, дробязнае. Заставалася толькі самае-самае, на чым ён быў засяроджаны, як паравоз на рэйках, што ляціць у цемры ночы з дзвюма фарамі на лобе, абганяючы і рассоўваючы тую цемру.

Уся задача зводзілася толькі да таго, як паставіць гэты паравоз зноў на рэйкі, калі ён вымушаў сябе перарвацца, спыніцца і адпачыць. Па-першае, паравоз ніяк не хацеў спыняцца і тады, калі ён ляжаў у ложку, з заплюшчанымі вачыма. Вочы працягвалі крышыць цемру, колы — намотваць кіламетры сталёвых рэек. І выключыць сябе, адсекчы ад гэтага вар'яцкага руху было немагчыма ўсю доўгую-доўгую зімовую ноч. Сон, калі яшчэ атрымлівалася заснуць, быў неглыбокі, з трызненнем і мроямі. Вяртанне ў дзень — з галаўным болем і разабранасцю ўсяго цела на асобныя часткі, дэталі. Ад былога запалу, агню, стыхіі — ні знаку. І трэба было спакваля і вельмі доўга падымаць сябе, збіраць і ставіць зноў на рэйкі, каб на наступны дзень усё паўтарылася. І так тыдзень, месяц, а іншым разам і год.

Майстра злаўчыўся падманваць сябе. Знарок пераблытаў дзень — ноч, адпачынак — працу, сон і бессань. Тое падманнае, перакуленае жыццё было таксама пакутным. У ім панавала самота, бо вытрываць яго ніхто іншы ніколі б не здолеў. Сузіральная, нязменная і непраходная самота ў пераменлівым свеце, сярод зеляніны і раскошы лета, аднастайнасці і абыякавасці белага зімовага снегу. І ён творца і вязень усяго і сярод усяго гэтага.

Неяк у роспачным адчаі ён цягнуўся па зіме. Плёўся па заснежаным садзе ў змроку надвячорка, а мо і ночы ці рання. І раптам за ствaламі яблынь сярод паляны ў глыбі саду прыкмеціў трох дзяўчат ці кабет. Зацікавіўся, што яны там робяць, не то ведзьмы нейкія, дрэваніцы, не то зімовыя русалкі. Не інакш варожаць, займаюцца чараўніцтвам. Тым жа самым, падумаў Майстра, не шкодзіла б заняцца і яму.

І Майстра напрасткі падыбаў да іх. Зіма тая выдалася снежнаю. Снегу выпала ў пояс, але ісці было лёгка. Дзень ці два напярэдадні гэтага прайшоў дождж, а потым прыціснуў ладны марозік. І па снезе можна было каціцца котам. Майстра падкаціўся да жанчын як на лыжах. Жанчыны пілі віно. Танную, абыходкавую «Ізабелу». І гэта Майстра здзівіла. Ці варта было ім цягнуцца сюды сярод ночы, каб займацца мужчынскай справай. А яшчэ больш здзівіла тое, што жанчыны былі з няпростых, нейкіх там шмакадзявак, Дунек з вадакачкі. Дзве з іх дык нават у натуральных дарагіх футрах, праўда, не сабалёвых, не пясцовых, а з меху нутрыі, але ў той час гэта таксама былі футры, і дарагія. Адна толькі ў сціплым кажушку. А рукі кожнай у пярсцёнках з каменнямі. Дзіўна, дзіўна.

Але дзівіўся Майстра нядоўга. Ён зразумеў, што перад ім такія ж пустэльніцы, самотніцы, як і ён сам. Ад добрай жыткі не пацягнешся пад яблыні ў чыстае поле піць на снезе і ў мароз таннае віно. Хаця гэтыя тры ці хутчэй дзве з іх шалеюць ад раскошы. Такое сёння здараецца з жанчынамі, і вельмі часта. Але ў наступную хвіліну Майстра перамяніў сваю думку. У гэтым нешта было, нешта было. І вельмі прывабнае, жаданае ім самім.

У жанчын быў сапраўдны стол. Снегавы, засланы саматканым настольнікам ці не з сапраўдных уральскіх каменняў-самацветаў. Жанчыны зрабілі яго, з усіх бакоў абтаптаўшы снег. І крэсла сабе са снегу зрабілі, і кроплі чырвонага віна выдавалі на гэтым снезе як буйныя і непадробныя рубіны. І ці не яго мару здзейснілі гэтыя тры выпадкова сустрэтыя ім наскрозь гарадскія жанчыны, хай мо разбэшчаныя, распушчаныя, але ж з яго адчуваннем і памкненнем да хараства і прыгажосці.

Аб нечым падобным ён марыў яшчэ з дзяцінства. У той мары пераблыталіся і спляліся разам усе казкі, якія ён ведаў, музыка, якую чуў, карціны мастакоў, якія бачыў: «Дванаццаць месяцаў», «Незнаёмка» Крамскога, «Снежная каралева», «Русалка» Даргамыжскага — паэзія, опера, ба-

лет і жывапіс. І ён, Майстра, яшчэ ў дзяцінстве, канаючы ад холаду ў бараку фашысцкага канцлагера, бачыў сябе ў чыстым полі на ложку з чыстага лёду пад коўдрай чыстых, бялюткіх снягоў. Адзін, сам-насам перад усім белым светам, які ўжо даўно сканаў, вымерз. Так ён марыў жыць далей і мо таму выжыў.

Пазней, апоўдні свайго жыцця, бадай сёння, мара гэта абудзілася ў ім, вярнулася да яго зноў. Вярнулася ў перакулены свет яго пачуццяў, калі ён пакутаваў ад бяссонніцы, страціў ноч і не набыў адчування дня. Менавіта тады яго пацягнула ў самоту снегу, у цёмную журбу халоднай ночы і далёкіх зорак на зімовым небе. Калі за акном зямля стагнала ад раз’юшанага ветру, а ён ляжаў у ложку і сну не было ні ў адным воку, тады ён бачыў сябе сярод чыстага поля пад коўдрай са снегу, адзін толькі нос вонку. Там, на гэтым пустэльным полі, на снезе, здавалася яму, можна было аздаравець, вярнуцца да сябе былога. У кватэры, у спальні яму не хапала паветра. Не было таго здаровага, чыстага паветра, здавалася, і ва ўсім горадзе, мо і на самой зямлі. Яго цягнула ў неба да нейкай новай планеты, нязнанай ім новай рэчаіснасці.

І ў прывідных сваіх снах, наяве і трызнячы, Майстра пакідаў сваю хату, пакідаў зямлю, вышмыгваў у фортку і ляцеў пад посвіст ветру і мірганне зорак. Такім чынам, хоць на кароткае імгненне ды адпачываў у прыдуманым, вар’яцкім свеце, якога не існавала і не магло існаваць. У такі ж свет ён выправіўся і тае памятнай ночы. Ішоў як прывід і ў прывіднасць, а раптам апынуўся ў рэальнасці. Неверагоднай, немагчымай, але самай сапраўднай рэальнасці.

— Што, мужчынка, паднесці і табе? — запытала ў яго адна з «нутрый».

«А чаму б і не», — падумаў Майстра і працягнуў руку. Яму адразу ж улажылі ў працягнутую руку бутэльку з віном.

— З гарла? — яшчэ здзівіўся ён.

— У нас па-простаму, — запэўніла яго другая «нутрыя». — Усе здаровенькія, заразных няма.

Свет сапраўды быў на той час шмат здаравей, да СНІДу заставалася яшчэ ці не два дзесяцігоддзі. І Майстра прыпаў да пляшкі, што бычок да вымя маці.

— З якой нагоды п’яце? — спытаўся ён у жанчын, спатоліўшы смагу.

— Доўга расказваць, — мовіла адна з «нутрый», а другая дадала:

— Ды ты ўсё роўна не зразумееш, так што выпіў — і адвалі.

— Чаму не зразумею? — пакрыўдзіўся Майстра. — Усё зразумеў. Я наконт выпіўкі кемлівы.

— Усе вы наконт гэтага і трохі яшчэ іншага кемлівыя, — суладна ўздыхнулі «нутрыі».

Але Майстра чакаў адказу не ад іх, а ад «авечкі», як ён нарок яе, ад жанчынкі ў кажушку. І тая як зразумела яго чаканне.

— Вы не падумайце толькі чаго-небудзь лішняга, — сказала яна. — Проста нешта наскочыла. Наляцела і ўсё. Ішлі па горадзе, вакол усе п’яныя, лаюцца, чапляюцца, прыстаюць. Вось і мы, як заразіліся. Зайшлі ў магазін, купілі пляшку віна, выпілі ў тэлефоннай будцы.

— Госпадзі, госпадзі, — ляпнулі ў ладкі «нутрыі» і зарагаталі. — Як яны на нас пазіралі, як яны на нас пазіралі. Думалі, вочы павылазяць. І назло ім, назло... Назло ўсяму свету... — І працягвалі рагатаць, толькі неяк вельмі журботна. І працягвалі яшчэ нешта даводзіць яму.

Але Майстра больш не слухаў «нутрый» і не глядзеў на іх. Пазіраў на тую, што нарок «авечкай».

— Табе не холадна? — спытаўся Майстра ў яе, бо бачыў, адчуваў, холадна, вельмі холадна ёй на белым свеце. Як і яму...

— Табе не холадна, табе не холадна? — пытаўся Майстра і цяпер у яе сярод чатырох сцен цёплай бальнічнай палаты пад яркім святлом электрычных лямпачак, як і тады пад яблынямі на заснежанай паляне пад святлом поўні на небе. — Ты не хвалюйся, цяпер я цябе сагрэю. Табе не прыйдзецца больш мерзнуць. Мы ж сустрэліся, сустрэліся...

Гэта Майстра выказваў ужо не моўленае тады. Тое, што тады мо і не варта было гаварыць. Але гэта нявыказанае Майстрам выспела ў ім менавіта тады і цяпер прасілася вонку.

— Мы будзем, будзем яшчэ шчаслівыя. Бо, бачу, ты добра апяклася ў жыцці. У прах, і не адзіны раз, спаліла крылы. І я іх двойчы паліў. А Бог любіць тройцу... І мы будзем, павінны быць шчаслівымі. Два няшчасці — гэта ўжо шчасце, два прыдуркі...

У дзверы заляпалі, загрукалі. У іх ляпалі і грукалі ўжо даўно, Майстра спачатку не зважаў, а потым ужо нічога не чуў. Але цяпер білі так, што і мёртвага маглі падняць. І Майстра ачуўся, вярнуўся на зямлю. Са словамі:

— Прыдуркі, прыдуркі, прыдурак... — замітусіўся, забегаў па пакоі. Шукаў, куды схаваць, пакласці цынкавую скрынку. Ён не хацеў і няздольны быў пакінуць яе тут, як не пакінуў у хаце, калі яго павезлі ў бальніцу. Ведаў і тады, што больш у сваю хату не вернецца, як ведаў і цяпер, што больш у гэты бальнічны пакой таксама не вернецца, і не хацеў з ёй разлучацца. А яшчэ прагнуў, каб яна пачула, што пра яго будуць гаварыць на юбілеі. Пабачыла на свае вочы, як ён будзе праходзіць. Хай і ў яе будзе свята.

Нічога зручнага для такой, хоць і невялічкай, але вельмі дарагой ношы не знаходзілася. Такога, каб гэта не выклікала ніякіх пытанняў, каб ніхто нават вокам не зачапіўся, не спатыкнуўся аб яе. Пра гэтую яго ношу ніхто на свеце, нават лепшы сябар, нічога не ведаў і не здагадваўся. Хай даведаюцца потым ужо, ён выказаў сваю волю.

Майстра схапіўся за дыпламат. Урна туды не ўлазіла. Паспрабаваў запхнуць за пояс, пад смокінг, адчуў, што нічога не атрымаецца. Схапіў некалькі поліэтыленавых пакетаў, усунуў адзін у адзін, увапхнуў туды скрынку, зверху паклаў дзве ружы.

— Можна. Заходзьце, толькі не ўсе разам, а па чарзе, — гукнуў у яшчэ зачыненыя дзверы. І тыя адразу ж адчыніліся, і паперлі ў іх не па адным, а як у нас заўсёды адбываецца, — усе гуртам.

— Спяшаецеся, як на партсход, — прытворна абурыўся Майстра. — Ну як, як прыдурак?

— На ўсе сто! — аднагалосна заверылі яго. — Хоць на юбілей, хоць на вяселле.

Гэта апошняе «на вяселле» крыху засмуціла яго, бо ён адразу ж узгадаў нявесту. Але смуткаваць ужо не было часу. Машына, міністэрскі, а мо і прэзідэнцкі «мерседэс» чакаў ужо каля пад'езда. І сястрычка з чамаданчыкам стаяла на выхадзе.

— Прелесть, прелесть, просто ужас, — не стрымалася, войкнула ў далоні, убачыўшы Майстра.

І Майстра, адчуўшы жанчыну, яе шчырае захапленне, ускінуў падбароддзе, выпнуў некалі магутныя, бычыныя, а цяпер маленькія, птушыныя грудзі, пеўнікам наблізіўся да яе і пацалаваў руку. Мо дзеля яе, гэтай жанчыны, захаплення ў яе вачах, захаплення ў вачах усіх іншых жанчын, ён і заказваў гэты смокінг, настойваў на юбілеі, цягнуў да юбілею, каб і самому захапіцца апошні раз, захлынуцца пяшчотай, адказаць на чужую незнаёмую ўсмешку сустрэчнай усмешкай і назаўсёды адляцець у вечны вырай.

Сястрычка прыўзнялася на дыбачкі, пацалавала яго ў шчаку, а потым і ў вусны, нешта прашаптала на вуха. Ён адмоўна хітнуў галавой, але сястрычка тупнула нагой, і ён моўчкі пацёгся за ёй у палату, па абязбольваючы ўкол, па гадзіну-другую гарантаванага спакою на юбілеі. Кемлівая ўсё ж трапілася яму сястрычка, разумніца, і рука ў яе была лёгкая. Майстра і не адчуў уколу. Кінулася дапамагаць яму зашпільвацца, толькі ён не даўся, папрасіў яе выйсці. Застаўшыся адзін, завесіў у палаце, як раней у ваннай, люстэрка. Прысеў на хвілінку перад дарогай на крэсла, затрымаўся позіркам на восеньскіх запозненых кветках, глыбока ўдыхнуў іх перамешанага з лекамі паху. Падняўся, выйшаў з палаты і шчыльна зачыніў за сабой дзверы.

## V

Майстра дарэмна засмучаўся, што будзе мала народу і яму давядзецца слухаць сваё і чужое рэха ў напаўпустой вялізнай зале самага шыкоўнага сталічнага кінатэатра. Народу было столькі, што і яблыку недзе ўпасці. Майстра быў агаломшаны, заплюшчыў вочы. Яму хацелася прайсці на сцэну непрыкметна і таксама непрыкметна дзе-небудзь прытуліцца там у куточку. А тут і самому юбіляру не ўбіцца, не прашыцца нават у праходы па зале...

І народ у пераважнай большасці быў няпросты. Адборны, гонар і цвет Беларусі, эліта. Сталічны бамонд у поўным складзе. І госці з-за мяжы, далёкай і блізкай. Не з бору па сосенцы. За кожным эпоха і час, і кожнага ён ведаў, кожны ці сябра, ці добры знаёмы, паплечнік ці яго ж вучань. Былі сярод іх і нядобразычліўцы, і шчырыя ворагі. Майстра сам кожнаму асабіста паслаў запрашэнне. У гэты дзень ён мо больш хацеў бачыць іх, чымсьці аднадумцаў і прыхільнікаў. Было нешта ў гэтым задзірлівае, але ў той жа час пажаданае, вельмі неабходнае Майстру. Сябры і прыхільнікі прыядаюцца ўсё ж, а ў ворагу заўсёды ёсць нешта нечаканае. Ён агаломшвае цябе, ты агаломшваеш яго, пнешся, каб і вораг быў варты цябе, а ты — варты яго. Неабходная і прыстойная, жыццесцвярджальная варожасць. Мо таму, што апошнім часам звяліся сапраўдныя ворагі, так змізарнела жыццё, чалавечая парода. Майстра схіляў галаву і вітаў сваіх ворагаў. Яны, не здагадваючыся аб тым самі, больш давалі і зычылі яму, чымсьці сябры. Абвяргаючы яго, яны стварылі сваё. А ён, не прымаючы іх, у той жа час вывучаў створанае імі, імкнуўся падняцца над імі, рухаўся наперад. Таму адбыўся і адзначаўся яго юбілей. Майстра быў сапраўдным, але хітрым прыдуркам. І прыдурак — у адносінах да сябе — было самае любае яму слоўца.

Ён блазнавата пасміхаўся, наглядаючы за залай. І ў той жа час адчуваў, як яго ахоплівае неспакой і неўласцівыя яму скаванасць і баязлівасць. Ён загадзя падрыхтаваў, нёс ім слова. Урачыстае і велічнае. Але гэтае слова, калі ён апы-

нуўся сам-насам з імі, раптам знікла, як яго ніколі і не было. Наогул адняло нават мову. Такой была насцярожана вычакальнай і ўрачыстай сама зала, кожны чалавек у ёй, у адыходзячай, паміраючай эпосе мастадонтаў, вепраў. Ластаўкамі пырхкалі званыя і нязваныя заўсёднікі ўсіх юбілеяў і прэзентацый, пераспелыя ўжо халяўшчыцы і халяўшчыкі, што, пэўна, так і вымруць, застаючыся ў паблажлівай пары свайго камсамольскага юнацтва. Гэтыя сканаюць, а на змену ім прыйдуць новыя, бо іх парода неўміручая, нестамляльная, вельмі дзейсная, заўсёды ў бліскучай форме.

Майстра адчуў сябе лішнім і непатрэбным на гэтым балі шчырасці і падробнасці, блазенства, прытворства, пыхлівасці і сціпласці, дзе ўсё напаказ і ўсё стоена, прыхавана. Але ўсё тое ж самае было і яго існасцю, чорным і белым хлебам яго жыцця, лёсу. І наракаць на самога сябе не выпадала. Трэба было адрабіць, адбыць сваю чаргу, і тут ён ужо не належаў ні сабе, ні сваім жаданням: не хочаш, ды мусіш.

Майстра прыгадаў брыдкі выпадак з свайго жыцця, калі ён быў запрошаны на юбілей знакамітага сатырыка-драматурга яшчэ ў далёкія застойныя часы. Ледзь выбіўся з людскога тлуму яшчэ ў гардэробе. У першых шэрагах нахабна перла залатазубае і залатаноснае мурло, з якога толькі і рабіў, што здзекаваўся сатырык. Гэта мурло заняло і ўсе лепшыя месцы ў зале і за сталом. Уражаны гэтым, Майстра добра ўкінуў за каўнер, а прасцей кажучы, напіўся. П’яны ўшчэнт злавіў у прыбіральні трохі цверазейшага юбіляра і пачаў даводзіць яму:

— Што ж гэта, што ж гэта робіцца? Тут жа зборышча персанажаў усіх тваіх п’ес.

— Ага, твая праўда, — пагадзіўся драматург і, здаецца, зусім працверазеў. — Усе яны тутачкі.

— Як жа так...

— А так, тут вам не здзесь, — пастукаў сябе пальцам па галаве і па грудзях. — І ўвогуле, колькі гэта табе цяпер гадоў?

Майстру было тады каля сарака.

— Вось і добранька, дабрача, — мовіў драматург. — Праз дваццаць гадоў я прыйду на твой юбілей. Дагаворым.

Таго сатырыка-драматурга сярод прысутных у зале цяпер не было. Сёння ён знаходзіўся ўжо далёка і даўно. І Майстра, узгадаўшы гэта, адчуў палёгку: зараз яму не трэба было апраўдвацца перад ім.

Усё гэта прамільгнула ў галаве Майстра імгненна, адным наплывам. Як і тое, што шмат людзей прыйшло сюды, каб дасведчыцца, што ён яшчэ праўда жывы. З цікаўнасцю паназіраць, як ён вытрывае гэты боль. Ёсць і такая, вечна жывая парода людзей, што бежкі бегаюць на чужыя хаўтуры і пахаванні. Ён нават недзе чытаў, што гэта іх сексуальна ўзбуджае. Без гэтага яны...

Дадумаць Майстру не далі. Чаканне, святочная ўзрушанасць залы, а больш прызначаныя некім яго павадыры пачалі падштурхоўваць ужо Майстра ў плечы і з бакоў, выдзіраць з залы і цягнуць на сцэну. Там, злева, на ражку яе, і крыху ўпрыцемках, стаяў белы маленькі столік з вялізным букетам чырвоных і белых руж. Да таго століка было прысунута таксама белае шыкоўнае скуранoе крэсла. Ён узрадаваўся таму крэслу, століку, кветкам. Зразумеў, што гэта яму ўсё, як прэзідэнту ці каралю краіны падчас выступлення на сесіі ААН, і на тым белым крэсле за бялюткім столікам ён у сваім чорным смокінгу з чырвонай «бабачкай» на грудзях будзе выглядаць не горш за кожнага прэзідэнта і караля.

Але падымацца на сцэну і садзіцца ў ганаровае крэсла ён адмовіўся наадрэз, як яго ні падштурхоўвалі, як ні ціснулі на яго. Гэта ж усё роўна як па сваёй ахвоце ўзбірацца і садзіцца на лобнае месца. Што груган сярод чыстага поля, будзе ён там навідавоку ва ўсіх. Сябры-павадыры не здолелі зрушыць яго з месца. Упёрся, як карова ў плот, у сцяну ў прыцемку сцэны і ні кроку наперад. Падбег галоўны арганізатар, забаўнік і вядучы ўрачыстасці, таксама яго сябра і паплечнік:

— Ашыр, што ты нам псуеш свята?

— В’юнаш, — адказаў яму Майстра. — Сёння галоўны рэжысёр тут я сам.

Той сумеўся, але ж не адступіў:

— Майстра, ніхто ж і не сумняваецца. Але каб ты ведаў, чаго нам каштавала здабыць такое шыкоўнае крэсла. З-пад сядалішча прэзідэнта выцягнулі.

— Самога прэзідэнта?

— Самога. Прэзідэнта адкрыта-закрытага таварыства. Самага крутога мужыка ў краіне...

— Перажыве, — сказаў Майстра.

— Канечне, не сканае. Але ж ён яшчэ пад цябе, пад гэта крэсла скрыню шампанскага выставіў. Ён жа бронзавую шыльду ўжо заказаў: на гэтым крэсле сядзеў сам...

— А куды, на якое месца ён мерыцца прымацаваць гэтую шыльду?

— Што? — забаўнік здзівіўся, але ўцяміў і зарагатаў: — Спадзяюся, што не туды, куды ты падумаў. Мулка будзе.

— Будзе мулка, — жорстка пацвердзіў Майстра.

— Але ж шампанскае...

— В'юнаш, шампанскае не прападзе. Шампанскае мы вып'ем. Ідзі, пачынай свята. Толькі помні: галоўны рэжысёр і забаўнік тут сёння я. Бацька ведае, што кабыле рабіць. Пачынай, в'юнаш.

І свята пачалося. Нікольні не горш і не лепш за іншыя падобныя святы. У меру напышліва ўрачыстае, у меру бяздарнае і таленавітае. Цугам пацягнуліся на сцэну віншавальнікі з букетамі кветак, квяцістасцю слоўных адрасоў. Ялей пацёк бурнай плынню, самавіты, самаўпэўнены, афіцыйна беспярэчны, як беспярэчна пасрэднасць. Адно толькі збівала з высокай ноты прамоўцаў — адсутнасць перад вачыма таго, каму прызначаліся іх узнёслыя прамовы. Белае крэсла юбіляра на сцэне заставалася сіратліва пустым. І словы ліліся ў нікуды, у пустэчу. А выступальнікам, як іх хто ў каршэнь біў, так карцела ўбачыць там Майстра. Некаторыя з іх так і не пераадолелі гэтага жадання. Пачыналі гаварыць, звяртаючыся да крэсла, і заканчвалі зваротам да яго. Майстра ў прытушаным святле вялізнай залы заставаўся нябачным з-за асляпляльнага святла сцэны. Ён прытуліўся на прыстаўным крэсле каля сцяны залы ў праходзе і пасміхаўся сам сабе ў паўзмроку: добра ўсё ж, удала вёў ён гэты рэй, неблагая рэжысура — прыйсці і збегчы, прысутнічаць адсутнічаючы. Ешце, глытайце, каўтайце, родненькія, ды не задушыцеся. Зведайце і вы таго, што зведаў я: усё жыццё вось так, у пу-

стэчу, без гуку і нават рэха ў адказ у сваёй роднай хаце, як сярод сляпых і глуханямых. Быў я ўвесь час тут, і ніколі не было мяне. І на развітанне не падымуся, не выйду з гэтай во нары.

Але яго ўсё ж з той нары двойчы выцягнулі на святло. Першы раз старшыня Савета Міністраў. Абвясціў, што ўрад узнагароджвае яго ордэнам Францыска Скарыны, вышэйшай узнагародай краіны па рангу культуры. Выцягнуў той ордэн на пагляд усяе залы і, здаецца, крыху разгубіўся, не ведаючы, што з ім рабіць далей, чапляць не было каму. Майстра пашкадаваў прэм'ера. Ён усё ж быў неблагі мужык, з ім варта было і развітацца. І Майстра падыбаў да сцэны. Прэм'ер-міністр сам спусціўся да яго ўніз. Абодвух агаломшылі святло скіраваных на іх пражэктараў, гукі фанфар. Майстра дык гэта нават трохі і раззлавала, хаця сказаў ён у адказ на ўзнагароду куды мякчэй таго, што прасілася.

— Дзякуй, — мовіў ён не прэм'еру, а зале: — Гэта першая, першая мая ўзнагарода ад роднай маёй краіны... Дзякую... — І мо добра, што ён заціснуў, пахаваў у сабе тое, што само прасілася на язык.

— Дзякуй і табе, — абдымаючы, шапнуў яму прэм'ер. — Прабач. Трымайся, браток, трымайся...

І гэтыя словы прэм'ера былі Майстру бліжэй і даражэй за ордэн. Другі раз ён узняўся больш прымусова, чымсьці па сваёй ахвоце. Яго знайшлі пражэктары, каб яны яго беспардонна не засвяцілі, Майстра і не ўстаў бы. Вядзёны пражэктарамі, да яго ішоў міністр з даволі таўставатым канвертам у руках. Майстра зразумеў, што было ў канверце, і крыху бачыў, на даляры зрок яшчэ рэагаваў. Але асаблівай радасці не адчуў. Проста яшчэ раз адзначыў сам сабе, што сапраўды не варта нічога прасіць у «сильных мира сего», самі прыйдуць і самі прынясуць у зубах.

— На дарогу ў Парыж? — з'едліва спытаў у міністра, калі зала выбухнула воплескамі і ніхто не мог іх падслухаць.

— Які Парыж? — недаўменна перапытаў міністр, ён ужо і не помніў пра Парыж, як сапраўдны міністр. — На хлеб табе, на пражыццё. На новую працу.

— На труну, на накрыўку труны, — усё ж вызвалілася ў Майстра тое, што ўвесь час ірвалася вонкі.

Міністр скасавурыўся, скурчыўся, але толькі на імгненне. А праз тое імгненне ён ужо крочыў зноў на сцэну з высока ўзнятай галавой, усмешліва і непарушна спакойны.

І трэці раз падняўся Майстра ўжо тады, калі дзея набрала вышыні, увайшла ў трагічны і прыгожы апафеоз усяго, што тут адбывалася. Зачыталі тэлеграму сябра Майстра з Літвы. Таксама знакамітага майстра. У той тэлеграме гаварылася, што ён ужо на парозе, што ён спяшаецца на яго юбілей, хай наліваюць яму чарку. Чарку за здароўе беларускага Майстра літоўскі выпіць не паспеў. Смерць апярэдзіла яго, паднесла сваю чару і ачаравала назаўсёды на парозе яго літоўскай хаты.

Пакуль усё гэта гучала са сцэны, пакуль Майстра, блытаючыся ў нагах, выдзіраўся з рук сястрычкі, што раптам адчула нейкую трывогу і не хацела яго адпускаць, на сцэне быў ўжо іншы, жывы яшчэ яго сябра з Малдовы. Сівы, імпазантны, але з нейкай зрэбнай торбачкай у руках. Майстра, вобмацкам знаходзячы нагамі прыступкі, рукамі трымаючыся сцяны, падымаўся да яго, звесіўшы ўніз таксама сівую галаву. Але як толькі спахапіліся і знайшлі яго пражэктары, ён кінуў трымацца сцяны, надаў нагам пругкасці. І галаву ўзняў, што наравісты і бадзёры яшчэ конь. І сябра малдаванін, не бачачы яшчэ Майстра, адчуў набліжэнне. Пакінуў мікрафон. Дастаў са сваёй торбачкі дзве пляшкі «Белага бусла». Так, у кожнай руцэ па пляшцы, ён і рушыў насустрач яму.

— Здароў, — сказаў малдаванін.

— Здароў, — сказаў беларус. — Усё п’ём?

— Усё п’ю, — сказаў малдаванін. — Кінула там нешта мадз’ярка на бераг Дуная, і табе во прынёс.

— То налівай жа, братка-малдаванін, свайго белага бусліка.

— Наліваю, братка-беларус, твайго бусліка.

Неверагодна, але тут жа, на сцэне, адразу знайшліся і кубкі. Хоць мо і нічога неверагоднага, што гэта за сцэна без кубка і шклянкі, як неабсталяваная машына ў нядбайнага

вадзіцеля. Яны адкаркавалі адразу абедзве пляшкі. Капнулі адно аднаму па кроплі і, абняўшыся, выпілі пад апладысменты залы.

Пад тыя ж апладысменты малдаванін шапнуў Майстру:

— А ты, братка-беларус, хітрэй за мяне, абдурыў малдаваніна...

— Як жа гэта я цябе абдурыў?

— А вось так, вось так, — з сумам сказаў малдаванін. — Узяў і абдурыў... — і замоўк.

— Дагаворвай, не саромейся, — сказаў Майстра. І малдаванін дагаварыў:

— Абдурыў і ўцякаеш, бачу, па сваёй ахвоце. А я застаюся, я не здольны, не хапае таленту, хоць і разумею — на здзек, бо лішні, непатрэбны...

А зала працягвала апладзіраваць ім у гэтай іхняй гаворцы. І яны яшчэ раз абняліся і нізка пакланіліся зале. У Майстра былі напагатове ўсе тыя словы, якія прыдумаў ён, што выбалелі яму, пакуль ляжаў у палаце, тыя словы, што забыліся, вылецелі з галавы, калі апынуўся тут, на пачатку юбілею. Ён прыгадаў іх зноў, калі ўбачыў каля мікрафона сябра-малдаваніна. Паўтарыў, пакуль падымаўся на сцэну, і вырашыў, што абавязкова скажа іх зараз, зусім не дзеля таго, каб піць каньяк, прынародна ўзлазіў ён сюды.

Майстра пасунуўся ўжо бліжэй да мікрафона, але паглядзеў на зажуранага, прыгнечанага малдаваніна, прыціхлую ў чаканні гэтых яго слоў залу і адчуў, што нічога няма яму сказаць ні народу ў зале, ні сябру. Не тыя то былі словы. Вялікі грэх у гэтую хвіліну каго б там ні было папракаць, на некага наракаць. Сёння ж дзень яго нараджэння. Мо гэта і ёсць яго першы і сапраўдны дзень з’яўлення на святой, грэшнай зямлі. І ці варта займацца разборкамі, крыўдамі, звядзеннем мітуслівых і дробязных рахункаў — у дзень, дараваны, прысвечаны яму лёсам і жыццём. Ці за тым ішлі і ехалі ўсе гэтыя, сабраныя зараз у адной зале людзі? Ці за тым апраналі яны лепшае сваё адзенне, мужчыны галіліся, жанчыны рабілі прычоскі, каб паслухаць, што ў яго на душы? Дый сам ён ці ж дзеля толькі гэтага заказваў, шыў і

апранаў свой смокінг? Людзі праглі свята, і сам ён прагнуў таго свята. А спавядацца сёння больш прыдатна ў царкве. У царкве, на плошчах і ў скверах падманутага, зняверанага горада. І яму з яго стомленага чужымі і сваімі пакутамі сэрца, збалелай душы нават з далёкага выраю не ўдыхнуць, не аднавіць іх веры. Ён не трыбун і не мітынгоўшчык, каб заклікаць, дурыць і падманваць ачмураны часам люд. І словы, што ён мае, што ёсць у яго ў сэрцы, гэта толькі яго словы, і ўсе яны да самога сябе.

Так, ён — Бог, як кожны чалавек сам сабе — Бог, але на самоце, а не прылюдна. У віры людскім, дзе кожнага Бога трасе, як былку на ветры, нясе, як шчэпку, віхура, збівае з тропу, даводзіць да вар'яцтва, Бог у цішы і спакоі, у міры, суладным са светам і мірам зямным, і не варта яму вярэдзіць і аплёўваць людскія душы. Усё гэта і куды больш паспяхова, з вялікім спрытам і нават зухаватасцю робяць шматлікія іншыя. Дабрадзеі і выратавальнікі народа. Да таго ўжо хлусяць таму народу, што вераць самі ў сваю хлусню, пацеюць ад уласнай хлусні і плачуць ад хлуслівай шчырасці. А яго слова, нявымаўленае, і таму праўдзівае, застанецца ў ім і з ім, у тым, што ён зрабіў, стварыў, здзейсніў. І яшчэ, у яго ёсць час мовіць гэта слова. Мовіць ім жа, хто сядзіць у гэтай зале, толькі не тут, не цяпер, а за юбілейным сталом, калі ўсе яны будуць на добрым падпітку. У яго яшчэ будзе час і выпадак мовіць гэта слова ў самую апошнюю хвіліну.

І Майстра яшчэ раз абняў сябра-малдаваніна, шапнуў яму: «Сустрэнемся за сталом», нізка пакланіўся зале і, моцна трымаючы ў руках па пляшцы каньяку, патупаў на сваё законнае месцейка ў змрок, у кут. Толькі цяпер яно не падалося яму ўтульным і схоўным. Майстру заблажэла, і сястра не адразу прыкмеціла гэта. Усё, што адбывалася тут, было для яе, як для ўсёй залы, з некаторага часу звычайным прыгожым дзействам, сапраўдным святам. Сястра забылася, што каля яе сядзіць хворы чалавек, а яна сама тут па службовым абавязку. І на нейкі, пэўна, час яна адчула сябе зусім не сядзелкай каля Майстра, не звычайнай медыцынскай сястрой, а сапраўды жонкай ці каханкай, пагладжвала

яго па руцэ, гарнулася да яго, і ў вачах яе ўспыхвалі, загараліся цёплыя агеньчыкі.

— Прелесть, прелесть, просто ужас, — зашчабятала сястра Майстру на вуха, як толькі ён сеў і ўладкаваў пляшкі з каньяком. — Прелесть, прелесть, просто ужас...

А Майстра яе ўжо і не чуў. Але і ў гэты амаль што развітальны момант ён адчуў яе шчырасць, цеплыню, адчуў жанчыну, яе маладосць і прыгажосць — тое, чаму пакланяўся ўсё жыццё.

— Пчолка, — сказаў ёй Майстра. — Ты таксама прелесть, прелесть, ну просто ужас, пчолка.

Сказаў, знаходзячыся яшчэ ў свядомасці, толькі, можа, ужо не ў тутэйшай, крыху адсутнай, аднекуль зверху, з вышыні. З той недасяжнай вышыні, дзе ўсё і ўсім даравальна. І з той вышыні жанчына гэта была яму вельмі любай і зразумелай. Гэта было мо ў яе жыцці першае і апошняе свята. І па тым, як адгукнулася на гэтыя словы ўсё яе цела, зрабілася цяжкім і даверлівым — яна чула іх мо першы і апошні раз. Хаця і была замужам: аб гэтым можна было меркаваць па заручальным пярсцёнку на безыменным пальцы правай рукі. Але гэта нічога не значыла: ці ж здатны сённяшні муж на ласкавае слова сваёй жонцы. Ён сам, Майстра, тройчы быў мужам і з пэўнасцю можа зазначыць, што нічога добрага для жанчыны ў гэтым няма.

А жанчына сядзела каля яго шыкоўная, вартая самых узнёслых слоў, хоць і рукі яе, далоні былі крыху шурпатыя і ў добрых мазалях. Але іх упрыгожвалі чароўныя ямачкі бліжэй да згібу локцяў. Такія ж дзявочыя ямачкі не збыла яна за гады замужжа і працы і на шчоках. Варта ёй было толькі слова мовіць, і гэтыя ямачкі загараліся, што дзве свечачкі, і ўся яна была асвечаная, хоць і чужым, але святам. Далучанасцю да гэтага свята. Звінела, што блакітны званочак, гула, што самавітая пчолка ў жоўтай з чорнымі ўрэзкамі аксамітавай сукенцы, што, мо як ён смокінг, апранула першы раз. І яго смокінг, і яе сукенка так пасавалі адно аднаму.

Майстра ёй пра гэта сказаў:

— Пчолка ты мая на вясновай майскай сенажацi, цiцiкаўка ты мая...

Даказаць не здолеў. Усё перакулiлася, паплыло перад яго вачыма. I ён у тым перакуленым свеце апынуўся зноў на лыжнi. На самай вялiкай дыстанцыi, што ў яго гады было дазволена яму iсцi, як юнаку яшчэ. Таварыства «Ураджай» праводзiла першынство вобласцi па лыжах. А ён, малады першаразраднiк, належаў да таварыства «Лакаматыў», ва «Ураджаi» iшоў падстаўкай, што было ў той час распаўсюджанай i звычайнай справай.

Начальству, маленькаму i вялiкаму, патрэбна была масавасць. I кiраўнiцтва «Ураджая», «Лакаматыва», «Буравеснiка», «Спартака» ўвесь час тасавала калоду падначаленай iм малечы. Вучыла махлярству, але i кармiла. На кожныя спаборнiцтвы выдавалiся талоны на спецхарчаванне, што вечна галоднай i гаротнай чыгуначнай шпане край як трэба было ў пасляваенны жабрацкi час. Пад'есцi на дзяржаўную халяву. А патрабаваннi за гэта былi мiзэрнымi: не сысцi з дыстанцыi. Толькi нi ў якiм разе не засвяцiцца, не прыйсцi першым. Не стаць чэмпiёнам. Адкатацца так, дзенебудзь у непрыкметнай i шэрай сярэдзiне.

I Майстра, а тады шаснаццацiгадовы юнак, адрабляў абеды, сняданкi i вячэры. Малады, дужы, нахабна галодны. I дзень стаяў такi ж, з выклiкам, нахабна прыгожы, пушыста празрысты i звонкi. Малады задзiрысты першаразраднiк не вытрываў, на першых жа кiламетрах узначалiў гонку, вырашыў, што збавiць пазней, дыстанцыя дазваляе. Да таго ж у яго мелiся ўсе падставы хоць у пачатку, ды быць першым, пакрасавацца, пафарсiць. Было перад кiм. Аб гэтым сведчыў i малады гузак сярод iлба. Толькi ўчора ён першы раз пабiўся з лепшым сябрам з-за дзяўчыны, i тая дзяўчына з яго сябрам стаялi на трасе сярод гледачоў, у натоўпах чыгуначнай шпаны з магiлёўскай ускраiны.

Ускраiна, як вядома, не любiць, не прызнае пасрэднасцi i паражэння. Яна пакланяецца толькi аднаму — перамозе, таленту. I ёй глыбока да лямпачкi, у чым заключаецца гэты талент — у кулаках цi ў нагах, у галаве цi ў сэрцы, у жорсткасцi,

у дабрыні ці ўменні красці, толькі б не быць першым ззаду. Першых, праўда, заўсёды б'юць, але іх і мілуюць першымі, калі, канечне, яны вытрываюць, не адкінуць капыты. І гэта вялікі падарунак лёсу і такое ж бязмернае пакаранне — нарадзіцца, належаць ускраіне, бо ў ёй усяго праз край і няма крайніх. Тут ужо ўсё калі таленавіта, дык таленавіта, тое ж самае і з убогасцю. Вярхі ўвесь час капіруюць ускраіну, але вельмі бяздарна, бо на той ускраіне яны былі звычайнымі пасрэднасцямі і дзякуючы сваёй ускраіннай, местачковай пасрэднасці выбіліся ў людзі, але людзьмі так і не сталі, звычкі і памяць аб гэтай уласнай пасрэднасці не дазволілі.

«Первый парень на деревне, а в деревне один дом» зухавата падруліў да сваіх сябрукоў, у атачэнні якіх стаяла і тая, дзеля каго ён так выжыльваўся і пнуўся, крышачку сцішыў ходу, каб злавіць яе пагляд, пацалаваць вачыма яе адметную ў натоўпе чырвоную шапачку, адчуць яе захапленне і замілаванасць, пачуць адабральныя воклічы, а мо і воплескі сябрукоў. Але ўскраіна ёсць ускраіна, яна была абурана ім.

— Недаробак, смаркач, — гэта былі самыя яшчэ прыстойныя з тых слоў, якімі сустрэлі яго. — У салатопку, на мыла... Ганьба, ганьба, ганьба... — І гожы роцік пляваўся такімі ж брыдкімі словамі. І гожая ножка ў фетравых па апошняй модзе боціках трушчыла і злымі, сінімі на сонцы пырскамі раскідвала зярністы снег.

Ён збіўся з нагі, азірнуўся і ўсё зразумеў. На плячах яго вісеў нехлямяжы, у зашмальцаванай ватоўцы, у нязграбных вялізных ботах, з халяў якіх яшчэ не быў змыты свежы, відно, калгасны гной, нейкі дзяцюк, трактарыст ці даглядчык жывёлы. Майстра быў абураны не менш сваёй ашалелай зграі. Каб гэта нейкі калгасны корч ды падрэзаў яму, амаль што прафесіяналу, лыжніку-першаразрадніку лыжню. І рабіў гэта на яе вачах, на вачах яго лепшых сяброў. Ды ён жа і на лыжах стаіць, як корч сярод балота, як пень. Праўда, ладны пень, дубовы. Ён, амаль што Майстра, ды гэты дубовы пень — адны наперадзе ўсіх.

— Ды мне такіх на фунт, на адну руку сто сушаных! — выгукнуў ён сваёй абуранай ускраіне, засмяяўся. Але смех

той быў невясёлы. Дзяцюк, ён сустрэўся з ім вачыма, быў зацяты, таксама вяскова-ўскраінны, такія не саступаюць, сцяўшы зубы, ідуць да страты прытомнасці. У бойцы іх можна перамагчы толькі забіўшы. І то, калі ён ужо ўчапіўся ў цябе, будзе трымацца і мёртвы. І хоча ці не хоча ён таго, каб не было ганьбы, кпін і здзекаў на ўсё жыццё, ён вымушаны перамагчы. Напляваць на святы запавет арганізатараў лыжні: не вытыркацца, — вытыркнуцца, прыйсці першым.

Але адначасова з гэтым Майстра спадзяваўся, што калгасны дзяцюк можа яшчэ і здохнуць. Да фінішу яшчэ далёка. А колькі ён бачыў такіх спрытных, што выкладаліся на старце і ледзь сунуліся ў хвасце, лычом паролі лыжню на апошніх кіламетрах. Дыханне, па ўсім відно, не пастаўлена, крок не адпрацаваны. Працоўны вясковы крок. Ён пацягне для прыліку і для захавання твару яго за сабой. Але зматае, выкруціць, што анучу, калгасны корч яму, першаразрадніку, нераўня. Хай поркаецца ў сваім гнаі, прэе ў сваёй ватоўцы. А на ім жа такая прыгожая шыкоўная спартыўная форма, адна шапачка з пампончыкам чаго варта. А лыжы, а палкі. Ён сам іх ладзіў, адпільваў і выразаў з дзюралю разбітых самалётаў. Лепшыя палкі, гонар усёй яго ўскраіны, каб патрымацца толькі за іх, давалі жменю гарбузікаў.

І патухлае, разбітае ў друз сонца над яго галавой зноў заззяла і пачало падштурхоўваць яго ў плечы, прыспешваць. І зноў загучала з неба і ў ім пераможная песня...

Якая доўгая гэта была песня, даўжэй за сабачую. Яна гучала і са сцэны, і каля яго, і ў ім:

«Не уезжай ты, мой голубчик...»

Цягнуў, спяваў са сцэны нейкі камлюкаваты хлопец,накшталт таго трактарыста на лыжні, але такі вытанчана прыгожы, што бляваць вярнула.

«Не уезжай ты, мой голубчик...»

Ці то падпявала, ці то трызніла каля яго сястра, і біла яго па шчоках, але зусім не жаночымі далонямі. І Майстра сам заспяваў ці не ўсе адразу песні, якія толькі ведаў:

«Еще не спето столько песен... Еще звенит в гитаре каждая струна...»

— Яшчэ звініць, — сказаў ён сястры. — І пасля такіх аплявух доўга яшчэ будзе звінець...

— Ну вот, хорошо, хорошо, — шчабятала, схіляючыся над сваім чамаданчыкам сястра. — Ты прелесть, прелесть, ну просто ужас.

— А ты пчолка, пчолка, руплівіца і шчабятуха. Лепшых на свеце не бывае. Якія ў цябе, пэўна, салодкія вусны, якія...

Майстра пералічваў, што ў яе яшчэ салодкае і самае лепшае ў свеце. І гаварыў шчыра, як ніколі мо ў жыцці, і верыў кожнаму свайму слову. І яна адгукалася на кожнае слова. Мо таксама, як ніколі і нікому яшчэ не адгукалася. Майстра і сапраўды непадробна шчыра і вельмі чыста кахаў яе на тую хвіліну. Сэрца прагла кахання, канала і абмірала па ім. Ніколі ў жыцці ён так прыгожа не паміраў па жанчыне.

Па ўсім здавалася, што яна таксама памірае па ім. Верыць кожнаму яго гуку, цёку крыві, удару сэрца. І просіць, просіць прыгожых слоў:

— Гавары, гавары, мой галубчык. Я ж чую, ты не выгаварыўся яшчэ. А я таксама ў жыцці нікім не загавораная, а толькі падманутая, падманутая...

— Я аднаго з табой лёсу, — працягваў гаварыць Майстра. — Мы створаны адно для аднаго. Для сустрэчы і кахання.

— Праўду кажаш, праўду кажаш. Іншага ў свеце не бывае. Іншага ў свеце не бывае. Патрывай, патрывай толькі крышачку. Я зараз табе ўкольчык зраблю...

— Пчолка, пчолка ты мая... Ну, і шэршань жа ты...

Яна засмяялася і, як просячы прабачэння, прыціснулася да яго. Майстра, ахоплены яе цяплом, пяшчотай, трохі акрыяўшы ад уколу, нечакана і вельмі сур'ёзна прапанаваў:

— А хочаш, я табе праспяваю?

— Хачу, вельмі хачу, толькі мо я лепей табе, ціхенька, на вушкі? — І яна заспявала:

— Стою на полустаночке в цветастом полушалочке...

— У цябе такі прыгожы голас, — сказаў ён, выслухаўшы яе да канца. — Табе б на сцэну з такім голасам.

— Ну, ты скажаш... — Сястра засаромелася, якраз як тая, што стаяла на паўстаначку.

— Не, я не хлушу. Не час мне хлусіць. Таму і хачу спець табе сваю...

...Ціхім каханнем к табе разгарацца з гэтай пары я пачаў.

Але расстацца нам час наступае,
Пэўна, ўжо доля такая у нас,
Моцна кахаў я цябе, дарагая,
Але расстацца нам час...

Майстра, здаецца, і не спяваў, а нешта нагаворваў, нашэптваў жанчыне, што прыпала да яго ў паўзмроку святочнай залы. Ён глядзеў на сцэну, дзе таксама спявалі і весяліліся, на сцэну і далей, углыб, за чорную заслону, намацаўшы і трымаючы правай рукой каменьчык у кішэні сарочкі.

Буду ў далёкім краю я нудзіцца.
Ў сэрцы любоў затаіўшы сваю;
Кожную ночку на зорку дзівіцца
Буду ў далёкім краю.
Глянь іншы раз на яе, — у расстанні
Там з ёй зліём мы пагляды свае...
Каб хоць на міг уваскрэсла каханне,
Глянь іншы раз на яе...

— Прелесть, прелесть, ну просто ужас, — сказала сястра, калі ён сціх. — Сардэчная, хоць і беларуская песня. А я беларускіх не ведаю, прабач. Гук толькі, мелодыю хапаю. Гук працяглы і бясконцы, як гаворка маці, калі яна доіць карову, і цёплае малако струменіць, б’ецца аб край даёнкі, і маці з каровай суладна ўздыхаюць, нібы песню вядуць.

— Разумніца ты, пчолка мая, — сказаў Майстра. — Каб ты толькі ведала, якое гэта шчасце выпала мне напрыканцы жыцця.

— Мне таксама, — адказала яму сястра. — Якое гэта вялікае шчасце зведаць такое ў жыцці. За што толькі, за што... Ты... ты павінен ведаць, бо сёння ведаеш усё.

— Не ведаю, не ведаю я нічога. Толькі, здаецца мне: не ведаць — гэта таксама шчасце.

Хацеў дадаць: «шчасце, якое мне не дадзена». Але своечасова ўтрымаўся. А яна чакала, чакала ад яго нейкіх яшчэ слоў. Але ён маўчаў.

— Мо так яно і ёсць, — уздыхнула сястра. І на працягу ўсяго канцэрта яны сядзелі моўчкі, як нашкодзіўшыя дзеці, пабраўшыся за рукі. Але без смутку, шкадавання і журбы на тварах. І вочы ў абаіх былі ясныя і чыстыя, толькі вельмі далёкія ад усяго, што адбывалася перад імі.

## VI

Канцэрт, як гэта планавалася, усё ж не здолелі правесці. Канцоўку скамячылі. Нехта, пэўна, шапнуў арганізатарам, што Майстра можа не вытрываць, што было відно са сцэны добра і без шэпту. Мо толькі ў зале не ўсе гэта бачылі і ведалі. Да Майстра выстраілася добрая чарга неафіцыйных віншавальнікаў. Як у Маўзалей, падумаў ён, не маючы нават сілы ахапіць усіх гэтых людзей позіркам. І гэта былі самыя дарагія Майстру людзі, у большасці сябры і паплечнікі. Але было багата і незнаёмых твараў, пераважна жаночых. І адзін толькі Бог ведае, чаго каштавала яму павітацца з кожным, з кожным пацалавацца і мовіць хоць слоўца на развітанне. І дзякуй Богу, што праз некалькі ўжо хвілін ён быў схаваны, як пахаваны ў сумётах кветак. Майстра ледзь выдраўся, выблытаўся з іх, у душы крыху шкадуючы, што трэба іх пакідаць, ісці і пачынаць рэй, застолле. І на тым застоллі па першай-трэцяй чарцы не схаваешся ў паўзмроку. Трэба адбаляваць і адгасцяваць свой тэрмін. Трэба мучыцца, жыць — мучыцца, паміраць — мучыцца. Але ён сам абраў такую долю. Вырак сябе на пакуту і адзіноту нават за сяброўскім сталом. Без прымусу збоку.

Хаця прымус і быў. Прымус нарачонага, наканаванага яму, салодкі і горкі. І чаго больш у ім — слодычы ці горычы, — ён не можа сказаць сабе сам. Відавочна толькі адно — гэтай сваёй долі ён бы не пажадаў нікому і ні з кім бы не памяняўся. Свой воз кожны павінен везці сам, нягледзячы на дарогу. І думаць аб адным, каб толькі не зарасла

тая дарога. А з усім астатнім разбяруцца на тым свеце. У пекла — смалу варыць. Ён згодны і на гэта, таму што на зямлі толькі займаўся тым, што запасіў дровы і гарэў сам на тым пякельным агні. Выгарала, папялілася душа кожнае начы, кожны дзень, пакуль не згарэла цалкам і не згасла. І ўдыхнуць тую душу нанава ў яго цела ўжо немагчыма. Агнём і попелам яго душа разнесена, панесена па свеце, па наваколлі, па прасторы і часе. Цяпер трэба чакаць усходаў і на развітанне што-небудзь пасеяць яшчэ. Пасеяць і за хаўтурным сталом. І хто ведае, мо якраз гэта, пасеянае за хаўтурным сталом, ужо нядужай, але і не хапатлівай рукой, мо гэта якраз і застанецца.

Юбілейны стол, як яму гаварылі, быў разлічаны «на сто пяцьдзясят пасадачных месц». Але народу набралася пад добрых чалавек дзвесце. І Майстра быў рады гэтаму, бо ў штурханіне, мітусні можна было непрыкметна сесці на сваё пасадачнае месца. Што Майстра, здавалася яму, вельмі спрытна і жвава здзейсніў. На самай жа справе гэта атрымалася не так удала. Цела Майстра, рукі, ногі ўжо не вельмі падпарадкоўваліся яму, умольна прасілі аб спакоі і адпачынку, а душа не пагаджалася, загадвала ім рухацца, рабіць, хоць чарку ды падымаць і моцна трымаць у халадзеючых пальцах.

Што неадказна служыла яму — гэта адны толькі вочы. Хаця шмат каму з тых, хто добра ведаў яго, гэтыя вочы ўдавалі ўжо за чужыя. Там, дзе павінны былі знаходзіцца зрэнкі, амаль што нерухома застыглі дзве льдзінкі. І былі яны вельмі пранізлівыя і халодныя, бліскучыя, але без іскры ўжо. Тагасветна ўтрапёныя, адляцеўшыя ў непазбежны і выратавальны вырай. Вочы драпежнай птушкі, хутчэй за ўсё каршука. І гэта было дзіўна, бо ў самім Майстру панавала цеплыня і міласэрнасць да ўсіх і ўсяго.

Вачыма Майстра знайшоў сярод застольнікаў свайго апошняга і лепшага, як яму здавалася, вучня. Гэта быў апошні студэнт-дыпломнік на Беларусі, які вучыўся за мяжой, у Маскве, у тым жа інстытуце, што скончыў некалі сам Майстра. Майстра і прыладкаваў яго ў той інстытут і цягнуў усе гэтыя гады. Хлопец быў варты яго дапамогі. З

глыбі Палесся, бязбацькавіч, дзетдомавец і таму, канечне, інтэрнацыяналіст. Сёння двойчы, хоць мо і нехаця, бязбацькавіч і інтэрнацыяналіст. За навуку, за інстытут у Маскве трэба было плаціць, айчына адмовілася пасабляць. Масква ж сіроцкім слязам ніколі не верыла і не спачувала, сваіх жабракоў хапае. І было вялікае пытанне, ці атрымае дыплом гэты апошні студэнт з Беларусі ў маскоўскім інстытуце.

Майстра хацеў яго бачыць каля сябе цяпер. Толькі ўсе месцы паблізу былі занятыя. Нечага прэзідэнты, нечага міністры, іх шматлікія намеснікі і памочнікі. Світа, яго атачэнне і крыж, крыж кожнага жывога, а тым больш нябожчыка. І Майстра, хаця яшчэ і жывы, быў пад знакам ужо гэтага крыжа, пад вартай, у зняволенні і ў самую сваю апошнюю хвіліну. Устаць і дапяцца самому да вучня не хапала моцы. Ён адчуваў, што можа пляснуцца па дарозе і больш не падняцца. І вельмі не хацеў, каб гэта адбылося да тае пары, пакуль не скончыцца рэй, на вачах усіх. Не хацеў сапсаваць сваё ж свята, юбілей і развітанне, прагнуў сказаць развітальнае слова.

А вучань ці то не здагадваўся, ці то саромеўся падысці да яго, хоць і пільна, не зводзячы вачэй, увесь час глядзеў на свайго настаўніка. І ў сваёй стоенасці, зацятасці некага вельмі нагадваў яму. Толькі Майстра не мог засяродзіцца і ўспомніць, каго. І яшчэ, ён адчуваў, успамін той будзе не з самых прыемных. Але і жаданне ўбачыць яго перад сабой было неадольным і неадчэпным, як смага ў спякотны летні дзень, патрэба ў сцюдзёным глытку калодзежнай вады.

Майстра ўталопіўся позіркам у кут, дзе на краёчку стала прытуліўся яго вучань, і нарэшце сустрэўся з ім вачыма, падняў угару кілішак з малдаўскім каньяком і знерухомеў у чаканні. Вучань, здаецца, не пачуў і не зразумеў яго. Ён не адвёў позірку, але і не намагаўся ўставаць і рушыць да яго. Майстра апёк яго холадам і лёдам, і такі ж холад і лёд убачыў і ў вачах вучня. Не спачуванне, не жалобу, а вялікае, неймавернае напружанне і адцуранне ад усяго, што тут адбывалася, у тым ліку і ад яго, Майстра. І Майстра зразумеў яго і адагнаў крыўду. Ён ведаў, не раз спазнаў і сам гэтую

засяроджанасць, адрачэнне ад усяго існага. Вучань не выракаўся яго і не развітваўся з ім, ён проста працаваў, рабіў, ствараў. І не яго гэта быў вучань, не блізкі і родны яму чалавек. Праца, творчасць не прызнаюць ніякага сваяцтва, не спачуваюць ні сваёй, ні чужой смерці, бо на тую хвіліну перад імі адчыняецца і ўладарыць імі вечнасць.

І Майстра перастаў стукацца ў яго душу, яшчэ вышэй узняў кілішак з каньяком над галавой, зрабіў стрэчны рух у напрамку вучня і панёс каньяк да рота. Тое ж самае, хоць і запознена, зрабіў і вучань. Толькі вочы яго, як і раней, засталіся такімі ж адчужанымі і халоднымі. І Майстра зноў не адчуў у сабе ні кроплі крыўды. Ён быў рады, ён быў шчаслівы і ўдзячны лёсу і свайму вучню. І яшчэ, яшчэ ён успомніў, успомніў, каго так нагадваў яму гэты камлюкаваты, ваўкаваты паляшук. Зноў узгадаў той дзень сваёй самай вялікай ганьбы і гонару і адчуў неадольнае жаданне саслізнуць ужо канчаткова, каб ніколі, куды б там ні было, не вярнуцца. А ён жа яшчэ нешта меўся сказаць — сябрам і таму вучню, а больш ганаровай варце, якая атачыла яго з усіх бакоў і ціхенька, лісліва, угодліва і паблажліва грызла, даядала. Лічыла яго ўжо канчаткова сваім.

Хістаючыся на самлелых нагах, ён навіс над юбілейным, застаўленым гарэлкаю і прысмакамі сталом. Разляпіў вусны, не ведаючы і не думаючы, што зараз скажа. Але, надзіва, згубленыя, страчаныя ў мітрэнзе святкавання словы адразу знайшліся, ён адчуў іх аднекуль зверху, яны выбухнулі з раптоўна рассунутай столі, замест якой цяпер ззялі зоркамі нябёсы. Выбухнулі як гром. Ён іх толькі паўтарыў і яшчэ раз агучыў.

— Где стол был яств, там гроб стоит...

Здаецца, выбухнуў так, што сам аглух. А на самай справе бязгучна толькі паляпаў губамі. Здзівіўся, што ніхто сярод застолля, сяброў і ворагаў, не адгукнуўся на гэтыя яго словы. Ніхто не падае ніц. Усе як пілі, так і працягваюць піць, як елі, так і ядуць. Толькі больш хапатліва, імкнуцца дапіць і праглынуць, пакуль ён варушыць губамі, намагаецца ім нешта давесці.

І Майстра пакінуў гэтыя свае намаганні. Адчуў, што ў яго не вельмі і ёсць што сказаць усім гэтым людзям. А тым больш у нечым папракнуць іх. Ён такі ж, як усе. А мо яшчэ і горшы. Ён такі ж падмануты, абражаны, апушчаны і перакулены часам з ног на галаву, як усе тут, як перакулены і сам час. Як падмануты і абражаны ўвесь той люд, з якім ён сутыкнуўся нос у нос пасля паездкі ў Крым, той люд, што і сёння ў цемры, сярод ночы ўсё яшчэ стаіць і сноўдае па скверах і плошчах вялікіх і малых гарадоў айчыны, мокне і мерзне пад сцягамі і без.

Той жа самы люд, толькі ўшанаваны, адметны, прыйшоў і сюды. Так, каб павіншаваць і развітацца з адным з іх, з Майстрам, бо ўсе яны ўжо стаялі ў адной чарзе з ім, як стаяў і крыху апярэдзіў яго братка-літовец, як спяшаўся ў тую чаргу малдаванін. Яны прыйшлі, каб развітацца з ім, часам, векам і эпохай, апошнія зубры запаведнай Белавежскай пушчы сабраліся, каб пагаманіць, мо апошні раз убачыцца.

Такі час надышоў. Час юбілеяў і хаўтур. Час развітання і сустрэчы. Развітання з мінулым. Сустрэчы з новым векам і чалавекам. Карабель новага Ноя з тым новым чалавекам трэцяга тысячагоддзя ўжо рыхтуецца прыстаць да берагоў матухны Зямлі. І ён прыстане, як толькі чалавек сам па сабе справіць саракавіны. Як толькі памрэ апошні з тых, хто быў народжаны да сённяшняга крушэння, да апошняга сусветнага патопу, у кім засталіся памяць і сум аб Атлантыдзе, што адышла ўжо ў вечнасць. А гэтыя памяць і сум найбольш прысутныя ў лепшых — майстроў і творцаў. І лепшыя павінны адысці першымі. Вось чаму і зведзены яны разам за яго, Майстра, юбілейным і жалобным сталом. Бо так толькі цяпер яны і бачацца і сустракаюцца — на юбілеях ды хаўтурах. Юбілеі выпадаюць зрэдчас, хаўтуры — часцей. Але калі гэта не дзяржаўныя юбілеі і хаўтуры, то яны вельмі сціплыя і бедныя. А тут можна сёння і распе153разацца, пад’есці — дзяржаўная халява. І на гэтую халяву дзяржава грошай не шкадуе. Трызна, як заведзена, правіцца па-дзедаўску, па-славянску.

І ці ён, чалавек, якога ўжо не існуе на гэтым свеце, ад якога засталася толькі абалонка ды трохі прыліку, можа каго-небудзь з прысутных папікнуць, кінуць камень ужо адтуль, куды ён сёння вызваляецца, а яны застаюцца трываць, цярпець, пакутаваць. Яму адтуль ужо зазыўна граюць музыкі.

І не толькі граюць музыкі. Адтуль ідзе і голас, гучаць магутныя хары, ліецца святло, што надае яму зусім іншае ўжо бачанне, веданне і супакаенне. Яны сведчаць, што гэта ўсё непазбежна, што гэта мо нараджэнне, больш нараджэнне, чымсьці паміранне. Нараджэнне чагосьці і кагосьці зусім новага і невядомага, больш магутнага, празарлівага і чыстага, чымсьці ён. А ён непазбежна павінен, абавязаны адысці, як і ўсе, што прысутнічаюць тут, з кім ён поплеч выпраўляўся ў дарогу. Павінна адысці ўсё тое, чым яны займаліся, што рабілі, аб чым марылі. Бо ўсё гэта толькі прывіднасць, падманнасць і гульня іх хваравітага ўяўлення. Насланнё і адкіды дваццаці мінулых стагоддзяў, што спрасаваў у адно цэлае век апошні. І ўсё гэта не Божае і не людскае, бо не належыць ні Богу, ні людзям — гэта даўно ўжо трупярня. Як ні горка, як ні балюча ў гэтым прызнавацца. Але нічога не паробіш, такая ўжо іхняя доля. Такое іх наканаванне.

Ён, Майстра, і ўсе яго равеснікі, нарадзіліся на залатой хвалі бліскучага і сумленнага яшчэ дваццатага стагоддзя. Але хваля тая ўжо адыходзіла і распадалася, сыпалася на беразе бруднай пенай акіянскіх глыбінь, узнятага і вынесенага адтуль на паверхню смецця. Так, усе яны нарадзіліся яшчэ сярод людзей і лесу. І людзі былі роўныя з лесам, а некаторыя дык і вытыркаліся па-над лесам. А лес быў, дубы стаялі — на падводзе можна было развярнуцца на пні. Але ўжо ішла расцяробка. Церабілі лес, церабілі людзей. Бо век, стагоддзе не трывала людзей, баялася волатаў. Зямля праламвалася пад іх цяжарам. Час, згвалтаваны адчаем і роспаччу, вар'яцтвам вянца тварэння, і сам звар'яцеў, аслеп, аглух і змізарнеў. Кінуўся нішчыць і забіваць вянец свайго ж тварэння. Сляпому і глухому часу больш даспадобы была сляпая і глухая, бяспамятная і маўклівая пустыня — без паданняў, песень і казак і былога гонару і годнасці.

І Майстра, і ўсе яго паплечнікі, спадарожнікі па жыцці, гадаваліся і раслі сярод той змярцвелай пустыні, апавітыя жалобным стогнам паміраючых ужо на зямлі народжаных закарэлай пенай вятроў. І вятры тыя былі самі атрутныя, разбуральныя і заразныя. І бязмежна ваяўнічыя. З краю ў край яны пранесліся над усёй зямлёй, усёй планетай. І кожны, хто жыў на зямлі, дыхнуў, хапіў таго ветру. А ён пайшоў і ў сусвет, у космас. І пэўна, нехта ў тым космасе таксама ж атруціўся і паверыў яму.

Ваяўнічы, цывілізаваны вецер дваццатага стагоддзя прымусіў чалавека да найвялікшага за ўсю яго гісторыю існавання адкрыцця — расшчапленне атама, толькі вось бяда, ніхто напачатку не падумаў, не здагадаўся, што гэта сам чалавек так здрабнеў, быў зведзены ўжо да памераў атама. Душу таго чалавека і разбурыў, расшчапіў чалавек. І чалавек больш не валодаў сваёй душой. Няздольны ён быў ні ўтаймаваць яе, ні спыніць яе расшчапленне. Працэс пайшоў. І выхапіліся, што чэрці з табакеркі, з таго атама — Гітлер і Сталін. І як першае папярэджанне чалавеку быў выбух у Хірасіме і Нагасакі. Другое, ужо тут, на Радзіме Майстра — Чарнобыль. Трэцяе...

Трэцяе, мо таксама яшчэ толькі напачатку — сённяшні перакулены ўжо свет і першыя прадвеснікі яго і вестуны — майстры, творцы, хоць пэўна і няцямныя яшчэ, але шчырыя і яскравыя сведкі разбурэння асобы, парадку і веры. Веры не ў Бога, не ў Маркса, а ў сапраўднасць, надзейнасць і неабходнасць той справы, якой яны займаюцца. Пазбаўленне сораму ўжо ва усіх і кожнага — апошняе разбурэнне і забойства дваццатага стагоддзя.

І пачынаецца яно, як і павінна пачынацца, як ужо неаднойчы было на зямлі — з палявання, распаду і забойства творцы, як найбольш грэшнага, мастака і мастацтва, а гэта значыць увогуле культуры, якая не здолела і не пажадала нікога ні спыніць, ні апярэдзіць. Больш таго, недзе і блаславіла. І ўсе стадыі гэтага забойства пройдзены ўжо: падман саміх сябе і, як вынік, расцяробка лесу і людзей, стварэнне пустыні, расшчапленне душы-атама, Чарнобыль. А яшчэ

было і асушэнне той душы — меліярацыя, што ўжо цалкам выпетрыла яе, пазбавіла ахоўнага космасу. Душа распранута, вывернута і аголена, як валютная прастытутка, вымушаная прадаваць сябе, бо такое ёй наканаванне; ад любасці да сваёй прафесіі і ад таго, што неяк жа трэба і жыць, дажываць свой век. А інакш, як толькі прадавацца, яна жыць не ўмее і не хоча ўжо. У прыродзе, натуры яе, як у прыродзе кожнага творцы — блазнаватая цнатлівасць: жаданне прылюдна распрануцца, агаліцца, адмовіўшы тайну і таямнічасць сваёй і чужой душы. І ў той жа час — захаваць самае патаемнае, пакінуць для сябе.

Мо да пары да часу ў гэтым таілася нешта і прывабнае. Пэўна, якраз гэта і патрэбна было часу тут, на зямлі. Мо некаму і там, у далёкім космасе, было прыемна, цікава паназіраць за зямным прытворствам і крывадушнасцю, за здольнасцю чалавечай душы кожны раз і з такім імпэтам пераўвасабляцца, так шчыра мяняць скуру і набываць новае, патрэбнае абставінам аблічча. Мо меўся і там, на небе, як і на зямлі, нейкі рэжысёр, які ставіў сусвету ўсепланетны спектакль. І акцёры, майстры вылузваліся са скуры, каб дагадзіць яму і не пакрыўдзіць шматлікіх рэжысёраў зямных, і не забыцца пры гэтым і пра сябе, хоць і здагадваліся ў глыбіні душы, ведалі, што іх проста выкарыстоўваюць. Здагадваліся, але навыперадкі пёрлі да карыта, выракаючыся сябе, усяго святога ў сабе, чалавечага. Распрадажа, і вельмі танная — вось што стала іх другой натурай, іх прафесіяй. Спачатку іх, бо яны ж звыклі быць і заўсёды былі наперадзе, а потым на тую ж хваробу захварэлі і ўсе іншыя.

Але менавіта за гэта ідзе і расплата. Дзічэе творца, дзічэе народ, дзічэюць улады. І тады нараджаюцца монстры і вампіры, з глыбінь сярэднявечча ажываюць і падымаюцца з трунаў шматлікія Дракулы. І ці варта на іх наракаць, мо гэта і ёсць першыя пасланцы новага часу і новай расы. Пасланцы і прыбіральшчыкі старызны, непатрэбшчыны, зямной пачварнасці і бруду, тыя, хто з’яўляецца заўсёды, калі чалавек збіўся з тропу, ішоў, здаецца, прамой дарогай у светлае будучае, а прыйшоў у сваё ж адрынутае, заклятае мінулае і не

бачыць перад сабой больш дарогі, бо ён нікуды і не ішоў, а толькі тым і займаўся, што сам капаў сабе магілу.

І магіла ўжо выкапана, і труна ўжо збіта, і жывым яшчэ прыходзіць час класціся ў тую труну і разыходзіцца па сваіх магілах. Бо на парозе іх старой хаты стаіць ужо ружовы хлопчык, мо і сын твой, але і твой магільшчык. Новае тысячагоддзе, новы век, новы чалавек. І ў тым веку каля таго новага чалавека табе месца няма. Стары век, эпоха забілі ўжо цябе, забілі і пахавалі. І ты сам добра паруліўся і паспрыяў гэтаму забойству. Дык адступі ж і з вартасцю прымі тое, што табе наканавана, каб не паўтарылася пройдзенае, каб не паўтарыліся твае памылкі, каб гэты новы чалавек з першага ж свайго кроку не зняверыўся, не зведаў твайго разбурэння, не страціў сораму, не пачаў капаць сам сабе магілу. Каб ён не загаласіў падобна табе: хоць к чорту на рогі, але толькі далей, прэч ад гэтага свету. Нягледзячы ні на што, было ў цябе, зведаў ты ўсё ж натхненне жыць. Хай не пакіне цябе натхненне і адысці. Была ў цябе казка, была ў цябе песня. Была ў цябе музыка. І гэта твая песня і музыка гучаць ужо і зараз.

І Майстра сапраўды пачуў музыку. Трубіў стары сівы трубач. Спявала сляпая спявачка Жанна, і белая лябёдка ў ланцугу хворых чарнобыльскіх дзяцей цягнулася за возам з возам з чатырма мяхамі ячменю. Майстра не імкнуўся ўжо больш што-небудзь сказаць. Ён дастаў пляшку з каньяком, наліў сабе поўны кілішак. І рука яго не здрыганулася, не праліла ні кроплі, і ногі трымалі яго цвёрда, яны зноў былі пругкімі, дужымі і маладымі. Яны неслі яго ў зеніт, насустрач сонцу. Ён зноў быў на лыжні, цяпер ужо заканчваў дыстанцыю. За ім крок у крок ішоў нехлямяжы камлюкаваты калгасны дзяцюк. І Майстра нарэшце ўспомніў, каго яму нагадваў яго вучань. Дзяцюк быў раскасмачана-простагалосы, згубіў ці скінуў шапку, а таксама, пэўна, і ватоўку. Ад расхлістанай голай грудзіны валіла пара, і такая ж пара валіла воблакам следам за ім ад дыхання. Дзяцюк не толькі ішоў крок у крок, але і пакрыкваў:

— Саступі, саступі, бо завалю...

Майстра толькі пасміхаўся ў адказ, мерна пасылаючы наперад лыжы. Пасміхаўся цяпер ужо без пагарды і паблажлівасці. Яму было нават крыху няёмка, што нейкіх дзесяцьпятнаццаць хвілін таму ён кпіў, здзекаваўся з яго. Калгасны корч быў не такі просты ўжо і не хацеў здыхаць і сыходзіць з лыжні. Мо і варта было прапусціць яго наперад сябе. Усё ж Майстра на гэтых спаборніцтвах быў падстаўкай. І ён бы прапусціў, выконваючы няпісаныя законы гульні. Толькі цяпер ужо яго заела па-сапраўднаму. Дзяцюк распаліў яго. А сябрукі з чыгуначнай ускраіны падбухторылі. Яны ўвесь час беглі па трасе і няспынна лямантавалі: давай, давай, пакажы клас, пакажы калгасніку, адкуль у цябе ногі растуць.

І Майстра ўжо сам прагнуў паказаць клас і перамагчы ў справядлівай барацьбе. На апошнім кіламетры ён азірнуўся, каб яшчэ раз упэўніцца, што дзяцюк не адстае і не сыдзе з дыстанцыі. І наддаў, пайшоў так, як ніколі ні раней, ні пазней не хадзіў. Убачыў заклапочаныя і абураныя твары трэнераў на фінішы... Яны зявілі раты і нешта крычалі яму, пэўна, папярэджвалі, каб ён збавіў і дачакаўся свайго праследвальніка, прапусціў яго. Але Майстра ўжо закапыліў губу, жадаў бы, але быў няздольны пераступіць праз сябе, сваю натуру, паляцеў да ганьбы і славы нібыта на крылах.

Але перарваць грудзьмі чырвоную фінішную стужку яму не давялося. Яе знарок ці выпадкова апусцілі на снег. І ён лёг на той жа снег, як толькі апынуўся па-за стужкай, каля судзейскага століка, і не хацеў падымацца, хоць лямант навокал стаяў ужо такі, што і мёртваму не ўлежаць. Чыгуначная ўскраіна святкавала яго перамогу. Зусім ужо невыносны галас усчаўся, калі з чорнай талеркі, прыбітай да хвоі, данеслася:

— Перамог, выканаўшы нарматыў майстра спорту...

— Ура, ура, ура! — загаласілі сябрукі і ўсе астатнія, хто быў на фінішы. — Першы майстра спорту па лыжах у нашым горадзе!

І сярод гэтага галасу і тлуму Майстра пачуў выразны і незадаволены буркат:

— На храна мне гэты майстра. Такія спаборніцтвы загубіў. Сапсаваў усю абедню, смаркач...

Гэтыя словы і з такой жа выразнасцю прычуліся яму і цяпер, за юбілейным застоллем. Таму што сапраўды і цяпер ён мог сапсаваць напрыканцы ўсю абедню і тут. Ён прыйшоў, ён перамог. Толькі з таго часу і па сённяшні дзень хварэў на ногі. Ногі пачалі яго падводзіць і зараз. Хаця твар быў асветлены былой яго ўсмешкай, крыху стоенай, крыху іранічнай, а ўвогуле шчаслівай, Майстра пахіснуўся. З абодвух бакоў кінуліся, каб падтрымаць яго. Але ён уцвердзіўся, адштурхнуў памагатых. Паднёс да рота чарку, выпіў да донейка і ўцёрся рукавом смокінга.

— Прелесть, прелесть, ну просто ужас, — усхліпнула сястра, што стаяла з уколам напагатове. Толькі ўкол той не спатрэбіўся больш. Ён заставаўся яшчэ ў прытомнасці, але жыцця ў ім ўжо не было. Хаця яму хапіла яшчэ свядомасці адчуць няёмкасць, той нябачны цень, што пралёг паміж ім і тымі, з кім ён сядзеў за юбілейным сваім сталом, піў, еў, баляваў. Цверазейшыя з іх, каго яшчэ гарэлка не ўзяла, не пазбавіла памяці, а найбольш тыя, каго гарэлка і не здольна была цяпер узяць, старанна адводзілі ўбок вочы, гаварылі адзін з адным і каля яго шэптам.

Паміж імі і Майстрам ужо была мяжа. Тая заўсёдная, нябачная, але вельмі выразная мяжа, што кожны раз пракладваецца, калі нехта з родных і блізкіх вось-вось павінен адысці, сканаць, адчужанасць яшчэ на гэтым свеце паміж тым, хто прыгавораны ўжо да памірання, будучым нябожчыкам, і тымі, хто застаецца. Нябожчык быў яшчэ жывы, яшчэ прымаў чарку і імкнуўся нават нешта мовіць. Але ён знаходзіўся ўжо ў іншым вымярэнні. Там, адкуль ні голасу, ні гуку, таму, пэўна, адтуль ніхто і не вяртаецца. І трапіць туды ніхто па сваёй ахвоце няздольны. Майстра ж парушыў гэты спрадвечны запавет чалавеку. Ён развітваўся і вітаў іх, бласлаўляў поўнай чаркай горкага віна ўжо адтуль, з таго свету, з труны, з магілы. Бунтоўна жыў, бунтоўна і канаў.

Вітаў і бласлаўляў. І слязінка, тая, апошняя, што дадзена чалавеку перад вечным ужо супакаеннем, няцямная і яшчэ

гарачая, выкацілася з яго вачэй і ціхенька пабегла па халодным ужо твары. Слязінка тугі і журбы па сабе, па сваім грэшным жыцці і незямной ужо радасці пазбаўлення.

Да бальнічнай палаты яго ўжо не давезлі. Майстра адышоў па дарозе туды, у шыкоўным прэзідэнцкім ці прэм’ераўскім «мерседэсе», у якім апусцілі шкло, так папрасіў ён сам, здолеў яшчэ папрасіць. Майстра выставіў у тое шкло сівую галаву насустрач свежаму і бадзёраму ветрыку, крыху ахмялеламу ад першага маладога марозу. Дыхнуў апошні раз духам і пахам блізкай зімы. А выдыхнуць ужо не паспеў, так, з тым перадзімовым холадам усярэдзіне і пайшоў.

А калі прыспеў час пакласці яго ў труну, доўга не маглі расціснуць сцятую ў кулак руку. А расціснулі — не зразумелі, што гэта ён так апантана абараняў, — маленькі і непрыгожы звычайны чорны каменьчык, якіх шмат паўсюдна і ў полі, і на дарозе. Падзівіліся з таго каменьчыка і нябожчыка, але на ўсякі выпадак не выкінулі, пакінулі ў труне, як і урну з прахам яго жонкі.

# ЧАС ЗБІРАЦЬ КОСЦІ

*Евангелле пад Луку*

*Аповесць*

Ён агледзеў хату вачыма злодзея.

Печ, грубка, палаці, стол, крэслы... Чырвоны кут з Бажніцай пад набожнікамі. І крыху зазлаваў. Адчуў, што не хапае гаспадарлівай цярплівасці. Цярплівасці натуры, што з году ў год дбала і парадкавала па паліцах, шафах і шуфлядах — кожны сподак, цвік і матузок. Хацелася на адным воку, адным уздыху ўбачыць, уцягнуць у сябе ўсё, што тут мелася. Зубам адчуць, чаго няма, кінуцца нажываць зноў, што ўкрадзена. А не зводзіць сябе з'едлівасцю пракаветнага жабрака, нястомнага ў жалобе і смутку. Усё яму мсціцца не так, не па ім. Вось гэта б перайначыў, перарабіў, а да такога ніколі б і не папусціўся. І ўсё, што ёсць, — не вельмі міла, а што знесена, страчана — бясконца дарага.

Асноўнае ж на месцы — сцены, столь, падлога. І больш да гэтага засталіся лавы, табурэты, шафа з посудам і шафа з сякой-такой бялізнай. Дык чаго ж гнявіць Бога. Быў час — пачыналі з меншага: неба над галавой, зямлі пад бокам і на нагах. І нічога, захавалі сябе. Выжылі. Сапраўды, як казаў некалі ягоны бацька: аднаму ўжо так было — жывы застаўся. А ён жа зусім не адзін. Няма чаго сірату казанскую з сябе строіць. Як жа хутка псее чалавек. Толькі ж што прымерваў крыллі, але не паспеў іх пRыладзіць, як паперлі рогі.

Ён цяпер ужо знарок адцягваў, адводзіў тую хвіліну, калі прыйдзецца дасведчыцца, што ж укралі ў яго хаце. Супакойваў, але не маніў сабе, цвяроза рыхтаваўся да той хвіліны, калі можна зірнуць праўдзе ў вочы. І ўсё тое горкае, што ён выказваў сабе, таксама было праўдай.

Час праўды няўмольна і неяк нечпадзявана хутка набягаў на яго. Праўды непазбежнай кожнаму чалавеку, хаця і вельмі жорсткай, крыўднай, калі сіла ў табе выспелілася амаль

што незямная, а здароўя справіцца з тою сілай няма. Толькі па-маладому ўхопішся за што-небудзь — адразу ж у табе то тое, то гэтае лопнула, трэснула, парвалася. Сіла твая прывідная, мёртвая. Падобная той, пра якую расказваў адзін з яго сяброў, цяпер ужо нябожчык. Быў ён крыху старэйшы за яго, таму і лепей помніў вайну, першую пасляакупацыйную вясну. Вайна пайшла ўжо з іх вёскі. Немцаў прагналі. Але першая весняя вызваленчая паводка збірала з узгоркаў і лагчынаў іх трупы і зносіла, сплаўляла ў раку Лету. Яны дабрэлі, так набракалі ад вады і цяпла, што ўзвышаліся на рачной плыні нібы вялізныя смаленыя вепрукі.

Вясковыя падшыванцы, узброеныя аўтаматамі, пісталетамі і стрэльбамі, ладзілі паляванне на тыя трупы. Рабілі сваю вайну, шалелі, як шалее чалавек, трымаючы смерць у сваіх руках. Ладзілі паляванне на забітых ужо. З берага цэлілі і стралялі па нябожчыках. І калі той ці іншы трапляў у чэрава тапельцу, адразу ж гучаў выбух. Мёртвая сіла назапашанай і непазбытай злосцю і ярасцю апошнім збаўляльным пракляццем чужой вады, зямлі і неба ўздымала труп угару. Нежывая пара раз'юшана пакідала яго.

І сорам, сорам са спалохам і гідотай, а часам з непраходным ванітаваннем давалі адчуванне таму, хто страляў жудасці і брыды смерці, саўдзельнасці ў ёй — непамыснасці і нячыстасці да самога суднага дня. А нябожчык знікаў, хаваўся ад людскога вока пад вадой, буркацеў паціху, прыдонна супакойваючыся і назаўсёды затухаючы брынклівымі пухірамі і бурбалкамі, прыманьваючы ракаў з усёй ракі. Чаму іх па вёсках ніколі не елі і сёння яшчэ грэбуюць есці.

Вось такі ўсплёск, а мо і ўсхліп мёртвай сілы іншым разам адчуваў у сабе і ён. А да ўсяго з розных мясцінаў, дзе ён некалі быў і куды толькі марыў, спадзяваўся трапіць, ішлі званкі ў час яго трывогі, хвалявання і хваробы. Хвароба, што яшчэ не выказала сябе, але ўжо прытоена хавалася ў ім. Званілі лепшыя сябры, пра якіх ён дакладна ведаў: яны ўжо там, званілі калісь каханыя ім жанчыны і жанчыны, да якіх ён быў абыякавы, а яны ўпадалі па ім — і таксама даўным-

даўно ўжо магільныя. І яму заставалася толькі шкадаваць іх і прасіць прабачэння за тое, што не даруецца.

Званілі і бацькі, родзічы і нейкія малазнаёмыя ці нават зусім незнаёмыя людзі, і хадакі ўначы ішлі з запрашэннем туды, ішлі напярэймы адзін аднаму. Які ж патрэбны ён раптам стаў там. Тут за ім так не ганяліся. Прываблівалі, заманьвалі і ў будні, і ў святы. Нібыта цяпер ужо там нехта ўзяўся ўзводзіць светлую будучыню раю ці пекла чалавецтва. І без яго зноў ну аніяк не абысціся. Усцілалі дарогу туды яго шчаслівымі днямі. Прываблівалі да слёз балючым і гаючым раем. Прыгажосцю амаль што зямной і адначасова незямной.

Увогуле ён здагадваўся і ў душы ведаў, што такое ёсць, існуе на белым свеце. Усё жыццё шукаў, ішоў, бег, плыў і ляцеў у такі пякельны рай. Ды толькі дапяць яго таленту не выпала. Але ўсе навокал і тады, і цяпер, тыя, хто як вяроўкі з яго вілі, прываблівалі, спакушалі, ілгалі пра незямную прыгажосць, чулі і наскрозь яго бачылі. Бачылі яго прасцецкую, мо нават крыху дурнаватую душу, ведалі, пра што яна марыць і чаго прагне на самоце. І карысталіся гэтым, гулялі ёй, як у падкіднога дурня, хаваючы ў рукавах свае тузы і козыры. А яна, душа яго, толькі ўздыхала сама сабе і неўразумела перапрашала: што такое не шанцуе і як з ім змагацца.

У адказ, каб не засмуціць яго веру, яму круцілі так званую дынаму — паказвалі жыццёвае кіно, круцілі казачныя мульцікі. Калі ж адчулі, што ён ужо выдыхаецца, пачалі супакойваць, насылаць каляровыя райскія сны, якія ён сам некалі і прыдумаў у бессані начэй. Прыдумаць прыдумаў, але даглядзець да канца не хапіла часу. Ночы ў маладосці кароткія. А мо і не захацеў дагледжваць, абарваў, перапыніў іх на самым цікавым, каб хоць трошачкі ды заставалася чагосьці шчымліва пакутлівага і вычакальнага на ноч наступную, каб яна не была зусім ужо непрагляднаю, змарана мёртвай. І цяпер яго дагналі, увайшлі ў яго ночы тыя ж самыя, недагледжаныя ім у дзяцінстве і юнацтве сны, свет, якога ніколі не было, але ў які ён па-вар’яцку верыў: ёсць. Бо інакш было не выжыць, нават і не варта было жыць.

Таму ў яго ночы і ўвайшлі блакітныя вандроўныя ні да зямлі, ні да неба не прывязаныя гарады, у якіх ён жыў ці павінен быў жыць, якія ўсё жыццё шукаў. Яго частавалі, давалі есці і піць толькі тое, чаго няўсцерп хацелася ў дзяцінстве, да чаго ён толькі прыглядваўся ў дарослым жыцці, але так і не паспытаў. А цяпер хоць жывот распеспеажы, расплюшчы вочы, аслабані вушы — не пужайся ні свайго голасу, ні сваіх жаданняў.

Усе давалі, насылалі, прымушалі не сумнявацца — вада і тая сапраўды толькі каляровая, бо каляровыя рыбы харыус і стронга ладзяць там скокі, плоткі з акунямі водзяць карагоды ў вясёлкавых красках вадаспадаў рэкаў і азёраў. І па ўсёй зямлі шумяць, гамоняць вечназялёныя гаі і дубровы, і гуляюць па іх у хованкі, мільгаючы на сонцы гожанькімі каляровымі капялюшыкамі баравікі з чырвонагаловікамі, сыраежкі з рыжыкамі, лашчаць яму вока. Лашчылі, цешылі душу і вока рыбалкай на сонечным абуджальным ваду і зямлю першым промні...

Толькі там, па-за гэтым жыццём, даўно, пэўна, ужо адвыклі ад жывога чалавека, як, дарэчы, і ў самім жыцці. Забыліся, што яму, зведаўшаму галгофу, праросламу з зямной юдолі, ніхто не прыдумаў і не здолеў даць большай сілы, чымсьці сілы адмаўлення. Перабіралі, моцна памыляліся і там у пекле, і ў райскіх кушчах, хаця зведалі самі, прайшлі праз зямное шчасце. Ды, па ўсім, розуму вялікага, дзяржаўнага яно ім не дадало. А мо ўсё было куды прасцей — нябесная канцылярыя давала збоі.

Лянівы і подленькі чыноўнік не толькі як сыр у масле катаецца на зямлі. Ён не вельмі турбаваў сябе там дакладнасцю. Нічога не ведаў пра тое, што колькі чалавек прайшоў гадоў — столькі і жыццяў абняў. І ён — не выключэнне сярод людзей. Тою парою, калі яго пачалі спакушаць жыццём іншаземным, ён ужо не ўлягаў ні па блакіце нязнаных гарадоў, ні па каляровай вадзе, ні па рыбалцы. Усяму свая пара.

Як кажуць, геній у трыццаць гадоў — нармальна, геній у пяцьдзясят — клінічны выпадак, Навінкі. Існуе пара любіць і есці ягады маліны, латашыць і лазіць па садах, абміраць па

свежым гурку з грады на світанні, калі ён яшчэ ва ўлонні зямлі бусы ад туману і прахалоды ранку. Калі ж гэтая пара мінае, гурок з той жа грады закісае, не выклікае да сябе маладой ахвоты, як і бабін боб, такі любы ў маленстве, што баба без бобу аніякая не баба. І ў старасці клычыш, жуеш і грызеш ты той боб зношанымі сківіцамі і зубамі ці не з прыкрасцю нават — адчуваннем пазачаснасці і граху. Нібы хтосьці цябе моцна надурыў. Падманна і здзекліва дурыў цябе ўсё жыццё. І толькі напрыканцы, з набліжэннем хуткага і непазбежнага развітання ты паразумнеў і здагадаўся пра гэта. Уцяміў, што ў жыццёвай вуды сапраўды: на адным канцы — кручок, а на другім — дурачок. Уцяміць уцяміў, але яшчэ нязгодны лічыць сябе ні чарвячком, ні тым больш...

А яму ўсё працягвалі і працягвалі круціць кіно, усё дынамілі яго і дынамілі, пасылалі і паказвалі мыльныя оперы, праварочвалі бясконцыя начныя серыялы з яго ж уласнага жыцця. Ці нечага вельмі падобнага да яго жыцця, дзіцячых і юнацкіх смаркатых мараў і мрояў, здаровага, поўнага сілы і дужасці трызнення ў сталасці. Дняпро ды Волгу, Казахстан ды Сібір, Горную Шорыю і Забайкалле, дзе ён на самой справе спадобіўся быць, расчароўвацца і захапляцца сваім і чужым жыццём і быццём. Губляў сябе ў прывіднасці таго, што біла ў плечы, гнала далей і далей ад самога сябе, напярэймы сябе — наперад, наперад. Да нейкай нязведанай падманнай вады, рэчкі з такім жа падманным імем — Чара. Рэчкі, у якую ён адразу ж закахаўся, як толькі пачуў яе імя. І якой так і не дасягнуў, бо ўжо стаміўся і чаравацца.

Спалохана спыніўся ў прыскальных хмызах каля самых вытокаў яе. А раптам ды яшчэ адзін горкі падман. А ён ужо і так у бясконцай пагоні, у спаборніцтве навыперадкі са сваім ценем амаль што змарнаваў, прыдушыў уласнае жыццё. Казку ніколі не варта разгадваць да апошняй кропкі. Без флёру падманнага, чароўнага покрыва, гэта ўжо — публічна аголеная дзеўка.

І так не толькі з рэчкай Чарай. Шмат іншых дзівосаў ён пакінуў, не пабачыўшы іх, не ўведаўшы знарок — на ўспамін і ўцеху сабе, жалобны і светлы смутак у пэўны дзень і пэў-

ны час. Наблізіўся да іх, атруціўся, а мо і звар'яцеў ад таго, што яны ўсё ж ёсць, існуюць, і кінуўся прэч. У зваротны шлях. Дзе жыццё спрэс звычайнае і будзённае. У зваротную дарогу да сябе былога. І гэта была дарога да яго маленства.

Ён вярнуўся ў яго састарэлы, стомлены і знядужаны. А з усіх кропак паміж ім былым і сённяшнім яго вытрабоўвалі жывым ці мёртвым неадкладна вярнуцца. Тэлефанавалі, званілі ў званы яго памяці, дасылалі лісты і тэлеграмы. Упрошвалі, умольвалі, пагражалі. Мінулае даганяла яго, ставіла і заганяла ў пасткі, якіх ён некалі пазбегнуў, абмінуў, абышоў, вылузнуўся хітрасцю ці сілай. Цяпер жа той колішняй сілы ў яго ўжо не было — спрыту і імпэту не было. Але ён і не думаў здавацца, хаця і прыкмеціў, што на гэтай доўгай і пакручастай дарозе ці то ў будучыню, ці то ў мінуўшчыну, яго нібы падмянілі ці скралі ў ім нешта вельмі істотнае, сутнаснае, падсунулі, ён і сам яшчэ не разабраўся, богвед што.

Толькі цалкам чужое, што ён душыў у сабе, чаго пабойваўся і саромеўся. Там, дзе ён калісь проста ўсміхнуўся і пайшоў бы сабе далей, нехта ў ім патрабаваў крыві і смерці. Падобна было на тое, што ў ім абудзіўся нерэалізаваны дагэтуль — Бог жабе рог не даў — вялікі начальнік, які пабіваў у ім чалавечка, здзекаваўся і пагарджаў ім. І яго жытка нагадвала жытку ката з сабакам. Два чалавекі жылі цяпер у ім. Адзін — лагодны і памяркоўны, з якім можна было і пагаварыць, і чарку ўзяць — дзённы. Другі — незгаворлівы, выбухова злы і небяспечны — начны. Ён пабойваўся абодвух. Сутыкнуўшыся, яны б не саступілі — мякенькі ды рахманенькі, быў такім толькі звонку, а так — яшчэ тая ляля — маглі разадраць яго што жабу.

І таму, калі сёння ўначы ён пачуў голас, што паклікаў яго да сябе, голас таго самага сябра, які распавядаў яму пра паляванне на мёртвых немцаў у час паводкі, ён, не марудзячы і не вагаючыся, узяў вясло, адамкнуў лодку і пагнаў яе на другі бераг ракі, дзе, па ягоным меркаванні, знаходзіўся сябра. І тут абавязкова трэба адзначыць: на тую хвіліну, калі ён рабіў усё гэта, не ведаў, што сябра ўжо няма на свеце,

даўно ўтапіўся і сплыў той жа весняй вадой па рацэ Лета. І яшчэ, ён плыў да яго па другім ужо разе.

Упершыню гэта адбылося ў страшную яму ноч, калі ён ледзь не сканаў на аперацыйным стале, а сябра якраз тады ж і закончыў свой жыццёвы шлях самагубствам, утапіўся ў рацэ каля хаты. З той ракі, лежачы на аперацыйным стале, ён і пачуў яго голас. Крутнуўся, мовіў: я больш не магу, — хірург сказаў яму потым. Выдзер, пазбавіўся ад усіх медтрубак і кропельніцаў, што ўтрымлівалі яго на гэтым свеце, распаласаваны, акрываўлены, паспрабаваў устаць. Яго схапілі, адкачалі, зноў падключылі да жыцця, хаця ён страшэнна і з неверагоднай сілай, ужо тагасветнай, пэўна, адбіваўся, а што ўжо мацюкі гнуў — сёстры ад рогату на нагах не трымаліся. Вядома, нічога з гэтага не было ў яго памяці, бо спяшаўся да сябра, абмінаючы на рацэ трупы немцаў, якія час ад часу мёртва і смярдзюча выбухалі. І тады, і цяпер плыў да сябра як да жывога, ішоў на яго кліч, як без ваганняў ідзе звер на голас другога звера. Па дапамогу, з дапамогай. І проста так — толькі яны ўдвух былі жывымі тае начы.

Што яго яшчэ адразу ж здзівіла — рака была мелкая, яе можна было перайсці ўброд. І яшчэ, нейкай прамой удалячынь, і ў працяг вады яна была роўненька адшнураванай — ні віроў, ні перакатаў, ні плёсаў. Вада і вада, ціхая і павольная. І не надта чыстая, бы забеленая малаком ці каламуццю белага доннагу пяску. Вяслом можна было і адпіхвацца — лодка ішла б хутчэй, але ён чамусьці гроб. І ўжо недзе на сярэдзіне ракі лодка пачала набіраць ваду. Не сказаць, каб небяспечна, але нагам сухога месца не было. І ён спачатку задзіраў, падкасваў калашыны, а потым плюнуў — вада ж была надта цёплая, як падагрэтая на ціхім агеньчыку. І яе ўсё прыбывала і прыбывала.Так што другую палову ракі ён пераадольваў амаль цалкам, па крыж, у вадзе, дзівячыся, чаму лодка не тоне, як яна трымаецца наплыву. Яму здалося, што ў яе нават няма дна. Дошка на карме, каб сядзець, ёсць і з двух бакоў дошкі ёсць, а дна няма. І ён адначасова гоніць лодку, вяслуючы і ідучы нагамі па рачным пяску...

Так ён і даплавіўся, дапяў берага, дзе стаяла новая, нядаўна, здаецца, скіданая хата, і каля яе пахаджваў жывы і здаровы яго сябра. Толькі нейкі вельмі танклявы і прасвятлёны, спраўны.

Зусім не падобны на таго, якім ён бачыў яго апошнім разам: таўсматы, азызлы, з патухла мёртвым вокам. Тутака ж, пры новай хаце з аброшаных жывіцай, пахкіх хваёвых бярвенняў, сябар хуткі на нагу, вёрткі, хаця і нечым засмучаны. Ён паздароўкаўся і спытаў, што здарылася, навошта паклікаў.

— Я нікога не клікаў, — здзівіўся сябра, — і ўвогуле адкуль і хто ты такі будзеш.

— Не дурыся, — тут ужо зазлаваў ён. — Ці ж не нашыя хаты стаялі побач, ці не адна груша расла паміж імі. І ці не з табой мы адну зіму разам хадзілі ў школу. Ці не мне ты аддаў свае боты, каб я працягваў вучыцца, а сам пераабуўся ў лапці і пайшоў рабіць у калгас.

— Не помню. Нічога не помню, — зноў не пажадаў прызнаваць яго сябра.

— Ты ж мне яшчэ і пра немцаў расказваў, як яны, набрынялыя, плылі па рацэ, і ты страляў па іх з аўтамата.

— Такога не было.

— Як гэта не было, калі яны яшчэ выбухалі.

— Ну не. Не і не. Ідзі, чалавеча. Ідзі сваёй дарогай. Не ўводзь мяне ў грэх. Не замінай мне абжывацца тут і забываць...

Яму на імгненне падалося, што ён ніколі не ведаў гэтага чалавека. Яны ніколі не сябравалі. Тут ён адразу ж і папікнуў сябе: калі ён папраўдзе яшчэ ён, то гэта — сябар яго. Хаця... Не-не, так можна дадумацца немаведама да чаго: жывыя цураюцца, не пазнаюць жывых?

— Але ж ты мяне сам паклікаў, — яшчэ раз паспрабаваў наблізіцца да сябра.

— Мо й паклікаў. Памыліўся, відаць. Ідзі, твая хата яшчэ на другім беразе ракі. Хату я тваю ведаю, а цябе — не. Ідзі да сваёй хаты, пакуль яна ў цябе ёсць...

— Што значыць — пакуль?

— А тое і значыць — пакуль. А немцаў ужо няма. Тыя, колішнія, даўно сплылі. Сёння вакол усе немцы толькі свае.

— А гэта як?

— А вось так: сёння немцы ўсе толькі свае. Так што, калі хочаш застацца ў сваёй хаце, плыві да яе. Вунь і лодачка твая, і вясельца. Цэлая, ладная яшчэ лодачка. Хаця ваду ўжо прапускае. Але нічога, вяслуй, вяслуй пакуль, ідзі, пакуль ногі ходзяць, ідзі...

І ён пайшоў. Лёгка і порсценька, пазбаўлены цяжару начнога і дзённага часу, бы сустрэча з былым сябрам даравала яму памілаванне ўсіх яго грахоў, скасавала турботы, прымірыла з непазбежнасцю наканаванага кожнаму спакою вечнасці. І лодка яго была цяпер спраўнаю, з дном. Хаця ваду прапускала. Але якая лодка не прапускае вады. На тое яна і лодка, з вадой заручоная, вечным спакоем двух берагоў адной ракі бласлаўлёная і асвячоная.

Ён, не замачыўшы ног, ступіў у лодку, сеў на карму, адштурхнуўся і паплыў да свайго берага. А сябра застаўся на сваім. Нерухомы, як помнік, засмучоны, пэўна, самотай вечнасці, да якой, аслабанёны, ён даўно прыпаў ужо. І з той сваёй вечнасці не хацеў з ім знацца, толькі знакі падаваў. Чамусьці ж пазваў, менавіта пазваў, а не прызваў. Мо каб у нечым папярэдзіць, каб асцярожней ён быў з гэтай іх мёртва падзеленай надвае вечнасцю, не замахваўся на яе пры жыцці. Ці мо хацеў нешта сказаць пра яго хату, якой ён, лічы, адцураўся. Нешта тут было не так. Падобна сапраўды прыспеў час самім нябожчыкам хаваць сваіх мерцвякоў.

Ён ступіў на свой бераг, прымкнуў лодку, увайшоў у пакой і лёг у ложак — адразу ж прачнуўся.

Прачнуўся і пачаў збірацца ў дарогу. Бо ўжо быў упэўнены: з яго хатай здарылася бяда. Злодзей, злодзей быў у хаце. Толькі ён не мог і галавы прыкласці, на што той спадзяваўся, што здолеў знесці з яго жабрацкай хаты, незлічона ўжо колькі разоў абрабаванай толькі за апошнія гады. Дым з коміна, дык у яго і дроў прыстойных, каб добра пратапіць печ, няма. Сонечнае святло з вокнаў, каб яму заўсёды была ноч? Давай, даражэнькі, давай, а я пагляджу, як ты сам хут-

чэй аслепнеш. Дух з яго хаты прыбраць — дык гэта ж рабіць і рабіць трэба, а ты ж — злодзей.

Як бы там ні было, а ўсё гэта — вечнае, як і сцены роднай хаты, што сыходзілі на крык, клічучы яго да сябе. Вечныя сцены твайго абярэжнага з'яўлення на свет, твайго маленства і тваёй здрады. Якраз да іх, да гэтых нямых сведак свайго быцця ён усё жыццё і імкнуў. Спадзеючыся, спадзеючыся... Бо апошнім часам усё часцей і часцей лавіў сябе на думцы, да чаго ж ён спаскудзіўся. Спаскудзіў сам сябе, сваё імя і жыццё. Выпраўляўся ў дарогі чысты і светлы, пакутаваў за кожны няправедны крок і дзень. Але іх было столькі, што мімаволі звыкся сам з сабой. Даравяў сабе такое, ад чаго раней згарэў бы ад сораму, а цяпер у лепшым выпадку гнаў толькі прэч пражыты дзень, душыў, хаваў у бяспамяцтве мінулае, каб часам самому не выбухнуць, як той набрынялы тапляк-чужынец, што апошнім праклёнам згвалтаванай ім зямлі і вады пакідаў белы свет, прыстрэлены ўжо будучым нябожчыкам, па дарозе да свайго суднага дня. Забіты, лічы, анёламі — што паробіш, свет такі пайшоў: усе некалі белыя анёлы, сёння — крывавыя каты. Двойчы забіты — гэта значыць, пазбаўлены не толькі сённяшняга дня — мінулага, будучыні, таго, што сярод жывых пры хаце, дзецях, зямлі і сонцы завецца вечнасцю.

Ён ехаў сюды па вечнасць. А вечнасці яшчэ нікому не ўдалося ўкрасці. Самы найвялікшы грэх — гэта калі з хаты знесены, украдзены Бог. А ён вунь, у чырвоным куце. Значыцца і ўсё астатняе на месцы, усё пры хаце. А чаго няма — прыкладзецца. Рукі, ногі цэлыя, і ў галаве клёпкі яшчэ вараць, каб даць рады любой справе. Не варта ж тады без дай прычыны навярэджваць душу: трэба рабіць, трэба рабіць. Упраўляцца з восеньскім і зімовым брудам у хаце, брудам сатлелага ў адсутнасць чалавека часу. Вунь колькі яго — за тыдзень не ўправішся.

Бруд часу — самы гідотны і брыдкі, непрадказальны. Таму што ты не ведаеш, колькі пахавана ў ім нябожчыкаў, якіх, і ці не паўстануць яны, калі ты іх датыкнешся. Ці не пойдуць следам за табой, не пачнуць табе помсціць непазбытай сваёй

жорсткасцю і хцівасцю, нясплочанымі крыўдамі, нязбытымі жаданнямі. І ты будзеш пракляты ім адрасаваным пракляццем. Упадзеш у чужое жыццё і страціш, забудзешся на сваё. Змарнееш, сыдзеш на нішто ад чужога.

Так ён думаў і нагаворваў сабе, спрабуючы суцешыцца, а душа трымцела, заходзілася ад прыкрасці і грэблівасці. І хаця ён недзе яшчэ ў горадзе, зімуючы ў сына, рыхтаваўся да таго, што яго хату могуць абрабаваць — час жа такі рабаўніцкі і злы — перасіліць сябе не здолеў. Разгубленасць і бездапаможнасць скрадалі назапашаную ўзімку сілу, пакору лёсу. І вельмі ж свярбела даведацца, што ж там у яго хаце ўкралі, знайшлі ўкрасці.

А тое, што ў яго хаце злодзей, ён адчуў напрыканцы зімы. Хаця з нейкім падсвядомым веданнем абкрадання, гвалту і рабавання сваёй душы і хаты ён жыў ужо не першы год. Вельмі ж самотна і няўтульна пачуваўся ён апошнім часам на роднай зямлі. Як кватарант ці бежанец і ў хаце, і ў лесе, і ў полі. Нясмачна елася, нясоладка пілося і напаўвока спалася. Душа стагнала і плакала без вялікага нават адчаю і гаркоты, як бяроза напрадвесні, што засекчы засеклі, пусцілі бярозавік. І на пагібель кінулі, нават рану ніякім чортам не прыкрылі, не заткнулі, не замазалі. І яна бялёса, сукравічна гнаілася. Сачылася ружова-мутнай слязой.

Плакала без веры, надзеі і тугі. Так і душа, нібы нашэптвала яму: паміраць можна і без музыкі. Усё роўна табе не пазбавіцца ад пошасці і журбы. Святла наперадзе тунэля няма. І на ўваходзе ў яго, і на выйсці адзін і той жа злодзей: безаблічны, прывідны, спрактыкаваны на рабаванні жабракоў і таму няўмольны. Здольны ўкрасці і гай, і дол, і нават могілкі — матчыну ці бацькаву магілку. Высмактаць з цябе кроў і не захлынуцца, нават вуснаў не запэцкаць.

І ён, падначоўваючы ў гарадской кватэры сына, раптам адчуў абяскроўленую беспрыстаннасць свайго цела, амаль што першародную. Беспрытульную абяскроўленасць усёй краіны, якая ў сваёй закарэлай памяркоўнасці нават не ўсведамляла бяды, ціхага прыжыўлення да сваіх жа нябожчыкаў, сярод якіх даўно ўжо не побач, не паперадзе ні адной жывой

душы, вялізная і самая стваральная на свеце армія жывых нябожчыкаў. Цені, здані. Тыя, пра каго кажуць: пражылі жыццё і памёрлі не прыходзячы ў прытомнасць.

Гэта ўласная закарэлая беспрытомнасць не шкодзіла лічыць сябе чалавекам і спраўляць усё тое, што наканавана чалавеку. А тут, як сярод ночы, нехта з-за вугла тым самым цяжкім на свеце мехам з пылам перахрысціў. Ён выразна ўбачыў і адчуў, што ў яго самотнай прамарожанай хаце, кінутай-рынутай сярод белага снегу ў далечы непраезджай вёскі, пахаджвае злодзей. Прыкідвае, прыглядаецца да тваёй душы, мяркуе, колькі за яе можна паймець, як, каму і за колькі сярэбранікаў прадаць — разам з вугламі, дамавінамі, дыханнем і памяццю тваімі і тваіх бацькоў, іх магіламі і крыжамі. Душу тваю сённяшнюю і вечную адлавіць — і за краты, у клетку, за грошы, рублі, капейкі, даляры і сярэбранікі паказваць, каб ужо нідзе і ніколі не ўваскрэсла. Дзеля гэтага ён і прыстаўлены: гіцаль, Юда, лавец чалавечых душ, рабаўнік іх і паганнік.

І ён зусім не тоіцца, не баіцца сам быць злоўленым. Азірае ўсе куты, сцены, бэлькі, печ з комінам. Усё нажытае, зробленае і яго рукамі зробленае. Нахабна, бессаромна, здаецца, нават яшчэ сам сабе абгаворвае, папікае гаспадара: ці варта было век векаваць і пекавацца, каб мець толькі вось гэтае нішто — нявартае і прыстойнага сметніку. Шчарбаты, аплецены дротам гаршочак пад кашу, трохі большы, чыгунок пад зацірку, вялікі чыгун пад пойла і бульбу парасяці, засівералы ўжо, бо парася тое адзіны толькі Бог і ведае, калі з'елі, гэтую патэльню на прыпечку, што таксама даўно ўжо забылася смаку і верашчання пражанага сала з яйкам. З'едзеныя, а больш, падобна, высмактаныя драўляныя і саматужна адлітыя з алюмінію лыжкі, якія самі ўжо што ліст асінавы трымцяць, калі толькі запаліш печ, баяцца і водбліску агню, і нечага спажыўнага, гарачага і халоднага, як прастрэленыя шротам пры донцы каструлі, музейнага кшталту талеркі.

Адзінае, што ў хаце варта гонару, чаго мо і занадта пры печы ў камешніку — гэта процьма маленькіх і вялікіх, на ўсе выпадкі, вілачнікаў, рагачоў, ёмак, каменяў. У свой час,

відавочна, печ паважалі, і яна рупілася, сваю справу ведала. Але калі тое свята было.

— Калі тое свята было, — выбухнула ўвушшу яго. Хто гэта мовіў, хто выбухнуў, ён не зразумеў, яшчэ здранцвелы ад непрасыпу і непрыемнасцяў. Мо сам, мо ў хаце прымёрз, захаваўся голас таго злодзея, што з патомнай нахабнасцю пачуваўся ў яго жытле. І зараз быў тут, ён бачыў яго, хаця больш адчуваў. Вецер шапацеў па хаце яго сіпатым сцішаным, у кулак, кашлем, то хаваў, захінаў яго постаць фіранкамі і посцілкамі, кароткім ценем аголеных млявых дрэваў, што стаялі пад паўдзённым ужо сонцам насупраць вокнаў на вуліцы, то выразна, толькі профільна выкрываў. І тая профільная чорная постаць раптам цьмяным промільгам надвае перасекла, пераламала хату, працякла пад печ, але не памясцілася ўся там — перакінулася ў печ і пачала прападаць, злівацца з сажай. І па сажы, па сажы паўзці вужакай вонкі, каб сабрацца ў нешта аспідна невыразнае па-над комінам і хатай, выдыгнуцца ваўчком перад хмарай і схавацца ў ёй. А перад гэтым нешта выгукнуць і да таго голасна, што заклала вушы.

І ён мімаволі, каб прабіцца сваім ужо гукам на гэты свет, таксама закрычаў. А то мо яны крычалі і разам, у адзін голас. Бо калі ён ужо канчаткова адрынуў ад сябе ранак, пачатак дня, засяродзіўся на тым, што адбываецца цяпер, пачаў сумнявацца: ці сапраўды ён бачыў таго злодзея ў сваёй хаце. І ці быў наогул злодзей. Вельмі ж ён падобны на аднаго з тых людзей, якіх ён добра ведаў. Толькі на каго, ён зразумеў не адразу. А калі зразумеў — жахнуўся.

Тым злодзеем у сваёй хаце быў ніхто іншы, як сам жа ён. Сам. Толькі не сённяшняга дня. А вельмі і вельмі здалёку — папярэдзе яшчэ, пэўна, ці дрымотна адзаду. І калі адзаду, то гэта сапраўды мог быць толькі ён. Рабенькі і жвавы, што канаплянік у дождж пад страхой старой адрыны. Такі ж няўклюдны, птушына дзыгаты і смуглявы целам, што праглядвала скрозь дзіравую зрэбную кашулю з кужалю. І бясконца, бязмежна цікаўны і дапытлівы да кожнай драбніцы жыцця наўкруг. Гэта калі з даўніны мінулага. А калі

з папераду — то там быў ужо не ён. Бацька яго быў. ТАМ. Бацька, які апярэдзіў яго існаванне на цэлае жыццё. Але дзіва дзіўнае, не развітаўся з яго ж, сынавай цікаўнасцю да таго, што адбывалася і ў свеце, і ў яго хаце. Запыт, пытанне стыла ўваччу яго. І асуджэнне. А мо і гідлівасць...

У апошняе, праўда, ён не паверыў. Ці ж бацька наважыцца судзіць і гідзіцца свайго сына, ці ж павінен ён гэта рабіць? Богам яму наканавана толькі спагада. Калі ж пачынаецца бацькоўскі суд, то гэта ўжо больш пракляцце і прысуд усяму іх роду да сёмага ці нават дзявятага калена. Ці паспеў жа іх род, зерне іх радаводнае так награшыць, каб выклікаць такое? Але гэта з аднаго боку. А з другога, чаму бацьку не ляжыцца на пагорку сярод дубоў. Чаму ён не супакоіцца і на тым свеце, чаго швэндае па сяле, пужае людзей і яму спаць не дае. Ці ж можа быць бацька злодзеем у сваёй уласнай хаце, злодзеем у хаце нашчадкаў сваіх, свайго ж сына?

Нешта тут было не так. Нейкая неадпаведнасць і несастыкаванасць ні з часам, ні з яго норавамі, нават пры сённяшняй усясветнай разбэшчанасці з распустай.

Толькі ён так падумаў, занудзіўся, але адразу і спыніў сябе, як гэта было ўжо з ім уранні, успомніў, схамянуўся: сёння ж даравальная нядзеля...

Сёння ж даравальная нядзеля, з дакорам сказаў ён сам сабе і ўсхапіўся, саскочыў з ложка. Перавярнуў крэсла з лекамі і кубкам вады на запіў іх напагатове. Нарабіў такога грукату, што прачнуліся і сын, і нявестка.

— Усё, усё, хопіць. Даволі ўгравацца. Перазімаваў жа, сыне. Скажы, перазімаваў?

— Перазімаваў, — пагадзіўся сын.

— Ну і дзякуй Богу, што не нарабіў вам клопату ў маразы. Гэта ж мёрзлую зямлю дзяўбсці... У прамарожаную зямельку... Холадна ж...

— Не чаўпі абы-чаго,— спыніў яго сын. І ён не стаў яго аспрэчваць.

— Не буду, не буду... Паеду да хаты.

— Гэта да якой хаты? — здзіўлена выйшла са спальні нявестка. — Шчэ ж непраезна і непраходна. Шчэ ж снег, шчэ

ж холад. Хата стаіць акалелая. Зіма. І мядзведзь спіць. І курка не нясецца, бо певень яе таксама яшчэ не прачнуўся...

— Не. Рабіць трэба. Трэба пачынаць. Марац ужо ж.

Сын прамаўчаў. Ведаў бацьку: надумаў што, убіў у галаву — колам не выб’еш. І лепш не пярэчыць. Старому ды малому, як і дурному, лепш саступіць, даць волю. А галаву яны скруцяць сабе самі. Але калі пра гэта добра ведаюць амаль усе мужчыны, то другая палавіна чалавечага роду толькі-толькі падбіраецца да такой мудрасці. Нявестка і так, і гэтак спрабавала ўгаварыць яго застацца, пачакаць сапраўднага цяпла. Ён, хоць і ўдзячны ёй, не паддаўся. Тады яна амаль загадала мужу:

— Нечага вылежвацца. Ідзі па машыну ў гараж. Адвязі, дапамажы ўжо...

— Каб я вар’яту дапамог памерці...

— Не паражывай, акалею і сам. Ён усё ж іменна на гэта і спадзяваўся. І, відаць, дарэмна.

— Так, акалееш сам, — пагадзіўся з ім сын.

Але калі ён ужо быў на аўтобуснай, сын знайшоў яго там і сказаў, што ідзе ў гараж па машыну. Лепш вярнуцца дамоў і пачакаць яго тут ці ехаць у гараж разам з ім. І адтуль... Але яны абодва ўжо закусілі губу: адной жа пароды.

— Ідзі, ідзі пад бок жонкі, да дзяцей. Сёння я не буду паміраць. Сёння я яшчэ не гатовы.

— Што ты, як дзяцел, дзяўбеш зранку адну і тую ж шышку, — зазлаваў нават сын. — Глядзі, наклічаш.

Ён ледзь супакоіў і адгаварыў яго валэндацца з машынай. Паедзе аўтобусам, бо сапраўды глупства на тое і глупства, каб тварыць яго асабіста і па сваёй ахвоце. Адно папрасіў, каб праз дзень сын пазваніў маці і паведаміў, дзе ён і што. Старая, як і ён, зімавала ў горадзе, толькі ў дачкі.

— Глядзі, не забудзься, звані заўтра. Бо гэта ж варона адразу кінецца следам. А я хоць адзін дзень ды адпачну ад вас.

А дзень сапраўды выдаўся спраўны... Ён не пашкадаваў, што адмовіўся ад сынавай дапамогі. Такі дзень кожны чалавек павінен пражыць толькі сам-насам, каб разабрацца, а то і паўшчуваць, прыструніць сябе. Адзін ці два такіх выпадае

сярод года. Гарадскія дымы, нібы прывязаў хто да заводскіх труб. Яны саромеліся аказаць сябе, але не наважваліся і пазбавіць завод дыхання. І заводскае дыханне нагадвала дзіцячае, немаўляці, што не аказваючы сябе праляжыць на адным бачку і гадзіну, і дзве, зранку да абеду, ад абеду да заходу сонца самага доўгага дня.

Неба і па-над горадам, і па-над сялом, лесам і полем, як аднекуль з чыстага космасу, прыцягнулі, апусцілі над зямелькай. Так зіхаціць яно ўстаялым спелым блакітам і маладым, трошкі яшчэ колкім і шурпатым вясновым ранкам. І снег, хаця мо ўжо і апошні, таксама малады, але ўжо шчытна спрасаваны адліжнай ноччу і дзённым сонечным цяплом. Сырадойна белы і крышачку ружовы, як малако адразу пасля ацёлу каровы. Каля прасёлка ў полі з непрыбранымі яшчэ дагэтуль сціртамі жытнай саломы на той снег і нагой паткнуцца ніякавата.

Здаецца, то прылёг на сыходзе зімы хтосьці рослы і магутны, і хоць жывых такіх не бывае, і ён не кратаецца, а ўсё роўна ўжытна парна дыхае ў нізіне сівенькім ціхім ракітавым ды вербалозным туманком, ад якога дзе-нідзе лёгка кучаравіцца змеценая ад снегу, але прыхопленая лятучай праталай ранішняй шэранню высокая пожня. І ніхто, апроч таго, хто ў дарозе, не ведае — толькі ён, толькі ён — што гэта неўпрыкмет падабралася і стаілася сярод поля, прыпала, прытулілася да зямлі, каб набыць дужасці і моцы сама, жалобная і бессаромная вясна. І то не жаўрук цененька пазвоньвае, заблытаны ў блакіт неба, а нябачная воку вясна выпрабоўвае, разганяе зімовы сон зямлі, падае свой прарочы голас ужо цяжарным пад лёдам рэкам, аціхламу, набрыняламу прадвеснімі краскамі лесу.

І ён слухаў той голас, падтакваў яму ўсімі атожылкамі радасна напятай душы. І ўсцешваўся сваёй прадбачлівасцю, а мо нават і мудрасцю. Ужо трэці дзень стаіць такая пагода. Трэці дзень угравае зямельку сонейка, а гэта значыць і яго хату. І яна ўжо зусім не акалелая. Вясновае сонца нікому і нічому не дасць акалець. Ні дрывамі, ні брыкетам за тры, а мо і болей дні хату так не ўгрэеш, як гэта ў адзін дзень здат-

на зрабіць сонца. І ён яшчэ ў дарозе, а хата ўжо ад страхі да прызбы пачынае жмурыцца і пазяхаць, разамлелая пад вясновым мяккім сонцам, і сам ён, што марцаўскі кот, мружыць вока і пазяхае. І ў яго, і ў яго хаты салодка кружыцца галава.

Гэта маладое кружэнне і гарачы ўсплёск радасці крыху прыглухлі, прытухлі на самым падыходзе да селішча, на рагу яго ўжо сотак. Адно толькі заставалася метраў дваццаць-трыццаць збочыць з набітай, укатанай дарогі і па цаліку, па снезе, падняцца ўгору, адчыніць весніцы і прыпасці ілбом да непадсочана звекавалых бярвенняў, што і гэтым днём пусцілі густую бурштынавую слязу. Павінны пусціць, як і ён, бо жывы ў іх яшчэ не забруснелы звярыны подых лесу, хваёвай жывіцы, на людскія пакаленні зберажонай яго продкам. І памяць аб ім таксама жыве ў чысціні стрыжнёвай цвердзі кожнага бервяна. Таму так і прыкідваецца хата да чалавека, а той да схону прыкіпае да яе.

Толькі паспеў ён так светла падумаць пра сваю хату, як сціхла песня жаваранка ў небе. Яна знікла даўно ўжо, толькі ён таго не чуў, бо сам упадобіўся жаваранку. А тут нанесла на яго чалавека.

І ён спалохаўся, ды так, што збіўся з нагі, спыніўся, крыху адступіў назад і знерухомеў. Белы свет з яго гукамі, галёканнем, крыкамі і спевамі — рыкам гармоніка ці баяна, буркаценнем бубна і грукатам барабана, плачам скрыпкі і чыімсьці брыдкім і нахабным спеўным голасам і агрэсіўнымі пахамі прыпаленых мясных шашлыкоў уварваўся яму ў душу.

А дарогу яму заступіла яго суседка — старая па прозвішчы і імені Фенька. Мо якраз яе менш за ўсё ён і хацеў бачыць. Не сказаць каб яна ўжо вельмі якая там брыдкая з твару, ці норавам няўдалая, не падыходзячая да вёскі. Гуляшчая, п’ючая ці лайдакаватая. Усё наадварот.

Здолела баба і пры сталым веку, у добрых ужо гадах захаваць і твар, і цела. Праўдзівей, не твар, а тварык. Быў ён гожанькі, але ж нейкі ўжо надта мізэрны. Маленькія вочкі, маленькія шчочкі і носік маленькі, і роцік невялічкі. І ўсё гэта па-людску, па-жаночы самой прыродай, без парфумы, зразумела, пафарбавана, адпаведна малой плошчы твару не

без густу прыстасавана і прымеркавана. Не, кабета яшчэ хоць куды. А гаспадыня якая, а што працавітая — тут ужо і гаворкі не можа быць: і з сябе, і з таго, хто здуру ўздумаў раўняцца з ёй, — гізунты выцягне. На калгасных палетках, калі пасля камбайна, Фенька прыйшла іх перакопваць — ужо нікому рабіць нечага было, ні адна бульбіна ў зямлі не здолела схавацца. З кожнай соткі Фенька цягнула сабе на падворак ці не столькі, колькі насыпаў у калгасныя бурты бульбакапальнік.

І пры ўсім гэтым не ляжала ў яго да руплівай бабулі душа. Асабліва калі ўнучка прыйшла пагуляць з яго ўнукам і на развітанне сказала:

— Вы не бярыце больш малако ў маёй бабулі, бо яна яго вадой разбаўляе з калодзежа.

І вось гэтая бабуля першай сустрэлася яму па дарозе да хаты. Знак быў нядобры. Але ж што здарылася, тое ўжо здарылася. Нікуды не дзенешся, і нягожа было прайсці моўчкі ці толькі паздароўкацца і не прыпыніцца пагаварыць. Зіму ж не бачыліся. І як жа гэта каб душа з душой не павіталіся. Не страпянуліся, як дзве птушкі, якія толькі-толькі вярнуліся з выраю да свайго кубла. Не ўспомнілі, што было ўчора і што абавязкова маецца быць заўтра, хто паспеў памерці ўжо, хто толькі збіраецца на той свет.

А ўсе людзі сталага веку тут былі ўжо там, пайшлі напрыканцы мінулага стагоддзя ці на самым пачатку новага — міленіума. Адны ад гадоў і гароты, маладзейшыя, як сёння па-мадняцку ўзяліся гаварыць, рэпрадукцыйнага ўзросту, — спрэс ад гарэлкі. Усё як усюды. Таму двое на вёску — таксама насельніцтва, тубыльцы, за якімі апошнім часам амаль паўсюдна, хоць і незразумела чаму, было распачатае жорсткае і бязлітаснае паляванне: ні палкі дроў, ні посцілкі сена — ні мужыка, ні каня, не ўзгадваючы ўжо пра трактар. Узяць зморам, але без бачных свету слёз. І яны паўсюдна бясслёзна выміралі гуртамі, чародамі і вёскамі. А гэтыя двое, нягледзячы на ўсе аблавы, аблогі, хітрыкі мясцовых і сталічных уладаў, на ненажэрныя і частыя маладыя зубы адміністрацыі пераходнага перыяду, розуму не даступна, уратаваліся.

Хаця ўжо другое пакаленне тутэйшых людзей — гэтым разам прышлых — запісалася ў нябожчыкі і пайшло на той свет.

Карэнныя зрабілі гэта раней, вызвалілі месца, пляц для новых хаўтураў, журбы і трызны. Найбольш нецярплівымі з тых карэнных аказаліся, як і пры далёкім ужо раскулачванні, гаспадары, а ўжо сярод іх — франтавікі, адвагі і розуму якіх хапіла прайсці такую страшную вайну. А тут як паморак на іх напаў.

Але ўсё іх колішняе маладое жыццё сабаку пад хвост. Разам з крывёй пад Магілёвам і Брэстам, Масквой, Варшавай і Берлінам. Выцекла з іх ацалелага ў бойцы цела і жыццёвая сіла. А таго, што засталося, аказалася надта ж мала, каб выстаяць сёння. Тут, дома, пад жалобным паглядам жонак, як паморак на іх напаў. Падалі і падалі па прынцыпе даміно і часцей каля сваіх прыбіральняў, уборных. Не, адыходзілі чыстымі, нават ачышчанымі, прыпальвалі цыгарэту, спраўлялі патрэбу, выходзілі на свежае паветрайка. І да парога сваіх хат ужо не дацягвалі. І цыгарэты заставаліся недакуранымі. Клаліся ў разоры, што снапы сярод маладой, яшчэ зялёнай руні. Тут іх і знаходзілі аднапалчане і жонкі.

Аднаго толькі вяскоўца-франтавіка прывезлі з горада, ён наладзіўся апошнім часам туды ездзіць, усё пахваляўся: вызваляў ад немцаў сталіцу. Мо меў намер і цяпер ад некага яе вызваліць, бо надта ж часта прыгаворваў: дзе ваяваў — там даб'ецца і памерці. І такі дабіўся.

Памёр у сталіцы. Дзе яго, халоднага ўжо, і абрабавалі. Зрэзалі з гімнасцёркі салдацкі арданок Славы. Сарвалі з апруцянелай рукі гадзіннік, які, па яго ж сцвярджэнні, ён атрымаў ад самога Баграціёна. Але тут ён, відавочна, нешта блытаў. Баграціён — гэта была агульная назва вайсковай аперацыі па вызваленні тутэйшага краю. А чалавек Баграціён мог адзначыць салдата гадзіннікам толькі ў тым выпадку, калі б здолеў падняцца з магілы, якая невядома дзе яшчэ і знаходзілася, бо ён загінуў раней за вясковага салдата амаль на два вякі.

Сыход жонак, удоваў франтавікоў перагукваўся з сыходам ім суджаных. Была, праўда, адна толькі акалічнасць,

уласцівая гэтай мясцовасці. Імя Фенька, напрыклад, — вельмі рэдкае тут, адзінае на ўсю акругу. Надзвычай рэдкае колісь, такое ж рэдкае і цяпер. Хаця прастора яго ўжывання сёння значна пашырылася. І пажадана, каб не блыталі нашую Феньку з гаворкай крымінальнага кшталту, якая цяпер мае куды большае распаўсюджанне, чымсьці жаночае імя. Нашая ж Фенька да крыміналу, зразумела, ніякіх адносінаў не мае.

Хаця Фенька крымінальная і тут, у вясковай глыбі, у найвялікшай пашане. Вёска, як, дарэчы, пэўна, уся краіна, даўно ўжо забылася на прыстойную родную мову. І амаль пагалоўна, языкамі нават дзяцей і бабулек, усімі інтэрнацыянальнымі мовамі, гаворкамі і дыялектамі тубыльцаў даўно ўжо толькі ботае па фене. І тое, што нашу Феньку яшчэ напачатку мінулага стагоддзя нараклі іменна Фенькаю, можна лічыць прадбачаннем боскага наканавання таго, што мелася адбыцца праз чалавечы век.

Намёк у гэтым нейкі, нікім не спазнаны быў, і вялікая таямніца, якую разгадваць ды разгадваць. Пэўна, толькі ўжо не нам, — нашым дзецям і ўнукам, калі іх зацікавіць такая моўная драбяза і сама мова ацалее. У вёсцы ж, чаму так склалася, ніхто ўжо і не ведае, у вялікай пашане былі Волькі. І з гэтым усё больш-менш зразумела. Хаця паразуменне тое — таксама з пункту погляду сённяшняга дня, калі ўсё спрэс у тумане і цемры. З аднаго боку, у старажытнасці Ольга — багна, дрыгва. А з другога, гэта імя кіеўскай княгіні, жонкі князя Ігара, маці Святаслава, што перабіў тут драўлянаў, якія раней за іншых прызналі крыж, прынялі хрысціянства.

Мо і нашыя Волькі, як супрацьпастаўленне Феньцы, задумваліся пашанотна і горда. А мо і як помста тых жа драўлянаў, пагарда і здзек з волі чалавека: судзі Бог сваю Волю сам. Трошкі пажадалі жанчыны волі — ім трошкі дазволілі спадзявацца. І былі яны не проста Волькі, а Вольгі Фёдараўны, час, па ўсім, прадбачыў вялікія зрухі і будучую крывавасць усяго існага і загадзя ствараў вялікіх пакутніц, удоў-векавух, тых, каму на гаротным іх вяку наканавана лёсам і загадана творцам апекаваць і даглядаць знявеча-

ных і асірацелых — на руку, на нагу, а то і на душу ваяроў франтавікоў.

А мо нехта на тым ці гэтым свеце меў намер апошні раз паказаць усім жывым, што ёсць на зямлі сапраўдныя: вернасць,памяць і абавязак. Апошні раз. Бо пасля іх гэта адразу ж было забыта, як нешта, што замінала ведаць і глядзець толькі на сябе і чымсьці толькі сябе.

Як бы там ні было, ураджайны на Волек быў год іх нараджэння. Урадлівы выпаў ім і той сыходны год. Як піянеркі-малалеткі гуртка Палаца піянераў «Умелыя рукі» адсядзелі яны цёплы і ціхі пачатак бабінага лета — Узвіжанне. Калі гадам час ужо паўзці і ўкладвацца на зімоўку, пачалі самі валіцца, разыходзіцца па сваіх магілах. Хаця не ўсе з іх былі гадаўкамі. Але, пэўна, багата іх пападала ад перанасялення зямлі. Перанасялення імі, Волькамі, а яшчэ ад перапоўненасці, перанасычанасці яе горам і бядой. Збіліся Волькі ў адзін гурт, да аднаго краю — пахіснулі зямлю. Пахілілася яна, Волькі ўжо слабыя ўсе былі на ногі, і пасыпаліся яны, як восеньскі вішаннік перад строгай зімой — усе разам.

Толькі, па ўсім, і памерці ім гожа і з вартасцю долі не дадзена было. Так бязлітасна і непрыхільна абышоўся і распарадзіўся імі, больш сваімі вечнымі нявестамі, чымсьці нейчымі жонкамі, сам Гасподзь. А мо якраз у гэтым і была прыхаваная найвялікшая літасць нябёсаў? Хто ведае, хто ведае.

Толькі ў адрозненне ад сваіх мужыкоў падалі Волькі не ў разоры, не каля прыбіральняў. А больш у сенцах, паблізу дзвярэй на вуліцу ці на самой ужо вуліцы. На дарозе. Ведама, жанчыны. Вечна ім нешта мсціцца, па-жаночы мроіцца і жадаецца нават у смертны час. Вось яны і сыходзілі, беглі з хатаў і сваіх падворкаў. Усё некуды хацелі яшчэ, мо і збаўлення ад гэтага жыцця, праглі нейкага новага, інакшага. І траплялі на той свет, не дайшоўшы нават да суседкі. Нехта па звычцы заступаў дарогу, як заведзена ўжо: на каго Бог — на таго і людзі.

Але яны ніколі не наракалі ні на Бога, ні на яго зямных намеснікаў. Мо калі толькі прыпякала так, што зусім ужо няўсцерп ні маўчаць, ні крычаць, — узгадвалі сябе, сваіх

бацькоў і дзяцей. Усе рэчы называлі ўголас і сапраўднымі іх імёнамі. Усе чэрці свету тады маглі б лічыць сваё пекла ціхім і памяркоўным раем. І ў адносінах са смерцю Вольгі Фёдараўны дамагліся амаль немагчымага. Ім удалося перацярпець, адтэрмінаваць сваю смерць.

Калі каторай з іх трэба было падаць, скажам, у сераду, яны перанеслі гэта на пятніцу ды яшчэ не гэтага, а наступнага тыдня. Прымяркоўваючы сваю смерць да атрымання пензіі. Да таго доўгачаканага і ўрачыстага дня, калі паштаркі прыносілі яе ў хату. Яны, хто як, распісваліся, дадавалі да смертных грошыкаў, што даўно ўжо збіралі, хавалі адны за бажніцай, другія — пры самым донейку яшчэ матчынай скрыні, бо на сваю за іх век так і не выпала ўзбіцца. Уздыхалі напоўніцу, распростваліся — адчувалі сябе вольнымі. Можна было ўжо не клапаціцца аб працягу жыцця: дзяржава і іх абранец сплацілі за яго — на месяц наперад. Яны, можна лічыць, крышачку надурылі абодвух.

Задуменныя, апошні раз частавалі сябе ста грамамі магазіннай каўбаскі і селядцом. І ўсё. Затрымлівацца на гэтым свеце далей было небяспечна. Бо жыццё іх магло зацягнуцца да спакушальнага набліжэння новага дня пенсіі, калі ім трэба было пнуцца, каб зноў неяк абдурыць смерць. А ў адну і тую ж гульню са смерцю чалавеку можна было згуляць толькі аднойчы.

Паўторна смерць брала карты ў свае рукі і мухлявала, і сама прызначала козыры. Магла падпусціць амаль да таго дзянька, калі выдаюць пенсію. Але толькі амаль. Пацвеліць грошыкамі і адразу ж пакладзе ў труну. І тады сама толькі думка пра развітанне з жыццём будзе пакутніцкай: гэта ж аднаго дзянька, гадзінкі адзінай нейкай да спакойнай і акуратнай смерці не датрывала. Недаравальна вясковаму чалавеку, гаспадыні. Гэта ж па вёсцы толькі і гаворкі будзе. А яны не прывыклі, каб іх абгаворвалі, каб іх у нечым папікалі. Яны былі прывучаныя паміраць акуратна.

Плакаць па іх не было каму. Чужому іх смерць была нецікавая. Свае ж ад такой прасветлай жыткі, як гаварыла-

ся ўжо раней, паўцякалі — хто ў горад, а хто таксама — у прыватную магілу.

І тут як нешта перакулілася на белым свеце. Надта ж, пэўна, горкае пайшло жыццё і ў горадзе. Шматлікія спадкаемцы кінуліся ў вёску, успомнілі пра асірацелыя бацькоўскія хаты, пачалі займаць іх. За імі пацягнуліся і тыя, каму на гарадской нішчымніцы жыццё ў вёсцы падавалася спрэс адным парасяча ды курына кумпяковым раем. Але і яны не зажыліся не толькі тут, у вёсцы, а ўвогуле на зямлі.

Маёр і прафесар вышэйшай школы міліцыі, пчаляр Ёсіп памёр ад інсульту, цягнучы з агарода на плячах мяшок з часныком, які сам пасадзіў і вырасціў — разлічваў зарабіць на ім на бензін, каб ездзіць з горада сюды на машыне і дазарабіць яшчэ нейкую капейчыну на гурках і памідорах.

Былы гарадскі заслужаны настаўнік матэматыкі Павал Леакадавіч пайшоў у лес, як казаў, у грыбы. І нібы скрозь зямлю праваліўся. Дзіўным было, што гэта выдавала на праўду. Па вёсцы пайшла пагалоска, што настаўнік дабрыў да схаваных у глухім лесе барсуковых нор. Жылі ці не сёлета ў іх барсукі? Пытанне было спрэчным.

Адны сцвярджалі: на свае вочы бачылі — ёсць яны там, жывуць. Другія аспрэчвалі: ці ж магчыма такое, каб нябожчык ажыў, вярнуўся з таго свету і зноў заняў сваю хату? А справа ў тым, што, сапраўды, калісь гэты край быў знаны паўсюдна як барсуковы. Паселішча іх месцілася ў Глухім лесе. Так на самой справе зваўся той лес. Чалавечы голас, сабачы брэх там глухлі і не выклікалі рэха. Мо таму, што лес быў не адзін. Сышліся два бары: сасновы і яловы. Сасновы, звонкі, галасісты, яловы — бурклівы, пахмурны. Два гэтыя бары, пэўна нешта аспрэчвалі адно перад адным і мкнуліся выказацца, а слухаць не ўмелі.

Якраз на мяжы елак і хвояў, улічваючы іх ціхі пошум, і атабарыліся барсукі. Мо ішлі аднекуль здалёку, стаміліся, прыселі адпачыць пад трыма разгалістымі ляшчынамі, якімі нехта і пазначыў мяжу між барамі. Прыселі ды так уседзеліся, што засталіся тут назаўсёды.

Так, пэўна, засялялася колісь і ўся нашая зямля. Ішоў чалавек, плыў, бег, а мо і ляцеў, хто ведае. Душа яго дзіцячая і бязгрэшная яшчэ шчабятлівай птушкай шчур лунала поруч, вяла праменька туды, адкуль сама з’явілася, да дому, якога чалавек яшчэ не ведаў, але сэрцам прадчуваў ужо і загадзя радаваўся. Здарожваўся, западала ў душу яму запаветнае месцейка. Зморана прысаджваўся, прыпадаў да крыніцы з жывой вадой.Той жа вадой і гаючымі травамі папраўляў здарожаныя ногі.

І вось так, збаўляючыся стомы, чапляўся вокам за зялёны лісток на дрэве, мурашку каля босай нагі, званочак каля крыніцы. Радніўся з імі, прыкіпаў да іх сэрцам. Звыкаўся з імі, як мы сёння закарэла звыкаемся са сваёй пастылай жыткай: а хай яе — няма вайны, то і добра. Сонца грэе, дажджы праходзяць, зямля трохі родзіць. Нешта падобнае, пэўна, адбывалася і з нашым продкам, толькі, канечне, без гэтага, без хаю. Падлятала і садзілася яму на плячо добрая птушка шчур. І ён пачынаў цяміць, што таксама паходзіць са шчураў. Шчаслівы наш прашчур са сваёй птушкай шчур пад ляшчынай, што губляла ў жнівеньскую ўжо траву чырванатварыя арэшкі лузанчыкі. Наводдаль ад той шчодрай, ненадакучліва шчодрай ляшчыны, у нізіне, ручай пад бабровай шапкай, а на пагорку, на выспеленым сонцам жвіры — паселішча бесклапотных яшчэ барсукоў.

На тым жа самым пагорку, пад той жа ляшчынай, як ні дзіўна, стаяць спраўненькія і не зарастаюць травой іх пракаветныя палацы-норы, дзе і цяпер, калі зямля і неба напружваюцца ў чаканні навальніцы і ў хмарах пагрозліва выспяваюць перуны і маланкі, у старых барсуковых норах той, у каго зямны слых і чуйнае сэрца, можа пачуць ні то плач, ні то смех, ціхі і чысты, што званочак белага ландыша, над якім завіс маёвы чмель.

Такія ж ландышава свежыя і духмяныя, толькі што пастаўленыя на пагорках і курганах каля вёсак з габляваных бярвенняў, з якіх яшчэ ціснецца смолка-жывіца, цэркаўкі. І дух там, каля барсуковых хатак, здаровы, хаця для травы, пустазелля і неспрыяльны. Так, на скразняку, толькі трошкі

сівога машку зачапілася на самой макаўцы наноснага зверам кургана, ды гады ў рады ў норку скочыць, схаваецца ці то ад грыбніка ці то ад сонца баравічок, а ў спякотнае лета завітае ў зацішак ласіны грыб-галубок. І ўсё. Ціша ў норах і каля нораў, хаця яны ўвесь час нязменна натапыраныя, гатовыя ад некага схавацца ці некага і прыняць, залучыць да сябе ў госці, за некім пабегчы, а мо і збегчы.

Барсукі сышлі адсюль у часы калектывізацыі. І невядома — па сваёй ахвоце ці пад прымусам. Меркаваць можна і так, і гэтак: што ж за жыццё і зверу, калі чалавека, гаспадара бралі за шкіркі, выкідвалі за край свету. У сібірскія і запалярныя маразы, каб з белым мядзведзем падзяліўся тлушчам, што нагуляў тут як барсук уначы. Мо з-за гэтага нехта з калектывізатараў раскулачыў і барсукоў. Загнаў туды, дзе Макар і цялят не пасвіў. Дзе ад самога Макара і магілкі нямашака. А след звера, яго норы, ацалелі. І на вёсцы перашэптваюцца, што з вечнай мерзлаты пачалося вяртанне барсукоў. Праўда, хлусня — хто ведае.

А вось пра тое, што матэматык жыве ў барсуковых норах, пагалоска ідзе не толькі па іх сяле.Такую вестку прынеслі людзі з горада. Кажуць, што настаўнік не проста жыве сярод барсукоў, сам перакінуўся ў аднаго з іх. Навучае малых барсучкоў таму, што трэба рабіць, каб ніколі не стаць чалавекам, у прыватнасці, настаўнікам, і барані божа — заслужаным настаўнікам краіны. Жыве, як сыр у масле катаецца. І не дбае. Бо матэматык. З дзяцінства разумненькі.

Не то што выкладчык так званай першай дзяржаўнай, матчынай мовы. І не абы-які зачуханы, з самім Якубам Коласам ручкаўся, з Васілём Быкавым ракаў пад піва еў. Даручкаўся, дапіўся піва з гэтымі самымі, з ракамі. Як казаў і пісаў той жа Колас, абмылачка выйшла. Сёння на беразе ракі, дзе як раней пілі, так і цяпер п’юць піва, толькі ўсё болей і болей замежныя турысты, ён збірае пустыя пляшкі з-пад таго піва. Адным словам: філолаг, трасца яго матары.

Вось такая гісторыя здарылася ў вёсцы з інтэлігентнымі чалавекамі. А пакаленне новых алкаголікаў, што пасяліліся ў трох пустых хатах, якія стаялі адна за адной, у радок,

атруцілася гарэліцай і згарэла. Літаральна згарэла, сіненькім і не вельмі зыркім агеньчыкам. Усе ўтрох доўга так ляжалі сярод вуліцы пры плоце. І як свечачка палала ў роце кожнага, вузенькім і цененькім, што ў гадзюкі языком. І тушыць было некаму і нечым.

Гавораць, для гэтай справы вельмі прыдатна сыроватка і жаночая мача. Але дзе возьмеш той сыроваткі, калі ў вёсцы даўно ўжо ні адной каровы. І жанчыны ні адной — Фенька якраз недзе пасля камбайна на калгасных палетках збірала бульбу. І пасля вельмі бедавала, што не выратавала гаротнікаў.

Хаця, згадваючы нябожчыкаў, каб не папікалі ў недакладнасці, трэба сказаць, што навука адмаўляе тое, што чалавек можа згарэць ад гарэлкі. Не, яна зусім не супраць, што ад гарэлкі ўсё ж гараць.

Але агеньчыку вонку не відно, тым больш сіненькага — толькі спапяляльны нябачны ўнутраны агонь. Сыходзячы з практыкі, трэба сказаць: і навука, і вучоныя ўлезлі не ў сваю справу. Сцвярджаюць і адвяргаюць тое, што не праверылі ні самі на сабе, ні на сабаках. Не звярнуліся да той жа самай вясковай Фенькі, якая не аднаго вясковага небараку сваім жыватворным струменем ужо з таго свету вытрабавала.

Толькі вось свайго адзінага сына не здолела выратаваць. На тую пару, калі з ім гэта адбывалася, жаночая жытка на вёсцы ўжо наладжвалася. Жанчыны пачалі ўжо ў байкавых трусах хадзіць круглы дзень. І Фенька забылася, калі сын яе загарэўся, забылася пра тое, што яна як гарадская, пры трусах. І належнага струменю ў яе не атрымалася. Само сабой, цяпер бы яна не схібіла. Але ж, што зробіш, не ў час пачалі гарэць мужчыны, Фенькі дома не было.

Вось так і адбылося, склалася, што ўжо на другі заход вымерла вёска. І грэшнікі, і праведнікі. Апроч толькі іх — яго ды Фенькі. Але вялікай прыязнасці адно да аднаго яны не адчувалі, як гэта часта здараецца паміж людзьмі, што прайшлі праз адны і тыя ж беды. І на шчасце, доўгай гаворкі ў яго з Фенькай не атрымалася, і не магло атрымацца. Фенька была п’яная. Хаця ён добра ведаў: Фенька не была

б яна Фенькай, каб піла нешта больш моцнае за бярозавік. А тут чамусьці...

Ён зразумеў гэта праз імгненне, калі навакольнае жыццё без якога б там ні было дазволу з яго боку ўварвалася ў яго душу і парушыла ўсё, што ён так старанна спарадкаваў, настроіў на нешта ціхае і добрае — супакойнае. А тут памерлая вёска рыхтавалася ўступіць у Вялікі Пост. Навакольныя яшчэ жывыя і памерлыя ўжо, нябожчыкі праглі паставаць. Яны даравалі людзям і краіне сваю заўчасную смерць. На двары ж стаяла Даравальная нядзеля, і нашчадкі памерлых, а больш навалач, набрыдзь, што прывалаклася і прыліпла да вёскі пад час яе хаўтураў, прыбрала да сваіх рук рэшткі хатаў, раку і зямлю, арганізавала так званы ВёскаТур. Вясковы сельскі турызм. І якраз сёння, у апошні дзень Масленіцы, у Даравальную нядзелю, святкавалі хаўтуры па зіме. Правілася вялікая праваслаўная трызна — па вёсцы, па яго хаце, па ім і вось гэтай самай п'яненькай Феньцы. На той трызне Феньку і падпаілі. Яна сама налыкалася, таму што на дарэмшчыну, на халяву. А на халяву, гавораць, на вёсцы не п'е толькі тэлеграфны слуп, бо кубачкі яго ўніз павернутыя.

З боку лазні, што стаяла на беразе невялічкай але старажытнай ракі, дзе, па паданні, князь Ігар са сваім палком некалі паіў коней, даносіліся ўсхліпы бубна, плач скрыпкі, і штукар-завадатар, мо адзін з арганізатараў сельскага турызму, падахвочваў люд, пэўна, і замежнікаў, таму што сярод сапраўды рускай народнай гаворкі гучалі словы і на замежных мовах.

— Не стесняйтесь же, ребята. Ловите женщин, пока ноги стоят. Сегодня не грешно и чужих. Прощенное воськресене... И на горячий полок, под горячий парок. А вы не торопитесь бегать, а то сами же потом жалеть будете...

— А ты чаго на праводзіны не пайшоў? — спытала яго Фенька, нібыта яны сёння ўжо бачыліся.

— На якія праводзіны?

— Ну як жа, зімы.

— Я бачу, ты добра направодзілася.

— Аге ж, — хуценька пагадзілася Фенька. — Куды ўжо лепей. Прыз во далі. Пеўніка зарабіла. — І яна падняла даволі гожага і ладнага пеўня за вяровачку, што сцягвала таму пародныя па ўсім, з моцнымі шпорамі таўсматыя ногі. Певень, лежачы ў яе кошыку ўніз галавой, відаць, ужо ачамярэў, і што з ім ні рабілі, не супраціўляўся. Адно толькі лыпаў бліскуча чырвонымі злоснымі гузікамі вачэй, якія некуды ўвесь час прападалі — зацягваліся бельмамі.

— Мужыка во нясу. А дзевачак ужо няма, — невядома каму, не падымаючы на яго вачэй, пажалілася Фенька. — Унадзілася ліска і за зіму ўсіх курачак перадушыла. А мо і тхор завёўся. Ты як думаеш?..

— Я думаю... — пачаў ён і папярхнуўся, бо на тое ліха сапраўды падумаў: Чапай знайшоўся...

Маўчала і Фенька, тупала на адным месцы, перабірала тоненкімі ножкамі ў лёгкіх спартыўных шараварах. Нечаму стоена пасміхалася амаль нерухомымі вуснамі, вычакальна паглядвала на яго. І адразу ж апускала вочы. І нечакана ён таксама зніякавеў перад ёй, сумеўся.

Не было ў яго думках месца гэтай Феньцы. Вельмі ж розныя яны людзі. Нават не людзі — істоты. Мяжа была ў часе і прасторы. Адзін з іх, пэўна, і не належаў нават гэтаму свету, зямлі. Толькі вось хто — гэтага ён не ведаў, а праўдзівей, сумняваўся. Не хацелася нават у думках крыўдзіць Феньку, і сябе было шкода. Адно толькі быў упэўнены: адлегласць паміж імі была, ёсць і будзе — невымяральная. Як гэта ні сумна, Фенька па ладу сваіх думак і звычак не даспела яшчэ і часоў прыгонніцтва, знаходзілася, пэўна, у самым росквіце рабаўладальніцтва. Добра гэта ці пагана, яму якраз і было невядома. Бо ён сам прагнуў збегчы са свайго часу некуды... некуды туды.

І спыняла яго толькі адно: у якасці каго ён знойдзецца ў тым залатым часе чалавецтва, як і адначасова і тое, дзе ён апынецца, калі надта ўжо забяжыць наперад.

Лёс нецярплівых, лёгкіх і хуткіх на нагу і думку быў яму вядомы. Так што і круць-верць, і верць-круць — вынік адзін. За свой век ён ужо зведаў і тое, і другое. І жытку з макам, і

жытку з такам. Шчаслівая Фенька, шчаслівы яе пеўнік. Хаця і не такі ўжо і шчаслівы, малады яшчэ, а без курачак ужо.

— Чаго ж ты так з імі, з курачкамі, — сказаў ён, каб нешта толькі сказаць. Адвесці чаргу ды хутчэй у хату.

— Ды так ужо вось так. Вось так ужо і гэтак, і так... — Феньку, здаецца, закалодзіла. Адно толькі бясконца такала, але са сцежкі і не думала саступаць. Наадварот, уцвердзілася ў снезе. Замінала яму ісці да свайго селішча. І да ўсяго гаварыць што з ёй, што з яе прызавым пеўнем было аднолькава. І гэта таксама быў нейкі нядобры знак. Каб двое з адной вёскі пры сустрэчы слова адно аднаму не знайшлі — зусім не па-людску нешта было. Няйнакш, мядзведзь у лесе здох ці сарока дзень пражыла і нічога не ўкрала.

— Ну і намурзалася ж ты, Фенька, — сказаў ён тое, што думаў, але пры іншых абставінах ніколі б не выказаў.

— Намурзалася, — зноў без крыўды прызнала Фенька, — але і пеўня прыдбала.

— Пасадзі яго на печ.

— Навошта?

— А як пракрычыць тры разы, мо працверазееш ды розуму набярэшся.

— Сам-то ты, сам-то ты... — пачала Фенька, але не дагаварыла, перайшла на нешта іншае і няўцямнае. Падціснула вусны, не то ўцягнула, не то наадварот — надзьмула шчочкі, ды так, што носік на яе твары амаль згубіўся. Не носік, а дзюбка нейкая птушыная, савіная, і сама яна соўка соўкай. Маленькая, зграбненькая і сабе наўме. Што Фенька адразу ж і пацвердзіла, рашуча і чамусьці вельмі помслівa мовіла:

— А ў тваім гародзе, а ў тваім гародзе зайцы чорныя жывуць. Чорныя і вялізныя, што коні.

— Чорных зайцоў не бывае, — паспрабаваў адмахнуцца ад яе балбатні. Але не атрымалася.

— Не бывае? А негры? Негры ёсць?

— Яны ж не зайцы.

— Тым больш — чорныя ж, — Фенька задаволена акругліла рудыя савіныя вочкі, пераможна ўзняла галаву.

Так вось яны пагаварылі і разышліся, разбегліся і разляцеліся па сваіх норах і кублах. Толькі ён на Феньку не крыўдаваў, бо пры ўсім тым паважаў. Фенька адзіная з усяго сяла ніколі не цуралася свайго кубла, як птушка канаплянік, што не прызнае ні зімы, ні лета, верная аднаму толькі роднаму куту, дзе нарадзілася, яго спёцы і маразам, ліхалеццю працягламу і зрэдзьчасу шчаслівым пробліскам сонца. Усе, колькі ёй выпала, зімы зімавала ў сваёй хаце.

Гэта ён ды іншыя тут — пералётныя птушкі. Першы восеньскі прымаразак, не паспела яшчэ зашэрхнуць, ацвярдзець ад прадчування халадоў жытняя салома — яны адразу ж у чароды і — у вырай. Гаспадары, а ператварылі сваё селішча ў лецішча, часовыя і што апошнія выпадковыя ўжо на зямлі людзі. Дачнікі, лічы.

Забыліся, як і завіруха ў полі мяце — ад першага да апошняга снегу ўсе ад'язджалі ў горад, хто да сына, хто да дачкі. І толькі па вясне змучаныя і зняможаныя тым горадам, вінавата і прысаромлена, што пабітыя, цягнуліся назад. А гаспадарка, хата не любяць, не церпяць гэтага. Вох, як не любяць здрады, таго, хто папускаецца і жыве, нібы салому жуе. Не трывае таго, хто ніколі не зведаў асалоды роспачы, адчаю і злосці ў працы, каб спазнаць шчасце ад пачуцця ўласнай годнасці, хто ніколі не зведаў той жа клятай сялянскай сквапнасці і хцівасці, не аднае вясны не падаў і не абміраў у разоры ці на пракосе, не асоўваўся долу пад непадымнасцю ўскінутага на плечы жыццёвага меху, не губляў прытомнасці ад радасці зробленага, сатворанага. Такога гаспадара хата сама зводзіць, зжывае са свету. У кожным яе куце, у расцягнутай у ім павуціне — асуджэнне і прысуд яму. І то не павук там шчыруе, а цянётнік раскідвае цянёты лёсу пустадомка і балабола, верны знак яго кароткаму веку пры вечнай хаце.

Ён, барсукавата касалапячы, абышоў старую з яе пеўнем і подбегам грузнучы ў гурбах і сумётах намеценага пярэсыпам неўляжалага снегу, бо было яго зусім нічога — такая сухая з так званым марозам галашчокам выдалася зіма — паківаўся да свайго падворка. Яшчэ толькі адмыкаючы дзверы, ледзь-

ледзь падымаючы іх, каб лягчэй адчыніць, ён ужо з нарастаючым сумам адчуваў — з яго хатай нешта не так.

Пацягнула, пацягнула скразняком, загойдалася, пайшла ў твар яму посцілка, што ён павесіў перад уваходам у хату, каб не так нацягвала халоднага паветра. Адчуванне незвычайнасці было, праўда, нейкае няпэўнае, больш падсвядомае. Ён адбіваўся ад яго, ужо ступіўшы ў хату: усё ж як заўсёды, усё ж на месцы, усё як і мае быць. І падлога нават чыстая, без праху сатлелага тут без яго часу. Але гэта так толькі ў першым пакоі. А з другога, з меншага, дзе ён спаў, нязвыкла неяк дзьмула. Зусім не так, як заўсёды гэта бывае, калі хата доўга не ведае чалавека. Не закарэла застаялым густым пахам яго хваробаў, турботаў і журбы, не даўкай, асядаючай на вуснах і ў роце цвіллю і вільгаццю забыцця, а панадворкавым сонечным водарам. Водарам саладжава расталага снегу на страсе, вады, што аж цурком лілася на ўжо вольную каля падмурка з паўднёвага боку, хаця і мёрзлую, але ўжо ўмытую, прыхарошаную зямлю.

Яшчэ не ўсвядоміўшы, адкуль у хаце гэты жлуктавы пах свежай вады, як пах непрыцёртай да цела бялізны пасля лазні, адкуль гэты сонечны водар смалы-жывіцы ў нежылым памяшканні. Ён зірнуў на чорны апалы ліст чарэшні і яблыні за вакном, абодва дрэвы ўжо браліся пупышкамі абнаўляльнага вясновага квету. Перавёў позірк крыху бліжэй да сценаў хаты, на парудзелую, а месцамі як пабеленую мёртвую траву пад прызбай, падзівіўся, як струменіць на тую траву, спярэшчаную жывым вечназялёным мохам, са страхі вада. І думкі яго набылі нейкі дзіўны і нечаканы самому лад, запаволена блазнаваты, не маючы дачынення да таго, што вось-вось павінна адкрыцца яму. Пад час, калі сын забіраў яго ў горад, да самых маразоў жылі, кешкаліся пад застрэшшам на гарышчы шпакі. Не адляцелі ў вырай увосень, засталіся зімаваць. Ён яшчэ падумаў тады: зіма будзе надта ж лёгкая, сірочая. Але на табе...

Дзе ж зараз тыя, не ў пару асмялелыя шпачкі. Дзе сёння яны, вечныя жартаўнікі-перасмешнікі: гарэлку піў, піў, піў?

Няўжо замерзлі. І так шкода яму стала тых шпачкоў, што аж слёзы набеглі, засцілі сонца.

А ў аслеплыя разам вочы яму пазірала пустое падвойнае — без абедзвюх шыбінаў акно. Хоць бы шыбіны ацалелі, падумаў ён, мілы ты мой зладзейка, пакінь мне хоць шкло... На гэтым ён адвярнуўся ад сляпой зеўры акна.

Трошкі наводдаль ад акна стаяў ложак, засланы даматканай дзяружкай, на якую добра нацерушылася снегу. Але толькі на дзяружку. На падлозе яго не было — ну мо так толькі дзе-нідзе. Гэта сведчыла пра тое, што ў хату залазілі нядаўна. Зіма была амаль бясснежнай, нават лютаму не было чым закруціць па яго звычцы хоць невялічкую мяцеліцу. Маразы прыпадалі на голыя палі. І даволі моцныя. Усю зіму балела сэрца: ці ж ацалее па такім надвор'і збажына ў полі, клубніцы і кусты смародзіны з парэчкай у агародзе, вінаград пры хаце. Калі крыху адпускала — ішоў больш дождж з градам, чымсьці снег. І гэта толькі дадавала зямлі холаду. Яна адразу бралася лёдам, праз які ні травінцы, ні карэньчыку было не дыхнуць. І лёд нялдольны быў назапасіць цяпла і ўгрэць жывое, той жа ягаднік, жытнёвую рунь, дрэва.

І толькі заканчэнне лютага ды пачатак марца крыху супакоілі душу. Нарэшце пасыпалі сапраўдныя зімовыя снягі. І да таго ж прыгожыя, спеўныя і мілагучныя, што каб здароўе, то дадому і начаваць бы не прыходзіў. Апошні снег выпадаў з тыдзень таму. Выходзіла, што якраз пад яго і рабавалі хату. Раней, пазней — то ці намяло б у хату болей, ці б на вуліцы засталіся зладзейкаватыя сляды.

— Што ж ты, яварка мой, узяў у мяне, — мовіў ён услых, наўпрост гледзячы сонцу і вясне праз пустое, пазбаўленае шкла акно. — Што ж змусіла цябе душу страціць?

У маленькім пакойчыку нічога прывабнага руцэ і воку злодзея, на яго думку, не было. На паліцах, ва ўзгалоўі ля ложка — старыя, часоў гарбачоўскай перабудовы і галоснасці, часопісы. Даволі багата, упадуць на галаву — прыб'юць, хаця і так прыгаломшылі на ўсё астатняе жыццё. Часопісы маскоўскія, менскія і нават кіеўскія. Але самыя апошнія пазначаны 1991 годам. Год — пярэварацень. Закончылася

гарбачоўская савецкая эпоха — закончыўся і век чытання часопісаў

І, як ні дзіўна, вось ён зараз наракае на злодзея, а большасць гэтых часопісаў у яго таксама, можна лічыць, — крадзеныя. Крадзеныя, праўда, ад пад'ездаў дамоў і звалак, са сметнікаў дваццатага стагоддзя і пачатку трэцяга ўжо тысячагоддзя. Бо ён, крыўдуй не крыўдуй, хоць і не зусім яшчэ злодзей у гэтым трэцім тысячагоддзі, але самы сапраўдны ў ім сметнікавы чалавек.

Як закончыўся век чытання часопісаў, так закончыўся і ягоны век. Ён перастаў даставаць носам зорак, пайшоў па зямлі вачыма долу, гледзячы, дзе б што можна падняць мо й трошкі прыкрасці — мала каму прыдатнае, а яму край патрэбнае. Вось так было і з большасцю часопісаў. І не толькі часопісаў. Побач з імі стаяць «сметнікавыя» кніжкі: Айзек Азімаў, Рэй Брэдберы, браты Стругацкія. Апошнія крыху абсмаленыя, выхапіў з агню. Класіка і рарытэты: Сталін, Ленін, Гогаль, Дастаеўскі, Адамовіч, Брыль, Быкаў — усё з вёскі Крукі, што ў Брагінскім раёне пад самым Чарнобылем. З радыяцыйнага, атамнага сметніку. Доўга ляжалі ў непрытомнасці вясковай школьнай бібліятэкі, таму і такія разбэрсаныя, бухматыя. Радыяцыя іншым разам бывае і бачнай. Нічога, год-два пастаяць у яго — акрыяюць, калі будуць некаму патрэбныя. Пакуль жа не зачапілі і вока злодзея — усе да адзіненькай на сваім месцы. На тое і класікі — сваё месца ведаюць.

А ён, калі б ужо залез у чужую хату, іх не прамінуў бы... Ну вось, дажыўся: падумаў, значыць,— дапусціў. А дапусціў — ужо і зрабіў. Да гэтага і ішло. У яго хаце не толькі абпрамененыя кніжкі. Ён таксама падпечаны радыяцыяй часу. І ніхто яго ўжо ад той радыяцыі не выратуе, ніхто не вылечыць. Няма каму лячыць. Здаровых ужо няма.

Здаровыя людзі не просяць здароўя ў Бога. Яны проста здаровыя. Хаця і не без хваробаў. Яны здаровыя на душу і сумленне. І гэта пры тым, што іх доўга зводзілі са свету, як зводзяць вошай. Зводзілі ўдала, таго-сяго з чалавекаў падкарацілі на тое ж сумленне, душу, а ў большасці — на

розум. Таму сёння чалавек такі абыякавы да таго, як ліецца людская кроў, хрустка, што кавуны, трашчаць і лопаюцца чарапы, халодным астуджаецца і закаравее ў лужынах і па сценах чалавечы мозг, страціўшы энергію думаць, перацякаць у будучыню.

Чалавек увогуле думае сёння зусім не галавой, як і зусім не тым, пра што вы адразу падумалі. Калі б хоць так, то гэта было б яшчэ не бяды. Хаця, чаго наракаць, кожны думае тым, куды Бог ці чорт каму розум уклаў. Але і гэта яшчэ можна было б выправіць — рукі чалавека страцілі душу, пазбавіліся розуму. Хаця па ўсім свеце маршыруюць, асабліва пры ўладзе, пайшлі спрэс адно толькі рукастыя людзі. Такія рукастыя, што далей ужо і некуды. Узяць хоць яго. Лічыць сябе прыстойным чалавекам. Так, пэўна, і было напачатку, калі папругай убівалі ў галаву: ляжыць рэч, не твая — хай табе рукі адсохнуць, калі ты паквапішся на яе, хай яна сама спрахне.

Гэта — калісь. А сёння? Ён, зімавальны ў горадзе, сметнікавы чалавек, згарбузаваўся з такімі ж, як і сам, пенсіянерамі, арганізавалі не то калгас, не то арцель з элегантнай назвай «Наша — справа». Прафесар-медык, пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі. Паважаныя, інтэлігентныя людзі.

А распавесці пра іх жыццё — ніхто ж не паверыць. Веры не дадуць, але ўсе будуць ведаць, што гэта не хлусня — адна голая праўда, бо самі амаль што так жывуць. Але ж голы, не тое, што праўда, — і чалавек брыдкі. Усе ўтрох пачынаюць дзень уперыўшы вочы пад ногі сабе, з пільнага даследавання асяродку свайго быцця — вучоныя людзі.

— Ці не здаецца вам, заслужаны медык краіны... — звычайна адкрывае дазор вастравокі пісьменнік. На што медык, не чакаючы працягу, рэжа:

— Сам лаўрэат Дзяржаўнай прэміі...

— Ад лаўрэата чую... Але не будзем чапляцца, калега па няшчасці. Я без сарказму. А ці не падышлі б да вашага асабістага шасцісотага мерса для язды на Камароўку па бульбу на вашым смярдзючым дызельным паліве вунь тыя калёсікі ад дзіцячай каляскі, што ляжыць на баку каля восьмага

пад’езда. Звярніце ўвагу — калёсікаў ужо толькі тры. З адным нехта апярэдзіў нас.

Падслепавата, што крот, медык-прафесар вешае на нос пенснэ і бяжыць да выкінутай некім дзіцячай калясκі:

— Дзякуй вам, калега па бізнесу, — кажа ён. — Гэта проста цудоўныя, амаль новыя калёсікі. Яны проста край патрэбныя мне, бо майго бульбавоза-мерса, як вы слушна заўважылі, разулі, пакуль я на базары пенснэ праціраў. Вы проста выратавалі мяне...

І яны зноў — вочы долу — ідуць па горадзе ад будынка да будынка, ад пад’езда да пад’езда, ад сметніка да сметніка... Часам трапляецца і нешта каштоўнае, але яны не прагнуць багацця. Ім бы што-небудзь з паўсядзённага, хатняга, а больш дачнага побыту: дошчачка, рэечка, вядзерца, табурэтачка, скрыначка пад расаду, маток дроту. І ўсё гэта абавязкова знаходзіцца, выпадае ім як у бяспройгрышнай латарэі.

Больш за тое, сучасныя сметнікі — поўныя нечаканасцяў. Трапляюцца прыдатныя для ўжытку, а часам і зусім новыя канапы, ванны, электрычныя чайнікі і прасы, печы і пліты. Самы разнастайны антыкварыят — ад сярэднявечча да вампа і кітча стагоддзя, што толькі-толькі адышло, канае па звалках вялікіх і малых гарадоў, выкінутае туды бязлітаснай маладой рукой напаўдэбільнага тэлепузікавага нашчадка. А гэтыя трое, іх інтэлігентныя бацькі, не прамінаюць нічога. Толькі над патрэбнымі, але грувасткімі і цяжкімі рэчамі больш сумуюць: бачыць вока, ды зуб няйме.

У іх шмат паплечнікаў і канкурэнтаў нямала. Гэта амаль усе людзі высокаэрудзіраваныя, з вышэйшай адукацыяй, а некаторыя з іх і аступененыя, узнагароджаныя ордэнамі, медалямі. Што ні чалавек — асоба, народ памяркоўны і ветлівы.

— Калі ласка, дацэнт, глядзіце першым.

— Ні ў якім разе, перапрашаю, вы ўсё ж загадчык кафедры. Толькі пасля вас. Толькі пасля вас...

— Гэнага Міхалкова можаце забіраць сабе. Мне больш даспадобы Міхалковы з боку Канчалоўскіх. А Дантэ ў перакладзе Скарынкіна саступіце мне.

— Пане прафесар?!

— Не-не. Я калекцыянірую пераклады «Божественной комедии».

Значна горш, калі яны сутыкаліся з людзьмі не іхняга кола. З патомнымі бамжамі. Хаця і з імі імкнуліся жыць у згодзе і ласцы. Паважалі іх. Як жа — сапраўдныя санітары вялікай пераўтваральнай эпохі сталічнага горада. Пахнуць брыдка. Але як бы і чым патыхала ад гэтай эпохі і яе сталіцы, калі б яны нечакана звяліся? І дзякуй Богу, што гэта ёй не пагражае ні сёння, ні заўтра. Жыве Беларусь!

Ад пад'ездаў, звалак і сметнікаў у яго хаце шмат чаго маецца. Але гэта больш вырабы, на якія ў яго спрактыкаванае вока, бо і сам тым жа грэшны. Дробная і штучная ручная работа. Сапраўднае, а мо і падробка пад каслінскае чыгуннае ліццё — карункавыя, высакароднага чарнення сподкі і падстаўкі, адмысловыя падсвечнікі, што расстаўленыя па броўцы печы пад юшкамі. Ён прабегся па іх вачыма — усе на месцы. Выкаваная з чырвонай медзі і аздобленая фініфцю вешалка на тры крукі. Сірочы кажушок на ёй...

Не, кажушок не адтуль, не сметнікавы. Ён бы ніколі не дазволіў сабе накінуць яго на плечы. Не са сметніка, але ўсё роўна аднекуль побач з ім. Гэта калі ён... Не, зноў жа, яго. Яго з тым кажушком ababралі. Ды так лоўка, так хвацка, што ён аж язык навярэдзіў, дзякуючы. Ён пажадаў займець такі кажушок, ну не зусім такі, але як дазвалялі магчымасці. А хацелася яму не кажушка — дублёнкі.

Менавіта той парой пайшла мода на іх. Ён добра разумеў, што ні шылам, ні рылам на такую рэч не выйшаў. Да таго ж ніколі не ўпадаў па модным адзенні. Што на ім — тое і моднае. Прымайце такім, які ёсць, бо ўсё роўна не пераробіце, грошай не хопіць. А тут засвярбела: дастань з-пад зямлі ды дай. Мо таму, што за жыццё нічога не знасіў людскага, а тым больш з аўчыны, хаця ў свой час быў авечым пастухом. Тады аўчына не лічылася чымсьці такім звыш-звыш і аб заможнасці не сведчыла. Стары чалавек, і гаворкі няма, заўсёды пры дублёнцы — кажуху. А маладому за дзеўкамі бегаць: больш лёгкае нешта трэба на плячах. Дый самі б

дзеўкі хлопца ў кажуху да сябе не падпусцілі б: няўжо такі бедны, што і на палітон не маеш.

А ён сапраўды, на добры палітон не мог узбіцца. Сам сябе выцягваў у людзі. У свой час быў данельга шчаслівы, калі Хрушчоў паставіў у сталоўках талеркі з бясплатным хлебам. А з адзеннем... То нешта даношваў за некім з большым дастаткам, то апранаўся ў казённае: фабзайцаўска-рамесніцкае ці вайсковае — бушлаты, шынялі, кіцелі, нязменна модныя на ўсе поры года чорныя сацінавыя сарочкі і суконныя штаны.

У студэнтах прыбарахліўся, прыдбаў на блышынай барахолцы некім ужо ношаную, так званую масквічку, з шалевым каўняром — таксама мара галечы і дзяцінства. Але і ў той масквічцы з чужога пляча нядоўга давялося фарсіць, як і ў вартым сталага чалавека бобрыкавым паліто. На канікулы, калі нідзе не атрымлівалася ўладкавацца на працу, прыязджаў да бацькі. Па завядзёнцы трэба было яго хоць нечым адарыць. Здымаў з сябе, што меў, вёз тое, што насіць зараз не па сезоне. Летам — тыя ж палітоны і масквічкі. Што было нават з рукі яму; усё роўна няма дзе захоўваць, хай будзе бацьку. Пра сябе ж буду думаць, калі надыдзе час, па прынцыпе: рабі, што трэба, і хай будзе, што будзе.

І вось прыспеў час, калі і яму закарцела дабрачай рэчы, а не неданоскаў з чужога пляча. Толькі праўду людзі кажуць: са шчырае душы ў багатыры не выб’ешся. Таму, хто ў дзяцінстве хаваў па-за вухам недакуркі, наканавана мець да скону жыцця жоўтыя вушы і ніколі не курыць гаванскіх цыгараў.

Цешча, спагадлівая душа, зразумела яго: будзе, будзе табе, зяцёк, дублёнка. І сапраўды, выкарпала недзе, прывезла са сваёй чыгуначнай радзімы даўжэзны, па самыя пяты, і шырачэзны, на пяцёх, нават не кажух, а расейскі беспамерны ці не кандуктарскі тулуп. Таму што быў ён добра ў мазуце, і гады, што пэўна, пралежаў недзе на гарышчы, пакуль кандуктар таварнага цягніка не адмерла як прафесія, не выветрылі з яго паравознага вугальнага дыму і вандроўнага бражнага расейскага ветру. Вецер і на тую хвіліну быў гатовы надзьмуць яго праз сапрэлыя прарэхі і гады, што ўтварылі тыя прарэхі.

Але ён быў рады і гэтаму: з вялікага не выпадзеш, можна абрэзаць — запас яшчэ будзе. Выкраіць, ну, няхай не зусім дублёнку, але нешта памежнае як гэта і на самой справе існуе паміж заморскай дублёнкай і тубыльскім кажухом. Не, ніштаваты, нават дабрачы кажушочак атрымаецца.

— Дзвесце рублёў, — сказала цешча.

Ён не даў веры сваім вушам. Каб то быў нехта чужы — моўчкі б аддаў, павярнуўся і пайшоў. А тут мусіў угнуцца і выкласці дзвесце рублёў. Хаця пазней бачыў такія ж да пят кажухі на Далёкім Усходзе. І не раўнуючы — новыя, без дзірак і мазуту. Толькі чамусьці пруталеныя, усяго за дваццаць сем рублёў.

Ён адлічыў цешчы грошы, падаў у рукі, не гледзячы ёй у вочы, бо было вельмі сорамна і горача твару. Не, абурэнне знікла, перагарэла. Ён шкадаваў цешчу. Як, дарэчы, усё жыццё, пачынаючы з дзяцінства, шкадаваў тых, якія падманвалі ці прагнулі падмануць яго, прымаючы за нешта блазнаватае і недапечанае. Таму ў дзяцінстве ён часта і горка плакаў. Так горка, што і сёння перахоплівае горла даўкі камяк.

Дзіцячыя слёзы кіслатой і воцатам выпальвалі душу. І там, дзе ў ёй асядаў, запасіўся попел і ўтваралася дзірка, праломіна, з таго ж попелу і слёз, у бездапаможнай цішы начэй, узыходзіла, прарастала нікому не бачнае, па першай пары нават яму, трэцяе вока. Жалобнае па ўсім свеце, шкадавальнае. Хаця напачатку тое вока нікому нічога не даравала. Ён адчуў, што гэтая неміласэрнасць можа закончыцца яго ж смерцю. Адчуў, таму што непраходна хварэў на ўсе вулічныя мясцовыя хваробы. І пазней, дзякаваў за іх Богу, бо праз гэтыя хваробы спазнаў літасць. І не толькі да жывога, але і да мёртвага.

Ён, не ведаючы сам, яшчэ здалёку пазнаваў, як насоўваецца і ахутвае яго чужая няпраўда і падман. Яны кожны раз хоць на імгненне ды выкрывалі сябе. Выкрывалі ўласцівы толькі няпраўдзе і падману пах, колер і дух. Дух непрыхаванай глыбіннай варожасці, стоенай адчужанасці, пагарды і непрымальнасці шчырага і людскога, сваёй надзвычайнай зверхнасці над простасцю і наіўнасцю шчырасці. І ён, хоць

і ніякавеў ад гэтага, але паспяваў ухапіць, адчуць іх хітрыкі. Адчуць, як ад радасці і задавальнення ўжо амаль здзейсненага падману, спявае іх душа: як жа, наскочылі яшчэ на аднаго дурня і блазна. А ён не дурыцца і не блазнуе, хаця мо і з пароды юродзівых. Але цяпер у ім толькі сум і журба, бо ён заўсёды шкадаваў і шкадуе тых, каго павінен ненавідзець, хто па жыцці абдурвае яго ці лічыць, што абдурвае. Ён ведаў у твар сваю і чужую праўду. І яму непамысна ад чужой няпраўды. Асабліва зводзіць, вымушае нудзіцца і надоўга замаўкаць няшчырасць блізкіх яму людзей, якім абавязаны верыць, дзяліцца хлебам, соллю і ложкам..

І ён дзяліўся, без ваганняў працягваў руку і хлеб, падаваў няпраўдзе. Бо не падаць міласціну жабрачай душы — куды большы грэх, чымсьці не падаць на цвінтары прафесійнаму жабраку. Толькі напрыканцы яго жыцця надта ж багата стала на свеце жабрачых душ. Столькі напладзілася, столькі развялося на ўладным амбоне, што, куды ні кінь, абавязкова трапіш у таго, каму хоць нешта ды павінен, і да самай труны ўжо не разлічыцца. Некаторыя з іх, каб лацвей і хутчэй яго ababраць, нават зводзяць рахункі паміж сабой, варагуюць і б'юцца. Распранулі да ніткі, а цяпер патрабуюць ужо і душу. І душа ў яго, як і ў дзяцінстве, працягвае плакаць і выгараць. Толькі цяпер у ёй нічога ўжо больш не нараджаецца. Адно — збіваецца з нагі, дагарае сэрца...

Чорны кажушок, дублёнка ягонага юнацтва, з усімі дзірачкамі, латкамі і прарэшынамі замест кішэняў, з шыкоўнымі гаплікамі, але без гузікаў, вісіць каля грубкі на круку сметнікавай антыкварнай вешалкі. Ну і дзякуй Богу. Ён добра, мо з чвэрць веку, служыў яму. Добра палавіў рыбы, добра пагрэў плечы і душу. Добра паслужыць яшчэ і сёння. Ватны матрац набрыняў за зіму вільгаццю. І як яго ні старайся прасушыць каля печы і нават на чэрані, вільгаць не выціснеш. Яна будзе праступаць і праступаць, ахопліваць у сне цела — прастуда старым касцям пад ранак забяспечаная. А з кажушком, хоць і падзёртым, ён не прападзе. Кіне яго паверх матраца і ўсю вясеннюю яшчэ доўгую ночку будзе раскашаваць у сухенькім. І балячка ніякая, ніякая скула не

прыкінецца. Дзякуй табе, авечка, за гаючую і выратавальную і на поўначы, і на поўдні поўсць. Дзякуй табе, цешча, за падарунак — дзвесце рублёў сёння ніякія не грошы. Дзякуй табе, чалавек, што не паквапіўся, не знёс з хаты і не кінуў пад плотам мой запаветны чорны кажушок. Ён прайшоўся па ім рукой і тыцнуўся носам.

Цяжка было адарвацца ад выбітага вакна, павярнуцца і перайсці ў другі пакой, каб пачаць рэвізаваць яго. Паглядзець, прыкінуць, чаго там не хапае, што ён страціў, на што збяднеў. Але ж і так ён ужо занадта затрымаўся ў так званай спальні. Стаіўся, аціх, задумаўся.

Нават птушкі ўжо не зважаюць на яго нерухомую постаць у вакне. Прыляцела сарока, з падскокам пабегала вакол яблыні, паспачувала яму яшчэ з зімы непрамытым зладзейкаватым вокам. Без галасу і строкату, памахваючы хвастом, як Фенька спадніцай, адляцела, лодачкай залунала над чысцюткімі размяклымі ўжо снягамі. І шпачок прыскочыў, моўчкі прысеў на галінку з праклюнутым ужо, але яшчэ светла-чырвоным намёкам на дружны па вясне квет, распушыў, прыхарошыў пёрайкі і неяк незавершана, хапатліва знік. І мо толькі гэтай сваёй хапатлівасцю нешта памкнуўся выказаць яму. Хаця ён перад тым, як знікнуць шпачку, і паспеў зазірнуць яму ў кругленькае і прасветленае вясной вочка, але мовы птушынай не зразумеў. А было ў тым вочку нешта, было. Шкада, што ён нямы і глухі перад імі. Наогул у яго з усімі птахамі бяда, поўнае і зацятае непаразуменне.

Ён прытуліўся плячыма да грубкі, што складала адзінае цэлае з печчу і камінам, чым ён, не прызнаючыся нават сабе, ганарыўся: яго праект. Адчуў целам прытоены ў цаглінах дакор і спалох, бо ніхто ж іншы, як зноў жа сам ён і парушыў тыя цагліны, скрануў іх з угрэтага месца, пасвідраваў іх, патачыў, што шашаль бервяно электрадрэллю. А ва ўсім вінаватыя птушкі. Так павялося ўжо, лічы з дзяцінства, што з усім адушаўлёным на зямлі жыве ён у міры і раўнавазе, а вось з птушкамі — ні згоды, ні ладу.

З дзяцінства ён быў вінаваты перад імі, адтуль жа і ішоў за ім грэх. Хаця гэта ён сёння разумее — грэх, а на той колішні

час... Бо не выпадае памятліваму і прыстойнаму чалавеку, што б там ні было, спасылацца на даўніну і абставіны, але ён вымушаны ўсё ж спаслацца якраз на гэта.

Спаслацца і прызнацца: дзяцінства яго і яго пакалення было не з узорна паказальных. Жорсткае і бязлітасна разбуральнае ў адносінах да асяроддзя, у якім яны раслі. Кветкі жыцця ўбіраліся ў сілу, ішлі па ім, узбіваліся на ногі, не прамінаючы, не пакідаючы жывым нікога з тых, каго маглі выпараць ці то з зямлі, ці то заспець на дрэве ў лесе. А што ўжо вераб'ёў-канаплянікаў трушчылі — яны ж і зваліся — жыдкі. І самі яны тае пары — напаўвясковыя, ускраінна гарадскія — былі надта ж і ўсім вельмі ж падобныя на тых канаплянікаў-жыдкоў. Шыі сабе скручвалі, рукі, ногі ламалі, палюючы за іх яйкамі. Не раўнуючы — маленькія кітайцы, што абвясцілі вайну вераб'ям і ўвогуле птушкам яшчэ задоўга да славутых старажытнасцю сваёй адукацыі і культуры кітайцаў.

Задоўга да з'яўлення ў паўсядзённасці замежнага слоўца займелі яго — хобі. І іх мо адзіным па тым часе хобі было — калекцыянаванне яек. І ў тым хобі яму і яго хеўры сярод дзятвы ўсяго горада не было роўных. Яны сапраўды былі здольныя здабыць тое яйка не тое што з-пад курыцы, а нават з-пад самога кракадзіла.

І спыніць іх у здабыванні тых яек не магло ўжо нічога. Не зважалі, што дупло якой-небудзь птахі такое, што і камар носам туды не паткнецца. А рукі іх усё ж былі вясковыя, сялянскія, ужо набраклыя ад работы. І туды, у дупло, яшчэ самахоць так-сяк, а адтуль ужо аніяк. Бацькам іх неаднойчы даводзілася браць сякеры, цягнуць у лес драбіны і рассякаць, пашыраць дуплы, каб захаваць на далейшае жыццё і працу руку свайго нашчадка. За тое ўжо па дарозе з лесу бацькам ніколі не выпадала апярэдзіць сваіх сыноў, хаця яны пасля вызвалення часцяком і накульгвалі і руку, што ляльку, трымалі за пазухай, і не толькі таму, што яна смылела — птушынае яйка ўсё ж было ашчадна заспакоена ў сціснутай далоні.

Трывалі гнеў бацькоў. Не баяліся граху бурыць кублы ластавак, таго, што пасля іх разору яны як бы самі пераtваліся ў ластавак: твар рабіўся рабым — пад колер ластаўчыных яек. Але адгадка падобнай смеласці была прыхаваная яшчэ і ў тым, што чысты на твар, без ластаўчынага рабацiння, хлопчык на іх вуліцы мог бы лічыцца няправільным, ледзь не выродлівым. Агульная вулічная нястача фарбавала іх у адзіны колер, як крыху пазней ужо розніца ў тварах нівеліравалася адзінствам наканаваных ім лёсаў.

А выхваленне калекцыяй птушыных яек — гэта была мо адзіная радасць, што спазналі яны за сваё скарочанае з двух бакоў — вайной і працай — маленства. І не так проста было яе здабыць, займець тую калекцыю. Яйкі патрэбны былі свежыя, мо яшчэ нават цёплыя — толькі-толькі знесеныя. Не загуслыя зародкавым птушыным жыццём. Немалым умельствам было і прадзяўбсці дзве дзірачкі ў здабытым ужо яйку так, каб ні расколінкі, ні трэшчынкі. Убачыць, знайсці такую саломінку, каб яна таксама не пашкодзіла шкарлупіну.

Патрэбен быў спрыт і выдзьмуць змесціва яек, каб потым прасушыць іх, нанізаць на нітку, павесіць на шыю. І тубыльскім Чынгачгукам, правадыром вулічных чырванаскурых на заходзе сонца, калі яно асабліва ярка збегам красак адценіць твой твар, дрыготкім святлом адаб'ецца ў кожным яйку, выйсці на вуліцу на зайздрасць сваім хаўруснікам.

У яго калекцыі меліся ўжо амаль усе яйкі птушак, якія бытавалі ў іх краі, ён пачаў ужо страчваць цікаўнасць да яе. А мо і паразумнеў. Але ж не дарэмна кажуць: сквапнасць нарадзілася раней за нас. Неяк напрыканцы вясны, здаецца, на самым пачатку лета, ці не пад Сёмуху тое было? Так, на познюю па траве і лісту Сёмуху ён з сябрукамі якраз жа і выправіўся ў лес, каб надзерці дзеразы. Расліна прыдатная для таго, каб упрыгожыць труну з нябожчыкам і на Сёмуху развесіць на веснічках, варотах у хлеў і на дзверы ў хату — абараніць яе і гаспадарку ад суроку і вядзьмарства. Расла дзераза ў іх краі ў адным толькі месцы. У чорным дрымотным лесе за чортавай прорвай — дрыгвяным балотам, дзе тапілася шмат і людзей, і жывёлы.

Яшчэ на падыходзе да таго чортавага лесу яны навыперадкі адзін перад адным да зямлення настрашылі сябе пачварамі — крыж на пузе, на свае вочы бачыў, — што жывуць тут і з кожнага жыўцом высмоктваюць кроў. А ўжо як гукнуў сярод дня, пэўна імі ўзняты пугач, то толькі дрыжыкі ў каленях не дазволілі ім рассыпацца гарохам па хмызах, ды яшчэ следам за голасам — з'яўленне самога чорнага пострах. Так адразу ж пацямнела ўваччу кожнага, нібы хмара раптоўна наплыла і зацьміла сонца.

Чорны страх чортавай прорвы і чорнага лесу быў вельмі вялізны і на крылах, куды большых і шумлівых, чымсьці ў самага сучаснага самалёта. Усе яны, дзе хто быў, так і папрысядалі. А яму, калі прызнацца, дык нават закарцела зняць штонікі, каб не абмачыць іх, пазбавіцца ад лішняга, што аднекуль з'явілася ў ім. Нягледзячы на такую нечаканасць, ён усё ж здолеў прасачыць, куды памкнуў страх на сваіх вялізных крылах, дзе схаваўся, прысеў мо з такой жа, як і ў яго, нагоды.

Страх апусціўся на вялізны будан на пракаветным неабдымным дубе. Пераліўся, увайшоў у той чорны будан, як бы з падгарэлага сучча, сплыў у яго і растаў у ім. Дуб быў не толькі абымшэла неабдымны, але высачэзны: прапорваў макаўкай неба да аблачынкі. І метраў з дваццаць, калі не болей, ад зямлі на ім не было ні адзінага сука, ні адзінай галіны. І яшчэ працягваючы баяцца, ён мімаволі падумаў, што гэта ўсё ж не птушка. А калі птушка, то ў яе павінны быць яйкі. Пайшоў чырванню ад жадання прыдбаць яйка таго страха.

Ён усё яшчэ працягваў баяцца. Зляканае сэрца раздзірала грудзіну, прыліплую да сарочкі, а ногі ўжо неслі да таго дуба, што капыты мнучы вясновую траву, а рукі ўжо кіпцюрамі драпежнага звера пабеглі па кары, абмацваючы, дзе, за што і як учапіцца, прыкіпцюрыцца. І туды, туды пад аблокі. Матыльком, яшчаркай, лясной дзікай кошкай — рыссю. Метраў з дваццаць ён пераадолеў на адным дыханні. Пасля чаго адпусціў, перавёў яго, даў волі самлеламу сэрцу, калі дабраўся да першага сука. Не затрымліваючыся на ім, падзёрся да сука другога.

І калі ўжо той навіс над ім, адчуў як бы цень нейкі чужы, ці то думка ці то вока чужое леглі на яго лесвіцай стрыжаную галаву. Спачатку прабеглася подыхам не вельмі свежага ветру, нібы пагладзіла, прылашчыла пасля хлява і каровы нямытаю рукой, а потым раптоўна цюкнула, ды праменька ў неакасцянелае яшчэ цалкам цемечка. Выразна так, ад душы цюкнула, што каменьчыкам, праўда, дробненькім, але з рагаткі. А потым пачало дзяўбці па валасах, па кожнай валасінцы асобна і з поцягам. Тут ён яшчэ раз спужаўся, толькі ўжо свядома і з жалем да сябе. Падумаў, што застанецца лысым. А вяртацца ў яго маладыя гады лысым на зямлю да сваіх сябрукоў — гэта ўжо лепш мёртвым. І адразу на могілкі.

Разам з гэтым, свядомым і балюча шкадобным страхам, хтосьці пагрозліва і папярэджваў яго. Загадваў спыніцца і неадкладна спускацца долу. Калі ж будзе назаляць, будзе ўпарціцца і караскацца да вяршыні, да самой аблачыны над макаўкай з чорным буданом-хатай — навечна застанецца ў той абгарэлай хаце ці пойдзе за аблокі, у неба. Сам ператворыцца ў чорны страх, якім пачнуць пужаць ужо іншых жывых хлопчыкаў.

У яго хапіла сілы толькі на тое, каб узняць галаву і ўбачыць, здаецца, прама перад сабой маленькае, але даволі злоснае птушынае вока. Зло ў тым воку было скіраванае на яго і ўсё большала. Яно пашыралася, рабілася непраглядна глыбокім і цёмным, хаця месцілася на маленькай і прыгладжана чорнай галоўцы.

Ён яшчэ здолеў пераканаць сябе: гэта ніякае не зло і не страх, а морак такі ў яго. Чорны ж бусел — птушка бяскрыўдная, толькі вельмі патаемная, скрытная. Гэтае адкрыццё, угаворванне самога сябе пазбавіла яго апошніх сілаў. Ён прытуліўся, прыліп да дуба як смоўж на санцапёку да гарачага асфальту. І, пэўна, надоўга, бо сябрукі ўнізе, што спачатку моўчкі і цярпліва сачылі за ім, пачалі галёкаць, выгаворваць яму: час збірацца і ісці дамоў. Ён не азываўся. Яму здавалася — падасць голас і лопне, перарвецца тая дрогкая павуцінка, што ўтрымлівае яго на дрэве. Рукі адліпнуць — і ўсё. А ўнізе ўжо злаваліся. Туды, да выпнутых вонку каранёў дуба,

здавалася, перабраўся цяпер яго ўжо чорны страх. Страх і ганьба, што ён такі баязлівец.

Ён узняў галаву, спадзеючыся ўтапіцца ў бязмежжы злога страху чорнага бусла. І ўбачыў, што ў яго воку няма больш пагрозы і злоснасці. Гэта было звычайнае, мо нават зусім і не чорнае, далёка ж, вока лясной птушкі. Здзіўлены, ён мімаволі расшчапіў рукі і абрынуўся ўніз. У апошні момант яму падалося, што з кубла бусла вужакай выхапілася чорная даўгая шыя. Яна расцягнулася як гумавая, пайшла за ім, ахапіла, прысмакталася да яго стрыжанай галавы і перапыніла імклівы палёт.

Ачомаўся ён ужо седзячы на першым суку дуба. Праз парваныя штонікі з падрапаных каленяў сачылася сукравіца. І вельмі балела галава. Нават не сама галава, боль быў не глыбінны, як звычайна, смылела скура. Ён, баронячы свядомасць, пачаў думаць, што ўсё прымроілася яму, — інакш давялося б прызнаць, што яго сапраўды выратаваў бусел. Чаму ён не даваў веры, бо гэта было немагчыма. Немагчыма нават нікому і расказаць. Засмяюць. Не, не было. Ніякі чорны бусел яго не ратаваў. Але калі дакрануўся да валасоў рукой, адчуў, што яны сапраўды падаўжэлі, а мо проста памякчэлі? Не калолі руку, як гэта было раней, калі ён адбіўся ад матчыных нажніцаў, уцёк з хаты — пайшоў з сябрукамі ў лес па дзеразу.

Ён сам здолеў спусціцца з дуба долу. І, развітваючыся з ім, ужо і шкадаваў, што ў яго калекцыі няма і цяпер, пэўна, ніколі і не будзе яйка чорнага бусла. А мо?.. Ён пільна прыгледзеўся да кубла чорнага бусла і ўбачыў, што адтуль, з паднябесся, таксама глядзяць на яго. Чорнае буслінае вока і праз адлегласць здавалася зажураным і зноў пагрозлівым. Дакорліва пахіствалася і чорная маленькая галоўка на вужынай шыі, нібы папярэджвала і падавала яму нейкі знак наперад.

Той знак, быў ён ці не, ён разгадвае і сёння. Толькі іх, знакаў гэтых няпэўных, з тае пары памножылася. І амаль усе яны, лічы, птушыныя, нібы там, у дзяцінстве, ён ступіў туды, куды чалавеку нельга было ступаць. Зайшоў за край

і нечым угнявіў птушынага Бога. А тым Богам быў чорны бусел. І пагнаў ён на яго сваіх крылатых пасланцаў немаведама толькі з якімі пасланнямі. І з таго часу яго сумеснае пражыванне з птушкамі варожа ваяўнічае і спрэс знакавае.

Птушкі ляцяць да яго, год на год не прыходзіцца, самыя розныя. Адно лета ўдалося толькі ластаўчынае. Гэта калі ён надумаў перасыпаць хату — ціснула яна яго да зямлі. І ён захацеў дадаць пару вянцоў, заадно паглядзець, як захаваліся бярвенні, замяніць, калі што. Толькі разабраў і пачаў зноў складаць зруб, як аднекуль, нібыта з праху, з пылу старой хаты столькі выхапілася, прыскочыла маўкліва руплівых ластавак, што дзіва брала і рукі чамусьці самі апускаліся. Даўно ўжо лета, яны даўно ўжо на яйках павінны сядзець. І сядзяць паўсюдна. А гэтыя толькі пачынаюць кублы ляпіць. І не дзе-небудзь, а на бёрнах, на столі і бэльках, у сярэдзіне яго хаты. Ад некага яшчэ калісь ён чуў, што гэта знак нядобры: птушкі ў хату, гаспадар — з хаты, паперад нагамі. І ён пад стогны і лямант служак Госпада, чорных манахінь ці ксяндзоў, сам з заслепленымі вачыма разбурыў іх гнёзды.

А яны лёталі вакол яго, кружыліся, толькі за рукі не хапалі, каб не ведаў пра прыкмету, абышоў бы бокам, ніколі не наважыўся б. А тут мусіў і не за сябе, неяк за хату было крыўдна: што ж гэта сапраўды такое, паганяць хату, а яму толькі цярпець ды трываць. Нічога, зразумелі, пэўна. Адчапіліся, зніклі як і не было. Толькі чорныя плямы ад гразі ўсё ніяк не сыходзілі.

Мінуў той год. І надышоў год наступны. З лесу выйшлі, высыпалі на поле на яго чарэшні з вішнямі ці не ўсе да адзінага тутэйшыя дразды. Ішлі на ягады такімі асмялела шэрымі чародамі, што не зважалі і на чалавека, калі той хацеў спыніць ці завярнуць іх, пачынаў блазнавата падскокваць і што пудзіла махаць рукамі. Абміналі бачком і рассаджваліся на дрэвах, пакрыквалі — перагаворваючыся, біліся за лепшую галінку з ягадамі і за самі ягады, дралі горла, сралі і не пакідалі саду, пакуль не выелі ўсё да апошняй чарэшанькі з яшчэ зялёнымі вішанькамі. Не дапамагло і белае покрыва на дрэвах, «спанбойд», якім ён укрываў дрэвы ад нашэсця

драздоў, шыліся пад той спанбойд, як старая пад коўдру і, здаецца, нават яшчэ дзякавалі за ўтульнасць.

Мінуў, адышоў і год нашэсця шэрых лясных драздоў. І пабеглі, пакаціліся запар гады новай навалы. Гады нашэсця крумкачоў і сарок. І найбольш жахлівы з іх год белай набрыдзі — рачных, а мо то і марскіх, чаек. Толькі факт застаецца фактам. Раней іх тут і блізка не было, хаця вада і рэчка меліся. Яны прыйшлі на тутэйшую ваду, як печанегі ці полаўцы, мо і з тых краёў — бязводных, галодных і злых сёння, дзе пачалі і пастрэльваць, паляваць на чалавека. Дзе зноў пачало адраджацца, а хутчэй уступіла ў пару росквіту рабаўладальніцтва, толькі як заўсёды бывае пры паўторы, вывіхнута цывілізаванае — пячорнае. Пачало адраджацца, бо, як высветлілася, ніколі і не знікала, прытоена гнаілася толькі ў змрочных і сырых скляпеннях старажытных мураваных сакляў, ямаў і хованак, якіх не кранулі ні час, ні навука з культурай. Тое, што некалі было, застаецца ўжо назаўсёды. Чалавек — лепшы магільшчык самога сябе і сваёй гісторыі. Ад Адама і Евы і да самага Апакаліпсісу. Вечны носьбіт свайго мінулага і будучага, славы і паскудства. Яму ніколі не вырачыся самога сябе, свайго шляху і лёсу, нацыі і крыві. Што ўвайшло ўжо ў яго кроў, тое там і засталося. Як у лоне жанчыны семя яе першага мужчыны і ўсіх наступных, якіх яна зведала. Яно абавязкова абвесціць сябе ў нашчадках, як бы яна ні хавала свой грэх.

І чалавек сёння амаль паўсюдна пачаў вяртацца да свайго, для каго палацнага, а для большасці — пячорнага, сярэднявечча. У некаторых нашых гаротных вёсках колісь — так горка жартуюць — спрабавалі разводзіць скаціну хвастамі. Адразалі валу хвост, садзілі ў граду і нават угнойвалі і палівалі, каб хутчэй прарастаў і множыўся. Падобна гэтаму так цяпер зводзілі чалавека. Жыўцом закопвалі ў заведама бясплодную зямлю — пустыню. І ён, як качан капусты, прарастаў галавой з пяску, і нема лыпаў вочкамі, няздольны і азвацца, заплакаць, падаць голас, бо быў кастрыраваны не толькі на працяг свайго роду, але і на язык, мову.

Вось такая жорсткая бязлітаснасць, прага знішчэння жывога передалася ўсяму навокал: траве, дрэву, вадзе, паветру і нават птушцы. І птушкі пярэваратні паляцелі з краю ў край, дасягнулі і гэтага кута, чорнай хмарай абрынуліся на сады і ягады, нават пустую бульбу і чорны хлеб тубыльцаў. Белыя чаіцы мялі ўсё падчыстую, на што падала вока, што траплялася на іх шляху, як саранча лясоў, палёў і рэк — незасеяных высечаных перасохлых у другім яшчэ мілеініуме, напрыканцы яго. Груганы ж і крумкачы, сойкі і сарокі, як тутэйшыя ўраджэнцы, аказаліся больш дасведчанымі, што тут найбольш смачнае, і больш, аднак, пераборлівымі і ненажэрнымі.

Упадабалі пахкія суніцы на градках, клубніцы, а пазней ужо, калі адыходзілі гэтыя ягады, — іргу, садовыя буякі і абляпіху, рабіну з калінай. А да таго, калі ў агародзе было пуста, сарокі з крумкачамі рабавалі, выманьвалі са шпакоўняў і забівалі маленькіх шпачкоў, падробліваліся пад мацёрак, нібыта есці ім прынеслі. А тыя верылі, адгукаліся на чужы піск, паказвалі галоўку і зявілі жоўты рот. Тут іх і выхоплівалі вонку драпежніцы, дзерлі і елі, што чалавек гавяду, нахабна седзячы паблізу ж ад шпакоўняў, пад плач і галас няўцешных і бездапаможных бацькоў.

І што б гэта значыла, адкуль ішло і куды вяло — даводзілася толькі гадаць. Як кожную зіму гадалася, з якой пошасці пачне вясну чалавек, якое новае птушынае насланнё на жытло чалавека будзе сёлета.

Але ўсё гэта былі толькі кветачкі. Ягадкі пайшлі потым. Чаго варты толькі адзін, няспынны і нязводны, знак савы, мо таго ж самага пугача, якога ўзняў ён з сябрукамі за чортавай прорвай у чорным лесе. Нечым жа неадкладным і вечным надта ж быў ён заняты там, і давялі яны яго, раззлавалі, раз'юшылі, калі з тых далёкіх дзён след у след неадчэпна ці то ён сам, ці то ўжо цень яго ідзе за ім па ўсім ягоным жыцці.

Няздольны прабіцца голасам, зводзіць да роспачы і сардэчных зрухаў маўчаннем, простай прысутнасцю побач, жахлівымі неразгаднымі знакамі. Каторы год, як дзяцел, дзяўбе і дзяўбе ў адно і тое ж месца. Вось у гэтую самую печ, да

якой ён зараз прытуліўся плячыма. Вымушае яго каторы ўжо год займацца адным і тым жа, нудзіцца, непакоіцца. Думаць, шукаць, зводзіць канцы з канцамі і губляць, не бачыць іх: адно толькі — дзятлам завіхацца каля печы і грубкі. Дзяўбці іх долатам, стамескай, шлямбурамі і свідраваць электрадрэллю. І сёння ў яго ўжо не печ і не грубка, а бабін дуршлаг, на які адкідваюць макароны. І ў галаве ў яго ўжо дур. Без шлагу, дзякуй Богу. А ўсё таму, што ўнадзілася да яго селішча, да яго печы сава. Калі гэта здарылася ўпершыню, ён хоць спачатку і крыху разгубіўся і трошкі напалохаўся, а потым доўга і весела смяяўся. І, аказваецца, дарэмна смяяўся, плакаць трэба было. Але хто з пэўнасцю можа сказаць, што, калі трэба рабіць. Што больш паведае жыццю: лёгкая і няцямная смяшынка ці ад розуму і роздуму горкая слязінка.

Дзень быў хоць і летні, але халодны, з дажджом і сіберным ветрам. Ён узяўся прапаліць печ, падклаў і запаліў лучыну — а дым увесь на хату. І ніякай рады не даць. Ён ужо і асмолля — карчаваных хваёвых пнёў спрабаваў — каб полымя аж шугала, і, калі ў коміне што ёсць — выпаліла. Не шугала, як казалі ў часы яго маленства, хлёбала вялікае, а цягі няма. Увогуле ніякай цягі. Прынёс з хлява сухіх асінавых дроваў, выкарпаў недзе ў кладоўцы ў старых чыгунах сушаных бульбяных лушпаек. Яшчэ бацькі ў свой час вучылі — калі комін забіла сажай, нічога лепшага за асінавыя дровы ды бульбяныя лушпайкі на свеце няма: як піць даць праб'е. Не прабіла. Толькі ў хаце было не прадыхнуць, так самога прачысціла, што з усіх дзірак цякло.

Дзерціся на гарышча — лежака ў яго там не было — азбеставая труба. Такім чынам заставалася лезці толькі на страху. Але гэта было страшнавата — надта ж стромая ды і мокрая яшчэ. Пачаў калупацца ў коміне з хаты, ні на што асабліва не спадзеючыся, ад нецярплівасці больш. Сагнутай арматурынай пашыўся па дымахода.

І з яго нечакана, апякаючы жахам, мякка кульнулася ў далоні яму хоць і свежая яшчэ, але добра пракопчаная сава. Вось чаму потым ён так весела смяяўся: зразумеў, чаму саву завуць «смаленай». Сам да гэтага дадумацца не мог і дзіва

такога раней не бачыў. Пашанцавала тады, шанцавала і далей. Наглядзеўся. Калі самога, ці не як тую ж саву, жыўцом пачалі смаліць...

Прайшло з год ці два. Ён ужо і забыўся на тое здарэнне. І, галоўнае, ён не з’язджаў і не сыходзіў нават нікуды з хаты. І ўвесь час прапальваў у печы, таму што, хаця ўжо і добра бралася на вясну, няспынна ішлі халодныя дажджы са снегам. Якраз у такую нягоду ён зажадаў добра прасушыцца і пагрэцца, пакайфаваць каля каміна. І так ужо шчыраваў, выкладаючы калодзежам дровы, падпіхваючы лучыну з бяростай. Запаліў усё гэта і прысеў на калені, працягнуў насустрач сарамліваму яшчэ агеньчыку далоні ў чаканні сапраўднага, гуллівага і зыркага полымя. І не дачакаўся яго. Зноў аніякай цягі.

І што зусім ужо не зразумела, юшка ні туды, ні сюды, нібы прыкарэла яна там, ці нехта ўчапіўся за яе і трымаў. Торгаў-торгаў, біўся-біўся пакуль на дровы ў каміне не закапала нешта смярдзючае і рудое. Ён падумаў ужо богвед што: а мо там чалавек палез і захрас. І так тузануў на сябе юшку, што выдзер яе разам з палазамі, па якіх яна хадзіла. А ў камін, на выкладзеныя калодзежам дровы, упала сава, утаропілася на яго збялелым свежа спечаным вокам. І нехта адтуль, з панадворку, нібы хацеў забраць яе, уздымаў і цягнуў угару за пер’е. Як яна толькі трапіла ў дымаход? На самым жа версе азбеставай трубы была прымацавана цяпер даволі густая жалезная сетка. А да ўсяго — гэтае белазапечанае вока, гэтая хоць і птушыная, але ўсё роўна кроў у яго хаце...

Іншаму б чалавеку двух такіх знакаў хапіла б па-за вочы. А яму яшчэ і трэці лёг. Прапала цяга цяпер ужо ў грубцы. І што ён толькі не рабіў, як не выдзыгаўся, знайсці прычыну не мог. Хаця цяпер, можна сказаць, дакладна ведаў яе. Сава ў коміне. Толькі дзе, у якім месцы — гэта было пытанне на засыпку.

Ён ледзь хату не спаліў, ліючы ў грубку ўпотайкі ад жонкі, калі яна некуды з’язджала ці сыходзіла, бензін. Усе матрацы і прасціны пусціў на анучы. Мачыў іх у негроле, салярцы і газе. І паліў: во трасцы табе ацалець нават смаленай. Згарыш

і следу не застанецца. Засмуродзіў хату. Жонка, хаця і бясконца бурчэла, але ўсё ж разумела яго: печ у хаце — гэта больш для яе. Каб чыгуны паставіць, нешта прыгатаваць. Камін жа проста забаўка. Асноўнае, што ўгравае хату і чалавека ў ёй доўгімі вечарамі і ўначы — гэта грубка. Можна было разабраць, зняць з верху яе цэглу і прачысціць хады. Але ён тых хадоў не ведаў, бо неяк так атрымалася па жыцці, што класці печы яму не выпала. А да ўсяго дурань, па наводцы жонкі, абклаў і печ, і камін, і грубку керамічнай пліткай. І бурыць грубку — бурыць усё. Так раілі і печнікі, якіх ён час ад часу заводзіў у хату. Глыбакадумна палілі паперу то каля грубкі — ля адтулін, што ён насвідраваў, то ў самой ужо грубцы, бліжэй да юшкі. Усё хацелі прасачыць, дзе ёсць цяга, дзе яна знікае, адкуль дзьме вецер. Але ні цягі, ні ветру не было нідзе. І ўсе печнікі аднадушна і канструктыўна прапаноўвалі — ламаць.

Выйсце зразумела: ламаць не будаваць. Толькі пасля смецця і дроваў занадта. А чаго-чаго, дроваў гэтых за свой век ён наглядзеўся. Гарэць нават не паспявалі, бо столькі і лесу не было, колькі за адно толькі яго жыццё ляснула пераведзеных на дровы людзей. І ўсе праз калена, праз калена. І пад воплескі, воплескі і галас: будуем — перабудоўваем. Курочылі, гвалцілі зямлю і дзяржаву, чалавека і яго прыроду. Таму, пэўна, і маюць сёння тое і таго, што і каго маюць. Зноў танцуюць і нават не ад печы, яе ж няма, паўсюдна мерзнуць, мерзнуць людзі, вугалькоў нават жывых, каб рукі сагрэць, не відно. Адзіны, пэўна, толькі недзе і ацалеў, і той стаіўся ў попеле, схаваўся, бо вельмі ж баязлівы, вучаны Праметэямі апошніх стагоддзяў, майстрамі хаваць канцы ў ваду, тушыць, мачыць нават у сарцірах, а калі здабываць агонь, то вось толькі такі — датла ўсяго існага. Дрыжыць пад попелам эпохі слабы агеньчык. У пошуках яго — выкрыць, патушыць і пахаваць — карагодзяцца на галавешках учадзелыя людзі. Дыхаць няма чым. Пераццяла, перахапіла дыханне, нават сонцу і таму так мала сёння на зямлі сонечных светлых дзён.

Не, рушыць сваю печ, ламаць, тушыць які-ніякі ў ёй жар ён не пагадзіўся, бо ўвогуле зламаць нешта, разбіць было звыш яго сілаў, хіба толькі выпадкова і незнарок. І то такая туга апаноўвала, што хоць памірай. Не дазволіў ламаць печнікам і ў самога рукі не падымаліся. Не падымаліся яшчэ і таму, бо завёўся ўжо: што ён за мужык, калі сваю ж печ не можа ўпарадкаваць. Хто ж ён на зямлі, калі ў сваёй хаце не гаспадар — медны грош цана яму, і тое ў базарны дзень. Кончыцца, але без рэзруху і гвалту давядзе грубку да ладу, каб і яна, грубка, ведала, чаго ён варты. Справіцца.

І справіўся, давёў. Лічы два гады запар і так, каб жонка не бачыла, дзёўб шлямбурамі стаяк у грубцы. І дамогся свайго, дадзёўбся да таго, дзе птушка, пэўна ж, сава легла касцямі і перакрыла дарогу дыму. Абгарэлыя косткі як напамін аб савінай экспансіі, сёння ляжаць у хаце на падваконніку.

Павінны ляжаць, калі іх не ўкралі, калі не па іх якраз і залазілі ў яго хату. А што? Сёння за касцямі ідзе дзікае паляванне. Вылазяць яны не там, дзе трэба. Прарастае зямля чалавечымі касцямі. Некалі іх па-сабачы прысыпалі толькі зверху: спрахнуць і так. А яны ўзышлі. І трэба неяк прыбраць гэты ўраджай, развезці па сусеках, а галоўнае — даказаць, што зямля ніколі не разраджалася чалавечым чэрапам.

У тых жа Курапатах, дзе расстралялі столькі народу, каторы ўжо год вылузваюцца са скуры, даказваюць: не, няма і ніколі не было ніякіх расстрэлаў. А калі дзе-нідзе і заваляўся нейкі тазабедраны сустаў, то гэта справа рук фашыстаў. Няма чалавечых костак — няма граху. У асфальт, у бетон усе сумненні, каб не прараслі больш ніколі. І дарогу шырокую і светлую на іх вымасціць. З мінулага ў будучае. На костках і крыві — лепшыя на свеце дарогі. І сёння вартыя зайздрасці аўтабаны трэцяга рэйху. І Немезіда ўсяго свету куды як утульна пачуваецца на ўладным і крывавым дзяржаўным асфальце. А каб на тым магільным асфальце і бетоне нічога не прарасло, не мелася нават і намёку на нешта такое-гэткае — пабудаваць там дачны пасёлак з такой элегантнай, інтэлігентна скажам, клікухай — Сонечны.

Недапечаныя выкапнёвыя Кампанелы — якая радасць будучым археолагам — толькі на тое і здатныя, каб на падмурку з чалавечых костак, костак знішчаных сваіх жа былых паплечнікаў — што зробіш, час збіраць косці — выбудаваць сабе і сваім нашчадкам дачку — катэджык. Хай бы ўжо і выгарадзіліся плотам з чарапоў, наяўнасць якіх адмаўляюць.

Далонямі абедзвюх рук ён пагладзіў, прылашчыў стаяк грубкі. Адчуў, як рукі выгуляліся за зіму. І знаку ўжо не засталося ад леташніх мазалёў. Нічога, нічога, я прывяду вас у норму, падумаў так, павярнуўся і патэпаў у большы пакой — што адразу з сенцаў, праскочыў на лёгкім яшчэ, няўважным воку. Пайшоў, гадаючы, чым жа там мог пажывіцца злы і сквапны чалавек. Нічога, здаецца, вельмі каштоўнага, але ўсё такое мілае, што варта і рукі абсекчы, хто толькі да таго даткнецца.

Савіныя костачкі ацалелі. Ляжалі сабе там, дзе ён і паклаў іх, што бенгальскія агні на дроціках, толькі з прапаленымі роўна пасярэдзіне скразнымі дзірачкамі. Гэта і тады і цяпер зацікавіла і прымусіла яго задумацца: як так здарылася, што дзіркі ўтварыліся там, дзе ўтварыліся. Гэта ж трэба не збоку, не на краі, а акуратна пасярэдзіне. Як падказка яму нейкая: нанізаць іх на нітачку і павесіць на шыю, як калісь нанізваў і вешаў ён птушыныя яйкі, дарэчы, і яйкі савы.

Ён пільна прыглядаўся да абгарэлых савіных костачак, а ўваччу яго стаяў пакой, у якім знаходзіўся. Стаяў такім, якім ён яго і пакінуў. І цяпер, абуджаючы памяць, ён не спяшаўся дасведчыцца, ці ўсё як было, так і засталося на сваім месцы. Яшчэ на выйсці са спальні ён з жалем і злосцю адзначыў, як схаваў на нешта далейшае, каб хуценька адтуль дастаць і па-сапраўднаму ўжо даць волю гневу, калі, само сабой, не прыйдзецца гнявацца на штосьці больш значнае і сур’ёзнае: у куце на паліцы насупраць печы мышы спаскудзілі ўвесь цукар.

Два кіло было таго цукру ў цэлафанавым нераспакаваным пакеце. Ад’язджаючы, ён не стаў прыбіраць яго ў прадчаканні і надзеі на будучыя летнія ягадныя клопаты. А яшчэ, недзе чуў, што мышы цукру не ядуць. І во табе на. Мо дзесьці чу-

жыя мышы чужога цукру і не ядуць. А нашы, айчынныя, з галоднага калгаснага краю і чорта з'ядуць. Добра, каб толькі з'елі. Свінні, а не мышы, дзе ядуць — там і кладуць. Чорна перамяшалі, спярэсцілі да апошняй парушынкі ўвесь цукар. І дадолу, на падлогу насыпалі. Не столькі ўжылі, колькі зглумілі. Усе хады і прабежкі свае пазначылі. Гэта ж трэба толькі так прылаўчыцца, каб адразу і есці, і класці на тое, што спажываюць. Хаця, з другога боку, мо за гэтым і нейкая мышыная праўда, хітрыкі мышыныя. Нармальнае стварэнне пагрэбуе да той ежы і набліжацца, а яны так ствараюць і ахоўваюць свае засекі. Чорна плямяць і хлеб надзённы, і душу таго хлеба. Такую чорную зацірку з кубінскага цукру зварылі на падлозе. Яна ўжо крыху расплывістая ад панадворкавых адлігаў. Падлога пачала ўжо набракаць, насычацца і дыхаць ёй. Гэта ж мыць і мыць цяпер, шараваць і шараваць. Ачышчацца ад мышынага паху, пранікальнага на кіламетры, які ўжо даўно і, здаецца, з усёй зямлі склікае, заве і плодзіць усё новыя і новыя чароды мышынага нязводнага племені. Бо апошнім часам ідуць запар усё мышыныя ды мышыныя гады.

Здаецца, надышоў, прыспеў мышыны дзень, мышыная эпоха. І доўжыцца яна, без перабольшвання, ужо другое дзесяцігоддзе. Па ўсіх прыкметах і знаках столькі ж часу ў яе і наперадзе. Па чалавечых мерках мо і небагата. Але калі ўлічыць, што столькі ж гадоў, а мо і два разы па столькі, пасля заканчэння мышынага веку людзям будзе ікацца і адгукацца гэта шэрае нашэсце — плакаць хочацца за сваё апаскуджанае, сточанае мышамі жыццё.

Забягаюць і забягаюць яны жыццю і чалавеку наперад. Толькі ён напнецца ў сваім хамуце, выхапіць з калдобіны воз, узаб'ецца на роўную і тупкую дарогу, а на ёй, перад самай яго храпай, ужо сядзіць, скаліць белыя зубкі маленькая-маленькая мышка. Столькі іх развялося, такія яны руплівыя, ды пладавітыя. Шчыруюць і шчыруюць, дбаюць і дбаюць, аж бярвенні ў хаты стогнуць, парахня з іх сыплецца. І ў кожнай мышы па тузіну сынкоў, а ў сынкоў па тым жа тузіну сястрычак. І ў кожнай — плойма дзетак — унукаў ды праў-

нукаў. Па-за вочы хопіць на ўвесь чалавечы род. Што ёсць і яшчэ будзе. І чалавечы род перад гэтым мышыным нашэсцем, падобна, здаецца, робіцца ўсё больш і больш шэрым, мізэрным, туліць галаву ў плечы. Адмаўляецца працягваць сябе. Услед за мышамі, якія мо на самой справе не толькі пладавітыя — разумнейшыя за чалавека, тыя з іх, хто ў свой час пазбег вар'яцкага дому першымі зразумелі, што ў сённяшняй хаце ўсё ж лепш жыць па правілах вар'ятаў: не зважаць ні на што на белым свеце, як напрыканцы яго, не баяцца свайго паскудства і брыдоты ні на душы, ні ў хаце.

Плакаць хочацца, як апаганена не толькі хата, але і сама зямля, пачынаючы ад палітых уласным потам і крывёй сваіх жа сотак. Ніколі так добра ўспушаныя і ўгноеныя палеткі і чарвякі-выпаўзні не сточвалі, як сёння працялі палі сваімі хадамі мышы. Раней норы рабілі ўсё ж патаемна, каб не кідалася ў вочы, дзе-небудзь пад стажком сена, саломы. А цяпер нахабна, навідавоку, нават на картаплянішчы, сярод грады з памідорамі ці гуркамі: а нас — раць незлічоная — убачыце адну, прыб'яце — дзесяць устане, вастразубых і вусаценькіх.

І дзе ні ступі — скрозь, скрозь мышыныя норы адвесна, патырчакам і стаўбуром уніз. У самае сэрца зямлі. І з кожнай нары, як сцяг, тырчыць ці то каласок жытні ўкрадзены, ці то прыкрывае яе ад сонца пачатая ўжо іх вострым зубам невялічкая, яшчэ недаспелая бульбіна. І ціха-ціха навокал. Ні ў небе коршака, ні ў лесе пугача, ні ў хаце ката. Толькі стоены пошум мышыных зубоў. Мышы нагульваюць тлушч у цішы. Пяць пар іх за год могуць даць прыплод шэсць мільярдаў, якраз усё насельніцтва планеты сёння.

Людзей меншае, мышэй большае. Чалавек выраджаецца, мышы плодзяцца. Займаюць зямлю, напаўзаюць на свет, як найноўшая шэрая раса. На палі, на свірны, хаты і сады. Вялікае садовае дрэва ці нават васьмідзесяцігадовае карлікавае не здолеюць паваліць, адужаць адразу і цалкам, бяруць, як Гулівера ў краіне ліліпутаў, па частках. Пачынаюць з каранёў, з мазгавых цукровых костачак. З усіх бакоў абкружаць, аточаць небараку, што абралі ахвярай сабе і год, і два, да тае пары пакуль не пакладуць — не супакояцца.

Здаровае знешне дрэва чэвярэе, хварэе, спачатку вершалінай, непрыросна ўсыхае. Зусім не дае плоду ці родзіць плодам ужо мышыным. Яблыкам і грушай, што прырастаюць да іх плоці тоўстай і пукатай ножкай.

Нібыта па-над яблыкам яшчэ адзін яблык вырас, як гэта з грыбам бывае ва ўрадлівы год — надараецца, растуць двухпавярховыя. Дарослы грыб, маці, а на яе галоўцы яшчэ грыбок — дзетка. Так і тут. Толькі грыб што — цвіль, плесня. А яблык, здаецца, не без розуму і да такіх бязглуздых вольнасцяў усё ж не папускаецца. Трымаецца сваёй пароды і змагаецца, таму той, што ўзышоў і вырас над ім, хаця і вельмі падобны на сапраўдны яблык, іншым разам нават з сарамлівым румянцам, на самой жа справе ён падманны і ілжывы, як і чалавек, што з нелюдзяў, зомбі ды клонаў.

Па-першае, у ім ніколі няма насення, зярнятак. Ён ужо на самым пачатку пры ўсёй сваёй байструковай нахабнасці з’яўлення — адразу ж прыгавораны да знікнення і поўнай невядомасці заўтра. Па-другое, што можна сказаць пра другое, калі ёсць першае. Да ўсяго, хоць гэта толькі нарост, скула на здаровым целе сялянскага дрэва, ён вельмі маленькі і зусім без яблычнага прыроднага смаку і паху, водару. І гэта адразу ж — ад завязі — і назаўсёды.

Як кажуць, хто прывык да сапраўднага плоду, той на гэта паскудства і не плюне. Ён, анучна-валакністы, спарахнелы, драўляна-даўкі — толькі мышы і прыдатны. Бо ёю ж благаслаўлёны, аплоднены, дагледжаны і выспелены. Адным словам — мышыны яблык. Бо мыш інакшага вырабіць няздольная. Ну, няздольная яна да стваральнай працы. І дрэва, калі такая набрыдзь і навалач прыкінулася да яго здаровага цела гэткім вось мышыным плодам, падае знак, сігналізуе чалавеку, што яно ў небяспецы, бядзе. Але такая ж бяда даўно ўжо напаткала і самога чалавека. Ён даўно ўжо сляпы і глухі на чужое гора, на птушыны стогн, плач меншага свайго брата — звера, і зусім няўважны на роспачны лямант і крык дрэва.

Больш за ўсё, пэўна, як і павінна быць, мышы ўлюбёныя ў дрэвы, што толькі становяцца на ногі, пачынаюць жыць — малечу. З аднаго ці двухгадовымі садовымі прышчэпамі абы-

ходзяцца бязлітасна. І беспамылкова, нібы загадзя ведаюць пра іх высакароднасць, будучую пароду, а мо гэта нехта іх і скіроўвае, напраўляе, яны яшчэ па восені рыхтуюцца да зводу яго. Па восені пракладае да яго дарогу такая адна шэранькая, непрыкметная мышка. Пад снег жа на зімоўку адыходзіць іх ужо цэлая плойма. І ўсю доўгую і суровую зіму яны рупяцца, свету белага не бачаць.

Наўкруга ніжэй прышчэпа, па ўсім ствале, каб ніколі ўжо не адрадзілася закладзеная парода, амаль да стрыжаня абгрызаюць кару і луб, дзяруць і шкуматаюць у дрэўца ўсе вены, артэрыі і капіляры. Раней на такую работу мелі зуб і розум толькі зайцы. А цяпер па-заечы паразумнелі, набраліся цывілізацыі, як тая сабака блох, і свойскія мышы. Калі ланцужок гэтых тэхналогіяў будзе працягнуты, то няйнакш наступны, каго яны возьмуцца грызці, валіць з ног, будзе ўжо сам чалавек.

Ён не выпускаў з рук усе тыя ж абгарэлыя савіныя костачкі, пакручваючы іх так і сяк, нібы яны былі яму вельмі дарагія. А сам і не бачыў іх. Думаў пра два кілаграмы марна страчанага цукру. І тут ужо крыху сумаваў, праўда, больш падсвядома: цукар быў прадуктам, вынікам працы не аднаго нават чалавека. А ўсё створанае чалавекам працы, тым больш харч, — ён паважаў. Бо гэта было ці яму здавалася, што так было, як бы і не ад чалавека — зверху ніспасланае і дадзенае. Кожны кавалак хлеба, яблык і бульбіна з той жа цыбулінай — гэта толькі зверху. Вось чаму ён, яшчэ і не ведаючы, і не надта намагаючыся даведацца, што з яго хаты ўкрадзена, знесена, па-сапраўднаму, узгадваючы мышыныя пошасці, сумаваў аб з'едзеных імі ў яго садзе яшчэ ў мінулым годзе трох двухгадавалых прышчэпах: белай антонаўкі, царскага ці каралеўскага ранету і лімонаўкі. Але і на гэта ён перахварэў ужо ў свой час. І таму папікнуў сябе за тое, што тлуміць галаву, вярэдзіць душу ўжо незваротным. Калі яна яшчэ смыліць, то лепш хутчэй ісці ў сад і глядзець, ці няма там новай і большай шкоды.

Ёсць ці няма шкоды ў садзе — гэта было таксама ўжо незваротна. Але засяроджвацца на ўкрадзеным з хаты таксама

не мела сэнсу. Ён падрыхтаваў, прывучыў сябе да думкі, што хай будуць знесеныя ўсе транты — бяда невялікая. Тое, што на сябе ці пад бок сабе — заўсёды можна прыдбаць, набыць. А не — дык і самому недзе прыкрасці. Не ў сапраўдным сэнсе, канечне, украсці, як гэта зроблена з ім, а так... Як гэта так? Ён не здолеў прыдумаць: так і ўсё. А вось з садам было больш пэўна і канкрэтна: калі і там нешта прычынілася, то гэта ўжо сур'ёзна. Век яго заканчваўся, мог перарвацца на кожным кроку. А дрэву, каб вырасці, увабрацца ў спеласць, час і час трэба. А ў яго і рукі ўжо немаладыя, калі мазалі сціраюцца нават, не такія ўжо спрытныя і дужыя. І вока... Вока як вока, так шкадаваць і жаліцца сабе і сам на сябе пачаў, што таго і глядзі слязу пусціць. Харошае вока, не старэча замыленае, а маладое і здольнае яшчэ доўга лучыцца, калі ёсць яго на каго пакласці, праменіцца ад нечаканасці быцця непазбытай і неазмрочанай гадамі ветлівасцю і разуменнем жыцця і радасці.

Але гэтыя доказныя і правільныя разважанні не прымусілі яго пакінуць хату. Ён толькі паклаў на ранейшае месца косці савы, адступіў ад акна і вокам спрактыкаванага злодзея пачаў аглядаць пакой. Першае, на чым ён спатыкнуўся, быў пусты стакан — менавіта стакан, бо ён усё жыццё піў толькі са стакана, ці, калі на тое, пайшло, са стаканаў і мог бы пратэстна кінуць піць, калі б той пачаў яму звацца шклянкай. Стакан на стале — знак якасці хаты.

Якасць захавалася. І ён, неўпрыкмет сабе, уздыхнуў з палёгкай, і зноў жа, зусім не таму, што, каб знік той стакан, дык ён бы ўжо надсаджаў душу, шкадаваў аб ім. Хаця такіх сёння ўжо не вырабляюць: таўстасценны, гранёны, знакавы. Афіцыйна было прынята лічыць сімвалам адной шостай часткі планеты серп і молат. Якая мана. Дураць народ. Як дурылі ўчора, так працягваюць дурыць і сёння. Стакан — сапраўдны сімвал былой эпохі, на донцы яго заклік: пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся! І не было ў тым часе большага інтэрнацыяналіста і змагара за светлыя ідэалы, чымсьці той жа самы стакан. Прыгадаць хаця б, як пакутліва і ўрачыста ён нараджаўся, яшчэ пры Сталіне. Быў абвешчаны творчы

конкурс. Амаль усе мастакі вялікай краіны — незалежна, пілі яны тады ці не — пазней зап'юць — бралі ўдзел. І хто ж перамог? Во пытанне, дык пытанне, без бутэлькі са стаканом і не разабрацца.

Мухіна! Так, тая самая Вера Мухіна, што стварыла адзін з найвялікшых сімвалаў ды ідалаў стагоддзя і адной шостай часткі свету — калгасніцу і рабочага з сярпом і молатам. Сёння бядуюць, што гэтыя ідалы сатлелі і спрахлі ўжо. Так яно, пэўна, і павінна быць, столькі гадоў не прасыхаць — доўга не працягнеш. А стакан алкаголь не бярэ, жыве і пасецца ў трэцім тысячагоддзі і не толькі на адной шостай частцы свету, а па ўсёй ужо планеце. І гэта не казка, не здань з прывідам, што, як сцвярджалі і сцвярджаюць пракрокі, вось ужо два стагоддзі сноўдаюць па Еўропе, ці не стакан шукаючы?

Стакан ёсць стакан. Ён нават падзяліў наш народ на дзве часткі: адна піла за Малянкова — ставасьмідзесяціграмовікам, другая — за Хрушчова — падымала стакан у дзвесце пяцьдзясят грамаў. І на Алімпе няроўна дзеліць Бог. Але і само шэсце інтэрнацыянальнага камуністычнага стакана па планеце непераможнае. І гэта мо адзінае, што засталося ад абяцанае нам светлае будучыні. І сёння, трымаючы ў руцэ стакан, у галаве выспявае крамольнае пытанне: а што застанецца, як сведчанне недарэмна пражытага жыцця нашым нашчадкам ад найноўшых дэмакратычных і чэсных правадыроў. Што пакінеце вы людзям: «Чудище обло озорно и лайи?» Дык няхай жа жыве і мацуецца наш айчынны стакан. Вось гэты, што на яго стале — таўстасценны, гранёны. І роўна на чацвярцінку па-расейску, а на нашую мову — паўлітру на двух: па дзвесце пяцьдзясят грамаў. І хаця ён сёння дзвесце пяцьдзясят хрушчоўскіх адразу... Не, адужаць адужае, як-небудзь агорае, ды не вельмі будзе выхваляцца такім геройствам. Проста, як заўсёды і ва ўсім, ён імкнуўся і імкнецца заставацца верным традыцыям. У тым ліку і шкодным. Бо яны сведчылі... Ліха яго ведае, пра што яны сведчылі. Хто не разумее, таму ўсё роўна ў галаву гэтага не ўваб'еш. Вернасць шкодным прывычкам — гэта таксама наш айчынны знак якасці. Сімвал, знак якасці жыцця, як і

стакан, пашанотна ўсталяваны пасярэдзіне зробленага яго рукамі дубовага стала — сімвал постжыцця і постэпохі. Пост беспартыйных, камуністаў, атэістаў, а праз аднаго — кожнага з нас. Вялікі пост.

Па абодва бакі стала віселі дзве карціны і два адкаваныя з чыгуна рулі-штурвалы накшталт карабельных. Карціны былі яму падораныя на юбілей. Рулі-штурвалы ён украў ужо сам, пасля святкавання юбілею. Пэўна, натхнёны далучанасцю да інтэлектуальнага карпаратыўна-кааператыўнага таварыства «Наша — справа». І карціны, і рулі былі рэчамі нікчэмнымі, мо нават грошыка меднага не вартымі. Але якраз менавіта таму вельмі блізкімі, памятнымі яму. У людзей такое надараецца, як кажуць, спрэс і побач. Нейкая дробязь да слёз парушыць вока, а тое, што варта ўвагі і шанавання, робіцца дарагім толькі тады, калі ўжо безнадзейна страчана. І гэта яшчэ туды-сюды, калі адбываецца паміж чужымі, толькі, на жаль, такое больш уласціва ў адносінах паміж людзьмі блізкімі, крэўнымі. І як тут не ўзгадаць: з ворагам — век прамілаваўся, з лепшым сябрам сардэчным — усё жыццё варагаваў і біўся. І толькі, калі ўжо няма ні таго, ні другога, тады, як заведзена, спахопліваешся і пачынаеш рваць валасы на адным месцы, калі яны ў цябе там растуць, пачынаеш на сабе спаганяць і злосць і любасць, як іх ужо няма на кім збыць.

Адна з карцінаў была прэтэнзійна вытанчаная і пустая. Адмысловая гульня колераў: чорнага, чырвонага і шараватага. На цьмяна-шэрым і аспідна-чорным квадраце пад Малевіча, пацвельваючы некага — анёла ці вампіра Дракулу — спелі два чырванабокія і, здаецца, даволі смачныя яблыкі, хаця мо і не зусім з яблыні, але дрэва блізкага ёй. Скрозь нейкую казематнага тыпа дзірку лілося невыразна шэрае святло, але небагацька. Яно не кранала яблык, але нейкім цудам адной прамой і выразнай лініяй размяжоўвала прастору, на якой яблыкі яшчэ меліся і дзе ад іх не было ўжо і знаку.

Не, канечне, гэта ён дарэмна так: пустая карціна. Своеасаблівасць прыгожага ў ёй усё ж была. Мо і сэнс вялікі ў ёй быў. Толькі... Было аж два толькі. Першае, вельмі ж

ён наракаў на таго ж, як увесь свет лямантаваў, геніяльнага Малевіча, хоць і быў ён земляком яму. І ганарыцца б яму такім земляком-мастаком. Але ён нічога не цяміў у высокім мастацтве: падабаецца і не падабаецца. І гэтага Малевіча, часткова з-за яго геніяльнасці, баяўся. Няздольны быў зразумець ніводнага яго квадрата. Больш за тое, лічыў яго ў нейкім сэнсе нават злачынцам, забойцам. Адным з бацькоў забойцаў мастацтва сёння, калі і здзек і гвалт над ім зрабіўся справай звычайнай, побытавай, а з боку ўлады і пачэснай. Здзек і гвалт над усім мастацтвам, калі пачало знікаць само нават слова, што было падмуркам, напачатку ўсяго. Геній, на яго думку, паспрыяў знікненню слова яшчэ нават не моўленага. Пазбавіў мастацтва мовы, кастрыраваў яго markup рознакаляровымі квадратамі. Мо менавіта ў гэтым і заключалася яго геніяльнасць. Але змірыцца, прыняць яе было звыш яго разумення.

Гэта першае. А другое. Яно цалкам зыходзіла з першага. Калі ўзяць тыя ж яблыкі, відавочна, — гэта ж не што іншае як вытворнае ад тых жа самых алігархічных ці алігафрэнічных квадратаў. Толькі на іншым узроўні, на процілеглым боку. І ці ёсць розніца, калі адзін лямантуе: ах, Малевіч! Ах, Малевіч! А другі ідзе, і пры маўклівым дакоры квадратаў, заносіць у хату нешта круглае ці авальнае — тыя ж яблыкі. І ні ў аднаго, ні другога, ні ў таго, хто ўхваляе ці адмаўляе яблыкам альбо квадратам — няма слова ні воку, ні вушам, ні сэрцу. Бо ўсе яны больш прызнаныя, чымсьці званыя, мітуслівa самаабвешчаныя носьбіты духу і духоўнасці. А ў пройгрышы ўсе мы, усе мы самападманутыя пройдзеным ужо шляхам, мінулым. Тым, што некалі ўжо было ды само сабой сплыло. Але ж дзе-нідзе захавалася на ўскрайках нашай збянтэжанай і ўзбунтаванай памяці — ва ўсяленскім перанасычаным сметніку часу. Захавалася, каб адпомсціць чалавеку, якому пачало ўжо мроіцца, што ён ухапіў за бараду самога ўсявышняга, за здраду таму ж слову. І ўсе мы ў гэтым вінаватыя, як адначасова і бязвінныя. Абраныя захапляюцца квадратамі, а непрызнаныя і адвергнутыя яблыкі можна сустрэць сёння пры больш менш адукаваным ці

прэтэндуючым на адукаванасць гаспадары, калі не ў кожнай хаце, то праз адну, дзве. А калі ўжо не яблыкі, то абавязкова нейкія райскай прыгажосці птушкі — тыя ж своеасаблівыя яблыкі — лебедзі — квадраты. Хаця тут мелася яшчэ адна загагуліна. Нешта вельмі асабістае, амаль што інтымнае. Пра што вясковыя людзі маўчаць, аб чым ён забараняў сабе нават думаць. Але няздольны быў і не думаць. Саромеўся, баяўся і абвяргаў. Мо менавіта гэта было ў падсвядомасці таго ж Малевіча, калі ён пачынаў свой квадрат: прарвалася ў ім нешта пракаветна беларускае, геннае: чорны колер — колер маўчання, вечнага знямення і спачыну. Знак беларуса і Беларусі, сёння і, пэўна, і заўтра. І гэтае азарэнне лёсам і будучыняй Северо-Западного края і спасцігла мастака. Так і з'явіўся ягоны чорны квадрат. У гэтым выпадку — сапраўды геніяльны, як катрэны Настрадамуса...

Але да квадрата ў сваёй хаце сам ён яшчэ не даспеў. А вось яблыкі... І не, зусім неблагая была карціна. Нечым яна ўсё ж брала. Брала, пакуль сама не пайшла па руках. І сёння яе копіяў накрэмзана, пэўна, больш, чым байструкоў настругана па Менску. І гэтае высокамастацкае байструцтва вымушала яго крывіцца і бурчэць, гледзячы на карціну, і трываць яе ў сваёй хаце. Зняць і выкінуць было шкода, што ні кажы — памяць. І не малпа хвост, а чалавек усё ж руку прыклаў.

Другая карціна была харошая. Ён нават сам сабе думаў, што вельмі харошая, але ўслых баяўся ў гэтым прызнацца. Мо каб разгадаць сакрэт прываблівасці, часта прыпыняўся каля яе, вывучаў, уздыхаючы. І так не толькі ён, амаль усе, хто заходзіў у хату і бачыў карціну ўпершыню. Дый па другім разе — таксама, хоць грошы за паказ і пагляд бяры. А што? Гэта ідэя. Сёння ж з усяго робяць бізнес. Чаму б яму не арганізаваць такое маленькае хатняе шоу, кінатэатр з насценнымі малюнкамі?

На прасвятлёна чыстай дошцы, па ўсім, з ліпы, з якой некалі, дарэчы, рабілі і бажніцы, была намаляваная звярынага галівудскага кшталту дзіва. Без падробак — з тых, што перапусцілі праз сябе абмежаваны кантынгент воінаў-інтэрнацыяналістаў і вызваліцеляў народа Ірака і Афганістана

разам узятых. І з тых воінаў, хто знаўся з той дзівай, не ўсе, пэўна, і выжылі. У адной руцэ яе быў акрываўлены кінжал, ад ляза якога зыходзіла зыркае святло. Пад пахай другой рукі дзіва трымала ікластага вепрука. На тым вепруку для недасведчаных і конча ўжо дэбільных стаяў надпіс: «хвост» — і стрэлачка паказвала ў напрамку пакручастага парасячага хвосціка, «Кобанчик — бочок» — і зноў такая ж стрэлачка, што ножык, — у бачок. Нож — ці не з каўказскім акцэнтам аднаскладова і жорстка. Затое на кінжале ласкавае — «ножик» і латынню — «solihden». А называлася карціна, без перабольшвання, проста выдатна: «Пи...дец нашему кобанчику».

У гэтым творы прыгожага мастацтва яго ўражвала вялікая сіла абагульнення. І проста сіла. І распатланая і намакіяжаная рыжая дзіва з абвіслымі цыцкамі, у стракатых пірацкіх панчохах адэскай бандэршы з крывавым кінжальчыкам чамусьці ў левай руцэ, і кабанчык з чупрынава пакручастым хвосцікам і ўсё яшчэ стаячым над цыцкай у дзівы вухам, але ўжо адмерлымі і як бы дэкаратыўнымі ікламі — некага вельмі і вельмі яму нагадвалі. Нехта добра знаёмы і пазнавальны. Той нехта так і стаяў у яго ўваччу. Ну як самы блізкі і дарагі чалавек, усенародна вядомы і прызнаны, па якім канае і вар’яцее палова свету. І ён сам мімаволі ад гэтага з’ехаў з глузду і пачаў зваць сябе толькі на вы і з вялікай літары.

Абедзве карціны былі на месцы. Во, заразы, падумаў ён, нішто і ніхто іх не бярэ. А калі б паспрабаваць агнём? Не, тут акажацца слабой і атамная бомба. Рукапісы сапраўды не гараць. І падобна на тое, што з цягам часу на свеце будзе павялічвацца колькасць зусім не Палацаў культуры і турмаў, а трошкі іншых установаў, пакуль зямля не ператворыцца ў адзін вялізны жоўты дом творчасці — Навінкі.

Заставаліся на месцы і абодва штурвалы. Папраўдзе, то былі хутчэй не штурвалы, а румпелі, хаця прамы сэнс гэтага слова — румпель — быў яму невядомы. Ускосна толькі здагадваўся — нешта марское. Але гэта рэчавая і моўная прыблізнасць нікольві яго не бянтэжыла: мае штурвалы, як пажадаю, так і назаву. А магу і зусім выкінуць. Але вось

так проста ўзяць і выкінуць зноў жа не дазваляла памяць і трошкі нехта ці нешта іншае: кульгавае, аднавокае, прыгаломшана глухаватае, але загаднае і кіруючае. На самой справе нейкае закарэлае пракляцце тубыльца: цвёрда трымацца таго, што ў жыцці хоць аднойчы прыдатна было. А ніколі не прыдатна — таксама нават і больш. Вернасць сваім пакутам, свайму рабаўніку, злодзею і кату, як нейкая касмаганічная повязь на вякі і стагоддзі са здзекам і непазбежным над сабой гвалтам. Мо таму гэта памяць-пракляцце так неадчэпна ходзіць за беларусам, хутчэй нават ён люляе і песціць усё жыццё, носіць гэта на плячах і карку з болем, праклёнам, бласлаўленнем і ўдзячнасцю. Нешта падобнае ў яго з гэтымі румпелямі-шнобелямі.

Ён украў іх і прысвоіў, нібы заўсёды меў. Хаця ніякай патрэбы яму ў той час у іх не было. Проста яны кепска ляжалі. А кожнаму сумленнаму чалавеку добра вядомы запавет і дэвіз светлай будучыні: усё, што кепска ляжыць — табе неабходна неадкладна прыбраць, бо прыбяруць іншыя. Гэта тое ж самае, як скажам, калі не бл...дун ты, то твая жонка з-за цябе не паспявае сцягваць ды нацягваць трусы. Зусім няпраўда, што Бог не роўна дзеліць. Вельмі роўна: калі чаго не дадаў табе — перадасць суседу альбо лепшаму сябру, бо чалавек — жывёла парная. І ў пары яшчэ з некім вы параўняныя.

А што да гэтых румпеляў, мара ў яго была такая з дзяцінства — стаць мараком. І не простым, а гэткім салёна аднаногім і аднавокім, што сорак бочак рому на скрыню мерцвяка, ці то сорак мерцвякоў на бочку рому? А, хай будзе таго і іншага пароўну. Так захапіла яго ў дзяцінстве мора, што хоць ты бяжы на бераг Пцічы альбо Прыпяці і давай ныраць да самага Ціхага акіяна. Але як захапіла, так і адпусціла. І іншыя мары пачалі браць верх, ужо не дзіцячыя, пэўна, а больш разважлівыя, сталыя: ну што можа быць патаемнага, неспазнанага яшчэ чалавекам у тым моры-акіяне — вада ды вада. І ні за пянёк схавацца, ні на хвойку залезці. Паўсюдна, бясконца і бязмежна адно і тое ж. А калі чаго-небудзь занадта — гэта ўжо не рамантыка, нудота.

Роўнядзь, аднастайнасць вады ніяк не спалучаліся з загадкавасцю і нечаканасцю таямніцы. Гэта ён засвоіў і захаваў у сабе да старасці. І нават лох-нехскія монстры, што час ад часу ажывалі на старонках газетаў і экранах тэлевізараў, не пахіснулі ўпэўненасці: лухта, усё лухта. Мы ж самі выйшлі з мора, з вады, занудзіліся там, цесна нам стала, што ж можа быць там нязведанага — неданошаная, скінутая намі мокрая скура, ад якой мы ўцяклі? Спрахла, згніла яна ўжо там даўно, жабы знасілі яе. Нам трэба глядзець пад ногі і ўгару. На зямлю ці, больш правільна, пад зямлю і ў неба. Там наша жыццёвая, неабмежаваная пазнаннем прастора. Там нашая будучыня. А вада ўжо зведаная чалавекам — гэта яго пачатак. Працяг жа зусім у іншым. І, як гэта сёння ні жорстка гучыць, — ён у зямлі. Куды кожны з людзей у свой час адыходзіць. Адыходзіць туды, бо падсвядома адчувае, што гэта толькі пачатак нечага новага і велічнага ў яго існаванні. Адтуль ён прарасце і ўзыдзе. У цішыні і спакоі вялікага спачыну ён спазнае сваю зямную сутнасць, сутнасць свайго кароткага планетарнага прамільгу на белым свеце. Са здабытай там сутнасцю будучыні растворыцца, сальецца з зямлёй, пойдзе ў сусвет, збыўшы нецярплівую драпежную сілу, хцівасць і сквапнасць свайго пачатковага, прамежкавага, больш інстынктыўнага існавання — да існавання асэнсаванага і наяве разумнага, якому ніхто цяпер не здолее перашкодзіць, а ў першую чаргу ён сам не здолее, таму што гэта будзе ўжо нехта зусім іншы. Чалавек будзе.

І ў дзяцінстве, каб разгледзець таго чалавека, спазнаць і разгадаць тое, што ён робіць на тым свеце, калі адыходзіць туды, што робіць яго душа, калі адлятае да Бога і анёлаў, ён прагнуў адначасова пайсці ў геолагі і касманаўты. Спачатку, канечне, у геолагі, калі ўбачыў, як тыя свідруюць зямлю. Улюбіўся ва ўпершыню пачутае ім слова керн. Як закаханы малады Пушкін, дзень праседзеў на кукішках перад свідравінай, дачакаўся, прасачыў, як геолагі даставалі з зямлі той керн. І расчараваўся. Ледзь не заплакаў: у ім не было нічога кернавага — ні глыбіннага паху зямлі, ні водару, ні адбітку старажытнасці і мінуўшчыны — гісторыі яго продкаў. Але

то было расчараванне толькі ў керне, а не ў самой геалогіі: простыя рабочыя, былыя калгасныя механізатары, яны, зразумела, і ў геалогіі рабілі, як на трактары — не тое і не так. Нічога, ён вырасце і пакажа, як насамрэч трэба рабіць, каб не губляць паху і водару гісторыі і велічы часу.

Але калі падрос, пачаў узбівацца на свой хлеб, чалавек пракудзіў ужо ў космасе, на сёмым небе. І ён пажадаў туды, у касманаўты. Ды толькі з патомных пастухоў мала каго яшчэ дапускалі да космасу. Вяршыняй іх касмічнай мары і кар'еры быў і застаецца, мяркуючы па сённяшнім дні, і назаўсёды ўжо застанецца толькі чатырохколавы трактар «Беларус».

А тут ён ужо каля апошняй сваёй прыстані, напрыканцы жыцця, калі ўжо і ў бяссонніцу марыцца не аб небе, космасе і зорках, а трызніцца зямля — неўзараныя табой соткі, неўскапаныя грады, непасаджаная цыбуля ды часнык, у дзень свайго юбілею праводзячы гасцей, і сам гасцюючы ў сына, прыкмеціў, што нехта кешкаецца каля камеры са смеццем у сынавым пад'ездзе. Ён наблізіўся паглядзець, хто гэта там. Чалавек адышоў. І ён убачыў прыстаўленыя да сцяны два вось гэтыя самыя штурвалы-румпелі. Сапраўдны злодзей, калі трэба займець рэч край яму неабходную, доўга галаву не тлуміць. Не тлуміў галавы і ён. Вочы яшчэ конча не паспелі разгледзець, што ж гэта такое бачаць. А рукі ўжо набылі зладзейскі спрыт, самі выпрасталіся, пацягнуліся і аплялі штурвалы. Ногі рушылі да дзвярэй пад'езда. Ды так хутка, спора, што ён абышоўся без ліфта: і ніколі ўжо не даведаецца: ці то ўкраў сваю няздзейсненую, адвергнутую і забытую, як першае дзіцячае каханне, мару, ці то нехта свежанька толькі-толькі выкінуў яе ў поцемках, а ён пажабрацку падабраў на калектыўным сметніку.

Прыбітыя да не сапсаваных ні фарбаю, ні шпалерамі і штукатуркай бярвенняў сцяны адзін насупраць другога штурвалы глядзеліся. І не толькі глядзеліся, але ўпотай, пэўна, на гэтую хвіліну некуды і клікалі, пра нешта, адначасова здзейсненае і няздзейсненае, заручанае са сметнікам, морам, зоркамі і самагубствам душы і духу нагадвалі. Як і чырвоныя яблыкі на разбураным чорным квадраце Малевіча,

як і наш «кобанчик», якому прыйшоў «пи...дец». Але ўсё гэта выдавалася паглядным толькі ў сукупнасці, толькі разам. І ён радаваўся, што гэты бяссэнсавы і варты мо толькі палу, агню і забыцця набор непатрэбных рэчаў ацалеў, застаўся непарушаным. І не разумеў злодзея ці злодзеяў, што так рупіліся, вымалі шыбіну, лезлі ў хату, не баючыся быць злоўленымі, граху і пустэчы чужой хаты не баючыся. Хто яны, адкуль яны і што ім трэба. Ён агледзеў ужо амаль тры чвэрці свайго жытла, а не мог зразумець, чаго ў ім не хапае, што ж прапала. Ці ёсць, ці бывае хоць нейкая логіка ў злодзея і рабаўніка. Павінна, павінна быць, калі дзеля гэтага ён рызыкуе воляй, свабодай. Ці рызыка — гэта і ёсць свабода і логіка зладзейства і рабаўніцтва, як надараецца: прыроджаная сцервознасць характару — сутнасць волі іншага чалавека. І гэта ўжо як талент ці адсутнасць яго — на ўсё жыццё. Выправіць такога здольная толькі магіла. Чорт ад нараджэння з рожкамі і, кажуць, бессмяротны.

Але ж, яваркі мае, перапыніў ён сумныя свае думкі — хопіць, хопіць, пара вам ужо што-небудзь, яваркі мае, і ўкрасці. Колькі ж гэта часу вы тут без гаспадара па хаце коўзаецеся і мурзаецеся, а ўсё яшчэ нічога не прыгледзелі, нічога не надумалі знесці, так і гаспадыньку пакрыўдзіць нядоўга. Час, час вам нешта ўкрасці, бо і я ўжо стаміўся баяцца, думаць і наракаць. За працу, даражэнькія, за працу. Час рабіць. Час рабіць, а не біць лынды. Не крыўдуйце і не думайце, што я асуджаю вас за адсутнасць мастацкага густу і непрыязнасць да майго жывапісу. Разумею, якога мастацкага густу мажліва чакаць ад злодзея, які не на Пушкіне з Талстым і Брылі з Быкавым выхоўваўся. Калі сёння і тыя, што на самым версе, даводзяць кожнаму, ілбы разбіваюць, што без мастацтва і дыхаць не могуць, асабліва на Славянскім базары без беларускіх народных песняў на словы і музыку Алы Пугачовай. Лепшыя іх настаўнікі — майстры айчыннага прыгожага пісьменства. І не клапоцяцца, што іх слухаюць, ім вераць дзеці. Не саромеючыся сцвярджаюць аб закаханасці ў вершы Васіля Быкава — самі чыталі і на памяць вучылі. Ці не ад гэтай начытанасці так упадабалі нябожчыкаў. Касцям

іх на тым свеце не даюць спачыну. Клянуцца Коласам ды Купалам — з буквара імёны гэтыя ім запалі. Прыстасавалі да сябе і сваіх патрэбаў, сцягоў ды гербаў сваіх, нябожчыкаў. І пугай іх, пугай, як некалі сівых мерынаў у сваім калгасе. Але ім гэта некрафільства даравальнае, бо да жывых свайго слова і на матчынай мове ў іх няма. Улада на тое і ўлада, каб перабіраць мёртвыя косці і нябожчыкамі кіраваць. А вас жа, яваркі мае, мо і непісьменныя, павінна цікавіць нешта жывое, з чаго, не сыходзячы з месца, можна атрымаць жывую капейчыну. Што ж гэта, што?

І тут ён убачыў, што. Тэлевізар. Ён быў зняты з парэнчаў лавы, на якіх ужо два гады месціўся, і перанесены, пастаўлены на саму лаву. Убачыць яго раней перашкаджаў стол, таму ён не адразу і надаў увагі, што тэлевізара на сваім звыклым месцы няма. А яшчэ, чым далей ён бег вачыма па сваёй хаце, адчыняў і зачыняў шафы і шуфлядкі, тым мацней спела ў ім думка: злодзеем у яго хаце была жанчына. І неблагая гаспадынька. Вельмі ж акуратненька ўпраўлялася. Вельмі ж акуратнае, прыстойнае тварылася зладзейства. Усе рэчы як мае быць, на сваім месцы, каторай і не хапае, то не адразу і сцяміш. І паўсюдна, ні ў першым, ні ў другім пакоях, ні ў праходах ніводненькага слядка, бруднай плямінкі. Адно толькі — насыпы чорнага жвіру мышынага паходжання. І на краёчку адной з дзвюх лаваў — стракатая ў буйную чорна-блакітную і жоўта-рудую клетку, хустка. Памяць аб маці. Яна загінула ў вайну, хутаючыся ў гэты плат, замерзла параненая, яго і знялі з маці перад пахаваннем, перадалі бабулі, а бабуля ўжо яму. Вось такі сямейны спадчынны скарб. І ён трохі наракаў на людзей, што абмывалі, выпраўлялі ў вырай маці. Маглі б пакласці разам з хусткай, мо б ёй было хоць крышачку ды цяплей. Ён бы не збяднеў і на яе не забыўся б. Усё роўна ж насіць некаму: ні жонцы, ні нявестцы не дазволіў, хаця тыя і прысватваліся — мадняцкая, хіповая хустка.

Яна зачапіла, запарушыла вока, як толькі ён пачаў аглядаць лавы, але ён не адразу даўмеўся, хто і навошта выцягнуў яе са скрыні, у якой ляжалі рэчы, што аніяк не належалі і

не маглі належаць гэтаму свету і гэтаму жыццю. Накшталт таго ж самага плата. І ён, ад душы дзякуючы злодзею, што той усё ж злітаваўся, не зганіў крадзяжом памяць маці, здагадаўся, навошта таму гэтая рэч спатрэбілася: абвязаць і вынесці з хаты тэлевізар. І ўжо са смехам, крыху горкім, крыху злосным пачаў дзякаваць тэлевізару. Не, зусім гэта не мацюгальная скрыня, не блакітны Жорык і не гаваркі Балбес — вартаўнік, ці як гэта па-сучаснаму сёння гучна мовяць — абярэг яго хаты і скарбу.

Багатыя людзі сёння, людзі незразумелай расы і паходжання бяруць у вартаўнікі хто вельмі злых сабак, а хто і зусім цмокаў і пачвараў — павукоў атрутных, гадаў паўзучых і падкалодных. А яму пакаёўкай служыць даўно пазбаўлены ўжо розуму старажытны тэлевізар-вар'ят. Звар'яцеў яшчэ ў савецкія часы, перагрузіўся марксісцка-ленінскай ідэалогіяй. Як убачыў, куды пачалі гнуць былыя ідэолагі, асабліва член Палітбюро Аляксандр Якаўлеў — імгненна зблажэў і скапусціўся. Не тэлевізар, а ўсесаюзны сатырычны часопіс «Крокодил». Усіх ідэолагаў пачаў паказваць так здзекліва, што іх і пазнаць было немагчыма. То з прыгажуна і мары жанчын рабіў нешта аднавокае і брыдотна крываносае, то сплюшчваў да таго, што тварам яны нагадвалі, мякка кажучы, вялізную рэпаную жабу. Лысіну з унутраным займам і фюрарскімі вусікамі падмалёўваў. Праўда, сёння трэба прызнаць, апошняе было сведчаннем зусім не аслабелага розуму тэлевізара, а яго празорлівасці. Такія ідэалагічныя постаці праз нейкі час сапраўды з'явіліся на палітычных даляглядах. Праз нейкі час. А тады ўсё гэта спісвалася на звычайнае тэлевізійнае вар'яцтва і шызафрэнію на глебе перабудовы, галоснасці і дэмакратызацыі, мітынговага стамлення.

Жывучы з гэтым тэлевізарам, не выкідваючы яго, ён лішні раз пераканаўся, што ў гаспадарцы лішніх рэчаў не бывае. Замах на крадзеж старога тэлевізара-вар'ята ўжо трэці па ліку. Не кожны прэзідэнт, не кожны палітык такога заслужыць. Некаторыя з іх аж канаюць, каб хоць жаба нейкая, казюрка плюнулі ці стрэлілі дзеля прыліку ў іх хоць разок. Толькі, канечне, міма, міма. А той-сёй з іх дык... Ну

што зробіш, калі ўсе гэтыя вашывыя тэрарысты грэбуюць табой. Самому рупіцца даводзіцца. Праўда, іншым разам гэта атрымліваецца так, што ў лужу пернуць: гук ёсць і бурбалак багата, і які-ніякі слядок ад кулі маецца. А вось самой кулі... Няма кулі. Але чаго захацелі: каб гэта кулямі стралялі, ці даведаліся вы ад самога пра гэта...

Не, з тэлевізарам было зусім інакш, накшталт таго, як у кастрычніку сямнаццатага года недзе ў Расіі, калі нейкія свядомыя масы захоплівалі пошту, вакзал, тэлеграф. З яго ж прыдуркаватым сродкам масавай інфармацыі падобнае праробляли тройчы. Іншы б прыціх, як мыш пад венікам, ці надакучыў бы ўсяму свету, на кожным вугле плявузгаючы: колькі ў яго ворагаў і які ён магутны, трывала верны хаце і гаспадару. А гэтаму, як таму каню, у якога баба з воза. Бо робіць па нейкім недаступным розуму прынцыпе — таго ж, здаецца, аўтамата Калашнікава. Перш-наперш, калі прагрэецца, насмокчацца электрычнасці, пачынае рэзаць, страчыць наўкруг сябе кароткімі чэргамі накшталт аўтаматных. З пярэсыці здольны выдаць і чаргу доўгую, як пасля поўнага гладыша кіслага малака. І нават спрактыкаванае вуха будзе перакананае — вайна. Зноў ідуць ці то белыя, ці то чырвоныя, а мо і тыя самыя страшныя сёння — чорныя, з НАТА. І гэта яшчэ не ўсё, калі з вуліцы зірне хто ў акно, то адразу пад акном і ляжа. Такія палосы перашкодаў і з такой хуткасцю мільгаюць-мільгаюць на каляровым экране і такое там разліванае мора розных колераў агню, выбухаў і трасіруючых разрыўных куляў, што адбірае мову і выдзірае вочы.

Так, гэты тэлевізар да ўсяго яшчэ і каляровы. Першы савецкі эксперыментальна каляровы, выраблены ваеннапрамысловым комплексам. Таму і важыць ён роўна пяць пудоў. Каб імперыялісты не скамуніздзілі, кілу сабе нажылі. Але савецкі чалавек здольны вынесці і панесці ўсё, што не прыкавана сталёвым ці чыгунным ланцугом. І то яшчэ трэба паглядзець, якой маркі тая сталь з чыгуном, у яго ж, у савецкага простага чалавека і нажовачка за пазухай на ўсялякі вось такі незвычайны выпадак прыхаваная.

Тэлевізар упершыню ўкралі і вынеслі з хаты яшчэ напрыканцы савецкай улады. Вынесці вынеслі, але далей стала пад грушай паблізу хаты аднесці не здолелі. Ці то нехта пужануў, ці вельмі ж якаснай гарэлкі нарэзаліся. Прылеглі адпачыць і забыліся, навошта ім той тэлевізар, пайшлі шукаць на пахмелле нешта больш лёгкае. Як бы тое ні было, ён добра памучыўся, markdown рознымі цвярозымі словамі памінаючы злодзеяў, калі цягнуў той тэлевізар назад у хату. Але тое было ўлетку і пры сонейку, у ахвотку.

Другі раз крадзеж тэлевізара быў наладжаны сярод зімы. Якраз з тае зімы і пачалася вялікая эпоха постсавецкага крадзяжу. Кралі ўсё, што можна было панесці, і трошкі больш, што панесці было не пад сілу, але можна было пакаціць. Кралі ўсе і зноў жа трошкі больш, а гэта значыць — і ён не хібіў, хоць увесь час і пазніўся. Толькі надумае, што ўкрасці, глядзіць, а гэта ўжо ўкрадзенае. Народ пайшоў куды горшы, чым учора, мо прадчуваў ужо будучую галечу і нястачу, чуў і бачыў набліжэнне вялікіх злодзеяў.

Хвароба мышынага крадзяжу супала з пачаткам эры дэмакратызацыі і свабоды. Хаця кралі ўсе аднолькава. І новамесіянцы-дэмакраты, і цемрашалы-камуністы, калгаснікі, рабочыя. І невядомы яшчэ клас, твару няпэўнай выразнасці, які толькі-толькі пачынаў рабіць першыя крокі — камуністычна анархісцкага паходжання і разліву — бамжы.

Але росквіту арганізавана-стыхійнага, самога буйнога на свеце, бязмежнага крадзяжу ніхто напачатку і не заўважыў. А праўдзівей, заўважылі ўсе, але не далі веры — праўда засляпіла вочы і адабрала мову. Да таго ж ім усё жыццё так прыгожа вешалі на вушы лапшу, на нос, рот і вочы нацягвалі такі савецкі, а гэта значыць самы якасны ў свеце прэзерватыў, што аднаго разу яны неяк паверылі: усё навокал сапраўды іхняе. І калі нехта недзе нешта ўкрадзе — гэта зусім не крадзеж: узята сваё, пазычана, перакладзена з адной кішэні ў другую і ўжо заўтра ці пазаўтра вернецца на месца. Тое, што гэта зусім не так, адчулі толькі тады, калі неўпрыкмет было раскрадзенае ўсё.

Не толькі яйка з-пад куркі, што лічылася тут раней верхам спрыту, тое ж тычылася і палкі каўбасы, прыхаванай за пазухай ці прывязанай да голага цела паміж ног — а яшчэ кажуць, у каўбасы два канцы, а тры не хацелі, — прылепленых паміж жаночых цыцак шакаладкі з цукеркай: фабрыкі і заводы, калгасы і саўгасы. Зямлю ў каго з-пад ног, а ў каго нават і з-пад пазногцяў скамуніздзілі. Нават з-пад нябожчыка, што ўжо ў труне і на два метры пад зямлёй. Укралі краіну. І навідавоку ўсіх. І ніхто нават не вякнуў, не каўкнуў, бо насельніцтва таксама даўно ўжо было ўкрадзена. А хто з яго ацалеў, з цягам часу былі проста падмененыя (бо ці ж здатны чалавек сохранённый распрануць дагала нябожчыкаў, украсці адзенне ў мёртвых, як гэта здарылася пасля аварыі аўтобуса ў Буда-Кашалёўскім раёне, Гомельскай вобласці краіны Беларусь. Газета «Беларусь сегодня», снежань 2003 года), выціснуты са сваёй зямлі, спіхнуты на выселкі і выгнаны ў бежанцы — да нелюдзяў, цмокаў. І ніхто аб гэтым, пэўна, і не здагадваўся, бо на ранейшым месцы заставаўся пусты цень былога чалавека. І той цень перамог самога чалавека, бо быў больш сапраўдны, больш чысты і праведны за яго. Але каб гэта, барані не выкрылася, з неба сышло сонца. Знікла, прапала сонца над усёй краінай. Неба на ўвесь дзень заставалася хмарным, шэрым, як і зямля пад нагамі. І людзям здавалася, як дасціпна пажартаваў адзін гумарыст, што яны жывуць у магілах.

Горад неяк моўчкі і вельмі хуценька здаўся магільнаму жыццю і крадзяжам, як у свой час цывілізавана, захоўваючы вартасць, здаваўся то белым, то чырвоным. Сапраўдны і разумны гаспадар пайшоў у падполле і не вытыркаўся, чыноўны люд жыў з самнабульна заплюшчанымі вачыма і залепленымі бярушамі вушамі, баючыся згубіць ужо назаўсёды і зрок, і слых. Законапаслухмяная праслойка ўсіх класаў без нараканняў паставіла сябе ў чэргі. Інтэлігенцыя, як заўсёды, пачынала нават без дай прычыны верашчаць першай, распраміла нарэшце, як і пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, плечы, глыбока і вольна ўздыхнула, заклапочаная ўжо новай светлай будучыняй. Вёска ж натапырана насцярожылася.

Напалохалася, пэўна, што яе могуць пазбавіць узаконенага права быць кожнаму калектыўным, калгасным злодзеем. Мела яшчэ вёска сілу. Яе заўчаснае і хуткае паміранне было яшчэ наперадзе. Яна паспрабавала нават стварыць атрады самаахoвы. Але гарадская і свая набрыдзь, падобна палавецкай згаладалай саранчы, з'ела, закусіла той самааховай, так і не прыкмеціўшы яе. І бессаромна сярод белага дня на вачах разам неяк састарэлых і знядужаных гаспадароў, а больш гаспадынь, на вачах нават улады — сельсаветчыкаў і міліцыі — пачала выграбаць з хат, паграбоў, сцёпак, што больш-менш мела цану, за што можна купіць кілішак самага таннага чарніла — ад пустых бутэлек і шклянак да цыбулі і гурка яшчэ на градзе

Пад гэтую рэквізіцыю, дэмакратычнае на гэты раз абагульненне, трапіў і ягоны ўжо крыху прыдуркаваты тэлевізар, а заадно і тое-сёе з яго і жончыных трантаў. Вось чаму ў хаце сёння так пуста. Кажуць, адзін пераезд варты добрага пажару. А добры крадзеж не саступіць і пераезду, і пажару разам узятых. Яго ж хата прайшла праз два з іх. Гэта калі толькі лічыць вось так — наўпрост: залезлі, абрабавалі і пайшлі — людзі сур'ёзныя, работа сур'ёзная. А колькі было, што і не лезлі, а бралі з яго хаты як са сваёй кішэні. Кралі, рабавалі, збівалі і плакаць не давалі. Калі ўсё гэта сабраць разам, якая б к чорту Амерыка з яе заможнасцю і багаццем, якія Ротшыльды з Фордамі ды Бушамі здольныя былі з ім мерацца. Калі б іх так абіралі. Усе б гэтыя Самуэлі ды Джоны па сметніках і сёння коўзаліся б, поркаліся ў рыззі і мышамі з варонамі смярдзелі. Гэта калі б выжылі яшчэ. Бо тут і свае, звыклыя да таго, што іх кожны трасе, як грушу, абдзірае, што ліпку, і абшчыпвае, што той гарох пры дарозе, не ўсе выжываюць. Даюць дуба кожны чацвёрты, кожны трэці, а то і праз аднаго. Толькі каляровы вар'ят-телевізар здольны такое вытрываць дый распавесці яшчэ, захлынаючыся ад радасці, усяму свету, як яму хораша жывецца, вольна дыхаецца.

Укралі той тэлевізар, знеслі з хаты, і на душы стала так лёгка-лёгка: слава Богу, не ліецца больш кроў, ніхто нікога не гвалтуе і не рабуе, скончыліся войны. Не плявузгае больш

ніхто на вуха, што за надыход вясны і лета абавязкова некаму трэба дзякаваць. Ды вось бяда, знеслі не адзін толькі тэлевізар. Прыбралі, выграблі ўсё мясцовыя ці наезджыя валацугі. Ні зварыць, ні сасмажыць, ні кіпню скіпяціць, каб папіць гарбаты. Ён не хацеў, але мусіў пайсці да мамы — так звалі і завуць па вёсках старшынь сельскага савета, калі яны жанчыны.

— Пішы заяву, — сказала мама. — Участковаму нашаму.

Пісаць заяву ён адмаўляўся, але мама настояла:

— Я ведаю твой тэлевізар, — сказала яна. — Калі яго не ўтапілі, а ён варты ўтаплення, калі яго не спалілі, а я сама спаліла б яго тройчы, бо гэта не тэлевізар, а здзек з нашага тэлебачання ўвогуле, а з Астанкінскай тэлевежы і Макаёнка, 9, у прыватнасці. Але гэты твой прыдурак як піць даць прывядзе нас да злодзея. Хаця мы і без яго прыблізна ведаем нашых злодзеяў. Але тут сам разумееш, галоўнае схапіць за руку, каб яны не вылузнуліся, як кума з-пад кума.

Пра куму з кумам сельсаветчыца-мама сказала крыху не так. Прама, як яно ёсць, сказала. Але ён зразумеў яе добрыя намеры і не пакрыўдзіўся: грамадскія абавязкі і сувязь з народам патрабуюць простасці і яснасці мовы. І ён за сталом сельсаветчыцы прысеў і накрэмзаў заяву ў міліцыю, асабліва напіраючы на адметнасць свайго тэлевізара — фотаробат для крымінальнага вышуку.

Участковы не вельмі растросся, шукаючы злачынцаў. У яго вёсачку і не зазірнуў нават, бо там, як на выселках, дажывалі свой век толькі тыя, каму ўжо і бохан хлеба — вялікі груз, не тое што пяць тэлевізарных пудоў. Схадзіў два вечары запар у вёску цераз раку, шматлюдную, але бязладную — і ўздоўж, і папярок, і ўсцяж п’яна збудаваную і проста п’яную. Па-над рэчкай пастаяў каля хаты армянкі — бежанкі з Арменіі. Яна жыла яшчэ як бы і не ў хаце, а ў чыгуначнай цыстэрне, з прарэзанымі электразваркай ці аўтагенам вокнамі і дзвярамі. Але, мяркуючы па ўсім, у той цыстэрне сядзець ёй заставалася нядоўга. Гандлявала самагонкай, што новымі ўладамі хаця і не прывячалася, але і не

забаранялася: рабіце што хочаце, хоць на галаве хадзіце — хутчэй перадохнеце. Хлеб патаннее. Нягледзячы на тое, што народнай сцежцы да армянкі не пагражала зарастанне і забыццё, у цыстэрне яе было ціха. Ніякага падабенства на чэргі аўтамата Калашнікава тут, хаця ў самой Арменіі на той час ужо добра пастрэльвалі.

Не вялі ніякіх ваенных дзеянняў і бежанцы з Чачні, што жылі ўжо ў цэнтры сяла ў каменных будынінах, якія стаялі тварам у твар праз вуліцу. І ўчастковы ад душы падзякаваў Госпаду за цішыню і спакой у каўказскіх саклях на Беларусі, таму што быў хоць і малады, але набожны і разумны. Калі б што падазронае там і было, ён бы і ўдзень туды не паткнуўся. Чачэнаў участковы чапляць перасцерагаўся, а па шчырасці — нават баяўся. Надта ж нейкія не гаваркія, ваўкаватыя былі яны на яго погляд. І яшчэ, ён на самым пачатку быў упэўнены: бежанцы да рабавання напаўжабрацкай хаты за ракой, не маюць і не могуць мець ніякага дачынення. Не такія яны дурні, каб з Чачні ці Арменіі, маючы сапраўдны аўтамат Калашнікава, ехаць сюды па нейкі тэлевізар, што толькі дурыцца пад аўтамат.

Ён не прыблізна, а дакладна ведаў, дзе тое глупства трэба шукаць. Таму што наша айчыннае глупства доўга шукаць ніколі не трэба. Так ці інакш яно заўжды выкрывае і выказвае сябе само. І сёння на гэты конт у вёсцы мелася дзве легальна дурныя хаты. Адна дык і неблагога, здаецца, хлопца, не сказаць каб злодзея закончанага ўжо. Так, нешта недапечанае і недарэчнае, што цягнула, грабло, як курыца, усё на свеце пад сябе. Грабло і кожны раз пападалася. Шклянкі на плоце — шклянкі, пусты, нямыты нават мех — брудны той мех. Гуска на дарозе з гусянятамі... Не, тут ён браў што-небудзь адно і часцей гусянятаў, бо да трох лічыць умеў і, пэўна, думаў, што тры заўсёды больш, чым адно. У яго хаце, як казалі на вёсцы, заўсёды пілі і біліся.

Была на той жа вуліцы і другая хата, процілеглага напрамку жыцця і дзеяння. І не сталым людзям казаць, што там учынялася. Удавіца жыла, адзінокая, ціхая. Бязмужняя маладая

жанчына з усім і ўсім зразумелымі наступствамі. Участковы тым вечарам да яе хаты нават і не дайшоў, хаця, надаралася, заходзіў. Цяпер жа пастаяў каля прысадаў пад вокнамі ў яе суседа, паслухаў, як той штомоцы гарлае і галёкае, як сугучна і суладна з ім строчыць аўтамат, павярнуўся і пайшоў дамоў, каб вярнуцца заўтра повідну і ўжо з панятымі.

Але гэта быў толькі пачатак прыгодаў звар'яцелага тэлевізара. Усе ўкрадзеныя з хаты рэчы прынеслі і аддалі разам. А тэлевізар чамусьці павезлі ў раён, у райаддзел міліцыі. Сказалі, спачатку адбудзецца суд, а потым яго ўжо можна будзе і забраць. Ён наадрэз адмовіўся судзіцца. Яшчэ чаго не хапала, з нячыстай сілай толькі звяжыся — век не развяжашся, душу выме. Сярод яго роду такога не вялося і загадзя асуджалася без суда і следства. Але тут зноў жа спрацавала: не хочаш, ды мусіш. Сабраліся ўсе старыя, хто яшчэ быў жывы ў вёсцы і здолеў сунуць нагамі. Прытэпалі да яго хаты, упалі амаль што на калені. Смех і грэх, запрасіліся:

— Будзь ласкавы, змілуйся, чалавеча. Дазволь хоць які год ці два перад смерцю, не баючыся, не жагнаючыся кожную хвіліну, пажыць.

— Я ж вам не Бог...

— У тым і справа, што на Бога мы ўжо не спадзяемся. Просім, як свайго чалавека: судзіся. Хай яны год-два пасядзяць у цюрме. А мы мо паспеем за гэты час — на могілкі перабярэмся.

І быў суд за гэты во дурны тэлевізар, каб яму ліха. Да чаго ж яно прычэплівае, гэтае самае ліха і гора. Дзіву даешся кожны раз, якое ж яно ўпартае, якое жывучае, няшчасце людское... І ў агні не гарыць, і ў вадзе не тоне. Згубіш на краі свету, толькі парадуешся — збыў. Не, з таго свету знойдзе да цябе дарогу. Каб доля нас так шукала.

На судзе яму далі слова. Ён у кожнага з трох дзецюкоў, што абакралі яго, прадчуваючы іх цяжкі лёс, папрасіў прабачэння. Звярнуўся да суддзі і засядацелек:

— А можа, іх не ў турму, можа, іх куды на хімію ці па месцы ранейшай працы...

Быў здзіўлены, як сустрэлі падсудныя гэтыя яго словы.

— Ну ты і даеш, мужык. Ну і лох, сівалапіна: па месцы ранейшай працы! Гэта што — зноў калгас? Не слухайце, грамадзяне суддзі, гэтага дурня. Турма, толькі турма!

Во дагадзіў дык дагадзіў, маркоціўся ён, едучы электрычкай дамоў. Без тэлевізара. Адзін ён не даў бы рады ўскінуць яго нават у вагон. Хаця, трэба адзначыць, цяпер яму было трохі і ніякавата пакідаць тэлевізар у горадзе. Але вось што значыць міліцыя — у райаддзеле тэлевізар пазбавіўся сваіх конікаў. Кінуў страляць і пачаў гаварыць звычайнай чалавечай мовай. Можа, калі захоча, калі прыпрэ. У міліцыі табе і месца, ледзь не плюючыся, думаў ён, пакідаючы райаддзел, ну і заставайся тут. Прасіцца будзеш — не вазьму. Але гэта ён толькі так, дзеля прыліку гразіўся. У самога ж на душы кошкі скрэблі. Адно, дзе разгаварыўся, а другое — звыкся ўжо з дурнем.

Але праз нейкія месяц-два да яго хаты падруліў міліцэйскі УАЗік. І з яго, паблісківаючы пяціпудовай сракай, вылупіўся на Божы свет ягоны ж тэлевізар. Ён здзівіўся яшчэ міліцэйскай ласцы. Але, як высветлілася пазней, здзіўляцца не было чаго. Тэлевізар зноў анямеў. Не тое, каб зусім, але на чалавечую мову забыўся. Набыў колішнюю сваю — бандыцка-акупацыйную. І час, праведзены ім у міліцыі, пайшоў яму на карысць; ён страляў цяпер не толькі кароткімі і доўгімі чэргамі, а прыладзіўся нават пукаць — як з міліцэйскага нагана, адзіночнымі стрэламі.

— Мо забераце ўсё ж назад? — спытаў ён міліцыянтаў.

— Не паложана, — сурова, але незразумела патлумачылі яму.

— Як не паложана? — не ўтрымаўся, перапытаў, здзіўлены своеасаблівасцю міліцэйскага маўлення.

— А вот так. Не паложана, і ўсё. Ясна, ацец?

— Наўродзі, але...

— Нікакіх Маўродзі. Забірай і з канцом.

— Ну, калі з канцом... — міліцыянеры абмінулі яго, як нешта лішняе і недарэчнае, і зацягнулі тэлевізар у хату.

— Дзякуй і на гэтым, — зноў пачаў ён, толькі дзякаваць ужо не было каму. Міліцэйская тэхніка газанула на ягоным падворку, нарабіла дыму і выхапілася на вуліцу.

— Эт жа людзі, — толькі і паспеў ён прамармытаць услед ім, — і добрую справу не па-людску... — адчуў сябе старым і нікому непатрэбным, лішнім на гэтым свеце.

Не па-людску ўжо на другім тыдні пачаў паводзіць сябе і тэлевізар. Нешта незразумелае, мо спецыфічна міліцэйскае прычынілася з ім у райаддзеле. І справа зусім не ў тым, што ён інакш пачаў страляць. Гэта дробязі. Нечага там, у міліцыі, ён наглядзеўся, нечага набраўся такога, што ў яго апошнія клёпкі павыпадалі. Нібыта ўвесь гэты час ён знаходзіўся зусім не ў праваахоўных органах, а сядзеў у самым сапраўдным вар'яцкім доме. Такім ён зрабіўся знерваваным ды псіхаваным.

Новы, выродны характар свайго тэлевізара ён адчуў не адразу. Як і ўсе сапраўдныя псіхі і шызафрэнікі, той востра рэагаваў на надвор'е і быў вельмі падазроны, скрытны. Дзеля прыліку па першым часе пасля вяртання з міліцыі паводзіў сябе даволі прыстойна. Стаіўся, шыз няшчасны. Для прыліку, як і дагэтуль, рэзаў кароткімі і доўгімі чэргамі. Толькі гук ужо быў не той, адценне не такое абуральнае — паціху выпрабоўваў, якая будзе рэакцыя, пэўна. Ён не выказаў ніякай рэакцыі. Тады тэлевізар пачаў пукаць адзіночнымі стрэламі — як з міліцэйскага нагана. Але гэта калі пры ім, пры гаспадары. А ў яго адсутнасць, без вока гаспадара на сабе, распяразваўся і такое непатрэбства тварыў, што мурашкі па целе поўзалі. І мімаволі думалася: дзе, хлопча, ты толькі рос, якія кніжкі чытаў. А яшчэ выдаеш сябе за інтэлігента. Паводзіў сябе, як дарагая валютная прастытутка. І ўсё гэта было яму, пэўна, на карысць. Зіму ён праводзіў, гнаў карцінку пад уласны непрыстойны каментар, а пад вясну зноў набыў былую мову. Загаварыў, ды так, што ён ужо ледзь сваёй мовы не пазбавіўся. Стаяў, чыкаў, цыкаў, цэкаў, пукаў сабе на лаве ў куце і раптам шалёна заверашчаў дурным голасам:

— Руки за голову, падла. Ноги на ширину плеч...

Ён аж прысеў ля печы, ледзь хату не спаліў. Хацеў перакінуць галавешку з печы ў грубку, а тут яму пад руку такое. Галавешка — у чыгун з вадой. Дыму, чаду. І ў галаве чад. Зірнуў у кут на экран. А там тры чарты з аўтаматамі і ў чорных масках трушчаць макацоўбіны тром чорцікам, толькі без зброі і масак. Ён кінуўся да выключальніка тэлевізара, але той як прыкарэў, не даўся. Так і ішла карцінка з мацюкамі, пакуль не пачалі паказваць такую ж галасную рэкламу, толькі без мацюкоў, а з гэтым піп-піп-піп.

З таго часу ён не сказаць каб стаў баяцца, але асцерагацца тэлевізара. Той жа, як атрымаў аўтаномію, пачаў існаваць амаль і цалкам самастойна, здаецца, без умяшальніцтва чалавека. Калі б яго не падпусцілі да электрычнасці, падрабязна распавядаў і паказваў усё, што адбывалася ў свеце. Але пры ўсім гэтым выразна аддаваў перавагу сексу. Гатовы быў гаварыць і паказваць яго дзень і ноч без перадыху, перакураў і перапынку на абед. Сапраўды, неўтаймаваны, не ведаючы стомы сексуальны маньяк. Мо з-за гэтага не любіў Жырыноўскага. Варта было таму толькі сквасіць яскрава наследна юрысцкія вусны, як ён неяк самаадвольна выключаўся. Ці так з яго здзекаваўся, што на экране, здавалася знаходзіцца Ясер Арафат, захутаны ў жаночыя хусткі, а не віцэ-спікер Дзяржаўнай Расійскай Думы. А вось каго ўпадабаў, то гэта Нямцова, паказваў яго заўсёды маладзенькім і чыста паголеным і толькі з Хакамадай. Скептычна ставіўся да Зюганава, вымушаў таго па справе і без заікацца, касавурыцца і падміргваць немаведама каму ўсімі яго барадаўкамі, часам нават множачы іх, скажаючы да непазнавальнасці твар адданага і шчырага ленінца так, што атрымоўвалася адразу аж два твары. Адзін, канечне, — чыста зюганаўскі, хто другі — не пазнаць. Паказваў усе праграмы, нават такія, што тут, у вёсцы, не ішлі. На польскай і нямецкай мовах. Калі ласка, пшэкай і шпрэхай.

Адзінае, чым пагарджаў ягоны тэлевізар — гэта беларускай праграмай. Варта было толькі прагучаць: «Говорит и показывает национальное телевидение», як адразу ж за гэтымі словамі ўсчыналася страляніна. Нават не страляніна,

а адзіночнае, такое гучнае міліцэйска-канячае папукванне. І куды прападала ўся праграма, куды там, на нацыянальным тым канале, знікалі людзі, цяжка было і меркаваць. Бо на ўвесь экран зеўрала вялізная пляма. І зусім не белая, якой па ўсіх фізічных і электронных законах ёй павінна было быць. Тут на сваім, наскім беларускім канале, невядома чаму гэтыя законы не спрацоўвалі. Пляма была чорная. Як чорная дзірка на той свет, ці, зноў жа — чорны квадрат Малевіча. І мо варта было збегаць і пашукаць на тым свеце ці таго ж Малевіча, ці самога д'ябла, каб спытаць, што гэта значыць.

Але грэблівасць і пагарда да тубыльскага тэлебачання раптоўна скончылася. І так дзіўна скончылася. Неяк адным днём у тэлеэфіры з'явіліся два нацыянальныя каналы. Ва ўсякім разе так абвясцілі: два нацыянальныя каналы і абодва першыя. Толькі які з іх пярвейшы, так ніколі і не сказалі. Быў знішчаны нацыянальны расейскі канал. І хаця праграма там засталася расейская, абвясцілі, што надалей гэты канал трэба называць беларускім. А каб не сумняваліся, далі на ім трыццаціхвілінны ролік мясцовых навінаў, якія зачытваў невядомай нацыянальнасці і арыентацыі дыктар. Ён па-ленінску, нервова-хваравіта, выхопліваўся аднекуль з цьмяных скляпенняў ідэалагічнага страўніка, браў след да падрыхтаванага яму амбона. Бежкі абмінаў сталы і крэслы, што спаніэль ці такса, з выпрацаваным інстынктам на пах наркаты, россыпам, хаваючы літары, нібы абсмоктваючы іх ці жуючы, здзіраў з іх сутную абалонку і выстаўляў тыя ж літары на нейкі здзеклівы, абразлівы паказ — у расцяжку, паволі і хуткастрэльна шпурляў скалечанымі словамі ў даверлівую цемру загадзя падрыхтаваных да эфірнага шчасця па вечары прыгнечаных душ. Але чым яшчэ, безумоўна вылучаўся дыктар — гэта пасамі рук заклінальніка гадаў, скокамі перад мікрафонам амаль танга, стаўленнем з прыстукам і прыцмокам галасавых абцасаў кропак.

Напачатку цяжка было нават і ўцяміць, як гэта ў яго атрымліваецца, як кропка, проста што цвік, адразу ж забіваецца табе праменька ў мозг. І толькі прыслухаўшыся і прыгледзеўшыся, можна было з пэўнасцю сказаць: кропкі ў яго

расейскія, ад маскоўскіх дыктараў-нарколагаў, як, дарэчы, і ўсё нашае айчыннае і нацыянальнае тэлебачанне. Там яго вынайшлі, парадзілі і пусцілі ў свет. Але гэты, з першага тубыльскага, пераўзышоў іх. Яго кропкі былі больш ідэалагічна вытрыманымі і культурнымі, такімі культурнымі, што, як «ботаюць» расейскія клоўны, обалдеть можна. Ён набіраў вышыню на пачатку сказа, узбуджана ўздымаўся ўгару, як байда, якой забіваюць палі, вытрымлівалася запамінальная паўза — і ўдар, што ўганяў слухача ў зямлю па самыя памідоры.

І зноў запамінальная эфектная кропка, пастаўленая не толькі голасам, але і нейкім яшчэ іншым органам. Якім? Даводзілася толькі гадаць, каб урэшце прыйсці да высноваў: адным органам дасягнуць такой яскрава арганічнай кропкі немагчыма. Ён калектыўны, дасягаецца ўсімі органамі цела чалавека адразу — усім яго арганонам.

Было толькі шкада, што гэта доўжылася ўсяго трыццаць хвілінаў. Хаця, з другога боку, трэба адзначыць, тымі трыццаццю хвілінамі было зроблена немагчымае. Краіна была пазбаўленая інфармацыйнай прасторы, як у сярэднявеччы ці яшчэ нават ранейшым веччы, загнаная ў першабытныя пячоры. Бо іншых каналаў на большай частцы краіны не прымалася, у прыватнасці, па вёсках. Так здзяйснялася амаль што ленінскае, праграмнае: тубыльскае тэлебачанне, а заадно і радыё, — плюс дэбілізацыя ўсёй краіны. Тымі сваімі трыццаціхвілiннымі навінамі, як свінні пад дубам лычамі, перарылі неблагую і ўжо даўно звыкла ўстаялую праграму і задаволена суцішыліся. Толькі ягонаму тэлевізару гэта, пэўна, прыйшлося не даспадобы. На некалькі дзён, а мо і тыдняў ён замоўк. Як ні круціў ручкамі настройкі, як ні ціснуў на кнопкі — не адгукаўся. Ён вырашыў, што ўжо ўсё — аджыў сваё небарака, нічога не зробіш, прыспеў час і яму на вечны спачын. І як жа здзівіўся, прачнуўшыся ўначы ад нейкага незразумелага шэпту, прыглухла заціснутага голасу. Падхапіўся, выйшаў са спальні і, каб не абапёрся на вушняк, мог бы і пакалечыцца.

Тэлевізар, няйнакш, уключыў сябе ўначы сам і цішком слухаў беларускую праграму, якая якраз на тую хвіліну ішла на матчынай мове. Іменна слухаў, а не паказваў і гаварыў сам, бо быў павернуты экранам да люстра. І там, у люстры, нейкія лубочныя пейзане ў вышываных кашулях і даматканых андараках нешта гаварылі і спявалі песні. А тэлевізар чуйна і пільна слухаў іх, здзіўлена і палахліва міргаў, лыпаў нябачным яму бяльмом павернутага да люстра экрана. Адпаведна гэтаму таксама ж палахліва жахаліся людзі ў люстры. І ад таго падвоенага, змушанага двойчы, зноў жа нацыянальнага, можна было без асаблівых намаганняў той жа ноччу трапіць у Навінкі.

Ці гэта ён ужо знаходзіўся ў тых Навінках. Ушчыкнуў сябе, ці не трызненне, ці не прымроілася гэта яму. Ён жа добра памятаў, што пакінуў знямелы тэлевізар выключаным. Як жа гэта ён уключыўся? І што дзіўна — на той жа праграме, якую наадрэз адмаўляўся глядзець, на той мове, якую і на дух не падпускаў да сваіх вушэй. Што ж гэта адбываецца? Нешта мяняецца ў свеце, і гэтая бязглуздая скрыня, нашпігаваная электронікай, употайкі рыхтуецца да тых пераменаў, слухае тое, што сама і адмаўляе. Пачала прыслухоўвацца да сябе, зачаравалася сваім голасам. Што ж тады гэты нарцысізм можа значыць для іншых, што за новая пошасць выспявае ў ім, што за знак ім падаецца ад гэтага вялікага дурня, здольнага гаварыць на ўсіх мовах свету. Але толькі гаварыць, як пустая галава з казкі Пушкіна — мо першая ў свеце электронная галава вялікага палітыка, дзяржаўнага дзеяча і хлуса часоў нацыянальнага палатачнага сходу і дзяржаўнай думы.

Ён ціхенька пасунуўся да сябе ў спальню. Лёг, але заснуць не паспеў. Толькі прымружыў вочы, як зноў сон перабіў тэлевізар, на гэты раз тэлебарометрам і, вядома ж, на беларускай мове. Мо адзіная перадача, якую ён паважаў і любіў і заўсёды, часам нават з замілаваннем, слухаў. Было ў ёй нешта праўдзівае сярод бяздані хлусні, праўдзівае і непадробнае, незаемнае з расейскіх каналаў, не ўкрадзенае з іх. Якое ўжо ёсць — сваё. І ён даслухаў праграму да канца,

рады, што можа засынаць пад добрае слова і прыемны голас. І пачаў ужо засынаць. Але прахапіўся, бо ў хаце нехта плакаў. І зусім непадробным тэлевізійным плачам. Плач быў сапраўдны дзіцячы і вельмі няўцешны. За сцяной у другім пакоі горка плакала дзіця. Ён памкнуўся бегчы туды, але не дабег. Бо ніякае не дзіця там плакала. Плакаў сам тэлевізар. Без карцінкі, цяпер нават у люстры слухаў «Калыханку» на матчынай мове і захлынаўся, дрыжэў ад слёз. І доўга яшчэ ўсхліпваў і смаркаўся і пасля таго, як ужо скончылася «Калыханка».

І вось цяпер гэты прамарожаны і скрануты з месца стары вар'ят, смаркач і хлус стаяў перад ім на дубовай лаве і паныла маўчаў.

— Здароў, пустадомак, — павітаўся ён з ім, як з жывым. Трошкі ўсё ж перасцерагаючыся яго, хаця і ўсведамляючы, што баяцца няма чаго. Але ў той жа час... А мо ён усё ж да некага ці нечага падключаны. Неяк яму давялося гаварыць пра тэлебачанне і электрычнасць з міністрам энергетыкі. Было нейкае мерапрыемства, і яны абодва добранька так наэнергетыліся. Таму ён і набраўся смеласці, маючы сам вышэйшую адукацыю, папрасіў міністра, доктара навук, растлумачыць яму, што такое электрычнасць і электрон. Немаведама як і чаму, але тут у ягонай адукацыі меўся даўні і вялікі прабел, яшчэ з часоў рамеснага вучылішча, калі ён вучыўся на электраслесара. Міністр у адказ на яго пытанне толькі рукамі развёў: дакладна гэтага не ведае ніхто на свеце, як ніхто не ведае і ніколі не ведаў, што такое навуковы камунізм, хаця навука такая існавала і доўга яшчэ будзе існаваць...

Невядомае заўсёды палохае. Гэта як нябачны сусед за сцяной, у якога ўначы гарыць святло, і ён усё піша, піша. Каму, што? Мо і самому Люцыферу. Таксама і скрыня гэтая: балбоча і балбоча, а нешта ж у галаве трымае.

— Чаму цябе не ўкралі, чаму не знеслі? Не ведаеш, маўчыш. А таму пэўна і не ўкралі, што маўчыш — нямко. — І адразу ж зразумеў, што не, не таму. Пра гэта ніхто не мог ведаць, бо ў хаце няма электрычнасці — адключанае на зіму. Махнуў рукой.

— Доля такая мне з табой, пустабрэхам, век дажываць.

Павярнуўся і пайшоў кругамі па хаце. З хаты — у сенцы. З сенцаў зноўку ў хату, папікаючы сябе чаго б не датыкнулася вока. Гэта ж трэба, — здаецца, прыбіраў, усё прыбіраў. А аказваецца кінуў, рынуў усё і, як ад немцаў, пайшоў з хаты. Не прыбраў нават інструмент, якім нямала ганарыўся. Сякеры са сталі, якой пры сённяшнім ладзе ці бязладдзі мо і не вырабляюць — не саступіць дамаскай. Не сказаць каб старажытныя, якія калісь каваль вырабляў адну-дзве на пяць вёсак і адзіны толькі раз у дзесяцігоддзе — па патрабаванні і загадзе душы. Але ж... І ў савецкія яшчэ часы сталь заставалася металам. Можна было выбраць. І ён сам выбіраў гэтыя сякеры ў лаўцы, калі паблізу нікога не было. Як у званы званіў — біў лязом адной па лязе другой. І калі на ім ні зазубрыны, ні знаку — лязо толькі ўсхліпвала жураўліным клінам, што па восені пакідае роднае Палессе, журыцца, але на нешта і спадзяецца — адкладваў для сябе. І зайздросны ж быў на добры метал, набраўся тых сякер. Цяпер яны ляжалі паўсюдна, на самым відавоку: падыходзь ды бяры. І не толькі сякеры. Малаток-цвікадзёр — тысячы і тысячы цяпер каштуе. Але справа не ў грашах. Адно — памяць, з кожнай камандзіроўкі, з кожнай паездкі некуды цягнуў. І купляў, выпрошваў, і на нешта мяняўся. Другое — веданне, што ты нечым прывабным і добрым валодаеш, можаш усцешыць сваю душу. Памятаеш, ведаеш, цешышся — і вось так неахайна абыходзішся. Здаецца і прыбрана ўсё, але як бы не табой — на самым відным месцы пакінута скрыня з абцугамі і пласкагубцамі, долатцамі і шкларэзам, нажніцамі па метале і нават непатрэбным яму ўжо сёння, але ж надта бліскучым і фанабэрыстым штангенцыркулем.

Не, ён зусім не злодзей, але тут бы не схібіў. З якім задавальненнем ён хоць што-небудзь украў бы ў сябе. Украў, схаваў і нікому не паказваў, толькі б пасміхаўся з сябе ж, дурня. Правучыў бы, направіў сам сябе. Гэта ж хлеб твой, з ім трэба і акуратна, і далікатна. Ёсць інструмент — ёсць і рукі. А калі ёсць рукі — будзе і хлеб.

А тут, якія рукі вымалі шыбіну, якія ногі хадзілі па хаце, якія вочы бегалі па ёй, калі ім анічагусенькі не спатрэбілася. І яму зрабілася горка, крыўдна і сорамна за сваю хату, за свой выпакутаваны інструмент. Бо, калі папраўдзе, то толькі мо тут, ад замілаванасці і шчырай любові, ён і грэшны. Было, было. Тут ён якраз парушыў Боскае — і пазайздросціў, і пажадаў, і... Але пра гэта, забі яго, не прызнаецца. А калі паўторыцца — паўторыць. Бо на свеце існуе толькі адзінае, вартае грахоў і чалавечага жыцця, — праца. І ўсё, чым жыў чалавек — праца. А хто нязгодны, той не зведаў ні шчасця, ні гора-болю, смаку поту і крыві. Не адрабіў, не сплаціў ні чорту, ні Богу, па-сабачы прабегся па жыцці, прагаўкаў яго пад плотам. Хаця цяпер надышоў такі час, што праца пазбаўленая сапраўднасці. Мо гэта і ёсць тая душа, што пакінула чалавека. Бо без працы ён больш імкнецца прыпасці да некага і пасмактаць жывой крыві. На свеце ніколі не было ніякіх вампіраў. Толькі адны крывасмокі ды ваўкалакі. Але сёння іх развялося столькі, што нідзе ўжо няма ад іх паратунку. Яны да таго асмялелі, абнахабелі, што ніколькі не баяцца аказваць сябе нават пры сонечным святле. Аказваць публічна. Публічныя жанчыны пры так званых бой фрэндах, а бой фрэнды — публічныя грамадскія дзеячы, публічныя палітыкі, толькі тым і занятыя, што нястомна і галасна вучаць народ, як яму жыць і рабіць.

А з другога боку, мо так было спакон веку: хто меў рукі — той рабіў, а ў каго тыя рукі, як і ўсё астатняе, у тым ліку і мазгі, знаходзіліся, раслі са сракі, той навучаў іншых, як трэба рабіць, каб самому жыць прыпяваючы. Ён нікому не суддзя —толькі сведка. Але яму баліць ад таго, як людзі гуляюцца ў жыццё, а не жывуць. І будзе непамысна, калі яны загуляюцца да страты сябе. А ён ужо адчувае, як ва ўсім застаецца толькі прыблізнасць: справы, жыцця і чалавека. Чалавек толькі пазначаны нечым адным чалавечым, але без таленту і густу жыць. І само жыццё робіцца безаблічным і пустым, некалі бясцэннае — сёння проста не мае аніякай цаны. Чалавек перастаў адчуваць, баяцца крыві. Сваёй і чужой. І ў ім перарваўся, спыніўся цёк той крыві. Перарвалася адчуван-

не вечнасці і імгнення. Работа сёння больш нагадвае сірату. І, як усе бязбацькавічы, здадзена на канчатковае калецтва і ціхае дэбільнае вынішчэнне пад грамадскае апекаванне — у напаўтурэмныя, напаўбардаковыя школы-інтэрнаты. З якіх яно ўжо ніколі, за малым выключэннем, не выйдзе ў здабытым стагоддзямі былым чалавечым абліччы, без абрысаў і твару людскога, які збыты, з'едзены няволяй. Бо сапраўдная праца гэта і ёсць сапраўдная воля. А так званы разняволены, вызвалены ад працы без прымусу чалавек — толькі цень яго, пячорны, наскальны адбітак былога свайго існавання.

Ён зажурыўся, успамінаючы сваю першую працу. І адчуў, што не можа ўспомніць. І не толькі першую, а ўвогуле вартую памяці. Нібы не рабіў нічога за ўсе гэтыя гады на свеце. З дзяцінства да сённяшняга дня — адны толькі гульні. І так, і гэтак, і радасць і гора, хваробы і ўсе звязаныя з імі паміранні — адна толькі гульня. Але ж была, была і работа, во якія рукі — што кавадлы. І спрацаванасць, стомленасць ва ўсім целе — не ад гуляў жа. А сам ён у сваёй памяці — яшчэ і на сконе дзён — горкае дзіця. Маладзенькае і маленькае, якое яшчэ столькі не дагуляла, мо і не пачынала нават гуляць. І рабіць.

А як першы раз добра пад'еў, і сёння помніць. На Дзяды... Не, на Спаса... А, хай будзе на Дзяды і Спаса — свайму жывату можна і паспрыяць. Бо так было і на самой справе: і на Дзяды, і на Спаса. Толькі ці ў адзін год? Ай, якая розніца, усё роўна ўжо ніхто не адбярэ. На тыя Дзяды ён ад пуза наеўся толькі аўсянага кісялю. Так напароўся, што на тым яго пузе можна было вошай біць. Такога смачнага кісялю і столькі ён за ўсё жыццё не з'еў. Неяк, будучы ўжо ў гадах, папрасіў жонку, каб зварыла таго кісялю. Зварыла, ды зусім не таго. Праглынуў лыжку, аблізаў і больш не захацеў. Не і не, зусім не той кісель.

А тады ён, падахвочаны бабай (тую брыгадзір на калгасным аўсянішчы мог і пабіць), налузаў аўсу. Пасушыў на печы, патоўк у ступе. І штодзень прыставаў да бабы: ці не Дзяды ўжо сёння? А Дзяды ўсё ніяк не надыходзілі. Нарэшце схапіліся лядком у хаце шыбы. І баба сказала:

— Ну вось і Дзяды прыйшлі.

На бажніцы гарэла свечка. На стале стаялі місы з шэрым парэпаным кісялём і ляжаў не мешанец — з бульбай і аўцюкамі — сапраўдны хлеб. Ён падбег да стала, пацягнуўся за лыжкай. Але баба перахапіла руку і так урэзала той лыжкай пасярод ілба, што галавой пачуў, як надзімаецца гузак.

— На коленцы, — сказала баба. — Маці з сястрой успомні, лоб перахрысці, татарын.

Ён паслухмяна і хуценька бухнуўся на калені, адтарабаніў «Ойча наш», успомніў маці і сястру. А баба ўсё тварыла і тварыла малітву. Успамінала і ўспамінала сваіх дзяцей-нябожчыкаў. Іх у яе назбіралася столькі, што ён падумаў ужо: сёння кісялю не дачакаецца. Дачакаўся, вытрываў. І дзякуй нябожчыкам, што ніхто з іх не прыйшоў і не сеў за стол, і ўвесь кісель яны з’елі ўдваіх з бабай.

Дзякуй нябожчыкам і за Спаса. Такое свята яны зрабілі яму. Столькі вараных і пафарбаваных яек, белых каржоў і аладак з макам, яблык і груш, што ён не даў рады ўсё і з’есці. Рэшткі паклалі пад крыжы на могілках і на самыя крыжы. Ноччу ён прадыхаўся ўжо і трохі вымерхаўся, хацеў пабегчы на могілкі, паглядзець, ці любяць нябожчыкі прысмакі і як ядуць: збіраюць і забіраюць да сябе ў магілы ці таксама не церпяць, пад’ядаюць, седзячы на могілках, не сыходзячы з месца. Хацеў, але пабаяўся. А раніцой, калі прыкапацеў на могілкі — ад прысмакаў і знаку не было.

— Птушкі паелі, — сказала баба. — Птушкі — гэта душы нябожчыкаў.

Як ні дзіўна, але два тыя памінальныя сытыя дні — Дзяды і Спас — абудзілі яго, далучылі да святой непарыўнай сувязі жывога з мёртвым, да той вечнасці, якая пралегла між імі і засталася ў іх. А дарога да яе адна: рупіцца і не пераядаць, стрымліваць і, не збочваючы, весці сябе праз будныя дні, каб аднойчы выратавацца і закласці ў сабе адчуванне велічнага спакою, той жа самай сытасці без боязі быць пакараным тваімі ж роднымі нябожчыкамі і заўчасным паміраннем. Адчуванне перапляцення тагасветнасці і бясконцасці жыцця, пекла і раю. Адчуванне незагрубелымі яшчэ дзіцячымі

вуснамі і душой чужой тленнасці і сваёй уласнай працягласці, слодыч свайго, яшчэ неспаганенага дыхання сярод спарахнелых, сточаных мурашкамі крыжоў, сарамлівага, але густога паху першых яблык-жытніц, груш-мядовак, водару жнівеньскіх спелых садоў і цененька пахкіх, ужо ахопленых прадвосеньскім пустазеллем і пакрысе збываючых з грады ліпеньскае сонца брухатых гуркоў, крыху сумнаватага строкату нябачных у траве конікаў, што якраз такой парой пачынаюць касіць сабе на зіму сена, звону магільных, мядзяных і чугунных чмялёў. І ціхага падзынквання, як пробнае пазвоньванне царкоўных званоў, промняў яшчэ ласкавага цёплага сонца, што поўнымі жменямі сыплюцца з тваёй стрыжанай пад Катоўскага галавы, калі непарушную ціш старых бронзавых хвой, якія часам прарастаюць проста з магіл, гойдае і пакручвае задумлівы і ціхі вецер, набеглы з пяскоў прасёлкавай дарогі. Усяго таго, што ў сваю пару зведалі і панеслі ў сабе немаведама куды ўсе гэтыя людзі, якім загадана было назаўсёды супакоіцца, як у свой час будзе загадана і табе.

Ты, нябачны, быў з імі і пры іх. А яны, таксама нябачныя, былі з табой. Назаўсёды. Яны і ты. Ты і яны. Навечна параднёныя адным небам, адной зямлёй, горам і святам. Святам вечнай памяці дзядоў і бацькоў. А гэта значыць і цябе, працягу і бессмяротнасці зямнога насення і плоду. Бясконцае памнажэнне і адсоўванне ўсё далей і далей наперад будучыні твайго роду, што будзе і будзе нават тады, калі ад самога цябе не застаецца ні на зямлі, ні ў сусвеце і знаку. Толькі незразумелы і пахкі сум і водар прывялых і ў цвеце кветак, калі здалёку на зямлю насоўваецца навальніца, і ты даўно згарэлы і спапялёны, спрасаваны вякамі ў адлітую з падобных табе мірыядаў былых сусветаў і жыццяў маланку, імкнеш з далёкага касмічнага нябыту да роднага табе селішча, адзначаешся там і адначасова папярэджваеш, што плугам успароўшы зямлю пад парогам роднай хаты ці ў самой хаце, увайшоўшы праз акно ці комін, агледзеўшы яе — праведная яна ці спаскуджана ўжо. І калі што не так, прыхапіўшы некага з сабой. Часам прыхапіўшы, калі ўсё і

так — ад непазбытага і ў працягах космасу зямнога суму і дзеля вечнасці ўжо самой маланкі. Свята вечнага яблычнага Спаса Адама і Евы. Сонца ў небе і сонешніка ў руцэ іх дзіцяці. Іх стрыманай радасці, зрэбнай святасці, сарамлівай нецярплівасці маладых рук, ног, вуснаў. Было, было.

Асновай, вытокам і пачаткам усяго існага, бласлаўлёнага небам, сонцам і зямлёй. А дзе, дзе ж сёння ўсё гэта. Крыўдна, балюча і шкода свайго ж адчування і бязлітаснага ведання, што гэта — ужо незваротна. А мо, мо?..

Не, не! Бо ў яго жыцці, было, выпадала і нешта зусім процілеглае — непрыгожае і брыдкае. На вялікі жаль, зноў жа непарыўна з прыгажосцю звязанае і параднёнае. З той жа работай, хлебам надзённым і да шчымлівасці роднай хатай. Толькі куды большай за гэтую ягоную цяпер, прыглухлую, прамарожаную. Поўнае адмаўленне і адцуранне ад яе. Надарылася такое на падзеле ўсяго існага на чыстых і нячыстых. Толькі пра гэта ніхто яшчэ не ведаў і памысліць не мог, што такое магчыма. Так, нешта недзе выбухнула, грымнула, загарэлася. З рогатам нават успрымалася: падумаеш, нейкая адрына каля ракі згарэла. Затое, колькі мышэй ляснула. Толькі тымі мышамі былі людзі, хаця і тубыльцы. І адразу ж утварылася зона, што таксама не было навіной: усё жыццё так — з адной зоны ў другую.

Ён наездзіўся і нахадзіўся па той наваствoранай зоне. Наглядзеўся, як нудзіцца там звер і чалавек, яшчэ ж, пэўна, і шчаслівы: грошы ж добрыя плоцяць. А душа як заснулая, вочы расплюшчаныя, і рукі работай занятыя, а яна не хоча прачынацца. Хаця і сонца ёй хапае, а што ўжо цёпла, то такой парой і занадта. І лета надыходзіць — пашукаць такога. Вясна ўхапіла, прыдбала вады, а тут яшчэ нябесны аграном рупіцца і дбае — дождж за дажджом і прыпар. Усё аж буяе. Але і звер, і лес не радыя. Першымі замаркоціліся ракі, пачалі сыходзіць, пакідаць азярыны і рэкі. Яшчэ напярэдадні Вербнай нядзелі, у ноч, на якую адбылося няшчасце, — толькі куды яны пайшлі, ніхто не прасачыў: пайшлі, як іх і не было. Некаторыя з рыб тым годам адмовіліся нераставаць, набраклі сваім жа не прарослым ці, наадварот, прарослым

у сярэдзіне іх насеннем і не далі яму выйсця, што акіянскія гіганты-кіты выкінуліся на бераг і сканалі. І берагі рэк, мелкаводдзе прагорклых водаў доўга і серна смярдзелі. Лісы і зайцы выходзілі на асфальт і кідаліся пад колы машынаў. А лес сярод лета пачаў жоўкнуць і чэзнуць, сам па сабе пачаў гарэць, нібы сігналізаваў некаму, маліў аб дапамозе. Ці нехта з космасу па зямлі ўжо свечку паставіў. Паўсюль і знячэўку пачыналіся лясныя пажары. Людзі пры сухім тады законе і поўнай адсутнасці ў продажы гарэлкі пілі смертна і гарэлі накшталт таго ж лесу, як свечкі.

Ён адскочыў з зоны праведаць бацьку. Той таксама паскорана дагараў нутром. І дома, у прадбачанні яго згасання, на пачатку лета забілі кабанчыка. І ўсе, хто быў у хаце, хто жыў па суседстве, наваліліся на таго кабанчыка, бы з галоднага краю. Ён таксама не грэбаваў. Больш за тое, еў як не ў сябе. І ніякай гаркаты не адчуваў. Наадварот, так смачна еў, соладка піў, як гэта магчыма іншым разам толькі на хаўтурах. Як вымушае есці толькі смерць, згаладалая на сатвораным нядаўна забойстве. Наеўся свежаніны на ўсё жыццё, і сёння яшчэ не пазбыў таго чарнобыльскага балявання. І тады, адразу ж як адваліўся, адпаў ад стала, пагрэбаваў сабой. Як сёння пагрэбавалі яго хатай, яго жыццём, тым, за што ён гатовы быў закласці душу, адсекчы кожную з рук, якія ўсё гэта нажывалі. Злодзей толькі паздзекаваўся і здзекуецца, пэўна, з яго і зараз: стары дурань, жыццё пражыў, а ўкрасці няма чаго. Навошта толькі жыў?

Ён адчуваў сябе ў сваёй хаце, як у дамавіне, калі ўжо нічога ні табе, ні людзям не трэба. Як наплявалі ў душу, не кранулі ні рубанкаў, ні фуганкаў, нажовак па дрэве, метале і шкле. Пераступілі, як новы год пераступае праз стары, і пайшлі прэч. Не азіраючыся. Не, з такіх злодзеяў людзей ужо ніколі не будзе. Так пагарджаць сваёй прафесіяй, ягонай хатай. Залезці і нічога не ўзяць. Няўжо яна нявартая, каб у ёй, як у людзей, што-небудзь ды ўкралі. Няўжо ён так пуста пражыў жыццё. Калі ў яго нічога, што ж тады крадуць у іншых? Дзеля чаго страчваюць сорам і сумленне, ідуць па

турмах. Няўжо толькі дзеля гэтай брахлівай лупатай скрыні і нечага падобнага гэтаму пустабрэху.

— Чаго ж вы, мае яварочкі, галубкі вы мае, толькі прыходзілі?..

Зладзейкавата азірнуўся, нібы ў хаце мог быць яшчэ нехта, апроч яго, доўга і пільна пачаў прыглядацца да тэлевізара. Потым неяк знарочыста адвярнуўся ад яго і, гледзячы толькі сабе пад ногі, прытанцоўваючы, лёгенька і хуценька прайшоўся па пакоі. Пасля, яшчэ раз азірнуўшыся, з нейкай своеасаблівай нацятай расслабленасцю і ленасцю паляўнічага ката часта і мякка ступаючы па падлозе, зрабіў апошні, амаль няўлоўны крок, як прылашчваючы, ахапіў тэлевізар, ашчаперыў абедзвюма рукамі. Раз-другі, што штангіст цяжкавагавік, хукнуў, пазбавіўся ад назапашанага, да гэтага стоенага ў сабе паветра. І, адкуль толькі сілы ўзяліся, узняў, ускінуў пяціпудовы тэлевізар над галавой. Лёгенька так ускінуў, без напругі, нібы ўсё жыццё толькі гэтым і займаўся. Нейкае імгненне патрымаў яго ўгары і адштурхнуў ад сябе. Апусціў рукі і бразнуў тэлевізар на падлогу, ды так, што недзе на рацэ, падалося, лопнуў лёд, і, здаецца, па ўсёй зямлі пакацілася доўгае і гудлівае рэха.

А тут, у хаце, мёртвы тэлевізар адразу ж і адпомсціў яму. Узарваўся, выбухнуў кінескопам. Ці яго адкінула тым выбухам да дзвярэй, ці сам адскочыў туды, ён ужо не помніў бо ачомаўся, знайшоў сябе амаль што ў пограбе, у падполе. Сам не ведае, як наступіў на крышку люка, што прычыняла пограб, і тая кульнулася. Ён асунуўся, што той мех з бульбай, у пограб. У апошнюю хвіліну затрымаўся, распасцёршы ўбакі на масніцах рукі, як распяты, толькі не на крыжы, а сваёй уласнай хатай, паміж зяўрастай апраметнай настылага, патыхаючага цвіллю і тленам падполля і чысцюткай, што курыны жаўток, не сапсаванай ні пабелкай, ні фарбай столлю. Навісу, нагамі намацаў лесвіцу пад сабой, зацвердзіўся на ёй. І тут, у куточку, перад самым носам, убачыў тое, па што, па ўсім, маглі лезці злодзеі ў яго хату. Пляшку з-пад шампанскага. Пляшка — сапраўдная, а шампанскае самаробнае. З агрэсту.

— Ну і дзякуй Богу, — сказаў ён. — Бог не цяля, не. І ў маёй хаце ёсць нешта спажыўнае і патрэбнае людзям.

Павесялеў, але ненадоўга. Тут адразу ж яму было наканавана і расчараванне. Самаробнае шампанскае было выпітае толькі напалову. Дый ці выпітае. Каля пляшкі стаяла добрая лужына. Гранёная шклянка, цяпер менавіта шклянка, бо гэта толькі адзін ён піў са стакана, была таксама напалову недапітая. Ён панюхаў недапіўкі. Патыхала, здаецца, чымсьці належным.

— Ну, з Богам, — сказаў ён. — Не толькі ж злыдням піць шампанскае, трэба глынуць і гаспадару, так сказаць, разгавецца.

Ён са смакам прыклаўся да пляшкі. Але раз толькі пракаўтнуўшы, адразу ж і скасавурыўся, і ледзь не вылаяўся. Але, па ўсім, ён прыходзіў ужо да раўнавагі, нават пачуццё гумару абудзілася:

— Сярод паноў гэты шампан сышоў бы і за Брут, — паведаміў ён пляшцы, узняўшы яе перад тварам. — ...І гэта ты, Брут?.. Паскудства, браце, і не пытайся. Во дажыліся, дык дажыліся, як у французскім каралеўстве. Народ адмаўляецца не толькі пячэнне есці, але і піць шампанскае. І хрэн за мяса ніхто ўжо не лічыць, во як... Усё, прыйшлі.

Гэта «прыйшлі» было як прысудам яму і ягонай хаце. Усё, больш нічога спажыўнага і прынаднага ў ёй не мелася. Надта ж пераборлівыя, не па яго здабытку і жыцці, пайшлі злодзеі, нават самага мо з іх зломка, лайдака і п’янтоса, ён не здольны ўжо задаволіць і хоць чымсьці спакусіць. Калі і далей так пойдзе, то будзе, як тады: калі якраз народ адмовіўся лічыць хрэн за мяса, пачаў патрабаваць, каб мяса яму — асобна і хрэн — асобна. А гэтыя ж іх Высокасці бамжы са сметніка пачнуць і перад ананасамі носам круціць, ці даўно ў малодшых навуковых супрацоўніках хадзілі і марылі аб нейлонавай кашулі, балоневым плашчыку і джынсовых штоніках з прарэшкай на маланцы...

Нешта ён занадта ўжо разышоўся, час бы і спыніцца. Але, як гэта заўсёды з ім адбывалася, спыніцца ён спазніўся. Затахкала, затахкала сэрца і як у прочкі некуды пабегла.

Дарэмна, пэўна, увязаўся ён у бойку з тым гадам тэлевізарам, хапіла б і непадымнай чарнобыльскай памяці. Але, што зроблена, да таго не вернешся, не пераробіш. А па плячах ужо беглі мурашкі, дробненькія такія, і па старэчай зморшчанай скуры, што і без таго магла парвацца. І рвалася ўжо, рвалася. Так яму здавалася таму, што не любіў і нават грэбаваў сваім хворым целам, калі яму пачынала нядужыцца.

На самой справе цела яго было зусім яшчэ нестарым і ніколькі не зморшчаным. Спецыяльна правяраў, калі прымроілася такое: чалавека заўсёды знойдзе, наведае тое, пра што ён думае, чаго перасцерагаецца. А мурашкі ўсё беглі і беглі, халодныя, і таму не вельмі спора. І па целе холад пайшоў, працяў да самых пят. І панесла, панесла застойным холадам падполу, над якім ён вісеў, як абрэзаны па падпахі цемрай. Як квадратам Малевіча. Добра яшчэ, што так, што галавой па светлым можна пакруціць ды вачыма палыпаць. Але і не круцілася, і не лыпалася. Вось так бы лунаў і лунаў сабе паміж падполам, падлогай і столлю.Паміж небам і зямлёй, выбіраў, куды б гэта лацвей падацца грэшнаму, дзе яго больш чакаюць. Акно ж адчыненае, шыбы ў ім няма. Праз тую адчыненасць — куды хочаш, ніхто не ўтрымае, не заступіць дарогі.

Тым больш, як там хораша за акном. Ніякая там не зіма. Цёпла там, сонечна. І яблыні там цвітуць. Падобна... Не, зусім ні на што не падобна. Бо сад гэты зусім не тутэйшы, незямны. Сад шчымлівых і салодкіх дзіцячых і юнацкіх сноў, жаданняў, надзеяў, што ён заўсёды толькі наперадзе ў кожнага з тых, хто з'явіўся на гэты свет, якім ён трызніць да апошняга дараванага імгнення адчуваць і разумець, што яму яшчэ рана, рана, што, як бы там ні было, а наперадзе ў яго сад. І вось гэты весні сад сам праявіўся яму. Сярод зімы. У яго абрабаванай і зняважанай хаце. І рупіліся ў ім працятыя сонцам чмялі ў чорных світках, падбітых футрам, і пчолы, падпераразаныя слуцкімі паясамі, шчыравалі маляўніча ільсняныя шпачкі і лабаты сухарлявы муравейка, як у чоўне, пагойдваўся ў апалым ружовым пялёстку, робячы выгляд, што яму некалі, што ён хоча выхапіцца з яго, а на

самой справе з усяе моцы трымаючыся за яго прыпалены сонцам крайчык.

І дзяўчынка бегла плямамі сярод прагалаў трапяткой яблыневай квецені весняга саду. У тых прагалах то мільгаў блакіт ці зялёны гарошак яе караткаватай сукенкі, то праблісквала бель кофтачкі з аголеным ружовым, грэшна напятым выразам на грудзях.

Пад сонечны смех і шолах яблыневай квецені з цнатлівым выклікам дзяўчынка біла, сцябала па яго міжвольна бессаромных вачах абяцаннем вечнай бясконцай вясны. Такім жа вечным і недасягальным, як гэта мроістая квецень саду сярод зімы, як яна сама — заўсёды імклівая дзяўчынка, якой даўно ўжо цесна ў яе куртатай сукенцы і кофтачцы ў абліпку. Цесна ва ўласным целе, як, дарэчы, крыху ўжо сціснуты немаведама чым з нейкай пары і ён. Падобна, што яму цесна на зямлі. І час ад часу ў змроку ночы ён выратавальна пазбаўляецца гэтай сваёй сціснутасці і палохаецца гэтага пазбаўлення, заходзячыся ад сораму, прагне сніць яго зноў і зноў, бо тады ён лятае, уздымаецца ўверх і некуды ляціць. Ён бы і зараз паляцеў, паляцеў следам за дзяўчынкай, але не наважваецца лішні раз варухнуцца, каб не патурбаваць тую, што жыве ў дупле гэтай яблыні, у якую ён вымушаны ўціскацца, туліцца целам. У дупле яблыні жыве дрэўная гадзюка, куды больш небяспечная і ядавітая, чымсьці простая гадзюка. І на выгляд больш страшная, бо маскіруецца і пад кару яблыні, і чырванабокі яе плод. Пацягнешся за ім, і кранты. Ад дрэўнай яблыневай гадзюкі няма лекаў, няма паратунку, і хаця ён яшчэ не бачыў нікога з укушаных той гадзюкай, ніводнага памерлага, але ведае, што гэта праўда.

Дзяўчынка ж пра гадзюку, што жыве ў яблыні, не здагадваецца. Бегае, гойсае па садзе, бо ёй гэта куды як даспадобы. Даспадобы абабіць на сябе, ядраную пялёсткавую расу яблынь, разам з дажджом прахалодных пялёсткаў, умыцца і выцерціся імі. Гэта яе любімы занятак, штораніцы. І ён вымушаны бараніць яе ад гадзюкі ў дупле яблыні, ад яе самой, бо яна такая няўрымслівая, яна так прагне ўсё зведаць, адчуць, атрымаць наперад пчалы, птушкі і нават сонца, і цяпер

блазнуе, пацвельвае адразу ўвесь белы свет. І, зразумела, яго, бо менавіта ён трапіўся ёй на самым пачатку шляху, запаў у вока і крыху ў яшчэ амаль неіснавальную памежную лагчынку паміж двума толькі-толькі пазначанымі бугорчыкамі, соладка так падрапаў нечакана смелым і таксама абяцальным позіркам. А мо гэта ён так толькі прыдумаў. І яна яго прыдумала. А на самой справе яны падсвядома толькі ведалі, што ёсць, існуюць, створаныя для гэтага саду. А саду няма. А іх таксама няма. Няма ні рызыкі, ні радасці іх сустрэчы, няма ні дзяўчынкі, ні хлопчыка. Толькі, ні іх нават, мроі, здані, прывіды. Вечна спадзявацца і чакаць. І жыць толькі тым, чаго ніколі не было і не будзе, што толькі прамільгам, усхліпам стомленага цела праблісне ў вачах, замглёных салёным туманам здзеклівага часу. Праблісне і адпадзе, страсецца з панылай, апечанай вечным клопатам аб хлебе надзённым, душы. Адыдзе як насланнё.

Але не адыходзіла.

Дзяўчынка працягвала бегчы каляровымі плямамі сярод прагалаў яблыневай квецені весняга саду. Толькі калені мільгалі, толькі вочкі стралялі, некага, пэўна, шукаючы, уздымаліся, ападалі прыціснутыя да цела локцікі з пульхнымі ямінкамі на згібе. Дзяўчынка ўцякала з квецені саду на волю, за пчалой, што, прыгаломшаная водарам квету, ацяжараная лятучым пахам нектару імкнулася як мага хутчэй пазбавіцца мёду, што ўжо брагай хадзіў па целе. Пчала ўжо выцягнула набрынялаю радасцю салодкай ношкі душу з саду. Вось-вось павінна была выхапіцца з яго і рынуцца ў будучыню і дзяўчынка, назаўсёды пакінуўшы яго тут аднаго.

— Стой, стой! — крыкнуў ён і замоўк, бо не ведаў, што сказаць яшчэ, каб яна спынілася. І ці сапраўды хоча ён сёння, каб дзяўчынка спынілася, і яны сустрэліся.

Дзяўчынка як пачула няпэўнасць у яго крыку, працягвала бегчы далей. І яму зрабілася прыкра, што ён такі абыякавы ёй, непатрэбны, нежаданы сёння.

— Ты дзе цяпер? Ты куды цяпер і адкуль?

Дзяўчынка, не зважаючы на гэтыя яго цяпер ужо ўмольныя пытанні, махнула рукой, выпрастала яе так, што адразу

ж знікла, прыпухлая ямінка на згібе локця. Дзяўчынка яго не помніла. Забылася. А мо ён ніколі і не быў ёй у галаве. Як і яна яму. Ён ніколі не ведаў яе вузенькіх, што ластаўка, і такіх красамоўных то гарачых, то крыху толькі цёплых рук, не бачыў ніякіх ямінак, як не бачыў іх на шчоках яе. Але ж адкуль, адкуль яму вядома гэта зазыўная ўсмешка, крыху сарамлівая, а больш іранічная, ад нейкага недасягальнага, пэўна, яму жаночага ведання далечы, што чакае іх наперадзе, жалю, пратэсту і падпарадкаванасці разлучонасці і рознасці іх жыццяў і лёсаў. Адкуль усё гэта яму вядома. Ці не тагасветнае гэта ўжо веданне. Дзе ён зараз знаходзіцца. Адкуль ён узяўся, прыйшоў і куды ідзе.

Ён успомніў сябе. І яе ўспомніў. Успомніў усё.

У свой час, гэта калі не было ні зімы, ні лета, ні зямлі, ні неба — так лёгка, цёпла, і светла было яго душы... Яго душы? Яго душы! Амаль як зараз. Там і тады яны абое жылі ў гэтым вечным садзе. Парасткі заўсёды маленькіх і спешчаных яблыняў. Два вечназялёныя недаспелыя яблыкі. Чаму ім было наканавана такое, ніхто не ведаў і асабліва не прагнуў даведацца. Хіба трава ў каго пытаецца, чаму яна трава. Трава, дый годзе. Ёй хапае свайго спрадвечнага наканавання. Так было і з імі.

Але аднойчы ён — не, то быў не бунт і не пратэст, цікаўнасць: а што калі, а калі што, то што і калі — ён выспеліў два яблыкі і пайшоў шукаць яе. Зноў жа, невядома чаму і навошта. Мо і таму, што ў добрай хаце па адным за стол не садзяцца і лепшыя кускі з талерак не хапаюць. Разам, усё толькі разам: і ядуць, і плачуць. Разам, смеючыся і захлынаючыся да слёз ад радасці і трошкі ад незразумелага паху, слодычы і горычы, яны з'елі абодва яблыкі да зярнятак. Зярняткі ж таксама не выкінулі, ён сабраў іх да апошняга і захаваў. Пабраліся за рукі, далонь у далонь. І, ні на імгненне не раздымаючы рук, усю ноч моўчкі прастаялі пад дуплістай яблыняй. З адбітай памяццю пра тое, што тут жыве самая страшная на свеце дрэўная гадзюка, на світанні разышліся. Здавалася, да новага дня, хуткага вечара, а аказалася, назусім, на ўсё жыццё. Хаця далёка адно ад аднаго і не адбег-

ліся. Амаль усё жыццё ішлі побач. Але неяк не пажадна, не пачуццёва. І гэта пры тым, што зярняткі ён працягваў захоўваць, як нешта вельмі дарагое, бясцэннае, не забываючыся пра тое, што займеў іх якраз на яблычны Спас. Самы час, калі спеліцца яблыкам, калі жанчынам, што не раджалі, дазваляецца без граху іх есці. І гэта быў апошні час і апошні дзень, калі яны бачыліся, калі яны былі разам. І яшчэ пры садзе, з садам і ў садзе.

Хутка, вельмі хутка той сад іх растаў у небе, як паравозны дым. Ці не на другі ўжо дзень эшалоны і эшалоны, набітыя радаснымі і прасветленымі шчырасцю адмаўлення ад свайго жыцця і маладосці павезлі іх з эдэмскіх садоў, як некалі іх бацькоў на вайну. Павезлі, павезлі, павезлі.

Вьётся дорога длинная,
Здравствуй, земля целинная,
Здравствуй, простор широкий,
Весну и молодость встречай свою.

Да чаго харошая песня, харошая яму і сёння, тут ён нікольні не крывіць душой — проста ў аголены нерв усяго пакалення запала. І яшчэ адна такая ж прыцягальна-кранальная і душэўная: «И на Марсе будут яблони цвести...»

Каб тое, як гэта будзе на самой справе, ды хто ведаў. Каб хто-небудзь прадбачыў. Падказаў, направіў і спыніў. Хаця спыніць іх было немагчыма, дарэчы, зноў жа, як іх бацькоў, калі тыя бралі рэйхстаг. Адно толькі, прастор аказаўся занадта ўжо шырокім, неабсяжным. Прыдатным для безыменных магілаў маладосці, кахання і шчырасці. Яны згубіліся спачатку сярод раскошы і багацця чужой зямлі, на якой — не тое, што на Марсе — яблыні чамусьці расці адмаўляліся. І гэта не толькі засмучала, але нагадвала пра нешта процілеглае багаццю на пакінутай імі бацькаўшчыне.

Што ж на самой справе іх так развяло і згубіла — пярэсыць ці жабрацтва, ён не помніць, забыўся яшчэ там. Там увогуле шмат каму адбівала памяць на родную хату бацькоў, пакінутыя недзе свае занядбаныя, а з цягам часу і зведзеныя

руплівымі мічурынцамі, дбайнымі гаспадарамі родныя сады, бо яны ўжо былі чужымі бацькоўскім кладам — жывыя іх нябожчыкі дзеці. На ўсё гэта ў іх не было памяці.

І толькі зярняткі ад з'едзеных у дзяцінстве яблыкаў у кішэні.

Рудыя і зморшчаныя, што саскі жанчыны, якая не зведала дотыку свайго дзіцяці. Ён намацваў іх у кішэні святочнага касцюма, кожны раз хацеў выкінуць. Але нешта спыняла яго. Толькі аднойчы — зноў правал у памяці. Ён хацеў дастаць іх з кішэні, зірнуць і прылашчыць. А іх ужо не было. І яго больш нічога ўжо не трымала на чужыне, бо нічога роднага ад сваёй зямлі ні пры ім, ні ў яго не мелася. Адмовіліся сніцца нават сны пра квітнеючы сярод зімы яблыневы сад. І ён ціха сышоў з чужога жыцця і чужой зямлі. І дайшоў, даклыпаў сюды. Мо і па яблыневым паху, што не вымарожваўся тут і ў самыя строгія і сіберныя зімы. А мо яго сюды прынеслі, бо ногі ўжо часам таксама адмаўляліся ісці і сэрца працівілася — помніла, як ён наступіў на яго і згвалціў, пайшоў яму насуперак: зярняткі збярог... Збярог зярняткі, а яблык з'еў.

З'еў і яшчэ патрабуе міласэрнасці і ўдзячнасці. А з зярнятак тых так нічога і не вырасла. Толькі аднавіліся, выспелі зноў зімовыя прывідныя сны. Уначы ён зноў пачаў сніць, як у завіруху падбягае пад акно, нібы пагрэцца просіцца, яблыневы ў ружовай мяцеліцы сад. Шкрабецца ў ссінелую з панадворка шыбіну голлем, умольна лашчыцца змерзлымі пялёсткамі і маладым, яшчэ неразгорнутым напоўніцу лісцікам. Ён прахопліваўся, голы і босы выскокваў на двор: нікога. Пуста, пуста, пуста. Толькі босы след яго ж ног на снезе, як след снежнага чалавека, і нешта няпэўнае, нейкае шэрае ці то ў небе пад зімовымі зоркамі, ці то пад самым лесам, каля далягляда ў.

І толькі во зараз ён бачыў свой сад да апошняй драбніцы. Не сніў, не трызніў ім. Бачыў нават лепш, чымсьці ўдзень. Бо глядзеў на яго маладымі, не натруджанымі яшчэ вачыма. І сам сад, яшчэ малады і дужы, ахапіў яго і яго хату белай, ружовай паводкай, малозівам велічнай і спорай вясны. І сама

гэтая вясна, як дзяўчынка, бегла плямамі сярод прагалаў сарамлівай яблыневай квецені весняга саду. Спынілася пад яблыняй, у дупле якой колісь, а ён упэўнены, што і сёння, жыла і жыве яшчэ дрэўная гадзюка.

— Глядзі ты, — сказаў ён. — Гэта ж нашае дрэва, нашая яблыня, яблыкі з якой мы з'елі ў дзяцінстве.

— Знайшоў што ўспамінаць, — адказала яна так, нібы яны ніколі не разлучаліся, век звекавалі ў гэтым садзе, у гэтай хаце.

І чамусьці голасам Фенькі, з якой ён гаварыў гадзінудзве таму.

— Як жа не ўспомніць. Якраз жа і надышоў час нам успамінаць.

— А што ўспамінаць, зноў вярэдзіць душу. Што ўжо з'едзена, тое з'едзена.

— Так... Але ж...

— Вох... Але ж... І алешнік наш ужо ссох, ссечаны і спалены ў печы. Сёння ад нас ужо ні агню і ні жару. Шкода толькі адно сённяшняй жыткі.

— Не большая, чым мы нашкодзілі некалі самі сабе.

— Ты нашкодзіў? Не паверу, — сказала яна. — Хаця... — Яна наблізілася да яго, правяла па яго твары даланёй, такой жа лёгкай, як крыло ластаўкі, як і раней. Як і раней, ён адчуў водар палыну, рачнога плёсу і засмяяўся: ёсць, ёсць, не зусім адбіта, аказваецца, памяць. І яна засмяялася:

— Во які ты калючы. Ты такі толькі сніўся мне, а я хацела, усё жыццё папікала сябе, што разышлася з табой, калі ты яшчэ галіўся ўціральнікам. А цяпер ты...

— Цяпер так, цяпер я такі. А ты... Ты якой была, такой і засталася. А я, вось бачыш, падбіўся... Даруй мне, жыццё маё. Даруй...

— Не бяры ў галаву, а то яшчэ заплачам. А чаго плакаць. Яблык з'едзены, зярняткі згубленыя. З нас ужо нічога не прарасце. Мо толькі... Ты чуеш, ты чуеш?..

Ён нічога не чуў, бо слухаў толькі яе, даўнюю, такую ж, як і ў мінулым, але яна гаварыла сёння чужым голасам. А мо гэта быў і яе голас, але ўжо адтуль.

— Ты дзе? — спытаўся ён яе.

— Нідзе, — адказала яна. — Ты разгадаў мяне. Я пайшла.

— Пачакай, пачакай, мы разам, — ён хацеў рвануцца следам за ёй, але ногі не слухаліся яго.

— Час чакання скончыўся. Ідзе, набліжаецца, б'е зусім іншы час. Ты чуеш, ты чуеш?

Цяпер ён ужо таксама чуў. Шолах і сыканне. І адразу ж здагадаўся, адкуль ідуць гэтыя гукі.

— Павярніся, — загадала яна.

— Я ўжо спрабаваў, ногі не слухаюцца, не магу.

— Можаш, — загадала яна. — Гэта куды лягчэй, чымсьці нам пражыць адно без аднаго. Паварочвайся, мужчына.

І ён адразу і вельмі лёгка павярнуўся. З залепленага цяпер ужо снегам дупла, сыкаючы раздвоеным лязом хіжага языка, выпаўзала, паляскваючы чырванню бляшак на галаве, гіпнатызуючы яго мёртвым вокам вялізная, у аспідную і шэрую палосы дрэўная гадзюка. Звесіла з дупла галаву, нібы прыглядаючыся, куды абрынуцца, да каго прыпасці, але, пэўна, прыпадаць перадумала, нацэлілася, стрэліла галавой наперад, у яго. Але не дацягнулася, напалову, а мо толькі і на трэць выпаўзла з дупла, мёртвым вокам шукаючы яго вочы.

— Не зводзь толькі вачэй, — пачуў ён голас адзаду. — Вочы ў вочы.

— Вочы ў вочы — няправільна, — не пагадзіўся ён. — Я чытаў...

— Ты чытаў казкі. А тут табе... Хто каго пераломіць. Гэта я, гэта ты сам перад сабой стаіш. Хопіць сілы не адвесці вока, прайсці праз сябе і застацца — застанешся. А не, то пойдзем ужо разам. Выбірай. Мо так яно і лепей. Мо толькі цяпер планіда нашая так легла — быць разам. Пагадзіся і супакойся. Суцішся. Пойдзем нарэшце разам у вечны сад. У вечны сад. Хопіць ад мяне бегаць. Я прыйшла па цябе. Я скучыла там па табе. І не жадаю... Жадаю, каб больш ты ад мяне не бегаў, не ўцякаў.

— Гэта я ад цябе бегаў, гэта я ад цябе ўцякаў. А ўспомні..

— Добра, мо і так. Ты шукаў і я шукала. Толькі не дадзена нам было ведаць, што мы шукалі адно і тое ж... адно аднаго. Ты згодны пайсці са мной? Ты гатовы?

— Гатовы, — сказаў ён.— Але зірнуў у мёртвае вока гадзюкі, адчуў халодны жах яе языка, што ўжо амаль датыкаўся яго твару, убачыў белы зубік, у якім пагрозліва стаілася ўжо яго небыццё, і адчуў, зразумеў — хлусіць. Хлусіць, хоць яму і вельмі не хочацца хлусіць менавіта зараз. Менавіта зараз ён аж са скуры вылузваецца, каб захаваць праўдзівасць, застацца чыстым. Ужо назаўсёды. І было ў ім яшчэ штосьці больш моцнае за гэтую прагу чысціні. Нязгода, нежаданне каму б тое ні было падпарадкавацца. Не, хай будзе як будзе, але толькі не па загадзе, не па прымусе. Па сваёй уласнай волі, па тым, як паднявольна, свабодна пражыў на гэтым свеце, як і ўвесь яго род ад першага да апошняга калена. Свабодна і вольна. Заўчасна падалі, было і ад чужых рук. Але не скараліся чужой волі, бо шанавалі сваю і сябе шанавалі, сваю душу.

— Ну, хопіць упарціцца, давай, мой даражэнькі, — мовіла дрэўная гадзюка. — Чаго ўжо тут, толькі помні, гвалтам я нікога не бяру. Я падбіраю толькі ахвотнікаў. Так што згаджайся і выбірай. Хаця чаго тут асабліва выбіраць.

Але ён усё ж выбраў. Ён выбраў, выбраў...

У сэрцы былі лагода і спакой, яно, па ўсім, было задаволена, нешта выбрала. Толькі ён з пэўнасцю не мог адказаць — што. І не маркоцілася, не перажывала яно ні кропелькі, нібыта то было і не сэрца, а проста кавалак мяса. І не балела яму, як і заўсёды, як і ў тыя разы. А гэта ўжо быў яму ці не трэці званок. Добрае сэрца ў яго, літасцівае і памяркоўнае, не зводзіла ні скрухай, ні болем. Толькі напачатку, як шворанам, што свінню б'юць, нешта пеканула яму — і ўсё: «Я люблю тебя жизнь»... Па ўсёй грудзіне соладка так, соладка. І ўсярэдзіне. Хоць рукой залез туды ды пазбаўся слодычы, выграбі лішні цукар. Так ужо нешта там свярбіць, так свярбіць, спасу няма, як кароста туды прыпала. Так, каросліваая гэта рэч. Каросліваая і салодкая. Хлусяць людзі, салодкая. Веерам, веерам слодыч па артэрыях і венах, па ўсім целе, як кругі па вадзе. І апошнія разыходзяцца ўжо слабенька, затухаючы, а першыя яшчэ ў салодкі смак пульсуюць.

Ён добра зведаў несуцішнасць і несуцешнасць такой саладжавасці. Кожны раз разумеў, гэта ўжо не так званы намёк, нешта зусім іншае больш строгае і пагрозлівае. І кожны раз адмаўляўся верыць, здавалася б, ужо непазбежнасці, нават лаяўся: я таўстаскуры, калі толькі не ў лоб ці па лобе — не разумею і не прымаю, адчапіся ад мяне, дурында старая, бо і сам яшчэ магу і ў лоб і пасярод лоба, так, што макацоўбіна на друзачкі, а на срацы — скурка лопне.

Палохаў так. І калі не атрымлівалася напалохаць, пачынаў адхрышчвацца і ўгаворваць, шукаць зачэпкі, чаму ён не гатовы: некалі яму яшчэ туды — рана. Не, жыццём задаволены, нацешаны. Тут наракаць няма чаго і на каго — сваё ж, як ужо распарадзіўся, так распарадзіўся.

Ну, было, было. І за ветрам, і па ветры столькі пусціў. Але ж калі жыта на таку малоцяць ды веюць, хіба толькі адна мякіна адлятае. Колькі ж і зерня прападае пропадам — літога, важкага, спелага. Чаму ж табе так падпірае, чаму так рана ты прагнеш прыбраць, упарадкаваць і выправіць мяне ў незваротнасць. Не, гэта я не толькі ў цябе пытаюся. Ты нішто, ты толькі касарка. І мы з табой цалкам роўныя. Я ж, як і ты — толькі работны інструмент на гэтай зямлі. Падобна табе — прыбіральшчык і чысцільшчык. І шмат чаго і каго, твая праўда, прыбраў. Толькі ніколі нікому не забягаў наперад, бо сама ведаеш, з тым, хто ўсіх імкнецца апярэдзіць, добра толькі гаўно есці. Прыходзіў і ў лес, і ў поле, і на сенажаць толькі ў належны час, калі ўсё выспявала ўжо само, само прасілася туды, прадчуваючы сваю неабходнасць на чыйсьці працяг. Я звяртаюся да тых, хто за плячыма ў цябе, касарка. Адзін — справа, другі — злева. Няўжо я вам такі неабходны, няўжо ў вас там так не хапае работнікаў, што без мяне і не абысціся?

Калі сапраўды такая ўжо вялікая нявыкрутка, я згодны, я пайду. Нават на галенне траціць часу не буду. Пайду, бо заўсёды па першай жа просьбе падымаўся і ішоў, не пытаючыся, куды мяне клічуць, куды вядуць-гоняць. Так не толькі мяне, так і пясок на гэтай нашай зямлі ганяла з краю ў край — з выспаў на палеткі, з палеткаў на балота, а адтуль ужо і ў неба,

у вечны вырай. І паслухмяна ў той вечны, а часам і чужы вырай ляцелі лясы, балоты, рэкі і ручаі. Дубы з хвоямі, ракі са шчупакамі, ваўкі з зубрамі. Дзеці нашыя, немаўляты — душы нашыя жывыя і яшчэ ненароджаныя, якіх не ўведалі мы, якія не ўведалі нас. Мо таму мы і ацалелі, захаваліся на матухне-зямлі, што вакол нас — і ў небе, і пад нашымі нагамі, на дрэвах, якія дачасна ссечаны, у рэках і азёрах і нашым колішнім моры, перасохлым моры Герадота — гэта ж трэба так: усе астатнія моры ацалелі, а нашае перасохла?! — на зорках у далёкім космасе столькі згубленых і загубленых нашых душ. Столькі іх, пяшчотных, самаахвярных і трапяткіх, гатовых заўжды ахвяраваць сабой у нас пад нагамі, пад нагамі нашых ворагаў і чужынцаў. І нават у кожным з нас. Сярод іх недзе і мае бацькі, мае ўсе крэўныя і родныя, і проста бясконца блізкія і прыязныя да мяне людзі. У памяці і сэрцы кожнага з нас. На кожным нашым плячы, на кожнай нашай валасінцы, у кожнай нашай слязінцы. І калі трэба, калі яны там без мяне не ўпраўляюцца, я пайду. Пайду дапамагчы ім там, як яны мне тут зычылі і дбалі.

Толькі ж, яварка мая, я неблагі яшчэ работнік і тут. Магу і ў хаце, і з сякерай для хаты, спраўны яшчэ і ў полі, спрытны ў лесе, упраўны ў лузе. Праўда, рукі сёння адбіваюць. Але калі іх таму, хто робіць, хто прагне работы, не адбівалі. Заўжды абсякалі па локаць залатыя на гэтым свеце рукі. Таму што на кожнага, хто зваўся чалавекам, меўся і яго злыдзень. Не бывае краю без дзіва, а чалавека без чорта ў ім. І хоць я тут толькі госць, але гасцюю спакон веку. І каб на мне не перарвалася гэтае гасцяванне, не скончылася вечнасць, мяркуйце самі, дазвольце аздобіць зямлю сваім працягам — бульбай і жытам, гарохам і бобам, пасадзіць яблыню, зрабіць шпакоўню...

Так ён маліўся і маліў некага, калі на дварэ была вясна. Калі ж прыхоплівала сярод лета, маліцца было некалі і некаму. Заход сонца сыходзіўся з узыходам, адзін дзень перацякаў у другі, і над зямлёй стаяла вечнае аднадзённае лета з непрытушаным ні на хвіліну, поўным прыспешлівай радасці і агню сонцам.

Увосень самім Богам было наканавана адмахвацца ад хваробаў і збіраць, збіраць у засекі, падпол і падол тое, чым адорвала чалавека тая ж вечнасць. А паміраць сярод зімы, лічыў ён, гэта проста нахабства. Па-першае... Самому неяк не хочацца. А па-другое, і, асноўнае — гэта ж колькі клопату людзям. Шукаць сярод снегу месца і не ведаць, добрае яно ці не. Дзяўбсці мерзлую зямлю. Цягнуцца ў холад за трунай і праклінаць нябогу — увогуле неблагога пры жыцці чалавека. Дзіўнае нешта атрымлівалася: паміраць добраму чалавеку — няма пары. Хаця ён па-тубыльску ўжо і не ўпарціцца, згодны ўжо да смерці. Толькі каб сышлося ўжо на такі час і дзень усё так, каб не шкода было развітвацца з белым светам і назаўсёды заплюшчваць вочы. Ды няма, няма ні ў яго, ні ў Бога, ні ў чорта такога дня.

І сённяшні дзень, хай выбачаюць, не ягоны, перапрашаем пана, — не і не. Ён так-сяк выкараскаўся з падполу. Спачатку перакатам пакаціўся да пакойчыка, дзе ў яго яшчэ з мінулага года захоўваліся лекі. Каля дзвярэй у той пакойчык — быў ужо на нагах: нягожа чалавеку паўзці праз парог. Трымаючыся за сцены, даклыпаў да шкапіка з лекамі. Адчыніў яго і здзіўлена адхіснуўся. Не, нешта там мелася, але ж і прыблізна не столькі, колькі ён пакідаў. Валідолу дакладна ў два разы меней. Сам купляў апошні раз па восені і клаў дзве, дзве ўпакоўкі, а тут толькі адна. І карвалолу адна бутэлечка, і валяр'янкі палова толькі пляшачкі. Няўжо, яварка ты мой, цябе прыхапіла ў маёй хаце? Як жа добра, што лякарства было. А то і падумаць страшна. Улез бы ў хату, а тут — нябожчык. Зацягалі б...

Яму зрабілася сорамна і горача, што ён так думае аб смерці чалавека: аб сабе думае. Але гэтае запозненае шкадаванне чужога яму чалавека было ўсё ж не зусім шчырым, ад розуму, а не ад сэрца. Ад сэрца, кальнула яму, у гэтай хаце магло быць два нябожчыкі: злодзей і гаспадар. Зірнуў бы ён на нябогу, пакаціўся б сам. Хаця, калі меркаваць, як той жа злодзей абышоўся з яго лекамі, чалавек гэта быў не зусім яшчэ канчаны, такога варта і пашкадаваць, спагадлівы і праніклівы. Другі па сённяшнім часе выграб усё і не мірг-

нуў. Хворы быў чалавек. Як жа гэта яму хапіла яшчэ духу пайсці ў злодзеі. Калі слабое здароўе, трэба ісці... Але куды ісці сёння са слабым здароўем, ён так і не прыдумаў. Не ў бальніцу ж, канечне. Сёння, каб лячыцца, здароўе трэба, уга, — жалезнае. А калі купляць яшчэ і лекі, то тут ужо і яго не хопіць. Застаецца толькі ці моўчкі паўзці на могілкі ці, сапраўды ўжо, ісці красці. Але, як той, хто збірае недакуркі, ніколі не займее капу грошай, не выйграе мільён, так і той, хто крадзе валідол, — ніколі ўжо не аздаравее.

Як пакутнік пакутніку — ніхто апроч нас не ведае нашых пакут, тайных слёз, цаны нашай бадзёрасці на людзях. Бо сярод нашых людзей на самым пачатку ўжо так заведзена, не хваробамі выхваляюцца, а багатырствам, і то ўпотайкі. Мо таму і не чуваць нашага голасу ў свеце... Лухта. Здаровыя мы. Мо нават і занадта, бо хапае ў нас моцы і духу не назаляць свету, захоўваць і насіць усё сваё ў сабе. Іншай бы нацыі чалавека ад гэтага свайго ўжо разарвала б на часткі. А мы не толькі цэласна жывыя, а яшчэ ўсім, чым можам, і з сусветам дзелімся, сваімі дабротамі, сваімі лепшымі людзьмі. Гэта ж куды на свеце палкай ні кінь, трапіш у беларуса. Ды не абы-якога, выбітнога сярод тамтэйшых людзей. Бо чалавек і тут, і там, і на тым свеце — чалавек. Толькі ў беларуса радзімы няма, сірата ён дома і ў свеце сірата.

Цяпер ён ужо шчыра шкадаваў невядомага яму чалавека, нягледзячы на тое, што ён паквапіўся на ягоную хату: хай будзе, чалавеча, на здароўе табе мой валідол з карвалолам, як хворы хвораму зычу. Сустрэнемся, слова благога не скажу. Мо калі і ты мне нечым дапаможаш. Ніхто не ведае, дзе сёння знойдзеш, дзе згубіш. Хай мне гэта будзе саломкай папераду, калі, не дай Гасподзь, давядзецца падаць.

Ён надарваў аблатку, выцягнуў валідоліну і паклаў пад язык. Трэба было мо хоць кольвечы пасядзець, ачомацца. Мяркуючы па ўсім, ён абышоўся, расплаціўся з тым, хто наведаў яго хату, толькі лекамі. Хваляваца не было чаго. Але ў ім зноў абудзілася нецярплівасць гаспадара, толькі ўжо не роспачнага, які не ведае, што рабіць і куды кінуцца, а чалавека, якому ад клопатаў і дыхнуць няма калі. І ён, адчува-

ючы, як з кожным крокам здаравеюць ногі і праясняецца ў галаве, ціха пасунуўся зноў да падполу. Хацеў паставіць на месца люк, зачыніць лаз, але чамусьці перадумаў. Апусціўся перад лазам на коленцы, пачаў спаўзаць уніз, вобмацкам шукаючы нагамі лесвіцу. Знік у пограбе і там нешта доўга поркаўся, палячы адну за другой запалкі.

Усе дзверы ён пакінуў адчыненымі, і вецер наскрозь прадзімаў хату, варушачы посцілкі і фіранкі. З панадворка праз выцягнутую з аканіцы шыбіну чулася пацвельванне шпачка на яблыні: піў-піў-піў. Не то пытаўся ў некага, не то сцвярджаў мо трохі захмялелы ад радзімы шпачок. Піў! Піў! Піў! Выгаворвала яму з бярозы, што стаяла непадалёку, шпачыха. На той жа бярозе яшчэ з даўняга часу была і шпакоўня. Але і ў ёй, пэўна, як і ў хаце чалавека, назапасілася за зіму і вільгаці, і праху адмерлай пары года, паху акалелых і перапрэлых там за зіму матылькоў, жучкоў і казюрак, што ўпадабалі чужыя хароміны пасля таго, як некуды зніклі гаспадары.

Мінулагодні перадзімні матылёк, а мо ўжо і сёлетні, весні, і зараз трымаўся нялётнымі, праўда ўжо, амярцвела касцянымі крылцамі і прырослымі лапкамі за шурпаты яму калочак перад кругла выразанай дзіркай — шпачынымі дзвярыма. Але шпакі на таго мёртвага матылька не зважалі і на сваю хату таксама не звярталі ўвагі, упэўненыя, што яна ў іх ёсць і будзе. Недарэмна ж так доўга блукалі яны па свеце, правяралі, дзе хто і як жыве, і помнілі, помнілі. І вярнуліся з бежанцаў, з благаслаўлёных і цёплых краёў у пакуль што няўтульнасць, холад і нястачу, каб працягнуць, хай і на пакуты сабе, свой род. І таму так голасна і зладжана падцягвалі адно аднаму: пілі-пілі-пець, пелі-пелі-піць. Пелі, як сапраўдныя п'янтосы за сталом у князёўны-вясны, ніколькі не дбаючы пра тое, дзе і як давядзецца начаваць. Дый, пэўна, не адну ночку: з мілым рай і ў шалашы. А тут перад імі быў жа зусім не шалаш. Хата. Чалавек меў хату. А калі яна ёсць у чалавека, то і птушцы няма чаго тлуміць галаву. У хаце чалавека ўсе памесцяцца і ўсе паладзяць. Птушкам каля чалавека дзень будучы заўжды забяспечаны.

Святло з пограба перастала выбліскваць. У чалавека скончыліся запалкі. Ён порстка ўжо цяпер, па-маладому вылез з пограба. Узяў з прыпечка карабок з запалкамі, што заўсёды ляжалі там. Непадалёку ад іх на краёчку ў вялікай місе, куды скідвалася ўсё, што, здаецца, не мела ніякай патрэбы зараз, але кожную хвіліну магло быць край як неабходна. І вось надышла якраз такая хвіліна. Ён знайшоў у місе агарак свечкі і пахваліў сябе, што не паслухаўся і не даў яго выкінуць падчас бясконцых жончыных прыборак. Запаліў свечку і зноў апынуўся ў падполе. Адразу ж, калі павярнуцца да лесвіцы плячыма, каля цэментаванай сцяны падпола стаялі рознакаліберныя — ад аднаго да трох літраў, шкляныя слоікі з саленнямі, варэннямі і марынадамі. Жонка пашчыравала, нарабіла сабе і дзецям. І больш сабе, бо дзеці, калі за імі не прыгледзець, спажывалі ўсё магазіннае. А тое магазіннае... Казённае і ёсць казённае. І цана нялюдская: дзе ж гэта бачана, каб гурок быў у адной цане з мясам. Гэта свой, айчынны, а заморскі — у два разы і даражэй за кіло камароўскай гавяды ці парасяціны. Ён пальцам пералічыў слоікі, дарэчы, некаторыя з іх былі перакуленыя, а адзін і пабіты, услых адзначыў:

— Цёпла. Ужо цёпла. Роўна палавіна... Справядліва. І, відаць, не з бальшавікоў. Тыя рэквізавалі б усё падчыстую.

Але ў наступную хвіліну ён ужо быў гатовы перамяніць сваю думку. Па левую руку ад слоікаў на зеленавата вільготным жвіры ляжалі тры бульбіны. І адна толькі цэлая, некранутая, а дзве як драчкай падзёртыя, добра так пагрызеныя мышамі. І па абодва бакі ад іх — толькі знакі ад бульбінаў. Ямачкі, ямачкі і нічога болей.

— А тут ужо і горача, — зноў прагаварыў ён. І яму сапраўды рабілася горача. Ён не чакаў таго, што адбылося, падняў ацалелую бульбіну, паднёс да вачэй: — Было ў мяне поўнае вядро Раю. Дзе ж ты мой Рай? А дзе ж «Явар», «Лугаўская», «Украінская», «Адрэта», дзе ж ты мой «Скарб», нарэшце?

Няўжо гэта і ўвесь мой скарб?..

Так як адказу ніадкуль чакаць не даводзілася, ён унурыўся, прысеў на прыступку лесвіцы. Успомніў пра валідол,

што ўсё яшчэ трымаў пад языком, выкаціў яго ў рот і ўзяўся смактаць, цундоліць, як немаўля соску. Пазіраў на слядкі — ямачкі ад бульбы, на дзве пагрызеныя ў куце бульбіны, адну ацалелую ў руках, пакручваў яе ў пальцах і маўчаў. Але ж нешта муляла яму, седзячы ў пограбе сярод адпалавіненага і знесенага свайго скарбу. Ён бы нешта спрабаваў мовіць жалобна сцятымі вуснамі, ды нічога не выгаворвалася. І ён толькі смактаў і смактаў сваю дзедаву цукерку, валідоліну, як трус моркаўку.

Праўду кажуць, старыя людзі дзяцінеюць. З нейкай пары пачаў дзяцінець і ён. Адчуваў гэта, але не хваляваўся. Уцёкі ў мінуўшчыну, а тым больш неазмрочаную, дужую, поўную грыбоў, яблыкаў, сцежак і дзевак — што можа быць лепей. Асабліва сёння, калі направа пойдзеш — каня згубіш, налева — галаву. І прама ісці заказана, бо ўжо той правільнай дарогай выхаджана і стаптана, выпалена да мрояў, надзеі і душы і, галоўнае, на старасці ў адведках свайго дзяцінства — вярнуцца з яго, не размінуцца з самім сабой, ускочыць у сябе, свае гады, хаця часам не вельмі і хочацца. Зірніце ў вочы таму ці іншаму старому сёння — гэта ж невяртанцы. Яны ў сваім узросце захварэлі, упадабалі часы свайго дзяцінства, маладосці і назаўсёды засталіся ў іх.

На гэтым жа ён не раз падлоўліваў і сябе. Журыўся, пасміхаўся, але і пільна сачыў, каб хвароба не стала хранічнай і незваротнай. Адсюль жа бяруць пачатак яго прыгоды і з бульбай. Раней ён еў яе, не зважаючы на бульбяныя чыны, званні і гатункі, толькі была б яна з яго рук. І ўсе ў яго куце вызначалі бульбу зусім не па высакароднасці і чысціні паходжання, не па гатунку. А па тым, дзе, на якой зямлі, яна расла. Зямля падроўнівала ўсе высакародныя гатункі да сябе, да чалавека, які яе садзіў, да яго палеткаў, сотак, дзе яны месціліся. Так было заўсёды. Ад каго ён набраўся новай бульбяной навукі, не ведае і сам. Толькі на старасці гадоў зрабіўся надта ж пераборлівым. А мо тут пачало адбівацца і нешта больш істотнае. На Беларусі імкліва пачаў павялічвацца лік гатункаў бульбы. А сама бульба, як гэта ні дзіўна, пачала знікаць. Варыш яе, варыш, а яна нібы камень ці глі-

на. І ясі яе, як шкло. Праўда, давалася ў знакі і нішчымніца яшчэ. Бульба з бульбай добра адзін раз на дзень, а калі тры разы ды з дня ў дзень, дый запар яшчэ — і год, і другі, і трэці. Хаця не, былога смаку ў ёй ужо не было. А тут да ўсяго прыкінулася да яе і нейкая хвароба, накшталт людской эпідэміі грыпу ці яшчэ якой заразы: адзін год — дробненькая, што шрот, другі — крыху большая, толькі нейкая надта ж карослівая і збалелая, як жалеза ад іржы, рудая з самой сярэдзіны. А трэці — увогуле, невядома і навошта садзіў. І сам не гам, і людзям не дам, і жывёла есці адмаўляецца. Такі пруцень прыкінуўся, што пачынаеш яе лупіць — жывога месца не застаецца, сточаная наскрозь такімі пакручастымі хадамі, як душа ката. І пахне брыдка. Вось тады і надумаўся ён развесці сваю бульбу, вывесці свой гатунак. Гады ці не тры, дзе прыглядваў і прасіў, дзе перакопваў ужо выкапанае поле, дзе прыкупляў. Хаця людскую насенную бульбу лягчэй было ўкрасці, чымсьці купіць: пасадзіць сотку ці дзве — кабана на тыя грошы, што патрачаны на насенне, можна было прыдбаць.

Але, як там ні было, свайго ён дамогся. Мяхі з два элітнага насення па восені з думкай, як распарадзіцца ёй сёлета, укінуў у пограб. І бачыў ужо, бачыў, нават сніў, як бела-сіне і ружова зацвіце яна, пераапыліцца — ён сам возьмецца яе апыляць. Атрымаецца нешта надзвычайнае — бульба Наская, Вясковая. Яго.

І цяпер усё ляснула. Замест бульбы валідол у роце. І горкі ж, і едкі, зараза, смакчы яго напрадвесні, седзячы ў пограбе, што партызан. Вось табе і чаго прыходзіў, чаго прыходзіў. Таму і прыходзіў. А ён яго яшчэ і шкадаваў, быў гатовы бегчы за ім следам, каб аддаць свой апошні валідол з карвалолам. А цяпер ён бы яму, ён бы яго...

Але, чым больш у падполе ён надзімаўся горыччу і помстай, свечка гарэла, гарэла і згарэла. Смярдзюча шпокнула і патухла. І ў ім таксама нешта пачало атухаць, выспяваць ужо зусім іншае. Хаця таксама пратэстнае, але скіраванае і на самога сябе. Тут ужо нічога немагчыма было паправіць, украдзеную, а мо ўжо нават з'едзеную бульбу не вярнуць.

І трэба было неяк супакойваць сябе, рыхтавацца жыць далей. Мо і ашукаць пры гэтым сябе, бо яго жытка спрэс адно толькі ашуканства. А калі так, то ці варта прызнавацца ў гэтым нават сабе. У такім выпадку, пры такой праўдзе лепш пяцельку на шыю. Але яму хацелася, як бы там ні было, працягваць жыць. А калі што, дык і на тым свеце. І мо ўжо нават больш на тым, чым на гэтым. Гэты ён прайшоў, зведаў. І спадзяецца. І менавіта на гэтым свеце ён каторы ўжо раз праг як мага ямчэй ашукаць сябе. Знайсці апраўданне нават таму, хто паквапіўся на яго апошні скарб.

І ён знайшоў, спрабуючы намацаць у поцемках шыльдачку з надпісам «Скарб». Так, у яго кожны гатунак бульбы ляжаў паасобку, перагароджаны дошчачкай. І пры кожным мелася шыльдачка, дзе яго рукой была напісана: «Украінская», «Лугаўская», «Скарб» і адпаведна намалявана, як жа гэтыя гатункі выглядаюць у яго ўяўленні ў фарбах. І яму пажадалася ўзяць і патрымаць у руцэ калі ўжо не саму бульбу, то хаця б шыльдачку ад яе. Перагародкі былі на месцы. А вось шыльдачкі — зніклі. Ён падумаў, што б гэта магло значыць, і яго азарыла. Не, калі зніклі і шыльдачкі з пазначэннем гатунку насення, чалавек не проста браў бульбу. Зусім не таму, каб аблупіць яе, у чыгун і з'есці. Ён браў яе з выразна вызначанай мэтай: пасадзіць і вырасціць, дагледзець і сабраць ураджай. Такім чынам, гэта ўжо зусім не зладзейства. Гэта ён сам — жабрак падаў міласціну жабраку. Ці як гаспадар — гаспадару. Гэта ўжо не зладзейства — дабрачыннасць.

Хаця і маніць сабе не трэба. Не варта папускацца: у яго хаце пабываў злодзей. Злодзей яшчэ і зараз знаходзіцца ў яго хаце. Яго хата павінна, каб яе прызнавалі і паважалі ў свеце, выбраць некага аднаго — ці то злодзея, ці то гаспадара. Але гаспадар — ён. І, як сапраўдны гаспадар, ён добра ведае і разумее тое, да чаго ў злодзея няма, ніколі не было і не будзе мазгоў: нават вялікія злодзеі як прыходзяць, так і адыходзяць. А ягоны век, век гаспадара, у адрозненне ад веку прыхадня, доўгі, бясконцы. Таму што ён з мазаля і сэрца, поту, крыві, веры і вернасці сабе і сваёй зямлі. І нягожа скарачаць яго, канаць па тым, што можна набыць, стварыць,

зарабіць — што само па сабе толькі няпэўны знак яго сённяшняга тут бытавання. Усё пройдзе, усё мінецца, усё адпадзе і забудзецца. А ён застанецца.

І калі падумаць, у яго немагчыма што-небудзь украсці. Ці можна ўкрасці вечнага чалавека? Таму не трэба паганіць душу і рваць сэрца тым, што на гэта імгненне мы няздольныя перамяніць, у што няздольныя ўмяшацца, мо нехта яшчэ і спыняе нас, не дазваляе гэтага зрабіць. Бо, да ўсяго ж, мы не ведаем вышэйшай задумы, вялікага промыслу. Не дадзена чалавеку ведаць, чым, ужо мо нават праз нейкую хвіліну, абернецца яго яшчэ нязбытыя жалоба і сум. Мо з усяго гэтага ўжо спакваля выспявае вялікая радасць. Мо так менавіта прарастае не гора, а ўзыходзіць надзея, каб праблiснуць жыццё сонечным промнем шчасця. Аднекуль жа тое шчасце з'яўляецца, абвяшчае сябе свету. Чаму б і не з гора?

А наконт злодзея ў яго хаце — хай пацешыцца. Ці ж ён да гэтага не ведаў, што той даўно ўжо ўвабраўся, нахабам захапіў яго хату. І гэта зусім не той небарака, што адпалавініў яго лекі, украў апошнюю бульбу. Дый не апошнюю яшчэ — адну ж пакінуў. Яго сапраўдныя злодзеі — вядомыя ўсім, і яны не тояцца. Вунь як разлегліся партрэтамі на ўвесь рост у анфас і профіль на старонках газетаў, што ён кінуў пасярод стала. Славутыя і слынныя злодзеі даўно ўжо балююць і раскашуюць у яго хаце.

І нечага яму тут расседжвацца ў пограбе над адзінаю бульбінай пад назваю Скарб. Час ужо і вылазіць, апратваць жытло. Месці і месці, што напаскудзілі мышы. Прапальваць печ, уграваць куты. Ажыўляць, поўніць сабой, сваім духам, гукам і словам. Мыць, шараваць дзеркачамі дух мышыны, чужы. Вокны і дзверы — насцеж, каб і знаку ад поскудзі не засталося, застоенага недзе па кутах дыхання. Бо ён грэблівы, бо яго прывучылі да чысціні душы. Хаця і трывае, калі часам нешта чапляецца на панадворку за боты ці чаравікі — птушынае, жывёльнае, нават парасячае. Але не пераносіць духу свойскага, чалавечага. Ва ўсім так. Калі хто чужы лапаў нешта яго, датыкаўся толькі, ён як убываў. Скурай адчуваў подых чужых думак і поту. І добра калі той чужынец быў

яшчэ ніштаватым чалавекам. А не — сам пачынаў хварэць на яго хваробы.

Ён ужо вылез з падполу, памыў нават талай вадой рукі, да чырвані пашараваў іх жорсткім і буйным, што колішняя соль, снегам. Пайшоў у хату па ручнік. Але таго на звычайным месцы не аказалася. Хаця ён добра помніў, што пакідаў, ад'язджаючы, ручнік на цвічку ля падполу. Падумаў, што памяць яму здрадзіла, кінуўся яшчэ ў адно месца і яшчэ. Ручніка нідзе не было.

— Ну вось, — сказаў ён сам сабе, сеўшы на лаву перад разбітым тэлевізарам, — кола замкнулася. Лекі ты ўзяў, каб быць здаровым, бульбу — сытым, ручнік — чыстым. Дык будзь жа такім. Ты не страціў яшчэ чалавека ў сабе, беражы яго.

І падобна, не надта памыліўся ў сваім жаданні. Ён прыйшоў да такой высновы, калі агледзеў падворак, свой малады сад, адамкнуў і прайшоўся вокам па хляве. Зіма не ўчыніла яму вялікай шкоды. Ён, як і па восені, парадкуючы гаспадарку, зазіраючы наперад, гатовы быў сустракаць вясну. Усё ляжала на сваім месцы, падрыхтаванае да вясновых клопатаў. Хаця зноў жа, як заведзена, знакі для сардэчнага зруху былі. Без гэтага ж не абходзіцца ні адна вясна. Вясна не любіць паўтарацца, кожны год падкідвае што-небудзь новенькае. І сёлета падкінула яму. Старэнькае толькі.

Сёння ён зноў знайшоў мёртвую птушку. Ужо ў хляве, замкнутым на ўсе замкі, забітым, нідзе ні шчылінкі, дошкамі. Як яна трапіла туды. Ну чаму, чаму так упадабалі совы ягонае селішча. Хто наводзіць іх, чаму яны прыходзяць сюды па сваю смерць? Што гэта за знак такі? Хто падае яму гэты знак? А тое, што гэта знак, няйнакш насланнё, папярэджанне, ці засцярога, абарона яго — ён не сумняваўся. Чатыры ўжо савы загінулі каля яго хаты. І гэта толькі ён ведае чатыры, а колькі ж іх на самой справе. У садзе, на грушцы, па ўсім, жыла і пятая — так угноена грушка, столькі пад ёй усё роўна як курынага памёту. Мо яна спецыяльна прыляцела і пасялілася ў садзе, каб ратаваць, бараніць яго ад нашэсця мышэй? Падобна на тое. Але ж адкуль узялася сава ў хляве,

хто яе забіў там, хто падкінуў яе туды, яна тая — з саду — абярэг яго ці нейкая зусім іншая?

Ён спрабаваў знайсці адказ на гэтыя пытанні ў непрымружаным савіным воку. Замарожанае, яно было як жывое. Увогуле птушка была як для лёту, неба і жыцця, пругкая і да шчымлівасці прыгожая. І мёртвая, яна захавала вартасць і гонар уладнай царыцы ночы. Ён ледзь не заплакаў, узяўшы яе ў рукі, адчуўшы мяккае цяпло яшчэ жывых пер'яў. Смерць птушкі і звера заўсёды ўзрушвала яго, абуджала нешта першабытна безразважнае, вымушаючы кінуцца з кулакамі на само неба і сонца. Грэх адбіраць жыццё ў таго, хто не мае розуму і сілы нават слязінкай учапіцца за яго, згодна ніякавее і адыходзіць без піску, енку і супраціўлення, моўчкі зліваецца з вечнасцю.

У птушыным воку не было адказу на яго пытанні. Яны, як і дагэтуль, засталіся ў ім: што ж нясе і тоіць у сабе гэтая заўчасная паблізу яго савіная смерць? Ці то нехта ківае яму, каб ён не дурыўся ў гэтым жыцці, не губляў свайго імя. Ці, наадварот, намякае — надта ж ён ужо разумны, мудры. Добра б, каб было гэта наадварот. А калі наадварот — наадварот?..

Пра ўсё гэта ён думаў, ужо ставячы на месца шыбіну ў раму, прыгаломшаны смерцю савы — вяршыняй дасканаласці і гожасці прыроды, зусім не тое, што сённяшні чалавек. Хаця яму няма асаблівых падставаў наракаць і на чалавека. Вунь як акуратненька выцягнуў той шыбы з акна. Па ўсім, ведае толк у рабоце. Не раструшчыў, не пабіў. А шкло, толькі майстар можа засведчыць, якое яно крохкае на марозе. Крышачку націснуў — яно і пабегла трэшчынай. А гэты рабіў без шкоды, пэўна ж, спачуваў таму, хто будзе ўстаўляць яго. Далікатненька выцягнуў са штапікаў цвічкі. І самі штапікі не паламаў, адклаў іх убок і навідавоку, каб лішне не гнуцца і не шукаць. І шыбы не абы-як кінуў — на дошчачку паставіў і прыхінуў да сцяны. Толькі бяры ды ўстаўляй нанава. І гнёзды пад цвікі і на раме, і на штапіках супадаюць. Не, у гэтага чалавека рукі растуць адкуль трэба. Думае, думае пра іншага, пра таго, хто ідзе следам за ім. Такіх ён і шануе, і паважае.

Вось каго ўжо ненавідзіць — то гэта зайцоў. Што не трывае, то не трывае. Бандыты, з якіх людзей ужо не будзе. Ён грэбуе, пагарджае імі, каб ім век ні морквы, ні капусты не бачыць. З'елі, абгрызлі яго яблыню. Антэй — багатырка, а не яблыня. Не сказаць, праўда, каб гэта быў самы любы яму яблык. Але ж кожны амаль па кілаграму. І крамяны, і чырванабокі. Каб упадаць па ім — не. Яго яблык усё ж — белы антон. Такі ўжо белы, што па восені трошачкі і загарэлажоўты. Насупраць сонца — і зярняткі лічы, так ён насычаны ім, наліты яго прамяністай сілай. Не, Антэй таксама ён любіць, паважае — гэта ж яго дзіця. Паважае яшчэ, як дужы чалавек паважае другога дужага чалавека за яго багатырства і дужасць, прагу дагаджаць людскому воку, упрыгожваць сад. А цяпер жа без гэтага багатыра, без Антэя, яго сад будзе няпоўны.

Чортавы зайцы, няйнакш нейкай новай пароды, таму што яблыні яго амаль пад дзесяць ужо гадоў. Дзесяць гадоў запар ён укрываў, абвязваў яе яловымі лапкамі. А тут, не сказаць, каб паленаваўся, палічыў — досыць. Расці, пасіся сама ўжо на волі. Цікава, побач такога ж узросту, толькі нейкая чужаземная, з балтыйскім акцэнтам і хворанькая на так званы рак яблынька. Дык тую хворую не кранулі, як адчулі загану, чорныя душы. А ён яшчэ не верыў Феньцы, калі яна яму пра чорных зайцоў гаварыла: не бывае, не бывае. Бывае, што і дзеўка раджае. Цяпер адны толькі дзеўкі і раджаюць, школьніцы. Жонкі спрактыкаваныя пайшлі...

Ён упраўна прыладзіў да рамы адну шыбіну, яшчэ раз парадаваўся, што не трэба траціцца на шкло. Яно ж такое вялізнае і шматтысячнае на базары. Носікам малатка паверабʼінаму пацюкваючы па ржавым, але яшчэ годным цвіку і адыходзячы душой, што ласкава падтрымлівала яго на ўжо слізкаватай, прыпаранай вясной зямлі, пачаў усё часцей і болей распрамляцца скаваным і прыгнутым за зіму целам, распроствацца, азірацца. Ужо далёкі і ад таго, што ў яго хаце пабываў злодзей, і ад таго, што той украў, і нават ад таго, чым цяпер займаўся. Бо галава занятая была ўжо іншым і зусім не сённяшнім. Вока яго слізгацела па невялікім гаёч-

ку, што падбег да самой хаты. Па кустах каліны, якія адстояў перад жонкай і дзецьмі, не дазволіў высекчы, зарасніках крушыны, з-за якіх нават палаяўся з сынам. Так усердзіўся, што з тыдзень словам не азваўся яму, ніяк не мог дараваць. Кінуўся пад сякеру ўжо.

— Гэта ж воўчае лыка, — здзівіўся сын. — Навошта яно табе, для якіх ваўкоў ты яго беражэш?

— Для такіх, як я, — адказаў ён. — Граматны вельмі. А ці ведаеш ты, што крушыны на Беларусі ўжо няма. Шукаць яе сёння трэба ў Чырвонай кнізе...

Там, за калінай і крушынай, знаходзілася сажалка. А каля той сажалкі прыпала, схавалася недзе крынічка. Ён заспеў убачыць яе і паспытаць яе вады. І трэба сказаць... Вох, як неабходна гэта сказаць!

Гэта ўвогуле быў край блукаючых крыніцаў, хатніх барсукоў і смаленых соваў. Барсукі зваліся хатнімі зусім не таму, што жылі па хатах разам з чалавекам. Не, усё было падзелена. У чалавека свая хата, а ў звера свая. Толькі звер хаваўся ад усіх і адзін ад аднаго ў патаемных у некалькі гадзінаў, а то і дзён пешай хады бярлогах і логавах. Барсукі жылі купна, паселішчамі і часта хадзілі ў госці адзін да аднаго, а калінікалі — і да чалавека. І хаты іх былі дабрачыя, жвірам белым зверху пасыпаныя, дзеразой, сон-травой аздобленыя. І каля кожнай расла ці то елачка, ці то сасонка, а каторы любіў цянёк і арэхі — ляшчына. Шанавалі барсукі свае хаты, таму і звалі іх хатнімі.

Чаму ж соваў наракли смаленымі — тут гэтага ніхто не ведаў. Даўно было, забылася. Мо і таму, што ўзялі моду лазіць уначы па комінах і адтуль, як з калодзежа, пужаць малых. А таксама ж і дарослых, у каго сэрца слабое і калені дрыжаць. Выхоўвалі так па сваёй мятодзе людзей: хто выжываў і не палохаўся болей, у таго сэрца здаравела і надта ж моцным рабіўся ён на нозі. Крынічкі ж не мелі пэўнага месца жыхарства. Яны хоць і былі старэйшымі за звяроў, птушак і людзей, але усё яшчэ лічылі сябе і маленькімі, і маладзенькімі. Жанчыны — ведама, як таксама ведама кожнаму, што крынічкі — вечныя, і вельмі любяць гуляць, тан-

чыць. Хуценька гэта перанялі і мясцовыя людзі: у старажытнасці былі яны надта ж песенныя ды музычныя. Крынічкі прывучылі. Бралі людское паселішча ўкруг, зразумела, не абміналі і звярынае і птушынае, самі хапаліся за рукі і дзень цэлы, пачынаючы з вясны, вадзілі карагоды. Спявалі песні з прыпеўкамі, перасмешнічалі з сонцам. А калі крынічка стала ў карагод і пачала танчыць, якія ж гэта ногі трэба мець, каб не пайсці разам з ёй у скокі. І совы ж дарэмна мышэй не елі. Крынічкі, само сабой, і плакалі, але толькі зрэдку. І толькі таму, што кожны, хто мае вочы, хоць раз у жыцці павінен і паплакаць. Таму што ў вачах закладзены нейкі вельмі старажытны боль і сум — душа ўсяго існага, а яе час ад часу трэба ўмываць. Вось чаму і ўсе слёзы на свеце салёныя — каб цела чысцейшым было. Пэўна, і сама зямля нарадзілася з нейчых чыстых слёз. Таму некаторыя людзі так горка плачуць па сённяшні дзень. Плачуць немаўляты яшчэ ў сваю самую першую хвіліну з'яўлення на свет: нібы загадзя абвяшчаюць: плакаў, плачу і буду плакаць. І не ўгаворвайце мяне, і не прасіце.

Дзяцей усё ж угаворваюць і шкадуюць, а несуцешныя крыніцы пазбаўляюць права звацца крыніцамі. Іх праганялі прэч і перараблялі: маленькая крыніца-плачка — ручай, вялікая рымза — рэчка. А тую, у каторай буйныя і трохі зеленаватыя слёзы, рабілі калодзежам. А іншую — выпраўлялі на неба, каб услугоўвала яна там некаму: была коўдрай, была хмарай, а калі ўжоназапасіць столькі слёз, што нікому і ў далонях не сабраць і не ўтрымаць — праліваласся дажджом.

І зноў жа, усім было добра. Усё і тут, на зямлі, і там, на небе — ураўнаважана. Крынічкі заставаліся крынічкамі, парадкавалі — упрыгожвалі і цешылі зямлю. Там, дзе яны аказвалі сябе, абавязкова прарастала, набягала і прылятала нешта жывое і ўсмешлівае. Вось і тут, у гэтым краі, дзе блукалі і танчылі крынічкі, прычэсвалі асаковыя косы зямлі, сплятаді з незабудак, смолак і бяссмертніку вянкі, праклалі вялікую дарогу, злучылі тры сталіцы. Адна, само сабой, сталіца тутэйшага краю — хатніх барсукоў, блукаючых крыніцаў і смаленых соваў. Каму належалі дзве іншыя — не

ведалі і не мкнуліся ведаць. Бо вельмі шанавалі сваё і на ўвесь свет услаўляліся, як самыя вольныя і вясёлыя людзі. Тыя другія дзве сталіцы на крынічнай мове нават адпаведную грамату склалі: Край блукаючых крыніцаў — вольны кут з вечнымі людзьмі.

Толькі на свеце няма нічога вечнага. Вечнасць знікае, калі адлятае воля, перастае ганарыцца сваёй хатай, танчыць і спяваць свае песні. Так, пэўна здарылася і тут. Ці то багата ўжо крынічак ператварылася ў ручаі і рэкі, ці то паспяшаліся выпраўляць іх хмаркамі на неба, на Млечны Шлях, на Вялікую Мядзведзіцу і проста направа і налева адорваць імі кожнага, хто толькі пажадае. Неўпрыкмет і няўзнак густым грабянём з чужой і хцівай галавы так прычасалі гэты вольны і спеўны кут, што крынічкі пачалі прападаць, знікаць самі па сабе. І засталося іх толькі дзве ці тры — хопіць пальцаў на адной руцэ, каб палічыць.

І тыя стаіліся, перасталі не толькі вадзіць карагоды і танчыць, нават ціхенька спяваць прыпеўкі на сваёй празрыстай мове. Пайшлі пад зямлю, упрочкі з роднага кута — шукаць лепшай долі і больш літасцівага ж, пэўна, і дбайнага гаспадара. І тады заплакалі ўжо тут не крыніцы, а людзі, заклікаючы іх вярнуцца. Ды хто і калі вяртаўся з-пад зямлі, каго падымалі з таго свету чый-небудзь жалобны голас і самая шчырая сляза. Але слёз у людзей было багата. Так-сяк з горам папалам наплакалі яны, напоўнілі адну-адненькую крынічку. Толькі яна аказалася горкай і, каб не засмучаць людзей, таксама некуды сышла, як яе ні ўгаворвалі, як ні ўмольвалі: горкая, але нашая, свая.

Сышла. А праз год-два, пашкадавала мо тутэйшых людзей, аб'явілася зноў. І зноў была яна горкай, таму і зноў знікла, але не сышла — стаілася, рассыпалася кроплямі сярод жвіру, каляровых глін, каранёў елак, арэшын і травы светаянніку. Потым апамяталася і доўга тыя кроплі пясок, травы і дрэвы прасіла вярнуць ёй, угаворвала ранішнія росы сабрацца разам, сысціся, зліцца ў крынічку. І яны сыходзіліся, асабліва вясной, як толькі пачыналі светла бедаваць і соладка плакаць клёны ды бярозы. Збягаліся ў адно са смутку і радасці

вясковых казак, маёвай квецені садоў, лясных кветак белага і блакітнага званкоў, звону ландышаў і блакітнай паводкі лясной незабудкі. А на падтрымку ім спадыспаду зямлі ціхенька тачыліся, ачышчаліся сярод жывых і мёртвых, і больш мёртвых, адрынутыя людзьмі кроплі вады памяці — тыя ж слёзы людскія, што некалі праліліся і доўга, і стоена чакалі свайго часу, калі пра іх узгадаюць і прызавуць. Воды памяці людской, яе слёзы, нябачныя, але вечныя, што жывуць сярод могілкаў, сівых старажытных курганоў, каранёў пракаветных волатаў дубоў, што толькі ў посвісце ветру і плачы старых груганоў былі яшчэ жывымі на гэтым свеце, а так даўно ўжо спрахлі. Крынічка тачылася, набіралася моцы ад памяці пра іх, ад ніцых вольхаў і чэзлых лозаў пры берагах асушаных і ацалелых рэк і балотаў. І зваротным, зведаным шляхам, пракладзеным ёй жа, зняможаная, зноў вярнулася да чалавека і яго хаты.

Спачатку спынілася наводдаль ад яго селішча, сярод сметніку, што чалавек сам і ўтварыў. Употай заплакала ў ім і ачысціла яго сваёй гаючай слязой ад бруду. Але, калі чалавек празнаў пра гэта дзіва, узрадавана прыбег да крынічкі, каб павітаць яе і падзякаваць, тая не паверыла яму. Ці мо выпрабоўвала — зноў некуды схавалася. Толькі чалавек цяпер ужо здагадваўся, што недалёка, што яна шукае яго, але няўпэўненая ці можна яму даверыцца. Бо праўды за ім яна ўжо не ведала. Зняверылася. Чалавечая парода ва ўсім свеце самая ненадзейная. На голым месцы без дай прычыны можа і надурыць, і падмануць, бо не ведае, дзе пачынаецца мана і канчаецца праўда. Заблудзіўся чалавек сярод іх, як васілёк у жыце: без праўды, зразумела, не пражывеш, але і не схлусіш — таксама не пражывеш. І таму чалавек то кане, прагнучы праўды, то гоніць, як жабрачку прэч з хаты і душы, цкуе сабакамі і выпальвае агнём. І ніхто з пэўнасцю няздольны сказаць, які бзык на яго нападзе сёння, і крынічка зноў і зноў выпрабоўвала чалавека. З'яўлялася то ў адным, то ў другім месцы. І гэта выпрабоўванне нечакана для яе набыло нейкі новы і незразумелы сэнс. Хаця ёй і не вельмі хацелася прызнавацца, але ёй мімаволі нешта перадалося ад таго, каму яна ладзіла іспыт.

Цяпер яна не толькі хавалася, але і гуляла з чалавекам. Збывала крыўду і горыч, памаладзела і прыхарошылася, бо ўведала, што неабходна чалавеку. Той неяк зачарпнуў і папіў яе вады. Вада была салодкай і лёгкай. Чалавек ад яе як сам стаў больш лёгкім і памаладзелым. Прайшоўшы праз жывых і мёртвых, крынічка здабыла слова, згубленае і забытае чалавекам, без якога ён, не ведаючы аб гэтым сам, усыхаў і смяг. І крынічка цяпер здагадвалася пра сваю сілу і ўладу над чалавекам. Таму і не спяшалася назаўсёды прывязвацца да яго. Працягвала проста ўжо гуляцца з ім, бо ёй гэта, па жаночай яе натуры, было вельмі даспадобы. Даспадобы знацца з гуллівай крынічкай было і чалавеку.

Але аднойчы той гульні прыйшоў канец. Крынічка стала ўжо амаль што свойскай, прыручанай, прыбілася да хаты чалавека. Заставалася зрабіць адзіны толькі крок. Яны спынілася каля яго плота, на краёчку балотца, што спакваля ператваралася ў невялічкую і гожанькую сажалку, у якой вяліся на той час не толькі куцахвосьценькія і пузаценькія апалонікі з лупатымі і абыякавымі да сваіх няўклюдных нашчадкаў жабамі, але адначасова пражываў і залацісты, хоць і вечны капун у гразі, ды заўсёды чысценькі, вялікі аматар чырвонага камарынага матыля карась. Непераўзыдзеныя майстры, пераможцы ўсіх сусветных конкурсаў бальных танцаў даўгалыгія, дзыбатыя жучкі-слізгуны — усе, хто павінен жыць у найлепшых пад бокам хаты вясковых сажалках. Усё ў ёй мелася-вялося, пасвілася, раскашавала пры месяцы і сонцы сярод зялёнай раскі і рудога жаберу. Усё было, але і чагосьці не хапала. І ўсе пра гэта ведалі, толькі памоўчвалі. Бо крыху баяліся, а калі сказаць праўду, то і надта ж баяліся: пачні толькі наракаць — знікне тое, што ёсць. Некалі так ужо было: пачалі клясці балота. І дакляліся. Дзе яно сёння. Вось і тут усе маўчалі пра тое, што не хапае кропелькі, глытка свежай праточнай вады. Дай ім той вады і ўга. Сажалка морам-акіянам стане. І вось тады і аб'явіцца... А невядома, хто можа аб'явіцца. Ці той, каго на гэты час тут так не хапае, ці наадварот — чорт які балотны. У балоце ды ў вадзе хто ж толькі не водзіцца, мы ж таксама з вады выйшлі. А паглядзець, хто за намі ў чарзе стаяў, не здагадаліся.

Добра б, калі той, каго так зняможана чакаюць. Але і тут: адны — чакаюць, а другія... Такім чынам амаль усе хоць і падсвядома, але лічылі за лепшае мецъ толькі тое, што ёсць, хаця і каналі, праглі пераменаў. Вось чаму крынічка так доўга не аказвала сябе, не вытыркалася лішне. Толькі ўначы пры месячным святле адно праблісквала празрыстай кропелькай, як слязінкай. Яна атабарылася на беразе сажалкі ў зарасніках крушыны з калінай. Вясёлае месца, якраз крынічкі такое і любяць, каб белая квецень, а потым ягада чорная, ягада чырвоная і пчолы з птушкамі, і чмялі са стракозамі. Так яно і вялося, на тое і ішло. Ды тут зноў крынічку спасцігла нядоля і бяда. Сусед чалавека — прадпрымальнік-будаўнік прапанаваў паскорыць ператварэнне балотца ў сажалку. Чалавек не стаў пярэчыць, таму што таксама хацеў, каб усё рабілася кумільгам. Думаў, што гэта будзе па-людску: так, як заўжды людзі капаюць сажалкі каля сваіх хатаў і для сябе. Яны возьмуць рыдлёўкі, паклічуць на дапамогу яшчэ людзей, дзяцей сваіх.

Толькі ўсё адбылося зусім інакш. Сусед прыгнаў з горада аж саракатонны экскаватар. Весняя зямля на краі балотца яшчэ не ўцвердзілася, не зрабілася тупкай. Экскаватар, жалезны бамбіза, пачаў грузнуць і з адчаю, баючыся ўтапіцца, кінуўся па-жывому дратаваць і нішчыць усё навокал. Сашчэпленымі сківіцамі каўша дзерці і каліну, і рабіну, і бярозу так, што апошняя адразу ж пусціла слязу. Не ўратавалася і крынічка. Экскаватар спляжыў, струшчыў, загнаў у глыбокае падзямелле яе чыстыя воды.

Крынічка не аказвала сябе некалькі апошніх гадоў. Больш за тое, пачала прападаць, усыхаць і сама сажалка. На беразе яе ўрачыстымі свечкамі выбухнула чырвоная балбатлівая асіна, гонка і строма пайшла ўгору. І дарэмна сумны чалавек хадзіў па беразе сажалкі, што мялела ўжо на вачах. Ад крынічкі нідзе не было і знаку. Ні слязінкі, нават на ломкай і жорсткай асацэ. На тым месцы, дзе апошні раз яна прабілася на свет, чалавек спрабаваў пракопваць ямы. Але там была адна толькі ссохлая блакітная гліна. Тады, мо ўжо з адчаю, на рэшткі жабрацкіх грошай ён набыў старую бен-

запілу і пачаў выразаць асіну; сон сасніў, што гэта юдзіна дрэва смокча сваімі паўсюдна пранікальнымі каранямі сокі зямлі, у тым ліку і воды яго крынічкі. Гэта сам засілены на асіне хрыстапрадаўца Юда ажывае ўначы і прагне жыць і ўдзень: смокча, п'е жывую ваду крынічкі, як той пруцень бульбу, праточваецца каранямі да самога яе сэрца.

У той год, калі ён выразаў асіннік на беразе сажалкі, ніякіх зменаў не было. Праўда, вады ў сажалцы крыху, здаецца, дадалося. Ці то яму ўжо так карцела, каб дадалося. Ён зноў пачаў даследаваць берагі, кожны кусцік, горбік, кожную травінку. І ў адным месцы прыкмеціў: лаза павесялела. А потым тамака ж неяк успатнела зямля. Але ён ужо баяўся лезці ў яе рыдлёўкай: сама, родная, сама, мілая. Нараджайся.

І яна нарадзілася. Толькі зусім не там, дзе ён чакаў. Так падалося яму. Праблiснуў слязінкай на сонцы пахкі аер, паўз які ён праходзіў няўважна і толькі моршчыўся. А тут адным ранкам ён зазіхацеў, пайшла серабром вострая голачка вяршыняў яго ліста. На досвітку другога дня тая слязінка выплакалася правей ужо, на светаянніку, потым на ім жа, але яшчэ правей. І так доўжылася, доўжылася і не спраўджвалася ўсё лета. І сярод таго шчаслівага лета ён зразумеў: гэта ж зноў пачаліся вясёлыя крынічныя гулі. Слязой яна ўсміхаецца яму з таго свету. І трэба спадзявацца. Трэба спадзявацца.

І цяпер, устаўляючы шыбіну, аднаўляючы сваёй хаце былы яе зрок, стоячы на скаванай яшчэ мёрзлай зямлі, ён прагнуў працягнуць гуляцца з крынічкай. А раптам.

Ад нявызваленай яшчэ ад зімовай сцюжы зямлі яму перадавалася ўжо яе нецярпенне і цёк водаў, што абуджаліся, прачыналіся гэтай парой. Ведаў, што ў тых водах ёсць кропелька і з яго крыніцы. Яна таксама прагне гуляць з ім у вечныя гулі. Бо яны абое добра ведаюць, што ўжо не могуць адно без аднаго. Абое канаюць па весняй гульні, якую ніхто на свеце няздольны ні перапыніць, ні адмяніць, ні ўкрасці.

*26.04.2003, в. Пціч*

# ПРАХОЖЫ

## I

Першы раз ён наведаў мяне ў бласлаўлёны час. Надараецца такі час, хвілінка, зрэдку і не ў кожнай мясціне, а толькі ў адзначанай і пазначанай некім. Я не ведаю дакладна кім: ці то нашым продкам, а мо і самім Богам. Нейкай касмічнай душой. Прысутнасць якой увесь час адчуваецца, калі ёсць на гэта ў цябе вока і слых. Калі ў цябе душа не сляпая, калі ты сам не жабрак на душу, ёсць у цябе яшчэ нешта падаць у руку іншаму, падобнаму ці не падобнаму нават на цябе.

Надвячоркам, калі сонца ўжо за небасхілам, толькі-толькі слізганула за бохан зямны, часцей за ўсё па восені, калі гэты бохан, узрэзаны плугамі і як бы крута прысыпаны соллю нябёс — падпечаны, аблашчаны промнямі сонца, скарынкі рыжых іржышчаў, як матчыным лёгкім ручніком, ахутваюцца павучыннем,заўтра на ўзыходзе сонца пачатак бабінага лета, вырай лета,— вось тады, у спакоі і цішы, у паразуменні ўсяго існага і даруецца зямлі і чалавеку тая бласлаўлёная хвілінка. Час спыніцца і азірнуцца.

Сонца няма, а блізкі лес і ўзгорак перад ім зіхацяць і свіцяцца. І такое ж зіхаткое спакойнае святло ўваччу і на твары чалавека.

Мо гэта і ёсць асвячэнне зямлі, знак нейкі ёй і чалавеку, што жыве і робіць на гэтай зямлі, зрабіў на ёй адзін круг і падрыхтоўвае сябе да новага. Адбываецца той самы цуд, калі голуб ці галубка ходзяць басанож па нашай душы. Няўлоўны і нікім не пазнаны і не растлумачаны, як з нейкай цудатворнай іконай. Наша Зямля і мы на ёй некаму абраз і ікона. Нехта моліцца Зямлі і за Зямлю, за кожнага з нас грэшнага на ёй.

Мо то сам Бог сышоў з Алімпа, ці то нейкі касмічны прышэлец спусціўся з нябёс недзе за даляглядамі, нікому не бачны, таму што вокам не ахапіць, вельмі ж вялікі, мы — пыл перад ім. Спусціўся, стаў на коленцы ці прыпаў ніц да палёў, лясоў і рэк нашай Беларусі, паклаў на яе сваё прамяністае вока. І адбітак яго промня дасягнуў і закругліўся на невялічкім прырэчным ляску за ваколіцай нашай прыгаломшанай сёння жабрацкай вёскі, дапяў, запаў у нашу душу і вока. І лясок раскашуе, свіціцца пад яго цёплым паглядам, ад яго сусветнай пяшчоты, ненадакучлівай спагады, і ў нашай душы хараство і прыгажосць.

Вось у такі час, калі я сам знаходзіўся на сёмым небе ад восеньскай прыгажосці, быў у далёкім космасе, калі мая душа пакінула зямлю, пазбавілася надзённасці і адляцела на невядомую ёй планету, пайшла ў падарожжа ў сусвет, ён упершыню і адведаў, прыйшоў да мяне. Рыжы руды каток, а папраўдзе, не каток, а кацяра, такі ён быў вялікі, зграбны і шыкоўны. І бласлаўлёнае боскае святло запала ў яго рухомае і зіхаткое, што дыямент, вока. Ён асвяціў мяне тым сваім святлом, якое маюць толькі звяры разумныя, хоць і нямыя, у спакойным і суцяшальным паглядзе якіх сёння больш спачування і дабрыні, чымсьці ў знаёмым і нават блізкім табе чалавеку.

Дзякуй табе, усявышні, за стварэнне гэтага найвялікшага паразумення, за гэтую еднасць і повязь гаваркога і мітуслівага, сквапнага і хіжага ўсярэдзіне чалавека і бязмоўнай, але спагадлівай і добразычлівай, з такой глыбіннай раўнавагай і адвечным спакоем істоты. Калі б не яна, куды б памкнула наша душа, да каго б прыпала, дзе б супакоілася, асабліва сёння, такой глухой і журботнай парой. Не дарэмна ж і зусім не выпадкова шмат хто з нас сёння ўспомніў пра братоў сваіх меншых. І шануе іх часам больш за роднае дзіця, больш за бацькоў сваіх. Аддае ім апошняе, што мае ў хаце, моліцца на іх і хавае іх, калі яны адыходзяць, як хавалі з веку ў век людзей, пакуль не збіліся з тропу, і слязінку горкую пралівае. Добра, добра, каты і сабакі, рыбы, птушкі і звяры, што вы не «гома сапіенс» (ніводная ж малпа замежная не

стала «гома сапіенсам»), што вы не навучыліся яшчэ гаварыць, а то мы вас, глядзі, і ў парламент бы выбралі. Хаця і так выбралі, выбралі. Але вы аддзелены ад нас, ад чалавека моўнай перагародкай, моўнай мяжой, таму мы і вучымся ў вас зямной любові і дараванню.

Хаця я асабіста і сумняваюся, што вы аддзелены ад нас моўнай мяжой. Я часта гавару з сабакамі і катамі, і нават з лясной мурашкай пад дрэвам, і з самім дрэвам. І сёння куды часцей, чым з людзьмі гавару. Атрымліваецца само сабой, мімаволі. Гэта зноў жа сёння нейкая ўнутраная патрэба, а мо і загад ці насланнё. А мо ў адным з сваіх жыццяў я быў народжаны сабакам, катом ці птушкай. А кожны з нас, як сцвярджаюць дасведчаныя людзі, праходзіць праз трынаццаць увасабленняў, трынаццаць жыццяў. Як нагадалі мне, я дажываю сваё адзінаццатае. Не маладзён, час ужо і розуму набрацца. Шкада, толькі два жыцці засталося. Той, хто мне дараваў іх, даў носцака і апусціў на зямлю, мог бы быць і больш шчодрым. Колькі ж гэта істот існуе на зямлі. У якіх толькі скурах і абліччах я не пахадзіў, не папоўзаў, не паплаваў, не палятаў па нашай планеце. А там, глядзі, і планетай пажадаў бы стаць, самой матухнай-зямлёй, сонейкам... Во, мо таму толькі і дадзена трынаццаць жыццяў, далей бы ўжо быў перабор.

Перабор, ведаю, саромеюся, а ўсё роўна прагну, прагну. Ненаедны, ненасытны, ненажэрны. Хацелася, вельмі б хацелася стаць нават і неграм сталых гадоў і забыцца на сваю рускую ці беларускую мову ў энным сваім жыцці, легчы ў пампасах пад пальму і чакаць, калі ўпадзе на цябе какос, пабыць белым чалавекам. Пераўтварыцца ў пчалу ці мурашку і перазімаваць гэтую зімку ў вуллі ці мурашніку. А вясной, як пырсне квеценню яблыня ці груша, абламаць свае пчаліныя крылы ў ружовай квецені, насыціцца нектарам жыцця адамавага вечнага дрэва, парадніцца, паяднацца і з ім. Мо б з мяне атрымалася лепшае дрэва, чымсьці чалавек.

Ёсць, ёсць у мяне патрэба быць і дрэвам. Закаханы, зачараваны дубам. Асабліва люблю яго на схоне дня і каля ракі, сярод лета, калі ачахне вецер, зробіцца мяккім сонейка. Ён

тады як бы выпускае з брані пракавечнай кары і лубу сваю душу і робіцца такім зразумела-чалавечым, такім чалавечым. Я прыпадаю да яго пакарабачанага, дзе дык і знявечанага маланкай тулава і слухаю, слухаю гаворку, жальбу і радасць вечнасці і нетраў зямных. Іншы ж з дубоў жыве тысячагоддзі. І не дрэва гэта, а сусвет. Ад каранёў да макаўкі на кожным метры свая ўласная планета. Не кожная хата можа пахваліцца гэтым. Не ўсё то хата, што з коміна дым ідзе, як і не ўсё то чалавек, што здольны смеціць і куродыміць і ў вадзе бурбалкі рабіць.

Толькі не падумайце, што я зусім ужо абнахабеў, прагну адрадзіцца дубам і жыць тысячагоддзі. Няварты я такога шыкоўнага падарунка, такой літасці, хаця за свае гады і добра адубелы і задубелы. Дый брыдоты ўва мне рознай за тыя ж гады як у добрым піве пены, мо і больш пены, чымсьці піва таго. Не, не варта мной спусташаць і паганіць зямлю. Калі выпрэ парным надвячоркам з такога дуба душа мая, будзе як тады. Баюся атруціць каго-небудзь, хто прыпадзе да мяне са спадзяваннем і надзеяй. Яго агорне маёй журбой і смуткам, еднасцю пракавечнага і прыгожага, і мне не дадзена ведаць, што адужае, што пераможа. Мо нехта ў маім тым атрутным дыханні і захлынецца, сканае. Пракляне мяне.

Ядловец — ціхае рахманае і някідкае, як і сам тутэйшы чалавек, дрэўца альбо кусцік. Гнецца, а не ламаецца, нязлоснае, але ж і калючае. І не без адчування прыгажосці, уласнай годнасці, вечназялёнае. На іншых дрэвах усё шышкі ды шышкі ці ліст, што блінец. А тут каралі на грудзях, ягады. Чыстае і на чыстым расце, не пнецца, каб выставіцца, паказаць сябе. Наадварот, імкнецца куды-небудзь схавацца, сысці з вачэй, але не ў гушчар ці багну нейкую, а стаць дзе-небудзь на ўскрайку балотца, дзе глеба ўжо не такая тлустая, тарфяная, больш пясочак ды пясочак, як на палетках у чалавека, дзе-нідзе і каменьчык, валун абымшэлы пракінецца. Адным словам, гэта дрэўца нашай пуставатай увогуле зямелькі, яно аздабляе яе ціхім смуткам і ціхай радасцю свайго існавання, асабліва не смеціць і не надта хварэе, трывушчае, бо спадзяецца толькі само на сябе, на каго ж больш у лесе дрэву, што

гонар мае, спадзявацца. І сіла, і моц у ім вялікія, касмічныя, кутку таму, дзе ядловец месціцца, прыдатнае і аберагальнае, бо азонам дыхае, мною ўтвораныя над маёй жа неабачнай галавой сваімі пальчыкамі-голачкамі дзіркі ў небе лапіць. І ў лазні хворых і старых амаладжвае, гоіць наша грэшнае цела, як грахі адпускае, здымае тры скуры, як нанава народжанага на свет зноў пускае.

І зрэдку, без крайняй ужо на тое патрэбы не падыходзіць чалавек з сякерай ці нажом да ядлоўцу. Калі толькі жыве доўга і жыць яшчэ думае. Зрабіць той жа венік — галінку, другую адрэжа, ці на пугаўё ўжо на ўвесь свой век пусціць, рыбак вуду, што адна на ўвесь свет, адладзіць, каб нахлыстам галаўнёў ды язёў падманваць і аднаго за адным цягаць з ракі, з быстрака. А яшчэ, на піры жыцця, калі заколе кабана і свежаніна ў яго завядзецца, бо на ўсім свеце няма лепшага дрэва для вяндлення, чымсьці ядловец. Лепшы дым — свой дым, што табе ж вочы выядае. Есць у дыме ядлоўцу вялікая горыч і такая ж асалода. І ніякай рыбіне, таму ж язю на паўпуда ці галаўню не дасць ён гнісці ні з галавы, ні з хваста, бо чыстае, чыстае гэта дрэва, без псоты і шкодных чараў.

Я палюбіў ядловец яшчэ ў пастушках, калі натыкаўся на яго ў цяні і адлучанасці паміж фанабэрыстых гонкіх хвой, цнатлівых белых бяроз. Нешта адзінае, братняе было ў нашай долі. І я не саромеўся зазірнуць у яго тумановыя напрыканцы лета вочкі-ягады. Нешта вельмі патаемнае і схаванае для мяне было ў тых яго вачах, нейкі заклік і папярэджанне адначасова. Я зазіраў як бы за край нечага, мяжу нейкую і аддаваўся мроям, бо не ведаў і шмат чаго не разумеў у гэтым жыцці. Не разумеючы сябе, бязмежна любіў усё тое, што бачылі мае вочы, чулі вушы, усё, куды ступала мая нага і імкнула свядомасць, не разумеючы, што гэта так яна толькі абуджаецца, што так я толькі нараджаюся на белы свет. Іду па ім пакуль што толькі навобмацак, вушамі і вачыма.

Я гаварыў з гадам балотным, вужом, гадзюкай і мядзянкай нават, калі незнарок сыходзіліся нашы сцежкі, а больш усё ж знарок, бо, як усе малыя у дзяцінстве, вельмі любіў, праг хадзіць па вастрыі нажа. Укус жа мядзянкі лічыўся ў

нашым краі невылечным, смяротным. Я не ведаў тады, што гэта самая бяскрыўдная істота з усіх, якія існуюць на зямлі, і жахаўся яе, ледзь не страчваючы прытомнасць, і цягнуўся да яе.

Не ведаю чаму, але мядзянкі ўпадабалі старыя, добра палітыя крывёю часоў недалёкай яшчэ вайны акопы. Мо яны і нараджаліся, адліваліся з той крыві, як адліваецца з пчалінага воску царкоўная свечка па нябожчыку. І палескі, не парослы яшчэ травой забыцця жвір бруствера акопчыка, быў ім нечым накшталт алтара. Яны ўзыходзілі з таго жвіру, з крыві чырвонаармейцаў і немцаў і гадзінамі нерухомай свечкай, не спярэшчаным літарамі пергаментам, пасланнем з таго свету, грэліся на крыху ўжо засмужаным вечарам сонейку.

Абміраючы, забываючы сябе, я падкрадваўся да іх, жах і страх падштурхоўвалі і кіравалі мной. Вялікі нечалавечы страх і незямная воля і загад. І жаданне зведаць гэты страх да донца, прайсці праз яго і вярнуцца. І каб пазбавіцца яго, а яшчэ з-за неверагоднай шчымлівай цікаўнасці: што ж гэта такое перада мной, — я пачынаў гаварыць з імі. Пытаўся ў іх:

— Хто вы, адкуль і навошта? Ці маеце вы права жыць толькі на згубу людзям?

Канечне, адказу не было. Але ж вы разумееце, я гаварыў не з мядзянкамі, а з самім стваральнікам, першатворцам усяго існага. І, ачмураны страхам, я чуў, я чуў, як мовіць мне ў адказ, шапаціць, асыпаючыся ад майго прыхаванага, сціснутага подыху сівы палескі пясок, мовяць не мядзянкі, а мядзянаствольныя палескія хвоі, у шатах якіх ходзіць пужлівы, як і я, сцішаны вецер.

І я чуў, той вецер і пясок даносілі да мяне голас мядзянак. Я чуў словы. Словы, пра якія я забыўся, не спазнаўшы іх, не зведаўшы. Забыўся, як толькі з'явіўся на свет, зайшоўся першым крыкам ад пякельнага агню, нясцерпнага маім вачам святла, зямнога жаху і болю, набыў і абраў жыццё. То было маленне. Маё маленне напярэдадні жыцця. І маленне мядзянак дараваць ім жыццё. Яны прадчувалі маё з'яўленне і ўжо загадзя плакалі. Яны ведалі мой характар і звыч-

кі. Яны ведалі, што я жорсткі і бязлітасны і тое, што я ўжо ёсць, я азваўся.

Я іду. Я нішчу ўсё, на што ці на каго ўпадзе маё вока, куды ступіць мая нага. Не яны, а я іх смерць. Я не дарую ім ужо таму, што яны не падобны на мяне, а больш з-за чалавекалюбства, што вымагае ад мяне справядлівасці, паўсюдна адной толькі справядлівасці. Якое ж гэта нахабства і разбурэнне ўсяго: пазбаўляць чалавека жыцця, кусаць да смерці чалавека. Смерць, смерць вам, бяскрыўдныя, незразумелыя мне, непадобныя на мяне мядзянкі.

І я забіваў іх усюды, дзе толькі знаходзіў. Хаця потым, калі яны назаўсёды супакойваліся, ападалі на пяску згусткам амярцвелай пратаплазмы, шкадаваў. Як гэта па-дзіцячы, па-чалавечы — шкадаваць толькі мёртвага.

І з мёртвымі імі я таксама гаварыў, мо больш, чым з жывымі. Я бачыў іх паміранне, развітальныя сутаргі, тое, якімі брыдкімі і жаласнымі рабіліся яны на вачах. І тады я цалкам быў у іх скуры, больш у іх, чымсьці ў сваёй. Ва ўсялякай смерці прыхавана вялікая таямніца, якую не ахапіць дзіцячым розумам, ад якой можна і азвярэць. Забойства вылушчвала з мяне чалавека і адначасова рабіла чалавекам, прымушала думаць. Мо я прадбачыў, ці нехта прадказваў мне і мой адыход. І я нагаворваў мядзянкам, што не, гэта ж не я іх забіў, самі, маўляў, поўзалі, коўзаліся і дакоўзаліся. Вунь вавёрка на дрэве скача, скруціць сабе галаву, дык гэта што, і тут я вінаваты буду, я ж на тое дрэва яе не падсаджваў, я ж толькі каменьчык шпурнуў, яна і ўпала з дрэва. Сама вінаватая, няма чаго па дрэвах лазіць. А я няздольны на забойства, змагаюся за яе, хачу каб у той вечнасці ўсё сапраўды было вечным. А яны парушаюць самую гэтую вечнасць, выпаўзлі на маю сцежку і ад сонечнага святла сканалі, тагасветныя пачвары і прыхадні, бо ім наканавана жыць толькі на тым свеце, кусаць адна адну і не трапляць на вока чалавеку. Самі вінаватыя, самі.

І слёзы вялікага падману і сораму, разумення ўласнага двурушніцтва і, галоўнае, непапраўнасці ўсяго гэтага стыглі на маіх вачах. У той час я сам быў крыху мядзянкай. А

мо і не крыху, а цалкам, сляпы, бяскрыўдны, бездапаможны перад самім сабой і перад сусветам, які абыходзіўся са мной, як я з тымі ж мядзянкамі. Згустак жывой пратаплазмы, прарослы з палескага рудога жвіру, набраклага ад чалавечай крыві і крыўды.

Я быў ужо ўсюды, і мяне не было яшчэ нідзе. Я адчуваў гэтыя, дараваныя мне некім чужую кроў, чужыя боль і тугу. Ціхі рахманы ветрык ублытваўся ў мой віхор, нехта бы суцяшаў і гладзіў мяне і ў той жа час падначваў мяне, казытаў мае валасы, як лісток асіны, што расла непадалёку. Лісток, які вецер, здаецца падмеўся сарваць і знесці на край свету, а заадно ўжо і мяне. Вецер прымушаў мяне зведаць і спазнаць нешта яшчэ невядомае мне, неспазнанае. І я сам рабіўся то вольным ветрам, то ператвараўся ў той жа асінавы ліст, што шапацеў пад подыхам ветру, у спелую і спеўную пясчынку, прасушаную маім цяплом, пясчынку, што запала паміж пальцамі маіх ног і ўгрэтая мной, зноў саслізгвала долу. Злівалася з гурбаном пяску пада мной. І я сам зліваўся з тым пяском. Сыпучым пяском вечнасці.

Я быў усюды, і мяне не было нідзе. Я ішоў за мядзянкамі на той свет. І сляпыя, і глухія, бязмоўныя іх бацькі мядзяным васковым святлом, сваёй тагасветнай журбой і смуткам асвятлялі мне дарогу, пясчынкай каціўся адначасова ў нябыт і вечнасць, асінавым лістом ляцеў у блакіт неба, да сонца. Я быў вечнасцю і імгненнем. Я губляў, страчваў сябе, але ўпэўнена ведаў, што я ёсць. І не адзін. Мяне ці цяпер ужо нас — вялікае мноства.

Мноства сябе, дзесяць маіх былых, калі верыць, рэальных жыццяў і незлічоная колькасць уяўных, што я зведаў з невядомай мне ласкі, даравана мне быць, адбыцца, чуць, бачыць, агарнулі і прыхлынулі да мяне, калі я зазірнуў восеньскім надвячоркам у кацінае вока на ганку сваёй хаты.

Нехта штукарыў і вырабляў нада мной тое, што некалі я сам вырабляў у дзяцінстве над іншымі. Выпрабоўваў мяне іката, прытоена сачыў за намі. Толькі ён быў куды больш разумны за мяне і зусім не мітуслівы і не жорсткі, памяркоўны. Хаця і не выключана, што гэта было яшчэ таксама

нейкае зялёнае немаўля. Толькі ў іх бывае такое задуменнае і чыстае вока, ведаю па сабе, бо бачыў і бачу сябе розным.

І на мне, і на катку, на абодвух нас было чыёсьці вока. Яно было добрае і не гняло нас, заміральнае і гаючае, бо адпадалі ўсе болькі і адыходзілі клопаты, я як бы нанава нараджаўся і зусім не на турботнай зажуранай сёння зямлі. Нехта далёка-далёка, на краі зямлі, куды адышло сонца, а мо і на краі сусвету ўспомніў аб нас, паклаў на нас і наша наваколле сваё мудрае, суцяшальнае вока. Мо нехта сусветна вялікі прылёг на Млечны Шлях і песціў і лашчыў Зямлю, а заадно і дзве жывыя істоты, якія трапілі пад яго пагляд. Заляцаўся да нашай Зямлі, бо паўсюды навокал была амаль што цемра. На небе высыпалі першыя зоркі. А наш недалёкі, выспелены восенню хмызняк, чарналессе па-над ракой раптоўна, сярод ночы, лічы, выбухнуў чырванню, што дзяўчына перад адданнем, пачаў свіціцца і зіхацець. Гарэлі і свіціліся на шыі звычайна мурзатых хмызоў каралі каліны. На спусцістых плячах вольхі палалі карункі дзікага хмелю. Шырокія, даспелыя клубы лазы выпраменьвалі, здавалася, жаданне і заклік падысці да іх і схавацца, забыцца ў іх спапяляючым агні. У тым агні, як нябесная расталая слязінка на прыхарошаным твары зямлі, сярод пракавечных тарфянікаў, багны і дрыгвы бруілася наша невялічкая і ціхмяная рачулка Пціч, несла не ваду, а вадкае расталае золата.

І па кроплі, як па дотыку камарынага крыла, нешта плавілася, раставала ў душы, ападала з плеч. Знікалі, заміралі ўсе гукі. Млела апавітая непарушным спакоем наваколле, млела ад невядомай радасці і самоты сэрца. І так лёгка, так лёгка дыхалася, нібыта я не пражыў ужо свой век, а толькі пачынаў жыць, пазнаваць — што гэта такое, жыццё. Ніколі не бачыў нікога, акрамя самога сябе, ніхто не наступаў на пяты, ніхто не падганяў у каршэнь.

— Хто такі? Адкуль прыйшоў? Куды ідзеш? — запытаў, з непаразуменнем уталопіўся я на свайго начнога госця, усведамляючы ўсю недарэчнасць гэтых пытанняў, іх дзіцячасць. Бо адны толькі дзеці ў пэўным узросце маюць на іх

права, пра астатніх жа можна сказаць, што ў іх нешта кепскае з галоўкай.

Нешта кепскае адбывалася і з маёй галоўкай, бо я адразу ж пачуў адказ:

— Чаго ты да мяне прычапіўся? Сам Дарвін не здолеў адказаць, а ты мне галаву дурыш.

— Ну, кацяра, ну, кацяра... Зараз ты ў мяне...

— Уга, а калі ты ў мяне зараз...

Каток мой аказаўся з характарам. Але і без гэтага характару маё памкненне паставіць яго на кацінае месца было зусім дарэмным. Я быў перад рудым катком як забітыя мной у дзяцінстве мядзянкі, без рук, без ног, мовы і слыху. Я быў няздольны пакараць свайго крыўдзіцеля, даць яму добрага выспятка, такі нямы дакор убачыў, прачытаў я ў яго прамяніста-шалёных вачах. Я разумеў, што ўсё гэта мне толькі памроілася. Каток мне нічога не адказваў. А калі некага я і пачуў, то мо толькі самога сябе з глыбінь і даўніны часу. А мо яшчэ каго, свавольнага і гарэзлівага, чыё вока зараз было на мне і катку. Каток хутчэй нават, наадварот, прасіў мяне памаўчаць, бо гэта быў час яго малення. Накшталт малення мядзянак і мяне самога ў дзяцінстве. Маленне, пра якое я забыўся, не збярог, не данёс да сённяшняга дня. Згубіў, страціў у пустых гаворках, пустых клопатах і дробязных справах. Прайшоў недзе міма самога сябе і не здолеў, не пазнаў самога сябе. А мо яшчэ і горш, брыдка і вялікі грэх хлусіць самому сабе. Спужаўся пазнаць сябе. Адмовіўся сябе пазнаць. Увесь свой век пазіраў на самога сябе спадылба, наглядаў з-пад локця і хлусіў самому сабе: не, я не такі, я іншы, я лепшы.

А калі ўжо не мог далей хлусіць, калі падабенства было бясспрэчным, тады забіваў. Забіваў папраўдзе ўжо лепшага, што жыў ува мне і вярэдзіў душу, як забіваў усё жывое, непадобнае на мяне на пачатку свайго жыцця, як вось зараз па старой памяці і звычцы хацеў забіць катка. І, далібог, забіў бы, каб не было на мне літасцівага вока, каб пад паглядам некага невядомага мне не ачысцілася, не растапілася і адпала з душы брыдота. Каб нехта з тых, што так далёка адышоўся

ад мяне, не нагадаў мне, што гэты каток і ёсць я сам. Я сам, толькі на пачатку жыцця.

І мой нямы яшчэ дакор быў у вачах катка, калі ён во зараз зноў зазірнуў мне ў вочы. І дарэмна, зусім дарэмна я так паблажліва ўвесь час ставіўся да яго: стары прыблудны кот, мо яшчэ і нейкі карослівы, бо жыццё правёў на сметніку. Чорта лысага, што я аб ім ведаю, чорта лысага, што я ведаю пра сябе. Сапраўды, я ведаю, што нічога не ведаю.

## II

Ён нарадзіўся без імя і рос без імя. Безыменна павінен быў і памерці, яшчэ сляпым. Іх было шасцёра ў маці. Маладзенькая кошка, нічога не ведаючы аб жыцці, была вельмі сарамлівай і, каб акаціцца, абрала сабе глухі цёмны куток на гарышчы. Але ж цёплы, каля лежака ад коміна. Ляжак гэты быў выкладзены даўно і ад даўнасці часу месцамі парэпаны. У некаторых парэпінах ужо назапасілася трохі сажы. І таму на гарышчы заўсёды стаяў пах гарэлага сухога дрэва, як улетку ў лесе каля вогнішча. Салодка патыхала абпаленай глінай і яшчэ нечым спажыўным, што ўсё свае жыццё варыла царыца хаты — сялянская печ.

Каля лежака на да звону прасушанай блясе было ладна насыпана рачнога белага пяску, і хоць ён быў ужо даўно сухі, але ў ім захавалася памяць ракі, водарасцяў, рыбы і ёду. Пясок быў і родны, і гаючы. І гліна была гаючай. Яе можна было і есці, што маладзенькая кошка і рабіла, не здагадваючыся нават на першым часе, чаму і навошта гэта яна робіць: хацелася гліны. Мо з той гліны і з'явіліся на свет Божыя яе дзеці, бо яна была не гуляшчая, пільнавалася хаты, каб мышы ведалі, што ёсць у той хаце гаспадыня. Адзіны толькі раз выбегла на марцаўскі счарнелы снег, прайшлася вакол хаты, паглядзела на неба, скочыла на тое ж гарышча. І во, на табе.

Па сваёй марцаўскай памяці яна й прыйшла на гарышча каціцца. Кошка была хоць і зусім маладзенькая, але ўжо са сваімі прынцыпамі і прыхамацямі, строгая і акуратная,

як тургенеўская паненка. Рачны белы пясок, руды дубовы ліст, шэрая ад часу сухая хваёвая стружка прынялі і схавалі каціны грэх, увабралі без знаку яе паслед, пакінуўшы толькі трывалы, на ўсё гарышча, каціны мацярынскі дух, які іншым разам прываблівае навакольных катоў. Але кошка кожны раз здолела адстаяць сябе і сваіх нашчадкаў. Такая ў ёй прачыналася лютасць, што нават поўсць шалела. Яна дзівілася сама з сябе і аблізвала маленькіх сваіх вуркаткоўмурлыкаў. Іншым разам разносіла іх і хавала па кутках, але скора спахаплялася, збірала зноў разам, зносіла ў пухмяную кучу на пясок да лежака. Умывала, залізвала іх раны, якіх яны яшчэ не мелі. Але былі добра ўжо замурзаныя, як маленькія негры, бо што ні кажы, а нарадзіліся яны ўсё ж на гарышчы і ноччу, жылі сярод дыму і амаль заўсёды ў цемры. Тут і не схочаш, але мусіш стаць неграм. Шасцёра чорных, хаця былі сярод іх і негры, і белыя, і негры жоўтыя. І кошка імкнулася адмыць іх, каб нехта, не прывядзі гасподзь, не падумаў, што яна сапраўды саграшыла з нейкім там неграм. У вёсцы ж наконт гэтага строга, вёска вам не горад, ад пільнага яе і асуджальнага вока не схаваешся нават і на гарышчы. Агледзяць, выпаруць, абняславяць. Вёска ёсць вёска, на кожным з яе жыхароў пільнае, строгае вока. І кошка, як і кожны вясковец, жыла трохі і наперад.

Калі ішоў дождж, на гарышчы пачынаў гуляць халодны вецер, хадзілі такія скразнякі, што кошка чакала і прасіла, каб у хаце запалілі печ. І там, у хаце, як чулі яе. Гаспадыня хаты была ж таксама з прыбыткам. І кошка ведала аб гэтым. Перад тым, як ёй акаціцца, гаспадыня таксама стала парадзіхай, але кацянят у гаспадыні нарадзілася толькі два. Толькі ўсяго два, а ў яе аж шасцёра. Так што кошка і ганарылася сабой, і спачувала сваёй гаспадыні. А тая, у хаце, мо спачувала ёй, на гарышчы. У халады і дождж прапальвала печ. І кожны раз, калі пачыналі паліць печ у хаце, кошка на гарышчы плакала. І не толькі таму, што праз парэпіны ў лежаку і стаяку прасочваўся дым, а ад замілавання, што на гарышчы і ў хаце маленькім дзецям цёпла. Расчуленая тым, што і ў яе ёсць дзецi. Дзецi маюць свой цёплы кут і яе

малака ім хапае. А яшчэ плакала крыху і ад сораму: што ж гэта яна ўтварыла. Пакінула хату тае самай пары, калі ёй край неабходна быць там. Як там гаспадыня са сваімі дзецьмі змагаецца з мышамі. Людзі ж такія нязграбныя, столькі жывуць, а нават мышэй не навучыліся лавіць. Гэта быў яе, кошкі, абавязак. За гэта яе прывячала хата. Не ў час, не ў час прыперла ёй, ці прыме, ці пракорміць хата шасцёра яе дзяцей, як яе сустрэнуць, што падумаюць пра яе гаспадары. Яна баялася паказацца ім на вочы, як нешта прадчувала. Вось чаму ўжо без усякай знешняй, бачнай пагрозы ўставала дыбкі іншым разам у сне поўсць на загрыўку і з яе сыпаліся іскры. Яна сніла сваё з'яўленне перад гаспадарамі, а мо і не спала зусім, была наяве ў сваім будучым, кошкі здольны і любяць часам збягаць у будучыню.

І ўсё ж першыя дні яе мацярынства прабеглі нічым асабліва не азмрочаныя. Папраўдзе, што кошцы на гэтым свеце для поўнага шчасця трэба? Каб была свая хата, каб было ў ёй заўсёды цёпла і мухі не кусалі, каб ляжалі пад бокам сытыя дзеці і мелася што самой з'есці.

Усё гэта ў кошкі было, асаблівую лагоду яна адчувала, калі запальвалі печ, і ў комін шугала полымя. Голас таго полымя дасягаў лежака. Ляжак пачынаў вуркацець, спяваць сам, як сыты кот, што руда разлёгся на гарышчы. То шкробся ў завілінах і завівах, мякка набіраючы моц, дым. Безыменныя яшчэ каткі аж выпросталіся ад дараванай ім жыццём пяшчоты і самі пачыналі падпяваць лежаку. А іх маці заўсёды чакала і лавіла тую бласлаўлёную хвіліну. Пакідала іх на самай высокай і чароўнай ноце радасных спеваў, ішла на паляванне. Разлежвацца і спяваць ёй не было калі. Не вельмі паляжыш і паспяваеш, калі ў цябе пад бокам шасцёра дзяцей, больш аб хлебе надзённым думаецца.

Рознай жыўнасці наўкола кацінага берлага, трэба прызнаць, хапала, прынамсі па першым часе. Гарышча дало прытулак не толькі кошцы і яе дзецям. І не гарышча, а нейкі радзільны дом на шмат паверхаў і процьму парадзіх, а не простая сялянская хата. І ўсе там пладзіліся, множыліся і раскашавалі ў цяпле, дабры і згодзе. У самым нізе, на пер-

шым паверсе, няспынна правілі вяселле, памнажаліся і жыравалі ў адсутнасць кошкі мышы. Некаторыя з іх нахабна імкнуліся захапіць і яе жылплошчу. Але калі яны, выгнаныя з хаты дэмаграфічным выбухам, траплялі пад той час на гарышча, жывымі іх больш ніхто не бачыў. Кошка цвёрда трымала мышыны дэмаграфічны выбух у сваіх лапах.

На другім паверсе... Не, той другі паверх яна імкнулася не ўзгадваць, там жылі яе гаспадары, ці тыя, хто лічыў сябе яе гаспадарамі. Хай так яно і будзе, яна ж усё роўна добра ведае, што гуляе сама па сабе. Хаця яе ўжо цягнула да іх, яна сумавала без іх голасу і нават лаянкі, бязладдзя. А жыло на тым паверсе процьма народу. Аж тры дарослыя сям'і. І яны таксама ўвесь час памнажаліся. Уначы ў хаце ішла такая адвечная мужчынская і жаночая праца, што аж дрыжэлі і скаланаліся сцены. Кошцы было што ўспомніць і ў каго павучыцца. Сумна, сумна было ўжо ёй на гарышчы. Але ўсё ў свой час. Надыдзе той час, і яна з'явіцца перад іх вачыма, сама і шасцёра коцікаў. Яна дакажа сваім гаспадарам, што таксама не гуляла, марна часу не бавіла.

Трэці паверх, яе сённяшні прытулак, быў найбольш шчытна і густа заселены. Адных вераб'ёў, што кітайцаў тых, у самых нечаканых месцах. Можна лапай, як відэльцам, даставаць іх усюды з-пад застрэшка, дзе толькі дзве дранкі ёсць і шчыліна паміж імі. Дурная птушка, і прыжываецца хутка, і плодзіцца лёгка. Не менш дурныя, хаця і строяць з сябе немаведама каго, галубы, ходзяць па зямлі, як матросы, валюхаючыся з боку на бок, і той хадою сваёй перабаўталі сабе ўсе мазгі. Верабей — худы дурань, голуб дурань тлусты. І дурняў тых тлустых галавы не хопіць, каб палічыць усіх. Загадзілі ўсё гарышча.

Але ж — сумная выснова маладзенькай і разумнай кошкі — усё на белым свеце мае свой канец, усё з цягам часу знікае, свет коціцца не да лепшага. Ты яму імкнешся зазірнуць у твар, каб пацалаваць ад замілавання, а ён табе паказвае зусім іншае месца. Ежа на тое і дадзена, каб яе з'есці, а з'еўшы шукаць новую. Нічога ж жывога без жывата няма на гэтым свеце, жывот і ўладарыць светам. Надышоў час по-

шукаў і для кошкі. Вераб'і, дурні-дурні, а цямяць, не без вераб'інага свайго цара ў галаве, абміналі гарышча за кіламетр. Ціліўкалі, пацвельвалі кошку недзе са двара, з дрэў, з боку хлява. Найбольш смелыя дык і пахаджалі па страсе хаты звонку. Адзін з іх нават прыладзіўся, гад балотны, кроплю белую пускаць з вільчыка перад самым яе носам. Пускаў і заліваўся шчэбетам, але на гарышча ні нагой. І кошка магла толькі па той жа белай кропельцы перад яе носам уявіць сабе, які ён смачны, ды сніць яго ў сне. Галубы ж на яе стале не зводзіліся доўга, хаця ніводнага з іх на гарышчы ўжо не было. Ляцелі з другіх селішчаў, пакуль не звяліся, пэўна, і там. Кошка з'ела апошнюю дурную галубку, што прыляцела з такім жа дурнем голубам любіцца да яе на гарышча, растапырылася, развохкалася. Толькі пёрайкі чысціць пачала — тут ёй і канцы прыйшлі. Яна нават не зразумела, што адбылося. Можа, думала, што гэта так яе галубок разышоўся. Падумала так і апынулася ў лапах кошкі.

І ўсё, не хочаш, а мусіш выпраўляцца на пошукі чагонебудзь спажыўнага. Тры дні ў роце ані макавага зерня. Кацяняты выпетралі сваю маці так, што яна ўжо і без ветру хісталася, усе гізунты выцяглі. Так-сяк збілася з гарышча і сціпленька папрасілася ў хату. Гаспадыня пусціла, то была таксама ладная некалі кошка, але цяпер знасілася. Дзве жанчыны, дзве маці зірнулі адна адной у вочы і зразумелі адна адну.

— Заляцела, халера цябе бяры,— сказала гаспадыня. — Я вось таксама на старасці гадоў заляцела.

Кошка са згодай і спачуваннем шчыра аблізнулася.

Хлусіць яна не ўмела, крывіць душой не навучылася, што ў галаве — тое і на языку. Жанчына, як жанчына і маці, паспачувала ёй, крыху паўшчувала і пакарміла. Але прасачыла. І неўзабаве следам за кошкай апынулася на гарышчы:

— Госпадзі-светы, ды тут цэлы заапарк. Раз дала — шасцёра нарадзіла. Што рабіць будзем? — Кошка пачала лізаць рукі сваёй гаспадыні ды так стаdo, што тую на нейкае імгненне як бы апякло. Яна борздзенька порскнула з гарышча зноў у хату. Там ужо на ўсю іванаўскую ўсчалі лямант

яе дзеці, хлопчык і дзяўчынка. Яна пагукала і пагушкала іх, мовіла некалькі ласкавых слоў і дала ім цыцку, адразу абаім, правую і левую. І пакуль яны смакталі, аб нечым адрачона думала, часта пазіраючы ў акно.

Кошка на гарышчы толькі пачала расцягваць кацянят па кутках, як гаспадыня зноў апынулася там, але ўжо з кошыкам у руках. І выгляд мела рашучы.

— Кацяняты любяць, каб іх тапілі, пакуль яны сляпыя,— амаль прапела яна, падыходзячы да лежака.

Кошка ўздулася, як скураны футбольны мяч, узняла дыбкі кожную паўсцінку. У вачах яе загарэлася электрычнасць, хвост іскрыў.

— Хай будзе па-твойму. Хай гэны застанецца,— мовіла гаспадыня. — Ну, чаго вы ў рукі не даяцеся, такія мяккія, прыгожыя коцікі.— І аднаго за другім пачала кідаць коцікаў у кош.

Руды і самы, здаецца, нягеглы каток усё ж паспеў адпаўзці і зашчаміцца пад ляжак. Адна толькі кропка, белая мысачка з чырвоным мокрым носікам вонку.

— Хітрун рыжы,— сказала гаспадыня, выдзіраючы яго.— Рыжыя — яны ўсе нялюдскія. Разумнік, лабасты, ну чыста Уладзімір Ільіч Ленін... Пайшоў у кош.

Адпраўляючы катка ў кош, яна не ўтрымалася ад замілавання і пацалавала яго ў нос, як пазначыла. Але на тым яе міласць да рудога катка скончылася. І раз'ятранай кошцы, каб трохі супакоіць і ўлагодзіць яе, яна выбрала і пакінула зусім іншага коціка, чорнага, больш дужага. Суцешыла кошку:

— Не бяры да галавы, маладая, дурная яшчэ. Будзеш ты — дзеці будуць. А шасцёра адразу без мужыка і здаровай вясковай бабе не пракарміць. Звядуць са свету.

Кошка выпусціла цэлы сноп электрычнасці і такое сказанула ёй у адказ, што гаспадыня бежкі кінулася ад яе прэч і ледзь не пабіла сабе косці. Ужо у самым нізе абламалася драбіна. Да таго трымала яе, а тут узяла і пераляцела надвая. Цяжкая, пэўна, была ноша. Цяжкая, але нічога не папішаш:

калі катоў, пакуль яны сляпыя, не тапіць, іх развядзецца больш,чым людзей.

Неўзабаве на беразе рэчкі стаяў сумны невялічкі гадоў васьмі-дзевяці рабы з твару хлопчык з ракітавым кошыкам у руках, напоўненым нейкімі пакункамі і скруткамі. Стаяў і глядзеў на рачную плынь, як віруе вада каля берага пад кустамі пахіленай долу лазы, шморгаў, пэўна, ад блізкасці вады носам, а мо і ад чаго-небудзь і іншага. Да яго падышлі яшчэ два хлопчыкі, на выгляд аднагодкі. Запыталіся замест прывітання:

— Няўжо рыбу кашом лавіць сабраўся, Міхлюй?

— Не, не рыбу лавіць, — хлопчык быў малы і без хітрыкаў. — Коцікаў тапіць буду.

— А мы ўжо думалі, што гэта ты сястрычку новую і брацíка на рыбалку прынёс.

— Дзяцей у кошыку не носяць, — слушна адказаў хлопчык прыставалам. — Дзяцей не топяць. Толькі коцікаў. А я вось і не ведаю,як і коцікаў трэба тапіць.

— То мы табе дапаможам. Мы цябе навучым, — радасна выгукнулі сябры. — Усе нашы буракі палоць пайшлі, а нам няма чаго рабіць. А зара во занятак будзе. Давай сваіх коцікаў.

З іх невялічкай грамады адразу ж вылучыўся і завадатар, стройны прыгожы хлопчык у шыкоўнай майцы з зялёнымі малпамі на ўвесь жывот:

— Пярдун, дуй па снарад, — загадаў ён таму, з кім разам прыйшоў.— Збірай камяні, нямецкія караблі тапіць будзем. А ты, Міхлюй, рыхтуй лінкоры і крэйсеры да плавання.

Міхлюй павесялеў:

— З табой, Кастрат, не засумуеш.

І закіпела работа. Пярдун падносіў камяні. Кастрат іх ладкаваў — раскладваў па ўсім беразе, каб потым зручна было браць. Міхлюй вымаў з кошыка папяровыя скруткі. Разгортваў кожны, абвяшчаў сябрам:

— Чорны — мінаносец. Пакінем на закусь. Шэры. Бронекацер. Таксама потым. Рыжы — фашысцік. Крэйсер. Пойдзе паравозам.

Міхлюй, як толькі што яго маці, схіліўся над катком, пацалаваў яго ў чырвоны мокры носік. На нейкае імгненне твар яго азмрочыўся. Але толькі на імгненне. Імпэту і весялосці надалі сябры. Прыспешылі:

— Давай, не марудзь!

І пакунак з рудым коцікам паляцеў на сярэдзіну ракі, у самую плынь, дзе вада аж грызла пясок. Мо гэта яго і выратавала. Вада адразу ж схапіла яго ў свае абдымкі, разышлася пад ім, схавала, падхапіла і панесла. А калі явіла яго зноў беламу свету, ён быў ужо недасягальны снарадам ваяроў.

Набраклая вадой газета пачала раскручвацца. І хутка коцік плыў па рацэ Лета на распластанай белай паперы, як на плыце, ці нават ляцеў на белых крылах. І там, сярод вады, на самай сярэдзіне ракі з ім здарылася нешта неверагоднае. Нырэц у белым папяровым саване пайшоў яму на карысць. Абмытыя гаючай крынічнай вадой старажытнай ракі, у яго адплюшчыліся вочы. Вадохрышча зрабіла яго відушчым. Камяні абмінулі яго, праляцелі міма. Яны яшчэ працягвалі ляцець, але невядома ўжо ў каго.

Коцік бачыў як скрозь туман хлопчыкаў на беразе, трохі вылучаў з іх Міхлюя, бо ад яго патыхала нечым знаёмым, хатнім духам і духам яго малочных братоў. Але ўсё гэта ўжо адыходзіла ад катка, адплывала. Набягала ж зусім іншае. Ён бачыў. Бачыў сіняе бясконцае неба над сабой, цёплае рудое вока сонца над сваёй галавой. Бясконцую імклівую роўнядзь вады. Хаця рачулка была зусім невялічкая. Але і коцік быў маленькі. Ён яшчэ і не разумеў нават, дзе канчаецца вада, дзе пачынаецца неба. Яму гэта было аднолькава. І як ні дзіўна, ён ніколькі не баяўся вады, нібыта гэта была яго новая маці. Мо і папраўдзе вада стала яго мацеркай.

Куды больш яго палохалі кусты лазы і альхі, што раслі паабапал ракі. Іх шаты хавалі ад яго сонца, і тады яму рабілася холадна, няўтульна і скрушна, аднастайна зелена ўваччу. Пры сонцы ў яго быў таварыш, яго ж цень на вадзе, пад навіссю ж дрэў таварыш некуды знікаў. І сінь вады і неба знікала. Адна толькі буркотная чорная плынь.

І гэта буркотная, што яго маці, вада скора пазбавіла яго апірышча і плыта. Яго дыван-самалёт, газета — а то была «Советская Белоруссия» — так перасыцілася вадой, так набракла, што ўзяла і патанула. І каток застаўся сярод вады сам-насам. Вось тады ён набраўся страху. І зусім не таму, што пачаў сам тапіцца. Ён не мог утапіцца, бо важыў не больш за паветраны пацалунак ці сонечны прамень, і цела яго было, можна лічыць, саткана з таго паветранага пацалунку і сонечнага промня. Дзьмухавец сярод вады нейкі, а не жывая істота.

Не, ён не мог утапіцца, бо яго ўжо раз і толькі што тапілі. Ён не мог утапіцца, бо зусім іншае было наканавана яму. А напужаўся каток таму, што страціў менавіта апорыну пад сабой, хоць і абмежаваную, але ўсё ж нейкую жыццёвую прастору. І якая ні хісткая была тая апорына і хоць нёс яго дыван-самалёт немаведама куды, заставалася нейкая надзея на нешта лепшае ўсё ж наперадзе. Самалёт жа ёсць самалёт. І лепей ляцець у ім і разам з ім хоць у апраметную, чым заставацца сам-насам у бурлівай нязведанай плыні, калі ты не ведаеш, дзе канчаецца вада, дзе пачынаецца неба, не ведаеш нават, што такое зямля, ці ёсць яна на свеце, бо не навучыўся яшчэ і хадзіць, хоць і маеш ногі, званне адно, а не ногі. А цяпер вось і халадна ўжо, зябка і мокра пад табой. І нейкія тварэнні пачварныя, ні даць, ні ўзяць, акулы марскія, абкружылі з усіх бакоў, аблажылі, блямкаюць нешта бязгучна, зеўраюць пашчы, няйнакш праглынуць прагнуць. Раней жа было нешта хоць трохі ды пэўнае. Прывіднае, ненадзейнае, але і пэўнае.

Раней перад ім і пад ім была газета. І хоць каток наш, зразумела, ні бэ, ні мэ ў той газеце няздольны быў прачытаць, але нешта было накрэмзана ў ёй там, жучкі, павучкі, казюркі нейкія адмысловыя і фотаздымкі, людзі, хоць і не зусім сапраўдныя, нежывыя, меліся. Буйным планам партрэт самога прэзідэнта, хаця каток таксама, зразумела, не здагадваўся, што чалавек з вусамі перад ім — і ёсць яго прэзідэнт, лічы, бацька.

І цяпер газета, а разам з ёй і чалавек з вусамі, які так пільна і не без пагрозы прыглядаўся да катка, у якога каток таксама ўглядаўся, пакуль не надакучыла, узялі і патанулі.

Прэзідэнт, пакручваючы пад вадой і ад плыні вусамі, пайшоў на дно. Каток застаўся адзін. І невядома, што б з ім адбылося далей. Мо б усё ж змучыла, прыбрала і яго вада Леты. Але яму было наканавана жыць. А ўсім нам добра вядома: каму наканавана павесіцца, той не ўтопіцца.

Да катка, як толькі пайшла на дно «Советская Белоруссия», адразу ж падбеглі жучкі-плывунцы ці, больш правільна, слізгуны, бо яны ўсё ж не плаваюць, а падобна, на коньках коцяцца па вадзе, як па добрым лёдзе. Жучкоў тых слізгуноў было шмат. Невядома, якая ў іх натура, што яны парабляюць у вадзе, ці толькі катаюцца, марна бавячы час, і трэба прызнаць, вельмі хораша катаюцца, ці прыносяць нейкую карысць рацэ. Але рудому нашаму катку яны саслужылі службу добрую. Ён потым ужо не раз узгадваў іх і памінаў добрым словам, таму-сяму яны ўсё ж навучылі яго. А за ўсякую навуку трэба дзякаваць. Гэта ведаюць нават каты.

Слізгуны-плывунцы нібыта на буксір узялі коціка-дзьмухаўца. Тоненькі такі буксірчык, нябачны, з сонечнага промня. Цэлая плойма іх абкружыла катка з усіх чатырох бакоў, адзін дык і за хвост учапіўся. Абкружылі і так гожа, з такім спрытам пайшлі перад ім у скокі, такі карагод наладзілі, што і катку закарцела ў ім неяк паўдзельнічаць. Які ж гэта коцік не любіць танцаваць і на коньках катацца. Толькі вось канькоў у яго не было. І не ведаў ён, як тыя канькі сабе на лапы прыстасаваць. Але каток наш, недарэмна гаспадыня яго Леніным абазвала і пазначыла пацалункам, і хлопчык па мянушцы Міхлюй пазначыў, няпросты то быў каток на самай справе, рыжы, галавасты, кемлівы.

Не доўга думаючы, ён выпрастаў пярэднюю правую лапу, паказаў, што і ў яго ёсць нейкі намёк на канькі і ўжо хацеў падгрэбсці бліжэй да сябе тымі сваімі канькамі аднаго саліста слізгуна, які штукарыў перад самым яго носам так, што ў ката вусы ўпрысядку ішлі. Але слізгунец мазнуў коціку па

яго вусіку сваім слюдзяным крылцам. І толькі руды каток яго і бачыў — адкаціўся і знік у грамадзе слізгунцоў.

Наперад высунуўся другі саліст, пачаў казытаць вусы. Каток зноў, левай ужо лапай — дзыб. І зноў ад слізгунца ніякага нават знаку на вадзе. Але не, знак усё ж быў, намеціўся нейкі знак на вадзе, нешта перайначылася перад катком. Да гэтага катка лёгенька гойдала, круціла рака на адным месцы ў віры, як трэску нейкую. А тут ён выбавіўся з таго віру. Два ўзмахі левай, правай лапамі — і ён паплыў. Адчуў, зразумеў, што дадзена коцікам, прынамсі, разумным кацянятам і плаваць, калі яны не лянуюцца лапамі перабіраць.

Хто ж гэта сказаў, хто толькі прыдумаў такое, што лапці ваду прапускаюць. Не, ў добрых лапцях нага заўсёды сухая, і па вадзе ў іх як па сухому ісці можна. Умеюць кацяняты плаваць, хоць і не па сваёй ахвоце. Гора навучыць і на пень маліцца. Каток, што было моцы, малаціў па вадзе лапамі. Спачатку, праўда, не вельмі спрытна, бо каты, ведаюць жа ўсе, баяцца і гідуюць вады, ім бы больш у зямлі поркацца, яна ім маці родная, хаця рыбу любяць. І каток напачатку пасля кожнага ўзмаху ўздымаў угару лапы і абтрэсваў іх ад вады, чым вельмі смяшыў слізгунцоў. Тыя ад рогату аж клаліся на ваду, мо каторы з іх і сканаў. Смех без прычыны да дабра не даводзіць. Рагаталі слізгунцы, надрывалі жывоцікі, слюдзянымі пырскамі-смяшынкамі разлягаліся наўкола яго. Рагатала неба, рагатала сонца, рагатала вада.

І каток не вытрываў, таксама зарагатаў, смех прычэплівы ж. Варта толькі з'есці адну смяшынку, і ты ўжо атручаны надоўга, калі не на ўсё жыццё. Ты ўжо не з'ясі нічога без смеху, не палезе нічога ў рот, сухім будзе кусок, будзе дзерці горла. А плаваць без смеху проста немагчыма, не варта нават і ў ваду лезці, ногі мачыць. Калі мо толькі тапіцца. Але гэта ўжо зусім іншая справа, справа таго, хто няздольны ад душы рагатаць.

А каток наш быў зусім інакшай пароды. Ён рагатаў. Толькі гэта атрымлівалася ў яго па-свойму, па-кацінаму. Ён, здавалася, раз'юшана і люта ашчэрыў пашчу і выскаліў зубы. А толькі так каты і смяюцца, каб і зубы былі відны.

І слізгунцы зразумелі гэта, хто ж не разумее, калі бачыць перад сабой зубы. Зразумелі, але не спужаліся, не пакінулі яго. Яны падвоілі свае рады. Паглядзець на коціка, які такі маленькі, а ні кроплі не баіцца вады, і такі ўжо разумны, такі разумны, што можа на вадзе смяяцца, прыбеглі жукі-слізгунцы з усяе ракі, нават тыя, што паміраць збіраліся, адклалі паміранне, прыцягліся паглядзець.

Больш таго, усё дзеяздольнае насельніцтва ракі сабралася паглядзець на катка, як ён плыве, дзівіць белы свет, весела рагоча. І не толькі дзеяздольнае, падняўся, выхапіўся ўжо з труны і адзін рак-пустэльнік. Вылез з нары, дзе замураваў сябе жыўцом, каб ніхто не перашкаджаў яго смерці. Але не мог жа ён адысці на той свет, не пабачыўшы на развітанне дзіва, не ўсцешыўшы сябе. Жыццё ж яго было аднастайнае і маркотнае, як ва ўсіх, хто ходзіць хвастом наперад. Збеглі са свайго ўласнага вяселля дзве жабкі, з такой цікаўнасцю, не верачы сваім вачам, назіралі за катком, што аж ногі іх пайшлі нарастапырку і ўвесь час торгаліся ад здзіўлення. Прыляцелі два матылькі-падзёнкі, селі яму на вушы. Прыплылі дзве плоткі-акулы і нічога не зразумелі з таго, што тут адбываецца. Яны з'явіліся, праўда, таму, што ўбачылі падзёнак і ўжо меркавалі, як іх з'есці. А тут нейкі няўклюдны, ні па іх роце кот, ні плаўнікоў, ні хваста людскага, а на табе, плыве. Ёсць на свеце дзівосы і для плотак.

Белы матылёк, што адарваўся ад альховага лісціка, падляцеў да катка і пачаў кружыць над ім. Ці то ўзяць сябе ў жонкі прапаноўваў, ці то ў сябры набіваўся. Мерыўся дапамагчы, ухапіць за руды вусік і выцягнуць з вады.

Так ужо на белым свеце заведзена: дужаму ды моцнаму, багатаму ды заможнаму — усе ў сяброўства набіваюцца, дапамагчы жадаюць, асабліва калі ты сам рупішся, склаўшы рукі не сядзіш. Так і тут было. Здзівіў каток раку і неба, ваду і сонца, і ўсе яму спрыяць пачалі. І перад усім ужо белым светам цяпер выхваляліся слізгунцы, канцэрт ставілі.

Яны не толькі глядзелі, пацяшаліся, рагаталі, марна бавілі час, каталіся каля катка па вадзе на каньках, але і справу рабілі. Ратавалі катка. Мо гэтыя слізгунцы і прыдуманы

некім для таго, каб малых кацянят, што трапілі ў раку, ратаваць. Гэткія надзіва вынаходлівыя і ўсмешлівыя каціныя ратавальнікі. Хто ведае, хто ведае.

Трое з іх, ці то самыя дужыя і спрытныя, ці, наадварот, самыя нягеглыя і няўклюдныя, як руская тройка — карэннік і дзве прысцяжныя — ішлі наперадзе ўсіх. І папраўдзе, нагадвалі коней, арлоўскіх ці нейкіх яшчэ іншых рысакоў, што ляцяць над прасцягамі зямлі, грызуць цуглі і рвуць гужы. Рэчка аж разлягалася ад іх галопу і інахадзі, так яны шчыравалі, цягнулі катка, імкнулі да выратавальнага берага. Вялі, пракладвалі іншым дарогу, каб як мага хутчэй выбавіць з вады-бяды беларускага рудога катка. За гэтымі трыма, па іх ужо следзе, без асаблівай напругі табуніліся астатнія, збівалі хвалі і плынь, праразалі зноў жа на вадзе дарогу коціку да берага.

А коцік рагатаў, раз'юшана шчэрыў зубы, каламуціў вакол сябе рачную плынь. А мо ўжо і не рагатаў. Хто тых коцікаў ведае, што ў іх наўме, калі яны вось з такой лютасцю дратуюць ваду, б'юць лапамі па вадзе і хвастом грабуцца, што ў іх тады на вачах — вада ці слёзы. І з той вадой ці слязьмі на вачах і праблескам матчынай нядаўняй электрычнасці ўглыбі, у зрэнках, коцік прыстаў да берага.

Але бераг той быў круты. Трава на ім расла высока. І да сонца было далёка. А каток быў маленькі, лапкі слабыя, кіпцюры яшчэ толькі прарэзваліся. Якія ў нованароджаных кацянят кіпцюры, намёк толькі, званне адно. Адно званне і ад зубоў. Ён жа імі нічога больш салодкага, чым малако маці, яшчэ і не паспытаў. Слізгунцы зніклі, разбегліся, бо пад берагам было змрочна, стаяў цень, сонца хавалі шаты дрэў. А яны ў цяні не катаюцца, нікога не ратуюць. Навошта ж выпінацца, калі ніхто гэтага не бачыць. Не навідавоку, у цяні слізгунцы толькі точаць свае канькі: ужык-ужык аб асаку. І зноў хутчэй на сонейка, парагатаць там, павыскаляць зубы з нейкага новага небаракі.І каля катка пад берагам ужо нікога не было. Не было відовішча, не было забавы — зніклі ўсе разам і сябры: не такое ўжо і вялікае дзіва, як коцікі кана-

юць. Адзіны толькі матылёк застаўся яму верны. Але якая карысць і дапамога каму і калі была ад матылька?

Спадзявацца катку больш не было на каго. І дарэмна ён дзёр да неба рудую галаву, цёрся белай манішкай шыі аб прыбярэжны торф. Толькі гразі набіраўся ды вочы сабе запарушваў. І цягнула яго ўжо да сябе цёмнае, дрыгвяное і глеістае дно. І хацелася яму ўжо на тое дно, адпачыць, супакоіцца. Мо б ён ціха і непрыкметна і пайшоў на тое супакойнае дно. Але балюча разанула па воку не адпалым неяк мінулагоднім лістом чараціны. Каток мімаволі матлянуў лапай, хацеў адбіцца ад таго ліста. Толькі лапа яго ўзнялася і не здолела ўжо справіцца і з сухім лістом чароту, абвяла. І нейкі час ляжала на лісце, як рука на руцэ.

Той сухі лісток чараціны затрымаў кацянё, даў магчымасць яму хоць крыху адпачыць, перавесці дыханне. І дыханнем сваім, толькі пазначаным ротам і языком, ён памкнуў да сухога мёртвага ліста. Пацёрся аб яго вусікам. І нібыта нешта сказаў яму на вус сухі, адмерлы ўжо ліст чароту. Мо што і нядобрае, бо кот учапіўся ў яго зубамі. Ліст адразу і адпаў. Але кот ужо быў пад чарацінай, што, як свечачка, адзіна вытыркалася з вады па-над берагам. Ашчаперыў яе ўсімі чатырма лапамі, абсмактаў — ад вады і даверху. Наколькі хапіла шыі. Абсмоктваючы, знайшоў прыліплую да чараціны ракавінку ці то слімака. Яшчэ не ведаючы, што гэта такое, бо, апроч матчынага малака, нічога ў жыцці ў рот яшчэ не браў, схрумстаў тую ракавінку-слімака. Не, нічога, пасаліўшы есці можна. Не француз, не кітаец, але ўсё роўна спажыўна.

Знайшоў яшчэ адну ракавінку на чараціне, па-над самай вадой, крыху нават у вадзе. І тую з’еў, не да перабораў: сіраце ўсё пераварыцца ў жываце. Зноў прыпаў да чараціны мысай і пачаў смактаць яе. Мо недзе незнарок і пракусіў, таму што адчуў, як ад маці, малочны пах. Чараціна дала малако. І коцік доўга ссаў тую чараціну, як матчыну цыцку. Ссаў, пакуль не падманіў сябе, пакуль, здалося яму, не насыціўся.

А калі насыціўся, зірнуў зноў на неба, нешта правуркацеў, мовіў небу. І як бы саграшыў, нашкодзіў, прыціснуў да галавы вушы, ашчэрыў зубы і падзёрся, дзе лапамі, дзе па-

магаючы сабе зубамі, пачаў караскацца па чараціне ўгару. Караскацца з такім шаленствам і раз'юшанасцю, бы нічога ў ім больш не засталося кацінага. Адно толькі спрэс злосць, адна толькі разлютаванасць. Гнаў з сябе электрычнасць, і тая электрычнасць абязважвала яго і ўздымала, і трымала на хісткай чараціне. Ад злосці ён ужо і забыўся, што гэта ён робіць і навошта. Памкненне было толькі адно — угару. Угару вушамі, ротам — кожнай паўсцінкай.

І каток дапяў да самага верху чараціны. Ускараскаўся амаль пад самую яе макаўку, мятлісты і мяккі чараціны хвост. Хвост, што як ні дзіўна, расліны, аказваецца, носяць не адзаду, як каты, а наперадзе, на галаве.

Той хвосцік наадварот аблашчыў ката, пагладзіў яму галоўку і вусы. Коціку гэта прыйшлося даспадобы, хоць дарога яго ўжо скончылася. Анікуды, ні направа, ні налева, ні ўверх, ні ўніз дарогі ў яго больш не было. Сапраўды, трапіў ён, як рыба ў нерат — ні назад, ні наперад. Наперадзе было толькі сонечнае чыстае неба, унізе — вада. І направа вада, і налева вада.

Сама чараціна стаяла ў вадзе, не дасягала берага. Можна было паспрабаваць саскочыць з яе на зямлю, якую ён бачыў краем левага вока. Але ж як тут скочыш, калі тая чараціна гойдаецца паміж небам і сонцам, вадой і зямлёй. І коцік на той хісткай чараціне, як павук на павуцінцы.

Коцік заплюшчыў вочы, якія толькі што набыў. І невядома навошта, каб памерці відушчым? А чараціна гойдалася, гойдалася дый падламілася, якраз, пэўна, там, дзе каток пракусіў яе і ссаў, як матчыну цыцку. Каток з заплюшчанымі вачыма, не выпускаючы з лап чараціну, некуды паляцеў. Яму здалося, што зноў у ваду. І гэта было блізка да праўды. Крышачку, крышачку, як пазяхнуць яму, не дацягваў ён да берага. Але тут падскочыў матылёк, што кружыў над ім яшчэ на вадзе, учапіўся лапкамі яму за паўсцінку. Замахаў з апошняга белымі крылцамі і на ўзмах сваіх крылцаў белых наблізіў яго да берага. Коцік быў пазбаўлены вады, дзякуючы матыльку, ад якога б, здавалася, ніколі нікому аніякай дапамогі і карысці. Але пра матылька, пра тое, што ён ця-

пер заручоны не толькі з чарацінай, але і з ім, каток нічога на той час не ведаў. Бо вочы ж у яго былі заплюшчаны. Руды лабасты каток разам з чарацінкай бразнуўся вобзем. Абзямлячыўся.

Мяккая, мяккая матчына зямля, але і цвёрдая. І на каціны нават густ.

## III

Хочаце верце, а не хочаце — праверце. Але вось так каток зрабіўся новым жыхаром нашай матухны-зямлі. У нашай самастойнай краіне стала на аднаго грамадзяніна болей. І недзе гэтыя дзве падзеі — дараванне нам самастойнасці і з'яўленне на свет новага грамадзяніна — супалі па часе. Толькі вось гэтаму апошняму не варта шукаць нейкіх дакументальных пацверджанняў. Каты дакументаў не маюць. Метрыкаў аб нараджэнні ім на рукі ці лапы не выдаюць. Дыскрымінацыя, зразумела, а мо і горш — прыхаваны генацыд.

Я дык мяркую, што гэта яшчэ добра, што толькі вось такія на катоў дыскрымінацыя і генацыд. І не ўзнікае чаго-небудзь іншага, яшчэ больш горшага. А горшае?.. Ну, уявіце сабе, а раптам бы ды ўзнікла сярод катоў моўнае пытанне. Пажадаў бы, напрыклад, нейкі адзін кот пеўнікам кукарэкаць, а другі, скажам, сабакам брахаць. Што б з гэтага атрымалася. Па-першае, канечне, вялікая блытаніна. На знешні выгляд — кот, а гаўкае. Не то сабаку пацвельвае, не то падладжваецца пад яго. Сабака, на маю думку, таксама не застаўся б убаку. І яго б галава набакір паехала. Хто адкажа мне: на якой мове сабаку брахаць, калі кот па-сабачы чэша? Я не здольны адказаць. У мяне ў самога галава набакір і трохі кукарэкаць хочацца.

Па-другое. Гэта ж другі Вавілон. Усе гавораць на незразумелай нікому мове. Час пачынаць трэцюю сусветную вайну. Вайну катоў і сабак. А куды людзям падзецца. Хто іх хаты вартаваць будзе? І самае галоўнае, пытанне рубам. Каты пайшлі на вайну. Хто мышэй будзе лавіць? Я, напрыклад, адмаўляюся, бо ведаю такі выпадак. Адзін шахцёр на заклад

злавіў і з’еў у шахце мыш. Думаеце, ён машыну атрымаў, што была пастаўлена на кон? Чорта лысага. Яму восем гадоў турмы прысудзілі: за здзекі з жывёлы. Я ў турму не жадаю. І добра, што ў катоў няма моўнага пытання. Як нарадзіўся, пачаў каўкаць і мяўкаць на матчынай мове, так і працягвае. Ні шпрэхае, ні спікае. Сёння, праўда, мне трохі боязна, што мы і катоў здольны з тропу збіць, задурыць ім галаву. Не, няхай ужо лепш такія маленькія кацiныя дыскрымінацыя і генацыд. Што паробіш, свет такі настаў. Аднаго дыскрымінуюць, другога генацыдзяць, трэцяга...

Я дык вось і сам не ведаю, што са мной сёння робяць — ...нуюць ці ...дзяць. Не ведаю, хто я. Хаця і дакументы маю. Пашпарт дзяржавы, якая ўжо не існуе. Мова чужая, чаравікі заморскія — са старых запасаў, фрэнч шэра-бура-малінавы, а штых... не, штыха няма. А быў, быў нямецкі, у хаце лучыну калоць. Ды нейкія заезджыя калекцыянеры ногі яму прырабілі. І як нешта ўсё роўна прырабілі і мне. Памянялі галаву на адно месца. Я і не прыкмеціў бы, навошта мне сёння тая галава, ды толькі ў пэўны неадкладны час блытацца пачаў: ці то есці, ці то... І мерзне, мерзне на ветры новая галава, прывыкла да штаноў. І перад іншымі людзьмі было спачатку крыху няёмка. Але потым прыгледзеўся: бацюхны-светы, ды гэта ж такое сёння не толькі ў мяне аднаго.

А думаць стала больш прыдатна і шырока. Я цяпер на два бакі адразу думаю. Здымаю штаны — духоўнае з мяне прэ, такое ўжо духоўнае. А новая галава ўсё пра рынак і камерцыю дбае, мільёнамі варочае і геапалітыкай занятая. Вядома, канечне, якая галава — такі і рынак. І ад таго часам на той новай галаве прышчы ўскокваюць. Можна, можна і самому паглядзець і людзям паказаць. Сабаруюцца, элдэпэрацца і яшчэ нешта падобнае да гэтага чвораць.

Адна нязручнасць — блытаніна ўсё ж нейкая атрымліваецца і без трэцяй сусветнай кацінай вайны. Ніяк мае дзве галавы не могуць дамовіцца паміж сабой, прыйсці да нейкай згоды. Адна загадвае — направа, другая — налева, увогуле ўсё як і раней: на месцы бягом, шагам марш! Добра яшчэ, што мне, як таму арлу, прыладзілі толькі дзве галавы. А

каб болей, я адчуваю, яны б проста разадралі мяне што тую жабу, жыўцом з'елі. А так пакуль жывы. Галовы камандуюць, а я ні з месца, хай самі паміж сабой разбіраюцца. Якая пераможа, той і буду падпарадкоўвацца. А давядуць, дык абедзве, як той певень, сякеры паспытаюць. Толькі вось не ведаю, на якім цяпер свеце знаходжуся, ці то ў раі, ці то ў пекле. На гэтым ці то ўжо на тым свеце я. Заўчасна і без пахавання, без адыходу пачалося маё дванаццатае жыццё. І я адначасова сёння ўсюды і нідзе. Усюды адзіны мой толькі цень, здань, прывід мяне.

Таму я і ведаю ўсё пра рудога коціка. Маё жыццё пераблыталася з жыццём таго коціка і з усімі маімі адзінаццаццю жыццямі, што адбыліся раней. Скрыжаваліся ўсе дарогі, сышліся на нейкай кропцы ў прасторы і часе. Адсюль і маё веданне таго, што было і што ёсць. Толькі вось не дадзена ведаць ад мяне тое, што будзе: калі ёсць халадзільнік — піва халоднае будзе. Але ж гэта зноў толькі ўмоўна: калі ёсць халадзільнік, калі будзе яшчэ і электрычнасць, калі буду я і калі будзе ў мяне той жа самы халадзільнік.

А я сам пэўна магу толькі адно: засведчыць тое, што ўжо было. І быў руды каток. І быў я. Як той каток, я плыў у свой час па рацэ сваёй Леты. Катка кінулі ў ваду, каб знішчыць, утапіць, пакуль ён сляпы. А я зайшоў у тую ж ваду, у тую ж раку па сваёй ахвоце, калі мне яшчэ не споўнілася і года. Я ўжо навучыўся хадзіць і, пэўна, вельмі ганарыўся гэтым. Хадзіў па суху акі па моры. І ад радасці, што ў мяне ёсць ногі і я магу хадзіць, я па сушы дапяў да берага і ступіў у ваду. Думаў, што вада і суша адно і тое ж.

А мо так яно і ёсць на самай справе. Вада выратавальна, як рудога коціка, узяла мяне ў свае абдымкі, падхапіла і панесла ў белы свет. Міма маёй роднай хаты, на падворку якой яшчэ не згубіўся мой цень, не згаснуў мой смех і плач, дзе я сам працягваў сядзець яшчэ на бацькоўскім ганку. І я радасна памахаў самому сабе рукой і развітальна засмяяўся. Мяне не палохала вада, яна была таксама смяшлівая. Плыць самому мне было ў навіну, да гэтага ж мяне ўсаджвалі ў ваду толькі прымусам, калі толькі купалі ў карыце ці начоўках.

Рачная плынь несла, вяртала мяне туды, адкуль я прыйшоў. Але ж я быў у той час бессмяротны, хоць і не здагадваўся аб гэтым: дзеці ж да года не топяцца. Яны сапраўды, як дзьмухаўцы на зялёным лузе жыцця, сатканы з сонечнага промня, паветра і смеху. Кацяняты, і дзеці, і ўсе іншыя, пэўна, істоты, якім яшчэ не споўнілася і года. У іх няма яшчэ жыццёвай брыдоты, і таму яны лёгкія пад крылом сваіх бязгрэшных анёлаў. Такой пары яны яшчэ могуць лятаць і, пэўна ж, лятаюць. Толькі потым забываюць аб гэтым, час і жыццё падразаюць ім крылы.

Я з радасным смехам пачаў плысці па рацэ сваёй Леты ў нябыт. І нідзе наперадзе не было выратавальнай чарацінкі, за якую я б здолеў учапіцца. Яе і не павінна было быць. У нашым чалавечым плаванні па нашай рацэ Леты чарацінак не бывае.

Мяне выхапіў з вады выпадковы прахожы. Не адразу, праўда, выхапіў, таму што быў вельмі дасціпны.

Яго вельмі здзівіла: чаму гэта такое малое дзіця плыве і не топіцца, хаця ён недзе ўсё ж чуў, што дзеці да года не топяцца. Цяпер ён праг дасведчыцца: праўда гэта, ці хлусяць людзі. І яшчэ, было яму цікаўна, калі гэта праўда, то даплыву я вось так да самага Чорнага мора ці не. Колькі ж гэта па часе малыя дзеці да года не топяцца ў вадзе. Цікаўны і цікавы быў чалавек. І толькі адсутнасць часу, баяўся спазніцца на працу (недзе ўжо стаяў пад парамі і чакаў яго паравоз, на якім ён рабіў качагарам), перашкодзіла яму прасачыць, як немаўля даплыве да самага Чорнага мора.

Зароў, паклікаў яго паравоз, ён ачухаўся, кінуўся ў раку і выхапіў мяне з вады. Я аддзячыў яму, расквасіў голай мокрай нагой кірпаты дасціпны нос. І закрычаў, заенчыў, што было моцы. У рацэ было лепш. Ад яго ж прамазучанай скуры брыдка патыхала кіслым вугалем і дымам, да таго ж, пэўна, яна была гарачай, прагрэлася на сонцы, што патэльня, і павінна была нават сквірчэць. А ў рацэ так прахалодна, яна такая мякенькая і такая ласкавая. Мой выратавальнік, як тая ж чарацінка катка, не доўга думаючы, абзямлячыў мяне і пабег да свайго паравоза.

Як бачыце, у нас з коцікам амаль адзіны пачатак. Увогуле, можна сказаць, у вясковых дзяцей і катоў адзіны лёс, таму яны так і цягнуцца адно да аднаго. Нельга сабе нават уявіць вясковага хлопчыка без кацяняці і наадварот. Хоць і мушу сказаць, што ніхто так не здзекуецца з кацянят, як тыя ж вясковыя хлопчыкі. Але кацяняты ім усё даруюць. Мо тут крыецца і нешта большае, патаемнае, мо яны сапраўды браты не толькі па лёсе, але і па крыві.

Шмат, шмат агульнага ў маім і рудога коціка лёсе. Але ёсць, я думаю, і розніца. Я не зусім упэўнены, што цалкам вярнуўся з таго свайго першага плавання. Мне здаецца, што я працягваю плыць да свайго самага-самага сіняга ў свеце Чорнага мора. Усё ў маёй галаве ці дзвюх галовах пераблыталася ў апошні час. Мо гэта зусім і не я плыў па рацэ. Мо такое было толькі з катком, а не са мной. Мо я і ёсць той каток, а я сам усё ж утапіўся, прагнучы даплысці да Чорнага мора.

Нешта я звязаўся з гэтымі катамі і ніяк развязацца не магу. Усюды, куды ні зірні: каты, каты, каты. А стрэнеш чалавека, дык не адразу пазнаеш, чые вусы на яго твары і ці то твар у яго, ці што-небудзь іншае, зусім іншае. Як і ў мяне самога сёння. Шапку нашу, але добра ведаю, што не на галаве.

Нешта незразумелае адбываецца сёння з маёй галавой, з мазгамі. Як і ўсе мы сёння медзікі, я трохі ведаю анатомію. Я бачыў мозг чалавека. Праг яго ўбачыць і памацаць рукамі тую матэрыю, з якой і ў якой у чалавека нараджаецца думка. І наіўна думаў сам: прылучуся да чалавечага розуму рукамі, уга, як паразумнею. Матэрыю, вадкасць і нешта яшчэ вадкае, бачыў, ні розуму, ні разумення не набыў. Не спасціг, як гэта і адкуль бярэцца думка. З такой, здаецца, непатрэбшчыны нешта такое высокае, вечнае.

І сёння я ведаю толькі адно, што тых мазгоў у маёй галаве, калі я папраўдзе чалавек, недзе пад два кілаграмы. Паміж імі ёсць перагародка. Перагародка паміж думаць і рабіць, бегчы і есці, разбураць і будаваць. Нешта накшталт таго, што ёсць у курыным яйку: жыватворны жаўток і аддзелены ад яго плеўкай-перагародкай, спажыўны жыватворнаму

жаўтку бялок. У мяне гэта парушана ў апошні час. Зніклі ў маіх мазгах перагародкі. Калі такое адбываецца з яйкам, кожная хатняя гаспадыня, курыная маці, ведае: яйка ўжо не яйка, а баўтун. Усё ў ім боўтаецца і плёхаецца. Яно пачынае гнісці і смярдзець.

Вось так і ў маёй галаве боўтаюцца нічым не стрыманыя думкі, пазбаўленыя перагародак. Адна наскоквае, наязджае на другую, і атрымліваецца адна толькі дурнота. Падазраю, што такое сёння адбываецца не з адным толькі мной, не сляпы і не глухі, слухаю радыё і калі-нікалі гляджу тэлевізар і чытаю прэзідэнцкія ўказы. Спрэс адны толькі людзі без перагародак у галаве. Баюся, што скора-скора ад іх пачне патыхаць гніллю і гноем. За сябе таксама баюся.

Смярдзіць, смярдзіць нешта чалавек напрыканцы другога тысячагоддзя, як тая рыба, гніе з галавы. Але што мне з чалавека. Мне б з сабой разабрацца ды з маім катком, што затлуміў так мне галаву. Мо гэта мне нейкае пакаранне. Я ж грэшны, вельмі грэшны перад усімі катамі на свеце.

Стаіць на беразе хуткаплыннай ракі худы хлопчык у белай сарочцы з кужалю, з таго ж кужалю, але пафарбаваныя чарнілам і штонікі на шлеечках на ім.

З якога старажытнага заапарку, з якой даўніны часу той хлопчык. Я пільна прыглядаюся да яго. Бачу нешта вельмі знаёмае. Ці не я гэта сам? Ці не я гэта крыху пасумую і во зараз пачну тапіць коцікаў. Я ж такі, як і ён, дасціпны, люблю вясёлыя гульні, як нарадзіўся толькі, так і пачаў гуляць у жыццё і смерць. Мне карціць паглядзець, як будуць тапіцца коцікі. У адной руцэ ў мяне скарынка хлеба, а ў другой — камень. Хлеб я з’ем, мо і коціку дам, пэўна ж, дам. І адразу ж шпурну ў яго каменем. Ён паляціць прама ў галаву катку.

Не, гэта не я. Не было ў мяне такога.

Было. Было нават горш, таму што я ў той час ужо даўно знасіў сарочку з кужалю і штонікі на шлеечках.

Шырокі і чысты праспект сталіцы, нават упрыгожаны чырвонымі сцягамі. Нейкае свята. Дакладна якое, не ведаю. Большае свята на душы. Толькі што прайшоў абложны шчодры дождж, лівень. Расхлістана і шпарка прабег па скур-

чанай ад спёкі лістоце дрэў, па ўчарнелых ад пылу і сажы дахах дамоў. Ручаём змёў з асфальту бруд і смецце, недакуркі нават, вылізаў усё навокал. Аднавіў горад, праспект, людзей і мяне ў тым ліку. Неба яшчэ крыху імжыць, але на ім ужо сонейка, як дзіцячае вочка, таксама памытае. Лёгка дыхаецца, лёгка думаецца і ідзецца лёгка. Як прышпораныя коні, у два бакі бягуць машыны, творачы на сваім шляху радасную вясёлку. Бесклапотнасць і радасць на кожным сустрэчным твары. Усё зразумела, прадказальна і чыста, як у дзень першастварэння. Сапраўднае свята.

Але што гэта такое наперадзе, на самай сярэдзіне плыняў аўтамабіляў. Нешта агіднае, брыдкае, нявартае ў такі час знаходзіцца ў горадзе пасля такога вясёлага і іменна гарадскога дажджу — з падскокам. Нехта ці нешта сутаргава б’ецца, круціцца на асфальце, на выгараджаным белай фарбай астраўку бяспекі, дзе чалавеку і ўсяму жывому гарантавана бяспека, калі яго сярод бруку, ракі сучаснай машынізаванай Леты прыхопіць чырвонае святло святлафора. Тая ж самая чарацінка чалавеку ў рацэ Леты. І нешта там то выпростваецца, прыпадаючы да мокрага асфальту, то ўздыбліваецца і горбіцца гурбаном, хістаецца з боку на бок, нібыта вялізны вусень паўзе, такі ж калматы.

Я прыглядаюся да гэтага няпэўнага і брыдкага на чорным ужо бруку і бачу, што то не вусень, то шэры кот ці кошка і, здаецца, з перабітай хрыбцінай, расчаўленымі, прыплясканымі да асфальту, як прываранымі, лапамі. Ашалела, відно, жывёліна, узрадавалася летняму дажджу, расчулілася, перабягала вуліцу, пэўна, парушала і трапіла пад машыну. Я ў роспачы, мне жудасна і балюча. Я ўвогуле не магу трываць чужы боль, адчуваю на сабе і боль каціны. І ў мяне пячэ, шчыміць кожны пазванок, усе яны цяпер ва мне паасобку, расчаўленыя, разадраныя, целяпаюцца на нейкіх тоненькіх белых нітках-жылках. Крывавяць, сыходзяць крывёю і сукравіцай ссаджаныя, раскачаныя коламі машын рукі.

І першае чыста міжвольнае памкненне — на злом галавы кінуцца на дапамогу жывому. Спыніць, перакрыць шалёны лёт аўтамабіляў. Падняць і хаця б вынесці кошку на

абочыну дарогі, на тратуар пад дрэвы. Тады ў мяне, пэўна, яшчэ меліся перагародкі ў мазгах, хаця ўжо, як высветлілася пазней, крыху зрушаныя. Першае, вартае чалавека памкненне — дапамагчы. Але ўжо другое — асэнсаванае, разумнае — куды і як ты кінешся. Машыны бягуць няспыннай плынню, хіжыя, неўтаймаваныя звяры, а не машыны. Не зважаюць нават на астравок бяспекі, наязджаюць і на яго. Кошка круціцца паміж іх коламі, што ўюн на патэльні. І са мной будзе, як з той кошкай. Уплешчуць у асфальт і пабягуць далей, не азірнуцца. Да таго ж на мне такая белая сарочка. А пад сарочкай голае, голае цела. Кошка, канечне, сапсуе маю белую сарочку, абляпае кроўю. Можа сатварыць яшчэ нешта і горшае. Гэта відавочна, у яе агонія. А ў агоніі звер набывае неверагодную сілу. Усякі звер.

Не думаючы больш, імкнучыся не думаць, я адводжу ад астраўка бяспекі вочы, адварочваюся. Ці замала ў горадзе штодзень пад коламі машын гіне кошак і сабак. Надараецца, і людзі трапляюць. Вось людзей якраз і трэба шкадаваць, дапамагаць ім. Так я ўгаворваю, супакойваю сваё сумленне. Але адна ўсё ж думка свярбіць і свідруе галаву. Я ж вясковы па натуры чалавек і ведаю, што кошкі пазбягаюць паміраць прылюдна. Каты і кошкі — істоты ў вышэйшай ступені прыстойныя. Калі адчуваюць, што надыходзіць іх смяротны час, яны пакідаюць тлумны свет, хату і людзей. Сыходзяць з хаты і шыюцца туды, дзе ніколі і ніхто не будзе сведкам таго, як яны пакідаюць гэты белы свет. Мо іх нехта пры гэтым падбірае і адносіць на той свет, мо яны і самі капаюць сабе магілу. Толькі ніхто і нідзе, ні ў лесе, ні ў полі не бачыў кацiных касцей. Каты і кошкі — гэта вам не людзі, чые косткі і чарапы раскіданы ўсюды,— як употайкі нараджаюцца, так употайкі і адыходзяць. Гэта святое. І я павінен выканаць вялікі закон прыроды.

Але ногі ўжо нясуць, цягнуць мяне прэч ад кацiных пакут і законаў, хаця я добра разумею, што на тую хвіліну я ўжо сам па-за законам. Я шпарка крочу па тратуары, нясу ў сабе кацiную жудасць і страх і нешта кацінае, жалобнае і ў той жа час прыніжанае перадаецца мне. І ляціць, ляціць

камень, што шпурнуў у коціка рабы хлопчык на беразе рэчкі Пціч. Ляціць праз гады і адлегласць. Бо я і ёсць той хлопчык, мае штонікі на ім, я ж некалі насіў такія, усе хлопчыкі, што ў пэўны час нарадзіліся ў вёсцы, насілі пафарбаваныя чарнілам штонікі з кужалю на шлеечках. І яны не сатлелі, яны ўжо да самага майго скону прыраслі да мяне. І коцік паміж небам і зямлёй на чараціне, і кот ці кошка з перабітай хрыбцінай на скрываўленым асфальце сталічнага праспекта — усё гэта таксама я. Бо вясковыя хлопчыкі больш коцікі, чым самі тыя коцікі: наканавана ім жыць — будуць жыць. А не — Богу відней, што ўжо ім наканавана.

Вось адкуль і чаму я так добра ведаю, такі сёння дасведчаны аб тым, што і як дзеелася і дзеецца на свеце з катком. Ведаю нават больш, што робіцца там, наверсе, над маёй галавой. Калі няма ў галаве перагародак — няма межаў і думкам, і веданню. І ў мяне ёсць ідэя. Гэтага, праўда, дабра, ідэй, хапае сёння ў кожнага. Каб іх замест масла на хлеб намазаць, то мы б адно толькі рабілі, што бясконца елі і елі. І рот бы нам новы спатрэбіўся, і чэрава новае. Рот што неба, чэрава — з зямлю.

А мо гэта ўжо так і ёсць. Мо мы ўжо займелі такое чэрава і рот такі, таму ненажэрныя. Залеглі ў сусвеце і, як карова жуе жвачку, ямо свае ідэйкі. Таму так пуста ў нашай узбоўтанай галаве. Там, наверсе, у касмічным бязмежжы мы, пэўна, добра некаму насалілі, і ён палюе нас, страляе ў нас ідэямі. Выпякае іх і з полымя-жару, гарачыя яшчэ падкідвае нам. А мы адштурхоўваем унізе адзін аднаго, разбіваем ілбы, каб першымі ўхапіць, апярэдзіць суседа. І ад таго пуста не толькі ў галаве, але і ў нашым жываце, адна толькі разладжанасць арганізму, працей кажучы, лёгкасрай. Што лёгка даецца, тое лёгка і выходзіць. І з гэтай лёгкасцю апаганілі ўсю сваю планету.

Апаганілі сваю матухну Зямлю, цяпер замахваемся і на іншыя планеты, на сусвет. Космас нас вабіць і прыцягвае да сябе. На Млечным Шляху выспацца і паблукаць, разгадаць яго таямніцы марым. І не толькі марым. Колькі ж гэта ўжо нашага ламачча круціцца ў тым космасе. Колькі дзірак

і праколін над нашай галавой. Якія толькі хапуны і калатуны не хапаюць і не калоцяць нас сёння, таго-сяго да смерці. Бясконца доўжацца магнітныя буры ў космасе, а ў чалавека на Зямлі цісне сэрца і кружыцца галава, уціскае і ўкручвае яго ў сырую маці-зямлю. Сярод зімы ні з таго, ні з сяго ўсчынаюцца навальніцы з громам і маланкай. Бясконца, як у ліхаманцы, то на адным краі Зямлі, то на другім узнікаюць землятрусы. І людзі падаюць пачкамі ўжо. Гэта сёння, калі космас яшчэ толькі прыгожая мара. А што будзе заўтра, калі мы, як татара-мангольская арда на чале з новым Мамаем, хлынем туды.

Я шчаслівы, мне ўжо нічога не будзе. Я апярэджу ўсіх, скочу ў той космас раней, чым туды паляцяць ракеты з так званымі спецыялістамі. А вось унуку і праўнуку майму хопіць ліха. Бедны ён, бедны. Застанецца і без Зямлі і без Космасу. Зірніце сёння на нашыя гарады. Напрыклад, пад'езд да горада Гомеля. Мне здаецца, Мамай жыў і жыве там вечна. Такія смуродныя і пачварныя наварочаны там рукатворныя горы. Воку брыдка робіцца і за чалавека сорамна. Такое ж будзе і на Млечным Шляху. І некуды будзе ступіць майму праўнуку, недзе прыкласці галавы. І кот і кошка будуць грэбаваць хадзіць па тым ачалавечаным гасцінцы.

Рана, рана нам яшчэ туды. Мы ж абавязкова і там пачнём са свінарніка. У нас жа завядзёнка такая — пачынаць са свінарніка. Пераўтвараць усё ў свінушнік, а потым чухаць патыліцу: нешта не так. На ўвесь свет ўвесь сусвет з таго Млечнага Шляху разляжацца парасячы віскат, смурод і чалавечы плач. Як і на Зямлі, пачнецца барацьба за чысціню сусвету, у выніку якой каменя на камені не застанецца, не застанецца і знаку ад самога сусвету. Так ужо было. Так ёсць сёння ў нашай дэмакратычнай хаце. Па былой завядзёнцы замест таго, каб будаваць хаты, мы ўсё яшчэ працягваем будаваць свінарнікі. А людзі, людзі не свінні. Людзі ўсё сцерпяць.

У мяне ж ідэя зусім інакшая. Тут маракаваць і маракаваць, думаць трэба. І я сёння ўпэўнены, што мне зусім не дарэмна дадзены дзве галавы. Адна адной дапаможа. І каток вось, што прыбіўся ў баслаўлёны для зямлі час, дапаможа

тую ідэйку здзейсніць. Гэта ўжо тры галавы. Не проста ж ён прыйшоў да мяне, нездарма ж людзі кажуць, што страшней за кошку на свеце звера няма.

Разам з ім мы агораем як-небудзь сённяшні дзень. Ажыццёвім маё самае-самае запаветнае. Але аб гэтым у свой час. А цяпер зноў пра катка, каб зразумела было, адкуль гэта ідэйка ўзялася, як яна выспявала.

## IV

Але аб тым, як выспявае ідэя, я вам няздольны расказаць, таму што сам безыдэйны. Як той шчыры камуніст: без цара і Бога ў галаве. Не магу расказаць, таму што гэта вельмі проста. Выспявае, і ўсё. Як яблык на яблыні сярод лета. У мяне якраз пад акном расце яблыня. І я кожнае пары года сяджу каля таго акна, гляджу, бачу. З зімы яблыня выходзіць не вельмі прыгожая, голая, чорная. Але вось надыходзіць вясна, яблыня выбухае ружовай квеценню. Цвіце і салодка пахне, сыціць пчол недзе з тыдзень. А потым прыгожыя пялёсткі яе зморшчваюцца, як твар у старой жанчыны, ападаюць. Мне сумна. Я прагну, каб яблыня цвіла вечна. Гэтак душа мая, пэўна, прагне вечнасці. Але чаго не дадзена ў аднастайнай застыглай форме, таго не дадзена. Нікому не дадзена. Жоўклымі, жухлымі матылькамі адкружыла, легла на зямлю некалі ружовая духмяная квецень. А там, дзе яна толькі што была, вытыркаецца нешта, здаецца, зусім непатрэбнае. Рыжае, бухматае, вусатае. З той непатрэбшчыны завязваецца яблык. Таксама не вельмі гожы напачатку. І больш пустацвету, чымсьці завязі. За кошт таго ападаючага пустацвету хутка набірае сокаў завязь.

Ідзе час, яблык наліваецца, расце, як жывот цяжарнай жанчыны. Ён яшчэ не радуе вока, бо зялёны і зліваецца з зелянінай лістоты. Пачала ападаць тая лістота, яблык крамянее, наліваецца ўжо чырванню і раскашуе на прарэджанай, прасвечанай сонцам яблыні. Нібы гэта нехта знарок зрабіў, каб аказаць яго ўсяму беламу свету, аказаць менавіта мне і ўсцешыць мяне.

Якая ж тут ідэя? Ды ніякай ідэі. Яблык проста паспеў. Яблык проста можна есці. Пра ўсё простае гаварыць вельмі складана. Я не ведаю чалавека, які б адказаў на бясконцае і простае дзіцячае «чаму». Мне ніхто не адказаў, і я не здолеў адказаць свайму дзіцяці. Сапраўды ж, чаму сонца свеціць?

Такім чынам, за адказам, як выспяваюць ідэі, звяртайцеся да каго-небудзь іншага, да прэзідэнта мо ці да парламента. Да таго ж Ісака Ньютана. Ісак павінен ведаць, на тое ён і Ісак, а яшчэ, яго білі яблыкам па галаве. Мяне таксама білі і яблыкам, і нават каменем. Але я не Ісак і таму акрамя гулі ні ў галаве, ні на галаве нічога ў мяне не спела.

Хаця, хлушу, хлушу. Аднойчы мне рэзнулі цаглінай па галаве. Я недзе з гадзіну сумаваў, адпачываючы, набіраўся думак. І во, ці не тады якраз прымроілася мне мая ідэйка забагацець бы неяк адразу. Хвала, вялікая хвала цагліне, якой б'юць нас па галаве. Калі ваша галава яшчэ цэлая, хутчэй шукайце цагліну, будзеце жыць па-чалавечы і на «мерседэсе» катацца. І той, што зараз на экране тэлевізара залез на трыбуну, благаслаўлёны цаглінай на права кіраваць намі і дзяржавай. Пра сябе я дык часта думаю, што мы ўсе благаслаўлёныя цаглінай, таму так заможна і весела жывем.

Хвала, вялікая хвала цагліне. Разумны чалавек прыдумаў яе. На мой густ, на густ чалавека, якога пазначылі ўжо цаглінай, дык асаблівая хвала чырвонай цагліне, яна ж колеру сцяга нашага і колеру нашай крыві. Такая вось драбяза, «пустячок» па-руску, але прыемна. Дэвізам чалавецтва павінна стаць: кожнаму па цагліне! Дыхтоўнай цаглінай сустрэнем двухтысячны год. Справу ацагліньвання насельніцтва ні ў якім разе нельга пускаць самацёкам. Рабіць, дык ужо павялікаму. Ацагліньваць з размахам і па-дзяржаўнаму.

Хвала, хвала табе цагліна. Дарэмна толькі я на сябе наракаў: безыдэйны, безыдэйны. Як бачыце, які яшчэ ідэйны. Выхавалі, з пня брахаць навучылі. Ацаглінілі на ўсё жыццё. Думай, думай, галава, не балі, прыйдзе субота — папраўлю. Уперад за рудым коцікам.

А руды, любы мой каток, Божухна-светы, ляціць. Хто там каўкае, што каты не лятаюць. Яшчэ як лятаюць. Праўда, не

па сваёй ахвоце. Як надараецца гэта і з людзьмі, і не ў сне, а наяве. У свой час я таксама лятаў. Як сказаў знаёмы яўрэй: усе мы трохі кацманаўты.

Наша прызначэнне мо больш усё ж лятаць, чым хадзіць па зямлі. І я часта лавіў сябе на небе. Здаецца, іду сабе як нармальны чалавек па вуліцы ці па лесе, час ад часу спатыкаюся нават, думаю, што сёння буду есці. І раптам гляджу — я ўжо на небе, лунаю пад аблокамі. Вачам сваім не веру. Не можа такога быць. Я ж толькі што рассадзіў аб пакручасты хваёвы корань вялікі палец на правай назе. Палячыў сваімі лекамі ў цяньку пад прыкрыццём хвоі. Палец яшчэ ж шчыміць, крывавіць. А я ўжо лётаю. Высока ўнізе, асмужаны летам, гойдаецца ў прывідным мроіве, плыве пада мной горад і лес. Так не тое, што палец скрывавіць можна, але і галаву скруціць, вязы звярнуць. І я ссаджваю сябе з неба на зямлю. Ссаджваю, хаця і шкада развітвацца з небам, але на зямлі мне мелася процьма неадкладнай работы. Бяру ў рукі сякеру ці рыдлёўку, а то і проста палку, іду спраўляць тую работу.

І, згадваючы сёння той далёкі свой час, я ўпэўнены: хлусяць вучоныя людзі, калі сцвярджаюць, што малпа стала чалавекам, калі ўзяла ў рукі палку, хутка рушыла наперад. Не, не наперад, малпа пайшла зноў да сябе па зваротным шляху. Недарэмна мы мроім наяве і снім у сваіх снах, што лятаем. Нашы палёты — гэта сум па тым, што мы маглі раней, а потым развучыліся. Сум па тым, што не адбылося, з чым мы размінуліся. Сум па незваротным. І ў нашай душы шмат такога суму, ад яго мы ідзем на забойства і гвалт. І ўсё больш і больш незваротнага, чымсьці абяцанага наперадзе.

І, наглядаючы за тым, як ляціць па небе руды лабасты каток, а ляціць ён прыгожа, выразна хіжа, як калісь, я ўспамінаю, што я таксама аднойчы паспрабаваў укінуцца ў неба і паляцець да сонца. Збег са школы з нейкага нудотнага ўрока, на якім мы якраз і праходзілі, чаму птушкі лятаюць, а чалавек не. Пайшоў у чыстае поле. Было бабіна лета. Па небе ляцела павучынне з маленькімі павучкамі — касманаўтамі на ім. Павучкі ўзышлі на прыбраным ужо іржышчы. Зямля радзіла другі раз у год, радзіла жывой істотай і выпраўля-

ла яе ў палёт, у неба. Сярод поля на ўзгорку стаяў стары вятрак з пустымі праёмінамі сатлелых па баках дошак. Я быў заможны ў дзяцінстве, у ім па вёсках яшчэ меліся ветракі.

У сярэдзіне ветрака я знайшоў табаку. Яна правяльвалася, падвешаная за цыбатае будылячча ўніз галавой і дурманна і чаравальна плакала, сыходзіла жоўтай вільгаццю і трохі гаркавым тытунёвым пахам восені. Я адламаў два ці тры найбольш сухія лісты, прамяў у далоні. Вырваў з дзённіка ненавісны мне аркуш, на якім, што тлустая жаба, чамусьці чырвоная толькі, разлеглася двойка. Скруціў сабе цыгарэту, прыпаліў. Запалкі меліся, я насіў іх заўсёды з сабой нават у школу, як носіць іх заўсёды пры сабе кожны вясковы чалавек, калі нават і не курыць: ці мала якая патрэба будзе. І я быў запаслівы, хоць курака з мяне яшчэ той, так, за кампанію. Вучань пачатковай школы і курыць толькі вучыўся.

Прыпаліў сваю самакрутку, добра даў дыму, выйшаў на паветра. Агледзеў усё гаспадарчым, у прыжмурку, вокам. Усюды на маёй зямлі быў парадак. Усё прыбрана, скошана, звезена з поля. Непакоіцца няма чаго. І я прылёг на іржышчы, дзе трохі было насыпана мякіны. Разам з мякінай на зямлю трапіла, пэўна, крыху і зерня, мо нехта і спецыяльна сыпануў, мышкам і птушкам. Зерне прарасло і ўзышло зялёным маладым лапікам аксаміту. Я ляжаў на тым сакавітым лапіку, як на пуховай мяккай пярыне, паглядаў, як на тонкай павуцінцы адрываецца ад іржышча і адлятае ў вырай лета. Вяртаецца зноў на зямлю ужо шэрым восеньскім покрывам, як першым прымаразкам. Ляцелі ў нікуды маленькія, з мурашынае вока, сумныя і дбайныя павучкі. Нада мной хадзіў кругамі ў чыстым і вусцішным небе коршак, стары, бо не траціў дарэмна сілы, не махаў без патрэбы крыламі. Пісаў і пісаў нешта на небе мне ці то яшчэ каму. Самотна круціўся, тужліва памахваў небу сівымі крыламі дзедаўскі вятрак. Рабіў ухаластую, па вясковай старэчай звычцы. І нават пры халастой хадзе ў яго натруджанай сярэдзіне нешта як пастрэльвала, разладжана патрэсквала, слізгацела, перакочвалася. Ён як бы хацеў нешта мовіць мне, нешта перадаць з глыбінь свайго веку. Намагаўся перадаць, сказаць, і

здавалася ўвесь час, што вось-вось скажа. Але слова ў яго ніяк не складвалася. Не атрымлівалася слова, мо таму, што зажыўся ўжо, забыўся на слова ці з'еў яго разам з зубамі і цяпер толькі шапялявіў.

Я пасмоктваў сваю самакрутку, прыслухоўваўся да яго старэчага крэкту, і па шчацэ ў мяне кацілася сляза, як нехта разворваў мой не вельмі чысты твар. Мо тая сляза была і ад дыму, ад пранізлівых памiральных пахаў памiраючай у ветраку табакі. Пахаў, якія наносіў на мяне сцішаны восеньскі ветрык, а мо ад чаго-небудзь і зусім іншага. Ці мала чаго здольны надумаць вучань пачатковай школы, калі асабліва выразна на кожным кроку відно, колькі ж на гэтым свеце недарэчнасці, абуральнай несправядлівасці. І так карціць перайначыць гэты свет, каб хоць сонца не так рана заходзіла, больш доўжылася лета, каб назаўсёды зніклі ўсе крыўды, знік боль, бацькава папружка і ўласныя горкія слёзы. Хочацца перакроіць свет, а не даюць. Расці, вучыся, гавораць. Навошта ж расці, чаму вучыцца: трываць і плакаць цішком?..

Нечакана для сябе я ўзняўся на ногі са свайго пуховага ложка, кінуўся да крылаў ветрака. Прымерыўся і, не выпускаючы з рота самакрутку, аберуч ашчаперыў сухую з вострымі стрэмкамі дошку. Я быў на крыле. І крыло лёгка, бы нейкую пушынку ці таго ж павучка, адарвала мяне ад зямлі і панесла, памкнула ў неба. Я ляцеў, аж іскры з рота сыпаліся, з носа і вушэй ішоў дым. Якая радасць, якое шчасце! Але яны не вельмі доўжыліся. Як усякая радасць і шчасце. Адно імгненне, хаця яно падалося мне вечнасцю. Жыццём, якое я да гэтага часу ўжо зведаў. Я знаходзіўся на недасягальнай вышыні і быў там заўсёды. Я заўсёды ж толькі лятаў і маё прызначэнне на гэтым свеце толькі лятаць. Я не вярнуся больш на зямлю, я не зраблю па ёй больш ні кроку. Бо не хачу хадзіць па бядзе і крыўдзе. Не жадаю.

Але на сваю бяду, на сёмым ад шчасця небе і, здаецца, на сёмым небе ад зямлі знайшоўся ўсё ж чорт і пацягнуў мяне за нагу. Я падкурчыў нагу, каб адбіцца ад таго чорта. Спачатку, праўда, адшукаў вокам каршука, які застыў на адным месцы, назіраў за мной з неба. І адразу ж вока тое — на зямлю пада мной, мо хацеў развітацца з ёй, апошні раз паглядзець

на яе. Паглядзеў — і ўсё. На тым усё і скончылася. Хацеў развітацца з зямлёй, а развітаўся з небам. Абзямлячыўся, ацаглініўся другі раз і без усякай цагліны.

Сапраўды, мяккая ты, мяккая, матчына зямелька, але і цвёрдая і на мой дзіцячы густ.

А руды каток аказаўся больш удалы за мяне. Сапраўдны касманаўт. Ён узняўся ў неба куды вышэй за ветраны млын, што стаяў на пагорку сярод сівога іржышча. Мо то быў мой стары знаёмец, вятрак майго дзяцінства. Раней, яшчэ на маёй памяці, яго тут не было. Яго адшукалі недзе на глухім Палессі і нядаўна перавезлі сюды. Перавезлі і нанава склалі. Немаведама навошта. На пацешку душы нейкаму нававастворанаму магнату-прадпрымальніку. Чалавеку, здаецца, таксама моцна ацагліненаму, але не без пачуцця прыгожага і нечага незвычайнага ў душы. Толькі вось непярэліўкі атрымаліся. Што адышло, тое ўжо беззваротна адышло.

Млын на новым месцы адмовіўся не тое што малоць, а нават стагнаць, круціцца. Мёртва, як помнік сівой даўніне, застыглі ў небе яго адноўленыя маладыя крылы і не краталіся. Па старой, пэўна, сваёй памяці з усяго свету набеглі сюды толькі мышы. Мо і з Палесся прыйшлі, адтуль, дзе млын стаяў раней. Гэта ж у нас завядзёнка такая: дзе млын — там і мышы, а яшчэ і галубы. І руды коцік адразу ж упадабаў хадзіць сюды на паляванне. А мо і жыў нейкі час там. Ніхто б цяпер не прызнаў у ім таго нягеглага, адзін толькі вялікі лоб ды вочы лупатыя, коціка, якога некалі хацелі ўтапіць і думалі, што ўтапілі ўсё ж.

Гэта быў дзікі, ганарысты паляўнічы кот-прыгажун. Ні адна хата, ні адна гаспадыня не прынялі яго пасля таго, як ён выбавіўся з вады. Яно і зразумела, навошта вясковай хаце нейкае мокрае і прыблуднае кацянё, сваіх няма куды падзець, плача па іх рэчка. Лішняга і ката па сённяшнім дні не надта пракорміш. І дарэмна амаль тыдзень хадзіў ён ад хаты к хаце.

Скробся ў дзверы, імкнуўся зазірнуць да людзей і лашчыўся да хатніх кошак, маліўся на кожную і сцвярджаў, што ён іх сын. Усюды яго толькі білі, адусюль гналі. Нават маці

родная адмовілася ад яго, не пажадала прызнаць. Рачная ж вада змыла з яго знаёмыя ёй пахі. Каток стаў чужым усяму беламу свету. Чужым і лішнім. І ён пайшоў у прочкі ад родных хат.

Зямля, лес, прыбярэжныя кусты лазы і чаромхі, што не паспела яшчэ адцвісці, каліна і бузіна ў квецені прынялі, укрылі і схавалі на нейкі час катка. Такім чынам, можна сказаць, што гідкае рудое кацянё з вады-бяды трапіла ў раскошу жыцця. Сабе пад хату яно знайшло і абрала старую барсуковую нару. Барсукі з тае нары, як і наогул з гэтых краёў, зніклі яшчэ па-за памяццю людской. Зніклі, як у свой час маманты. І як ім было не знікнуць, калі на аднаго зайца ў лесе ці качку на вадзе — механізаваны батальён людзей са стрэльбамі і сабакамі шныпараць. З таго свету выпараць усё жывое гатовы. І за барсуком, яго гаючым салам да самога Бога, на неба дзерціся не палянуюцца.

Перасцярога, на маю думку, усяму таму жывому, што з'явіцца пасля нас: голымі, як камень, з'яўляйцеся, каб не было з вас чаго ўзяць, карыснае нешта паймець. І іншы раз, гледзячы на нашу зямлю, густа засеяную камянямі, валунамі, мімаволі думаеш, што такое ўжо зведала наша Зямля. Камяні на нашых палетках — гэта бывальцы, былыя людзі, больш разумныя за нас. З іх ні сала, ні мяса. І яны яшчэ адродзяцца, перакінуцца ў людзей, калі мы з вамі паразумнеем.

А ціхіх барсукоў у нашым ляскуператапілі на сала. Як яны плакалі горкімі слязьмі, калі людзі здабывалі сабе тое сала. Адно, на ўспамін іх душы, засталіся іх хаты. Барсукі ладзілі іх на доўгую і патаемную жытку, у некалькі паверхаў на выпадак нечаканай паводкі і шмат дзвярэй на раптоўны сыход, пры цёплых, як печ, каранях дрэў. І так адпаліравалі хады, нібыта зацэментавалі, столькі пралілі поту, слёз, а мо і крыві, пакуль агоралі тую сваю земляную хату-нару. І час не парушыў яе. Яна захавалася ў часе і вось цяпер перадалася рудому кацяняці.

Каток запоўз у барсуковую нару. І было яму там добра. Хата стаяла праветраная і дагледжаная, як чакала гаспадара. Шыкоўная хата такому маленькаму кацяняці. Яно магло

там ісці направа і песню спяваць, налева — казку гаварыць. Уначы, вытыркнуўшы з нары мысачку — сачыць за зоркамі, удзень — грэцца на сонейку. Чым яно і займалася, бо, нягледзячы на ўсё, расло рамантыкам, чаму на пачатку жыцця спрыяў пах квецені чаромхі, а пазней — невялічкага, амаль у самай нары ландыша. Які пасадзілі, пэўна, у свой яшчэ час барсукі. Мо спецыяльна, прадбачылі з'яўленне малога коціка і пасадзілі. Ландыш і будзіў, услугоўваў яму як будзільнік. Будзільнікам рабіў у яго і чорны дзяцел — жаўна, якая аблюбавала елку, што расла непадалёку ад яго цяпер хаты. Жаўна зрабіла на елцы сабе стол. А харчавалася яна строга па раскладзе і доўга.

І той другі свой будзільнік, жаўну, коцік не вельмі прывячаў. Велікаваты для маленькага коціка быў будзільнік і надта ж надакучлівы, хоць ты з хаты сыходзь. І каток сам сабе марыў, як ён падрасце і з'есць свой будзільнік. Незласліва, абачліва так марыў, бо пабойваўся: з'есці-то ён з'есць яго, а як жыць далей будзе з такім працавітым будзільнікам усярэдзіне. Аніякага жыцця. Усе мышкі здалёку яшчэ будуць ведаць і чуць яго набліжэнне. Адзіны раз толькі наесца, а потым ад голаду сканае. Гэта ж усё роўна як загадзя папярэджваць, пісаць пісьмо, што ён ідзе і жадае некага ўпаляваць.

А коцік, нягледзячы на свае маладыя гады, быў ужо здатны паляўнічы. Жыццё прымусіла, а галава ў яго варыла. Пачынаў з малога, пра што сорамна сёння і ўспамінаць. З таго, што ўжо мелася ў хаце, — яна хоць была сухой і добра праветрывалася, але не без злыдняў. Якая ж гэта хата можа абысціся без злыдняў, павучкоў там розных, жучкоў і чарвячкоў. І коціку давялося добра папарадкаваць і папрыбірацца, калі ён крыху ачомаўся і ў жываце у яго забуркацела. Першай ахвярай стаў чарвяк-выпаўзак, што ўпаў са столі проста на лоб. Заблудзіўся мо, думаў, што шыецца ў зямлю, а трапіў у каціную хату.

«Без стуку не заходзіць»,— мяўкнуў коцік з перапуду. І з таго ж перапуду накрыў выпаўзня лапкай. Выпаўзень, што вужака, спрытна абкруціўся вакол яго лапкі. Каток, малады і грэблівы, адным словам, рамантык, строс яго з лапы.

Чарвяк адкаціўся некуды цемру і стаіўся, думаў, пэўна, што яго не бачаць. Але не на таго натрапіў. У кожнае кацінае вока, якім бы маленькім яно ні было, ад нараджэння ўстаўляецца па ліхтарыку. І гэта чарвяк не бачыў коціка, а коцік яго добра бачыў, як на далоні. Толькі ўсё яшчэ гідзіўся есці. Але, як кажуць, голад і коцікам не цётка. І будзь ты тройчы рамантыкам, калі ў цябе кішкі ў жываце іграюць марш, музы павінны маўчаць. Коцік схаваў чарвяка, толькі аблізнуўся. І ўжо сыты адчуў: жыццё сапраўды духмянае і кяцістае. Пазнаў яшчэ адну вялікую ісціну: кветкі цвітуць і чаромха пахне толькі сытаму. І такіх вялікіх ісцін наперадзе ў яго было шмат.

Жыццёвая навука чакалася вялікая і доўгая. Сіраціна ж, бязбацькавіч, нават ні мянушкі яшчэ, ні прозвішча. Усё трэба пазнаваць без падказкі і на ўласнай скуры. Самому знайсці сваё імя і прыладзіць сабе да скуры. І ён знайшоў. Але шлях да свайго імя быў неверагодна пакутлівы і жорсткі. Коцік ужо добра ведаў, што ўсё, здольнае лятаць — спажыўнае, прыдатнае яго жывату, Апрача толькі матылькоў, адзінага матылька, які пасяліўся ў яго хаце. Таго матылька таксама можна было з'есці. Але ён ляцеў следам за катком мо ад ракі яшчэ. І коцік шкадаваў яго і клапаціўся аб ім. Што ж гэта за хата, калі ты адзін у ёй жывеш і голасу няма каму падаць, няма аб кім клапаціцца.

Трэба сказаць яшчэ, што вельмі здзіўляў той матылёк катка. Ён так пэўна і не ведаў, стары гэта яго знаёмы ці нейкі новы. Матылёк не надта даваўся, каб яго пазнавалі, бралі ў лапы і нюхалі. Ён завітаў у яго хату неяк у спякотны поўдзень, мо ратаваўся ад сонца, бо яго белыя крылы па краі былі як прыпаленыя крыху, жоўклыя, а мо яны зжоўклі, пакуль матылёк шукаў свайго коціка па свеце, ён жа не ведаў, куды коцік пайшоў з вёскі.

Заляцеў у нару і сеў на прахалодны каціны нос. Коцік на той час толькі падсілкаваўся і мовіў сам сабе казку. Таму адразу і не праглынуў тое, што само набівалася ў рот, а толькі чмыхнуў і скалануў вусам. Матылёк узняўся з кацінага носа, але далёка не адляцеў. Завіс над ім і хлупаў крылца-

мі. Коцік лупаў вочкамі і адчуваў да ўсяго жывога вялікае замілаванне. Матылёк яму спадабаўся. Хоць нехта з'явіўся, на каго можна было лупаць вочкамі і каму можна было баяць казкі. Мо то ўжо час каціны надыходзіў некаму баяць казкі і лупаць на некага вочкамі.

У такім жа гуллівым настроі, толькі трохі агаладалы, неяк ён выйшаў з хаты на паляванне. У самой хаце ўсё было ўжо з'едзена, як падмецена. Ніхто там, акрамя таго ж матылька, не лётаў і не поўзаў, як і вакол хаты. Коціка пазнавалі ўжо суседзі і давалі добры дзень толькі здалёку. А тут з'явілася нейкая новая істота, якой ён раней не бачыў. І гэтая істота нікольні не баялася яго. Спакойна пасвілася на яго лузе, на яго кветніку, на шчымліва духмянай медуніцы, да якой ён унадзіўся калі-нікалі салодка прыпадаць, лунала над яго пахучым чаборам, у якім ён раніцай збіраў расу і піў, а таксама мыўся.

Каток намерыўся пакараць парушальніка яго межаў так, каб больш нікому не панадна было гэта рабіць. Дагнаць, прычавіць лапай, абламаць крылы і пагуляць, як гэта каты ўсяго свету ўмеюць і любяць гуляць з мышамі. І мышам гэта вельмі даспадобы, бо гульні іх вечныя.

Ворага катка павінна ўжо была спасцігнуць справядлівая кара. Ён якраз пашыўся ў чабор, калі каток падкраўся да яго і прыціснуў лапай. Але лапа злавіла і прыціснула толькі пустату. Ні ў ёй, ні пад ёй нічога не было. Каток разгубіўся і прыпаў да зямлі вухам. Там, углыбі, нешта сярдзіта буркацела і нейкая маленькая дзірачка мелася. Каток не ламаючы галавы, сунуў у тую дзірачку лапу. І яе адразу ж як агнём апякло. Толькі ён быў не пужлівы ўжо і трывушчы. І, як кажуць, што ў лапы кату папала — тое прапала.

Ён выдзер з зямлі нешта накшталт вераб'інага кубла з мноствам нейкіх маленькіх у чорнай вельветавай апратцы з жоўтымі каўнерыкамі верабейчыкаў. Коцік паспеў яшчэ лупянуць лапай па тым кубле, ублытацца ў яго носікам і лізнуць, паспытаць нешта больш салодкае нават за мядунку. А далей у носе яму зрабілася кісла. Язык у яго ад таго салодкага загарэўся агнём, пачаў расці і скора не ўбіраўся

ўжо і ў рот. Коцік яшчэ не ўцяміў, што гэта такое, але з ранейшага вопыту ведаў, калі трэба як мага хутчэй рабіць ногі. І ён «зрабіў ногі», такія ногі, што яны апярэдзілі нават яго. Тулава засталося недзе каля кубла, а ногі праджгалі, прашылі наскрозь яго хату. Толькі цяпер і ў хаце яму падалося нешта млосна. Ён выпырхнуў з яе рудым матыльком і пакапацеў да рэчкі. Абдзімаў сябе ветрыкам, а пад хвастом усё роўна пякло, нібы там нехта цяпельца развёў. Так засяродзіліся там боль і агонь. А ў роце ўсё ж было соладка. Так ён пазнаў яшчэ адну вялікую ісціну: не ўсё тое мёд, калі нават у роце соладка. Не грэх паглядзець і пад хвост.

Коцік па сваёй ахвоце ўжо з разгону боўтнуўся ў раку, заверашчаў і даў нырца, бо які ён быў ні шпаркі, а яго ворагі яшчэ больш хуткімі. Яны абселі яго, ублыталіся ў поўсць і ведама што рабілі, таму што гэта былі зусім не вераб'і, хаця і пры крылах. Лясныя чмялі. Ён пазбавіўся ад іх толькі пасля трэцяга нырца і то, калі прыпаў ужо на беразе носам да рачнога аеру, добра пацёрся аб яго і набраўся горычы, якая перабіла і супакоіла слодыч і духмяны пах мёду.

Вось так наш руды коцік пахадзіў у пчалярах і сказаў сабе: г... пчолы, г... мёд, такі з ката і пчалавод. А наперадзе яму абвешчана было зрабіцца яшчэ і касманаўтам. Якраз тады я і пазнаёміўся з ім. То быў першы касманаўт, якога я бачыў жыўцом. І калі гаварыць папраўдзе, знаёмства не зусім атрымалася.

Рудога дзікага ката я даўно прыкмеціў каля сваёй хаты, бо яна і стаяла сярод поля, якое ён, пэўна, лічыў сваім, а мяне нейкім захопнікам, бо пазіраў на маё жытло скоса. Гэта быў яшчэ той кот. Руды са спіны і на твар, што пыхлівы шляхціц у жоўтай жылетцы і ў сарочцы з белым каўнерыкам, і заўсёды пры белых пальчатках. Ён з пагардай абмінаў вясковыя хаты, нібы грэбаваў імі, не патыкаўся ні к кому нават на падворак. Толькі лес, толькі луг і бераг ракі, дзе прастора і воля. Там ён здабываў і свой хлеб надзённы. Чэрствы, хлеб не прывечанага чалавекам здзічэлага ката.

Мне ніколі не давялося ўбачыць яго ў спакоі, на адпачынку, каб ён гультаявата прылёг на траве ці беразе і грэў на сон-

цы бакі. Усё нешта пахаджаў, рупіўся, парабляў, вынюхваў, раскопваў лапамі. І калі нават уздымаў галаву, паглядаў на сонца, то не без сялянскага адвечнага пытання: што б яшчэ зрабіць, куды пайсці, нешта ўзяць і прынесці. І мне ў той час вельмі падабалася яго пастава, асабліва галава, столькі непрадказальна-кацінага, дзікага было ў звівах яго ільсняной шыі, столькі чалавечага ў зморшчынах на высокім лобе і ў прымружаных вачах. Кот быў вельмі лабаты і галаваты. І я зайздросціў яго галаве. Мне б такую разумную галаву і такі лоб, я пляваў бы толькі ў белы свет, як у капеечку, і нічога не рабіў бы. Раз плюнуў — капеечка, другі — мо і долар. Я б абпляваў усю зямлю, як яна аплявана сёння іншымі.

І ў той дзень на іржышчы каля знямелага млына, аточанага мышамі з усяго свету, кот выйшаў на паляванне. І паляваў не якую-небудзь нягеглую, вартую жалю мыш, а дзічыну буйную, палявую курапатку, якая на тым жа іржышчы з вывадкам сваіх птушанят таксама вяла паляванне, чысціла на зіму поле, падбірала нейкіх жукоў, павукоў і стрэсенае долу камбайнам зерне.

Спрэс адны паляўнічыя сышліся на поле жыцця каля старога, прасвечанага сонцам, з абвіслымі крыламі млына. У траве і ў норах шчыравалі, запасілі зерне на зімоўку мышы. Шыліся, глыбока закопваліся ў зямлю, як на той свет адыходзілі, чарвякі і жабы, у прадчуванні халадоў накідваў на сваю земляную хату шапку крот. Нешта склёўвалі, пахаджалі па полі вароны з сарокамі. Зямля спяшалася насыціць усіх і як бы крыху вінавацілася, што на ёй у нерухомасці застыг стары млын. Напамінак і помнік былога жыцця. І гэты стары млын, здаецца, вінаваціўся. Ён і хацеў мо далучыцца ці сысці куды-небудзь ад гэтага няўрымслівага, руплівага люду, каб не выглядаць у яго вачах зусім ужо гультаём, але ногі яго назаўсёды прыраслі да зямлі. І млын толькі ціхенька плакаўся ветрыку шчылінамі ў крылах, жалячыся яму, як цяжка жыць на чуж-чужаніне.

Я таксама быў паляўнічым на тым полі, паляваў за сваім незваротным мінулым. І быў яшчэ адзін паляўнічы ў высокім блакіце неба. Толькі да пары да часу ён не аказваў сябе. І

я не бачыў яго. Я наглядаў за катком, сыціўся яго запалам, паляўнічай страсцю, ніводнаму паляўнічаму нязведаным яго спрытам. І ў той жа час яго неверагоднай прадбачлівасцю. І зноў жа, нязменнай шляхетнай акуратнасцю. Кот то як помнік прарастаў з поля, з падрэзаных рудых былак, зліваўся з імі і надоўга стыг у нерухомасці, то прыпадаў да зямлі, хаваў сваё рыжмоцце сярод былак. І нечакана, высока ўздымаючы белыя пальчаткі лап, рабіў крок, другі наперад без шолаху і гуку. Ступаў так, што здавалася: ідзе ён па вадзе і баіцца замачыць ногі. Ні адна травінка не шалохнецца пад ім, не скалыхнецца люстра вады. Памерці можна было ад такога дзіва, ад таго, як скрадліва па зямлі ўмее хадзіць птушыная смерць, наогул усякая смерць. І, каюся, мне нікольκі не шкада было маці курапаткі, да якой лучыў паляўнічы кот. Мо само імгненне смерці і непрыгожае, але ў тым, як яна ходзіць па зямлі, ёсць нешта вельмі і вельмі чаравальна-непазбежнае.

Кот ужо ўшчыльную наблізіўся да курапаткі. Мне ўжо не ў моц карцела крыкнуць, папярэдзіць яе, але я маўчаў, бо на тую хвіліну сам быў паляўнічым рудым катом і прагнуў курапаткі. Я падрыхтаваўся ўжо скочыць і ўзвёў на скачок ката. Але той так і не скочыў. Ён распластаўся перад самай яе дзюбай, у здранцвенні выцягнутай наперад ад здзіўлення шыяй. Як ні далёка гэта было ад мяне, на нейкае імгненне мне падалося, што я бачу перад сабой птушынае жоўтае вочка. Яно не было азмрочана ні трывогай, ні хваляваннем. Там былі толькі пакора і спакой. Пракавечны спакой найвышэйшай мудрасці, той спакой, што, на жаль, не заўсёды і кожнаму з нас дараваны. Спакой завершанасці.

Мо кот валодаў дарам гіпнацізёра, мо яшчэ нейкім дарам, я не ведаю. Але курапатка і не памкнулася нават неяк выратавацца, кінуцца ўцякаць. Яна стаяла перад катом, звесіўшы долу крылы, і чакала. І кот прыдбаў яе. Ухапіў абедзвюма лапамі і прыпаў да яе лабастай галавой, нібы мілаваў. І ў той момант, як здзейснілася гэтае мілаванне, адбыўся апошні акт драмы. З неба абрынуўся яшчэ адзін паляўнічы, як сцвярджэнне таму, што паляванне на зямлі бясконцае і

несупыннае. Курапатка палявала за жукамі, казюркамі, кот цікаваў за ёй. А за імі сачыў з неба стары, крыху ўжо сівы, шызаваты, коршак. Мо сачыў больш за курапаткай усё ж. Але ўсё роўна я ў гэтай іх гульні быў староннім наглядальнікам. Прахожы на вечным балі жыцця.

Нехта, пэўна, так пабочна і нябачна вядзе і наш, чалавечы, баль і рэй. Нам здаецца толькі, што гэта мы самі напаўняем сваю чару, чару крыві сваёй, душым і трушчым адзін аднаго. А на самой справе мы толькі ўздымаем тую чару і п'ём. А тамада на нашым піры зусім іншы. І гэта ён сцвярджае, што горка, калі нам здаецца зусім наадварот. Салодкае толькі наша імгненне. Імгненне, калі наша вока павернута на сябе і ўдалячынь. Але мы не ведаем гэтага, нам не дадзена ведаць пра гэта. Тым мо і шчаслівыя мы. Шчаслівыя сваёй слепатой. Тым, што імгненне — плынь паміраня лічым жыццём. І неба,і зямля толькі саван і саркафаг нам. Сонечны прамень — развітальны пацалунак сусветнага вока таго, хто вядзе нас ад выраю да выраю, таго, хто запрасіў нас падняць чару жыцця, выпіць і супакоіцца, бо больш усё роўна не паднясуць. Некаму было прыемна бачыць нас на тым піры, прыемна і развітацца, каб мы саступілі, далі месца іншаму, новаму, мо лепшаму за нас.

Коршак падхапіў рудога ката, прабегся па іржышчы, адштурхнуўся ад зямлі і памкнуў у неба. Кот усё яшчэ абдымаў курапатку, як каханку. Абдымаў, прыпаўшы пашчай з чатырма выпнутымі наперад белымі зубкамі да яе горла. Дратаваў яе лапамі, зубамі і ў небе, прысмоктваўся і піў жывую кроў. Як толькі што на полі курапатка перад ім, не рабіў ніякіх намаганняў, каб пазбавіцца кіпцюроў коршака, нібыта сам не знаходзіўся ў абдымках смерці і не сляпіў яму вачэй развітальны пацалунак сонечнага промня.

У небе кружылі пух і пер'е. І ляцеў коршак, і ляцеў кот у яго абдымках, і ляцела курапатка ў абдымках ката, і ўсё навокал было вусцішна і спакойна. Коршак, кот і курапатка ўжо былі куды вышэй старога ветрака. І мо б скора сіняя бездань неба паглынула іх. Толькі кот нечакана выпусціў са сваіх лап курапатку. Безгаловая, яна ўпала каля маіх ног,

акрапляючы і без таго чырвонае іржышча. Упала і шпарка пабегла ў накірунку, у якім хвіліну-другую назад зніклі яе ўжо сіроты-дзеці.

І кот, мне здалося ўнізе, прасачыў у сваім палёце месца, дзе скончыўся яе бег. І толькі пасля гэтага вывернуў шыю і пачаў драць ікламі жывот коршаку, а лапамі з аголенымі кіпцюрамі цягнуўся, меціўся яму ў вочы. Коршак яўна не чакаў такога. Ён загойдаўся ў сінім небе, як човен на хвалях. Выпраставаў шыю з круком дзюбы, цягнуўся да сонца, нібы імкнуўся зачапіцца за яго. Гурбіўся перад тым сонцам і рэзка кідаўся дзюбай да кацінай галавы, мо таксама меціўся выклеваць, выдзерці кату вочы.

Але дзікі паляўнічы кот не пасаваў перад яго дзюбай. Нават у кіпцюрах коршака ў незнаёмым яму небе ён ляцеў і змагаўся за сваё жыццё. І з зямлі я бачыў, колькі ў ім неўтаймаванай дзікай прыроды, якая ў ім магутная прага жыцця. Віруе па ветры, ляціць на зямлю яго поўсць і шматкі скуры, акрапляе зямлю яго кроў, а ён у сінім небе, як ужо на тым свеце, змагаецца. Змагаецца з небам, сонцам, самой сваёй смерцю.

І ён перамог смерць. Ці то коршак змогся, ці то кот дапяў яму лапай да вока, але раптам коршак праз галаву кулём перакуліўся ў паветры, склаў крылы і каменем пайшоў на зямлю. Я думаў, што ён каменем і ўваб'ецца ў зямлю разам з катом. Але коршак выпусціў сваю непаслухмяную здабычу з кіпцюроў. Працягваў падаць каменем яшчэ нейкі час, калі ўжо кот аддаліўся ад яго. Потым зноў злавіў раўнавагу і апірышча, распраміў крылы, зрабіў поўны круг над абяскрыленым ветраком і пацягнуў у прырэчныя хмызы, пэўна, залізваць раны і думаць, што з ім адбылося.

А руды дзікі кот, крывавячы неба, плыў па тым небе самалётам, распушыў толькі даўгі хвост, пэўна, руліў ім, развесіў вусы і шырока расставіў лапы. Прыгожа ляцеў, нягледзячы ні на што, як быццам усё жыццё толькі і рабіў, што лятаў. Ляцеў, як некалі на пачатку свайго жыцця плыў па рацэ, перабіраючы лапамі, заграбаючы лапамі паветра. На лапы ён і прызямліўся, абзямлячыўся другі раз. Перакуліўся

праз галаву і пакаціўся па колкім іржышчы, як футбольны мяч. Само неба згуляла ім у футбол, дало яму добрага выспятка за тое, што ён паквапіўся на яго.

Я падбег да катка, думаў, што ён ужо мёртвы. Але кот трывала стаяў на ўсіх сваіх чатырох кропках на зямлі і абапіраўся на яе пятай — хвастом. Стаяў, як бы нічога і не адбылося. Адно толькі пільна ўглядаўся ў неба, нібы дакараў яго, ці мо наадварот, дзякаваў.

— Спадабалася? — мо крыху з'едліва спытаў я яго, бачачы такую карціну.— Народжаны поўзаць...

Але дзікі лясны прыгажун і не зірнуў на мяне, не скасіў на мяне нават вачэй. Высока ўздымаючы лапы, як бы працягваючы паляванне, але крыху віхлявай хадой, нібыта ён ніколі не ступаў па зямлі і цяпер вучыўся хадзіць па ёй, кот пацёгся прэч ад мяне. І крывавы яго след хутка знік у траве. Але на развітанне, пакуль перада мной калыхалася яшчэ тая чырвоная трава, я паспеў сказаць яму:

— Што, ацаглінілі, браце, і цябе. За ўсё на свеце трэба плаціць. Трэба сплочваць небу. Ты думаў, што на свеце толькі прастор і воля. Ідзі, прахожы, праходзь, цяпер мы з табой абодва ацагліненыя. І не размінёмся, нікуды адзін ад аднаго не дзенемся, бо абодва мы толькі вандроўнікі, валацугі ў свеце.

Кот узняўся над травой, павярнуўся да мяне, агледзеў адным рудым вокам, другое было заплюшчана і нешта каўкнуў, здаецца, мовіў:

— Пажывём — убачым.

— Не размінёмся. Не размінёмся, абавязкова сустрэнемся,— выгукнуў я ўжо небу і полю, бо кот знік, растаў, як дым ці прывід. І быў ён ці не быў? Ці гэта мне толькі прымроілася, як прымроілася маё прывіднае жыццё. Адзінаццаць ці дванаццаць маіх, невядомых мне жыццяў у сусвеце. Мядзянкі, коршакі, млыны, сам я касманаўт, каты-касманаўты. Ці было ўсё гэта, ці бачыў я ўсё гэта на свае вочы, ці толькі трызніў на яве. Бо вельмі ж хацелася мне ўсё гэта бачыць, прагла душа зрабіцца відушчай, быць усюды, усё чуць і бачыць і праз гэта захавацца, застацца.

## V

Было ці не было, не ведаю да сённяшняга часу. На душы толькі светлы і шчымлівы ўспамін аб бясконцым дні, што доўжыцца і доўжыцца. І ў той бясконцы дзень зноў прыйшоў да мяне руды дзікі каток. Раны яго ўжо загаіліся. Там, дзе шматкамі была падзёрта скура, нарасла новая, маладая, і поўсць на ёй была больш светлая. Гэта адно толькі і выдавала, нагадвала аб былым пабоішчы ката з коршакам. Гэта і нейкая задумлівасць і шкадаванне, прытоенае ў вачах. Ён як бы ўвесь час прыслухоўваўся да самога сябе і яшчэ нечага і часта пазіраў на неба, нібыта прасіўся зноў у яго, прагнуў лятаць.

Мы сустрэліся. Звівалася і падала пад гэблем хваёвая стружка, як сама стужка часу. Я будаваў сабе хату. Навошта я будаваў сабе тую хату! Каб я ведаў гэта сам. Ніякай патрэбы ў ёй не было. Прытулак я меў, дах над галавой і цёплую печ. Але ж нешта ці нехта прымусіў мяне будавацца зноў. Пачаў і захапіўся, як захапляюцца першым каханнем. Захапіўся клопатам, лесам, сваімі рукамі, тым, што яны на штосьці здатныя. І не я будаваў тую хату, яна будавала, перастройвала мяне. Праз сваю новую хату я па-новаму глядзеў і на свет. Праз новыя дзверы, праз свежа прарэзаныя аканіцы, пад ломкі на сонцы і пры месяцы трэск маладога белага моху з верхавых журавінных і жураўліных балот, пад духмяны пах непадсочанай хвоі, боль і ламату ў руках і паясніцы.

Недарэмна мудрыя людзі кажуць: у цьмяны і няпэўны час лепшае, што трэба і належна рабіць, — гэта будавацца. А час быў вельмі цьмяны і жахлівы.

Над маёй бацькаўшчынай паўстала зорка Палын, абрынулася на лясы, палі і воды. І сталі воды горкімі. Лясы — не прыдатнымі чалавеку і зверу. Ачужэлі палі, радзілі лебядой, крапівой ды крывавым чарнабыллем. Ад таго каровы цяліліся цялятамі з дзвюма галовамі, людзі нараджаліся без рук, без ног, а недзе, перdesigning казваюць, і без галавы, вушэй і вачэй, як тыя мядзянкі майго дзяцінства. Бласлаўлёныя белыя буслы, як хіжыя коршакі, кінуліся есці не жаб і гадаў балот-

ных, а пачалі красці з людскіх падворкаў куранят. Чорныя буслы, што спакон веку хаваліся ў нетрах балот і лясоў, пачалі выходзіць з іх, палохаць людское вока. На могілках нехта штоноч ламаў крыжы, рушыў помнікі, раскопваў магілы, выцягваў нябожчыкаў з труны і рабаваў іх ці проста пацяшаўся сабе, здзекаваўся. Дзеці не заўсёды хавалі сваіх бацькоў-нябожчыкаў. Здавалася, сатана ўсюды правіць баль, апаганьвае цэрквы, забівае святых айцоў. У чалавека з'явілася новая хвароба, якую дактары наракл і крыкам душы. Як балотная каня, стагнала і крычала ўсюды душа чалавека, толькі нема. І ад нематы той разлучалася з целам, губіла сябе самазабойствам.

На Зямлю аднекуль з сусвету ішла, наплывала камета. І, як гаварылі вучоныя, дасведчаныя людзі, магло здарыцца так, што яна не абміне Зямлю, сутыкнецца з ёй. З Зямлёй можа адбыцца тое, што некалі ўжо адбылося з Атлантыдай, цяпер ужо з усёй нашай планетай.

Мне шкада было сваю родную матухну Зямлю. Я шкадаваў і чалавецтва, хаця, скажу шчыра, куды менш, чымсьці зямлю. Застанецца Зямля — чалавек знойдзецца. Хоць ён і не вельмі варты яе. Знойдзецца, бо чалавек і Зямля адно і тое ж. Толькі мала хто з жывых разумее гэта сёння. За брыдотай і паскудствам жыцця няма калі азірнуцца і падумаць. А я думаў і верыў, што здолею выратаваць Зямлю.

І бачылася мне тая бязлітасная камета ў сусвеце. Прызнаюся, я калі-нікалі наведваў сам тую камету. Скажу вам па сакрэце зноў жа, яна была кіруемая. Я шукаў і знаходзіў сляды таго, хто кіраваў той каметай, скіроўваў яе іменна да Зямлі. Іншы раз адчуваў і прысутнасць кіраўніка, чуў яго прыгнечанае, хрыпаткое дыханне, ён быў на нешта вельмі цяжка хворы. Я ганяўся за тым дыханнем у касмічнай цемры ў вантробах скляпенняў каметы. А ён пазбягаў мяне, уцякаў. Кожны раз я быў блізкі да таго, каб ухапіць яго за крысо пінжака ці камбінезона, так набліжаўся да яго. Але заўсёды лавіў толькі цень. Толькі цень. Тады я спрабаваў пагаварыць хаця б на адлегласці з тым ценем. Але ён, пэўна, не ведаў маёй мовы.

— Адкрыйся, — прасіў я, — дапамажы маёй веры. Вярніся зноў у хату сваю, адкуль выйшаў.

Адказам мне заўсёды была цішыня і касмічны холад. Я зноў пачынаў сваю пагоню. Але вельмі мала мне было адпушчана часу знаходзіцца на той камеце. Здавалася, я ўжо блізкі да сваёй мэты. Я некага дагнаў, некага трымаю ўжо ў руках. І ў той жа час апынаўся на зямлі. І ў руках у мяне было пуста. З пустымі рукамі я пайшоў да каметы, з пустымі рукамі вяртаўся на Зямлю. Адно толькі нейкае бясконцае насланнё, прывіднае, як і насланнё майго ўласнага існавання. І дарэмна, дарэмна я ўглядаўся ў свае пустыя з растапыранымі пальцамі рукі. Бачыў толькі, што разоры ў полі, узоры і лініі лёсу, галавы і сэрца. Але яны мне нічога не гаварылі, і нічога не здолеў я прачытаць на сваёй далоні, таму што там нічога і не пісаў. Я быў невукам і сляпым на абодва вокі перад разгорнутай кніжкай уласнага лёсу.

А Зямлю ўсё ж трэба было ратаваць, бо я купіў яе. Дваццаць сотак. І недзе ж мелася ў мяне яшчэ і два аршыны, якія, безумоўна, належалі і павінны былі належаць мне назаўсёды ўжо бясплатна. Мо я з-за гэтых двух аршынаў больш за ўсё і перажываў, пакутаваў.

Я быў вельмі раздражнёны і злы, хоць і на немаведама каго ў сусвеце. Мо на ўвесь сусвет, які намерыўся адабраць у мяне гэтыя два аршыны. Каб яму захлынуцца, задушыцца маімі двума тымі аршынамі. Усё мала і мала яму. Неба мала, сонца, мала самога сусвету.

Трэба было неяк бараніцца ад таго пражорлівага сусвету. Трэба было нешта рабіць. Але што — я не мог і галавы прыкласці. І нікога побач, з кім можна было б параіцца. Людзі, здаецца, увогуле адвыкалі гаварыць адзін з адным, адмаўляліся ад чалавечага слова, пераходзілі больш на слова з трох літар і рыкалі. І сам я будаваўся, ставіў сваю хату неяк не па-людску. Ні ў вёсцы, а наводшыбе, на пагорку сярод поля, каля маленькага гаю і такога ж маленькага балотца. Гэты пагорак, гай, балотца і прывабілі мяне. Узялі за сэрца, сціснулі яго і сказалі: жыві тут, на не занятым нікім месцы.

Я прыйшоў сюды сярод ночы, як нехта навёў мяне. І пры месячным маладзіковым святле, калі чаромха, як матылькамі ці срэбранымі капейкамі, сыпала на зямлю сваімі пялёсткамі, млеючы ад галавакружнага паху квецені, забіў у зямлю першыя калкі. Тае ж ночы я адчуў, што гэта месца не зусім пустое. Адчуў прысутнасць і буянне жыцця тут. Жыцця колішняга і сённяшняга, заўсёднага. Бо вельмі ж прыгожа там было, святочна-прыгожа, а свята месца пуста не бывае. У балотцы пад калена зараснікам стаяла яшчэ вада, і ў ёй спалі зоркі. Іх сон аберагалі залатыя ўначы кветкі пярэсніцы. Выйшла з балотца, ступіла на поплаў высачэзная чаромха, як аддалася маладзіку, кусты, зараснікі чаромхі меншыя, два кусты каліны, рабіны, баяркі, а яшчэ і вішаннік меўся. Павінен быў нехта там жыць, не толькі адны сарокі ды вароны, насцярожаную сцішанасць каторых я ўлоўліваў у дуплах сярод дрыготкіх галін дрэў. Я адчуваў прысутнасць і дыханне жывога. Толькі вось добрага ці благога — гэтага я ўжо не ведаў. Гэта я павінен быў зведаць, калі ўлезу ў новую сваю хату, павінен зведаць, хто будзе ў мяне суседам, хто першым званым госцем завітае да мяне. Але ж і гэта таксама залежыць ад мяне. Чалавек сам стварае не толькі ўклад, але і дух свайго селішча. Чым дыхае ён, тым будзе дыхаць і яго хата, па яго прыкладу і падабенству. Я не застануся адзін у сваёй новай хаце. Пуста толькі ў пустаце.

І я не памыліўся, як высветлілася гэта крыху пазней, месца гэта на зямлі было таксама ўжо занятае і вельмі даўно. Калі капнуў поле на краі гаю, патрапіў на нейчы след. Знайшоў цэлую кучу сатлелага прыгарэлага жалеза, абпаленыя камені і вугаль. І я ўзрадаваўся, што ступіў у нейчы след. Прыдатнае было месца старажытнаму чалавеку — будзе прыдатным і мне. І старажытны чалавек у першую ж ноч, што я правёў тут, у зляпаным на скорую руку хлеўчуку, прыйшоў да мяне ў госці і шмат чаго паведаў мне пра гэты ціхі кут.

А наведаў ён мяне разам з дзікім рудым катом, маім старым знаёмцам. Толькі цяпер гэта ўжо быў не зусім дзікі кот. Ён слаўся перад старажытным чалавекам, слухаўся

яго і ўслугоўваў яму. Як усякі, не вельмі выхаваны, кот, што першы раз бачыць чалавечае жытло, ён адразу ж скочыў на стол. Без запрашэння і сораму пачаў прыбіраць тое, што там на той час мелася. Я думаў, што сала. Бо ладны кусман таго вясковага духмянага сала якраз і ляжаў на стале, а яшчэ добрая луста, ці не цэлы бохан, хлеба.

Менавіта да хлеба і прыпаў кот. Я здзівіўся, які ж гэта кот быў перада мной, што гэта за кот, калі не любіць сала. Я не верыў сваім вачам і не маню вам. Кот напляваў на сала і пачаў есці хлеб. Старажытны чалавек скоса зірнуў на яго. Кот засаромеўся, адвярнуўся ад свайго гаспадара і ўмольна і лісліва залыпаў вачыма ў мой бок. Я дазваляльна хітнуў галавой і, як ні шкада было мне, падсунуў усё ж бліжэй да ката сала.

— Не трэба яму сала,— спыніў мяне старажытны чалавек.— Ён зґаладаўся па хлебе. Сала, мяса ён у жыцці сваім меў удосталь. А вось менавіта чалавечага хлеба яму і не хапае.

А кот ужо напоўніцу еў жытні духмяны хлеб, які вельмі любіў і я, быў здольны есці яго заўсёды і без сала. Мы са старажытным чалавекам далікатна адвярнуліся, каб не бянтэжыць яго, заняліся сваімі справамі.

Аказваецца, гэты кут ніколі не быў ціхім, а стаяў на вялікім гандлёвым шляху. І возера тут некалі было возерам, а не балотцам, а каля яго — жалезаплавільня. І сем пагоркаў, як сем галоў, узвышалася над тым возерам. Першая галава — царква, другая — касцёл, трэцяя — могілкі, чацвёртая доўгі час гуляла, раслі на ёй сем пракавечных дубоў. Пазней тыя дубы ўпадабаў цар Аляксандр II. І калі яго забілі ў імя светлага будучага, сярод тых дубоў цару паставілі помнік. На пятым пагорку жыў пан са сваёй пані, на шостым раскашаваў млын-вятрак, малоў людзям муку. І новы вятрак патрапіў на свой падмурак. Толькі вось нічога ўжо не меле.

Але прыйдзе, прыйдзе час, калі на трэцім кургане ўспучыцца зямля і паўстануць з яе нябожчыкі, хрышчоныя людзі. Паўстануць і пойдуць на курган сёмы, дзе сёння стаіць калгасны свінушнік. Адкапаюць, разбураць яго муры, даста-

нуць і явяць свету святыя крыжы з царквы і касцёла. Там жа знойдуць, занясуць і зноў паставяць на курган чацвёрты помнік Аляксандру II. І, як гэта было раней, завіруе між курганоў, пацячэ вада. Вось тады і ажыве стары млын, пачнуць круціцца яго крылы.

— А дзе ты сам жыў? — спытаў я ў старажытнага чалавека.

— А я ўсюды, — лёгка адказаў ён мне. — Таму цяпер і перад табой.

— Што гэта — знак мне нейкі? — заспяшаўся я, бо старажытны чалавек намерыўся пайсці.

— Чалавеча, помні: час не мае і не прызнае знакаў, — сказаў ён.

Але я яму не паверыў, бо быў жывы і прагнуў жыцця, будаваў хату, хаця і не ведаў, навошта мне тая хата, калі вось-вось на зямлю ўпадзе камета, а ад самой ужо зямлі не застанецца аніякага знаку. І не было з кім пра гэта і словам абмовіцца, нібыта я ставіў хату на бязлюдным востраве ці нават на нейкай незаселенай планеце ў далёкім космасе.

І старажытны чалавек больш не аб'яўляўся. Не бачыў нідзе я і рудога катка, хаця падобных на яго рудых кацянят і дарослых ужо катоў і кошак па вёсцы бегала шмат. Увішны быў дзікі кот. Быў, а дзе цяпер? Мо ён так да канца і не ачуняў пасля той бойкі з каршуком у небе. Мо прыкінулася потым яшчэ нейкая нябесная хвароба. Не кожны і чалавек, што пахадзіў у касманаўтах, доўга жыве. А каціны век тым больш кароткі і ненадзейны. Ад першых жа сабак касманаўтаў — Белкі, здаецца, і Стрэлкі — нічога сёння нідзе не чуваць, не відаць. Зніклі са свету, як іх і не было. Толькі каменныя недзе, гавораць, помнікі. І мне часам рабілася сумна, хаця і не вельмі мелася часу на сум.

Дапамагалі мне будавацца два цесляры — бацька і сын. Але яны, відавочна, былі не з Назарэта, а аднекуль з Палесся, хоць я і сам не з зямлі ханаанскай, але ўсё ж спрабаваў пагаварыць з імі аб камеце, аб лёсе зямлі. Але яны пазбягалі такой гаворкі і добра ведалі, як гэта трэба было рабіць. Варта было толькі перавесці гаворку на маю хату, якой яна будзе, і я забываўся пра лёс зямлі і ўсе каметы на свеце. Зямля

звужалася для мяне да памераў маёй печы. А я прагнуў, каб у маёй хаце мелася сапраўдная сялянская печ з чэранню і палацямі, з тым, што згадавала мяне і сагрэла на ўсё жыццё, чый дух я не пазбыў да сённяшняга дня. А ўсе мы, вясковыя, з палацяў і чэрані. І мае палешукі былі не толькі здатнымі цеслярамі, але не менш здольнымі і печнікамі. На ўсе рукі майстрамі, як водзіцца за сапраўдным вясковым чалавекам.

Толькі я задаў ім задачку. Мне хацелася, каб мая печ была адначасова і цалкам вясковай, і крыху гарадской. Не комінка, як гэта было раней заведзена, а вытанчанага гарадскога каміна.

— Распуста, — круціў галавой стары паляшук. Малады з ім моўчкі згаджаўся. — Адзін толькі перавод дроў. Ні кабану зварыць, ні чалавеку што-небудзь прыставіць.

Але я ўпарта настойваў на сваім. І не толькі наконт печы. Шмат было і іншых выкрутасаў, занадта вокан і дзвярэй, і абавязкова зашклёная з усіх бакоў веранда, і каб ганак быў высокі, каб можна было вечарам ці ўначы сесці на ім і пасядзець.

— Камароў пакарміць, — бурчэў стары, але ўсё ж слухаўся. — Плаці грошы, калі яны ў цябе лішнія. Стаў пляшку. Зробім.

Са старым яшчэ так-сяк атрымлівалася і аб камеце гаворка, асабліва калі выстаўляўся на стол вадкі даляр. Стары тады задаволена паціраў рукі і няспынна нешта глытаў, нібы пампаваў штосьці з сябе ці ў сябе.

— Камета, гэта, браце, сіла, — значна пачынаў ён. — Паравоз таксама сіла, але іх больш няма. І я вось усім сёння кажу, з сакерай у руках не прападзеш. Калі маеш сёння сакеру... Марка, Марка, табе кажу, кідай сакеру і пайшлі вып’емо, — гэта ўжо сыну.

Марка кідаў сякеру і моўчкі, але з усмешкай на вуснах садзіўся за стол, хаваючы ў далоні гэту сваю ўсмешку і рот. Гаварыць ён не гаварыў зусім. Падобна, у жыцці яго здолелі навучыць толькі тром рэчам: смяяцца, махаць сякерай, піць гарэліцу. Калі і выпіваў, не пакідаў усміхацца і маўчаць, і сякера заўсёды ляжала збоку каля яго. Адным словам, па-

крыўджаны Богам чалавек, божавільны. І на выгляд ён, здаецца, быў куды старэйшы за бацьку. Высахлы, зморшчаны тварыкам. Але без знаку, што на тым тварыку раслі ці калі-небудзь будуць расці вусы ці барада. Адно толькі тры ці чатыры даўгія валасінкі на барадзе і трохі больш такіх жа даўгіх лёгкіх валасінак па-над верхняй губой. Зноў жа, і на бараду з вусамі нават пакрыўджаны Богам чалавек.

Але гэты божавільны чалавек і здзівіў мяне, калі я пры дзённым ужо святле зноў сустрэўся з рудым катом. Я думаў, што больш не ўбачу яго. З апошняй нашай сустрэчы прайшоў амаль што год. І хоць я не жыў тут пастаянна, але часцяком наведваўся, заўсёды ўзгадваў ката і сумаваў аб ім, і шукаў яго. Ён нідзе не патыкаўся. Я ўжо быў упэўнены, што на гэтым свеце яго няма. Нездарма ж ён прыходзіў да мяне разам са старажытным чалавекам. З таго свету прыходзіў. І як было прыемна, калі руды дзікі кот аб'явіўся зноў. Прыйшоў, ці хутчэй, прыцёгся да маёй амаль ужо пабудаванай хаты, толькі печ засталося скласці, ды камін запаліць. Ад былой яго шляхетнасці на гэты раз не засталося і следу. Не дзікі і ганарлівы прыгажун, а нейкая сумная, старая кацінная шапка. Выпетраны, як некалі яго маці. І, убачыўшы яго ў той дзень, я напачатку і падумаў, што перада мной кошка. І недзе ў лесе ў яе кацяняты. Падумаў так, таму што пытанне, кот гэта ці кошка было спрэчным для ўсёй вёскі. Вёска жыла ўжо гэтым некалькі гадоў запар. І вельмі бурна жыла, як бы некалькі гадоў доўжыўся нейкі вясковы дыспут ці рэферэндум.

Там, у неагляднай далечыні ад той вёскі, у сталіцы і ўва ўсіх іншых гарадах людзі скручвалі галовы, каб вырашыць, якой быць краіне, якім шляхам ісці, які мець герб і сцяг, патрэбен ім і той жа вёсцы ці не прэзідэнт. А вёска высвятляла, віравала ад няпэўнасці: кот гэта ці кошка. З'явілася нават дзве партыі. Адна — жаночая, другая — мужчынская. Жанчыны сцвярджалі, што гэта рудая дзікая кошка, бо ў яе няма... Кошка крадзе іншым разам на іх падворку куранят, бо ката б яны даўно падцікавалі. Мужчыны, наадварот, настойвалі, што гэта кот, што ў яго ёсць чым засведчыць гэта.

Кот і толькі кот псуе іх хатніх Мань і Кацек, бо кошкі на гэта няздольныя. Кот зводзіць пароду. Па вуліцы не прайсці і ў хату не зайсці — усюды адны толькі рудога колеру каты. Мо тая вайна ў вёсцы так зацягнулася таму, што мужчына і жанчына так па-рознаму бачаць адно і тое ж, хто ведае. Але яна была сапраўднай і жорсткай. І не адзін мужчына ў вёсцы хадзіў ужо з падрапаным тварам, не адна жанчына — з пералічанымі рэбрамі.

Я прытрымліваўся мужчынскага боку і, хоць лёс зямлі займаў мяне куды больш кацінага, усё ж не ўтрываў, каб не дасведчыцца самому, хто з іх правы, да якой партыі далучацца, якой партыі верыць. Выходзіла на тое, што ўсё ж мужчынскай, хоць кату і не даспадобы прыйшлася мая дасціпнасць у пошуках праўды. Я разумеў яго. Які ж гэта кот любіць, каб яму зазіралі пад хвост нават пры вырашэнні партыйных пытанняў. Ён раскрываваў мне рукі, вырваўся. Прыпаў на пярэднія лапы каля маіх ног, ашчэрыў зубы, нібы папярэджваў, што гэта праўдашукальніцтва можа дрэнна для мяне скончыцца. І я не без падстаў пачаў баяцца за свае горла і вочы, бо ён паляваў за імі. У ім зноў прачнуўся дзікі лясны кот. Ён нязводна пазіраў мне ў вочы і, абапёршыся аб зямлю хвастом, ладзіў скочыць на мяне, зрабіць са мной тое, што і з коршакам.

І, пэўна, скочыў бы. Выратаваў Марка. Аказваецца, я дарэмна наракаў на яго. Ён быў здольны гаварыць, ведаў слова.

— Псік, кінь дурыцца, — сказаў ён кату. — Ідзі да мяне.

І шалёнага дзікага ката як падмянілі. Такі адразу зрабіўся ён хатні, рахманы і ласкавы. Залыпаў толькі рудымі вочкамі і папоўз на жываце да Маркі.

— Дзівосы ды й толькі, — мовіў я Марку і паспрабаваў сказаць нешта яшчэ, разгаварыць. Але ён не адгукнуўся на мой голас, не звярнуў на мяне ніякай увагі, як некалі і гэты руды кот. Нібыта мяне і не існавала. На ўсім белым свеце былі толькі Марка ды кот. Кот на жываце падпоўз да яго кірзача і вузенькім хуценькім язычком аблізаў той кірзач.

— Падымайся, — сказаў яму Марка, — пайшлі. І не азіраючыся, першым ступіў на высокі ганак, пакрочыў па адкры-

тай верандзе, узяўся за клямку дзвярэй у хату. Руды дзікі кот паслухмяна валачыўся за ім.

— Што ж гэта такое? — Са здзіўленнем звярнуўся я да старога цесляра, Маркавага бацькі.

— Памаўчы, — абсек ён мяне. Але адразу ж злітаваўся. — Не перашкаджай ім, чалавеча. Яны лепей за нас ведаюць, што робяць. І па-чалавечы робяць.

Марка адчыніў дзверы, адсунуўся сам крыху назад, прапусціў ката. І кот увайшоў у хату. Увайшоў, вольна стаў пасярод яе і запытальна паглядзеў на Марку. Марка тройчы хітнуў галавой і мовіў:

— Слухай, нюхай, глядзі.

— Так, так... — затакаў Маркаў бацька. Я маўчаў, бо сам слухаў, нюхаў, глядзеў.

Тое ж рабіў і каток. Толькі я не кратаўся, не сыходзіў з месца, а каток тройчы абышоў маю хату, зазірнуў і абнюхаў кожны вугал, кожны кут. У адным нешта занепакоіўся, прыпаў мысай да моху, выдзер яго са сцяны і ляпнуў па ім лапай. З таго моху вылецеў малады яшчэ, падцягнуты чорны чмель. Кот не даў яму падняцца, згроб на ўзлёце лапай, расчавіў на падлозе і праглынуў.

— Так, адзін папаўся, — зноў азваўся бацька. А ў самога Маркі сталі дыбкі яго пацешныя лёгкія валаскі на барадзе і вусах. Кот жа нешта паенчыў, прабуркацеў у куце, мо аддаваў належнае не толькі свайму спрыту, але і спрыту чмяля, успомніў таго чмяля і яго салодкі мёд. Скончыў абход хаты і падышоў цяпер ужо не да Маркі, а да мяне.

— Чыста, — пачуў я задаволены голас Маркавага бацькі. — Дакладвае: мух і мін у хаце няма. Дакладвае, прызнае. Прызнае гаспадара. Цяпер ён твой, чалавеча.

Але тое кацінае прызнанне прыйшлося не вельмі даспадобы ўжо мне. Яно было занадта ўжо балючым, занадта шчырым. На сваю бяду, я сеў на крэсла, узяў ката на рукі і пасадзіў сабе на калені. Кот з удзячнасцю прыпаў да мяне, пачаў церціся аб мае штаны целам і мысай. Я гладзіў яго па поўсці і супраць поўсці, па галаве і паміж вушэй, дзе, ведаў, каты асабліва любяць, каб іх гладзілі, а ён заплюшчваў

вочы і вуркацеў, нібы гэта была не мая шурпатая далонь, а ласкавы язык яго маці. Вуркацеў і ад задавальнення аж пруцянеў усім целам, выпростваўся ўсімі чатырма лапамі і выпростваў з тых лап кіпцюры. І кіпцюры ў яго былі што трэба. Ёсць такі мілы лясны звярок — рысь. На маю думку, дзікі кот на маіх каленях па кіпцюрах не саступіў бы рысі. А ён жа толькі лашчыўся. Я разумеў гэта, але ў той жа час узгадваў каршука і не зайздросціў яму. Гэтыя дзве істоты былі варты адна адной.

Кот лашчыўся і лашчыў, дратаваў маё цела. Дратаваў, бо, пэўна, не зведаў у сваім жыцці, што такое сапраўдная ласка. За ўсё жыццё яго ніхто ніколі не пагладзіў па галоўцы, не прылашчыў, не мовіў нават добрага слова. Нявыказаная пяшчота запасілася ў ім, і вось цяпер ён шчодра і ад чыстага сэрца адорваў ёй мяне. Ён і не здагадваўся аб драпежнай моцы сваіх кіпцюроў, аб атрутных ад шматлікіх крыўд іх уласцівасцях. Я быў першы, хто пазнаваў яго ніколі і нікому не выказаную пяшчоту, якой бы хапіла на ўвесь белы свет. А атрымліваў і пазнаваў я адзін і да пары да часу трываў, хоць мне аж у носе прыпякала. Трываў, трываў і не вытрываў, не хапіла далікатнасці і цярплівасці. Слабы чалавек. Па нагах, я адчуваў гэта, цякла ўжо кроў. А кот, па ўсім, толькі ўваходзіў у смак. Спяваў ужо на ўсю хату, аддзячваў мяне і хату, што прыняла яго, пашыраў пяшчоту. Спачатку лёгенька, распасцёртай на ўсю даўжыню лапай, паскроб сарочку на маім жываце. А потым рэзнуў, прыгалубіў і жывот. Я ўзвыў, амаль што скінуў ката на падлогу.

Пачуў, як рагоча сярод хаты стары цясляр. Зірнуў на Марку і ўбачыў яго заўсёдную ўсмешку з-пад далоні. Гэта быў знаёмы мне раней Марка, маўклівы, усмешлівы і блазнаваты. Кот, нічога, пэўна, не разумеючы, калываўся з боку на бок пасярод хаты. І быў вельмі смешны ў сваім непаразуменні і разгубленасці. У яго ад крыўды і збянтэжанасці аж абмяклі і абвіслі вусы. І хвост нібыта зрабіўся мокрым і важкім, ён не ведаў, што ім зараз трэба выказваць — абурэнне і злосць, ці пакору і лагоду. Кот пасярод хаты няпэўна

пакручваў хвастом. Я курчыўся на крэсле ад болю, не знаходзіў сабе месца. І зноў пачуў голас Маркі:

— Міхля, Міхля! — мовіў ён двойчы, паказваючы пальцам то на ката, то на мяне. — Міхля, Міхля.

— Вось і нараклі, ахрысцілі ката, — пачуўся мне голас бацькі Марка.— Міхля па-нашаму — цяльпук. Хадзяін, што там у цябе ёсць? Я ж ведаю, ёсць!

Палешукі — народ тонкі. Але я зразумеў яго. Ці не спецыяльна разам з сынам і катом паставілі перада мной спектакль, бо яшчэ раніцой я сказаў старому, што больш не будзе ні кроплі, няма нічога і на паўграмулькі. Але ж стары з сынам былі сапраўднымі палешукамі. А мо і не палешукамі, хто ведае, мо з таго ж Назарэта, а я крыху з Ханаана. І ў якога ж сёння ханаанца, асабліва калі ён будуецца, не прыхавана ў каморцы аплеценая павучыннем, закаркаваная старой газетай пляшачка, дый не адна. А тут жа такая нагода. Сам дзікі лясны кот прыйшоў да мяне ў госці. Спецыяльна прыйшоў, каб атрымаць імя, жыць на свеце з імем, як прыйшоў на гэтую зямлю і я, каб чалавекам звацца. Грэх жа вялікі будзе, калі такое не адзначыць. Грэх будзе, калі не палячыць распаласаваны катком жывот. Сто гадоў не загоіцца. Грэх.

Але мы не саграшылі. Мне зрабілася сорамна перад катом. Ну і што з таго, што ён пусціў мне кроў. Не ведаў жа, што творыць, ад чыстае ж душы і шчырасці. Колькі ж той крыві мы самі свядома пускаем. І ласка наша, і спагады куды больш і часцей замешаны іменна на крыві. Але добры намер павінен атрымаць і адзнаку, падтрымку. Ні адно дзеянне на гэтым свеце не павінна застацца не заўважаным і не адзначаным.

І мы адзначылі. Далі і кату прычасціцца. Ён, праўда, са шклянкі выпіць не здолеў. Вусы перашкаджалі і, вядома,— невук. Дзікі лясны кот. Ніхто яго ў лесе не навучыў, як трэба па-людску браць дзвюма лапамі, уздымаць і перакульваць шклянку. І за нашай сяброўнай ён хоць і абыходзіўся лапамі, але па-свойму, па-кацінаму. Спраўна макаў лапу ў шклянку і аблізваў, смактаў яе. Што ж, гарэлку можна піць і так, была б толькі яна. А вось заядаў ён зноў адным толькі хле-

бам. Мы сала з цыбуляй, а ён — пусты хлеб. Дзіўны, дзіўны кот, нейкі сапраўды вегетарыянец. А мо, наадварот, такі ўжо мудры быў, прадказваў нам нашу будучыню.

І напрыканцы застолля знік, як скрозь зямлю праваліўся. Дарэмна я пароўся і шукаў яго ў хаце, крычаў у кожны кут, у печ, комін і падпечча:

— Міхля, Міхля. Ідзі да нас. У нас яшчэ засталося.

Яго нідзе не было.

Стары цясляр ужо спаў, прыладзіўшы галаву на талерку сярод стрэлак зялёнай цыбулі. Марка яшчэ трымаўся, але неяк адрачона і прыгнечана. Гэта надаралася з ім кожны раз, калі ён добра перабіраў. Я не чакаў ад яго ніякіх слоў, тым больш спагады. Што разумнае можна пачуць ад пакрыўджанага Богам чалавека. Яго, як і таго ката, здаецца, і не было ў хаце, толькі адзіны цень, абалонка чалавека. Але гэты цень загаварыў са мной сам. І нібы ўвесь час ён чуў і сачыў за мной. І сказаў толькі два словы:

— Ён прыйдзе.

Я зірнуў яму ў вочы. Яны былі разумныя і не п’яныя. Я яшчэ падумаў: няўжо і ў дурняў так, яны разумнеюць толькі тады, калі вып’юць. Падумаў і пайшоў у асадак, выпаў у астрал, пачаў лавіць чыйсьці цень на камецe, якая была ўжо недзе побач, ці не над маёй новай хатай.

## VI

Ідзе камета на зямлю. Пакаранне зямлі нябеснай карай. Яна яшчэ далёка. Але падаюць ужо людзі. Перш старыя і дзеці. Дзеці паміраюць, не зведаўшы нават гэтага белага свету. Толькі-толькі паспеўшы каўкнуць, падаць голас, сказаць ёй дабрыдзень. Раней дзяцей нам прыносіў белы бусел у белай такой прасціне і з ружовым банцікам пасярэдзіне. Цяпер буслам няма часу займацца гэтай боскай справай. Буслы вельмі занятыя. Яны рабуюць у лесе гнёзды малінавак і драздоў, забіваюць і жаруць іх дзяцей, гэта больш лёгка, чым хадзіць па балоце і шукаць жаб. Дый жабы звяліся, высахлі балоты. Калі недзе засталася на вёску адна жаба —

шчаслівая вёска. Ёсць каму прадказаць і справіць вясну. Галосяць па лесе зладзейкаватыя сарокі. Кувае зязюля — няма надзейнага гнязда, каб падкінуць сваё яйка. Плача ў полі стары і сляпы трохсотгадовы груган. Наклікае бяду ці бароніць ад яе.

А яшчэ раней дзяцей знаходзілі ў капусце з каляровай соскай у роце. Гэта каб ціха паводзілі сябе, не пужалі белых і вясёлкавых матылькоў, што спяваюць дзецям у капусце калыханку, забаўляюць іх, прарочаць доўгае і светлае жыццё. Капуста ўсё яшчэ расце па нашых агародах, не зваліся яшчэ і матылькі. Але саміх дзяцей знаходзяць усё часцей і часцей на сметніках. І ўпрыгожаны яны цяпер не ружовымі банцікамі, а спехам перагрызенай, крывавай яшчэ пупавінай, як пятлёй, вяроўкай з шыбеніцы. Парвалася пупавіна паміж дзецьмі і бацькамі. І падаюць, спяшаюцца хутчэй адысці на той свет бацькі. Каб не чуць і не бачыць таго, што творыцца на гэтым свеце. І радуюцца, калі прыспявае час таго адыходу, а не — то і паскараюць яго. Тая ж пяцёлька на шыю — і бывайце здаровы, жывіце багата. Навек і навечна ад'язджаюць дадому, дахаты. Сапраўды, нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі.

Ідзе, ідзе камета на зямлю, насоўваецца чорнай хмарай новая чорная зорка Палын. На мядзянак, што схаваліся ад мяне і ацалелі, на рахманых барсукоў, што не здолеў спаймаць чалавек і пусціць на сала. І стары самотны барсук, як той сівы груган у чыстым полі, плача ў сваёй хаце ў нетрах запаветнага лесу. А мо і з таго ўжо свету плача па тым, што было і што яшчэ будзе. Плача па тых, каго ўжо не будзе. Плачуць па вясне бярозы, ссечаныя яшчэ зімой. Бярозавыя пні плачуць. Пускае слязу, сплывае смалой старая хвоя, падсочаная чалавекам, якому патрэбны гэтыя яе слёзы, драконава кроў. І сам дракон ужо блізка.

Ідзе, ідзе камета на зямлю. Млеюць ад сонечных абдымкаў сунічныя і брусьнічныя паляны. Загадзя млеюць ад аднаго толькі атрутнага ценю хвасцістага дракона, ценю далёкай каметы, які яны адчуваюць ужо на сабе. І спеляцца на тых сунічніках і брусьнічніках атрутныя чырвоныя ягады адна ў

адну, адборныя, буйныя і сакавітыя. Але звер абыходзіць іх бокам, птушка пралятае міма, паквапіцца, сарве чалавек — упадзе і не падымецца. Ягады тыя за калючым дротам, як вязні ў зоне. І дзесяць гадоў ужо не ступала там нага чалавека. Гэта драконавы ягады. Дзесяць гадоў назад дракон паслаў сюды зорку Палын, каб яна іх спяліла яму і сцерагла. Зорка Палын — то было прадвесце каметы, прадвесце дракона. Цяпер ён збярэ тут добры ўраджай, наесца ўволю, ад пуза. Стаяць у чаканні яго там з забітымі крыж-накрыж і проста разбітымі, разяўленымі праёмамі вокан і дзвярэй хаты, буяюць без сейбіта і аратага жыта і пшаніца, крамянеюць у садах яблыкі і грушы. Прыйдзі, дракон, прыйдзі. І ён ідзе.

Уначы я іншым разам адчыняю насцеж дзверы сваёй новай хаты. Саджуся на парозе, пазіраю на зорнае неба і слухаю сябе. Да мяне з хаты выходзіць руды мой лабасты каток Міхля, лашчыцца да ног, просіцца на калені. Ён цяпер далікатны, без дазволу не скочыць на стол, не ўзлезе на калені. Я бяру яго на рукі і больш ужо не баюся, што ён пачне пяшчотна дратаваць маё цела. Жывучы са мной, ён навучыўся ласцы і не выпускае ўжо так, як раней, кіпцюры, стрымлівае іх, хоць і не заўсёды яму гэта ўдаецца. Не не, дый прыхлыне да яго такая пяшчота, такая шчымлівая радасць жыцця, што ён, які б разумны і выхаваны ні быў, не ўтрывае ад паўнаты шчасця, тым сваім каціным шчасцем апячэ і мяне.

Я больш не ўшчуваю яго і не выгаворваю яму, бо і сам, гледзячы на неба, агорнуты сумам і шчымлівай пяшчотай зорак, ахутаны нябачным ценем майго мінулага. Недзе там, сярод зорак, не толькі камета, а і хлопчык Міхлюй, яго пазбыты мной цень. Ёсць і яшчэ адзін бягучы, прабеглы ўжо даўно цень. Хлусяць, калі гавораць, што цень не мае колеру. Мае цені каляровыя. Усе яны — гэта вясёлка на блакіце неба, вясёлка пасля цёплага дожджыку ўлетку. Вясёлка па ўсім небе і ад краю да краю зямлі.

Я адно пахаджаю сабе па той вясёлцы. Гэта мая дарога, мой шлях нябесны да зямлі. І адначасова мой шлях з зямлі ў нябёсы. Пайду па зялёным, супакоюся і выйду недзе ў зялё-

ным лесе, які ніколі не ведае ні маразоў, ні зімы. Блакітнае вядзе мяне да вады. Калі то рэчка маленькая, паплыву я па ёй рыбай-плоткай, траплю ў мора-акіян сіні — зраблюся кітом. Кітом, бо ён здольны сам сабе рабіць вясёлку, яму падабаецца вясёлкавы парасон над сваёй пакатай галавой. Парасон з кропель, пырскаў і струменяў вады. Як я, як усе дзеці любяць той парасон. Закаханы ў свой парасон і кіт. Сонейка не пячэ галаву, падсоленая прахалода гоіць болькі, змывае ўсё благое. Добра кіту і мне жыць пад парасонам.

Пажадаю трапіць да сонца, зведаць боль — ступлю на чырвонае. Чырвонае вядзе да сонца і на той свет зводзіць. Па ім лепей хадзіць з некім на пару. І пара ёсць мне, была. Сатканая з дажджу, сонейка, неба і паветра — тая ж самая вясёлка. І на той вясёлцы я шукаю свае і яе сляды. Куды яны зніклі, куды яны вялі — да сонца ці да зямлі? Каб гэта я ведаў, пайшоў бы па іх, згарэў бы на той сонечнай дарозе ці вечна б варыўся ў катле са смалой. Нехта, здаецца, прайшоў ужо маім шляхам да апраметнай. Я згодны паўтарыць. Але куды і як кіравацца, на той дарозе ад нас не застаецца аніякіх слядоў. На чырвоным мы згараем без дыму і агню. Толькі мроіва ўспамінаў аб незваротнасці, як мроіва матчынай калыханкі на схіле гадоў. Ні голасу, ні твару, ні слова — музыка і цеплыня. І цені, цені, цені. Каляровыя цені часу: жоўты, зялёны, блакітны, чырвоны... І ўсмешка на вуснах, і шчэбет птушыны. То зноў жа я, павеў майго маладога дыхання, майго незваротнага жыцця, якім я апалены сёння, больш апалены, чым тады, калі яно было не прывідным, а сапраўдным.

Я абдымаю і цалую вясёлку. І асабліва вылучаю ў ёй блакіт. Мроістае блакітнае марыва, што згарэла разам са мной на чырвонай дарозе, якое павінна было прывесці да сонца, а прывяло ў нябыт. Але ж я ў пары з ёй прайшоўся па кожнай з дарожак, мы зведалі ўсе колеры і ні на адзін з іх не наракаем.

Пустое гэта і не вартае чалавека — наракаць на свае дарогі, біць каменнямі свой уласны цень, біць самога сябе. Высцілаць каменнямі дарогу свайму наступніку, таму, хто

ідзе ўжо сёння следам за табой. Што мне было наканавана, тое і адбылося, спраўдзілася. Адбыліся, пройдзены ўсе сем маіх дарог, сем маіх прызначэнняў на гэтым свеце.

І цяпер перада мной зорнае неба. І гэта зусім не неба. Гэта перакуленая зямля. Зямля перакулілася недзе ў сусвеце. І яе адбітак лёг на неба. І то не зоркі ззяюць там, а ўсе нашы перакуленыя душы. Немагчыма ж, каб столькі было ў сусвеце планет. І то зусім не планеты, а нашы зямныя перакуленыя селішчы. Вялікая зорка — вялікі горад, маленькая — маленькі, а ледзь бачная там, што ўжо адсвяціла амаль сваё і вось-вось згарыць — вёска.

Сярод атухаючых цьмяных зорак я шукаю сваю вёску, шукаю сябе і не знаходжу. Я думаю сам сабе, што так яно і павінна быць. Мая вёска вельмі ж маленькая. Яна ўжо даўно спіць, не свеціцца ніводнае акно. І сярод маленькай вуліцы — аніводнай лямпачкі.

Як такой вёсцы адбіцца ў небе, заняць там сваё месца і пачаць ззяць зоркай. Яна памерла ўжо, і яе святло не дасягнула яшчэ неба, яно блукае недзе па сусвеце, сцелецца па вясёлкавых сцежках светлым мроівам.

Але я ўсё ж не губляю надзеі і да рэзі, да слёз уваччу прыглядаюся да неба, да зорак на яго абыякавым аксаміце. Знаходжу і бачу Маскву і Нью-Йорк, бачу Мінск, а маёй вёскі, мяне — няма. Толькі аглоблі ды перакулены вясковы воз Вялікай Мядзведзіцы. Калёсы, якія ўсё едуць і едуць і невядома калі і куды прыедуць. І на шляху таго чумацкага воза таксама не відно маёй вёскі, няма мяне. І тады я звяртаюся да ката:

— Міхля, Міхлечка, у цябе ж вочы больш праніклівыя, знайдзі мяне на небе.

Кот да крыві дзярэ мне кіпцюрамі калені, пэўна, апускае на зямлю. Але я не саступаю. Я скіраваны ў неба і прагну пагаварыць з катом, бо ён больш і часцей за мяне знаходзіцца ў астрале. Выходзіць з таго астралу толькі тады, калі вельмі захоча есці. У астрале ён знаходзіцца і зараз. Гэта вельмі дзіўны і прыгожы стан яго душы, з усяго жывога на свеце ўласцівы, пэўна, толькі нашым дзецям, калі яны побач з та-

бой, але не чуюць і не бачаць цябе. Гавораць, здаецца, з усім сусветам і кветкамі. І нехта нябачны ходзіць каля іх, займае іх, пазбаўляе будзённасці і выводзіць у сусвет, вечнасць. А мы, дарослыя, разбураем і разбураем у іх душы гэтую вечнасць, зводзім усё да надзённага. І таму, пэўна, нашы яблыкі так недалёка падаюць ад яблыні.

Зялёнай бліскучай зоркай зіхацяць вочы ў майго Міхлі. Ён злавіў святло сваёй зоркі. І таму я зноў прашу яго паказаць, куды глядзець мне, да якой зоркі імкнуць. Кот з дакорам мружыць вочы. Зорка ў яго вачах тухне. Ён выказвае мне сваё незадавальненне:

— Калі мы прыручалі людзей, то былі больш далікатнымі.

— Мы — гэта хто?

— І гэтага ты не ведаеш. Каты, зразумела.

— Вы, каты, прыручалі людзей? Калі тое свята было?

— Даўно было. Яшчэ ў старажытным Рыме. І вы пакланяліся нам. Лічылі нас за святых. У старажытным Рыме...

— Таму той Рым і загінуў, паў. Яшчэ не было такога, каб каты вучылі мяне гісторыі, папікалі.

— Паў не Рым, а Карфаген, — павучае мяне зноў Міхля.

— Ага. Ага-га, — пагаджаюся я з ім. — Карфаген быў разбураны, а Рым выратавалі гусі.

Кот відавочна ўражаны, падазрона лыпае на мяне зноў зорным сваім вокам, мо і водбліскам карфагенскага пажару:

— А ты адкуль ведаеш? Так, Рым выратавалі гусі.

— Во, бачыш, гусі, а не каты, — хуценька і не без здзеклівасці падколваю я яго..

— Якая розніца, — бурчыць мне ў адказ Міхля. — Не людзі ж усё роўна. Гусі. І гусь толькі свінні не таварыш, а нам...

— Ну і гусь, ну і гусь жа ты, Міхля... — Пакрыўджаны Міхля выказвае крыўду, дратуючы мне калені. Спрабуе вылузнуцца з маіх рук.

— Ну і каты пайшлі, — бурчу я сабе пад нос. — Слова ўпоперак мовіць не дазваляюць. Як той Адам пад яблыняй адразу ж бзыкаюць...

— Што ты там вярзеш, што ты там чаўпеш? — спыняе мяне Міхля.

— Не, нічога, коцік. Гэта я так, пра сябе.

— Пра сябе можна, — дазваляе мне, адыходзіць ад гневу кот. — І яшчэ, каб ты ведаў: даўно — гэта для цябе. Старажытны Рым — гэта табе. А мне ён як сёння пабудаваны. Усёк?

Я нічога не «ўсёк», але маўчу. Мне не з рукі гнявіць ката. Тое ж, што ў мяне няма гістарычнай памяці, для мяне не навіна. У гэтым сэнсе я больш кот, чымсьці мой Міхля. Я жыву імгненнем, настроем, ад узыходу да захаду сонца. І да таго ж я ўлагоджваю сёння ката, на кожным кроку падладжваюся да яго, таму што ў мяне наперадзе вельмі вялікі клопат. Вельмі высакародная мэта. І, каб яе дасягнуць, я павінен сёння жыць у згодзе і з катом, ладзіць з жуком і жабай, каб не аднаму блукаць у касмічнай цемры.

І я ладжу. Да таго ўжо ўгодлівы перад катом, што ўчора паглядзеў у люстэрка і аж здрыгануўся. Бо ўбачыў перад сабой нейкі чужы, невядомы мне твар, які толькі аддалена быў падобны на мой. Жах, але нешта кацінае з'явілася ў ім. У мяне, як і ў майго Міхлі, завастрыліся і адтапырыліся вушы. І на твар я пацямнеў, парудзеў. Але больш за ўсё мяне ўразілі вусы. Да таго яны былі «а ля прэзідэнт», а цяпер з люстэрка на мяне — «а ля, бля, Міхля». Мне падалося, што той, у люстэрку, нават зашыпеў па-кацінаму на мяне, ці то я не ўтрымаўся, зашыпеў на яго.

Вось такія, бля, пайшлі дзяла.

І рука ўжо сама пацягнулася, каб сарваць тое зламыснае люстэрка са сцяны і грымнуць аб падлогу. Але здолеў спахапіцца і спыніць сябе: няма чаго на люстэрка наракаць, калі морда крывая. Знайшоўся другі Аляксандр Македонскі. Так сёння кожны чалавек праз аднаго пачне люстэркі біць. І што тады адбудзецца, не набярэшся іх. Не толькі чалавек, той жа кот не знойдзе, дзе б на сябе паглядзець. Тады толькі назад, зноў у пячоры, каменні і медныя тазы шліфаваць да люстранога бляску. Супакойся, Цэзар, зразумей: ты — не Цэзар.

І Міхлю, які падкаціўся да мяне на тую хвіліну, я не стаў ушчуваць. Хаця во гэта якраз мо і варта было зрабіць, даць, заразе, носцака. Што ж гэта такое ён са мной вытварае,

няйнакш замбіруе, падганяе пад сябе. Як у старажытным Рыме, прыручае, акаціньвае. А я ж меркаваў, што ўсё будзе наадварот. Што ж гэта атрымліваецца, хто на гэтым свеце ўладарыць, хто цар усяго існага?

Не, Дарвін, я схіляю галаву перад табой, але ты не правы. А мо й на ўсе сто правы. Адвечнае ў чалавечай натуры, калі нешта яму не па носе — шукаць вінаватага. Вінаваты быў пад нагой, цёрся аб маю нагу, напрошваўся. Але я саўладаў з сабой. Перамог не столькі розум, колькі карыслівасць. Коцік мне быў патрэбны, каб здзейсніць маю мару, дзеля высакароднай справы, якая паглынала мяне ўжо цалкам. Мо ад задумлівасці, высакароднасці той справы я і пачаў кацінець. На што ні пойдзеш дзеля ідэі, чым ні пагрэбуеш. Парадніпся не толькі з катом, з чортам лысым ручкацца пабяжыш.

Раней я ўжо казаў, што вельмі занепакоены лёсам Зямлі і чалавецтва. Тым, што на Зямлю вось-вось абрынецца камета і знішчыць яе. І тут, на беразе маленькай рэчкі, на асобіцу ад усяго свету, у сваёй хаце на печы я вынайшаў, а потым і ўдасканаліў цагліну, якая здолела б адвярнуць камету ад Зямлі. Як бачыце, не, зусім недарэмна, не проста я прыдумляў сабе такую няскладную, здаецца, не гарадскую і не вясковую печ. І сёння, думаю, што я мо паўтарыў Ямелю, вынайшаў і зрабіў сабе Ямелеву печ. А ён быў зусім не дурань. Прынамсі не падобны быў ні на аднаго з сённяшніх нашых прэзідэнтаў. Гэта ж дадумацца, на печы на рэчку і па дровы ў лес ездзіць. Вось і я падумаў, калі можна на рэчку і ў лес, то чаму нельга ў космас. На печы іншым разам лежачы на баку пакалупаеш сабе ў носе і абавязкова на што-небудзь геніяльнае натхнішся.

Вось і я натхніўся, як ашчасливіць чалавецтва і ацаглініць камету. Камета-то яна камета, дурная, толькі што з хвастом, але калі злаўчыцца і ўрэзаць ёй па макацоўбіне, патрапіць толькі якраз між вушэй, то мо і паразумнее. Чалавек жа і белы, і чорны, і жоўты нават разумнее, калі яго цаглінай між вушэй.

Тое ж можа адбыцца і з каметай. Калі не зусім тое, то ўсё роўна ж яна крыху саб'ецца з нагі, вольне хвастом, як усякая

баба, і адверне куды-небудзь налева. Лежачы на печы ўзгадаць пра цагліну мне было проста. Куды складаней было з механізмам, які б запусціў тую цагліну, ды не ў белы свет, як у капеечку, а прама паміж вушэй камеце. Але працэс пайшоў. Я успомніў, як у дзяцінстве трушчыў шпакоў і дзікіх галубоў. Рагатка, вядома, рагатка. Я сасніў, убачыў у сне патрэбную мне рагатку. На двух буграх непадалёку ад мяне стаялі два волаты дубы, да іх можна было прыладжваць гуму і з даліны страляць. Вось толькі дзе сёння знайсці патрэбную колькасць гумы? Тут у мяне ў галаве нешта надоўга захрасла, як перагародкі зноў аднавіліся ў ёй. І думкі ўжо так свабодна не лунялі.

Але будзьце ўпэўнены, я б нешта прыдумаў і з гумай, калі б на тое пайшло. Скажам, спыніў бы завод гумавых вырабаў у тым жа Армавіры і перапрафіліраваў яго. Хай бы чалавецтва крыху пацярпела ці навучылася б абыходзіцца без гумавых вырабаў армавірскага завода. Не сканала б, наадварот, памножылася. Такім чынам, лёс каметы быў ужо прадрашоны.

Але тут я даведаўся, што тая камета не такая ўжо і благая, як гэта плявузгаюць радыё, газеты і тэлебачанне. Мяркуйце самі: у целе каметы дзвесце тысяч тон чыстага золата, алмазаў і плаціны. Працэс пайшоў? Ён і ў мяне пайшоў. Вокамгненна былі парушаны, змецены ўсе перагародкі ў мазгах. Я прагнуў ужо каметы, каб нейкія там марсіянцы ці плутоны з якіх-небудзь Злучаных Штатаў не перахапілі яе. Я праг золата, алмазаў, а больш плаціны, таму што ведаў: плаціна даражэй за золата. І гэта павінна было стаць маёмасцю, грамадскім набыткам Зямлі. Навошта ж губляць тое, што само з неба падае.

І варта сказаць, што апетыт разгарэўся ў мяне не на жарт. Я развесіў губу не толькі на золата і плаціну. Аказваецца, недзе і не так ужо далёка, усяго толькі за дзесяць тысяч светлавых гадоў ад нашай зямелькі, у сусвеце робіць вінакурка. І тая вінакурка ўжо столькі напрацавала чыстага спірту, што, калі б яго перавесці на піва, кожнаму з нас дасталося б па трыста тысяч кухляў. І гэта кожны дзень на працягу

трыльёна гадоў. Можна было б напоўніць спіртам усе рэкі, моры і акіяны, улічваючы і штучныя вадасховішчы.

Уяўляеце сабе, колькі выпіўкі марна гіне. Каб яе ды да нашага стала. Вось ужо што пагулялі б, то пагулялі. І нейкі час я быў блізкі да таго, каб падарыць тую вінакурку чалавецтву. Але на цвярозую галаву ўсё ж спахапіўся: закусі не хопіць. І больш таго, я ўбачыў за гэтым падкоп пад чалавецтва. Мы марым аб космасе, аб асваенні сусвету, і нехта пра гэта ўжо ведае. Нехта паставіў ужо ў сусвеце на нас пастку. Нехта нас ужо чакае. І ляжам мы недзе на Млечным Шляху, як ляжаць сёння ў вечнай мерзлаце маманты. Праспіртуемся, толькі ў спірце і захаваемся. І нейкія андрамедаўцы прывядуць да нас сваіх дзетак і скажуць: не піце, бо чалавекам станеце.

Не варта пускаць нас у далёкі космас, хоць адрасок той планеты я на ўсякі выпадак запісаў сабе. Хто ведае, як яно заўтра павернецца. Як сказаў мой знаёмы, калі яго ўзнагародзілі ордэнам, ды не тым, якога ён чакаў: хай будзе і гэны, у гаспадарцы ўсё можа спатрэбіцца.

А вось з каметай, што набліжаецца да Зямлі, зусім іншая справа. Яна проста край неабходна нам сёння, зараз, учора яшчэ была неабходна. Яе трэба з розумам прыбраць да сваіх рук. Пасадзіць і падарыць чалавецтву.

Спачатку я думаў — усяму чалавецтву. Але з цягам часу, па меры таго, як яна ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіла да Зямлі, сцяміў, што я проста дурань. Як гэта за так узяць і аддаць немаведама каму золата, алмазы і плаціну, якія ўжо амаль што ў маёй кішэні. Мяне ж проста не зразумеюць. Не, не на таго напалі. Гэта спатрэбіцца і мне. Не ўсё, канечне, яшчэ заб'юць, як піць даць — заб'юць.

Толькі ж учора забілі суседку і зусім за нішто. Абрабавалі бабулю, забралі са скрыні хатулёк з апраткай, што тая сабе на смерць падрыхтавала. А тут такое багацце, і аднаму. Не трэба. Хаця, зразумела, вазьму сабе нейкі кавалачак золата, кавалачак плаціны і маленькі-маленькі алмазік — з кацінае вочка. А ўсё астатняе я падарую сваёй незалежнай і суверэннай дзяржаве. А то незалежнасць у яе ёсць, суверэннасць і самастойнасць таксама, і прэзідэнт нават у наяўнасці. А

вось золата, алмазаў, плаціны — няма. Праўда, пра золата гавораць, што яно маецца і ў касцях цялят. Ды толькі вось непярэліўкі ў нас і з цялятамі. Мы іх неўпрыкметку з’елі. І цяпер нам золата каметы якраз дарэчы будзе. Калі пажадаем — пачнём цялят з золата адліваць. Хоць гэта мо і не вельмі зручна цялятам будзе. Патопяцца, пагразнуць у нашых балотах яшчэ.

Алмазы, гавораць, у нас ёсць таксама свае. Але я думаю, што і з неба не пашкодзяць, лішнімі не будуць, гэта вам не арданок на ўсякі выпадак. Алмаз і на Беларусі алмаз. А вось плаціны ў нас няма. Я ашчаслівулю ёй кожнага беларуса, што трапляе сёння за крадзеж меднага дроту ў турму. А што, вазьму і пабудую кожнаму беларусу па прыватнай плацінавай прыбіральні.

Працэс ідзе. Я ламаю галаву, як мне распарадзіцца багаццем, той маннай нябеснай, што вось-вось будзе ў мяне за пазухай. Я не сквапны, помню дабро. І ведаеце, мая запаветная мара аддзячыць усім тым, хто рабіў мне дабро і хто не рабіў таксама, чаго ўжо жыдзіцца. Я проста аж канаю, калі думаю, уяўляю сабе той дзень, калі гэта адбудзецца. А такое адбудзецца, адбудзецца. Са сталічных аэрапортаў, адразу ж з двух, Мінск-І і Мінск-ІІ, я загружу цэлую плойму «Буранаў», «Боінгаў» і нават маленькі кукурузнік золатам, алмазамі і плацінай і адпраўлю немцам у Германію, якія ў знак гуманітарнай дапамогі падаравалі мне нейкі зношаны чаравік, хлушу, два чаравікі, але на адну нагу і салодкі спікерс ці снікерс. Такі ўжо салодкі, што я, едучы яго, ад задавальнення з’еў, праглынуў і свой апошні зуб. Не, я не буду скнарлівым. У Германію я скірую плойму самалётаў, каб было так: першы там, у Берліне, садзіцца, а апошні, у Мінску, толькі ўзлятае.

У Нью-Ёрк ці Вашынгтон я адпраўлю чыстай вады алмазы. Хай яны там высцелюць імі Бруклін ці Брадвей, каб па іх шпацыравалі Ротшыльды з Білам Клінтанам пад руку. І каб у іх быў клопат толькі пра абутак. Гэта мая маленькая паляшуцкая хітрасць, каб яны сцерлі падэшвы на алмазах і хадзілі па іх босымі. Я загружу ім тымі алмазамі беласнеж-

ны лайнер з трох ці пяццю палубамі, калі такія бываюць, а не бываюць — спецыяльна пабудую. Шкада толькі, што такі вялікі лайнер не памесціцца на маёй маленькай рэчцы Пціч. А мора ў нас няма. Ды не бяды, не ўсё ж мне скручваць галаву, хай паламае яе наша марское міністэрства, якое у нас, кажуць, ёсць ці будзе. А калі яно нічога ўжо не прыдумае, то неяк сплаўлю тыя алмазы па Пцічы да самага сіняга мора на плытах. А ўжо недзе ў Адэсе — не хвалюйцеся, адэскія рэкеціры, я і вам жменю-другую адшкадую, толькі дайце мне абавязкова белы параход з пяццю палубамі — перагружу алмазы на белы параход. Дачакаюся, калі ўскінецца над тым белым параходам белая чайка і павядзе яго ў мора-акіян. Я зраблю яму ручкай. Я дам...

А ці не занадта я разагнаўся з гэтым «дам» ды «дам». Ці не занадта ж гэта па-беларуску: кожнаму дам, а сабе, як заўсёды, дулю з макам. Ды не, яшчэ і мне застаецца, можна раздаваць. Каб падзівіць свет, можна і апошнюю сарочку зняць. Голы, але шчодры. Толькі б забагацець мне неяк адразу, і я тады ўсіх адару. Даваць жа больш лёгка, чым прасіць. Дам, дам, дам.

Во мая запаветная мара. І не толькі мара. Я веру: так будзе. Дзеля гэтага жыву, душуся пустой бульбінай і чэрствай скарынкай хлеба. І гатовы задушыцца імі, каб толькі так было, каб дажыць да таго бласлаўлёнага часу. І дажыву, ужо нядоўга засталося. Я не забуду нікога з тых, хто не забыў нас. Беларусы на пазыку і дабро памятлівыя. Дам алмазаў, золата і плаціны. Я ж канаю, сэрца мрэ, калі толькі падумаю, як гэта будзе адбывацца. Золата, алмазы і плаціну я паднясу на сподачку з блакітным беражком. Усім дабрачынным фондам, што падтрымліваюць мяне сёння як жабрака. Падыходзьце, налятайце, панове, сэры, халява. Мне не шкода. Дам свайму ж прэзідэнту крыху, бо ён мне хоць і нічога не дае, але так прыгожа плача па тэлевізары, што кожны раз прачынаецца ў халодным поце ад таго, што яму няма чаго даць мне. А ў мяне ёсць. Дам кожнаму дэпутату, што так дбаюць аба мне. Бярыце, спадары, дабрадзеі. Адно толькі вас прашу: не турбуйцеся больш аб маім лёсе. Бярыце напоўніцу, а не так у

кулачок, як гарбузікі дзеці. Бярыце, каб хапіла і на навуку вам — вывучыць беларускую мову, на якой я сёння плачу. Мо тады, спадар прэзідэнт, мы паплачам разам з вамі па-беларуску і вы не будзеце больш пацець.

Як я прагну таго часу! Як я прагну часу, калі пачну адорваць кожнага сённяшняга дабрадзея. Сяду на рагу дзе-небудзь, на скрыжаванні вуліц. Ці ў падземным пераходзе метро, дзе сёння занятыя ўсе месцы. Але, я думаю, тыя падзямельныя людзі такое-сякое месцейка, пасунуцца, але вызваляць мне. Я прыйду туды з торбай цераз плячо. Здыму і пакладу каля ног шапку. А ў той шапцы адны спрэс бліскучыя алмазы. А ў зрэбнай торбе — золата ды плаціна. І пачну я раздаваць кожнаму стрэчнаму-папярэчнаму, кожнаму прахожаму. Бяры, мужык, не грэбуй, не крыўдзі. Грабі, баба, лішнім не будзе. І ты, дзіцятка, падыходзь, не саромейся. Сэр, сэр, не праходзьце міма! Ну і што з таго, што ты лорд? І лорду ў ларнет алмазік не пашкодзіць. Вастрэй на вока будзеш.

Гэтым я жыву, трызню наяве, так мару і прагну гэтага, што магу і не вытрываць, заўчасна сканаць. Але вытрываю. Беларусы — яны трывушчыя, нездарма іх старэйшы брацік так любіць. Не хвалюйся, брацік, я не абдзялю і цябе. І ўжо скора, скора. Камета ўжо блізка. Мне трэба толькі мякка пасадзіць яе, каб не было ніякіх стратаў Зямлі. Адно спадзяванне, што зямелька наша матчына мякенькая, колькі ж там сынкоў яе ляжыць. І ні адзін з іх не жаліцца, не наракае. І ўсе яны з таго свету працягнуць рукі і прымуць на грудзі сабе тую камету. Усе мёртвыя паўстануць, а жывыя пераменяцца. Так яно будзе.

Прымуць менавіта тут, дзе хата і хлеў мае стаяць. Бо, па ўсіх прадказаннях астролагаў, якіх сёння больш, чым жабракоў, пачатак новага жыцця Беларусі пойдзе адсюль. Тут, каля ракі з лёгкім птушыным імем, датляваюць косці не толькі нашых бацькоў, а і ўсёй незлічонай раці, што прыходзіла сюды, каб скарыць іх. Тут яшчэ ў месячныя ночы чутно іржанне коней палка князя Ігара. Недзе адсюль пазірае на нас Кірыла Тураўскі. Адсюль падымецца з зямлі і паплыве

па рацэ Леты абноўлены хлопчык Міхлюй. Пойдзе ў свет і па свеце новы чалавек. Мы з катом Міхлем папярэднікі таго чалавека. Нам і наканавана апусціць сюды камету з незямным скарбам. Мы чакаем яе, мы прагнем яе, бо ў ката і ў мяне ёсць запаветная мара. Таму мы і адно, ахвяра і кат, пагубіцель і выратавальнік. І не адрозніць ужо сёння, дзе я, дзе кот. Мы чакаем свайго часу, каб паяднацца, зліцца ўжо канчаткова. І выканаць тое, што нам прадпісана, дзеля чаго я і будаваў сабе тут новую хату, чаму разам са мной жыве ў ёй руды дзікі кот Міхля. Я чакаю свайго часу, каб адарыць, ашчасліваць людзей, аддзячыць ім за тое, што яны жылі разам са мной. Дзе мае дзве пустыя далоні, дзе маіх дзесяць голых пальцаў. Гэтаму дам і гэтаму дам. Усім дам. Даваць жа куды лягчэй, чым прасіць. І паўстануць мёртвыя, і пераменяцца жывыя. Прыспее час і так будзе.

## VII

І час прыспеў. Камета была яшчэ далёка, але ўжо тут, над Зямлёй, па-над галовамі людскімі. І людзі адчулі яе гарачае і хіжае дыханне ў сваіх хатах. Ужо зранку пачалі спяшацца, мітусіцца і злавацца. І падаць пачалі. Як снапы ў полі, клаліся на зямлю. Адзін за адным на печы, у ложку і на сваім падворку адыходзілі ў нябыт. Насустрач камеце. Парываліся нешта зрабіць, рупіліся і на паўкроку адыходзілі ў вечны вырай людскія душы, каб спыніць палёт хвастатага дракона, адвярнуць яго ад Зямлі. І Зямля была перапоўнена нябожчыкамі. Іх не паспявалі ўжо збіраць і развозіць па вечных кватэрах. Людзі клалі свае жыцці на зямны алтар.

Але ўсё гэта было дарэмна. Яны не ведалі, што такое гэтая камета, хто яе наслаў, хто кіруе ёй. А мне ў апошнюю ноч давялося ўбачыць і разгледзець Яго. І то была самая жахлівая ноч у маім жыцці. Мы з Міхлем трапілі на камету, у сярэдзіну яе, лічы, у самае пекла. Дзе скручваліся ў тугі скрутак і згаралі прастора і час. І прасторы ўжо не было, а часу яшчэ крыху заставалася. Гарэў і плавіўся камень, шугала пякельнае полымя. Палівам той камеце служылі зола-

та, плаціна і алмазы, з чаго яна і складалася, а яшчэ сам час і прастора. Але не гэта ўразіла і жахнула мяне. Я нарэшце дагнаў і спасцігнуў таго, хто вёў гэтую камету на Зямлю. Сустрэўся з ім тварам у твар. Цень, за якім я так доўга ганяўся па сусвеце, нарэшце адкрыўся мне.

Мне дапамог Міхля. Мы доўга блукалі і беглі за ім па чэраве і вантробах каметы. Касмічная цемра і пякельнае полымя ахутвалі нас. Мы самі ператвараліся ў полымя і цемру, растваraліся ў іх, атручаныя чорнай пракавечнай цемраддзю. Пачварнай чорнай хмарай слаліся пад купалам нябёс. Гублялі сябе на скрыжаваннях Млечнага Шляху і зноў знаходзілі, там, дзе праломвалася неба, тухла сонца і не было нічога. Толькі Міхля ды я. Коцік ды чалавек, ды куродымны смурод згарэлых самацветаў. Вугаль ды сажа. Мы таксама ператвараліся ў вугаль і сажу. З таго вугалю і сажы Ён і аб'явіўся нам. Я кінуўся, каб ухапіць яго загрудкі і прыдушыць, паквітацца за ўсе пакуты і горыч вечнай ночы, якую ён гатовы быў наслаць на Зямлю.

Але мяне апярэдзіў Міхля. Не, ён не ўздыбіў поўсць і не ашчэрыў пашчу, не кінуўся з віскатам да яго, як я чакаў. Чалавек ці чорны прывід яго, нейкае толькі падабенства чалавека стаяла да нас патыліцай, склаўшы ззаду рукі і ўглядалася некуды ў цемру. Міхля спакойна наблізіўся да яго, пачаў церціся аб яго ногі і вуркатаць. Цень чалавечая павярнулася да мяне, я адхіснуўся і аслупянеў. То была не пачварная здань прыхадня. То быў я сам. Вельмі падобны на таго, што пазіраў на мяне некалькі дзён назад з люстэрка на сцяне маёй новай хаты. Вельмі падобны на самога Міхлю. Мы доўга і моўчкі прыглядаліся адзін да аднаго. Я адмаўляўся прызнаць самога сябе. Але ён прымусіў мяне зрабіць гэта. Зноў жа, моўчкі, толькі з дакорам хітаючы галавой: маўляў, так яно, так. Нікуды сам ад сябе, браце, не дзенешся. А сказаў ён зусім іншае:

— Я ведаю, ты прыйшоў, каб забраць усё гэта.— І ён абвёў рукой распасцёртую перад намі цемру. Вочы яго бліснчэлі дыяментамі, але нязлосна, хутчэй нават са шкадаваннем і

сумам. Я не адмовіўся, бо не цемру бачыў перад сабой, а скарб незямны:

— Так. Я прыйшоў, каб забраць усё гэта.

— Бяры, валодай.

— Аднаму мне багата, — адказаў я. — А каб хапіла ўсім — слабыя плечы. Не ўскіну, не панясу.

— Я падсаблю. Я ўскіну табе на плечы.

— А мех, дзе я вазьму такі мех, каб забраць усё гэта?

— Ты адмаўляешся ад сваёй мары, ад пракавечнай мары чалавека, калі яна амаль ужо здзейснілася?

Руды каток пакінуў церціся аб ногі майго ценю і таксама запытальна паглядзеў на мяне.

— Не, не, — спахапіўся я. — Я ні ад чаго не адмаўляюся. Грэх адмаўляцца ад сатворанага табой жа. Вялікі грэх адмаўляцца ад самога сябе, непадымны.

— Вялікі грэх, — пагадзілася мая здань. — Непадымны. Дык што ж парабляць будзем: грашыць ці каяцца?

— Грашыць, — цвёрда мовіў я. — Грашыць...

— І ў апошні свой час...

— І ў апошні свой час тым болей. Грашыць.

— Хай будзе па-твойму. Толькі ж грэх твой пойдзе за табой і на той свет.

— Я і на тым свеце буду грашыць.

— Хай будзе па-твойму. У нас энергетычных крызісаў няма. Смала заўсёды ў наяўнасці. Дроў хапае. Качагары ўвішныя.

— Хай будзе так! — мовіў я.

— Хай будзе так! — пагадзіўся і ён. — Амінь.

— Не, рана яшчэ мне амінь казаць. Балазе, што ты ідзеш. Добрай весткі зачакалася ад цябе ўся наша Зямля. Змарнелі, гібеюць ў чаканні хаты і людзі, га́ды і звяры.

— Будзе ім добрая вестка. А табе вечнае пакаранне. Ты згодзен з гэтым, ты прымаеш гэта?

— За тое, што я жыў на гэтым свеце. За тое, што мае вочы пабачылі гэты свет і зямное святло — я згодны на ўсё. Толькі хто ты сам, адкажы мне? Князь цемры ці ўладар святла? З кім заручаны я, з кім прыходжу да згоды?

— Сёння суд свету сяму, сёння князь свету сяго вывергнуты будзе прэч, — загадкава адказаў ён мне. А я прагнуў пэўнасці:

— Хто ж ты ёсць сёння?

— Я табе ўжо ўсё сказаў, мяркуй сам. У вызначаны час ідзе і прыйдзе на Зямлю камета. Будзе ў ёй срэбра і злата, плаціна і алмазы. Толькі не ўкусіш ты ад таго скарбу, чалавек...

Вызначаны час, па ўсім, прабіў. Тройчы пракувала сярод ночы ў лесе зязюля. Тройчы заплакала абуджаная ёю сава. І ўзышла на небе поўня. На зялёнае месячнае святло выпаўз пагрэцца земляны чарвяк, стогадовы сівы выпаўзак. І адразу наляцеў вецер, крануў крылы мёртвага нерухомага млына. Крылы тыя зрушыліся з месца, пачалі круціцца. Малоць збожжа, якога ніхто туды не завозіў, перамолваць зялёнае месячнае святло, ссыпаць нябачную нябесную муку ў мяхі, якіх таксама не было. Прамільгнуў нейчы цень у сярэдзіне ветрака, замітусіліся цені і звонку. І пацягло, пацягло сырасцю, вільгаццю і затхласцю. Збожжа даўніны ўсё ж сапрэла, згнілі, пайшлі прахам старыя мяхі, вось чаму іх і не відно было. Новае віно ў старыя мяхі сапраўды не наліваюць. Што спрахла — тое ўжо спрахла. І месячнае святло, мо святло яшчэ старажытнага Рыма, праявіла і панесла той прах па зямлі. Ён зіхацеў срэбрам і золатам, як зіхаціць павучынне бабінага лета, трапляючы пад сонечны прамень. Зіхацеў, свіціўся, але быў нежывым, адмерлым. Салодка і аднaчасова горка, сумна патыхала тленнем і цвіллю, забыццём. Забыццём вечнай ночы і даўніны, што ўсталявалася на зямлі. Не расла трава, не патрэскваў, атухаючы ад дзённага цяпла, пясок. Уцягнуўся зноў у нару выпаўзак, знямелі зязюля з савой.

Зніклі, як некуды сышлі мышы, нібыта скрозь зямлю праваліліся, рассыпаліся ў прах. Ні адзінай мышы не паказалася тае начы каля млына. А стары млын круціўся сабе і круціўся. Толькі нешта ўвесь час пакрэктвала ў сярэдзіне яго, нанава перастройвалася, прыладжвалася, як усё роўна старыя косткі абрасталі новым мясам. І абраслі. Скора млын

ужо рабіў бязгучна, круціўся па-маладому, без грукату і старэчага вохкання.

На вачах перайначвалася і маладзела зямля. Раздалася ўшыркі птушыная рачулка Пціч. З яе плыні высунуў лабастую пляскатую галаву пракавечны сом, падкруціў вус, прывітальна пляснуў па вадзе хвастом і знік у цёмным віры. З таго віру выйшлі бабёр з бабрыхай і трыма бабранятамі. Нібы сом абудзіў, раскатурхаў іх там і загадаў з'явіцца на свет Божы. На святло, якога яны не бачылі ўжо колькі стагоддзяў, як парушылі тут іх шлюзы і плаціны, што стагоддзямі ладзілі яны разам з людзьмі. Аднавіліся і тыя былыя шлюзы. Паўстаў з вады і навіс над ракой колішні вадзяны млын. Вада пачала прыбываць і накінулася на яго лопасці. Стары вадзяны млын ажыў.

Вада пайшла паміж узгоркаў, бугроў. І хутка там, дзе было поле, пагойдвалася, уздымалася і білася аб бераг марская хваля. На адным з сямі курганоў заззяла купаламі, вырасла, як з неба апусцілася, царква. На другім, насупраць яе, зазванілі званы касцёла. Але ні на царкве яшчэ, ні на касцёле не было крыжоў, хаця званы і білі, мо скардзіліся небу, нешта прасілі ў яго.

І пад той пераэвон царквы і касцёла, пад іх перамовы пачала ўспучвацца зямля на чацвёртым кургане. Успучвацца і асядаць. І выходзілі, выраставі з той зямлі, з жарствы прырэчнага пяску людзі невідушчыя, але як некім вядомыя. І выходзілі са словам:

— Хопіць. Мы асудзілі сябе. А сёння будзем гаварыць на новай мове. Імем сваім будзем здаровы. Адкрыемся і адкрыем сябе свету.

І выйшаў наперад мой спадарожнік, руды мой каток Міхля, разаслаўся перад імі і мовіў:

— Падыміце вочы вашы і зірніце на нівы, яны пабялелі ўжо да жніва. Жніва багата, а работнікаў мала. Скора не толькі чалавеку, але і мне, кату, не будзе чаго тут на зуб узяць.

— Будуць работнікі, — адказалі яму. — Мы — хлеб жыцця. Сапраўдны хлеб жыцця.

І хутка людзьмі, што паўсталі з зямлі, было засеяна ўсё поле пад курганом і сам курган. Некаму з іх не хапіла зямлі. Яны стаялі на полі ў вадзе і невідушчымі вачыма пазіралі ў неба, нібы маліліся. Вялікае мноства з іх пакрочыла да кургана, на якім стаяў свінарнік. І свінарнік той абваліўся, здаецца, сам, ад аднаго толькі тупату іх ног. З падмурка, з наросту каменняў і бетону выйшлі, аказалі сябе людзям крыжы. Падняўся, устаў на ногі на ўвесь немаленькі рост бронзавы Аляксандр II. Крыжы, бы вялікія матылькі, бы сапраўды яны набылі крылы, паплылі над морам людскіх сатлелых чарапоў. Іх перадавалі з рук у рукі да самай царквы і касцёла. Людское сляпое мора ўзняло іх у неба і паставіла на купалы абодвух храмаў.

І адразу зайграла, заспявала ці то заплакала скрыпка. Узвілося і пайшло ў неба вялікае мноства белых матылькоў. Па вадзе паміж шлюзаў і сівых курганоў заслізгацелі, паплылі чаўны і лодкі. І нехта ў белым і каляровым, як сама вясёлка, сядзеў на тых лодках і веславаў, нехта памахваў белым веерам. Па небе капыцела і апускалася на зямлю конніца. Ішлі палкі Ігаравы. Іржалі, праглі нябеснай прагай птушынай аднаўляльнай зямной вады коні. Праглі змыць з сябе нябесны зорны пыл вершнікі. Зачарпнуць шаломам, спатоліць смагу, абмыць здарожаныя ногі і твар.

Плакала і спявала скрыпка. Музыкам быў стары пушчанскі мядзведзь. Ён ад радасці, што зноў бачыў родны кут, дзе яго забілі некалькі стагоддзяў назад, паваліў адзін з сямі вялізных дубоў, якія раслі на кургане, кранаў лапай расшчэпленыя стрэмкі таго дуба, як нацягваў паміж імі месячныя струны і іграў на тых струнах-промнях. Іграў адвечную, неўміручую беларускую «Лявоніху». І небарака барсук, якога даўным-даўно выпаралі з гэтага свету, пусцілі на сала,— лапы ўбокі, танцаваў «Лявоніху» і плакаў ад замілавання і ўласнага спрыту.

І плакаў, наглядаючы за імі старажытны чалавек. Ці то каваль, ці то млынар у скураным, месцамі скурчаным і прапаленым фартуху. І плакаў, пускаў слязу стары сівы чалавек з кацінымі вусамі, што стаяў побач з тым чалавекам.

Выціснуў з сябе кацiную слязу і лабасты руды каток, што цёрся аб іх ногі. Выпусціў і адразу засаромеўся, заазіраўся, усміхнуўся рабому хлопчыку ў зрэбных штоніках на шлеечках. І не ўтрымаўся, сам кінуўся ў скокі, ды так зухавата і ўпрысядкі і з такімі каленцамі, што хлопчык, які да гэтага, здаецца, быў блізкі да слязы, таксама пачаў усміхацца.

Віравала людское мора, не баяліся адно аднаго звяры і людзі, гады балотныя — мядзянкі і гадзюкі. Спраўлялі не то баль не то трызну. Танцавала, хадзіла ходырам зямля. На сямі вятрах, на сямі курганах, сярод вады і неба зямля апявала сябе. З неба надыходзіла, ужо спускалася ў яе грэшнае ўлонне камета. Ішла праменька на той курган, на якім, схіліўшы галаву ў чаканні яе, застыглі людзі. Хвастаты чорны цень каметы лёг на іх зняможаныя твары, на непакрытыя галовы. Яны адчулі той цень і ўскінулі ў неба свае пустыя рукі, у якіх ніколі нічога не было і ўжо не магло быць, і камета, як хіжы звер, прысела ў неба, вільнула хвастом. І хвост той курадымны апярэдзіў яе, накрыў зямлю хмарай. Камета абрынулася на людское мора. Апошні раз заспявала ці то застагнала скрыпка. А мо так пранізліва заскрыпеў на лузе дзяркач. Заскрыпеў і змоўк.

У глухую самотную пару, калі зямля прыгаломшана ўжо цемрай, калі ноч выпетрала з яе дзённае цяпло і пачалі плакаць травы і дрэвы, і ўсюды адна толькі цемра, як пад прыціснутым да тулава крылом чорнай жаўны, на пагорку па-над самай ракой, нябеснай звілістай слязінкай замігцелі вокны хаты, што стаяла на адзіноце, наводшыбе ад сяла. Замігцелі, набрынялі чырванню. І адразу ж, як па нейкім загадзе, ружовая чырвань прыхлынула да зямлі, апавіла мяккім, бы незямным святлом усё наваколле. Нібы нехта далёкі, чыясьці касмічная душа азірнулася, адыходзячы ад зямлі. Недзе за небасхілам прыпала апошні раз на калені, паклала на зямлю сваё вока і пачала маліцца за яе.

Бласлаўлёнае, мяккае святло легла на страху хаты, на прыбярэжныя, непрыглядныя і ў сонечны добры час хмызы. І хмызы тыя засвяціліся, заззялі, зазіхацелі, няйнакш, як нехта асвячаў і мілаваў зямлю. Бласлаўляў яе сярод глыбокай

ночы і цемры на доўгі і шчаслівы шлях у сусвеце. Разам з тым светлым першым нябесным промнем у хаце адчыніліся дзверы. На ганак выбеглі два рудыя каты. Ім услед шуганула з хаты гарачае свавольнае полымя. Але каты не звярнулі на яго ніякай увагі, нібы яно ім і не пякло.

Каты яшчэ нейкую хвіліну-другую затрымаліся, пастаялі на ганку. Суладна ўзнялі галовы, зірнулі на неба, на якім ужо выкаціўся круты бохан Поўні. І вочы іх увабралі зялёнае святло той Поўні. Каты, не спяшаючыся, сышлі з парога і скіравалі да хмызоў, што раскашавалі, апечаныя, аблашчаныя касмічным святлом. З неба пакацілася зорка, пакідаючы недзе на Млечным Шляху доўгі дымны хвост. Гарэла хата. Каты зніклі ў хмызах. Больш іх ніхто нідзе не бачыў.

# ЗМЕСТ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 57

**Казько** Віктар Апанасавіч

# Час збіраць косці

Аповесці

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактар Барыс Сачанка
Вёрстка ЛарысыВаўчок
Карэктура Лідзіі Карамазавай
Дызайн вокладкі Дзмітрыя Шылы

Падпісана да друку 11.11.2014. Фармат 84x108 1/32.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 17,85. Ул.-выд. арк. 16,36.
Наклад 350 ас. Зак. 650.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.